# Янка Брыль

ТОМ
ДРУГІ



## АПОВЕСЦІ

МІНСК
«МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА»
1980

# СІРОЧЫ ХЛЕБ

## 1

Нехта, кажуць, спытаўся ў такога, як ён, свінапаса: «Хлопец, а колькі штук у тваёй чарадзе?»

«Колькі? Сем семярэй, сем старых свіней, свінка, свінок, свінчын браток, і адно парасятка».

Ну, паспрабуй палічыцца!.. Не менш, мусіць, будзе, як тады, калі малыя гоняць іх з выгану ды крычаць: «Гэй вы, белыя, чорныя і рабыя!..»

У Даніка было іх трое: свінка, свінок — свінчын браток, і адно парасятка. Свіння Рабая вельмі любіла, калі яе чухаеш,— ажно вочы заплюшчыць. Парсюк Белы, той самы «свінчын браток», калі Данік, як і ўсе хлопцы, садзіўся на яго верхам і паганяў пяткамі пад бакі, толькі рохкаў ды трос лапухамі вушэй. Затое каравы, худы кныручок Свіны Татка лез у шкоду, як вуж, пакуль яму не прывязалі на шыю «бурдзёлак» — паленца, што барабаніла па каленях.

Ды са свіннямі яшчэ паўбяды — горш было з некаторымі сябрукамі.

Данік, як і кожны з малых, меў не адну, а некалькі мянушак,— то Сівы, то Гусак, то Манька... Сівым яго празвалі за валасы, асабліва светлыя ўлетку, калі яны выгаралі на сонцы. Гусаком — таму, што калісьці, яшчэ пазалетась увосень, хлопцу нагнаў страху стары Міронаў гусак. «Манькай» у іхняй вёсцы называюць левую руку, а Данік хацеў чамусьці быць ляўшою і ўсё страшыў, крычаў: «Вось як дам табе з манькі!..» На кожную з гэтых мянушак можна было адказаць любому з сяброў таксама мянушкай, а то і пабіцца. Зрэшты, не ўсе мянушкі аднолькава прыжываюцца. З трох першых мянушак, з якімі Данік уступаў у жыццё, да хлопца

прыліпла найбольш адна — Сівы, і за яе Данік амаль не злаваўся.

Была, аднак, яшчэ і чацвёртая мянушка... Жабраком называлі яго толькі Палуянавы хлопцы, Шурка і Павел. І сам стары Палуян не раз крычаў цераз плот на Данікаву маці: «Жабрачка ты! Я цябе з адной кішэні магу купіць з усёй тваёй паршывай гаспадаркай!..»

У Палуяна — многа поля і кожны год служыць парабак, а ў Зосі, Данікавай мамы, нават каня свайго няма. Да таго ж яшчэ Зося — удава, а Марка Палуян — начальнік на ўсю Галынку — солтыс.

— Не чапайся ты з імі, няхай іх,— вучыла Зося свайго хлопца.— Не чапай, у іх бацька.

Данік быў сірата. Бацьку яго забілі на вайне з польскімі панамі, у дваццатым годзе. Хлопчык яшчэ зусім няшмат разумеў у тым, хто такія паны і чаму яго тата не хацеў іх пусціць сюды, у Заходнюю Беларусь. Данік ведаў адно — тата быў вельмі вясёлы і добры. Нібы праз сон успамінаецца,— у шэрым шынялі, з чырвонай зоркай на шапцы, тата казытаўся вусамі і рагатаў, падкідаючы Даніка на руках... Мама кажа, што бацька, калі наша армія гнала паноў на захад, толькі «вады напіцца» забег. Пайшоў, а назад не вярнуўся... Не вярнуўся дадому і татаў брат, дзядзька Пятрусь. Ды ён жывы,— недзе за граніцай у Савецкім Саюзе. Ёсць у Даніка і другі дзядзька, мамін старэйшы брат, але ён — у суседняй вёсцы Мікулічах, і яму не заўсёды паскардзішся,— трэба абараняцца самому.

Неяк на пашы солтысаў Шурка першы палез да Сівага,— перабраў усе яго мянушкі, а ўжо калі дайшоў да апошняй — Данік не вытрымаў і сцебануў салтысёнка пугай. Шурка разроўся і пабег ад свіней да чарады кароў, дзе быў іх Павел. Той, ужо здаровы бэйбус, заўсёды біўся кіем па галаве. Убачыўшы, што ад кароў бягуць абодва Палуянчыкі, Данік пабег у вёску. Яны яго, можа, і не дагналі б, але Павел папаў яму сухой грудкай у патыліцу, і Данік заплакаў. Быццам адразу зразумеў, што ворагі — вось-вось, мама яшчэ не чуе яго, а самому ўжо забівае дух...

Каля Мікітавых гулялі, бо гэта было ў нядзелю.

— Ага яго! — крыкнуў да Даніка здаравенны Сымонішын Васіль і затупаў «на страх» вялізнымі ботамі.

Рагочучы, ён злавіў хлопчыка, і, пакуль малы вырываўся, старэйшы салтысёнак, Павел, падбег і трэснуў яму кіем па галаве.

— Прыдурак ты! — загрымеў на Васіля другі дзяцюк, Мікола Кужалевіч. Меншы і маладзейшы за Васіля, Мікола штурхануў гэтага здаравілу ў грудзі і замахнуўся: — Табе б вось самому па сківіцах! А ты, кулацкая гніда! Вось я табе!

Павел і так ужо адышоўся, а цяпер — пабег, агрызаючыся, дахаты.

Мікола адвёў Даніка пад плот і пасадзіў на траве.

— Нічога. Ты, брат, не плач,— гаварыў ён прыгнуўшыся.— Вырасцеш — мы ім пакажам. Твой бацька быў герой, і ты не плач.

Дужай мужчынскай рукою, якой так даўно не было на светлай галаве Даніка, Мікола правёў па «сівых» валасах малога, намацаў гуз ад кія і, заплюшчыўшы вочы, праз зубы ціха вылаяўся.

— Пайдзі да студні...— пачаў ён і нечакана змоўк.

Сівы глядзеў яму ў вочы вялікімі, поўнымі слёз вачыма.

— Пайдзі да студні, выцягні вады і прымачы...

— Грай польку! — пачулася за спіной у Міколы. Гэта быў голас таго ж Васіля.

Мікола пакінуў хлопца каля плота і вярнуўся ў круг.

— Грай, Сцяпан,— сказаў ён гарманісту,— ды толькі не для яго. Дурня трэба, хлопцы, трохі правучыць.

— Правільна, Мікола! Байкот яму сёння! — пачуліся галасы.— Не ідзіце з ім гуляць, дзяўчаты! Не бойцеся, не зачэпіць!

— Ды што вы, хлопцы! — апраўдваўся Васіль.— Няўжо вы думаеце, што я хацеў, каб ён яго ўдарыў? І не думаў, каб мне вось з гэтага месца не сысці!

— І не сыходзь,— сказаў Мікола,— пастой ды падумай, чаго табе трэба хацець, чаго — не.

Данік не пайшоў да студні. Ён толькі стаў каля плота і пазіраў на Міколу — ужо з захапленнем у заплаканых вачах.

Маме нехта наказаў, і вось яна прыбегла. Ужо іграў гармонік, і моладзь гуляла польку, з тупатам уздымаючы пыл. Данік ужо не плакаў, а яна ўзяла яго, як малога, на рукі і, хоць ніхто не чуў яе, спачатку люта кляла Палуянаў, а потым да хлопца:

— Ціха ты, ціха, сынок. Не чапай ты іх, я ж гаварыла, няхай іх свая кашуля не чапае. Ціха...

І ён заплакаў зноў,— усё ж такі дзіця.

Назаўтра ўранку, яшчэ раса пяклася холадам, Сівы ўжо ехаў верхам на парсюку — зноў на балота. Падганяў Белага парэпанымі пяткамі пад бакі і зноў смяяўся.

## 2

Свайго поля было ў іх няшмат: для такой жняі, як Данікава мама, няма дзе і разгарнуцца. Зося хадзіла ў зажон. Жала чужое, думала пра сваё... А пад восень зрабіла тое, пра што думала,— купіла свайму хлопцу боцікі. Першыя ад роду.

Прынесла іх увечары з мястэчка — чорненькія, бліскучыя, з чырвонымі падэшвамі... І абцасы, і ранты блішчаць, бо насмолены!.. Выйшла, праўда, няладна: бот да бота былі прычэплены дратвай, і са спеху Данік не дратву парваў, а прарваў у адной халяве дзірачку. Мамінага «чымборыка» на гэты раз Сівы нават і не пачуў.

Усю ноч не далі яму заснуць гэтыя новыя боты. Яны віселі, як спакуса, на жэрдцы над палком, на якім хлопец спаў, і, каб не дзірачка ў халяве, гэтак добра было б думаць, што ён ужо вырас вялікі, што ўжо вельмі хутка, праз тры толькі дні, ён пойдзе ў першы клас!..

Школа стаяла наводшыбе ад вёскі, на ўзгорку. Сама старая і ў акружэнні старых бяроз, што асланялі яе ад зімовых вятроў. Заманілі Даніка і гэтыя высокія бярозы, і прыгожыя дарожкі вакол школы. Не раз вясною ён глядзеў, як дзеці, што ўжо вучыліся, праскрабалі гэтыя дарожкі ў мураве, пасыпалі іх жвірам і абсаджвалі касачамі. А ў сярэдзіну школы, дзе вучыцца, так дагэтуль яму і не ўдалося прабрацца.

Настаўнік, якога ў вёсцы называлі пан Цаба, Даніку не вельмі падабаўся.

Неяк улетку яны, пастушкі, спаткалі яго на шашы. Ішоў ён з-пад рэчкі з трыма вудамі, са збанком і з нейкай торбай за плячыма. Школьнікі, а з імі і меншыя хлопцы паскідалі шапкі і, адзін перад адным, як гусі, загаманілі: «Дзень добры! Дзень добры!..» Спыталіся нават, ці хутка ўжо ў школу.

— Яшчэ будзе тры нядзелькі ды тады ў чацвер,— сказаў настаўнік.

Потым пан Цаба паглядзеў на Даніка і спытаўся:

— А чый гэта такі Іванка?

— Ён не Іванка, ён Данік,— адказалі старэйшыя хлопцы.— Ён Зосін, а прозвішча іхняе Малец. У яго толькі маці, ён сірата.

— Дык, значыцца, ты — пан Даніла Малец,— засмяяўся настаўнік.— Ты таксама прыйдзеш вучыцца? Ходзь ту, не буй се.— Ён узяў хлопца за плячук і падцягнуў бліжэй да сябе.— А які ж ты, пане Малец, сівы, мурзаты, нястрыжаны!..

Пастушкі засмяяліся. Тады і з'явілася яшчэ адна мянушка: «Пан Даніла Малец адмарозіў палец». А Даніку было зусім не смешна.

— Ну, дык хочаш вучыцца?

Адказаць настаўніку трэба, ды і ў школу хочацца, і хлопец цераз сілу выціснуў:

— Ыгы.

— Не «ыгы», а хачу. А рыбу вудзіш?

— Хачу.

Дзеці зноў засмяяліся. А чаго? І пэўна ж, хочацца з вудай на рэчку, але рэчка далёка за пашай, на лузе, і не заўсёды можна туды пайсці.

У руцэ пана Цабы пагойдваўся жоўты збанок, падвязаны за шыйку вяровачкай. Сівы цікнуў у яго раз, другі раз і, нічога не ўбачыўшы, спытаўся:

— Што там?

— Рыба,— адказаў настаўнік.— Не пашанцавала мне сёння, пане Даніла Малец, аднаго толькі акунька ашукаў.

— А чаму ж у торбе поўна?

— У торбе? Там руўнеж рыбы.

— А вы ж кажаце — толькі адну злавілі.

— Ну адну. А гэтыя купіў.

— Дзе купілі?

— Дзе? У склепе, ктуры называ се Немэн [1]. Ха, ха, ха!.. Не, злавіў усе, пане Малец, толькі адну нясу жывую.

— А чаму вы лжаце?

— А што, ты ніколі не лжэш?

---

[1] У краме, якая называецца Нёман.

— Ыгы.

— Бачыў ты яго — «ыгы». Ну што ж, пане Малец, я табе за гэта ксёнжку дам, калі прыйдзеш у школу. З цацкамі.

На развітанне хлопцы зноў паздымалі шапкі і, адзін перад адным, загаманілі: «До відзэня! До відзэня!..» А Данік стаяў разгублены, не ведаючы — верыць ці не верыць?.. І неяк прыкра было, невядома чаму...

Цяпер ён успамінае пра гэта, і зноў вяртаецца думка: верыць пану ці не?..

А боты — чорныя, бліскучыя боцікі — вісяць на жэрдцы, над самай галавой, і, гледзячы на іх, ніяк не заснеш...

Праз тры дні ў школу!.. Пасля пачнуцца халады і можна будзе абуцца!.. А можа, мама дазволіць і ў першы дзень?..

## 3

Пан Цаба не ашукаў,— як толькі Данік прыйшоў у школу, ён даў і яму кніжку з цацкамі і неяк смешна назваў яе — «элемэнтаж» [1].

Літары даліся хлопцу няцяжка. Толькі з дзвюма з іх Данік, як і ўсе іншыя навічкі, меў многа клопату. Нейкае «*а* з хвосцікам» і «*э* з хвосцікам»; першае трэба вымаўляць, як «не то *а*, не то *он*», а другое — «не то *э*, не то *эн*»... Так муштраваў іх настаўнік. І вымаўляць удавалася толькі яму. Малыя неўзабаве вырашылі, што тут уся справа ў носе — які ў каго нос. У пана Цабы нос быў доўгі, чырвоны, і настаўнік гугніў у яго неяк вельмі ж адмыслова. А ў іх яно так не выходзіла гладка — ні «он», ні «эн»...

Пасля пачалі складаць з літараў словы: «ма-ма», «та-та», «А-не-ля»... Мама і тата — таксама як і ў нас. Анеля — гэта імя дзяўчынкі. Такой дзяўчынкі ва ўсёй Галынцы не было, і таму Данік назваў Анеляй іхнюю пярэстую, вельмі ж пацешную цялушку.

Неяк зімою, прыйшоўшы са школы, Данік адразу ўзяўся за ўрокі, як ён рабіў цяпер, ужо не пасучы, заўсёды. Мамы не было дома. Ён сам дастаў з печы капус-

---

[1] Буквар.

ту, з паліцы — хлеб, пад'еў, прыбраў са стала і разгарнуў «элемэнтаж». Пачаў чытаць вершык, які трэба было вывучыць на памяць. У вершыку польскі хлопец Янэк хваліўся сваёй маме, што ён наловіць многа рыбы. А потым:

Ловіл Янэк до полудня,
Маёнц пружнон храпкэн...[1]

На гэтай «храпкэн» Сівы і засеў. Што гэта за «храпка»? Думаў, думаў — дарэмна. Успамінаў, успамінаў... Не, настаўнік не гаварыў ім нічога пра гэтае слова. У мамы не спытаешся: яна пайшла з кудзеляй. Ды, зрэшты, колькі ў яе ні пытайся, толькі і будзе адказу: «А багі яго ведаюць! Адчапіся. Што я табе — пані ці настаўніца? Бабуля твая, нябожчыца, пакаёўкай у пана была: тая табе адказала б!..»

Раптам Данік успомніў, у каго сёння маці з кудзеляй, і ўсё яму стала ясна. Ну, калі не адразу цяпер, дык хутка будзе ясна,— вось толькі ён пойдзе туды, да Кужалевічаў, ды пакажа гэтую «храпкэн» сябру свайму — Міколу.

Мікола — сябар Даніку? Вялікі дружыць з малым?.. А што ж тут дзіўнага? Пасябравалі яны... Хто яго ведае калі — ці тады, летась вясною, як Мікола абараніў яго ад салтысёнка, ці тады, як і Данік дапамог Міколу? Відаць, і тады, і тады.

Месяцы тры таму назад, увосень, хлопчык бег з пашы дахаты. Іван Цярэшкавых, з якім ён «пускаўся ў школу», прыйшоў з першай змены і пусціў Даніка на другую. Сівы спяшаўся, трусіў подбегам, а тут, з загуменнай дарогі, што за капуснікамі, нехта гукнуў яго:

— Данік! — і памахаў рукою.

Ён пазнаў, хто яго кліча, і пабег па капусце туды.

Пачаўшы ад дарогі новую баразну, Мікола сядзеў на плузе і курыў.

— Вось што, браце Даніла,— сказаў ён.— Дар за дар, а дарма нічога. Я цябе выручыў, і ты мяне выруч. Збегай ты да нас у адрынку, дзе я сплю... Глядзі толькі, каб маці мая не ўбачыла. І вазьмі ты там, у кутку каля дзвярэй, адну штуку. Схавай толькі, каб ніхто не бачыў...

[1] Вудзіў Янэк да паўдня,
Маючы дарэмную ахвоту...

Данік пабег. Зайшоў у двор да Кужалевічаў з загумення. Азіраючыся, адчыніў адрынку і ўбачыў у кутку каля дзвярэй стары бязмен: з булавешкай, але без крючка, на які падвешваюць тое, што важаць. Больш нічога ў кутку не было. Значыцца — трэба ўзяць гэта.

Хлопчык схаваў бязмен пад кашулю, высунуў галаву з дзвярэй на двор, азірнуўся ва ўсе бакі і, колькі духу, памчаўся па сцежцы на загуменне, а там — па дарозе да Міколы.

— Ну вось,— усміхнуўся яго абаронца.— Давай сюды. Гэта, брат, тая самая булава, з якой яшчэ асілак Машэка ваяваў з панамі. I я тут гэтай штукай не каня паганяцьму. Яму ўжо і булава не паможа...

Хлопчык глядзеў то на аратага, то на худога, як драч, каня, то зноў на аратага... Той самы Мікола — добры, вясёлы, чубаты дзяцюк, якога ён бачыў і босага, і ў лапцях, і ў ботах,— здаўся цяпер малому такім здаравенным і страшным з гэтай сваёй булавою... Страшным для тых, хто не сябруе з Міколам, як Данік.

— З-пад кашулі ідзі пад кашулю,— усміхнуўся Мікола, затыкаючы бязмен за пояс.— А ты, браце Даніла, толькі маўчы пра гэта. Я не разбойнік. Я толькі тут успомніў пра гэты бязмен. Там, за гарою,— ён паказаў рукой на ўзгорак, за які цягнулася вузкая, недаараная палоса,— там чакаюць мяне. Макар Палуян захацеў надаваць жабраку Кужалевічу. Адзін пан солтыс баіцца, дык брата паклікаў. Таго, што ў прымах жыве, у Мікулічах. Між сабою, кулаччо, грызуцца, а на нашага брата — разам. Сядзяць там недзе ды пакурваюць, чакаюць... Нічога, пакажу бязмен — не палезуць. Ну, ты ідзі, брат, бо ў школу спознішся. Што ж, гняды, пацягнулі!..

У школу Данік спазніўся. Пан Цаба паставіў яго ў куток на калені. Гледзячы на сцяну, пакалупаную ў гэтым месцы пазногцямі і пакрэмзаную алоўкамі яго папярэднікаў, Сівы думаў пра тое, што цяпер робіцца там, за гарою. Там, дзе два Палуяны сустрэлі Міколу. Эх, вось дзе, мусіць, бамберыць недзе па іх спінах булава! Гэта ім не да мяне ды не да мамы мае чапляцца!.. Гэта ж ім не хто-небудзь — Мікола!..

Такі сябар і можа, і ведае ўсё. Ён і пра «храпку» гэтую скажа.

Данік хуценька апрануўся і пабег да Кужалевічаў.

Аднак і Мікола не змог яму нічога адказаць. Паклаўшы на лаву свой малаток і бот (Мікола яшчэ і шавец!), ён узяў Данікаў «элемэнтаж» і пачаў думаць уголас:

«Конская мыза — храпа. Калі гразь замерзне нагалік, без снегу,— таксама гаворым храпа. Але гэтая «храпка» тут, брат, не падыходзіць... А ў што ты, калі рыбу вудзіш, угортваеш сваіх печкуроў? У анучку. Можа, яна і па-польску трапка?»

Сівы шмаргануў носам і на момант задумаўся. У іх толькі Іван Цярэшкавых рыбу ў анучку ўгортвае. Але ў яго і плоткі бываюць, і акуні. Данік рабіў інакш. Ён выпіваў з бутэлькі малако, а тады, як толькі зловіць рыбку, — туды яе, у бутэльку. Аднаго за адным упіхаў цераз рыльца слізкіх, халаднаватых печкуроў, часта мяняў ім ваду, а яны ўсё чамусьці пазяхалі. Сыпаў ім крошкі хлеба, і здавалася, рыбкі ядуць... Жуюць, жуюць — пакуль нарэшце не падохнуць...

— Ды не, дзядзька Мікола,— сказаў ён,— храпка гэта неануча. Анучка па-панску — шматка. Мы ёю ў школе дошку выціраем.

— Ну дык я, брат, не ведаю. Я, брат, у іхнюю школу і дня нават не хадзіў.

— А што ж настаўнік? — азвалася з-за прасніцы Данікава мама.— Што ж яму — толькі грошыкі аграбаць?

Стары Кужалевіч, дзядзька Рыгор, ляжаў на печы, лапцямі на хату. Здавалася — спіць, адно ж паварушыўся і кажа:

— А пакіньце вы з гэтым настаўнікам! Які ён паляк! Ён жа з Бярозаўкі. Бацьку я яго ведаю і самога. З багатай хаты, нічога не скажаш. У Нясвіжы вучыўся, па-руску. А цяпер вось у панскую скуру палез. Ужо, бачыш, і паню сабе падхапіў, ажаніўся. Сястра, кажуць, нейкага паліцыянта. Угрунтаваўся добра. А нашага брата, калі каторы і вучоны, настаўнікам, нябось, не паставяць. Ды не кожны і захоча, як гэты Цаба. Храпка, шмапка... Калецтва адно! Хутчэй бы на іх які парадак рабіўся. То пан паліцэйскі, то пан саквістратар [1], то пан які-небудзь Цаба — усе на нашу мужыцкую шыю...

---

[1] Секвестратар — зборшчык падаткаў.

Данік глядзеў на Міколу. Сябар яго ўстаў, падышоў да паліцы і зняў з яе нейкую кнігу.

— Гэта Купала,— сказаў ён.— Той самы, што і пра Машэку напісаў. Памятаеш? — падмаргнуў ён Даніку.

— Ыгы,— таксама па-змоўніцку ўсміхнуўся Сівы, успомніўшы пра бязмен.

— І пра мяне ён напісаў,— гартаў кнігу Мікола.— Глядзі вось, верш: «Я шавец-маладзец». І пра цябе напісаў. Пра цябе і пра маму тваю. Вось паглядзім. Ага! Ну, слухай.

Гэта была размова беднай маці-сялянкі з хлопцам сваім, які пасвіў чужыя каровы. У хлопца было тое, чаго ў Даніка ніколі не будзе — бацька і браты. Было і тое, чаго ў Даніка яшчэ няма,— служба ў чужых людзей. Было, аднак, і галоўнае, што радніла Сівага з тым пастушком,— горкая доля.

Мікола чытаў, стоячы сярод хаты:

Як у служкі сходзяць леты —
Ў пастуха,
Пытай, маці, птушкі гэтай —
Канюха.
Запытайся гэтай хмары —
Гэтых слёз;
Гэтай кветкі на папары —
Гэтых лоз;
Гэтай грушы сярод поля
І балот:
Яны ўсе аб маёй долі
Вядуць шчот.

Ну і галоўнае, што ты, браце Даніла, запамятай назаўсёды:

Не плач, маці, і не злуйся
На жыццё,
Як я ў сілачку ўбяруся,
Змагу ўсё.

Вось так, брат, і запісана. Зразумела?

У адказ Данік змог вымавіць толькі сваё «ыгы». За яго адказала маці.

— Як жа хораша, божачка,— уздыхнула яна.— Чула, Алена, га? — спытала ў Міколавай маці, якая таксама не прала, а слухала.

— Ну, што, Данік,— сказаў Мікола,— хочаш вось так навучыцца чытаць?

— Ыгы!..

— Калі «ыгы», дык ідзі цяпер і вучы сваю храпку, а ўвечары прыходзь.

І вось быў вечар, у які яшчэ адзін заходнебеларускі пастушок з мужыцкай прагнасцю на ўсё жыццё запамінаў трыццаць дзве літары ўжо не чужое граматы. І была пасля вечара ноч, у якую ў старой, занесенай снегам хаціне доўга не мог заснуць маленькі чалавек.

## 4

Парты ў школе старыя. Паднімеш дошку і — ляп-ляп ёю, як маці бёрдам, ткучы. Вельмі прыемна. А ўсе яны парэзаны, пакрэмзаны!.. У ямцы, дзе стаіць чарніліца,— цэлы сметнік. А яшчэ, як разальеш туды чарніла ды вымеш чарніліцу, рукі запэцкаюцца — не дамыешся. Мацнеш сябе за нос або пачухаеш астрыжаную галаву, а потым дома: «Эх ты, пісар,— кажа мама,— зірніся ў люстэрка, які ты!..»

Яшчэ і тата Данікаў вучыўся на гэтых партах. Кажуць, што і тады яны былі таксама пакрэмзаны... Мама на іх не вучылася, бо яна не з Галынкі, а з Мікуліч. Ды яна і зусім не вучылася, а служыла з маленства. І вось не ўмее цяпер ні чытаць, ні пісаць. Аддаўшы Палуяну-солтысу падатак, яна ставіць на паперцы тры крыжыкі, ды і то нейкія крывыя. І сама галаву неяк скрывіць, і аловак не ўмее трымаць...

Данік ужо ў трэцім класе. Першыя школьныя радасці даўно прайшлі. Праўда, вучыцца «па-панску» з кожным годам як быццам лягчэй. Ужо і сам пан Цаба гаворыць з імі толькі па-польску. Вось і цяпер ён тлумачыць ім нешта, але Сівы не чуе, бо задумаўся. Ад невясёлых думак ён абмакнуў у чарніла тупы канец алоўка і напісаў на парце: *Д. Малец.* Па-беларуску, вядома. Настаўнік заўважыў гэта і паставіў «грамацея» ў куток, дзе яшчэ, напэўна, стаяў неаднойчы і тата...

Глухаваты Лявон, як заўсёды, калі настаўнік вёў каго-небудзь за вуха ці за валасы ў куток, сказаў уголас: «Ну, павялі бычка на ярмарку!» І, як заўсёды, пан Цаба паставіў Лявона побач з пакараным.

У кутку за дошкай падлога прагніла, і Акулінін венік трапляе ў тую яму не часта. Шыбы шэрыя, запацелыя. На атынкаваных сценах доўгія трэшчыны. На по-

куце — пазалочаны бог, якога, кажуць, выдумалі паны. А на сцяне паміж вокнамі — вусаты пан Пілсудскі, які прывёў сюды ўсіх паноў з усімі іх падаткамі, стрэльбамі і «элементажамі»...

— Лявон,— шэпча Данік.— Ты чуеш? Калі мы ў першым яшчэ былі, знайшоў я раз грыфель пад партамі... Ну, грыфель,— «га?..». І панёс я яго нашаму мармолю, у яго пакой. А ён гэта сядзіць за сталом і сала з хлебам аплятае. Ажно насішча лукам выгінаецца...

— Га? — уголас спытаўся Лявон.

— Ціха вы там, галга́ны! [1] — павярнуўся за сталом настаўнік.

— Ат, глушак! — шапнуў Данік на Лявона.

І вось яны стаяць моўчкі. Малец думае пра настаўніка.

Тады, калі ён насіў яму грыфель (таксама дурань: не мог спытацца сам у класе, чый ён!..), у пана Цабы яшчэ і наймічкі не было. Тоўстая пані Юля ўсё рабіла сама. Цяпер у іх Акуліна. А Юля яшчэ патаўсцела і, як гавораць у вёсцы, гуляе з панам Вільчыцкім...

Пазаўчора гэты пан зноў прыязджаў сюды з маёнтка. Як толькі коні яго зазванілі бомамі ды захраплі перад вокнамі, Цаба пабег на ганак. Неўзабаве ён увайшоў у клас з панскім фурманам Фэлікам. Спяшаючыся, Цаба напісаў на дошцы некалькі сказаў і загадаў ім перапісаць гэта ў сшыткі.

— І ціха мне! — сказаў ён.— Будзеце слухаць гэта пана.

«Гэты пан» — вусаты, заікасты Фэлік — зняў сваю калматую шапку і палажыў яе на стале. Разгірачыўшы здаравенныя боты, якімі ён ужо наслядзіў цэлую лужыну, фурман стаяў перад партамі, трымаючы ў левай руцэ вялікія рукавіцы з аўчыны, а ў правай — сырамятную пугу на доўгім бамбукавым пугаўі. Дзе ж тут табе будзе ціха! Хлопцы і нават дзяўчаткі хіхікалі і круціліся на партах. А Фэлік раз-пораз ляпаў пугай па падлозе і заікаўся:

— А я ц-цяб-бе і там, на п-покуце, ад-гэтуль д-дастану!..

Потым пан Цаба прыйшоў са свайго пакоя ў клас.

---

[1] Галган — нягоднік.

увесь чырвоненькі пасля чаркі, і адпусціў фурмана на двор.

А пан Вільчыцкі застаўся там, у пакоі...

Цаба ўжо і карову прывёў з маёнтка. А нешта з месяц таму назад, калі малыя прыйшлі ў школу, Акуліна зноў змывала два акрываўленыя ўслоны. Асмаленыя і памытыя свіныя ногі і галава з каменем у лычы ляжалі на першай парце. На стале, побач з глобусам, стаяла вялізная міса з сінявper трыбухамі. Малыя абступілі Акуліну.

— Што? — спытаўся Лявон.— Ужо другога ўходалі? Можа, Вільчыцкі Юлі даў?

Ды Акуліна толькі коўгала анучай па ўслоне і маўчала. Тады Лявон папхнуў Даніка на Акуліну, а тая пляснула яму каравай анучай па твары. Цьфу, ажно цяпер смярдзіць!.. І ўсё — і школа, і сам настаўнік — смярдзяць крывёй і трыбухамі...

«Панскі падліза»,— кажуць у вёсцы пра Цабу.

Пакуль Данік так думаў, стоячы на каленях, гасцінцам з мястэчка брыла па адліжным снезе Акуліна. У старых салдацкіх валёнках, засопшыся, яна несла з пошты вялікі пакунак. Вось яна мільганула ў акне... у другім...

— Кніжкі! Кніжкі нясе! — загаманілі дзеці.

Акуліна ўнесла пакунак, напусціла з двара холаду, навалакла шлапакамі снегу.

— Ух, панок! — уздыхнула яна, папраўляючы хустку.— Хай іх нечага халера! Наце вам і запіску яшчэ.

— А ты не лайся, дурніца. Ідзь прэч!

Акуліна згорбілася і пайшла.

— Ну вось,— сказаў настаўнік.— Вось вам і тое, чаго так хацелася вашым бацькам. Тутай сон бялоруске элемэнтажэ «Зорка». Хто з вас умее ўжо чытаць па іх?

Данік азірнуўся. Ды і азірацца не трэба,— і так чуваць, як загаманіў, узняў рукі ўвесь клас:

— Я! Я! І я!..

— Праве ўшысцы,— загугніў пан Цаба.— Ну што ж, пшынаймней, не тшэба мне будзе лішне заўрацаць [1] сабе галаву.

---

[1] Праве ўшысцы — амаль усе, пшынаймней — прынамсі, заўрацаць — марочыць.

Ён памаўчаў.

— А хто ж вас навучыў? — спытаўся.

Аказалася — каго бацька, каго нават маці, каго — старэйшы брат, а трох — Яна Бусліка, Уладзімежа Чарадойлу і Шымона Мамоньчыка, як называў іх настаўнік,— навучыў Да́нель Малец.

— Ты? — спытаўся пан Цаба.— А ну, устань!

Данік устаў і павярнуўся да класа.

— А хто цябе навучыў? Ну, чаго ты ўнурыўся?

Сівы маўчаў, толькі глядзеў на пана спадылба.

— Не повеш? — зноў па-польску спытаўся пан Цаба.— Не повеш? Мысліш, я сам не вем? Ідзь знуў до свэго конта!.. [1]

Данік павярнуўся і, па прывычцы, стаў на калені. Ён не сказаў, не назваў свайго сапраўднага настаўніка. І не скажа. Не пану аб гэтым казаць!..

Чатыры месяцы прайшло з таго дня, калі ў іхняй Галынцы, як і ва ўсіх навакольных вёсках, быў сход, на якім сяляне дамагаліся ад паноў школы на роднай беларускай мове.

У тую нядзелю ў школе было паўнютка людзей. За сталом сядзеў пан Цаба, яшчэ два нейкія паны з мястэчка і пан паліцыянт. Не хто-небудзь іншы, а ён, Данікаў друг Мікола Кужалевіч, паказваў панам вялікі, складзены ўдвая ліст паперы. На гэтым лісце было напісана тое, што называецца незвычайным і вельмі ж, мусіць, моцным словам — П Р А Т Э С Т.

— «Мы, сяляне вёскі Галынка,— чытаў Мікола,— заяўляем пратэст супраць таго, каб нашы дзеці вучыліся не на роднай мове, і патрабуем адкрыць у нас беларускую школу...»

Данік ведаў — не хто-небудзь іншы, а ён, Мікола, пісаў гэты пратэст. А падпісала яго ўся вёска — з канца ў канец. Нават і солтыс, Марка Палуян, падпісаў. Маўчаў, чакаў, а ўсё ж такі падпісаўся. Увесь вялікі ліст спісалі: хто алоўкам, хто чарнілам, хто прозвішча паставіў, а хто крыжыкі. Недзе там, каля самага пачатку, стаяць і маміны крывыя тры крыжы. Пад імі — рукой Міколы — напісана: «За непісьменную, па яе просьбе, падпісаўся:», а яшчэ ніжэй — рукою Даніка — *Д. Малец.*

---

[1] Не скажаш? Думаеш, я сам не ведаю? Ідзі зноў у свой куток!

На сход, у школу, малых не пусцілі. Нават ад вокнаў Цаба адганяў. Вокны былі адчынены, і ўсё чуваць было здалёк. Зрэшты, Данік схаваўся за бярозай перад акном і самае важнае бачыў.

— Не трэба нам чужая школа. Яна не маці для нашых дзяцей, а мачыха! Ды і мачыхі бываюць куды лепшыя! Не трэба нам і настаўнік, што за аб'едкі з панскага стала запрадаўся панам з душою! Не хочам мы і парадкаў такіх, калі на нашага брата глядзяць, як на быдла, калі кожны цябе кешкае нагою, як свіную ражку... Мы заяўляем пратэст!..

Так гаварыў тады Мікола. Так гаварылі і другія хлопцы і мужчыны.

Паны маўчалі. Цаба сядзеў чырвоны, як бурак, і толькі соп у сваю дзюбу. І паліцэйскі маўчаў, аберуч трымаючыся за стрэльбу, сціснутую каленямі.

Нешта праз месяц Міколу забралі. Той самы паліцыянт, а з ім яшчэ адзін гналі яго па вёсцы ўранні, калі малыя ішлі ў школу. І нельга было, вядома, падбегчы да сябра, шапнуць: «Можа, прынесці табе тое, Мікола, што стаіць у вашай адрыне ў кутку каля дзвярэй? Я пабягу...» Нельга было сказаць, бо паліцэйскія адганялі іх, адзін нават крыкнуў:

— Большэвіцке шчэнента! Прэч! І вам до пáкі захцяло се?.. [1]

Данік, разам з іншымі хлопцамі, ішоў за імі воддаль, там, дзе ішла, галосячы, цётка Алена, Міколава маці.

Цяпер, стоячы ў кутку на каленях, Данік то думае, то нават шэпча:

— Панскі падліза... Запрадаўся з душой... І Міколу прадаў...

Гэта — пра Цабу. Так гаварыла ўся вёска.

## 5

Сонца, мароз і вецер. Эх, завірыў, разгуляўся!.. Так і скрабе па хрупкім снезе, так і падвільвае белымі вужакамі снежнага пылу. Гоніць яго па полі, цераз гасцінец, зноў па полі, па хмызняках і — пад саменькі лес. А сонца такое, што не зірнеш на снег!..

---

[1] Бальшавіцкія шчаняты! Прэч! І вам у турму захацелася?

Ад сонца Даніку не цёпла — цёпла ад бацькавага салдацкага башлыка, ад вялікага, з чужых плячэй, паўкажушка, ад хады па глыбокай сцежцы. Ён дрэпае ззаду за мамай і глядзіць на пяткі яе лапцей.

Мама шырока ступае, спяшаецца за дзядзькам Кастусём і з-пад вялікай хусткі-канаплянкі глядзіць на дзядзькавы боты.

Ідуць яны, якраз як тыя дзядзькі, што ходзяць у акруговы суд — з-пад Нясвіжа ў Навагрударак — за сто кіламетраў. Спераду — сам той, які-небудзь дзядзька Сымон, што судзіцца з некім ці на якога нехта падаў у суд. За дзядзькам — сведкі. Глядзяць задні пярэдняму на пяты, быццам хочучы ўгадаць, ці ў Карэлічах будзе толькі сітніца і селядзец да чаркі, як у Міры было, ці, можа, Сымон каўбасы яшчэ возьме, як учора ў Гарадзеі?.. А сам той дзядзька Сымон павесіў галаву і думае пра свайго сабаку-адваката: як ён заўтра адбрэшацца? І пра тое думае, як ім цяпер у хаце пойдзе без каровы... Адвакат гаворыць: «выйграем!», ды гэта яшчэ на вадзе віламі пісана, а Падласку прыйшлося прадаць...

Данік ужо бачыў не раз, што гэтак ходзяць па гасцінцы, каля іхняй, галынкаўскай, пашы. Ходзяць так людзі і з іхняй Галынкі.

Вось так ідзе цяпер дзядзька Кастусь — спусціўшы галаву, а яны з мамай — следам, таксама моўчкі...

Толькі ідуць яны — не на суд, а ўнурыліся — ад ветру.

Дзядзька Кастусь, мамін старэйшы брат, прыйшоў да іх сёння з Мікуліч. І думае ён цяпер пра тое, як гэта раптам, знячэўку, пашанцавала ягонай сястры. Дзевер яе, брат Данікавага бацькі Пятрусь Малец, прыслаў ім грошай. З Мінска ажно, з-за граніцы. Там ён недзе жыве, відаць, як чалавек, бо — дайце раду! — адразу гэтулькі грошай прыслаў... Калі перавесці на золата гэтыя савецкія чырвонцы, дык будзе іх цэлых трыццаць рублёў — мікалаеўскім золатам. Ну, а на панскія злоты — яшчэ ў чатыры столькі больш. Як з неба гэта звалілася... І піша Пятрусь Малец, што гэта — пляменніку яго, Данілу, каб вучыўся. «Сыну брата майго Івана, які аддаў жыццё за савецкую ўладу» — так і піша — у заказным пісьме... Як яно пойдзе цяпер сястры пры грошах?.. На добры лад, дык трэба было б хоць

паўморга зямлі абзадачыць або каня якога, нарэшце, купіць. Ды што ты зробіш, калі дзевер загадвае хлопца вучыць?.. Калі ён сам, дзядзька Кастусь, збіраўся ўранні сюды, у Галынку, баба яго таксама хітранька ўсміхалася: «На парасятка хоць,— кажа,— пазыч...» Яно-то, праўда, не шкодзіла б. Памагае ж ён Зосі, сястры, ва ўсім-усялякім. Але ж і не разявішся адразу: дай!.. Няхай ужо, бедная, сама хоць трохі ачалавечыцца. Гэтулькі грошай!..

Сама Мальчыха, дык тая проста аслупянела ад шчасця. Учора, як прынеслі з пошты пісьмо і павестку, загаварыла ўся вёска. І «з таго мэнту», як кажа Зося, думкі ў яе галаве блытаюцца адна за адну, а іх раз-пораз прадзімае вялікая радасць. Грошай раптам будзе столькі, што і ў галаву не тоўпіцца. Дагэтуль Зося насіла ўвесь свой капітал у хустачцы, туга заціснуўшы вузлом і медзякі і паперкі. Калі нават якая-небудзь пяцёрка няшчасная была за душою, дык і то думалася, што з капейкай — усюды смялей. А цяпер... Страшна было б адной ісці па іх. Кастусь, дзякуй яму, ідзе. Паслухаў. Ён-то, нябось, разбярэцца ўсюды! Ды і свой сынок таксама. Бачыш, жаба, упёрся — «пайду». Трэба ж яму апрануцца што-небудзь купіць... «Сыну брата майго...» — успамінае Зося пісьмо. Няхай бы ён, яе Іванка, лепш сам быў жывы, чым усе гэтыя грошы. Але што ты парадзіш?.. Сёння дык яшчэ не, а ў другую нядзельку яна закажа па ім паніхіду. Як і ўсе добрыя людзі...

І Зосі ўжо цяпер здаецца, нібы наяве, як будзе тады ўсміхацца заўсёды п'янаваты псаломшчык Харкевіч, беручы ад яе залатоўкі. Пасля абедні — паніхіда. Зося ўяўляе, як яна кленчыць са сваім хлопцам сярод царквы і ў руках іхніх гараць, аплываючы духмяным воскам, вялікія свечкі. Данік і рад, што ўсе людзі глядзяць на іх, і нудна яму, жуліку,— наслухаўся ўжо і ён, што кажуць у вёсцы — бога няма. Ён садзіцца на пяткі і разглядаецца ва ўсе бакі. А сама яна прыслухоўваецца да незразумелых, святых слоў бацюшкі, ловіць у іх імя свайго Івана і хрысціцца ўдагон яму, старанна прыціскаючы тры пальцы да зморшчанага лба. Праз сiняваты, пахучы дым кадзіла блішчыць пазалота іканастаса. Барадатыя багі глядзяць чамусьці панура. Толькі божая маці ўсміхаецца. А пеўчыя як хораша пяюць!

Адзін псаломшчык як раўне сваім басам, дык ажно сэрца заные... І верыцца Зосі, што цяпер дык Іванавай душачцы палягчэе,— такая, людцы мае, паніхіда!..

«Не забыцца толькі прышыць бакавую кішэню ў бурносе»,— думае Зося, зноў успомніўшы пра грошы. А потым аднекуль з'яўляецца думка, што бога, можа, і сапраўды няма... І Іван жа казаў калісьці таксама, і брат ягоны, дзевер Пятрусь, напэўна ж, таксама бязбожнік. А людзі ж яны якія разумныя! Усё пачынае блытацца ў галаве. Ды вось зноў усплываюць на памяць пісьмо і грошы — ажно з Мінска, а за імі — вялікая, небывалая радасць. І ўсё становіцца ясна, як гэты вось белы, сонечны дзянёк. Толькі ж вецер які! Прыпыніўшыся, Зося азіраецца і з усмешкай пытае свайго гаспадара:

— Ідзеш, Даніла?

— Іду, іду,— адказвае Сівы. І вочы яго ажно паблісківаюць з-пад башлыка.

Данік таксама думае.

Яму ўжо адзінаццаць. Ужо другі год хлопец сядзіць у трэцім класе. Што, хіба ён вучыцца дрэнна? Ды не! Цяпер ужо не толькі ўся школа, а ўся Галынка ведае, што ён, Зосін Данік, вучыцца лепш за ўсіх. Найбольш чытае — і беларускіх, і рускіх, і польскіх кніжак, абы дзе якую дастаў. А вось застаўся ў трэцім класе на другі год. Хто ведае — можа, і яшчэ год будзе сядзець... Такі ўжо заведзены лад у паноў: хто не адходзіць у школу да чатырнаццаці год — плаці штраф або адседжвай у каталажцы пры гміне. За ўсё адседжваюць людзі — за падаткі, за штрафы, калі няма чым заплаціць. Дзеду Раману прыйшло ад сына з войска даплатное пісьмо, дык ён і за даплату гэтую прасіўся адсядзець. Маме ні штрафу плаціць, ні адседжваць, вядома, не хочацца, дык вось Данік і ходзіць другую зіму ў трэці клас. Ісці ў чацвёрты, у местачковую школу,— няма за што і няма ад каго. Трэба ж і маме дапамагаць. Шэсць чужых кароў і сваю Рагулю пасе ён улетку.

А ў школу, у чацвёрты клас, так хочацца!..

Вясной, калі ён скончыў трэці, быў у іх сам «пан кіроўнік» — дырэктар местачковай сямігодкі.

«Пан, зразумела,— звярнуўся ён да іхняга Цабы,— лепшых вучняў накіруе да мяне, у чацвёрты клас, а гэтага, Мальца,— у першую чаргу, абавязкова».

«Пане кіроўніку,— загугніў Цаба,— ён, Данель Малец, вельмі бедны, сірата. Дарэмная гаворка».

«Ну што ж, як не дык не»,— сказаў кіроўнік.

А тут учора дзядзька Пятрусь прыслаў пісьмо і грошы. Вось табе і «не дык не»! Абы толькі да вясны дацягнуць, а там, увосені, я табе, пане Цаба, не здрастуй, а ты мне не застуй!

Ад вялікага кажушка Даніку цяжка ў плечы і мокра за спіной. Канцы башлыка, якімі хлопец абвязаны ледзь не да носа, запацелі і падмярзаюць на ветры, ад подыху зноў растаюць і зноў падмярзаюць. Хлопец перабірае засліненае сукно гарачымі губамі і ўсё думае...

Дзядзька Пятрусь, незнаёмы Даніку брат яго бацькі,— вельмі добры, відаць, і вельмі разумны чалавек. І ён, як калісьці Мікола, гаворыць, што Данікаў тата — герой. Каб паны не забілі яго на вайне ды каб ён жыў, ён быў бы таксама разумны і добры. А каб паноў не было і тут? Што ж, тады не было б і пана Цабы з яго школай і не сядзеў бы ў турме такі разумны, добры, смелы Мікола Кужалевіч... Ды ці адзін хіба Мікола!.. Данік успамінае, як плачуць бабы і дзеці, калі паліцыянты гоняць у пастарунак каго-небудзь з хлопцаў ці мужчын... А ўсё ж спяваюць у Галынцы песні супраць паноў, усё ж чакаюць прыходу таварышаў...

Тут на думку хлопцу ўзыходзіць, што школа ў мястэчку — таксама не свая, як і ў Галынцы... «А ці добра, што я пайду туды, што я хачу вучыцца, хоць і па-польску? Што ж я — хачу панам Цабам зрабіцца?.. Ды дзядзька ж піша, каб я вучыўся! — успамінае ён з палёгкай.— У школе буду вучыцца па-польску, а дома — па-свойму. І буду шмат чытаць, буду такі разумны, як тата, як дзядзька Пятрусь, як Мікола!..»

Вецер вірыць і дзьме па-ранейшаму. Мама, зноў прыпыніўшыся, азіраецца і пытае:

— Ідзеш, Даніла?

— Ды што ты ўсё: «ідзеш, ідзеш»? Ну іду...

І вочы Сівага, здаецца, яшчэ больш пабліскваюць з-пад пакрытага інеем башлыка.

## 6

Калісьці, пры цару, школа ў мястэчку была «царкоўнапрыходская», на тры класы. Невялікі драўляны дом яе стаіць на схіле ўзгорка, на якім, акружаная дрэвамі, узвышаецца прыгожая царква. Гэтыя бліскучыя крыжы над светла-зялёнымі купаламі відаць ажно ў Галынцы. Мястэчка малое: ад незабрукаванай плошчы разыходзіцца шэсць вуліц. Хаты — такія самыя, як у Галынцы, аднак людзі, якія ў іх жывуць, называюць іншых людзей, хто не з мястэчка, вясковымі. Навокал рыначнай плошчы стаяць драўляныя і нават цагляныя дамы, у якіх жывуць прыезджыя паны-«ўжэнднікі»[1] і гандляры-яўрэі. Восем крам, адна пякарня і дзве карчмы. У адным такім доме каля плошчы размясцілася гміна, куды солтысы носяць садраныя з людзей падаткі, у другім доме — пастарунак, дзе паліцэйскія ў цёмна-сініх мундзірах катуюць усіх тых, хто не хоча, каб тут была панская ўлада. А яшчэ ў двух нанятых яўрэйскіх дамах вучацца чатыры старэйшыя класы сямігодкі, якія не ўмясціліся ў старым доме на схіле царкоўнага ўзгорка.

Чацвёрты і пяты класы вучацца ў новым драўляным доме, насупраць якога, цераз плошчу, стаіць пастарунак.

Выхавацелька чацвёртага класа — пані Мар'я, або кіроўнічыха, як называюць яе вучні,— увайшла пасля пераменкі ў клас з вялікім пачкам чырванабокіх яблыкаў.

— Лісты кляновыя прынеслі? — спыталася яна.

— Прынеслі! Во якія! Во! — загаманілі вучні.

— А-ёй, навошта гэтак шмат? Я ж казала па дватры, не больш.

Пані Мар'я гаворыць па-польску чыста, не так калечана, як пан Цаба.

— Але нічога, дзеці,— кажа яна.— Зробім так: кожная парта атрымае адно яблыка, паложыць некалькі лістоў, а на іх зверху — яблыка. Праўда, на кляновыя лісты яблыкі не падаюць, бо на клёнах яны не растуць, але гэта таксама нічога: гэта вельмі нагадвае восень, яе хараство. Дык пачынаем, дзеці. Не спяшай-

---

[1] Чыноўнікі.

цеся. І кожны няхай памятае: хто нарысуе лепш,— з'есць яблыка, а хто палянуецца,— будзе есці лісты.

Сказала і засмяялася, а клас — за ёю. Якая яна добрая, вясёлая! Зусім не такая, як муж яе, пан кіроўнік,— нейкі маўклівы і нават страшнаваты. Дзяўчаткі, дык тыя гавораць «наша пані Мар'я», як быццам яны любяць яе больш за хлопцаў. І ўсё падлашчваюцца, усё шчабечуць: «проша пані» ды «проша пані»!..

Як толькі ў класе ўсталявалася цішыня, пані Мар'я села за стол і дастала з шуфляды класны журнал. І вось гартае яго і нешта запісвае.

А Данік, які сядзіць на першай парце, насупраць стала, малюе, а сам усё глядзіць на кіроўнічыху,— то крадком цікне спадылба, а то, калі яна не бачыць гэтага, пазірае адкрыта.

Сёння дваццатае верасня. А Даніку здаецца, што толькі ўчора поп адслужыў ім у царкве малебен на добры пачатак школьнага года. Вучыцца весела, час ідзе хутка. Чаму ж, аднак, сёння яму ніяк не рысуецца?

Толькі і глядзеў бы, здаецца, на паню Мар'ю... Чаму? Найбольш, мусіць, за тое, што яна чытала ім пазаўчора.

Пазаўчора яна прынесла на ўрок польскай мовы маленькую кніжку і сказала: «Сёння мы прачытаем апавяданне выдатнага польскага пісьменніка Генрыха Сянкевіча пад назвай «Янка-музы́ка».

За чатыры гады Данік — нават у пана Цабы, а найбольш дык сам, з кніжак,— навучыўся ўжо разумець па-польску амаль усё. Зрэшты, чытаючы, пані Мар'я растлумачвала ім паасобныя словы. І ўсё зразумела для іх, хоць у школе амаль адны беларускія дзеці, з мястэчка і з навакольных вёсак. Дзеці яўрэйскіх крамнікаў, краўцоў, анучнікаў і кавалёў таксама лепш, чым па-польску, гавораць на беларускай мове. Вучняў-палякаў — зусім няшмат: сынкі і дачушкі «ўжэнднікаў» і паліцэйскіх, сем чалавек на ўвесь вялікі клас.

Усё зразумела Даніку яшчэ і таму, што ў апавяданні, якое чытала ім настаўніца, гаварылася пра такіх жа, як ён, дзяцей вясковай беднаты. Янка-музыка — польскі хлопец-пастушок, таксама сірата, а маці — батрачка, якіх недзе там, у Польшчы, называюць «каморніцамі». Музыка — гэта мянушка Янкі. Для яго ўсё іграла,— і лес, калі ён шуміць і звініць галасамі пту-

шак, і луг, дзе ноччу кумкаюць жабы і крычаць драчы, і вёска, калі яна вясновай ноччу спявае-гамоніць спачатку дзявочымі песнямі, а потым — пераклічкаю пеўняў... Рэха іграла таксама. Ігралі на ветры нават і рагі вялікага сахара́, якім малы Янка растрасаў гной на панскім полі.

— Малец, устань!

Данік прахапіўся ад задумы і ўстаў.

— Ты чаму не рысуеш?

— Я рысую.

— Ну дык сядай і рысуй.

Так, рысаваць трэба ўсё ж такі лепш. «Спачатку лёгенька алоўкам, а тады пойдуць фарбы»,— успамінае Сівы словы настаўніцы. Хлопец глядзіць на яблыка, на кляновыя лісты.

Як яны хораша жаўцеюць на іхнім клёне перад хатай! Непрыкметна адчэпліваюцца хвосцікам ад галінкі і асядаюць у бясшумным палёце, лажацца на пясок і на траву. Добра збіраць іх у пучкі,— маме, хлеб пячы,— добра ўглядацца на іх далікатныя жылкі або шалахцець па іх босымі нагамі... А яблыкі!.. Улетку Данік часта спаў у садку каля хаты, пад іхняй адзінай яблыняй белы наліў. Звечара ён доўга не мог заснуць, бо ўсё прыслухоўваўся, як яблыкі ападаюць у мяккую, глыбокую траву, як яны на ляту торкаюць, непакояць лісты і галінкі. Часта ён уставаў з-пад коўдры і, стоячы на каленях, мацаў навокал рукамі ў халоднай расе. Знойдзеш-абмацаеш яблыка і ўвап'ешся зубамі ў кіславата-салодкую смакату!.. Зоркі — высока над хатай і яблыняй, жабы гудуць на балоце, у садзе звіняць камары... Ночка і сапраўды спявае,— так ціха і так шматгалоса...

Той польскі хлопчык Янка-музыка і сам захацеў іграць. Змайстраваў сабе скрыпку з гонціны, начапіў драцяныя струны. Ды яна не хацела іграць так, як тая, што іграла ў карчме або ў панскім двары. І Янка вырашыў украсці сапраўдную скрыпку — у панскага лёкая. Яго злавілі. Нядошлага хлопчыка-сірату гмінны суд прысудзіў да пакарання розгамі. Біў музыку гмінны вартаўнік, дурнаваты Стах, такі самы, відаць, як той Васіль, што трымаў калісьці Даніка, пакуль Палуянаў Павел не ўдарыў яго кіем па галаве.

Пані Мар'я нешта ўсё піша ў журнале. Доўгія чор-

ныя вейкі яе зусім прыкрылі вочы. Яна не бачыць Даніка, і вось ён зноў глядзіць на настаўніцу.

Янка-музыка крычаў: «Ма-ту-ля!..» І пані Мар'я, чытаючы, неяк дзіўна вымаўляла гэтае слова. Тройчы. За першым разам яна сказала яго, потым спынілася і, заплюшчыўшы вочы, устрасянула галавой. А ўжо за трэцім разам у вачах яе паказаліся слёзы. Так, ён убачыў гэта, бо ён сядзіць якраз перад сталом...

Доўгія чорныя вейкі настаўніцы нечакана прыпадымаюцца. Вялікія карыя вочы яе глядзяць у шэрыя, ужо спалоханыя Данікавы вочы.

— Малец!

Сівы ўстае і чырванее. Ужо не толькі яна, а ўвесь клас — ён адчувае гэта — глядзіць на яго.

— Што ты зрабіў, пакажы!

Данік падае настаўніцы сшытак.

— Ну, вядома. Усе ўжо малююць, а Малец... Я пажартавала, што гультаі будуць есці лісты,— іх мы, магчыма, і на калені паставім. Як табе гэта падабаецца? Трэба рабіць, а ты сядзіш ды думаеш пра нябесныя міндалы... [1]

Пад смех усяго класа Данік садзіцца і пачынае маляваць. Ён кладзе, як і трэба, спачатку светла-жоўтую фарбу, дадаўшы да яе крышку зялёнай... Ды вось не клеіцца штосьці, не так выходзіць, як хочацца... Данікаў сусед па парце — Санька Сурновіч, хлопец з мястэчка. Яны ўжо трохі пасябравалі. У Санькі выходзіць зусім інакш. Бачыш, як захапіўся,— і галаву схіліў, і шчаку падпёр языком...

— Добжэ, Сурновіч, добжэ,— гаворыць пані Мар'я. Яна ўжо стаіць каля Санькі; схілілася над ім, упёрлася рукой на парту.— Ты толькі, Сурновіч, лягчэй, не так рэзка. І не спяшайся. Дай мне пэндзаль. Адсунься трошкі.

Яна падсела да Санькі і ўжо малюе сама.

— Вось так, вось так,— прыгаворвае.— Што ж, прыйдзе час, і наш Аляксандр Сурновіч будзе — хто ведае? — можа, і Янам Матэйкам...

Усе смяюцца, а Санька шморгае носам і сарамліва апускае галаву.

---

[1] Мігдаль — міндаль. Думаць пра нябесныя мігдалы — марыць пра нешта недасяжнае.

— Ян Матэйка, дзеці,— гаворыць настаўніца,— гэта быў такі польскі мастак. Слаўны мастак, на ўвесь свет. Ну, а ты што тут робіш, задуманы? Пакажы.

Данік падае ёй свой сшытак, кладучы яго на Санькава месца.

— О, што гэта — аладка з хвосцікам?

Усе смяюцца, а пані Мар'я бярэ ў Даніка яго пэндзлік, набірае чырвонай фарбы і пачынае папраўляць яго няшчаснае яблыка.

Ах, і чаму ж яна не сядзіць побач з ім, а з Санькам?!. Данік глядзіць на белую, маленькую руку настаўніцы, потым крадком цікуе на мілы, прыгожы твар яе, абапал якога звісаюць чорныя кучаравыя пасмы коратка, «пад польку», астрыжаных валасоў. І ў душы яго само чамусьці просіцца слова «матуля», пачутае ад яе пазаўчора...

— Вось так, вось так,— прыгаворвае пані Мар'я, малюючы.— І трэба, Малец, не глядзець, не марыць, а рабіць сваё...

Не, ніколі, відаць, яна не палюбіць яго так, як Янку-музыку! І ніколі не сядзе побач з ім, Данікам, і не пахваліць яго так, як Саньку!..

## 7

За вокнамі — позняя, мокрая восень.

Чацвёрты і пяты класы злучаны ў адзін пакой — на «беларускую гадзіну». Вучні-палякі пайшлі на гэты час дахаты, аднак і без іх у вялікім пакоі двум класам вельмі цесна.

Такіх гадзін бывае толькі дзве на тыдзень, і ў кожным класе іх вядзе пані Мар'я. І яна, і муж яе, пан кіроўнік, вучаць тут ад самага пачатку панскай улады. Дзеці даўно ўжо ведаюць, што яна — палячка. А вось дзе яна навучылася па-беларуску — аб гэтым яшчэ не дазналіся нават і яўрэйскія дзяўчаткі, якія ведаюць усе таямніцы з жыцця местачковых «ужэнднікаў».

Пані Мар'я піша з кніжкі на дошцы. «На дварэ дождж, а ў сенях вялікая лужына. Пусты ўлетку нашы сёлы. Венцер новы, маеш час — залатай»,— выводзіць яна сваім прыгожым прамым почыркам. Спісаўшы ўсю дошку, яна загадвае чацвёртаму класу перапісаць

практыкаванне і падкрэсліць назоўнікі адной рыскай, а прыметнікі — дзвюма.

У пятым класе будзе вуснае. Настаўніца бярэ беларускую чытанку «Родны край» і кажа, як заўсёды, па-польску:

— Вядомая беларуская паэтэса Цётка пісала і вершы і прозу. Цяпер мы пазнаёмімся з яе навелай «Міхаська». Увага.

І пачала чытаць:

— «Міхаська вельмі неахвотна на гэты свет прыходзіў. Тры дні радзіўся. Людзі рукамі махнулі: нічога не будзе ні з мацеры, ні з дзіцяці...»

І як заўсёды, калі пані Мар'я чытае па-беларуску, голас яе адразу стаў яшчэ мілейшы. Дзяўчаткі і хлопцы з пятага класа, якія сядзелі па чацвёра-пяцёра на адной парце, заціхлі і загледзеліся на настаўніцу. Цяжка было пісаць і чацвёртаму класу. А найцяжэй, здаецца, Даніку... Ды і навошта яму гэтыя назоўнікі, прыметнікі, пустыя сёлы і незалатаныя венцяры, калі пані Мар'я чытае?..

Перад вачыма Сівага, нібы наяве, разгортваецца роднае жыццё і першая праца — пасьба. Толькі ж не так ужо цёмна і горка было заўсёды, як там у кнізе. У Даніка, хоць ён таксама сірата, слёз было менш, чым радасці. Хлеб сірочы, вядома, нялёгкі, аднак пра яго пакуль што больш думала мама.

Сівы ўспамінае, як яны, галынкаўскія пастухі, збіралі жоўтую лотаць на залітых вясновай вадою паплавах, бегалі па цёпленькіх, празрыстых дажджавых лужынах на траве, гулялі на выгане ў «чыжыка» і ў лапту, хадзілі ўлетку на Нёман... Там яны купаліся на водмелі з вясёлым гоманам, вудзілі печкуроў, падпускаючы ім каламуты. Вада ў Нёмане, нават і каля берага, на мялізне, не ідзе, здаецца, а бяжыць, і каламута сыходзіць хутка: як ты ні калупай дно пальцамі ног — зноў відаць светлы, цвёрды пясочак... Увосень цвітуць на ўзлеску за ракою верасы, залітыя ласкавым сонцам. Пад босымі нагамі шалахціць залатое лісце, суха патрэскваюць сучкі на мяккай аўчыне імху, кропелькамі крыві стракацяць у брусклічніку кіслыя ягадкі. Як жа добра тады гайдацца на маладых, гнуткіх бярозках і перагуквацца, ловячы звонкае рэха. Як добра рэзаць вецце і вязаць лазою венікі — хто больш!.. А ў полі па-

стухі палілі бульбоўнік і пырнік і, калі асядала магутнае, шыпучае полымя, пяклі ў прыску салодкую духавітую бульбу. Ну, хіба ж тады было да слёз!..

А ў Міхаські — таго, што ў кнізе,— былі як быццам адны толькі слёзы. І восень такая, і ўсё жыццё. І сапраўды — «на дварэ дождж, а ў сенях вялікая лужына». Міхась быў рабы, нядошлы, і ніхто яго чамусьці не любіў. Не, Даніка ў Галынцы не любілі толькі Палуянавы хлопцы. І здзекаваліся яны з яго нядоўга, пакуль ён не «ўвабраўся ў сілачку», як той хлапчына, пра якога Даніку чытаў калісьці сябар яго — Мікола Кужалевіч. Зачапі толькі Сівага — ён дасць і з правай, а калі мала, дык ён і з «манькі» дадасць!.. А той Міхась вечна збоку сядзеў, наводшыбе, і хлопцы — хто зараза — часта крыўдзілі яго.

Пані Мар'я чытае пра восень і дождж... Нехта падстрэліў недзе жорава, і, абяссілены, ён асядаў на лузе. Пастухі пачалі яго з крыкам лавіць, а ён — не давацца. Падумаў на Міхаську, што гэта купіна, і стукнуўся ў яго грудзьмі. Міхась затуліў яго халатам. А сябрукі, адбіраючы жорава, затузалі хлопца так, што ён самлеў. Хлопцы спалохаліся, адхаялі яго, завялі дахаты і жорава яму аддалі. Так яны і заселі ў запеку ў мачыхі,— галадалі, хварэлі і пацяшалі адзін аднаго...

— Малец, чаму ты не пішаш?

— Я пішу,— схамянуўся Данік. Ён схіліўся над сшыткам, а пані Мар'я паківала галавой, памаўчала трохі і зноў чытае.

Да вясны жораў папраўіўся і зажыў у хаце царом над курамі. Міхась раставаў, як той снег за акном. Аднойчы напрадвесні мачыха сядзела за кроснамі, а ён азваўся з запека: «Мама!..» Упершыню пачула баба такое слова ад пасынка. І толькі спалохалася,— смерць!.. «Мама, мамачка, жорава дай!..»

Чаму на гэтых словах пані Мар'я спыняецца? Нават, здаецца, з прыплачам у голасе, як у той дзень, калі яна чытала ім пра Янку-музыку...

Чаму і ў Сівага таксама слёзы закружыліся ў вачах?..

Жораў ішоў за трунойМіхася, а потым, калі засыпалі магілу, узняўся і паляцеў. А на зямлі застаўся толькі сумны крык яго, і дождж, і слёзы...

— Ну, а цяпер пакажы мне, Малец, што ты там напісаў?

Данік устрапянуўся і, зачырванеўшыся, паднёс настаўніцы разгорнуты сшытак.

— Вядома ж, і палавіны нават не зроблена,— сказала пані Мар'я.— Ну, хлопча, няма з табой ніякай рады. Застанешся ты сёння пасля заняткаў. На каленях трохі пастаіш. Бо трэба пісаць, а не думаць і вечна глядзець...

І вось чацвёрты клас пайшоў дахаты, а Данік стаіць на каленях. За сцяной, у другім пакоі, пані Мар'я вядзе ў пятым класе арыфметыку, замяняючы настаўніка Дулембу. Вучні нешта, мусіць, рашаюць, і голасу кіроўнічыхі не чуваць. Можа, сядзіць над класным журналам. І ўжо не плача, відаць, ні над Янкам-музыкам, ні над Міхаськам...

Сівы сядзіць на пятках, калупае мох у пазе сасновай сцяны і злосна, да слёз злосна думае пра настаўніцу.

Яшчэ толькі ўчора яна здавалася яму не такой, як усе іншыя настаўнікі, не такой, як быў пан Цаба. «Мілая пані Мар'я...» — крывіць сам сябе Данік. Ён думаў так неаднойчы, калі ішоў дахаты або ўпотай глядзеў на яе цераз парту і стол... Эх, дурань! Ён думаў нават, чаму яна — такая добрая, разумная, прыгожая,— чаму яна не мама яго, чаму ён не можа прытуліцца да яе, падставіць сваю сівую, астрыжаную галаву пад яе цёплую, маленькую руку... У кіроўнічыхі двое дзяцей: дзяўчынка Вандзя вучыцца ў другім класе, а хлопчык Адась яшчэ зусім малы. Данік бачыў аднойчы, як пані Мар'я вяла іх за рукі па дарожцы вакол царквы. А ён, дурань, глядзеў з-за дрэва, слухаў іх смех і гутарку і... зайздросціў. Думаў, якая яна добрая, прыгожая, якія яны шчаслівыя з такою мамай — гэтыя Вандзя і Адась!.. Ах, які дурань! Як дрэнна думаў ён тады пра сваю маму! Яна, бачыш, і ў школу не правяла яго ні разу, і не пахадзіла вось так, і не спытала ніколі, ці не цяжка яму і пра што ён чытае... Усё завіхаецца вечна, усё маўчыць... Ну, дык вось табе, Сівы, і «мілая пані Мар'я»!..

Што гэта — нехта галосіць?..

Так, галосіць!

Данік устаў і падышоў да акна. Працёр запацелую шыбу: за гразкаю плошчай — цагляны дом пастарун-

ка. На ганку стаіць паліцыянт. І нікога навокал няма, толькі шэрае, сумнае неба і гразь...

— А сы-ынок мой, а род-нень-кі!..— зноў пачулася галашэнне.

Хто ж гэта?.. Данік працёр запацелую шыбу да самага нізу і ўбачыў — на тратуары, трохі правей ад акна, стаяла нейкая цётка.

— Ціха, Ганна, нічога ты не паможаш,— пачуўся голас мужчыны. Яго — не відаць: мусіць, за ганкам стаіць. А цётка не хоча заціхнуць.

— А дзе ж той бог, а дзе тыя до-брыя людзі?.. А за што ж вы яго катуеце-е?!.

— Ціха, дурніца! Ну вось, дачакалася!..

З ганка пастарунка сышоў паліцыянт і ўжо ідзе сюды, абыходзячы лужыны... Данік не вытрымаў: узлез з каленьмі на акно, адчыніў фортачку і задрыжаў — ні то ад холаду, ні то ад голасу жанчыны.

— Няхай бяруць! — ужо не плакала, а крычала яна.— Няхай катуюць і мяне! Няхай!..

Дзядзька паказаўся з-за ганка і шмыгануў перад акном па мокрых, гразкіх дошках тратуара.

— Стуй! Чэкай, хаме! — крычыць паліцыянт і сам ужо бяжыць сюды па гразі.

А цётка не ўцякае... У нейкім шэрым бурносе, у лапцях, у хустцы-канаплянцы... І не ўцякае!..

Данік прыўстаў і ўсадзіў у фортачку твар.

— Ідзі, ідзі! — гаворыць цётка.— Ідзі, напіся, крук, і маёй крыві! Бог мілы дасць — захлынешся!.. Ах, божа мой!..

Данік убачыў толькі, як ён, паліцыянт, замахнуўся... Тады, заплюшчыўшыся ад жаху, малы закрычаў. Толькі адно, толькі самае першае слова:

— Мам-ма!..

І тут яго схапілі пад пахі нечыя дужыя рукі, знялі-сцягнулі з падаконніка на падлогу.

Данік апрытомнеў, убачыў, што гэта яна — кіроўнічыха. Яна стукнула фортачкай, зашчапіла яе, стала спіной да акна, засланіла сабою ўсё... А ён памкнуўся наперад, хацеў ёй крыкнуць нешта такое, пасля чаго яна назаўсёды перастала б для яго быць настаўніцай, а ён — яе вучнем... Ды вось пані Мар'я закрыла аберуч твар, і плечы яе задрыжалі. Данік адступіўся. Крыку за вокнамі ўжо не чуваць... І цішыня пустога класа, і

гэтыя малыя белыя рукі, што ўпершыню закрылі мілы калісьці твар настаўніцы, і плечы яе, што дрыжаць,— усё гэта нібы вярнула яго зноў сюды, на гэтую падлогу перад партамі... Данік спалохаўся, абмяк, адышоўся на сваё месца і стаў на калені.

— Што ты робіш, дзіця маё! Што ты крычыш!

Яна ўжо стаяла за яго спіной. А ён не хацеў нават азірнуцца. «Ідзі ты к чорту! Разам з усімі вамі — к чорту!..» — гаварыў ён без слоў, усімі сіламі сваёй уражанай, як быццам ужо не дзіцячай душы. Але слёзы, гарачыя слёзы нянавісці і жалю, самі каціліся з яго вачэй...

— Устань!

Данік унурыў галаву яшчэ ніжэй.

— Устань, Малец, кажу табе!..

Яна ўжо гаворыць без слёз.

І ён ужо не плача. Слёзы самі паўзуць па шчоках Сівага, а ён ужо калупае пальцамі сухі, шорсткі мох у пазе, а потым нібы адрывае руку ад сцяны, і пальцы самі сціскаюцца ў кулак.

— Устань, Данік! — Яна назвала яго так упершыню.— Ну, я прашу цябе — устань...

Данік устаў. Ён не глядзіць на яе, бо ўжо не можа ўзняць вачэй.

І вось да твару яго дакранаецца цёплая далонь.

Пальцы спаўзаюць па шчацэ да падбародка і хочуць знізу прыўзняць хлопцаў твар.

— Не трэба, Данік, злаваць на мяне...

Ды ён не хоча слухаць, не хоча і гэтай рукі. Матнуўшы галавой, ён вызваляе свой падбародак з яе цёплых пальцаў.

— Ну што ж, ідзі дахаты. Толькі ціха. Дай я цябе правяду цераз гэты пакой.

Пяты клас — чуваць Даніку — ужо шуміць за сцяною. Ісці тудою — сапраўды не варта. Данік бярэ з парты торбу і шапку, ідзе следам за кіроўнічыхай. Цераз настаўніцкі пакой яна выпускае яго на ганак. Хлопец не кажа нават таго «до відзэня», якое павінен сказаць.

Не можа вымавіць.

Ды і не хоча.

## 8

Неяк увечары, дома, калі маці наліла яму паабедаць з дарогі, Данік, нават не сеўшы за стол, сказаў:

— Дай мне адну залатоўку.

— Вось як! — здзівілася мама.— Навошта?

— Трэба.

— Казалі хіба, каб прынёс?

— Каб не трэба было, не прасіў бы.

— Садзіся вось ды еш.

— «Еш»... Ты вось давай, а то — «еш»...

— Будзеш заўтра ісці, дык дам.

— Дай цяпер. Мне вельмі ж трэба!..

— Ну ж і слата ты, Даніла! Канца, ты думаеш, не будзе гэтым дзядзькавым залатоўкам? Пойдзеш вясной у поле ды выграбеш, знойдзеш яе, другую, за бараной?

Зося гаварыла гэта, ужо корпаючыся ў сваёй старой пасажнай скрыні, дзе ляжаў яе шэры бурнос з бакавою, нядаўна прышытай кішэняй.

— На, бяры. Надзьмуўся, як індык. Садзіся, еш.

Ён узяў залатоўку, схаваў яе ў сумцы, тады ўжо сеў за стол і падсунуў да сябе місу з крупнікам. Пакуль ён еў, маці доўга глядзела на яго, стоячы сярод хаты, і нарэшце сказала:

— А натура, дальбог жа, таткава!..

Назаўтра, у школе, як толькі адзвінеў на вялікую пераменку званок і пані Мар'я выйшла з класа, Санька Сурновіч, якога ўжо называлі Матэйкам, ускочыў на парту і закрычаў:

— Увага, увага! Сёння Малец частуе! Рыхтуйцеся, хто галодны!..

— Я галодны! А я галаднейшы! Давай, Данік! Чым частуеш? — закрычалі хлопцы.

Данік сядзеў за партай і толькі ўсміхаўся.

— Чым я цябе пачастую? Свежым снегам? Што ён выдумаў!

І Сівы штурхануў свайго сябра, Саньку Сурновіча, пад бок: маўчы!..

— Эй, снеданне нясуць! Нех жые!

З пятага класа — адтуль быў выхад на двор — увайшлі дзяжурныя. Рыжы і кучаравы Абраша Цымес, сын каваля Ярухіма, надзьмуўшыся, нёс перад сабою бачок з гарачай кавай. За ім ішла, несучы накрыты сурвэт-

кай кошык, Аня Нупрэвіч, па мянушцы «Каза», бойкая, крыклівая дзяўчынка з рубцом-разрэзам на верхняй губе.

— Г-гоп! — паставіў на стол бачок Абраша Цымес.

— Чаго напалі? — закрычала Каза.— Не ўсе адразу!..

У школе быў нядаўна заведзены такі парадак, што дзецям выдавалася «бясплатнае падмацаванне». Кубак кавы і лустачка хлеба — заўсёды адно. Дзеці «ўжэнднікаў» і паліцэйскіх падыходзілі да гэтай справы «з гонарам» — бралі толькі каву і запівалі ёю свае, дамашнія, бутэрброды. Іх пераймалі ў гэтым сынкі і дачушкі багацейшых яўрэяў. Іншыя дзеці елі звычайна і сваё, і школьнае. Шмат было такіх, для каго гэты кубак кавы і лустачка хлеба былі адзіным падмацаваннем. З такіх часамі кпілі панскія і купецкія дзеці.

Пра гэтыя іх кепікі найбольш балюча і злосна думаў Данік Малец. Ён разумеў ужо і чуў ад старэйшых, што «падмацаванне» гэтае — нікчэмныя крошкі ад тых шматлікіх падаткаў, якія паны здзіралі з працоўных,— крошкі, кінутыя «на адчэпнае»...

— Ну, Абраша, ты — свой чалавек! Поўны, брат, налівай!

Абраша любіў гэтую справу. З чарпаком у левай руцэ, з лістом паперы ў правай (ён быў ляўша), вясёлы рыжы Цымес чытаў па спіску прозвішчы:

— Бурак Люба!

— Ёсць!

— На, палучай на чай,— і налівау ёй чарпаком у падстаўлены кубак.

— Ян Цівунок!

— Ёсць!

— На, палучай на чай. Онэфатэр Эля! Стэфан Чачотка!..

— Ёсць! Ёсць! — адказвалі выкліканыя. Атрымаўшы «на чай», яны падыходзілі да Казы, якая выдавала хлеб.

Як толькі ўсе расселіся на партах і пачалі жаваць ды сёрбаць, Санька Сурновіч зноў закрычаў:

— Увага!

Тады Данік аберуч дастаў з-пад парты і ўзняў над галавою вялікую вязку насіляных на шпагат абаран-

каў. Яны, здаецца, ажно засвяцілі! Вялікія, салодкія, па пяць грошаў!..

— Ура! Нех жые! — закрычалі дзеці.

— Спісак давай! Чытай, Матэйка, па нашаму спіску! — скамандаваў Данік.

Санька стаў за сталом, дастаў з кішэні складзены лісток са сшытка і пачаў чытаць:

— Янка Цівунок! Біруля Ніна! Хана Партной!..

Для тых, каго ён выклікаў, Данік здымаў са шпагату вялікі, яшчэ духмяны абаранак.

І спіс, і абаранкі закончыліся разам.

— Вунь які! Ты, брат, давай усім!..

— Усім не магу! Не хапіла!

І вось тады Чэсік Бэндзіньскі, сын каменданта пастарунка, усхапіўся са сваёй парты і, яшчэ не глынуўшы мамусінай булкі з маслам і сырам, закрычаў:

— Я ведаю! Ведаю ўсё!

— Што ты ведаеш? Што? — падышоў да яго Данік.

— Ну але, што ты ведаеш? — падышоў да яго і Санька.

— Усё ведаю! І скажу!

— Што ты скажаш? Каму?

— Пані Мар'і, каму ж!

— Эх ты, лупаты!

— А ты хамула! Мала вас яшчэ наглушылі!..

— Матэйка, Сівы,— па мордзе яму!..

Хлопцы не заўважылі, як з настаўніцкага пакоя ўвайшла ў клас і апынулася ў самым кірмашы іх выхавацелька. Яны пачулі толькі яе голас:

— Ціха! Што тут у вас? Я кажу — ці-ха!..

Крычала яна не адна,— разам з ёю ўвайшоў пан Дулемба, якога хлопцы з пятага класа празвалі Павуком.

— Будзе ціха, халера, ці не?! — крычаў ён, натапырыўшы жоўтыя вусікі.

— Пан дазволіць, пане Каролю, я разбяруся сама,— сказала яму пані Мар'я.— Дзе дзяжурныя? Што гэта ў вас за парадак?

Абраша Цымес і Каза, абое з недаедзенымі абаранкамі і з кубкамі ў руках, толькі хацелі пачаць апраўдвацца, але Чэсік Бэндзіньскі перабіў іх. Ён падышоў да настаўніцы бліжэй і сказаў:

— Я ўсё ведаю! Гэта — камуна!

— Якая камуна? Што ты пляцеш?

— Я не пляту. Я, проша пані, усё адразу разгадаў. Гэты вось, Малец,— ён тыцнуў рукой у грудзі Даніку,— падвучыў іх сабраць грошы...

— Няпраўда,— перабіў яго Санька.— Мы не падвучвалі, мы грошай не збіралі!..

— Сціхні ты! — крыкнуў Чэсік. Ён хацеў яшчэ нешта крычаць, але настаўніца спыніла яго і звярнулася да Даніка:

— Малец, ты купіў абаранкі?

— Я.

— А дзе ты ўзяў гэтулькі грошай?

— Мама дала.

— А навошта ты гэта зрабіў?

— Пані Мар'я,— умяшаўся Дулемба.— Я думаю, што ён маніць. Ты, дурань, гавары!..

Кіроўнічыха пачырванела і нейкі момант глядзела на Павука.

— Пане Каролю,— сказала цвёрда, з прыціскам,— я прасіла ўжо даць мне святы спакой. Гэта мой клас, і я сама разбяруся... Малец, навошта ты гэта зрабіў?

Данік глядзеў і не маргаў.

— У мяне сёння дзень нараджэння.

— Няпраўда! Ён маніць! — закрычаў Бэндзіньскі.

— А ты адкуль гэта ведаеш, Чэсь? — павярнулася да яго пані Мар'я.— Як гэта можна — так гаварыць пра калегу?

— Бо ён не ўсім па абаранку даў, а толькі па нейкаму спіску. Вось па гэтаму — у Сурновіча!

Дурны Санька! Ён не схаваў у кішэню, а яшчэ ўсё трымаў у руцэ той лісток са сшытка. Настаўніца ўзяла лісток і пачала вадзіць па ім вачыма.

— На больш у мяне грошай не было,— гаварыў Данік.— Каб мама больш дала, дык я...

Пані Мар'я ўзняла позірк над спіскам і паглядзела хлопцу ў вочы. Доўга так, пранікліва. Аднак ён па-ранейшаму нават не моргаў.

— Так, Малец,— сказала нарэшце настаўніца.— Ты ў нас заўсёды нешта прыдумаеш. Больш мне гэтага не рабі. Нават і ў дзень нараджэння. Ты разумееш?

— Разумею, проша пані. Я больш так не буду.

— І добра. Цяпер, дзецi, канчайце хутка снеданне.

Засталося на гэта,— яна зірнула на наручны гадзіннік,— чатыры хвіліны. Хадзем, пане Каролю, справа скончана. Дзеці — заўсёды дзеці.

* * *

— Ну, брат Малец,— гаварыў Санька,— уляцела б нам сёння, каб трохі, ой, уляцела б!..

Яны ішлі ўдвух па той вуліцы, дзе Санька жыў і па якой Данік хадзіў дахаты.

— «Каб трохі»,— яшчэ ўсё злосна хмыкнуў Сівы.— Каб ты, разява, спісак схаваў у кішэню, а то...

— Кіроўнічыха добрая,— апраўдваўся Санька.— Яна нікому не скажа.

— «Добрая»,— зноў хмыкнуў Данік.— Яна дык, можа, добрая. А Павук?

— А што табе Павук? Што ты — не ведаеш?

— Што?

— Ды ён жа ходзіць за ёю! За што ж яго, як не за гэта, і Павуком хлопцы празвалі. Кіроўнічыха толькі туп-туп, як козачка, а гэты Павук за ёю ціхенька лазіць і сетку пляце...

Данік паглядзеў на Саньку. Маленькі, чорненькі, ён быў на год маладзейшы за Сівага і трошкі мамін сынок.

— Эх ты, Матэйка,— усміхнуўся нарэшце Данік.— «Туп-туп, як козачка...» Таксама разбіраешся. Яна яго на вярсту да сябе не падпусціць. Пані Мар'я — ды будзе з такім паскудствам звязвацца. Яна... Ды што табе гаварыць!.. Думаеш — яна яму наш спісак пакажа? Эх ты!..

— А я табе што кажу? — усцешыўся Санька.— Вядома, што не пакажа. А не пакажа — і ўсё.

Калі яны падыходзілі да Санькавай хаты, Матэйка даволі-такі лісліва сказаў:

— Давай зойдзем да нас! Мама яблыкаў дасць.

— Ы! «Яблыкаў»... А спісачак аддаў?

— Ды што ты ўсё! Што я, хацеў?

— Ты не хацеў... А што, калі яна яго кіроўніку пакажа?

— Не пакажа. Ты вось паглядзіш! Яна не любіць яго. Праўда,— дзяўчаты казалі.

— «Казалі»... «Казалі»... А пакажа, дык чорт іх бяры. Усіх разам.

— Ну, зойдзем?

— Ды мне, брат, і дахаты трэба,— сказаў, падумаўшы трохі, Данік.— Чатыры ўсё ж такі кіламетры...

— Зойдзем. Мы яшчэ нешта такое прыдумаем, што яны... Я цябе трохі правяду. Да мосціка, як тады.

— «Да мосціка»? — усміхнуўся Данік.— Ну што ж, хадзем.

Яны пайшлі на Санькаў панадворак.

## 9

У лютым, калі зіма пачынае прыхворваць адлігамі, якія з'ядаюць снег, калі пеўні пяюць на ўсё горла, думаючы, што вось ужо і вясна,— кіроўнічыха цяжка захварэла. Яе павезлі нават у павятовую бальніцу, а праз два тыдні прывезлі назад, і пані Мар'я ляжала дома.

Вучні сумавалі па ёй, а найбольш, здаецца, Данік. Роднай мовы цяпер — ні гадзінкі, і выхавацелька ў іх новая — худая, крыклівая панна Рузя, старая дзеўка, пра якіх гавораць, што «яна ўжо ў розуме». Так яе хлопцы і празвалі. «Дзеўка ў розуме» вучыць і нецікава і нудна. Адзнакі запісвае ў тоўсты блакнот, які хавае ў чорную сумачку. З усіх пяці адзнак яна найбольш любіць «тры з мінусам» і за ўсё-ўсякае лаецца. Ад яе Данік упершыню пачуў чатыры новыя польскія словы — матолак, драні і «божы конь» [1].

Панна Рузя часцей за ўсё стаіць каля белай кафлянай грубкі, залажыўшы назад сухія бяскроўныя рукі з пярсцёнкамі. Грэецца.

Аднойчы, на рысаванні, яна стаяла так, а потым пачала:

— І не брыдка вам, драні? Ваша ранейшая настаўніца колькі ўжо часу хварэе, а вы?.. Хоць бы разочак схадзілі адведаць! Ганьба!..

На пераменцы клас загаманіў аб гэтым. Найбольш крычала Каза,— што яна, калі так, павядзе ўсіх сама. І пасля заняткаў дзеці пайшлі. Доўгай чародкай шлёпалі яны па мокрым снезе лапцямі, ботамі, чаравікамі, кідаліся снежкамі, крычалі. Уся вуліца, здаецца, ведала ўжо, куды яны ідуць.

---

[1] Прыдурак, прахвост і асёл.

— Не бойцеся,— гаварыла Каза.— Пана кіроўніка цяпер дома няма. Ён яшчэ вучыць у сёмым. У іх цяпер фізіка.

Кіроўнік жыў у глухім, «свіным», як казалі, завулку, у таго бязрукага дзядзькі, які нават зімой насіў летнюю шапку царскага чыгуначніка.

Дзядзька спаткаў іх у сенях каля парога, прымусіў яшчэ на двары паабціраць венікам ногі, а потым ужо загадаў:

— Ціхенька, хораша трэба, без шуму. Пані хворая. Ну, чаго ж вы? Стукайцеся ў дзверы, і ўсё. Баіцеся? Эх вы!..

Нават Каза і тая хавалася за другіх. І ўсе пачалі на Даніка:

— Ты, Малец, ты ідзі!

— Каторы гэта? Ён? — спытаўся дзядзька.— Ну, новыя боты, чаго ж ты,— валяй! А вы — за ім.

Дзядзька ўзяў Даніка за рукаў, падвёў да дзвярэй другой, «тыльнай» палавіны хаты і пастукаў у дзверы.

— Прашу! — адказаў яму знаёмы дзецям і так даўно не чуты імі голас.

Сівы шмаргануў носам і рашуча ўзяўся за клямку. Дзеці шыбанулі, хто ў кут, а хто адразу на двор, і Данік апынуўся за парогам адзін.

— А, Малец, гэта ты! — пачуўся голас ад акна.— Прыйшоў адведаць, хлопчык, сваю настаўніцу? Як гэта хораша! Ды ідзі ж ты сюды, павітаемся! Ну?..

І пані Мар'я працягнула да яго рукі. Данік ішоў туды, як заварожаны. Яна ляжала галавою да акна, завешанага фіранкай, па шыю схаваўшыся пад беленькай коўдрай. Чорныя, кучаравыя валасы яе «полькі» растрэсліся на падушцы, а чырвоныя, нібы прыпухлыя, губы ўсміхаліся. Калі Данік зусім падышоў, пад далонямі пані Мар'і загарэліся яго шчокі і вушы, а на лбе — зусім нечакана — горача цмокнулі пацалункам губы настаўніцы.

— Харошы мой!.. І чаго ж ты так засаромеўся? Ну, сядзь. Вазьмі вунь крэсла, каля стала.

Данік узяў тое крэсла, паднёс яго да ложка і сеў на краёчку. І гэтак няёмка яму!.. Боты — і выцер жа іх, здаецца! — усё ж такі наслядзілі на чыстай чырвонай падлозе.

— Ну, раскажы мне, Данік, як ты цяпер вучышся? За што ты двойку атрымаў?

— Не двойку,— адказаў Сівы.— Тры з мінусам.

— Ха, ха, ха! Ах ты, мой жулік! Хіба ж гэта не тое самае? Ды яшчэ для цябе — для выдатніка. Чаму ты панну Рузю не слухаеш?

— Яна... Яна толькі крычыць...

— І трэба крычаць на вас. Што, можа, не? Няможна не любіць настаўніцу: яна — другая мама.

— Яна... не...

— А я? — пані Мар'я нахмурыла бровы, а ўсё ж усміхаецца.

Данік узняў вочы і зноў апусціў іх — не вытрымаў.

Яна працягнула руку, як тады, калі ён стаяў на каленях, і ўзяла яго цёплымі пальцамі пад падбародак. Глядзіць у вочы і ўжо неяк сумна ўсміхаецца.

— Ты не злуеш на мяне? — спыталася цішэй.— За тое, калі ты крычаў у акно?.. Ах, Данік, Данік! Падрасцеш — зразумееш мяне, успомніш. Бо я разумею вас вельмі добра...

Яна адняла руку ад яго падбародка, памаўчала трохі, а потым усміхнулася зноў.

— Ну, быў у цябе яшчэ раз дзень нараджэння? Не чырванейся. Ты зманіў, я ведаю. Я правярала,— ты нарадзіўся ў ліпені, а не ў лістападзе. І спісак ваш я не паказала нікому. Хіба, можа, хто-небудзь...

Данік успомніў Павука-Дулембу і Чэсіка. Гэта, мусіць, яна пра іх намякае?..

— Я разумею цябе — ты любіш толькі бедных. І я, Данік, не з багатай сям'і. Вы тут усе не любіце паноў. А я — таксама палячка. І гэта, хлопчык, не адно і тое ж. І ў нас, у Польшчы, усякія людзі ёсць. Ты зразумееш мяне, калі падрасцеш.

Пані Мар'я памаўчала зноў.

— Зірні, вунь там,— паказала яна на этажэрку.— Тую вунь кніжку вазьмі і падай мне. Таўсцейшая, у чырвоным пераплёце. Ну, вось. А цяпер вазьмі вунь там, на століку, ручку і памачы яе ў чарніліцу. Дай, калі ласка, мне.

Ён нёс яе, гэтую ручку, асцярожненька, бо здавалася, што чарнільная кropля сарвецца з пяра і капне... Нават і носам баяўся шмаргануць, хоць і трэба было... Ну, аддаў!..

— Дзякую, Данік.

Пані Мар'я левай рукой трымала перад сабой разгорнутую кнігу, а ў правай — ручку.

— Адгадай,— сказала, зноў нахмурыўшы бровы,— адкуль я ведаю па-беларуску? Не адгадаеш! — усміхнулася здаволена.— Я вучылася ў рускай гімназіі. Яшчэ перад вайной, калі мой бацька працаваў у Расіі настаўнікам. А па-вашаму я навучылася тут. Увечары вучылася сама, а ўдзень вучыла вас. Сяму-таму гэта не падабаецца... Ды нічога... А напішу я тут, вядома, па-свойму. Ты мне падай прамакатку. Са століка.

Пакуль ён браў прамакатку, а потым стаяў з ёю каля ложка, пані Мар'я напісала нешта ў разгорнутай кнізе, пасля прамакнула напісанае і закрыла кнігу. Ён яшчэ ўсё не ведаў, што гэта і да чаго.

— Вазьмі, Данік. Гэта — табе. Чытаць будзеш дома. І лепш не паказвай нікому. Добра?

Сівы многа чытаў, і ён ужо ведаў, што тут трэба было б зрабіць... Не, не таму, што ведаў, а проста вельмі хацелася схіліцца над яе рукой, хоць дакрануцца да гэтай белай, маленькай рукі губамі. Ды ён жа не рабіў так ніколі, нават маме сваёй... Як жа ты тут асмелішся цяпер?..

— Дзенькуе,— шапнуў ён, апусціўшы вочы.

— Добра, хлопчык. Чытай, вучыся. Ты, Данік, пойдзеш далёка...

— Мамуся! — пачуўся звонкі дзіцячы голас.— А я іду зноў!

З дзвярэй у кутку пакоя, якія вялі, відаць, у кухню, убег малы хлопчык з доўгімі, як у дзяўчынкі, светлымі валасамі.

— Ну, Адась, павітайся,— з усмешкай сказала яму пані Мар'я.

Малы паглядзеў на Даніка, усміхнуўся і хвацка працягнуў руку.

— Чэсць! — сказаў ён.— Я называюся Адась.

— А я Данік.

— Данік? Мамуся, так называюцца?

— Называюцца, сынку. Ну, ты ідзі да бабулі. Ты нам перашкаджаеш. Будзь ветлівы. Добра?

— Добра. Я толькі мамусю пацалую. О так! Цяпер адно вочка, а цяпер — другое. О так! І пабягу, бо, як

татусь зловіць мяне тут — будзе крычаць, што я цябе непакою...

Калі Адась пабег на кухню, пані Мар'я памаўчала, а потым, гледзячы на Даніка, усміхнулася.

— Харошы хлопчык мой сын? — спыталася яна. Данік кіўнуў галавой, і пані Мар'я ўсміхнулася зноў.— А Вандзю маю ведаеш? Яна таксама харошая. Я хачу, каб яны былі разумныя, добрыя, высакародныя людзі. Бо дрэнных, Данік, і так зашмат...

Яна памаўчала зноў.

— Ну што ж? — спыталася.— Ты вось, відаць, любіш мяне, вашу кіроўнічыху?.. Не чырванеі,— я ведаю, што вы мяне так называеце. Ты вось прыйшоў, і я вельмі рада. Ну, а чаму не прыйшлі ўсе? Чаму ты ўсіх не прывёў?

— Яны ў сенях... І на двары.

— На двары! Ах, жулік, і маўчыш?! Пакліч іх!

Данік адчыніў дзверы, выйшаў у сені, паклікаў. І вось яны, чацвёртакласнікі, пасыпаліся ў хату, як тая бульба з развязанага мяшка: «Дзень добры! дзень добры! дзень добры!» — пяць, дзесяць, дваццаць разоў...

— Ах вы, разбойнікі! Ну чаго ж вы стаялі там? А як павырасталі, а-ёй!..

Дзяўчаты акружылі ложак настаўніцы. Эх, падлізы! Цяпер — дык «проша пані! проша пані!», а адразу?.. Данік апынуўся ў іх чарадзе,— хлопцы стаялі, вядома, далей,— і толькі прыціскаў пад пахай сваю кнігу... Лепш за ўсё — зараз жа схаваць яе ў торбу...

І тут сталася нечаканае. Без папярэдняга стуку адчыніліся дзверы з сяней, і каля парога з'явіўся сам пан кіроўнік.

— Дзень добры! Дзень добры!..— загаманілі дзеці, а потым зусім спалохана заціхлі.

— Дзень добры, дзеці. Жонка, як ты сябе адчуваеш? Стамілася тут з імі?

— Ды што ты, Стась! Я не стамілася, я адпачыла. Ты толькі паглядзі...

— Усё гэта я вельмі добра разумею. Аднак стамляцца табе, дарагая, ні ў якім выпадку няможна. А якое паветра?..

Ён стаяў сярод пакоя, у паліто, і праз акуляры глядзеў то на жонку, то на дзяцей. Дзеці — па ўсім было відаць — вельмі ахвотна сыпанулі б у дзверы.

— Адгадай, Стась, хто з іх першы прыйшоў? Не адгадаеш. Ён вось — Малец.

Пан кіроўнік паглядзеў на Даніка.

— Што ж,— сказаў ён,— Данель Малец добры вучань. Трэба толькі, каб ён паводзіў сябе лепш, каб не дурыўся з рознымі там абаранкамі. Разумееш?

У адказ на гэтае пытанне Данік яшчэ ніжэй апусціў галаву. Як добра, што ён паспеў схаваць сваю кніжку! Як добра, што ён, кіроўнік, не прыйшоў раней!.. Відаць, праўду такі казалі дзяўчаты, што пані Мар'я не любіць яго. Ну, а завошта ж яго любіць?

Не толькі Данік, а і ўсе дзеці нібы чакалі толькі сігналу, каб драпануць адгэтуль на двор. І сігнал гэты прыйшоў.

— Так, дзеці,— сказаў кіроўнік.— Я вам таксама вельмі ўдзячны за візіт, аднак...

Ён не скончыў, спадзеючыся, што яны і так зразумеюць. І яны зразумелі.

— До відзэня! До відзэня!..— зноў, як бульба з меха, пасыпаліся з хаты ў сенцы іх усцешаныя галасы.

## 10

Рабенькі Янка Цівунок, якога за кірпаты нос празвалі Лычыкам, стаіць каля стала, спіною да акна, і, як заведзены, расказвае вызубраны ўрок па гісторыі Польшчы.

Сакавіцкае сонца свеціць Янку ў патыліцу, і Даніку відаць, як вушы Лычыка, нейкія круглыя і адтапыраныя, прасвечваюцца, нібы яны з ружовай паперы.

— ...Калі туркі напалі на Аўстрыю,— гаворыць Янка,— аўстрыйскі цэсаж папрасіў польскага круля [1] Яна Трэцяга Сабескага: «Прыйдзі і выратуй нашу Аўстрыю». Храбры круль Ян Трэці Сабескі сабраў сваё гераічнае войска і 12 верасня 1683 года пад Венай, сталіцай Аўстрыі...

— Досць! Досць, матолак! — перабівае яго панна Рузя. «Дзеўка ў розуме» не стаіць каля печы, а ходзіць па класе, залажыўшы назад рукі.— Што я казала табе? Не тарахці, як папугай, а гавары сваімі словамі. Ну!

---

[1] Ц э с а ж — імператар; к р у л ь — кароль.

— Храбры круль Ян Трэці Сабескі сабраў сваё гераічнае войска і 12 верасня...

— Матка боска! — зноў спыняе яго панна Рузя.— Ну, сабраў, ну, прыйшоў, ну, разбіў!.. Конь ты божы! Ды гавары ты нарэшце сваімі словамі!

Янка маўчыць, толькі вушы яго ружавеюць яшчэ больш. Запалку, здаецца, падсунь — успыхне.

— Далей! — загадвае яму панна Рузя.— Расказвай, ці спадабалася гэта аўстрыйскаму цэсажу?

— Аўстрыйскаму цэсажу гэта не спадабалася,— гаворыць Янка ўжо «сваімі словамі». Потым раптам хлопец збіваецца з польскай на беларускую мову: — І тады ён... Тады...

— Досць! — зноў перабівае яго настаўніца.— «І тады ён... Тады...» — крывіць яна.— Што за «тады» і што за «ён»? Што ён зрабіў, сустракаючы Яна Сабескага, і што зрабіў Ян Сабескі? Па-польску гавары!

Янка маўчыць. Ён апусціў галаву і, здаецца, занараваўся зусім. Ну, хоць бы вочы ўзняў! Тады заўважыў бы, як Данік Малец, стараючыся, каб не прыкмеціла настаўніца, паказвае яму, што зрабіў Ян Сабескі. Раз, другі раз, трэці раз паказаў... І вось нарэшце Лычык цікнуў на клас спадылба і здагадаўся.

— Тады круль Ян Сабескі,— пачаў ён,— падкруціў свой вус...

Клас грымнуў смехам.

— Ціха, драні! — старалася перакрычаць усіх панна Рузя. А потым, калі вучні сціхлі, яна, паглядзеўшы на Янку, сказала: — Сядай, матолак! Не буду я тут з табою надрываць свае лёгкія. Хто адкажа?

Узнялося некалькі рук. Асабліва — адна, з другой парты, старалася дастаць найдалей,— ледзь не да самага твару настаўніцы.

— Бэндзіньскі,— сказала панна Рузя.

Чэсік апусціў сваю доўгую руку, устаў і бойка загаварыў:

— Калі наш храбры круль Ян Трэці Сабескі разбіў туркаў пад Венай, ён уязджаў у Вену на чале сваіх непераможных гусараў. Аўстрыйскаму цэсажу не спадабалася, што гэта не ён, а наш круль Ян Трэці Сабескі перамог туркаў, і ён не хацеў зняць капялюш перад нашым крулем. Ян Трэці Сабескі падняў руку, каб падкруціць свой вус, а аўстрыяк падумаў, што ён падно-

сіць руку да капелюша, і тады ўжо ён схапіўся за свой капялюш. А потым...

— Хопіць, Бэндзіньскі, сядай! — усміхнулася настаўніца.

Яна падсела да стала і выняла з чорнай сумачкі свой тоўсты блакнот. Нават і не прыўстаючы, з першай парты Данік бачыў, як яна адгарнула старонку на літару Б і напісала вялікае *пяць*. Пасля адгарнула старонку на літару Ц, падумала трохі, а тады паставіла, таксама вялікае, *тры*.

— Ну, хто далей? — спыталася, гледзячы на клас.

Ды тут у дзверы з настаўніцкай нехта пастукаў і спытаўся:

— Можна?

Клас падхапіўся і не застыў, як звычайна, у маўклівым прывітанні, а загудзеў на трыццаць шэсць галасоў.

«А-а-а! О-о-о!» — чуваць было ў гэтым нястрымным гуле дзіцячай радасці.

— Ціша! — перакрычала іх панна Рузя.— Сядайце. Дзень добры, пані Мар'я! Прашу прайсці далей.

Пані Мар'я — у цёплым паліто і футравай шапачцы — стаяла каля дзвярэй і ўсміхалася. Такая бледная яшчэ, з пазападаўшымі вачыма...

— Я — толькі зірну на іх разочак. Можна, панна Рузя?

І вось, выйшаўшы ад дзвярэй за стол, дзе так прывыклі бачыць яе чацвёртакласнікі, пані Мар'я памаўчала, апусціўшы вочы, а потым паглядзела на клас і сумна ўсміхнулася.

— Дзеці,— сказала яна, і голас яе задрыжаў.— Мілыя дзеці, я вельмі рада, што вы яшчэ ўсё памятаеце мяне. Я так хацела б адказаць вам сэрцам за сэрца... Ужо цяпер, адразу, але... Ну што ж, мне не ўдасца прыйсці ў школу, відаць, да самай вясны...

Клас ахнуў зноў, і зноў панна Рузя перакрычала яго, супакоіла.

— Я пацяшаю сябе тым...— пачала пані Мар'я, але голас яе зноў задрыжаў.— Ды што там пацяшацца: у маі ўбачымся зноў.— Яна ўсміхнулася.— Жадаю вам поспехаў, дзеці! Будзьце здаровы!

Кіроўнічыха неяк вельмі ж павольна выйшла з класа.

Панна Рузя пайшла праводзіць яе на вуліцу. А дзеці

кінуліся да акон. Не ведаючы, што зрабіць і што сказаць, каб пані Мар'я зразумела іх, яны крычалі ў вокны і махалі рукамі.

А Данік, дык ён узлез з каленьмі на падаконнік і — як у той незабыўны дзень, калі на тратуары перад школай галасіла цётка,— узяўся рукой за раму фортачкі. Вось-вось, здаецца, крыкне. Але крычаць ён не мог...

Пані Мар'я ўзышла на прыгорачак перад школай, азірнулася, памахала рукой і пайшла. На сярэдзіне плошчы азірнулася зноў, зноў памахала. Данік уздрыгнуў — ледзь прыкметна і для самога сябе. Хлопцу здалося, што памахала яна толькі яму, апошні раз і — назаўсёды...

— І не быдла вы хіба?! — крычала перад класам «дзеўка ў розуме».— Хоць бы ты, Данель Малец. Усцерабіўся, божы конь, з нагамі на акно. Дзікун!

Данік сядзеў, апусціўшы вочы.

Панна Рузя пахадзіла па класе, залажыўшы рукі назад, потым спынілася каля грубкі.

— Калі вы і сапраўды так любіце сваю выхавацельку,— пачала яна па-свойму суха, нібы пра круля Яна Трэцяга Сабескага,— дык вы не хвалявалі б яе пасля цяжкай хваробы сваімі дзікімі крыкамі. Асабліва — ты. Ты! — паказала яна худой, з пярсцёнкамі на двух пальцах, рукою.— Устань, матолак! Гаворыць настаўніца!

Данік устаў. Але вачэй ён нізашто не ўздыме!

«Ідзі ты к чорту! — падумаў ён.— Сама ты дзікунка...»

І раптам вочы Сівага пацяплелі ад слёз. Ды не, ён не заплача цяпер. Нягледзячы нават на тое, што ён — другі раз пасля арышту Міколы Кужалевіча — зноў адчуў, зноў зразумеў, як гэта цяжка, калі ты застаешся... Ну, не адзін... не сірата... А ўсё ж, як гэта цяжка і горка!..

## 11

У панскім садзе і старым, запушчаным парку заліваліся салаўі. Яшчэ, відаць, не снедаўшы і не сціхаючы ад самага змяркання. Сонца ўзышло, але праменні яго асвятлялі пакуль што толькі верхавіны ліп, у лісці якіх кахкалі галкі.

З белых зашклёных дзвярэй драўлянага дома на высокім каменным падмурку выйшаў заспаны пан Вільчыцкі.

— Чаго цябе бура прыгнала так рана? — нездаволена спытаўся ён у мужыка, які стаяў перад ганкам.

Марка Палуян, галынкаўскі солтыс, спачатку зняў шапку і прывітаўся:

— Дзень добры, паночку. Вельмі пшэпрашам, што я парушыў спакойсцвіе вашага сну. Я думаў пачакаць, ды ваша пакаёвачка...

— Чаго ты хочаш, Палуян?

Мужык стаяў унізе, на зямлі, і панскія боты блішчалі на ўзроўні яго барадатага твару, накрытага кепкай. Мужык быў зверху апрануты,— кепка, картовая кашуля з зашпіленымі кішэнькамі, шарачковыя порткі,— а знізу — босы. Пан быў у хромавых ботах, у чорных галіфэ, вышэй — беленькая расшпіленая сарочка, над якой тырчалі вехці вусоў і зіхацела вялікая, нібы наглянцаваная, лысіна.

Слухаючы, што яму гавораць, пан Вільчыцкі гучна адхаркнуў і плюнуў зверху міма мужыка. Дзядзька нават не пахіснуўся.

— Пшэпрашам, Палуян,— сказаў Вільчыцкі і паўтарыў сваё: — Кхэ! Брр!..

— Нічога, паночку, на здароўе,— лісліва ўсміхнуўся солтыс.— Дык я ўсё пра тое самае: пакуль там хто ды што — я ў вас бяру адразу дзве дзесяціны. І грошы — з кішэні ў кішэню.

— Што мне твае грошы, Палуян,— гаварыў Вільчыцкі, сыходзячы з ганка.— Я каля Чорнага броду аддам на чацвёртую капу, дык у мяне яго з рукамі адарвуць. Яшчэ і падзякуюць, пане, не толькі што!..

Гутарка ішла пра панскі луг, частку якога Вільчыцкі штогод прадаваў «на скос» або аддаваў яго навакольным сялянам «на часць» — тры капы пану, чацвёртая мужыку.

— Капа, паночку, капою, а грошы грашыма. А я іх магу вам — хоць цяпер.

Яны ішлі па дарожцы ў той бок, дзе за дрэвамі, за салаўіным перасвістам чуліся людская гамонка і галасы жывёлы. Пан, залажыўшы рукі назад, ад чаго яшчэ больш выпучваўся жывот, крочыў спераду, мужык — за ім.

— Хітры ты чалавек, Палуян. Недарма цябе і солтысам назначылі. Кхэ! Брр!.. Чтэрдзесьці пеньць рублі злотэм [1],— сказаў ён, нібы хочучы ашарашыць солтыса знячэўку.

Палуян пачаў таргавацца, але пан адразу перабіў яго.

— Ні капеечкі менш. Не хочаш — іншыя забяруць.

Солтыс падумаў. Ён вось якраз і баяўся, што іншыя апярэдзяць яго; таму і прыйшоў яшчэ ў маі, загадзя. А цана была сходная: такую траву танней не возьмеш. Ды яшчэ і з атавай.

— Эх, паночку, дзе наша не прападала. Яно ж вядома, што вас і дзесяць цыганоў не перамудрыць. Вось!..

Палуян расшпіліў левую кішэньку картовай кашулі і дастаў загорнутае ў газетны шматок золата. «Зглееш, трасца тваёй галаве,— падумаў ён пра Вільчыцкага,— прагуляеш маёнтачак з Цабавай Юляй. А я — быў гаспадар і буду. На тваім месцы я такой травы і паўморга не прадаў бы».

Пан узяў грошы, раскешкаў дзевяць залатых пяцёрак на далоні пальцам другой рукі і, нібы не палічыўшы, усыпаў іх у кішэню галіфэ.

— Спажывайце, паночку, на добрае здароўе. І я нечага спакоен буду... Кароўкі вашыя ідуць. Адна ў адну, няўрокам кажучы, як лялькі!..

Воддаль, пераходзячы ім дарогу, з-пад аборы на пашу ішоў панскі статак. Каровы былі звычайныя,— і не пародзістыя, як у лепшых маёнтках, і частку з іх — Палуян ведаў — вясной трэба было падымаць за хвасты,— аднак солтыс быў рад, што купля ўдалася, і ён падлешчваў, ведаючы панскую натуру.

— А толькі ж пастуха вы, паночку, узялі!.. Ніхто вам, мусіць, не сказаў нічога?..

— Кхэ! Брр! Пра каго — пра Мікіту? Ён у мяне пятнаццаць, пане, год пасе.

— Ды не Мікіта! Я пра таго, пра студэнта. Гэта ж у вас нашай Зосі, маёй суседкі, сынок падпаскам наняўся. Бачыце, вунь ідзе.

Яны ўжо стаялі, чакаючы, пакуль каровы пяройдуць дарогу.

---

[1] Сорак пяць рублёў золатам.

Злева, дзе канчалася чарада, відаць былі стары і хлапчук — Данік Малец.

— Гэта ж яго, паночку, і са школы выкінулі, як таго чарвяка з мяса. Камуны яму, бачыце, захацелася. Падбухторваў галечу ўсякую, абаранначкі ім купляў. Дзядзька ягоны — той, што ў бальшавікоў,— дык спецыяльна на гэта грошы яму прысылаў. А потым яшчэ, паночку, хацеў такі парадак у школе зрабіць, каб на пераменках толькі па-нашаму гаварылі. А хто слова па-польску...

— Ты што ж гэта, Мікіта?! — перабіў яго пан, звяртаючыся да старога пастуха.— Ляжыш, пакуль сонца бок падапрэ. Гэта такі ў мяне, пане, парадак,— каровы толькі цяпер ідуць на паствіска?..

Стары Мікіта зняў сваю кепку,— такую пакамечаную і з дзіркамі, нібы яе пажавала карова,— і прывітаўся:

— Дзень добры, пане дзедзіц! Пры чым тут я? Пакуль іх толькі падояць!..— Стары хітра ўсміхнуўся бяззубым ротам.— Каб гэта ў іх, пане дзедзіц, была адна цыцка на ўсіх, дык чалавек упяўся б добра, пацягнуў бы, ды на табе — адразу поўны цэбар. А то ж у іх у кожнай па чатыры!..

— Кхэ! Брр!.. «Па чатыры»... Ты ў мяне, пане, глядзі!..

Побач са старым Мікітам, трохі ззаду за ім, стаяў Данік. Таксама босы і з пугай. Палуян глядзеў, глядзеў на яго і не вытрымаў:

— А ты ж гэта чаму, шчанюк, шапку перад панам не скінеш, га?

Данік пастаяў хвілінку, а потым павярнуўся і пайшоў, нават пабег за каровамі.

— Усё будзе, пане дзедзіц, у пажандэчку,— зноў усміхнуўся стары пастух.— Ну, я пайду.

Пан і солтыс засталіся на скрыжаванні ўдвух.

— А што, паночку, бачылі? — кіўнуў услед Даніку Палуян.— І шапкі скінуць не хоча! Ад зямлі яшчэ не адрос, а ўжо, глядзіце, бальшавік!..

Пан адышоўся да куста... Стоячы спіной да мужыка, ён гаварыў:

— Усё я гэта чуў і сам. Усё гэта, пане, глупства. Кхэ! Брр!.. Пшэпрашам наймоцней! Усе вы, пане, баль-

шавікі. Прыйдуць Саветы зноў, і ты будзеш маю зямлю дзяліць, як у дваццатым годзе дзяліў.

— Хто — я? Ды што вы, паночку! Няхай мне і вочы павылазяць, і рукі адсохнуць, калі я на чужое дабро паквапілюся!..

— Ну добра, добра, Палуян. Ты — чалавек пажондны. Бывай, пане солтыс, здароў!..

## 12

Як толькі статак выйшаў за апошнія дрэвы двара і пачаў разбрыдацца па пашы, стары Мікіта спыніўся і палез рукой за пазуху.

— Зноў старая крычала,— падмаргнуў ён Даніку.

Дастаўшы з-за пазухі жалейку, ён гладзіў, абдзьмухваў яе і, усміхаючыся, гаварыў — нібыта дудцы сваёй, нібыта некаму іншаму:

— І чаго ты, другая, пішчыш? Што я?.. Што тут каму баліць ад гэтага? Ты, кажа, блазен стары... Эх, піскля ты, дый годзе!..

Ён прылажыў жалейку да губ, узняў трохі твар насупраць сонца і зайграў.

Над зялёным прасторам, над Данікам, які прысеў перад старым, над статкам і — гэй, далёка! — над палямі паплыла, палілася журботная песня... Каб ёй словы яшчэ, дык яны загучалі б тугою гаротнай долі, расказалі б пра цяжкую, беспрасветную працу жняі:

Ба-аліць мая-а ся-арэдзінка-а,
ой, перабі-іла яе-е
бярэзінка-а!..

Пачуўшы гэты сум, недзе за дрэвамі двара стрыганець вушамі коні ў панскім плузе, стоячы ў баразне, і, з недакуркам на ніжняй губе, уздыме галаву, заслухаецца малады батрак... А там, на полі мужыцкім, стане на сцежцы і загледзіцца, з рукой, настаўленай ад сонца, дзяўчына — ранняя работніца, што ідзе палоць свой ранні лянок. Песня жалейкі ўваходзіць, як нешта жывое і роднае, у песні нябачных жаўранкаў, у позні салаўіны перасвіст — тут недалечка, у садзе... І толькі бабуля Матруна, старая батрачка, пачуўшы з парога голас свайго чалавека, пакруціць галавой і бяззуба

зашамкае: «А што — жноў не вытрымаў — пішчыць!.. І колькі ты яму ні гавары!.. Унукаў поўны барак, а ён шабе, штары блажан, пішчыць!..»

Каровы скубуць акрашаную буйной расою траву. Старанна, спакойна скубуць, нават хвастамі не махаюць і не паводзяць вушамі. І не варушыцца, глядзіць — не змаргне — падпасак.

Жніўны напеў змяняецца вясельным. Потым чуваць ці то птушыны шчэбет-перасвіст, ці то веснавое бульканне ручаін. Бойка трапечацца гуллівы танец. Зноў журба... Эх, і чаго ж ён толькі не ўмее, дзядуля Мікіта!.. Чаго толькі не можа сказаць яго старая жалейка!..

— Вось і ўсё!..

Жалейка змоўкла. Дзед апусціў свае худыя, спрацаваныя рукі і паўтарыў:

— Вось і ўсё, Даніла! І дзякуй богу. А тая кажа: «Пішчыць!..» Баба — яна, унучак, баба — ці жонка, ці маці, ці ўнучка... Ох! Давай прамочым і мы свае порткі святою расіцай. Сядай, Мікіта,— загадаў ён сам сабе і сеў каля падпаска.

— Унучка, дык яна, Даніла, не тое самае,— сказаў ён, памаўчаўшы.— Аленка наша вельмі яе, жалейку, паважае. «Што ў ёй, кажа, пішчыць? Гэта, дзядуля, ты пішчыш ці яна?..» Яшчэ малое, вядома... А ты ж гэта чаго маўчыш?

Данік ляжаў, падпёршы шчаку далонню. Ён памаўчаў, паглядзеў на траву і сказаў:

— Шапку чаму не скідаеш... Чулі?

— Гэта той, Палуян? — спытаўся стары.— А што ж, унучак, калі трэба, дык трэба і скінуць.

— А як я не хачу?

— Дзень добры, пане дзедзіц! А я што — хачу або мне гэта вельмі соладка? А вось здымаю. І рука ўжо самлела за семдзесят год. Такая ўжо наша сірочая доля...

— Ну, а што мне рабіць, калі я не хачу?

— Дык і што ж табе, унучак, з таго? Вось не хацеў, дык і пагналі са школы. З пугі пачаў, пугай і завяршыў. Хіба ж яно табе даспадобы?..

Данік успомніў худы, скарэжаны злосцю твар панны Рузі і голас яе: «Прэч! Натыхмяст прэч зэ школы, дрань! І венцэй не пшыходзь!» А ён усё ж такі прыйшоў назаўтра ў школу. Другі раз «прэч» не прыйшлося па-

чуць. Пан кіроўнік сказаў яму спакайней: «Малец, ты выключаны са школы. Ідзі дадому і падумай, што ты натварыў». А што ён натварыў? Проста ім крыўдна было, што разам з паняй Мар'яй зусім пайшла са школы і родная мова. Ну, урокі — урокамі, а на пераменках яны пастанавілі, што, калі хто акажацца хоць слоўцам па-польску,— пяць грошаў штрафу. Ды так і не зарабілі на гэтым ні гроша. Лупаты Чэсік Бэндзіньскі данёс... Пані Мар'я яшчэ ўсё хварэла, і за Даніка не было каму заступіцца. Ні Саньку, ні Цівунка, ні Казу — нікога не выключылі са школы, бо ён, Данік, не выдаў нікога з тых, што змаўляліся. А кіроўнік усё дапытваўся: «Хто цябе навучыў?..» Няма таго, хто навучыў,— ужо трэці год няма. Толькі і голасу ад Міколы, што напіша ў пісьме з турмы да бацькоў: «Прывітанне сябру майму Данілу і маме яго, цётцы Зосі...» Ніхто не навучыў — Сівы сам навучыўся!..

— Ты не гаруй, Даніла,— пачуў ён голас дзеда Мікіты.— Дзядзька грошай прышле. Падрасцеш яшчэ трохі, купіш каня, можа, і поля шматок. Будзеш гаспадаром. Дурная маці, што і гэтыя грошы пусціла на вецер. Зямелькі трэба было купіць хоць пядзю якую. Бо на службе яно... Я вось ужо гадоў мо з пяцьдзесят ці больш ляпаю пугай, а ўсё нічога не выляпаў. Як яе, тую бяду-дуду, надзьмеш, калі з яе дух ва ўсе дзіркі ідзе?.. Больш дзядзька не прысылаў? Ну, чаго ты маўчыш?

— Няма,— адказаў падпасак.— Ні грошай, ні пісьма не шле.

— На граніцы, відаць, ліха ім, затрымалі. Чаго спрадвеку не было — граніца!.. І мая дачка, Жэня, старэйшая, там засталася. Сам я толькі здурнеў, прыпёрся з бежанства сюды. Яна там, нябось, панскіх кароў не пасе!.. Раней пісала, ды ўжо таксама доўга нічога няма. На заводзе працуе — і сама, і мужык. Мужык такі, відаць, харошы, адпаведны чалавек... Летась картачку прыслалі. І дзеці, відаць, таксама ў доглядзе... Двое...

Стары задумаўся.

— Нешта нам снедання не нясуць,— сказаў пасля.

Думаў хоць гэтым пацешыць, разварушыць свайго памочніка, аднак дарма,— Данік усё маўчыць.

— Мая таксама, можа, прыслала б,— пачаў праз хвіліну стары.— Ды што ж, граніца! Твой дзядзька дык неяк прабіўся, прыслаў. Чалавек, відаць, адпаведны...

Нічога, унучак, прыйдзе час — і нашы напішуць, і самі прыедуць да нас. Быць не можа інакш! Я — дык бог святы ведае, а ты дачакаешся... Ах, зараза! Гэта ўсё тая, Падласка!.. Бяжы ты, брат, адвярні іх ад поля!..

Данік пабег.

Адвярнуўшы статак ад жыта далей на траву, ён не захацеў вяртацца да старога, а сеў на ўзмежку і дастаў з-за пазухі кнігу. Тую самую. Адну толькі яе і ўзяў сюды з дому. Даўно ўжо ўсё прачытана, сёе-тое нават і перачытана, а ўсё ж... Ён адгарнуў вокладку. На тытульнай старонцы — «Балеслаў Прус. Навелы».

А наўскасяк, таксама па-польску, напісана такім знаёмым почыркам:

«Даніку Мальцу, майму светлавокаму хлопчыку, каб дачакаўся светлага жыцця.

*М. Анджэеўская*

*24 лютага 1929 года*».

Ужо ніколі, мусіць, яму не ўбачыць яе, не пачуць яе голасу. Мікола прыйдзе,— увосень канчаецца яго тэрмін. Хіба, можа, яшчэ дададуць... А яна, пані Мар'я? Няўжо так і будзе, што застанецца адна толькі думка, адзін успамін і гэтыя словы на кнізе?.. Цяпер яна ўжо, відаць, паправілася, зноў сядзіць за сталом і чытае ці нешта піша ў журнале... А хто ж сядзіць цяпер побач з Санькам на першай парце? Хто глядзіць, не змаргне, як калісьці...

— Чытаеш, Даніла? — пачуўся над хлопцам голас старога. Дзед падышоў неяк неўзаметку, нібы падкраўся.— А што ты чытаеш?

— Так сабе, польская кніга адна.

Стары паківаў галавою:

— Яшчэ ты, брат, не нацешыўся з панскае ласкі? Пакінь!

— Гэта, дзеду, не панская. Гэта ўсё пра такіх, як мы, пра тых, што бедныя, што працуюць... Хочаце, я і вам пачытаю?

Дзед усміхнуўся хітравата:

— Няхай ужо лепей па снеданні. А то нешта пад лыжачкай смокча...

— Вы не бойцеся,— я так буду чытаць, што вы ўсё зразумееце. Добра?

І так жа хочацца хлопцу, каб і стары даведаўся пра тых, што ў кнізе, пра сапраўдных людзей з той Польшчы, што там вунь — далёка на захадзе! І пра такіх, як пані Мар'я... Не, пра яе, пра гэты надпіс на кнізе ён не скажа і дзеду. Нікому не сказаў і нікому не скажа...

— Дык што, дзеду, пачытаем?

— Хіба, можа, пасля. Нешта мне, брат, зноў захацелася душу сваю пагладзіць.

Стары палез рукой за пазуху.

— Тады, дзеду, іграйце адразу вясёлае! Добра?

Дзед Мікіта, трымаючы перад тварам сваю «пісклю», усміхнуўся,— ужо без хітрасці, а неяк крыва.

— З песні, Даніла, слова не выкінеш,— сказаў ён,— а плачучы — рота ніхто не паправіць.

Над лугам загаласіла — той самай жніўнаю песняй — жалейка. Сіратлівая, сумная песня!..

*1942—1956 гг.*

# У СЯМ'І

*З успамінаў майго аднагодка*

## 1

На шэрую прамерзлую зямлю бязгучна і густа сыплецца першы снег. Гэта відаць праз нашы малыя, старэнькія вокны.

Бацька вярнуўся з мястэчка апоўдні і, так як быў у снезе, увайшоў з сяней, прыгнуўшыся ў дзвярах.

— Ах, мая долечка! Асцепайся! — сустрэла яго маці.

А ён смяецца:

— Пачакай, малым пакажуся.

— От дзе розум! Нінка і так хворая, а ты...

Бацька вярнуўся ў сені, асцепаў снег з кажуха, з шапкі, з вусоў і ўвайшоў у хату.

— А што з ёй? — спытаўся.— Што з табой, Ніна? Хадзі сюды.

— Пачакай ты, з холаду! Нінка, не ідзі!

— Ды што ёй такое?

— Што? Хто яе ведае. Галоўка, кажа, баліць ад ранку, і вочы як у тумане. Трэба па доктара.

— Ну, ужо адразу? Што з ёю, мама?

Бабуля спыніла калаўротак.

— Прастудзілася. Налазілася ўчора, калі яблынькі абвязвалі. Колькі ёй трэба!

— Ну, я ўжо цёплы. Ідзі, брат, сюды.

Ніна — маркотная, ціхая — падышла.

— Што ж гэта ты? — спытаўся бацька, беручы яе за падбародак.— Вунь ужо снегу колькі, я санкі з гарышча здыму, а ты — хварэць. Галава баліць? І грудзі? Ну нічога, не бойся. Цябе баба палечыць.

— Я не хачу, тата, доктара, ты не едзь. Бо як прыедзе, дык і буду хворая...

— Пэўна, дочка. Я не паеду.

— А што табе?! — завойкала маці.— Хіба табе баліць! Ты вось яе не дуры і сам не дурыся, а едзь!

Бацька зморшчыўся.

— Ну, і чаго ты? Я ж і так сказаў, што не паеду. Што ў цябе за любоў да малых,— дзікая нейкая! Парыш, парыш іх у лап'і, пасля — абы трошкі на холад, дык і гатова. З прастудай гэтулькі крыку. На гэта і мама доктар. Ты, Ніна, не плач, цябе баба палечыць. Паляжыш трошкі, банькі паставім...

— Не хачу банек, тата, я не хворая. Бо як лягу, дык і памру, старая буду-у...

— А ўжо ж,— спыніла бабуля калаўротак,— не хочаш, дык і памрэш, валацуга ты. Хай вунь маці мёду прынясе ад бабы, ды напарым маліны. Нап'ешся сабе, як пані, а тады хоць і банькі...

— Не хачу банек! — тупнула валёнкам Ніна. А сама ўжо плача.

— Не тупай, благоцце ты! Навучылася, як каза. Толіка пабудзіш.

Толік спіць у калысцы, за шырмай.

— Ну ціха, дурненькая, чаго ты,— суцяшае бабуля,— не плач. Бацькі таксама разышліся: у аднаго дзікая любоў, у другога асвойтаная. Не плач.

Маці паставіла бацьку абедаць.

— Дык, значыцца, Маня, мір,— сказаў ён, сядаючы за стол.— А будзе так, як кажа старая: найлепш.

І супакоеная маці, не дачакаўшыся, пакуль спыніцца снег, накрылася вялікай хусткай і пайшла ў Сасновічы па мёд.

...Бабуля развязвае слоік з мёдам, а Ніна ласа глядзіць. І толькі старая развязала нітку і адняла паперку,— Ніна лізнула яе ды ад радасці:

— Бабка, лізні!

— Ліжы ўжо хоць сама...

Ды мусіла-такі лізнуць паперку, бо Ніна не адчэпіцца. Лізнула і зацмакала:

— Ах, шыкі-смакі! Новая навіна на старое чэрава, камарова сыць, мядзведжая сіла. Ну на, ліжы. Хутчэй бы той бацька вуллі купляў.

Ніна лізнула раз і яшчэ раз, як ліска, ды кажа:

— Буду піць з малінамі ці з параным малаком і папраўлюся, бабка, праўда?

— Няўжо ж!

— Калі папраўлюся — як будзе: дагэтуль ці дагэтуль? — паказвае Ніна пальцам на слоіку.

— Ты вось не гэтуль-дагэтуль, а ўсё выпівай, ды хай мама яшчэ нясе, во...

— Думаеце, дзе ўжо той і мёд,— пачала маці, але старая яе перабіла:

— Не памагала б ты хвораму стагнаць. Не вер бацьку: пчаляры ўсе скупыя. Яшчэ тую бяду каб скалануў, дык, напэўна, цэлы кубел мёду набраў бы.

— Бабка, на яшчэ!

— Хрысціся, каток,— усе твае лекі паліжам. Вось каму дай. Ужо выспаўся?

Гэта на Толіка. Ён прачнуўся ў калысцы за шырмай і адразу плача, як заўсёды.

— Чаго, чаго, мой хлопчык?

— Дай яму, мамка, мёду: сціхне.

Маці бярэ Толіка на рукі, а бабуля набрала лыжачку мёду і — хоп яму ў рот.

— Хапай, не плач. А-ах! Яшчэ? На яшчэ, бо забыўся, які той мёд, як сабака ці як кот. Слёзы як боб. Ніколі не ўстанеш без музыкі.

— А як гэта, бабка, «як кот»? — пытаецца Ніна.

— Гэта, бачыш, адзін удавец ажаніўся, узяў сабе маладую бабу. І былі ў яго пчолы і мёд. Мачыха сама мёд крадзе, а верне ўсё на падчаранят. А бацька ўжо іх, як той дурань, лупцуе. Набіў ён раз малых, выйшаў за дзверы ды слухае. «Які той, Манька, мёд,— ці як сабака, ці як кот?» — пытаецца, плачучы, хлопчык. А дзяўчынка, старэйшая, кажа: «Н-не, Колік, я бачыла,— ён, як рэшата. Тата з вулляў вымаў». Дык бацька давай тую мачыху біць. «Ах ты, кажа, нягодніца!»

Бабуля расказвае, а Толіку сваё: пацмакаў губамі, аж вочы заплюшчыліся ад смаку, і кажа:

— Хоця Толя сце, хоця!

А вейкі доўгія-доўгія, на шчочках не высахлі слёзы.

— Дам яшчэ, дам, каток. Вось дзе вам доктар!..

Увечары ставілі хворай банькі. Колькі ні было таго крыку і слёз, бабуля такі ўгаварыла. І вось Ніна стаіць у адной кашульцы на пасцелі, трымаецца абедзвюма за спінку ложка і просіць:

— Бабка, адну...

— Адну, адну,— адказвае старая, бразгаючы банькамі ў місе з вадой. Каля місы квач з кудзелі і газні-

ца — дадатковыя прылады страшнай аперацыі. Я гляджу на іх і ўспамінаю мой дзіцячы страх перад банькамі,— подыхам агню і копаці квача і болем ад банек, якія пякуча ўсмоктваюцца ў цела. І Нінка цяпер такая бездапаможная, маленькая перад імі, а бабуля такая няўмольная. А ўсё ж малая просіцца:

— Бабка, адну...

— Адну, каток, адну.

І пачынаецца.

Маці бярэ Ніну і кладзе яе ніцма на падушку.

— Бабка, золатка маё, даражэнькая,— адну!..

— Накрый галаву,— ківае маме бабуля. Мачае ў газу квач, прыпальвае яго на газніцы ды спрытна — тыц агнём у баньку і хлоп яе малой на спіну. А сама, здаецца, злосная, злосная!..

— Агонь, мама, агонь! — натапырыўся Толік.

Ніна крычыць за кожнай банькай «а-ёй!» і просіцца:

— Ах, бабка мая, годзе! Ганулька мая! Сястрычка мілая, годзе!..

— Нічога табе не будзе.

Старая прыступіла валёнкам гаручы квач, толькі копаць пайшла, а сама глядзіць, прыжмурыўшыся, на тое, як на беленькім целе Ніны банькі насмоктваюцца чырвона-сінімі пухірамі.

— Узяліся,— шэпча яна, накрываючы малую хусткай.— Годзе, годзе, рыбка мая, больш не буду.

— Ой, мне самой ажно скура шэрхне,— уздрыганулася мама.

— Вельмі вы абедзве далікатныя, і маці, і дачка,— адказвае бабуля.— Думаеш, мне не шкада?..

У хаце ціха. Толькі Ніна яшчэ ўсё ўсхліпвае і стогне. Бабуля сядзіць каля яе, побач стаіць маці, абедзве ў маўклівым чаканні. Бацька ўе падшыванку, дзядзька Міхась чытае, а я сяджу на тапчане. Адзін Толік нястомна тупае па хаце, як вожык, ніяк не могучы нацешыцца сваімі ножкамі.

— Бабка,— аказваецца Ніна.

— Што, каток, што?

— Алесю таксама паставіш? (Гэта, значыцца, мне.)

— А няўжо ж.

— Яму многа, бабка, усе...

— Усе, каток, колькі будзе.

Зноў трохі ціха.

— Бабка, а дзядзьку?

— Дзядзьку? Куды там,— яму хіба шклянкі. Яму хоць збанок. Што яму банькі!

— Ты яму, бабка, той жоўты... рабенькі, што ваду бяром на поле... улетку... як жаць...

— Добра, добра, каток, ты толькі ціха.— А памаўчаўшы: — От хіба роў бы твой дзядзька!

Дзядзька смяецца над кнігай, і мы таксама. А потым ціха зноў. Адзін Толік: туп-туп-туп... А потым раптам стаў, падумаў.

— Баба!

— Ну?

— Баба-а, го-оў! — малы ажно ўзнімаецца на пальчыкі.

— А-го-о! Чаго-о ты? — адгукваецца старая.

— Хоця Толя мёд, хоця!

— Ах вы, птушкі мае, усюды я вам, на ўсе рукі.

А за вокнамі, у шэрай паўцемры,— бачу я ў думках,— бязгучна сыплецца снег.

## 2

Позняя ноч.

На акне каля бабулінага ложка, дзе ляжыць Ніна, цьмяна гарыць укручаная лямпа. Яна мармыча ціхенька, патрэсквае, шыпіць... Усе нашы спяць, толькі я сяджу каля хворай.

Тады, пасля банек, Ніна толькі дзень праляжала ў ложку і пачала хныкаць, што паправілася ўжо і ўстане. «А няхай лепш не плача, а ўстае»,— казала маці, але бацька не даваў. «Гэта — грып, а на грып трэба спакой і цяпло»,— казаў ён. Ды назаўтра бацька паехаў у млын, і Ніна ўстала. «Ты памятай, вось паглядзіш»,— пярэчыла бабуля, але маці не паслухала яе. Яна апранула малую і паставіла за стол на лаву, бо там Толік і за вокнамі беленька, снег. Ніна, праўда, і гаварыла трохі, і кніжку глядзела, ды ўсё гэта вяла, без цікавасці. Пасля яна сама папрасілася легчы. Узнялася тэмпература, і малая трызніла, страшна водзячы вачыма. Была жудасная хвіліна, калі нам здалося, што Ніна памірае, і я, задыхаючыся, бег ноччу па глыбокім снезе ў млын, да бацькі.

Сталася так, як бацька казаў: маці сваёй «дзікай любоўю» давяла Ніну да запалення лёгкіх. Сёння чацвёртая ноч.

Ніна гарыць, бо ноччу тэмпература падымаецца ледзь не да сарака. Малая дыхае хутка, нібы спяшаючыся, і час ад часу ўзрываецца кашляць. Кашляе шмат і гвалтоўна, плачучы і трасучыся ўсім целам ад болю. У перамежках паміж выбухамі кашлю яна ляжыць з заплюшчанымі вачыма. Толькі час ад часу ўзнімае перад сабой тонкія ручкі, усхліпвае ад болю і шэпча: «Бабка, піць...» І гэта хто б з нас ні сядзеў пры ёй, бо сядзім мы на змену. Нават вачэй не расплюшчыць, так верыцца ёй, што ў цемры над ёю, быццам казачны добры дух, заўсёды будзе бабуля — першая, найлепшая, адзіная.

Старая ўступіла ёй свой ложак каля печы, а сама курчыцца на лаве за сталом. Ды і колькі таго сну! — яна сядзіць каля Ніны больш за ўсіх. І хворая ж сама, нямоглая, з пакутамі, якія ўжо не адчэпяцца да самай смерці. Ды цяпер яна, відаць, зусім забылася пра гэта. Адкуль у старой бяруцца сілы, цярплівасць, прывет — ніхто з нас не дзівіцца. Усе мы прызвычаіліся да таго, што як баліць, бабуля першая заўважыць, спытае, што з табой, найлепш палечыць; што хоць яна і суровая на выгляд і бязлітасная, калі стаўляе банькі,— і ад суровасці гэтай і ад банькаў заўсёды толькі добра. «Нічога, каток,— суцяшае яна,— бывае яшчэ і горш...»

Я здымаю лямпу і падыходжу з ёй да стала. Бабуля ляжыць галавой на покуць, нізка да вачэй абвязаная хусткай, якая аслабла і аб'ехала на вочы. З-пад хусткі на маршчыны лба і твару выбіліся пасмы сівых валасоў. Правая рука — худая, з сінімі вузламі жылаў — бяссільна ляжыць на грудзях, якія павольна зыбаюцца цяжкім дыханнем.

Толькі цяпер можна ўбачыць, якая ўжо яна старая, стомленая... А ўстане — зноў нібы забудзешся пра гэта.

«Дай нарысую»,— падумаў я. Паставіў лямпу, пабольшаў агонь і дастаў з шуфляды стала свае мастацкія прылады.

Вось мой першы альбом. Я пачаў яго пазалетась, скончыўшы сямігодку. Рысую найбольш партрэты, алоўкам, з натуры. І дзядзька Міхась гаворыць, што

гэта ўдаецца мне найлепш. На шурпатых старонках ватману — Ніна, я сам, бабуля, дзядзька над кнігай, цётчына Ліда ў труне: галава ў вянку, а за акном — бэз. А вось і зарэцкі нямко — лахматы, сляпы на адно вока, з жабрацкімі торбамі. Малюнак гэты незакончаны: зроблена столькі, колькі я паспеў зрабіць, пакуль нямко з'еў з хлебам дзве конаўкі малака, а тады намармытаў, натупаў лапцямі, напляваўся ў адказ на мае ўгаворы і, вядома ж, уцёк.

А зараз тут будзе яшчэ раз бабуля.

Яшчэ трошкі падкручваю ў лямпе кнот і пачынаю рысаваць. Абрысы схопліваюцца ўдала. Ніна маўчыць. І я забываюся ў працы. Адна толькі думка са мною: што скажа заўтра дзядзька?..

Дзядзька таксама мастак,— мастак слова, «вечна пачынаючы пісьменнік», як ён жартуе сам з сябе. Амаль пяць год таму назад, у трыццаць чацвёртым годзе, дзядзька вярнуўся з пятага класа Навагрудскай беларускай гімназіі, закрытага панамі «камуністычнага гнязда». Дзядзька, як кажа бабуля, не быў там нідзе замешаны і тады, таксама як і цяпер, не мяшаўся ў палітыку. Ён толькі чытае ды піша. Я дзіўлюся часамі, чаму ён не шле нічога ў друк. Ёсць жа ў Вільні часопісы «Калоссе», «Летапіс», выходзіла і газета «Наша воля», пакуль паны не закрылі яе. Друкуюць жа там свае вершы Танк, Васілёк,— няхай бы быў яшчэ і празаік з апавяданнямі пра горкае мужыцкае жыццё, з такім звычайным прозвішчам — Ганчарык, якіх так многа ў адных толькі нашых Ганчарах. Бабуля парой і тая не ўцерпіць: «Адпачыў бы хоць. Дзень і ноч піша. Пасцепае рукамі і зноў. Ці слаў бы ўжо куды сваё пісанне». А дзядзька толькі смяецца: «Яшчэ не гатова».

Хваліць ён мяне няшмат. Доўга так паглядзіць на малюнак, а пасля: «Вось гэта,— кажа,— відаць, што перажытае, зацікавіла цябе. Чуваць жывец. Толькі гэтаму дзядзьку належыць быць, наколькі я ведаю яго, весялейшым, а ён у цябе — як мыла з'еў. Ну, а Люба яўна пазіруе, дзеўка «словно окоченела от счастья»,— закончыць ён словамі Чэхава, і мы смяёмся.

Бацька мой і не мастак, і не пісьменнік. Аднак, калі дзядзька чытае нам нешта новае, сваё,— тата непрыкметна падморгвае мне, там, дзе ўдала; калі ж мы ўтрох глядзім мой новы малюнак — па тым, як бацька

з дзядзькам крадком пераглядваюцца, не вельмі цяжка пазнаць, што яны думаюць. Мне шаснаццаць гадоў, дзядзьку пайшоў дваццаць першы, а бацьку ўжо за сорак, аднак усім нам, як кажа бабуля, «адна трасца», усе тры, «як малыя».

Хата наша — яшчэ дзедаўская, малая і нізкая. Праз год і я павінен даставаць рукой да столі. Печ, вялізная, нібы аўтобус, займае ледзь не палавіну хаты, а чалеснікамі выходзіць у кухню-бакоўку. За шырмаю — два ложкі, а тут, дзе стол і над сталом іконы, стаіць — ад застольнай лавы да парога — зроблены бацькам тапчан, ababіты дзяружкай і выпханы атавай. На гэтым тапчане, прыстаўляючы зэдлік, я сплю з дзядзькам гадоў ужо з чатыры, з таго часу, як перастаў быць меншым у хаце. Да новай хаты нам яшчэ вельмі далёка,— пакуль патанее лес, усюды панскі,— а цяпер, у цеснаце, культуры, як бацька кажа, не завядзеш. Толькі і культуры, што новая падлога, шырма з дзяругай ды над тапчаном паліца з кнігамі — адна на ўсе нашы Ганчары.

Сёння маці прылегла на печы, узяўшы туды Толіка. Бацька з дзядзькам заснулі нядаўна,— першы за шырмай, а другі на тапчане.

Бацька часта гаворыць праз сон. Вось і цяпер ён замармытаў нешта, павярнуўся на скрыпучым ложку і зноў мармыча.

«Ну, пачалося»,— з усмешкай падумаў я. І ўжо разбіраю некалькі слоў.

— Дык вам так і думаецца, Юрка Пятровіч? Умм, ум... — заплямкаў ён нешта губамі і змоўк.

«Напэўна, радыё сніцца!..» — засмяяўся я моўчкі.

Справа ў тым, што бацька, як кажа бабуля, «знайшоў яшчэ адну забаўку» — наважыў купіць радыёпрыёмнік. Рашэнне гэтае прыйшло надоечы пасля гутаркі з Працадурам, які лечыць цяпер нашу Ніну.

У тую ноч, калі я прыбег у млын да бацькі, ён, пакінуўшы там мяшок з нязмоланым, запрог каня, і мы памчаліся па мястэчку да дома, дзе жыў пан доктар,— так хутка, як толькі здолеў, уцякаючы ад пугі, бегчы наш канюк, жывёліна без імені і лішняй сілы. І што ж, дарэмна так спяшаліся. Я ўпершыню сам убачыў, што доктара, пана Бадоўскага, правільна называлі абдзіра-

лам. На бацькаў стук у акно ён адчыніў фортачку і спытаўся, адкуль і чаго?

— З Ганчароў, пане доктар. Дзяўчынка мая памірае...

«Ну што ты кажаш!» — уздрыгануўся я, як быццам упершыню адчуўшы, што гэта вельмі падобна на праўду.

— Дзесеньць злотых,— спакойна адказаў доктар, нібы пляхнуў на нас праз фортачку вядро вады.

У яго была свая логіка, казаў потым бацька: толькі ў прыёмныя гадзіны казённага доктара абавязвала ўстаноўленая зверху плата, а ў такі пазаўрочны час ён абыходзіўся з намі, як яму падабалася. А тое, што дзесяць злотых — шэсць пудоў жыта, і яго, дарэчы, у якога-небудзь «пана Ганчарыка» столькі няма,— гэта зусім не датычыць пана Бадоўскага.

— Ды, пане доктар, што вы...

— Ну, як хочаш.

І фортачка зачынілася.

Торг, да якога прывык пан Бадоўскі, на гэты раз не адбыўся. Бацька больш не кавэнчыў, а павярнуў каня і зноў узяўся за пугу.

— Да Працадуры паедзем.

Працадура лячыў, можна сказаць, падпольна, за што яго ўжо не раз папярэджвалі. Фельчарам ён вярнуўся з грамадзянскай вайны, жыў на малой гаспадарцы, у Невадах, за пяць кіламетраў ад нас. Мужыцкі доктар, які ніколі не таргаваўся за плату, а браў, што дадуць, і ніколі не пісаў рэцэптаў, даючы свае ўласныя лякарствы. Паглядзіць хворага, параіць, што рабіць, і — «паедзем».

Ну, кожнаму, вядома, хочацца пагаварыць з добрым ды яшчэ вучоным чалавекам,— і з удзячнасці да яго, і проста з ветлівасці. Дзядзька пачне з двара, толькі сеўшы на воз, а «доктар» адразу за вёскай пакідае слухаць.

— Цяпер, браток, памаўчым,— кажа ён.— Мне трэба абдумаць рацэпт. Гэта, браток, складаная працадура.

Адгэтуль і пайшла яго мянушка. Называлі так Юрку Пятровіча, вядома, толькі за вочы, ды ён, відаць, і ў вочы не пакрыўдзіўся б. Свой чалавек. Таму яго і

возяць да хворых — і днём, і ноччу,— нягледзячы на панскія папярэджванні.

У нас ён паківаў галавой і сказаў прымаўкай, што тут, у Ніны, «тры лісе ў адно звіліся»: застуджаны грып, на ім падхапілася запаленне лёгкіх, а на дадатак — яшчэ і коклюш, гэты самы балючы, гвалтоўны кашаль, які надрывае і без таго хворыя лёгкія. Працадура паказаў бабулі, як класці кампрэс, параіў банькі, сказаў, што прышле з бацькам парашкоў і мікстуры, а лепш за ўсё, здаецца, разважыў, пацешыў.

Ну, а ўжо з бацькам дык яны, відаць, нагаварыліся ўдосталь — і ў дарозе, і там, у Невадах. «Свой на свайго натрапіў»,— сказала потым бабуля, слухаючы бацькаў расказ пра Юрку Пятровіча, з якім ён быў дагэтуль малазнаёмы.

І вось на першае знаёмства Працадура паабяцаў бацьку дастаць малы дэтэктарны радыёпрыёмнік. «Не дарагі, патрыманы, але не зусім яшчэ дрэнны. Мінск, а цераз Мінск Маскву дастане, ну а большага табе, браток, і не трэба». І бацька захапіўся гэтым, бо і ён, як кажа бабуля, таксама «не сядун, а ўсё нейкае скулы шукае».

...Кепска, аднак, рысаваць пры лямпе: святло жаўціць, і цені вельмі вострыя, густыя.

— А-а-а,— чуваць раптам ціхі стогн.

Асцярожна, басанож падыходжу з лямпай да ложка і нахіляюся:

— Што табе? Што?

— Бабка... піць...

Прыпадымаю малой галаву і ўліваю ў засмяглы рот лыжачку цёплага чаю. Гэта таксама пакута. Малая стогне і ўсхліпвае.

І зноў забыццё, толькі хуткае дыханне і доўгія вейкі на заплюшчаных вачах.

Мне ўспамінаецца тое, што казаў бацьку Юрка Пятровіч, нібы не заўважыўшы, што і я з імі ў кухні: «Вы, Мікола Сцяпанавіч,— мужчына, і з вамі я не буду цацкацца, а скажу ўсё: справа з малой вельмі дрэнная, тым больш таму, што яна не па гадах развітая, уражлівая, нервовая. Бачыце самі — абы кашляць, дык у плач, а гэта толькі абцяжае хваробу». Бацька зірнуў на мяне і нахмурыўся.

— Алесь, ты ўжо не блазен. Глядзі, каб ніхто не ведаў гэтага, што доктар кажа.

І вось я хаваю нашу таямніцу.

Ціхенька ступаючы, выходжу з-за шырмы на хату і... уздрыгваю ад здзіўлення: дзядзька, толькі ў бялізне, стаіць, як здань, каля стала і моршчыцца, каб я маўчаў.

— Я не спаў. Бачыў, як ты рысуеш. Пакажы.

Мы схіляемся над малюнкам.

— Гм... маладзец... нядрэнна. Відаць, што перажытае. Асабліва добра — выраз твару, гэтая сумленная стомленасць.

Ён доўга маўчыць, пазіраючы то на бабулю, то на малюнак. Чуваць толькі, як мармыча, шыпіць і патрэсквае лямпа.

— Я цябе, браток, разумею,— пачынае ён пасля,— бо я і сам цяпер з гэтым нашуся. Хвароба Ніны нібы прабудзіла ва мне, асвяжыла, сабрала ў адно ўсю любоў да дзяцей, да ўсіх, вядома, не толькі нашых. Хочацца мне выказаць, перадаць... Ну, як тут сказаць? Хочацца мне злавіць на паперу гэты асаблівы чар шчырых, даверлівых і такіх вось мілых, як у Ніны з бабуляй, адносін. Памятаеш, як захоплена, як прыгожа піша пра дзяцей Горкі ў сваім «Кажамякіне»? Андэрсен, Канапніцкая, Чэхаў, Талстой... Як шчыра рады быў Шаўчэнка, кажучы пра самога сябе: «Не зусім, відаць, дрэнны той чалавек, каго дзеці любяць!» А колькі сэрца аддаў малым наш Колас! Так, брат. Толькі гэтага мала! Нам трэба гэтага яшчэ і яшчэ, нам асабліва, бо мы ў гэтым найбяднейшыя. У нашы хаты, на пашу, на школьную парту трэба больш сонца,— такога, каб на роднай мове гаварыла пра ўсё найлепшае, што трэба для шчаслівага, прыгожага жыцця. Гэта, Алесь, вялікае заданне для пісьменнікаў і мастакоў,— ён усміхнуўся,— нават, браток, і для такіх, як мы з табой. Ну, а пакуль што мы пачнём збірацца ў лес.

Дзядзька пачаў апранацца — пойдзе падкінуць каню.

— Паўлюк прасіў разбудзіць,— гаворыць ён пасля, парушаючы наша маўчанне.— Гадзінніка няма, так і жывём навобмацак...

Па дровы мы ездзім у пушчу, калі памераць, дык кіламетраў будзе за трыццаць.

## 3

Безупынна шуміць калаўротак, і на шуме яго кладзецца старэчы голас бабулі:

— Жылі сабе, былі сабе дзед і баба...

Так пачынаецца ледзь не кожная народная казка, і пачатак гэты ўсюды аднолькава любы.

Старая сядзіць на тапчане. Худыя, парэпаныя пальцы наўздагад вядуць тонкую кужэльную нітку, пускаючы яе на шпаркую шпулю калаўротка. Нага ў валёнку націскае на понаж, і спіцы ў коле зліліся ў адно мігатлівае сонца. Да ног бабулі шасцю прастакутнікамі акна кладзецца бледнае зімовае сонца. На сонцы дрэмле стары кот. Соладка мроіцца вусатаму, успамінаецца, відаць, той час, калі ён быў кацянём і хапаўся лапкамі за галоўку гуллівага верацяна, а пасля стрымгалоў уцякаў на печ і сцепаў вушамі, дастаўшы ад бабы той самай галоўкай па лабаціне.

Перад старой на ўслончыку сядзіць Ніна на сваёй маленькай прасніцы. Пераймаючы бабулю і маму, яна сур'ёзна слініць шчопці і тоўхае іх у жмуток кудзелі, выцягваючы з яе гузаватую нітку, якая раз-пораз ірвецца. Пасля хваробы Ніна яшчэ ўсё бледная, благенькая.

Маці пайшла да цёткі з кудзеляй і ўзяла з сабой Толіка. Бацька пайшоў у Невады да Працадуры. Сёння павінен прынесці радыё.

— ...І было ў іх дзве дачкі,— бае бабуля,— дзедава Марылька і бабіна Наталька. Марылька — дзедава дачка ад першай жонкі, бабіна падчарыца, дзяўчынка ціхая, слухмяная, працавітая. А бабіна дачка, Наталька,— ведама ж, пястун той цёмны, убоіна...

— Што гэта «ўбоіна»? — пытаецца Ніна, спыніўшыся прасці.

— Ну, гультайка, няўдаліца...

— Як Ціліпава Зоська, га?

— «Га, га»... От слухай!

Ды яна ж і так слухае!

— А мачыха злуе за гэта,— бае бабуля,— а раз дык і кажа свайму дзеду: «Вязі ты яе ў лес, ці што, сваю Марыльку, ці хоць у прорву якую ўсунь, куды хочаш, абы з вачэй!» Паплакаў дзед, паплакаў і павёз. Дурны, падла, дзед! — служыць яе лепш аддаў бы!..

Дзядзька сядзіць на табурэтцы каля лавы, тварам да сцяны, і правіць хамут. Я заняты шавецкай, так сказаць, работай,— падшываю лапаць. Дзядзька маўчыць. Толькі час ад часу мне збоку відаць, як пройдзе па губах яго ўсмешка.

І мне ўспамінаюцца задушэўныя словы, нібы подых вясновага ветру прыходзіць ізноў, вяртаецца заўсёды роднаю пяшчотай:

Подруга дней моих суровых,
Голубка дряхлая моя!..

У дзядзькі ўжо некалькі сшыткаў, у якіх ён запісвае казкі і песні, прыказкі, прымаўкі, свежыя словы, свае ўражанні і думкі.

«Талент — талентам,— гаворыць ён,— а працаваць, брат, трэба. Сапраўдныя пісьменнікі, Алесь, працавалі шчыра, шмат і творчасць працоўных бралі за ўзор характава. У рускіх вялікі Пушкін пачаў, а Гогаль, Чэхаў, Талстой паднялі літаратуру на небывалую вяршыню прастаты, праўдзівасці. Гэта былі ўсё дваране ці графы, а нам, сярмяжнікам, сам бог загадаў быць народнымі. Радзівонаўну слухай, браток, але і сам будзь Радзівонавіч».

А «Радзівонаўна» бае:

— І вось мачыха наклала ёй у торбу з сабой, ды на здзек: замест сыру — цагліну, замест круп — жарствы, замест масла — гліны. Знайшоў дзед у лесе нейкую зямлянку, зняў усё з воза, развітаўся з Марылькай, заплакаў і паехаў...

— Куды? — пытаецца Нінка.

— Куды ж? — дахаты. А Марылька села сабе, папрала трохі, а потым давай варыць вячэру. Глядзіць у торбу, а там — сыр, як накладка, замест цэглы, крупы — замест жарствы, масла — замест гліны. Рада дзяўчынка! Наварыла, прыбрала, выйшла з зямлянкі ды давай гукаць — дурная нейкая: «Хто ў лесе, хто ў цёмным, прыйдзі ка мне вячэраць!»

Бабуля кліча за Марыльку тонка, па-дзявочаму.

— А Мядзведзь з лесу,— старая гудзе тоўстым мядзведжым голасам: — «Я ў лесе, я ў цёмным, прыйду к табе вячэраць!»

Ніна пакідае прасці. Верацяно з парванай ніткай так і застыла на прыполіку, а ў вачах — захапленне.

— І вось ідзе,— гаворыць бабуля,— скрыльгі-скрыльгі на ліпавайназе... Стук кульбаю ў дзверы: «Дзеўка-дзявіца, русая касіца, адчыні!» Адчыніла Марылька, а ён — шалых за стол і давай вячэраць. А з норкі выбегла Мышка, узбегла на лаўку, на плячо Марыльцы і шэпча ёй на вуха: «Дзеўка-дзявіца, русая касіца, дай мне лыжачку кашы. Я табе буду ў адгодзе ў вялікай прыгодзе».— «Што яна кажа?» — пытаецца Мядзведзь. «Кашы просіць».— «Дай ты ёй лыжкай па лбе!» А Марылька набрала кашы ды бразь лыжкай па лаве, а каша пад лаву.

— А Мышка з'ела кашу?

— Пэўна ж, з'ела. Ты слухай вось.

Ды Ніна ж і так слухае!

— Пад'еўшы, Мядзведзь сказаў: «А ну, дзеўка-дзявіца, русая касіца, пагляджу я, якая ты спрытная. Пасцялі мне на печы пасцель, бо я адпачываць буду, а ты вазьмі званочак, пагасі святло і бегай па хаце...» Марылька паслала Мядзведзю, ды мякка паслала — падушкі-дзяружкі,— тады пагасіла святло і ўзяла званочак. А Мышка падбегла да Марылькі. «Ты,— кажа,— ляж ды спі, а я за цябе пабегаю». І пачаў Мядзведзь шпурляць з печы падушкі-дзяружкі, каб улучыць па званочку. Ды дзе яму ў Мышку папасці! Змарыўся нарэшце і сам заснуў... А ўранні — Марылька спала яшчэ — ён прыслаў ёй пару коней харошых, харошую карэту, золата скрыню і,— бабуля задумваецца на момант, а потым раптам вырашае,— і ўсялякіх харошых суконак. Паслала мачыха дзеда ў лес паглядзець. Пайшоў дзед, ды — а-я-ёй! — здзівіўся. Патарабаніў усё дахаты. А мачыха: «Вязі,— кажа,— і маю ў лес!» Калі гэтая, думае, ды гэтульκі прывезла, дык мая дачушка — ого! Наварыла ёй, напякла, і павёз яе дзед...

— А дзед плакаў?

— А чаго? Яму не грудаю ў чэрава: адна пасаг прывезла, хай прывязе і другая.

Шуміць калаўротак, у шуме яговым прападае дрымотнае мурлыканне ката, а казка плыве паверсе — спакойная, мудрая. Яна ўжо не першая сёння: былі ўжо дзедавы козы, Піліпка-сынок, Ліска з Катом-прымаком.

Мне ўспамінаецца маё недалёкае маленства і чароўны свет бабуліных казак. Гэтым казкам і тады, такса-

ма як цяпер, падпявалі заўсёды шум калаўрота ці ве-рацяна і мурлыканне ката. Успамінаюцца марозныя, снежныя ночы, цёплая печ і цягучы голас бабулінай песні:

А вароты скрыпяць — марозы чуюць —
Коляда, коляда...

Я насцярожваўся з печы ці злазіў на лаву і прылі-паў ілбом да халоднай шыбы акна, стараючыся пачуць праз узорыстую намаразь, як гэта, чуючы марозы, скрыпяць нашы старыя шэрыя вароты. А як я злаваў, але ж і рад быў, калі бабуля жартаўліва спявала:

А ў лесе, у ляску,
На жоўтым пяску —
Коляда, коляда.
Ды Алеська ходзіць,
Ганначку водзіць —
Коляда, коляда...

Бабуля называла дзяўчыну Ганначкай знарок, бо я дружыў тады з Аняй, суседскай дзяўчынкай, з якой мы разам пасвілі свіней.

Сямі год я пайшоў у школу і, авалодаўшы сяк-так польскай мовай, пачаў чытаць. Па-нашаму бацька на-вучыў мяне яшчэ да школы. І вось, чытаючы кнігі,— нашы, польскія, а рускія найбольш,— я радасна ўба-чыў, як разносіцца па свеце радочкамі літараў на па-перы чароўны свет бабуліных казак. Я ўвайшоў у той свет усёй душою. Спачатку былі толькі казкі з вечна шчаслівым канцом, вечнай перамогай дабра, пасля пай-шла суровая падчас, а падчас прыгажэйшая за казкі жыццёвая праўда...

Шум калаўрота і ціхая музыка слоў родзяць шчас-лівыя ўспаміны. Я магу марыць, бо казку гэтую я чуў не раз і не два. А што цяпер думае Ніна? Вочкі ўсе на бабулі, а ў вочках душа. Як мне выказаць тое, што ба-чу ў яе захопленых вачах?..

А казка ўсё плыве.

...Дурнаватая ад пястоты Наталька не дала Мыш-цы кашы, а — лыжкай па лбе. І Мышка пакрыўдзіла-ся, не прыйшла падмяніць яе са званочкам. Ды і па-сцель Мядзведзю Наталька паслала не з падушак-дзя-ружак, а з карчоў ды паленняў. Справядлівая мудрасць народа пакарала зайздросную скупасць і жорсткае сэр-ца: Мядзведзь у цемры забіў Натальку з печы карчом.

— З'еў і костачкі абсмактаў,— сказала бабуля голасам суровага суддзі.— Мачыха чакае свае дачкі з золатам, а дзядок — эх, ідзе па лесе, згорбіўся з мяшком за плячыма, а ў мяшку адны косці. І ўсё.

— А Марылька?

— А Марыльку нейкі добры хлопец замуж узяў, ці што...

— А яшчэ адну, бабка, га?

— А няхай цябе! Ты мяне сёння заездзіш.

— Бабачка, га?

— Ідзі ты. Бацька вунь, бачыш, што казаў,— радзіва прынясе. Кажа — будзе казкі баяць і песні пяяць лепш за бабу. Паглядзім, што гэта будзе за цацка...

— Бабачка мая, галубка мілая, Ганулька,— хоць адну яшчэ, хоць кароценькую, га?

— Адчапіся, слата, у горле перасохла. Прадзі вось лепш, а то будзе бацька без кашулі. А я хоць адсапуся, можа, тады.

Бабуля і ўнучка прадуць. Я гляджу на Ніну, як яна смыкае з сур'ёзным выглядам, і думаю: ах ты! — і верыцца ж ёй, мусіць, што не забаўляецца, а працуе сапраўды, каб тата не хадзіў голы. Бабуля нешта думае. Казка, відаць, разварушыла ўспаміны.

— Маёй сястры-нябожчыцы, хай будзе на хлеб спор,— кажа яна пасля,— таксама сіроты пры мачысе гадаваліся. Прыйдуць гэта да мяне, пачну я ім галоўкі часаць, дык толькі наплачуся...

Старая гатова зноў заплакаць. А Ніна цікуе, як дрыжыць ад жалю бабулін падбародак. Пасля памацала сябе за падбародачак, устала з прасніцы, падышла, прыўзнялася на пальчыкі, памацала бабу за падбародак і спыталася:

— Бабка, а чаму гэта косці?

— От дурненькая! Так жа ж усё целяпалася б.

І «Радзівонаўна» смяецца.

## 4

Апоўдні прыйшла маці з Толікам, накарміла малога, закалыхала яго. Паабедаўшы, сама пайшла зноў. Дзядзька таксама некуды пайшоў.

На такой гаспадарцы, як наша, зімой работы няшмат. Дроў прывезці, звіць пастромкі ці лейцы, лапці падшыць, даць каню і карове — і ўсё. Заработкаў ніякіх няма — ні далёка, ні блізка ад дому. Так і сядзім усе, мужчыны, без работы. Толькі жанчыны працуюць: да палавіны зімы прадуць, а потым ткуць. У кожнай хаце ткацкая фабрыка. Старыя мужчыны, якія раней, калі не было граніцы, што мурам адгарадзіла нас ад Саветаў, бывалі на свеце, працуючы на чыгунцы, у шахтах, на фабрыках, гавораць, што моладзь сядзіць цяпер тут у мяху,— ні табе работы, ні вучобы, ні жыцця...

Вось і дзядзька Міхась,— паныў да поўдня над старым хамутом і пацягнуўся да некага, дзе таксама сядзяць ды чакаюць вясны. Бабуля палезла на печ адпачыць. Мы з Нінай засталіся адны.

Мне толькі гэта і трэба. Я пачну сваю першую карціну — «Казка». Печ, кот, бабуля і ўнучка. Я перадам, як бабуля чаруе малую казкай, а Ніна размроілася, падпёршыся ручкамі. «Во, гэтак во,— будзе паказваць бабуля пальцамі,— гэткі вось маленькі!» І вось я рад, што нікога няма, што малюнак мой будзе зноў неспадзяванкаю для дзядзькі. Тым больш як ён рад будзе, што я выкажу іменна тое, аб чым ён гаварыў у тую ноч. Тое найпрыгажэйшае — дружба старасці і маленства...

Вымаю альбом, алоўкі і ўсміхаюся ад думкі пра тое, які ў мяне цяпер важнецкі выраз твару,— як у таго ката ў калыханцы, што «наеўся, напіўся ды важны зрабіўся...».

— Чаго ты смяешся, Алесь? — пытаецца Ніна. Яна сумуе: прасці не хочацца, нікога няма.

— Так сабе. Што рысаваць буду.

— Нарысуй мяне, га?

— Потым.

— Потым, потым, ты заўсёды потым. Нямка рысуе, сам сябе — дваццаць разоў, а мяне ўсё потым...

— А вось ты, і вось ты,— гартаю я альбом.

— А прадучы, нябось, не нарысуеш, адно казаў...

Тут ужо трэба пацешыць, бо вочы яе набягаюць слязьмі.

— Я цябе буду рысаваць тады, як ты бабуліну казку слухаеш, добра?

— Добра.

А сляза такі не вытрымала і скацілася на шчаку.

— Можа давай цяпер кніжку паглядзім?

— Добра.

Я бяру з паліцы старую рускую хрэстаматыю. Ніна знае ў ёй амаль кожны малюнак, кожную старонку, аднак вельмі любіць, каб ёй паўтаралі.

І вось перагортваюцца старонкі з мядзведзямі і каласамі Шышкіна, школьнай галечай Багданава-Бельскага, казачнымі асілкамі Васняцова; вершы Пушкіна, байкі Крылова чаргуюцца з апавяданнямі Талстога, Чэхава, Караленкі...

Шчасце нашае, што Толік спіць, а то было б не адчапіцца. Я яго проста пстрыкаю за гэта па пальцах. Лепш сказаць — пстрыкаў, пакуль мяне бабуля не аблаяла. Бачу, палезла яна на гарышча і, выбраўшы там шменю лістоў ад старых растрэсеных падручнікаў і сшыткаў, сшывае з іх Толіку кнігу.

«Нашто гэта,— сказаў я,— прывыкне рваць старое,— будзе і добрыя кнігі рваць».

«Дурань,— сказала бабуля.— Прывыкне змалку да кнігі і будзе чалавекам. Усе вы такія былі: і тата твой, і Тодар,— хай здароў будзе, дзе ён ёсць,— і Міхась. А ты, думаеш, не гэткі быў? Або Ніначка? Тыя разы таксама хвошчаш яе па руках, ручкі чырвоныя, пішчыць, а ўсё роўна лезе да кнігі. Дзякуй богу! Гэта не тое, што са мною было!..»

І бабуля расказала мне зноў, як яе малую ў школу не пускалі. «Тата яшчэ сяк-так, а маці дык такі зусім не пускала. Хай, кажа, лепш прадзе: настаўніцай усё роўна не будзе. І што ж я цяпер — гляджу ды не бачу. Яшчэ добра, Сцяпан, твой дзед, разумны быў чалавек, хай будзе на хлеб спор: намогся і вывеў нас у людзі. А то жыў бы ты таксама, як скаціна. Думаеш, не? А ты мне цяпер... На, Толік, будзе і ў цябе свая кніжка, не будуць цябе ганяць, як нядобрага».

Я ўдзячна гляджу на фотаздымак майго дзеда, чыгуначніка, які тысячы дзён і начэй цёр вагонныя буксы, каб у мяне быў разумны, пісьменны бацька. Дзед памёр, не дачакаўшыся, пакуль тата і дзядзька Тодар кончаць навуку. Гэта было ў цяжкія гады пасля грамадзянскай вайны, калі гараджане ўцякалі ў вёску ад голаду і памору. І бабуля ўгаварыла майго тату паехаць у Ганчары, на зруйнаваную вайной гаспадарку.

Дзядзька Тодар упёрся і застаўся там, у Адэсе. Там ён закончыў пасля вышэйшую асвету, стаў гордасцю нашай сям'і. Праўда, бацька мой не здаўся таксама. Бяда і бабуля навучылі яго гаспадарыць, а пра кнігі ён і ў бядзе не забыўся. Ходзіць па іх часамі ажно ў дзесятую вёску. І дзядзька ходзіць, і я хаджу... Ды гэта ўсё не тое, што магло б быць, часта думаю я, успамінаючы пра дзядзьку Тодара, пра той далёкі цудоўны горад, дзе ён цяпер жыве.

Я гадаваўся ў цяжкай працы і ў радаснай дружбе з кнігай. Я рана навучыўся несці кнігу другім. Я ўмею ўжо аддаваць запрацаваны грош на кнігу, а пасля чытаць — слухаць шчырую гутарку вялікіх людзей пра тое, як яны радаваліся і мучыліся ў пошуках праўды і шчасця. Цяпер, на падмен бацьку і дзядзьку, я чытаю ўголас дома і на вячорках моладзі і мужчынам. Я даю кнігі дзецям і дарослым, і як добра потым чуць, што кнігі нашы вандруюць з рук у рукі ў далёкія вёскі. Ды толькі ўсё гэта, вядома, не тое, што магло б быць, каб тата не паслухаў бабулю і не вярнуўся сюды...

А бабуля ж, дарма, што яна амаль непісьменная, слухала гэту чароўную, разумную гутарку кніг яшчэ тады, калі мяне не было, і пасля, калі кніжка была для мяне толькі забаўкай, як для Толіка. Не хапае толькі, каб прыставала таксама, як прыстае Ніна,— чытай мне, і ўсё! — гэтак пераканальна ўмее бабуля прасіць. Аднойчы дзядзьку давялося падслухаць, як яна на вячорках пераказвала бабам аповесць Чэхава «У яры», і дзядзька весела перадаваў нам гэты яе пераказ.

Толькі ў маці нашай дзіўныя адносіны да кнігі. Праўда, яна слухае моўчкі, здаецца — зацікаўлена, часамі нават чытае і сама, але здарацца якія-небудзь нелады ў хаце, скажам — захварэе хто-небудзь з нас, дзяцей, ці якая нястача,— і кнігам дастаецца. Маці папікала бацьку «нежыццёвасцю», нядбальствам, тратай грошай і часу на пустое тады, калі і таго і другога не хапае, а людзі вунь яшчэ і зямельку купляюць, стараюцца...

Ніне чатыры гады, кніга зусім нядаўна перастала быць для яе толькі забаўкай, з таго часу, як яна зразумела, што ў гэтых чорных радочках літар шмат казак, прыгожых таксама, як бабуліны.

І вось мы гартаем з ёю старую хрэстаматыю, якая і мяне калісьці супакойвала і вучыла. Ніна сур'ёзная. Калі ж мы даходзім да яе любімага месца — казкі пра рыбака і рыбку, яна пачынае расказваць сама. Перадае змест кожнай ілюстрацыі і па-свойму цмакае губкамі: «Гэты во, гэты во...»

Толькі над апошнім малюнкам, дзе старая жмінда сядзіць, звесіўшы галаву, над разбітым карытам, а прастадушны дзядок стаіць над ёй, не ведаючы, што пачаць,— Ніна спыняецца і хітра пытае:

— А гэта што, Алесь?

А ведае ж, нябось, сама, што тут ужо я паўтару ёй тое, што казаў аднойчы.

— Баба плача над карытам.

— А дзед?

— Што ж дзед — дзед кажа ёй: «Не плач, бабка, не плач, галубка: знясе табе пеўнік за гэта яечка, не простае, а залатое...»

Ніна смяецца.

— Ну, ты цяпер папішы, а я, брат, буду рысаваць.

— Тады дастань.

Я дастаю ёй з паліцы стары рускі буквар, на якім яшчэ і я вучыўся першай грамаце. Стаўшы на лаве, Ніна вымае з-за іконы сшытак, які хавае туды ад Толіка.

Яна садзіцца за сталом і пачынае крэмзаць свае кручкі і кружочкі, сюд-туд сціраючы іх пальцам.

Я пачынаю нарэшце рысаваць.

Спачатку — печ, тады — на печы ляжыць дзяўчынка.

Гляджу на Ніну, хочучы зрысаваць яе твар.

Спачатку малая не заўважае гэтага, піша, а потым яна раз-пораз цікуе на мяне спадылба і, нарэшце, смяецца.

— Пішы! — надзімаюся я.

Ды яна надзімаецца таксама, стукае кулаком па стале і крычыць:

— А ты — цыц! Рысуеш, дык рысуй!

А тады зноў смяецца, залівіста, звонка.

Я супакойваю яе і зноў рысую. Ды нядоўга. Ніна загарнула свой сшытак, згарнула буквар, паглядзела на мяне, падпёршы шчаку кулачком, і стала сумная.

— Ну, чаго ты?

— Чаго, чаго... І маці пайшла, і тата пайшоў... І дзядзька недзе пацягнуўся. А баба лягла, нават ногі не варушацца... Вунь зірні.

З-за коміна відаць бабуліны валёнкі, якія і сапраўды не варушацца.

— А ты глядзі ў акно,— вунь дзеці бегаюць па снезе.

— Ы... Яны бегаюць, а мне — толькі глядзі.

— Паправішся — пойдзеш і ты.

— Пайдзі пакліч іх. Пайдзі.

І вось я ўводжу ў хату цэлую чараду малых. Лапцікі, боты, валёначкі... І снегу ж нанеслі!

— Толькі не шморгайце гэтак насамі,— кажу я,— а то пабудзіце Толю.

Яны пачынаюць шморгаць яшчэ больш, нібы на апошні раз.

— Чаму ты, Нінка, яшчэ ўсё на вёску не ходзіш? — пытаецца Тоня.

— Я ж хворая была,— сур'ёзна адказвае Ніна,— ледзь не памерла.

— От хваліцца! — шморгае носам Шура.— Дык і я быў хворы. А мне наша мама панчоху мылам намазала і накруціла на шыю. Во!

— Як кабылін хамут! — смяюцца малыя, а разам з імі, нібы найбольш здаволены, Шура.

— А што ваш Коля робіць? — пытаецца ў яго Ніна.

— Што? Вазьміў хлеба і пайшоў у школу. Што!..

— От гаворыць — «вазьміў»,— смяецца з выглядам старэйшай Ніна.— Трэба казаць: узяў.

Пасля нехта з іх прапануе гуляць у хованкі. Усе распранаюцца і пачынаюць шмыгаць па кутках, выціраючы мел, поўзаць жыватамі па падлозе, пад ложкамі, пад сталом. Час ад часу супакойваю іх, каб не пабудзілі Толіка.

Ніна яшчэ слабая і не можа шмат бегаць. Ух, як спацела! Ціха адышлася і села на калодачцы каля печы. Шура, сябар яе, змарыўся таксама.

— Аёячкі! — гаворыць ён, падыходзячы да Ніны.— А чаму ты больш не дурэеш,— гэтак добранька!

— Бо я ж хворая была, ледзь не памерла,— зноў, як старэйшая, гаворыць Ніна.

Шура на гэта не адказвае. Ён выціраецца рукавом,

доўга глядзіць на мяне, а потым кажа радасна, нібы зрабіўшы адкрыццё:

— Сядзіць ды піша!

— Алесь не піша,— папраўляе Ніна.— Ён рысуе. Ён і мяне нарысаваў, і нашу бабу. Хадзем, пакажу.

Спачатку толькі Шура і Ніна, а пасля і ўся чародка, стомленая ад вясёлай гульні, абступае мяне. Што ж, пачынаю паказваць малюнкі.

— Паглянь — во Алесь!

— А во ваш бацька!

— А во твая мама прадзе. Эх, і хустка пад бараду!..

— Ах, божачкі, паглянь — нямко! Ну ж і страшны!..

— Усіх ён рысуе,— от ён!

— Нарысуй мяне, Алесь,— просіць Шура.

— А што дасі? — пытаюся.

— Жыта.

— Колькі жыта?

— Мяшок або яшчэ мнажэй.

— Ды не мнажэй, а трэба казаць: больш,— зноў папраўляе Ніна. І, падумаўшы, дадае: — От дурненькі!

Шура ўспрымае гэта, вядома, без злосці. Ён толькі шморгае носам і зноў, нібы адкрыўшы штосьці, радасна кажа:

— А дзед мне жыта ўсё роўна не дасць. Жыта трэба на хлеб.

Калі мы даходзім да майго апошняга, яшчэ вось не закончанага малюнка, Ніна пачынае тлумачыць:

— Гэта во будзе печ, а гэта — я, а гэта — наша баба. Яна мне заўсёды казкі расказвае.

— А наша мне.

— І мне.

— А мне наш дзед,— гаворыць Шура.

— Ну ж і хваліцца! Хіба ж дзяды расказваюць?!

— Яшчэ дабрэй за вашу бабу. Ён мне во лапці якія пашыў!

Замацоўваючы свой непахісны довад, Шура высока задзірае нагу ў новым, з чырвонай скуры лапціку. І правільна — не чапай майго дзеда!..

Шураў бацька, Іван Бразоўскі, камуніст. Тры гады ён сядзеў у турме, а вярнуўшыся, зноў рабіў сваю справу, і вось ужо каля года, як яго забралі зноў. Гаспадарыць у хаце дзед Паўлюк, з якім наш дзядзька ездзіць

у лес, і Шурава маці, Люба. Яны — суседзі нашы, і дзе б стары ні кашляў — у гумне, у хаце, на двары,— усё чуваць. Не чуваць толькі Любіных песень і плачу: яна калі плача, дык ціха, а песні, здаецца, зусім адлажыла — на доўгі час... І ад Івана не чуваць нічога.

— А гэта во наш кот,— паказвае на малюнку Ніна.

— А я свайго палажу сабе на жывот, дык ён толькі мармыча,— гаворыць Шура, зноў хочучы паказаць сваю перавагу.

— Наш, падла, вельмі дзярэцца,— сур'ёзна скардзіцца Тоня.

— А наш,— смяецца тоўстая Ганначка,— дык ён збанкі з малаком абарочвае.

— Нашых не абярнуў бы,— гаворыць Шура.— Наш дзед зрабіў бы яму рашчэп.

— Ну і што ж, што рашчэп?

— Што? Як сціснула б яго за хвост, дык ён бы толькі... — Шура надзімаецца і прысядае,— дык ён бы... — Шура крычыць на ўсю хату: — Вмя!!!

— Ціха ты, ну і ён! — накінуліся дзяўчаткі.

Ды позна ўжо — Толік прачнуўся.

— І дурэй тут з вамі! — з прыплачам крычыць Ніна.— Узялі мне дзіця пабудзілі!..

— Каторы гэта, каторы? — аказалася з печы бабуля.

Дзеці прыціхлі, як мышы.

— Каторы ж, Шура!— адказвае Ніна. І яна пачынае супакойваць малога: — А-а-а, лю-у-лі...

А тут ужо сталася самае страшнае: з-за коміна пасунуліся на хату дагэтуль нерухомыя бабіны валёнкі, а пасля паказалася і галава з растрэсенымі пасмамі сівых валасоў.

— Ой, толькі горш знебылася! — уздыхае бабуля, а пасля, папраўляючы валасы, пытаецца: — А ты гэта, камандзір, чаго крычыш?

Шура, вядома, робіць выгляд, што яго тут зусім няма. Ніна патузвае калыску за вяроўкі і выводзіць — ажно смешна — тоненька, старанна:

Люлі, люлі, люлі,
Палез кот па дулі...

Тоня падыходзіць да Ніны і, заглянуўшы ў калыску, пытаецца:

— Засне зноў, праўда? Толічак мой, хлопчык!..

А Ніна не адказвае, спявае. Усё калыханкі, адну за адной, якія навучылася ад мамы і бабулі. Тоня, глядзі, усіх іх і не ведае!.. Ды Тоня кажа, зусім як дарослая:

— І я ўсё таксама пяю нашай Зосі.

Ідзе каза рагатая,
Ідзе каза, ідзе,
Барадою трасе,—

спявае Ніна, тузаючы худымі ручкамі за вяроўкі. Драўляны крук калыскі рыпіць пад столлю на жалезным круку, а Толік пакрэктвае толькі, як самы вялікі пан, ды ўторыць Ніне: «а-а-а...».

Шура глядзеў, глядзеў на бабу спадылба, а потым ціхенька за сваю куртачку і да дзвярэй. А за ім — усе...

— Пабудзьце, га? — просіць Ніна, пакінуўшы калыхаць.

— Ды чаго ж гэта вы? — смяецца бабуля.— Бэ-эй! Глядзі ты, як я вас зняважыла!

— Тонечка, пабудзь,— просіць Ніна.

— Але — пабудзь. Усе пайшлі...

І Тоня зачыняе дзверы. Апошняя.

На вялікія сінія вочы пакрыўджанай гаспадынькі набягае сляза. А на вуліцу ўсё яшчэ нельга. Ніна глядзіць, глядзіць на бабулю і вось нарэшце паехала:

— Бяры цяпер... ды сама сваё дзіця калышы, калі ты... вельмі... наша-а-я-я!..

## 5

Хутка пачне сутуняцца.

Я рысую. Бабуля зноў прадзе і гутарыць са сваёй сяброўкай, старой Тадорай, якая прыйшла клікаць яе на вячоркі. На тапчане сядзіць ужо даўно не злосная на бабулю Ніна, а перад ёю галаногі, вясёлы Толік, які выспаўся на поўнае вока і вельмі хоча пагаварыць.

— Хто быў, Толічак, хто? — пытае Ніна з выглядам зусім дарослай цёці.

— Дзед,— адказвае малы.

— А яшчэ хто?

— Бабка.

— І што ў іх было?

— Туляцька.

— І як яна казала?

— Со-ко-ко!

Ніна шчасліва смяецца.

— А што курачка знесла?

— Яецька.

— Ды што?

— Со-ко-ко,— зноў сакоча Толік, забыўшыся, што далей была яшчэ мышка. А Ніна смяецца: «Ой ты мой жулік маленькі!» — цалуе яго і, паваліўшы, казыча,— зусім як мама. Малы крычыць, залівіста смяецца, а потым, наставіўшы пальчык, кажа:

— Не люсь, не мозьна: будзе Толя біць лязінай, ата-та!..

— І гэта ж ён змалку такі,— гаворыць бабуля праз шум калаўротка. Яна расказвае Тадоры пра тату, пра ўсе яго «прыштукі», пачаўшы з таго, што вось ён недзе пацягнуўся ў Невады па «радзіва».

— Тыя разы,— расказвае бабуля,— Мікіта наш шые на машыне, а раз дык адышоўся за дзверы і цікуе праз дзірачку. А Колік, гэта Мікалай, разабраў усю машыну па вінціку. «Ну,— кажа мне Мікіта,— нешта будзе з малога: або вялікі майстар, або вялікі злодзей. Гэта ж шосты гадок!» Ажно ж, бачыш, не выйшла ні злодзея, ні майстра.

— Не грашы, Ганупя,— кажа Тадора,— хай на ўсіх добрых такія сыны.

— Няхай сабе. Я ж нічога. Але навошта яшчэ тыя прыштукі? Падумай сама: цыбулі ў мяне поўная печ, дык ён гэта раз глядзіць-глядзіць на пляцёнкі, а пасля і кажа: «Вы, мама, пляцёнак пасля не выкідайце, а збярыце. Я выдумаў новыя выступкі на боты, каб цяплей было ездзіць у лес». А дзе ж ты,— кажу я,— тыя пасталы падзеў, што майстраваў улетку,— яшчэ ж тых не абнавіў. Дык ён і сам смяецца. А гэта ён сабе дзеравяшкі быў зрабіў, каб ног не калоць па ржышчы. Не раўнуючы, як калісьці святыя апосталы насілі. Ляжаць яны і сёння на хаце, адзін ужо аббэрсаны, а другі — толькі дошчачка. І з пляцёнак таксама пачаў плесці. Нага здаровая, а гэта ж, вядома, выступкі на боты, як карабель стаіць у каморы. Ледзь я не спатыкнулася раз на яго, без агню. То-та ж і бяда, што ён пачаць пачне, ды ніколі нічога не кончыць...

Бабуля смяецца, а потым гаворыць:

— Цяпер, бачыш, не прайсці цераз вуліцу за гэтымі лісапедамі,— як не паколюцца адзін перад адным. А мой жа Мікалай — дзецям бацька! — першы прывёз сюды гэтую цацку. Зайшоў на горку, асядлаў яго, старога, аблезлага скрыпуна,— а вілы ў самога доўгія,— і эх, віль-віль, ды бабах на зямлю. О, кажу, васпан! — і парсючка загнаў, і людзей смяшыш, і нюхаўку расквасіў!.. Эх, ён гэта пырхае, злуе, а пасля і сам рагоча. Пасля гэта павывучваліся абодва. Алесь малы яшчэ быў, і той пачэпіцца збоку, круціць. І добра — ці на кірмаш, ці так куды чаго— усё каня не ганяеш бліз-кі свет, не тнуць яго мухі на рынку. Сказала я гэтае раз, а Мікола мой рад!..

— І правільна, гэта ж культура,— кажу я.

— Бачыў — культура,— адказвае бабуля.— Добра таму культурыць, у каго ёсць за што. А то вось на боты табе сабраў, канешне, трэба, пасля ж усё казаў, што «на пчолы наляжам», ажно гэтае радзіва падагнала. Будзе ўжо і сыты і п'яны! Песняў захацелася... Быў бы сабе, як людзі...

— Ну, разышлася! — не вытрымаў я.— А што, каб бацька, як некаторыя людзі, чарґануў з гэтых грошай на каляды — раз, на Новы год — пахмяліўся,— што вы тады сказалі б?

— Ты ўжо барзджэй як мага церабіся, маляр! — кажа бабуля.— Жартачкі — бацьку зняважыла. «Культура!» Няхай сабе, скажам, радзіва. А якая ж культура з пляцёнак?..

Пасля Тадора пытаецца ў мяне:

— Ты вось, Алеська, усё чытаеш ды малюеш... А скажы — няўжо яно і праўда, радзіва, цягне гэтак далёка без дроту?

Я пачынаю, як магу, тлумачыць, што такое радыё. Тадорка слухала, ківала галавой, нібы згаджалася, а потым кажа:

— Ліхое, ды годзе! А наш Якуб такі ж таксама не дурны чалавек, гаспадар на ўсю вёску, а вочы табе заплявае бы. «Гэта ўсё,— кажа ён,— адны гультайскія выдумкі. Хай мне вачэй не туманяць. Гэта скрынка сама грае, як грамафон». А ты зноў вунь што кажаш. От дзе свет паўстаў!

— Усё яно як усё,— сказала, падумаўшы трохі, бабуля,— але нашаму пакуль што зусім не след тое ра-

дзіва. Абышоўся б і без гэтага, уга! Адна слава — дзень, два, [redacted] пасля будзе, як і з усім іншым: пачне сам правіць і выправіць. А ботаў не будзе, а пчолак і пагатоў...

...Дзядзька вярнуўся прыцемкам.

У хаце шэра без агню і ціха. Бабуля пайшла на вячоркі. Я ляжу на тапчане, прыслухоўваючыся, як за шырмаю шчабечуць з мамай малыя, і думаю сваё — пра новы, яшчэ не скончаны малюнак.

— Скажы, бацькі няма,— пачаў дзядзька, прысеўшы каля стала.— Начаваць хіба будзе, ці што?..

Я мармытнуў толькі «ўгу» і маўчу: я адчуваю, што ён хоча гаварыць. Цяжка сказаць чаму, але ў дружбе, такой, як наша, лёгка адчуваецца настрой другога,— нават [redacted] намёкаў ведаеш ужо, аб чым ён будзе гаварыць. І я маўчу, чакаю.

— Ты скажы,— пачынае дзядзька,— а я, брат, ніяк не магу дачакацца. Ты ўяўляеш,— цяпер недзе Мінск ці Масква... І жывуць яны сваім жыццём, кіпучым, шырокім, а мы... І вось тата твой брыдзе зараз у цемры па снезе, нясе пад пахай маленькую, чорную штучку — радыёапарат і радасна мармыча. Боты цяжкія, ногі таксама, але дух бадзёры. Бо і як яму, скажы, не радавацца? Вось ён прыйдзе дамоў, разграбём снег ля вугла хаты, выдзяўбем ямачку, закапаем туды стары дзедаўскі чайнік... Дваццаць год праслужыў ён твайму дзеду. Шыпеў, булькатаў пад пастукванне колаў вагонных, а нам вось паслужыць іншую службу. Цяпер да яго прыпаяем медны дроцік, другі такі дроцік расцягнем на дзвюх занёманскіх жэрдзінах, звядзём дроцікі ў чорную штучку — апарат, і тады ўжо твой бацька прамовіць, як той біблейскі бог: «Хай будзе святло!»

І святло тое прыйдзе...

Летась увосені, Алесь,— у дзень туманны, з балотам, слатой і сумам на сэрцы — бачыў я, як над нашымі Ганчарамі, невядома адкуль узяўшыся, праляцелі тры марскія чайкі. Можа, з Нарачы, можа, з далёкага мора. Мне хацелася бегчы за імі па гразі, бегчы ў замглёны свет, туды, дзе ракоча і пеніцца мора, гаворыць пра тое, што цудоўны, бязмежны свет не казка, а сапраўднасць. Такая, брат Алесь, туга — балючая, размашыстая, што кліча ўдаль. І нічога ж, нават не кігікнулі чайкі ні разу, толькі паварочваліся, пабліскваючы беллю на шэрым фоне неба, а ўжо запахла морам, па-

чуліся хвалі, захацелася плакаць. Падумай толькі: колькі таго жыцця, а свет такі прыгожы, повен магутных, хвалюючых таямніц, а мы тут такія бедныя, што не кожны нават можа ахапіць розумам усю яго красу і сілу!..

Як я хачу часам падкрасціся, сарваць з усёй зямлі заслону і ўбачыць, пачуць усё. Палажыць руку на пульс жыцця, заслухацца ў яго біцці — творчым, несмяротным...

А тут табе турмы, драты і штыкі на граніцы, свету толькі ў акне, а для душы, якой так хочацца лёту,— цяжкія ад балота лапці...

Ты мяне ведаеш, Алесь. Я, каб дайсці да сапраўднага шчасця людзей, не хачу... не магу пераступіць цераз труп нават аднаго чалавека... Часамі, праўда, мне цесна, душна з такою верай. Ох, як душна, як мучаць сумненні! І гэта чым далей, тым больш. Як хочацца сапраўднай працы, барацьбы — не толькі кніжку камусьці даць, не толькі крэмзаць паперу...

І вось цяпер гэтае радыё.

Здаецца, мы недзе ў цёмным і душным закутку. І вось намацае нехта акенца, выцягне з яго заткала — стане больш і святла, і паветра. Цяпер вунь холад і цемра за сценамі, а ў гэтай цемры, тоўхаючыся аб нашы ўбогія стрэхі, просяцца ў хату песні і казкі, просіцца розум і радасць... І ўсё гэта — адтуль, усё па-нашаму, усё — для нас!.. Як я хацеў бы быць работнікам гэтай вялікай справы!..

Доўга маўчым, а потым я з усмешкай расказваю яму, пра што старая гаварыла нядаўна з Тадорай.

— Гэта нічога,— адказвае ён.— Гэта толькі раўніве бурчанне старасці на ўсё, што новае. Якуб, браток гэтай самай Тадоры, не адзін кол на спіне пахвастаў бы сыну свайму за такія культурныя прыштукі. Там ужо не наіўная цемра... Ну, а бабуля наша — чалавек вясёлы.

## 6

Вясна.

Досвіткам пайшоў дожджык, і раніца спазнілася. Такая яна шэрая, заспаная. Нашы яшчэ спяць, толькі я ляжу, не сплючы ад поўначы, і пасыкваю, прыслу-

хоўваючыся, як наспявае мой нарыў на руцэ, як ён пячэ і патузвае. З-за акна чуваць чырыканне вераб'ёў, а за дзвярыма ў кухні клохкае, прачнуўшыся, квактуха і ціўкаюць кураняты.

Я адшчапіў кручок, піхнуў рукою форткі. Акно адчынілася, у хату дыхнула вясна.

Столькі фарбаў цяпер у свежай зелені палёў, перамежанай палосамі шэрай раллі, у зелені лугоў, папырсканай жаўцізной расцвіўшай лотаці, у сiняватай смузе далягляду! Гэтак хораша распускаюцца яблынькі над вільготнымі шэрымі градамі, зубкаватыя лісточкі бярозы і лапкі памазаных мёдам кляновых лістоў. І вечары такія ціхія, цудоўныя!..

А рысаваць усё ж не хочацца. Чаму — не ведаю сам. Мусіць, таму, чаму цяпер Ніне не хочацца бабуліных казак. Вясна.

Вось яны, дзеці, спяць абое, смачна, нагуляўшыся за дзень да поўнае знямогі,— Ніна каля мамы на ложку, а Толік на падлозе ў начоўках. З таго дня, як ён пазнаў смак прастору і сонца, вочы хочуць смяяцца, а ногі — тупаць і тупаць. Надоечы сам пачаў вылазіць з калыскі ды ўпаў на падлогу, і таму яго зараз кладуць у начоўках. Сёння ён толькі нешта заспаў. Пад дожджык.

Ды вось Толік устаў, пацёр вочы і вылез з начовак. Я прыціх: пагляджу. Малы адвык ужо клікаць на помач бабулю ці маму і пачынае свой дзень самастойна. Вочы яшчэ не смяюцца, а жмурацца заспана, ды ножкі тупаюць ужо, бягуць. Папяўся на клямку, адчыніў і моцна пхнуў аберуч дзверы ў кухню, а сам з размаху стаў рукамі на парог. Пакуль ён угрунтоўваецца на нагах,— перад ім ужо клохкае яго найбольшы вораг, квактуха. Яна сунецца, натапырыўшы белае пер'е, а за ёю — жоўтыя пушыстыя «цівачкі», за якіх яна так балюча клюецца. Толік не губляецца: левай рукой ён гладзіць пад кароткай кашулькай голы пуп, а правай — настаўляе пагрозліва палец і кажа:

— Не люсь, туліца, не мозьна! Будзе Толя біць лязінай, ата-та!

Але «туліца» клохкае і грозна сунецца на яго. Тады малы вяртаецца ў хату і шукае «лязіны». У кутку стаіць кульба, якой бабуля, хварэючы, падпірае сваю старасць. Толік бярэ яе як папала, за канец, падымае дуж-

кай угару і паварочваецца да ворага. Вораг перабраўся ўжо цераз парог і кліча за сабой сваю піскліваю дружыну. Пачынаецца бітва. Толік устае на пальчыкі і зверху б'е кульбай перад самай дзюбай квактухі. Неданос! Курыца натапырваецца і грозна пад'язджае, але кульба ападае зноў і на гэты раз удала, па пер'і. Квактуха з крыкам адступае, а за ёю сыплюцца кураняты. Пераможца праследуе: бярэцца адной рукой за вушак дзвярэй, другой валачэ за сабой кульбу і шырока сігае цераз парог. Але кульба чапляецца дужкай за вушак, і, патузаўшы трохі, Толік пакідае яе і трухціць за курыцай бяззбройны, толькі ў кароткай кашульцы. Спачатку чуваць бразганне клямкі ў сені, а пасля баявы вокліч квактухі і прарэзлівае: «Ба-ба!»

Я бягу на ратунак.

— Ну чаго ж ты, чаго? — бяру малога на здаровую руку.

А вось і бабуля прачнулася. І ручкі самі працягваюцца да яе.

— Ну, мы ёй, гэтай курыцы, нябось!.. А ты бо вельмі ваяка. Ну, не плач.

Так пачынаецца новы дзень. Бабуля будзіць маму. Мы з Толікам ідзём у адрыну, будзім бацьку і дзядзьку. Яны мыюцца каля студні, бяруць вілы і з мамай ідуць у поле растрасаць гной пад бульбу. Бабуля адзявае Толіка, і «за ручку» яны ідуць удваіх даіць карову.

Пакуль сырадой дзюрчыць у даёнку і ўздымаецца белым, салодкім шумам, пузаты пан стаіць за парогам, раз-пораз падымае пагрозліва пальчык і кажа:

— Не люсь, калёва, не мозьна: будзе Толя біць лязінай, ата-та!

А худая Красуля спакойна жуе жвачку і глядзіць на яго вялікімі добрымі вачыма.

Толькі Ніна яшчэ ўсё спіць.

Сонца не ўзышло, а выйшла з-за хмары шырокімі косамі ўніз і заліло ўсё ласкавым святлом. Вясёлы шпак трапеча крыльцамі, спявае сонцу сваю гулліваю песню. А побач з ім, на галінцы клёну, цвіркае верабей, яшчэ ўсё не пакідаючы надзеі выпрасіць у шпака яго новую хату. Каровы ўжо прайшлі на пашу. Сірата Коля Халодны, гуртавы пастушок, трубіць у бутэльку без дна, выклікаючы з двароў авечкі. Толік даўно ўжо

выпіў сваю шклянку сырадою і працягвае ранішні абход гаспадаркі.

А Ніна спіць. Як міла раскінула яна свае тонкія ручкі, як хораша ёй са смуглявым румянцам першага веснавога загару!

Перад акном у нас расцвітае чаромха. Я выходжу ў гародчык і абламваю галінку, стараючыся не абтрэсці расу з лістоў і духавітых кветак. Пасля кладу яе Ніне на падушку побач з яе кучаравай галоўкай. Малая ледзь прыкметна ўсміхаецца.

— Ну, ну, не прыкідвайся, уставай! — кажу я. І Ніна расплюшчвае вочы. Смяецца... Бо, пэўна, добра цяпер нагуляцца з сяброўкамі і сябрукамі пасля доўгай зімы, з яе душнаю хатай, хваробай і страшнымі банькамі, нагуляцца, а потым так соладка спаць і ўсміхацца праз сон! Не хочацца нават бабуліных казак, бо вясна бае сваю чароўную сонечную казку, бо гэтак соладка пахне над плотам росная чаромха.

Успамінаю пра сродак на гэтую ленасць.

— Уставай,— кажу,— паслухаем радыё.

— Паглянь, як будзе хораша — устану.

— А як казка?

— То гэтак во, памаленьку.

— А як песенька?

— То гэтак во — гоп!

Я надзяю навушнікі і ўключаю кантакт — «Хай будзе святло!».

«...нашу перадачу для дашкольнікаў,— гаворыць прыемны жаночы голас,— беларускай народнай казкай «Пых».

— Цсіі! — махаю я на Ніну, і яна ўжо на лаве. Знімае другую пару навушнікаў, расчэплівае іх і накладае на вушы. А тым часам праходзяць словы:

«Жылі-былі дзядулька, бабулька і ўнучка Аленка. І быў у іх гарод...

Ніна зацíхла і не змаргне.

...А ў гародзе тым і капуста, і бурачкі, нават і рэпка жоўтая расла.

Захацелася дзеду рэпкі...»

— Бабка, бабка, сюды!

— Чаго? — паказалася з кухні бабуля.

— Борздзенька, бабка!

Бабуля выцірае аб фартух рукі і на вушы свае, што

век не бачылі свету з-пад розных там хустак, накладае чарадзейскія вушы — навушнікі.

I заціхла...

А я ўсміхаюся як пераможца.

Пэўна! — гары сабе на скаварадзе цыбуля, астывай у цёрле недатоўчаная бульба, бо нам цяпер не да гэтага! З-пад снегу векавога прыгону выбілася наша народная казка, расплылася па свеце і, зліўшыся з пахамі вясны, зачаравала ўсіх — і маленства, і старасць!

Ну, каб не гэты нарыў,— што выйшаў бы за малюнак!..

## 7

Малюнак не выйшаў...

На трэці дзень пасля таго, як у мяне з'явілася жаданне пачаць яго, паліцыя забрала дзядзьку Міхася.

Прыехалі культурна, на веласіпедах, у хаце яшчэ надзелі яму наручнікі і павялі...

Такое тут бачылі часта. Не плакалі толькі бацька і я. Ну, вядома ж, не плакаў і дзядзька. Ён спрабаваў нават усміхацца і пацяшаць нас, ды ўсё гэта было не так...

Праз некалькі дзён яго гналі гасцінцам з мястэчка, дзе пастарунак, у павятовы горад, дзе турма. На гэты раз ён быў адзін арыштаваны з Ганчароў, аднак разам з намі да гасцінца выйшлі некалькі чалавек. Як заўсёды бывала. Блізка, вядома, нас не падпусцілі. Дзядзька ішоў не адзін,— чалавек іх ішло з пятнаццаць, як навабранцы. Паліцыянты пазлазілі з веласіпедаў і, злосна пакрыкваючы на нас, ішлі абочынамі дарогі.

Вось і ўсё.

Калі для нашай сям'і гэта нова, дык для ўсіх, хто навокал жыве, усё гэта — старая песня. Ну, што з таго, што ў Ганчарах забралі Міхася Ганчарыка, які, кажуць, усё чытаў ды пісаў, купіў радыё і слухаў яго месяцы са тры?.. Думаў, што адаткне акенца ў цёмным і душным закутку і сам будзе дыхаць, яму толькі стане святлей... Ды не — казалі, ён не такі: ён для ўсіх адчыняў сваю хату, дзяліў двое навушнікаў на чатырох суседзяў і сяброў, дзяліўся з імі родным хлебам розуму і радасці, якія ішлі з Усходу. Ды вось знайшоўся

сабака і на яго. Добра яшчэ, што аднаго з хаты ўзялі: застаўся бацька, будзе каму араць ды касіць. А то дык і самога гаспадара, і хлопца маглі ўзяць, дарма, што яму шаснаццаць,— бяруць у людзей і такіх...

І вось мы робім з бацькам наш чорны кавалак хлеба ўдвух.

Гэта — не хлеб, гэта — торф, які мы капаем сёння на лузе.

Луг шырокі,— прастора ад поля да лесу,— у іншы час можа нават і паказацца, што тут прывольна. Ды паласа нашай сенажаці вузкая, як і ў большасці іншых,— на тры пракосы і «адбоек», паўпракос, які я яшчэ пазалетась выскубаў ад чужое травы адзін, пакуль вучыўся касіць. Яму капаем упоперак, каб торф складаць на сваёй траве. Бацька стаіць у чорнай калатушы па калені, увесь запэцканы, мокры ад поту, гразі і дажджу, які цярушыць сёння з самага ранку, нібы ўвосень. З ямы відаць толькі бацькава галава, без шапкі, з сівізною, якой, здаецца, стала значна больш. Ён заўзята маўчыць і шпурляе наверх вялікія чорныя цаглiны торфу, а я адношу іх і складаю адну пры адной. Цагліны мокрыя, слізкія, цяжкія. Ды мне ўсё роўна лягчэй, чым бацьку, а ён усё не хоча, каб я яго падмяніў.

— Яшчэ накапаешся,— адказвае, нібы яму ад гэтага лягчэй.

Пад шэрым небам, на мокрай зялёнай прасторы мы не адны. Мы толькі бліжэй да гасцінца. Далей ад нас, у бок лесу,— відаць, як чарнеецца торф, ходзяць, згінаюцца ды разгінаюцца хлопцы, дзяўчаты, відаць нават, як выскакваюць з ямаў тарфіны. Хутка касавіца, усе нарыхтоўваюць паліва, каб за лета высахла. Лішне глыбока па торф не залезеш і двойчы з адной ямы яго не возьмеш. Такіх ямаў, залітых вадой, на лузе з кожным годам больш ды больш. Сена ад гэтага не робіцца больш, і дровы ў казённым ці ў купецкім лесе не таннеюць.

Жаўранкі не баяцца такога дажджу, як сёння. Іх не відаць у цьмяным небе, а толькі песня звініць, цярушыцца на траву, на кветкі і тарфяную чарнату разам з бясконцымі кропелькамі цёплага дажджу.

З гасцінца чуваць то грукат колаў, калі яны ўз'яз-

джаюць на брук ці на мост, то час ад часу прагудзе аўтамашына. Машын у паноў няшмат, ходзяць рэдка.

Ужо было пад абед, калі я ўбачыў, як з гасцінца лугам ішоў да нас чалавек.

— Нехта ідзе,— сказаў я.

Бацька пакінуў капаць, а потым вылез з ямы.

Мы не малыя, таксама і ў цуды не верым, як бабы, а ўсё ж дзядзькі няма цэлы месяц, і невядома, калі ён прыйдзе. Няма пісем, не было і суда. Калі ж ён не вядомы — час яго звароту, дык чаму ж гэта мае адбыцца не сёння?.. Гэта — не думка, а туга, балючая, маўклівая туга... І мы з бацькам стаім і глядзім у той бок, адкуль да нас ідзе па лугавой дарозе чалавек...

Расчараванне было не поўнае.

— Іван,— сказаў бацька.

Мы пайшлі насустрач.

Гэта быў наш сусед, Іван Бразоўскі, Шуркаў бацька.

— Іван Паўлавіч, браце! — усклікнуў тата і, яшчэ не дайшоўшы да яго, неяк дзіўна, неяк па-бабску, як здалося мне, спытаўся: — Міхася ты не бачыў?

Іван быў страшны: яшчэ больш ссутулены, бледны, у пашарпаным адзенні. Падраныя чаравікі на босую нагу больш за ўсё іншае гаварылі, што ён з далёкай дарогі... Але ўсё ўсміхаўся, як і заўсёды раней.

— Здароў, здароў, Мікола Сцяпанавіч,— сказаў ён.— Бачыў, брат, бачыў. Здароў, Алесь! Як, брат, цябе пацягнула ўгару.

— Ну, і як жа ён, што ён казаў? Вашы, браток, усе здаровы. Бацька з Міхасём нашым усю зіму ездзілі ў лес, малыя растуць.

— Коля ўжо, мусіць, вучыцца? — з усмешкай спытаўся Іван.— А як Люба? Як Шурка?

— Коля вучыцца,— сказаў бацька, прыкметна спяшаючыся расказваць,— Шурка з Нінай маёй не разлівада, а Люба, браток, яна, сам ведаеш, плача... Ну, дык што ж ён казаў?

— Нічога не казаў,— зноў усміхнуўся Іван.— А як ён,— скажу. Закурыць няма? Хаця ж, ты не курыш... Забыўся. Я, брат, і гаварыць амаль забыўся за год. Давай прысядзем.

Мы паселі на мокрай траве, дзе стаялі.

— Міхась у Бярозе,— сказаў Іван.

І ўсё адразу стала ясна.

Пра гэта месца гаварылася шмат, аб ім спявалі песні, за якія вельмі проста было трапіць туды, пра што спяваеш. Канцэнтрацыйны лагер, зроблены пяць год таму назад у дапамогу турмам, якімі ўжо цяжка, відаць, запалохаць народ. Картуз-Бяроза — два словы, што на ўсю Польшчу і на ўвесь свет праславілі дагэтуль невядомае заходнебеларускае мястэчка.

— Бачыў я яго цэлы месяц,— гаварыў Іван.— Аднак гаварыць не прыйшлося. Сам ведаеш, чуў — там не гавораць. Там ты, брат, не Мікола Ганчарык, а я не Іван Бразоўскі. Нумар 2786-ы. Ну, у Міхася ён быў большы на некалькі сот папаўнення. І заўсёды — маўчы!.. Ведаеш, як сустракаюць там нашага брата? Нават і пана Дэмбіну, што вёз нас туды, сустрэча гэтая кранула за сэрца. За паліцэйскае сэрца, чуеш? За кіламетр да лагера кажа: «Ну, камісары, сядзьце ды падсілкуйцеся з мамінай торбы. Тут вас накормяць!..» Вядома, селі, а ў горла не лезе... Не толькі навічкам, а і нам, хто ўжо дагэтуль еў у наручніках. А сустрэча такая — па камандзе «бягом!» скрозь паліцэйскі строй, пад гумамі. Пасля каля самага дроту паставілі на калені. Ботам у спіну, каб тварам адчуў гэты калючы дрот, адчуў, што значыць «вольна і непадлегла айчызна» [1] пана Пілсудскага. Так вось і жыў да апошняга дня, не ведаючы, колькі там прыйдзецца прасядзець. Праўда, мы не сядзелі. Работа такая, каб ты таксама помніў, дзе знаходзішся: каменне цягаем з месца на месца, яму капаем тры дні — глыбокую, прамую, роўненька абскрэбваючы бакі,— а потым засыпаем і ўтрамбоўваем... А вольны час прастойвалі «на бачнасць» [2]. Сядзець можна толькі на падлозе, абняўшы калені. А горш за ўсё — магільнае маўчанне. Або шэпт — асцярожны, ціiшком... Адзін толькі раз пачуў я там адкрыта чалавечы голас. Гэта было спачатку, як толькі нас прыгналі. На калідоры нас зноў малацілі гумавымі палкамі, прыгаворваючы: «Тэмп камунэ!» [3] І вось адзін украінец гукнуў на ўвесь калідор: «Хай жывэ Радзяньскі...» Дакончыць яму не далі. Збілі так, што ляжаў у крыві.

---

[1] Свабодная і незалежная бацькаўшчына.
[2] Смірна.
[3] Знішчай камуну!

Малады таварыш, гарачы. Там наша справа — выседзець тэрмін ды зноў на волю. Гэта, брат, не турма... Ну, дык як жа нам, Мікола Сцяпанавіч, закурыць?

— Ды што курыць,— узняўся бацька з травы.— Хадзем лепш да торбы ды перакусім.

— І гэта можна. Таксама ёсць апетыт.

Бацька пакроіў хлеб і парэзаў тонкае сала. Выняў з торбы маладую цыбулю і паўлітроўку малака. Сеўшы, Іван усміхнуўся:

— Міхась, здаецца, мяса не еў?

— Але, брат, ён у нас два гады быў вегетарыянцам,— сказаў бацька і, мне здалося, засаромеўся. Але таксама ўсміхнуўся, дадаўшы:— Каб яшчэ трохі, дык і нас з Алесем угаварыў бы.

— Ат, годзе вам! — перапыніў я бацьку і зачырванеўся.

— Дзівак Міхась,— сказаў, кіўнуўшы галавой, Іван.— Лячыць народ ад голаду вегетарыянствам! Здорава, дальбог! А ўсё ж харошы дзівак. Шкада такую сілу. Ды нічога, і ён зразумее...

— Ты не сказаў, Іван, як ты бачыў яго.

— Ну, што там бачыў! Бачыў. Першы раз бачыў, калі іх гналі ў сталовую. Метраў пяцьсот «качыным крокам» — на кукішках, трымаючыся аберуч за вушы. «Слухаён рад'я з Масквы!» — рагаталі паліцыянты. Гэта не спецыяльна для Міхася прыдумана: такі паход усе праходзілі — беларусы, украінцы, палякі... Пасля мы аднойчы стаялі побач «на бачнасць». Як заўсёды, маўчалі, глядзелі ў сцяну. А як жа мне хацелася хоць твар, хоць вочы ягоныя ўбачыць, каб хоць вачыма сказаць яму, напомніць яго ранейшыя словы: «Каб дайсці да сапраўднага шчасця людзей, не хачу пераступіць цераз труп нават аднаго чалавека...» Ды не яго гэта словы, не нашы! Даўно мы пераступілі цераз іх, таксама як пераступілі цераз труп царызму, як пераступім цераз панскі труп!..

Бацька маўчаў. Ніколі яшчэ я не бачыў яго такім сумным, прыгнечаным.

— І што ж, забралі ўсё? — спытаў Іван.

— Усё. І прыёмнік, і ўсё, што ён пісаў.

— Ну, бачыш. Не раз я гаварыў табе, што справа не ў гэтым, што трэба змагацца з панамі інакш.

На гэты раз маўчанне было вельмі горкае.

— Там не адзін Міхась,— сказаў Іван.— Бачыў я і яшчэ з нашага боку. Усе, хто думае, хто хоча жыць,— усе за кратамі ды за дратамі. Не, брат, так доўга не будзе. Хопіць!

Мы памаўчалі зноў.

— Ну што, Алесь, а ты рысуеш? — спытаў Іван.

— Ат, рысую...— сказаў я, і першы раз за ўсё жыццё стала не радасна, а сорамна ад гэткага пытання.

— А што там «ат»! Ты, хлопец, духам не падай, рысуй. Хлеб наш горкі, але не вечны. Як паночкі гавораць: «Няма таго дрэннага, з якога добрае не выйшла б». Чуў? Будзе і наша свята. Што дзень — то бліжэй яно, а ты ж яшчэ хлапчук,— возьмеш сваё... А гэта я не так сказаў: не паночкі гавораць, а польскі народ. Ён таксама свабоды чакае, таксама сядзіць — і ў бядзе, і ў турме, і ў Бярозе... Ну, а што тут у нас?

І мы расказвалі. Ды гэта ўжо нецікава.

Калі Іван пайшоў далей па лугавой дарозе і з тарфяных ям насустрач яму выходзілі людзі, з якімі ён гаварыў, і потым, калі ён памалу зацёрся ў шэра-зялёнай далечыні,— мы ўсё з бацькам стаялі. Што думаў бацька — не ведаю. Ён быў таксама пануры.

У мяне быў не сум, а боль на душы. Мне хацелася зараз жа, следам, ісці за Іванам, спытацца ў яго пра многае, аб чым я думаў сам, асабліва апошнімі днямі. Хацелася сказаць яму, што дзядзька, самы лепшы друг мой, дзядзька Міхась не раз сумняваўся ў тым, у што верыў. І я пачну цяпер, усё пачну ад пачатку — і кожны дзень майго жыцця, і кожны малюнак у новым альбоме. Я не дам яго ў рукі таму, хто накладаў дзядзьку наручнікі! Буду вучыцца і ў такіх, як Іван, буду шукаць іх, часцей выходзячы з хаты, у якой прайшло яно і ўжо не вернецца назад, маё юнацтва. Не вернецца — і не трэба! Толькі б дзядзька вярнуўся!

— Што, Алесь, мо пачнём?..

Як ён змарнеў за гэты час, мой бацька! А ўсё ж ідзе да ямы першы.

— Я палезу капаць,— сказаў я.— Ты пaскладай.

Ён паглядзеў на мяне, падумаў, здаецца, нават усміхнуўся і аддаў рыдлёўку.

*1943—1955 гг.*

# У ЗАБАЛОЦЦІ ДНЕЕ

## 1

...Першы паход «у людзі» пачаўся ў мяне вельмі рана.

Быў я тады такім яшчэ ваякам, што пасвіў за вёскай рабую свінню і лічыў гэта поўнай жыццёвай нагрузкай. Ляснуў неяк мокрай пугай па агароджы з калючага дроту, а пуга заматалася канцом за калючку. Выйсці з гэтага тупіка, як мне здавалася тады, было зусім немагчыма, і я заплакаў, не выпускаючы з рук пугаўя.

Ужо тады мой бацька, Пятрусь Сурмак, вымушаны быў лічыць мяне памочнікам у гаспадарцы. І я пайшоў у пастухі да Бабрука, найбагацейшага ў нашым Забалоцці.

Гэта было вясной дваццаць пятага года. Памятаю, як тата панура сігаў па вуліцы вёскі, а ўслед за яго вялікімі босымі ступакамі я трухаў подбегам. Спатыкнуўся на коўзкай пасля дажджу сцяжынцы і пляснуўся на рукі ў гразь.

— Ну што ты,— азірнуўся бацька,— не падай духам, дзівак-чалавек...

А сам быў пануры тады, не смяяўся.

Дык і як жа смяяцца было таму, хто тройчы быў паранены, меў два георгіеўскія крыжы, камандаваў пры штурме Перакопа ўзводам і вось, вярнуўшыся ў родную заходнебеларускую вёску, што зноў трапіла ў лапы паноў, павінен аддаваць у батракі сямігадовага, першага сына?..

Неўзабаве я апынуўся за высокімі шэрымі варотамі Бабруковага двара, а бацька пайшоў дахаты... Нямала было пасля варот і весніц на чужых дварах, з якіх я

выганяў штодня чужую жывёлу, аднак найбольш запомніліся тыя вароты, што ўпершыню засланілі ад мяне і родную хату, і першае шчасце жыцця. Зрэшты, не ведаю, ці можна наогул назваць шчасцем першыя сем год, пражытыя ў галоднай і голай бядняцкай сям'і...

«Нямоглы ён у вас, малы яшчэ, якая з яго дапамога», — уздыхала Бабручыха.

Яна была цётка набожная — кожную справу ў сваёй гаспадарцы пачынала малітвай з трэбніка. Былі ў той цуда-кнізе розныя «чыны» — малітвы і трэбы: і над гумном, і над печчу, і над сырам, і над яйкамі... І ўсе яны, тыя «чыны», вельмі ўдала дапасоўваліся да патрэб Бабруковай сям'і. «Освяти, приумножь, огради от врага»,— перабірала Бабручыха па складах, і заклінанні гэтыя гучалі ў вуснах яе вельмі шчыра. Гаспадары мае толькі і думалі, каб усяго ў іх было шмат, больш, чым ва ўсіх, больш, чым у ворагаў. Неяк адзін з гэтых ворагаў укінуў у Бабрукову студню здохлую варону. І на гэты выпадак у трэбніку знайшоўся адмысловы «чын», які спраўляецца тады «аще случится чесому скверному впасти в кладезь водный». Бабручыха клялася і плакала, слібізуючы старадаўнія царкоўныя словы, і ў галаву ёй нават не прыйшло, што гэтай вароной мой папярэднік, пастушок Лёня Шарэйка, аддзякаваў ім за горкую службу. У чарадзе Бабруковых свіней, якіх я пасвіў на выгане, быў адзін вельмі няежны парсючок. Разоў дзесяць чытала над ім гаспадыня «молитву о скверно ядших», але ні слова, вядома, не гаварылася аб тым, што я хадзіў упрыгаладзь, у лахманах, недасыпаў, не мог вучыцца...

Мне было чатырнаццаць год, калі бацьку прывезлі з маёнтка на параконных драбінах. Ён ляжаў на саломе ў крыві і толькі стагнаў, пакуль мужчыны знімалі яго і ўносілі ў хату. Бацька цяслярыў у пана, і там яго прыбіла каля зруба дзеравякай. Так і памёр — непрытомны.

Я быў тады яшчэ ўсё пастухом: пасвіў ужо забалоцкія коні. Мікола, малодшы брат, вучыўся пасвіць каровы, а Валька гуляла ў пяску каля прызбы. Маці нашай не заставалася нічога іншага, як запрэгчы ў гаспадарку мяне.

У плузе наш каняга ніяк не цягнуў. Я кідаў на спі-

ну яго ўсе праклёны і просьбы, якія толькі мог прыдумаць, сцёбаў пугай, а потым, плачучы, заходзіў спераду, браў за аброць і дзіка біў па галаве пугаўём... Конь намагаўся ўзняць найвышэй сваю храпу і вочы, блытаў нагамі пастромкі, а потым, калі я пускаў павады, ён круціў галавой і ўздыхаў са старэчым дакорам... Я садзіўся на плуг і стараўся, як кажуць, узяцца за розум. А потым зноў прасіў каня ісці, і ён ішоў,— мы цягнулі ў канец паласы баразну, нібы разам ужо зразумеўшы, што іншага выхаду з нашай пакуты пакуль што няма.

Маме было не лягчэй. Плачучы, часта лаяла мяне то абібокам, то навабранцам, хоць ні тое, ні другое не падыходзіла,— я стараўся як мог, а да салдат было яшчэ далёка.

Але і гэты час прыйшоў — паны паклікалі мяне служыць у іхнім войску.

Гэта быў мой другі паход «у людзі».

Да чыгуначнай станцыі ад нашай вёскі сорак тры кіламетры. І на ўвесь гэты шлях у маці з лішкам хапіла слёз... Канчаўся сакавік, ужо спявалі жаўранкі. Не хацелася ні піць, ні крычаць — думаў горкую думу пра тое, што вось ты недзе рос, і ніхто не пытаўся дагэтуль, дзе ты рос, як ты рос, а вырас — знайшлі. Потым, на станцыі, калі наш паравоз сіпеў, а п'яная братва крычала «Нонешні дзянёчак»,— маці ўсё намагалася прабіцца праз паліцэйскі кардон, каб развітацца са мной і нешта сказаць яшчэ раз...

— Дык мой жа хлопец там! — здзіўлялася яна на ўсе іх забароны, ніяк не верачы таму, што я ўжо быў асуджаны быць не яе і не сваім, а іхнім.

Ды іхнім я не стаў.

Следам за мной з паліцэйскага пастарунка прыйшла мая характарыстыка. «Мы ведаем цябе, Сурмак,— крычаў лядашчы капрал Капы́тка.— Ты, хаме, і пана Езуса босага па ржышчы ганяў бы!..»

Нeяк гэты Капытка, скачучы, як верабей, перад строем, доўга лаяў мяне то «быдлам з усходу», то гэтак далей, а потым, не пераносячы маёй усмешкі, палез з рукамі да твару. Тут ужо я не сцярпеў — чарпануў яго па-мужыцку па носе і, разумеецца, адразу сеў. Тоўсценькі пракурор з вялізнай шабляй, падобны на пеўня з дзіцячых кніжак, без асаблівых цяжкасцей

давёў «высокаму суду», што ўсё гэта — «замаскаваная рука бальшавікоў», і мне адмералі даволі шчодра.

Адсядзець прыгавор не прыйшлося: судзілі мяне ўлетку трыццаць дзевятага года. Праз некалькі тыдняў пасля суда тыя, каго мы так доўга чакалі з усходу, разбілі жалезную браму панскай турмы.

У свой трэці, найбольшы, паход я выйшаў на другі дзень Айчыннай вайны, а вярнуўся дахаты позняй восенню сорак сёмага года...

## 2

Апошнія дваццаць кіламетраў прыйшлося фарсіраваць пехатой.

Ішоў так добра знаёмым гасцінцам, думаў пра многае — і пра тыя паходы мае, і пра маці: колькі разоў яна праводзіла мяне з дому, колькі разоў сустракала. Пра Валю думаў — як ёй жывецца ў новай сям'і. Як там Мікола спраўляецца? Што там цяпер у нашым Забалоцці?

Сёе-тое было мне вядома. Ды што пісьмы!..

Нядрэнна, каб загула за мной машына, загрукаталі па бруку калёсы, каб нехта спыніўся і крыкнуў: «Садзіся, салдат, падвязу!»

Але нікога, на жаль, не было. Навокал стаяў туман. Толькі старыя бярозы ды маладыя дрэўцы прысадаў тырчалі абапал гасцінца.

На пад'ёме Высокай гары дагнаў я фурманку з адным чалавекам. Першая жывая душа на шляху ад райцэнтра дахаты, і душа вельмі добра знаёмая...

Стары Бабрук сядзеў на возе, затуліўшыся ў каўнер, і я вырашыў прайсці міма. Колы грукацелі па бруку, і вось праз грукат за мной пачуўся голас:

— Сурмак! Васіль Пятровіч!.. Ды стой ты, тпру!.. А-а, вось гэта радасць дык радасць!..

Хоць радасць была і не вельмі вялікая, прыйшлося павітацца, а потым, калі дарога пайшла з гары, і прысесці на воз.

— З Германіі? — спытаўся Бабрук.— Маці, бедная, вочы свае праглядзела, чакаючы вас...

— А вы, дзядзька, адкуль? Пастаўку, мусіць, вазілі?

Спытаўся я наўздагад, каб толькі не слухаць няшчырасці, але трапіў якраз.

— А ўжо ж ніяк не здам. Пастаўку...

— Ды нешта ж вы адзін з сяла. Спазніліся, ці што?

— Якое, Васіль Пятровіч, спазніўся! Важу — ніяк не пераважу. Зноў кулаком захацелі зрабіць, як у трыццаць дзевятым. Трыццаць, кажа, гектараў зямлі. А што я — чужое забраў? Парабкаў, кажа, ды наймічак трымаў. Час быў такі, не я адзін трымаў. Ды і не мог жа я адзін усё ўрабіць. А сёння што?.. Самі здаровы, бачыце, якія шаты на мне. Ды што тут будзеш гаварыць!

«...Нямоглы ён у вас, малая з яго дапамога»,— успылі мне на думку салодкія словы старой Бабручыхі.

— Мая ездзіла на тым тыдні ў Мінск,— гудзеў стары.— У міністэрства. Казалі, што разбяруцца, будуць нашую справу яшчэ раз глядзець. Канешне, гэта ўсё бсвае падкусваюць, на месцы. А зверху начальства бачыць, што да чаго...

«Цікава, гэта таксама з трэбніка ці так сабе — хатняя мудрасць? — падумаў я.— І якое тут трэба адмысловае начальства, каб распазнаць цябе, такую цацу? І пра сынкоў тваіх я ведаю таксама сёе-тое...»

Непрыкметна насоўвалася ноч. З нізкага цьмянага неба пасыпаў мокры, лянівы, дакучлівы снег.

— Гразі толькі прыбудзе,— бурчаў праз мокрыя вусы Бабрук.— І на небе парадку няма, о-хо-хо!..

Конь валокся памалу, нібы таксама на злосць.

— Калгаса ў нас яшчэ няма?

— Пакуль што, дзякуй богу, ціха. Толькі ў Кленаве зрабілі яго напрадвесні. А ў Панямонні, дык там адразу пасля вайны.

— Ну, і як там жывуць?

— Жывуць... Казалі — па два кілаграмы ўзялі. На гэты самы трудны дзень. А праўда гэта ці не...

— А як па-вашаму — праўда?

— Я не кажу, што няпраўда.

— Дык што — мала гэта ці многа?

— Я не кажу, што мала...

— А што?

— Адзін бог святы ведае, што будзе і як будзе... Ну ж ты, паўзеш, здыхата!..

Я дастаў папяросу і вырашыў лепш памаўчаць. Ды тут на Бабрука найшла хвіліна — разбуркаўся:

— Адзін бог святы ведае, я ж і кажу... Вы чалавек бывалы, самі ведаеце, што робіцца на свеце. Кіпіць, як у гаршку. Яшчэ, як той казаў, не ўсё закончана...

— А хто так казаў?

— Ды ніхто... так гаворыцца...

— Ну, а чаму ж так гаворыцца?

— А хто яго ведае...

— Ну, вы ж гаворыце так.

— А што я гавару? Што мне казаць. А ну ж ты, здыхата, пайшоў...

Ззаду загрукацелі колы. Нехта даганяў нас на добрым, відаць, кані. З разгону гэты конь амаль упёрся пернямі ў палукашак воза. Ён горача задыхаў мне на карак і шчаку, а потым гулліва хапіў касмыль Бабруковай саломы і трасянуў яе над нашымі галовамі.

— Эй, хто там маслёнку вязе? Паганяй! — пачуўся голас з-за каня.

— Ячны! Дзядзька Сцяпан! — ускрыкнуў я і, перакінуўшы цераз драбіны ногі, саскочыў на зямлю.

— Ластаўка, тпрру! — скамандаваў Ячны. А потым, нахіліўшыся да самага твару, пазнаў мяне, пхнуў рукою ў грудзі, здзівіўся: — А братка ж ты мой,— Васіль!.. Ярмак Цімафеевіч, пакарыцель Берліна!.. Ластаўка, стой! — мы зараз чмокнемся з госцем...

Кабыліца стаяла і так, а я не дазволіў Ячнаму турбаваць сваю старасць, уставаць,— абхапіў яго за плечы...

— Бар-радою аброс, стары, казычашся, як мокрае памяло...

— А я, брат, гляджу... Скачы на воз, падварушым... Мяшок? Ну, і мяшок бяры сюды.

Кабыліца кранула на рысь.

— А я гляджу,— крычаў стары, каб перакрыць калёсны грукат,— што там за «Пшанічны» такі з'явіўся, што Ячнага нават ноччу пазнаў. Ці не Бабрук падказаў?

Сказаў ён з кпінай у голасе і, рыссю мінаючы воз Бабрука, молада крыкнуў:

— Эй, на дзесяты дзень дзевятую вярсту, што вашым перадаць?!

Пасля, калі Ластаўка прыпынілася бегчы і колы загрукалі значна цішэй, Ячны сказаў:

— І ўсё скрыпіць, усё точыць, як шашаль... А ты, Ярмак, таксама дзівак-чалавек: Берлін у Гітлера забраў, а ехаць сеў з такім падкапаем!.. Ды што вам!.. Ха, ха, ха!.. То ж вы — роднаму парабку родны кулак — сваякі!

— А сам ты, дзядзька, дзе быў?

— Я? Івана падвозіў на станцыю. У Мінск паехаў, у інстытут. Прафесар будзе з Ячнага,— знай нашых!..

— А Кастусь як жыве?

— Косця мой? У райсавеце ён, чацвёрты год ад лета.

— А сакратар райкома хто — Павел Іванавіч?

Спытаўся чамусьці, хоць з пісьмаў ведаў і пра сыноў яго, і пра тое, што Паўлюк Канцавы — пры панах палітвязень — да вайны быў старшынёй нашага Панямонскага сельсавета, у вайну камандаваў партызанскай брыгадай, а цяпер...

— Павел Іванавіч, а хто ж! — здзівіўся Ячны.— Паўлюк у райкоме, а мой Кастусь у райсавеце. У Шаўчэнкі ён — левая рука. Раманаў правая, а ён левая — загадчык аддзела сельскага і калгаснага будаўніцтва. Таксама, можна сказаць, намеснік старшыні!..

«Прафесар будзе», «загадчык аддзела» — якія словы пайшлі тут у ход! Хацеў пачаставаць старога папяросай, ды ён махнуў на гэта рукой і насыпаў мне на газетны лісток добрыя шчопці мультану.

— Курыць дык курыць. Адразу адчуеш, што дома.

## 3

Над Забалоццем вісела ноч.

Ячны хацеў падкаціць мяне да самага парога, але я пайшоў ад брамы яго пехатой. Праз запацелыя вокны хат сям-там пазіралі агні. І снег усё яшчэ ішоў, лез у вочы сляпіцай. Зямля і стрэхі пакрыліся беллю. Ад снегу трохі відней. Зрэшты, сядзібу нашу — дарма, што не быў столькі год,— я пазнаў бы, здаецца, і вобмацкам. Клён стаіць яшчэ, той самы клён, на якім мы лазілі ў свой час, каб давесці, хто мацней свішча ў пальцы. Хаты, з якой я выходзіў у свет, няма. На месцы

яе — зямлянка. Побач з зямлянкай новая хата, аб якой мне пісалі Мікола і Валя. Вокны ад вуліцы забіты аполкамі: не адолеў Мікола ўсяго да зімы. Аднак ужо не ў зямлянцы, а ў новым кухонным акне гарыць утульны агеньчык.

Калі я бразнуў заскакам новай брамкі, да варот, пад ногі мне, пакаціўся з абураным брэхам шчанюк.

«Абрастае, шэльма,— падумаў я пра Міколу.— І плот, і браму завёў, і сабаку...»

Ды вось ад кухні, з парога, мусіць, пачуўся голас:

— Хто там?

Я выйшаў на святло, што падала з акна на снег, і сказаў тое першае слова, якога так даўно не паўтараў уголас...

Каб увайсці назад у кухню, старая патрымалася спачатку за вушак дзвярэй, а потым у сенцах доўга шукала рукамі клямку. У кухні пры святле паглядзела на мяне, усхліпнула, а тады, як быццам не вітаўшыся яшчэ, выцерла рукі аб фартух...

— Сыночак... хлопчык мой... Прыйшоў...

Міколе дваццаць чацвёрты год. Хлопец узмужнеў, перарос і мяне. Калі ён — зірнуўшы, відаць, у акно — убег з двара і мы павіталіся, старая заплакала зноў. А я заўважыў падкурчаныя пальцы Міколавай левай рукі і тры калодачкі на грудзях.

— Дрэнна пакуль што з такою рукой?

— Адзін разочак цюкнула ў плячо, а колькі марокі. Нашуся, як дурань са ступай. На Чорнай: памятаеш, за паваротам, дзе жыў Кулеш?..

І тут жа, каля парога, пачаў расказваць пра той іх партызанскі бой, пра самалёт, які перакінуў яго пасля ранення цераз фронт, пра іх шпіталь — ажно ў Сталінабадзе... Тое самае, словам, пра што пісаў мне ў сорак чацвёртым.

— Ну што ж,— сказаў ён, спахапіўшыся,— нясі, старая, закуску на стол. А мне прыйдзецца пайсці Тарадру́ разбудзіць.

Мікола прыслухаўся:

— Чакай, Капейка ідзе! Гэты дастане.

За дзвярыма адзін раз — відаць, пад прызвычаенай рукой — бразнула клямка, дзверы прыадчыніліся, і неяк задам увайшоў незнаёмы хлапчына. Здаравенныя плечы яго сутуліліся, і галава на тоўстым карку кры-

вілася неяк уперад і набок. Кепка была насунута на вочы, а пад кепкай ніяк не магло схавацца гладкае, чырвонае мурло.

— Васіль Пятровіч? — пачаў ён.— З прыездам!

Ён нават усміхнууўся з-пад кепкі, з вахлакаватай далікатнасцю паціснуўшы маю руку.

— Схадзі ты, Сяргей, да свае Тарадры́ і валачы сюды «гусака»,— сказаў Мікола.— Глядзі, каб толькі не паслед.

— Хто гэта? — спытаўся я, калі незнаёмы выйшаў.

— Сталяр. Валочыцца тут хутка год. А хто, адкуль — так і не дойдзеш да ладу... Вокны робіць у нас. Капейка. Прозвішча такое.

— Толькі цікуе спадылба, як той воўк,— сказала мама.— А робіць — ну, што мокрае гарыць. Ты, Мікола, па Валю схадзіў бы. А то няхай лепш заўтра. Цягнуцца ёй з хутара сюды па цемрадзі такой ды з дзіцем на руках. Узаўтра раненька прымчыцца.

Неўзабаве Капейка зноў улез праз дзверы неяк задам і паставіў на стол «гусака» — заткнёны коркам з газетнай паперы літр самагонкі.

— Беларуская падстольная,— сказаў Мікола.— З Тарадрынога спіртзавода. Як там, Сяргей?

— Яна таннейшая,— прагудзеў Капейка.— І п'ецца лепш, асобенна калі два разы перагнаць.

Ён пачаў распранацца, як свой.

Пілі з адной шклянкі, і пачынала, вядома, маці.

— Ну што ж,— сказала яна,— дай бог, сыночкі, каб больш не прыйшлося нікуды хадзіць. Будзьце, дзеці, здаровы!..

Яна выпіла сваю кроплю і, па старому звычаю, падкінула да столі пырскі недапітага.

— І ўсё плача,— паківаў галавою наш партызан.— Цяпер ужо няма чаго.

Выпіў я, а за мною наліў Мікола.

— Разыдзіся, нячыстая сіла, застаніся, чысты спірт,— хрысціў ён шклянку пастаўленай рабром далонню,— не прымі, божа, за п'янства, прымі за лякарства.

— Здаў, галубок, акзамінт якраз,— усміхнулася маці з дакорам.— А гэты во яшчэ, настаўнічак,— зірні, як жлукча.

І праўда: Капейка не піў, як людзі п'юць, а неяк

падчэпіць пасудзіну ніжняй губой і плюхне шклянку, як у халяву. Выпіўшы, ён паглядзеў на Міколу і, нібы яшчэ ўсё з-пад кепкі, задаволена бліснуў вачыма.

«Што за такая кампанія, хлопча»,— падумаў я, зірнуўшы на свайго. А ён, яшчэ весялейшы ад чаркі, пачаў гаварыць:

— Што ж, рсказваць табе? Раскажу. Што першае ў нас — дык гэта клуб. Пісаў я табе, ды ўсяго не апішаш. Сам ведаеш, што значыць раскалыхаць. «Хто яго, а хто яго...» Але наш камсамол прыналёг, і гатова. Стаіць, як шкляначка.— Ён засмяяўся.— Хочаш, дык павіншуй мяне. Загадчык клуба.

— Ну што ж, хваліся, брат,— гэтым можна.

Мікола зразумеў намёк.

— А гэтым я і не хвалюся,— паказаў ён хворай рукой на бутэльку.— Гэта, брат, так сабе — перажытак у свядомасці масаў. А мы «Паўлінку» рыхтуем. Шляхціц Крыніцкі ў нас слабаваты: Іван Аўдолевіч ніяк у аглоблі не зойдзе. Так што паспееш і ты.

— Ну, што ты хочаш — адразу? На гэты раз я пагляджу.

— Ой, Васілёк,— сказала маці,— і праўда ёсць на што паглядзець. Леначка, каб здарова была, наша настаўніца, так зробіць, так зробіць усё...

— Што — Леначка? — перапыніў старую Мікола.— Не адна яна робіць усё... Давай яшчэ па каліве возьмем, Васіль.

Мы выпілі па каліве — адны мужчыны, і я сказаў:

— А ты, брат, бачу я, зайздросны стаў. Баішся — я падумаю, што гэтая ваша Леначка і сапраўды адна спраўляецца.

— Што — зайздросны? — змахнуў Мікола крошку са стала.— Ты нашай Лены не бачыў. Паглядзіш.

— Ну, а з калгасам усё яшчэ ні гу-гу?

— Ты што? Смяешся?

— Ды не,— абняў я шырокія плечы Міколы.— Я ж з Ячным ехаў. Ты забыўся? Чуў, брат, усё. Маладзец!

Мікола засмяяўся, пачырванеў.

— Эх, Васіль! — стукнуў ён па стале кулаком.— Каб ты ведаў, як добра, што ты ўжо вярнуўся. Войска, брат, ёсць. Узвод — не ўзвод, а аддзяленне добрае збярэцца. Актыў сапраўдны. Каманду толькі добрую — і пойдзем.

Мне стала нeяк няёмка.

— Падумаеш — Аніку-воіна чакалі. Годзе ты...

Я ўстаў, тады сеў і ледзь не паказаў Міколе на Капейку: глядзі, як цікуе ўвесь час спадылба.

— Як па-вашаму,— звярнуўся я да яго,— калгас павінен атрымацца ў нашым Забалоцці?

Капейка пакінуў жаваць.

— Вам, канешне, відней. А мне што гаварыць? Я чалавек нетутэйшы.

— Я ведаю, што вы нетутэйшы...

Ён неўзабаве ўстаў і пачаў апранацца.

— Я пайду, Мікалай. У вас сёння і самім будзе цеснавата. Бывайце здаровы.

Як толькі дзверы за ім зачыніліся, я сказаў:

— Вось гэты, дык, па-мойму, не актыў.

— Ну, бачыш,— сказаў, пачакаўшы, Мікола.— А ты пра тое, што я з ім п'ю...

Ён паглядзеў на цёмнае акно, памаўчаў і падсеў да мяне.

— Так, брат, п'ю,— пачаў ледзь не шэптам.— І, можа, нават замала. Бо нічога пакуль што не кажа. Недарма ён ходзіць тут у нас,— што хочаш кажы, а я ведаю. Яшчэ на Шпэка вока ёсць, ды той хітры, як вуж. Ну, Бабруку ўжо правую лапу адсеклі — Мітрафан яго сеў. А левая лапа, Грышка, ажно ў Англію трапіла. Ды, зрэшты, чорт яго ведае, можа, таксама ходзіць тут, як Носік. Рымшу нейкага, кажуць, скінулі сюды на парашуце. Ловяць яго трэці месяц...

— А ты цішэй,— таксама зашаптала маці.— Ліха ім верыла: стаіць каторы ды слухае. Ды і агонь мо тушыце? А ну іх!..

— Не «ну іх», а мы іх!

— Вось ты які! — не вытрымаў я.— Маладзец, партызан! Не нам іх баяцца. Ты ж у мяне вунь які вырас!..

Я ўжо трымаў яго за руку вышэй локця.

— Ты ў мяне, брат, здаравяка!..

І тут мне стала няёмка, нібы цяпер толькі ўбачыў, што ў хлопца такая рука. Мікола заўважыў гэта і засмяяўся:

— Нічога, я і так пакажу вам, таварыш гвардыі старшына, як пастукваць абцасамі!..

Ён згроб мяне адной рукой за гімнасцёрку на грудзях і, трэба сказаць, ніштавата.

— Хрысціцеся вы! — засмяялася маці. А сама тым часам глядзіць, што тут у нас піва, як кажуць, а не пярэліўкі, і падалася паўз сцяну на печ.

Пусціўшы мяне, задыханы Мікола пастаяў, паглядзеў на акно, і смех сышоў з яго вачэй.

— Ну, чорт,— сказаў ён.— І чаму мне, скажы ты, здаецца? Вазьму батарэйку... Пайшлі!

Снег яшчэ ўсё ішоў. І сляды ад парога былі ўжо прысыпаны. Толькі тут, каля акна, і ад акна за вароты — яны былі свежыя...

— А што, не казала старая? — спытаўся Мікола.— Вось бачыш — пастаяў, паслухаў.

## 4

Устала маці на досвітку. І так іх ніколі не будзіць ніхто — нашых матак, а тут жа свята такое, госць...

«Аладкі будзе пячы»,— падумаў я з даўняй, дзіцячай усмешкай. Заўсёды ж у нас адзначаюць усякае свята аладкамі.

І праўда, старая пакашляла трохі, нездаволена мармычучы нешта на кашаль, злезла з печы, памылася па-бабску, не здымаючы хусткі, і стала маліцца. Як заўсёды раней, каб лішне не траціць часу, яна сумяшчала гэта з работай,— пачала падпальваць печ. Калі зазвінела першая скаварада і мамін твар асвяціўся подыхам полымя, я не вытрымаў больш, азваўся:

— Ці помніш ты...

— Ай-ёй,— сумелася яна,— разбудзіла. Ты паспаў бы з дарогі, а я...

— Нічога, выспаўся. Ты помніш, будзіла мяне калісьці ў лес або малаціць цапамі? І паўтарала часта песню. Як там тая свякроў гаварыла нявестцы?

Устань, галубка,
устань, нябога,—
вакол суседзі
таўкуць ды мелюць,
а ў нас з табою —
не чуваць нічога...

— Ды што ж ты раптам успомніў? — з усмешкай здзівілася маці.— А ўставаць ты спачатку не вельмі хацеў. Блазнота горкая была. Нагараваўся змалку...

Яна дастала з печы скавародку, перавярнула аладку на другі бок і, успёршыся на гаршчэшнік, падумала.

— А пры немцах, сынок, колькі гора было,— пачала, памаўчаўшы.— Вядзе мяне Мікола ў лес, а ззаду за намі вёска гарыць, кулі свішчуць. Прадвесне гэта было, дык лёд на Нёмане распух і нават угінаецца, сынок. Стала я пасярод ракі, перахрысцілася і думаю: «Пашлі, божа, раптоўную смерць. Праваліцца б адразу — і ўсё. Навошта буду вам, думаю, дзеткі мае, замінаць...» Але ж не! — перажыла паноў і на гітлераў пагібелі дачакалася. На цёплай печы ляжу, і сыноў прычакала. А зазлую — і ўнукаў прычакаю!.. Ну, ідзі сюды.

На рог стала, засланы чыстым абрусам, лягла першая аладка.

— Уставаць тыя разы не хочацца,— успамінаў я далей,— на дварэ холадна, а падумаеш пра гэта — яшчэ, здаецца, халадней. А ўстаў, памыўся — адразу не тое...

— Ты адпачні, сынок, дзень-два, а там ужо і за работу. Міколе ж аднаму ай-ёй як цяжка.

— Эх! — крактануў Мікола, устаючы.— І Міколе не вельмі цяжка, і Васіль успамінае ўсё гэта не так сабе.

— А што,— сказаў я,— цябе і падварушваць ужо не трэба?

— Ды з гэтай справай, брат, якраз наадварот пайшло. Мы падварушваем старых. І ў сорак другім, калі ў партызаны ішлі, і цяпер.

Ён пачаў апранацца.

— Ідзі, сынок, ідзі,— здагадалася маці.— Валька там і не ведае яшчэ нічога, ідзі.

Мікола пайшоў.

Дровы ў печы гарэлі дарма, а маці, забыўшыся пра аладкі, палівала на рукі мне халодную ваду — ласка, якую грэх не прыняць. З вадой на вочы ўсходзіла ранняя свежасць.

— Нішто сабе, мама, хлопец — Мікола наш, га?

Я націраю твар суравым ручніком, а яна ўсё глядзіць на мяне.

— Харошы, Васілёк. Усюды паспявае. Гарачы толькі залішне. Ім жа таксама нялёгка было, партызанам. Ідуць тыя разы, а мы... Начамі вока не зводзіш... Ды ўсё прайшло. Цяпер глядзіце самі: вам відней. Толькі не вельмі камандуй, сынок. Я і Міколе заўсёды кажу: ідзі з людзьмі, бо людзі ў нас харошыя. Не ўсе, а многа харошых, многа!..

Шэсць год таму назад, калі мяне праводзілі на фронт, Валя наша была худым, танканогім падлеткам, пацалаваць якога на развітанне можна было толькі прыгнуўшыся.

А тут стаіць перада мной такая ладная ўжо маладзічка, з чорнымі косамі пад хусцінкай, з дзіцем на руках, і ледзь не плача ад радасці, як плачуць пры спатканні ўсе сталыя жанчыны, што бачылі нямала гора на вяку.

— Зірні ж хоць на дзеўку маю...

Я ўзяў на рукі маленькую Верачку, падобную да сваёй мамы, і, на радасць сястры, прыгарнуўся шчакой да поўнай, ружовай шчочкі яе дзяўчынкі.

— А дзе ж Міхась? — спыталася мама.

— Ідуць усё недзе з Міколам. А яшчэ і закурваць спыніліся. Ды вунь яны прыйшлі!..

Міхась увайшоў на мыліцах.

Валя выйшла за яго яшчэ ў партызанах, за пару месяцаў да прыходу Савецкай Арміі. Яму было дваццаць два, а ёй — васемнаццаць. А ўвосені таго ж самага года, ва Усходняй Прусіі, хлопцу перасекла чаргой кулямёта нагу.

Я падышоў ад акна да парога, насустрач Міхасю, і мы першы раз у жыцці павіталіся з ім, як вітаюцца сваякі.

— Сігарэтак лёганькіх прывёз? — па-свойму «без перасядкі» спытаўся мой паважаны швагрусь.

...Народу сабралася шмат. Прыйшоў, зразумела, Ячны — раней за ўсіх. Прыйшлі мае сябры — Шарэйка, Іван Аўдолевіч, Чыгунок... Прыйшлі старыя маміны сяброўкі, каб разам з ёй пацешыцца маім зваротам, каб разам і паплакаць яшчэ раз аб тых, што не прыйдуць. Прыйшлі малодшыя хлопцы, Міколавы сябры. Нашылася поўная кухня дзяцей...

І пачалася вясёлая гутарка, асабліва тады, калі селі за стол.

— Шолахава ты, Васіль, дзе-небудзь там не спатыкаў? — пытаўся Ячны, хітравата прыплюшчыўшы вока.— «Ціхі Дон» прачытаў, «Паднятую цаліну» прачытаў. Ну ж, брат ты мой, і піша!.. Грышка Мелехаў, га? А за Аксінняй я і сам пабегаў бы, дальбог!

— Ты глядзі яго, крактуна! — засмяяліся бабы.— Жаніцца, можа, уздумаў. Ды цябе ўжо, Сцяпанка, сырая ажэніць!..

— Мяне? — паправіў Ячны сівы вус.— Я толькі жыць пачаў, а вы... А ў «Цаліне», Васіль? Давыдаў, Нагульнаў, га? Агонь, а не хлопцы!..— І раптам, успомніўшы нешта, стары зажмурыў вочы, як кот, і засмяяўся, крутануўшы галавой.— А дзед Шчукар які? Каб яму так лёганька ікнулася, калі жывы!.. Я гэта, брат, чытаў нядаўна і думаў: няўжо і ў нас, калі калгас будуць рабіць, такая самая ламаніна пачнецца, як там?..

— Го-го-го,— баском засмяяўся чубаты, чарнявы Алесь Чыгунок.— Як зарэжаш, стары, цялушку ды струбіш адзін, як той Шчукар,— ламаніна, вядома, будзе!

У адказ на рогат тых, хто ведаў пра Шчукаровы пакуты, Ячны і сам пасмяяўся, а потым пачаў больш сур'ёзна:

— Я пра тое, ці будуць і ў нас таксама агінацца ды крактаць? У нас павінна ўсё гэта пайсці трошкі лягчэй. Там жа толькі пачатак быў, і сапраўды, як той казаў, цаліна. А ў нас жа гэтую цаліну яшчэ перад вайной трохі разварушылі. І ў вайну людзі паглядзелі таксама, на чым свет стаіць. То ж нам з калгасамі не пачынаць,— мы ўжо следам за дзедам паедзем.

— Эх, разышоўся стары, як той упаўнаважаны,— усміхнуўся Шарэйка.

— У-паў-на-ва-жа-ны,— перакрывіў яго Ячны.— Каб сербануў і ты за век таго, што я ці, скажам, бацька твой... А я і ў партызанах разам з вамі быў. А ты... Адваяваўся і на печ. Ваяка!..

— Святыя словы, ды трошкі спазніліся,— засмяяўся Шарэйка.— Я, брат, не толькі сам заяву сёння напісаў, яшчэ і Камлюку прыйшлося памагчы.

Стары глядзеў на Шарэйку, а той — цераз стол — падміргнуў яму вельмі падобна да Ячнага і, працягнуўшы чарку, лузгануў языком.

— Будзь здароў, куме сонца!..

Мы налілі і чокнуліся яшчэ раз. На ўсю кампанію шклянак было толькі шэсць, а так хацелася чокнуцца з кожным адразу і кожнаму сказаць, як гаварыла мне маці: «а людзі ў нас харошыя. Не ўсе, а многа харошых». І я сказаў:

— Каму ж, хлопцы, пачаць, як не нам? Можа, нас напалохаюць тыя, што будуць шаптаць з-за вугла ды чакаць паратунку з-за мора?

— А будуць, трасца ім, шаптаць! — пакруціў галавою Ячны.— Ды... не толькі шаптаць!.. Святая Ганначка залётае па хатах зноў: «Слава нашаму госпаду, вайна будзе, вайна!..» А ў Бабручыхі глядзі што іконы пачнуць абнаўляцца. І ўсё гэта, брат, па адной у іх біблііі ідзе. Недарма ж яны і пры немцах сышліся ў адно — і носікі і бабрукі — усе святыя!..

— Малавата нас трохі спачатку,— сказаў Мікола.— Пакуль раскалышуцца.

— Канешне,— усміхнуўся Ячны.— Паспрабуй ты такога вось, як ён, раскалыхаць!..— Стары паказаў на Міхася.— То ж таксама будзе мармытаць спачатку. Зямлі панскай, шэльма, наараў, багацеем зрабіўся.

— А што,— загрымеў мой швагрусь,— зямля цяпер наша — арэм. Усё народнае: лясы, і воды, і нетры... Ваявалі за што? Я наараў, ты наараў, а калі я трохі больш,— дык табе ўжо і забалела...

— «Лясы і нетры»,— паўтарыў, смеючыся, Ячны.— А вось глядзі, каб не прыйшлося нам і цябе разам з Бабруком раскулачваць... От дзе лямант паднімеш: «А я ж бядняк быў пры панах!! А я ж!..»

— Дзядзька Сцяпан! — старалася перакрычаць Ячнага Валя.— Дзядзька Сцяпан!

— Ну што? Ну што — Сцяпан?

— Які яшчэ, дзядзька Сцяпан, работнік будзе з майго Міхася, вось паглядзіце! А я, па-вашаму, што? Што, у мяне рук няма?

— Ай-ёй, куды яму, беднаму, без нагі... — пачала маці, але Міхась перабіў яе:

— Нічога, цешча, мы і на адной назе з другімі

справімся. А ты, стары, не мялі. Я пакуль што цераз хлеб хлеба шукаць не збіраюся. Давай, швагер, яшчэ сігарэтку.

Мы закурылі. Мне стала ніякавата.

Учора, калі мама расказвала, як добра Валя жыве за сваім Міхасём, я прымаў яе словы за простую матчыну радасць. Вядома ж, «дарма, што ён калека, інвалід, а ўсё спраўна ў яго гаспадарцы: і хату новую зрабіў, і хлеб, як той казаў, ёсць, і да хлеба!..» Нават калі ён сам, Міхась, хваліўся мне, што «аднаго япрука на дванаццаць пудоў пакаціў, а другога гадую»,— я прымаў гэта проста за радасць былога бядняцкага хлопца, які дарваўся нарэшце да вольнай зямлі. Цяпер жа ад слоў яго зрабілася неяк не вельмі...

— Давайце, можа, песню, як даўней? — усміхнулася Валя.— Ты ж, Васіль, гэтак любіў!

Ад позірку яе і ад такой просьбы мне стала весела.

— Даўней? — спытаў я.— І ты ўжо сёння старая? Ну што ж, калі так — пачынай!..

І Валя пачала.

Спявалі дружна. Размахваў рукой падвясёлены чаркай Ячны. Басіў Чыгунок. Старанна, але фальшыва падпяваў Аўдолевіч. Яшчэ дзявочымі галасамі выводзілі маладзіцы. Прыемным голасам ішоў па версе Мікола.

Наша дружба навек нерушима,
Наша молодость вечно жива,—

запяваў ён, і здавалася хлопцу, відаць, што зноў едзе пушчанскай дарогай на верным кані.

І вось там, дзе мы павінны былі зноў падтрымаць яго хорам, мой паважаны швагрусь, які дагэтуль цягнуў неяк глуха, нібы пакрыўджана, распраставаў свае здаравенныя грудзі — даў голас.

Співаючы, я з намёкам падміргнуў Міхасёвай памочніцы: паглядзі, што за хват! Валя зразумела мяне, кіўнула, не выходзячы з голасу, галавой і ўдзячна ўсміхнулася: «Вось бачыш, недарэмна я палюбіла яго. І паглядзіш — усё будзе добра!»

Так зразумеў я гэтую ўсмешку.

## 5

Санны выезд у лес.

Хораша ўсё гэта выглядае, калі на шэрую зямлю, на лёд ракі і выбоі разбітай за восень дарогі пасцелецца вялізнае палотнішча іскрыстай снежнай белі. Прыемна на санях, калі вясёлы конь імчыць цябе і толькі фыркае насустрач ветру.

На лузе — ні душы. Вунь дзе толькі вяртаецца з вёскі ліса. Рудая плямка сунецца па снежнай нерушы, нібы строчыць па кужалі ўзор сваіх дробных, сям-там прыцёртых памялом хваста слядоў. Іх не відаць, я толькі думаю аб іх, мне толькі хочацца скочыць з саней і даганяць яе — да самага лесу.

— Ага! — крычыць услед лісе той, што едзе за мною — Гаўрусь Каляда. Ён злазіць са сваіх саней і, як мядзведзь, бяжыць за мной па цаліне,— здаравенны, у доўгім кажусе і цяжкіх валёнках. Узваліўшыся на мае сані, Гаўрусь смяецца: — Закурым, Васіль!

Мы частуемся самасадам, а ліса ўсё бяжыць, як і бегла. Не чуе нас: далёка.

— Снедаць недзе хадзіла,— гаворыць Гаўрусь.— Цікава, да нас ці ў Клёнава?.. А нашы, бачыш, не едуць ніхто. На людзях дык другі ахвочы, а прыйдзе дахаты — сваё. Глядзі, нават следу жывога няма. Мы з табой толькі едзем.

У першы дзень, пасля песень у хаце, я гаварыў аб тым, што ў Забалоцці ёсць яшчэ зямлянкі і трэба іх пазбыцца як мага хутчэй. Зямлянак засталося толькі тры, а гаспадарак у нас каля сотні; няўжо чакаць, пакуль старая Зязюліха сама збудуе хату. Дзяржава дала ёй бясплатны лес, а мы павінны дапамагчы.

— Рана яшчэ,— кажу я,— прыедуць.

Цёпла пад снегам маленькім елачкам, яны быццам ватай абкладзены. Многа снегу на лапах вялікіх ялін. Дуга чапляецца за голле дрэў, і на конскую спіну цярушыцца белы іскрысты пыл. Я прыгінаюся, заплюшчваю вочы і радасна ўспамінаю словы майго швагруся: «Лясы і нетры — усё цяпер наша, народнае!..» Які недаступны калісьці быў лес пры панах! Колькі збожжа ці грошай трэба было аддаць за кубаметр сасны або вазок лядашчых дроў!.. А цяпер мы брыдзём з Калядой па снезе, то прыгінаючыся пад галлё, то задзіраючы

галовы ўверх, на верхавіны гонкіх соснаў. Ідзём як сапраўдныя гаспадары. Па голлі нашага лесу скачуць сінічкі, цярушачы долу снег, парушаючы гуллівым цінькannем дрымучую цішыню. А мы па-гаспадарску прыглядаемся да дрэў, шукаючы адпушчаных для нас. Звяраем нумар па квіту, і вось яна — наша сасна. І адна, і другая, і трэцяя!.. Колькі год вы раслі — пяцьдзесят ці мо больш? А колькі год чакаў забалоцкі бядняк Зязюля, што вырасце калісьці лес і для яго?..

Здаравенны, маўклівы Гаўрусь Каляда — наш вядомы цясляр — выцягвае з-за «ласяка» сякеру, здымае рукавіцы.

— Ну што ж, няхай здаровенькі жывуць,— гаворыць ён, папляваўшы ў далоні.

Першы ўзмах — і сякера ўпілася ў карычнева-сівы камель. Добра вострыць сякеры наш малады забалоцкі каваль, наш баяніст Чыгунок.

Пасля мы стаім на каленях у снезе, і, на змену сякеры, пяе сваю песню піла. Удала ўсё ж такі я развёў яе і навастрыў пазаўчора.

— Ус-сё! — гучыць нарэшце як выдых.

Сасна гайданулася. Нібы просіць, каб ты дапамог паваліцца, штурхануў яе раз ці другі... Мы ўпіраемся сякерамі ў камель, як толькі можна дастаць над сабой, і вось яна паплыла верхавінай уніз.

— Э-гэ-эй! — не вытрымаў Гаўрусь.— Ця-ка-ай!

Цярэбячы голле ўсяму, што трапілася ёй на дарозе, магутная прыгажуня са стогнам грымнула на снег. А з дарогі, дзе стаяць нашы коні, пачуліся галасы:

— Эй, работнічкі!

— Хвост не прыцісні адзін аднаму!

— А што — нашы! — усміхнуўся Гаўрусь.— Нашы прыехалі. Шарэйка, здаецца, крычыць.— І ён гукнуў у той бок: — А вы паспалі б яшчэ-э!..

— Ну, бачыш, а ты сумняваўся,— сказаў я.

...У лесе стук сякер і шоргат піл. Чуваць — то крыкне нехта на каня, то здзівіцца, як падае на дол сасна, то песню нехта пачне, то зноў засмяецца. Многа нашых у лесе, ды мы з Калядой управіліся найраней. Вось палазы зноў рыпяць па нядаўна працёртай дарозе, і над снегам плыве даўжэзнае бервяно, карэлае ад камля і шалушліва-залацістае, нібы цыбуля, пад верхаві-

ну. Конь мой пырхае — ён неахвотна расстаўся з духмяным мурогам. Добра курыцца ў лесе, ідучы за саньмі, прыемна пахне над снегам махорка.

Іван Аўдолевіч прыехаў скора за намі, у гушчар далёка не палез, сасну спусціў маладую,— таму вось і гатоў, ужо ўвязвае воз.

— Здаровенькі былі! — гукае ён яшчэ здалёк.— Тпрру, коні, каб стаялі! Пачакайце, разам паедзем.

Мы з Гаўрусём спыніліся і падышлі наперад.

— Хацеў раніцай зайсці,— сустрэў мяне Аўдолевіч. Ён дыхаў стомлена і выціраў з васпаватага твару пот.— Зайшоў, а ты, маці кажа, паехаў ужо. Міколы дома таксама няма.

— А што?

— Ды што — Капейка. Ходзіць, шэпча. І сваякі ў яго, аказваецца, ёсць. Увечары ўчора маці мая да Носікавых заходзіла,— дык ён там, Капейка, сядзіць і гудзе. Тая баптыстка таксама сакоча сваё, а мармоль яе толькі сапе...

— А чаго яму трэба? — спытаўся Гаўрусь.

— Сам здароў ведаеш, што ім трэба. Старое адрыгаецца. Пра цябе, Васіль, гаварылі, што таварышу камандзірчыку, бачыце, рабіць не хочацца, калгаса захацеў... Гэта — Капейка. Ты, кажа, у старшыні калгаса нацэліўся. А пра нас дык проста гаворыць: дурні, галайстра. А Ганначка святая кажа: «Канешне, адзін будзе газеткі ў клубе маляваць...» Гэта, значыцца, пра Міколу. Пасля ўжо ўсе яны разам пачалі пра вайну, пра Амерыку. На маму маю нават і вухам не павялі, што яна там у хаце. Прывыклі, сволачы, за век папіхаць нашага брата.

Аўдолевіч кончыў увязваць, падабраў сена ў мех, перасупоніў і падпяў каня.

— На Стэпчыным узяў прыехаў,— пачаў тлумачыць нам, нібы мы не бачылі, чый гэта конь, або не ведалі, што ўласнага ў хлопца ўсё яшчэ няма.— Эй, Сідар, мяс-сам!

Сівы «Сідар», пакрыты ад старасці грэчкай, упяўся — сані крануліся з месца.

— І скажы ты мне,— гаварыў Аўдолевіч, на хаду надзяваючы стары зашмальцаваны кажушок,— чаму

гэта ў раёне пазіраюць на яго скрозь пальцы. Ходзіць такі падкапай па сяле і рыецца, як той парсюк пад зруб. І сваякі знайшліся. Носікі.

Носікаў сын, перад вайной падлетак, у час фашысцкай акупацыі вучыўся недзе ў Мінску, і, кажуць, бачылі яго там у эсэсаўскай форме. Цяпер «святая Ганначка», маці яго, моліцца госпаду і ўсё плача без слёз, што Валодзька загінуў ад нямецкай бомбы... Калі ж па вёсцы зноў пакоціцца балбатня пра новую вайну, якая будзе «вось-вось», Ганне робіцца раптам лягчэй.

«Пачакай, пачакай,— зноў крычыць яна цераз плот на суседку.— Гасподзь маю пакуту бачыць. Паглядзім яшчэ, што ты скажаш тады, вось паглядзім!..»

— Дык, кажаш, Іване, Носік вайны захацеў?

— Сам ён хітрэйшы — маўчыць. Яна балбоча, свяценькая. І, думаеш, яна адна? Яшчэ вунь Бабручыха ёсць, сам ведаеш.

— Ды ведаю, чаму ж. Яна ўжо маме маёй гаварыла, як з царквы ішлі: «Вярнуўся твой Васіль, застаўся, богу міламу дзякаваць, жыў ды здароў — і няхай бы ціхенька сядзеў, пакуль сядзіцца. Свет, кажа, сённечы кручаны. Танкі вунь, людзі казалі, акапаліся пад Навагрудкам, а яны пра калгас».

— Эх, не было цябе тут у вайну! — сказаў Гаўрусь.— Паглядзеў бы, што яны тады выраблялі!.. І Мітрафан, і той зладзюга — Грышка.

— Чаму ж, ведаю трохі і я...

У трыццаць дзевятым Бабрукам падрэзалі крылы, але пад час акупацыі зноў ахапіў кулак свае трыццаць гектараў. З яўрэйскага гета, якое было ў Панямоні, Грышка яго, паліцай, навалок усякага дабра, а зондэрфюрэр, што засеў тады ў маёнтку, за нешта-нейкае «прэміраваў» Мітрафана, старэйшага сына Бабрука, касілкай.

У Панямоні таксама стаяў фашысцкі гарнізон. І вось аднойчы, вярнуўшыся з аблавы на Зарэчча, паліцаі прывезлі ў мястэчка параненага партызана. Мітрафан быў якраз у абозе; на яго санях і ляжаў, сцякаючы крывёй, да паўсмерці прыглушаны разведчык. Вешалі хлопца на плошчы перад царквой, на Бабруковых лейцах. Расказваюць, што Мітрафан нават шапку зняў — так прасіў каменданта, каб лейцы гэтыя потым за-

брацъ. Ад такой вяроўкі, гаворацъ, бывае вялікая ўдача...

— Грышка, казалі, пісьмо прыслаў,— нібы ўгадаў мае думкі Гаўрусь.— Цябе, Васіль, дома яшчэ не было. Недзе, кажа, у Англіі. Маці рада, сама пахвалілася Ганне. А гэтая пошта святая, вядома, не будзе маўчаць. «Тоўсты, кажа, зрабіўся, слава нашаму госпаду, як пан. І піша, каб толькі глядзелі сябе, каб жывы толькі засталіся, а ён вернецца — будзе ўсім...»

Вернецца!.. Нават бачу, здаецца, і сам тую страшную восень. Расстрэлы актывістаў. Яўрэйскі пагром. Усіх пастралялі, а потым, казалі, рабуючы па хатах ля рынку пакінутае дабро, знайшоў Грышка старую, хворую цешчу краўца Абрама. Нават фурманку ўзяў Бабручок — завезці туды, дзе закопвалі ўсіх. Накрыўшыся вялікай хусткай, каб не змерзнуць у дарозе, старая махала знаёмым рукой, ды праз грукат калёс не чуваць было, што яна кажа. А Грышка сядзеў на тым возе, маладцавата прычапіўшыся збоку, і толькі пахлёстваў па халяве бізуном...

— Эх, хлопцы, хлопцы! — сказаў я, каб атрэсціся ад цяжкіх думак.— Перажылі мы лета гарачае, перажывём і г... сабачае. Грышкі ўсякія, носікі, капейкі, бабрукі... Дарэмна ты, Іване, многа думаеш пра іх.

— Я пра іх думаю? Пятля пра іх думае, а не я.

— Зірніце, хлопцы, як расцягнуліся нашы — ад лесу да самага Нёмана. Чым не калгас?

Гэта сказаў Гаўрусь. Ён пазіраў на лес, адкуль у вёску ехала сасна — новая хата беднай жанчыне. Конь за канём, сасна за сасной.

«Чым не калгас!» — захацелася паўтарыць і мне. Ды я не паўтарыў, а толькі паглядзеў на Гаўруся і таксама, як ён, усміхнуўся.

## 6

У нашым клубе вялікія вокны. На сценах толькі нядаўна засохла жывіца. На сцэне — столік, пакрыты чырвоным, крэслы і нават трыбуна. Не раз ужо нашы людзі слухалі тут лектара. Там вісела ўжо не раз палотнішча экрана. Сасновыя доўгія лаўкі стаяць акуратна і нават, здаецца, сур'ёзна. А мы парушым іх строгі парадак, расставім пад сцены — і тупнем на славу. Не

было яшчэ хаты такой: тут «Лявоніха» наша адчуе сапраўдны прастор.

Мікола адчыняе дзверы прыбудоўкі і, прапускаючы нас наперад, сам усміхаецца стрымана, важна.

— Кніжак яшчэ малавата.

У невялікім пакойчыку пасярэдзіне доўгі стол, на ім часопісы і падшыўкі газет. Кніг, і праўда, адна толькі шафа.

— Хварэў два месяцы,— гаворыць Ячны.— Дык я іх, брат, усе, здаецца, перабраў.

Нам мала таго, што і праз шкло відаць рознакаляровыя пераплёты. Мікола адчыняе шафу, і хочацца кожную кнігу ўзяць у рукі, перагарнуць знаёмыя, любімыя старонкі. Чэхаў, Горкі, Купала, Талстой... І ўспамінаецца, калі я быў падлеткам, калі мы па кожную кнігу калісьці хадзілі ў дзесятую вёску...

— Кнігі больш на руках,— гаворыць Мікола,— яны, брат, у нас не застойваюцца.

— Пшэпрашам пана наймоцней,— кажа Ячны папольску, штурхануўшы мяне пад бок.— Можэ, можна цоськольвек пшэчытаць?

— Ага! — здагадваюся я.— Успомніў, дзядзька, помню.

Сядзеў калісьці ў цагляным доме маёнтка Роскаш стары шляхецкі цецярук, пан Баркоўскі, навокал абстаўлены кнігамі. І вось неяк мы з Ячным пайшлі — два дурні, стары і малы — крануць вяльможнае сэрца просьбай. Мне было гадоў пятнаццаць, а Ячны ўжо тады пачаў сівець. Стары дурань быў трохі хітрэйшы: прысеў каля брамы, нібы адпачываць. Ну, а я праз замкі і сабакі дабраўся ў самы палац, спадобіўся бачыць ласкавыя панскія вочы. І што ж, пан не выгнаў. Пашкадаваў толькі, што няма ў яго кніжак такіх, каб «Іван» зразумеў. Ды наогул, кажа, навошта «Івану» кнігі? Сам, кажа, хлопча, падумай — што ж будзе, хто ж будзе зямлю араць?..

Мікола казаў праўду — Аўдолевіч ніяк не мог «зайсці ў аглоблі»: шляхціц Крыніцкі ў яго выкананні быў зусім нецікавы. Рабы ад воспы і нехлямяжы Іван асабліва няважна выглядаў у пары з Шарэйкам. Шарэйка ўсё жыццё артыст. Тыя разы, на танцах, раскруціцца

з якой-небудзь увішнай Веркай ці Алесяй ды як пачне крычаць: «Браточкі, хлопчыкі, спыніце!» — можна было і сапраўды паверыць, што сам ён ніяк не патрапіць спыніцца. Калісьці хлопец быў бедны, а ўсё ж, каб жаніхі выбіраліся галасаваннем — за яго падняліся б гядзі што ўсе дзявочыя рукі, і не толькі ў адным Забалоцці.

— І спрытны ж ты, будзь здароў, як той вол да карэты! — не змаўчаў ён, казалі, яшчэ на першай рэпетыцыі, гледзячы на горкую ігру Аўдолевіча.— Нічога ў цябе, «каханенькі-родненькі», не выйдзе, адразу відаць. І ў цябе, «собсцьвенна вось цо да», папрасіў бы адгэтуль «сюдэма-тудэма»!..

Гэтак было да мяне, пра гэта мне расказвалі. Калі ж я прыйшоў у клуб — ужо на трэцюю, здаецца, рэпетыцыю,— Аўдолевіча папрасілі адступіць.

Цікавы хлопец. За трыццаць пяць год яшчэ ўсё халастога жыцця ён прызвычаіўся брацца за ўсё, і ахвотна, хоць усё, як на злосць, не ўдаецца яму. Яно не ўдаецца, а ён плюе на няўдачу і зноў пачынае спачатку. Не крыўдзіцца нават і за тое, што і называюць яго не па прозвішчу — Мурашка, і не па бацьку, а Іван Адолевіч, або, у лепшым выпадку, Аўдолін Іван. І цяпер ён не пакрыўдзіўся — прыняў адстаўку з нейкай, калі хочаце, нават палёгкай, тым больш што я — госць, і пражылі мы з Іванам дагэтуль сябрамі.

Я, праўда, не хацеў налазіць на яго, але апошні ўдар па маёй нерашучасці нанесла Алена Барысаўна, ці проста Леначка, адна з дзвюх забалоцкіх настаўніц.

— Васіль Пятровіч,— гаварыла яна,— не наганяйце вы сабе цану. Бачыце, колькі народу глядзіць на вас, упрошвае. А ўсе ж такія маладыя ды харошыя...

«Эх, была не была!» Я скінуў шынель — і справа пачалася.

Ролю Якіма Сарокі зусім нядрэнна выконваў васемнаццацігадовы Валодзя Цітовіч. Паўлінкай была сама Леначка. І вось, калі мой бедны Валодзя, ужо не першы раз паўтараючы сцэну спаткання Якіма з Паўлінкай, яшчэ ўсё чырванеў ды хваляваўся, я з нейкай рэўнасцю нават падумаў: «Эх ты, дапрызыўнік зялёны! І сапраўды ты, голубе, выконваеш тут толькі чужую ролю. Чыю— паглядзім!..»

Ды аб гэтым пасля.

...Дзень Канстытуцыі. У клубе — амаль усё Забалоцце.

На сцэне дзеці, малодшыя школьнікі. Яны выходзяць ланцужком, як гусі, з-за куліс. Светлавалосая дзяўчынка з чырвоным гальштукам на белай блузцы прыкметна бянтэжыцца — не ведае, куды ісці і што рабіць. А ісці ёй трэба першай, весці ўсіх. Тады не больш за яе ваяка ўладна тузае павадырку за руку, накіроўвае ў патрэбным напрамку. Дзяўчынка тупаціць на сярэдзіну сцэны і зноў разгублена спыняецца — што ж рабіць далей? Тады хлапчук зноў кратае яе за рукаў і, як мужчына, важна накіроўвае на шлях. Нарэшце малыя становяцца ў рад і, нават не перачакаўшы смех, што весела пакаціўся па клубе, пачынаюць сваё выступленне.

Пачынае той самы ваяка:

Мой мілы таварыш, мой лётчык,
Вазьмі ты з сабою мяне!..

Я нахіляюся да Ячнага:

— А чый гэта герой?

— Шарэйкаў,— шэпча ён у адказ.— Пачакай, дай паслухаць.

Трошкі большымі героямі, як гэты піянер, стаялі мы калісьці ў першамайскі ці кастрычніцкі вечар на варце вакол вёскі, углядаючыся, адкуль можа падкрасціся да Забалоцця шпік ці паліцэйскі. Сачылі пільна, бо недзе там — у хаце Ячнага або Шарэйкі — адбываўся святочны мітынг. Пад нашай аховай. Вёска верыла нам, у знак чаго на нашых зрэбных куртачках чырванелі над сэрцам стужкі.

На сцэну выходзіць Ліда — дачка Гаўруся Каляды. Вучаніца апошняга класа Панямонскай сямігодкі, гордасць школы, выдатніца і спявачка.

Побач з ёю наш баяніст Чыгунок. Гэта — мянушка Алеся, бо хлопец вельмі ж ужо туга рос, маленькі быў і змалку чорны. Ды ўсё ж такі вырас! У вайну прарываў блакаду Ленінграда і камандаваў адной з тых дваццаці дзвюх тысяч гармат, што малацілі фашысцкі Берлін. Сёння Алесь у поўнай форме: на новай гімнасцёрцы блішчаць медалі і ордэн «Слава». Паклаўшы пальцы на гузікі баяна, ён з усмешкай зірнуў на «салістку» — гатовы, можна пачынаць.

Лідачка толькі хацела кіўнуць яму ў знак згоды галавой, калі пачулася амаль што ўголас:

— Ой, мамачкі, як задаецца!..

Так сказала сяброўка. «Артыстка» пачула і здагадалася. Гэта ўсё косы, ільняныя косы з блакітнымі стужкамі. Рыхтуючыся выходзіць з-за куліс, яна паклала іх наперад, каб відаць былі банты. Цяпер, пачуўшы папрок, Лідачка пачырванела і адкінула косы за плечы.

— Ай-ей,— сказала наша маці, нахіліўшыся да мяне,— як засаромелі дзіця. І так недзе сэрцайка б'ецца...

З усмешкай, што на ўвесь час застыла на яго твары, Чыгунок даў слова баяну.

За сэрца кранула песня аб тым, як мы не забываліся пра свой любімы край пад зорамі балканскімі і ўсюды, дзе каму за вайну давялося бываць. Звонкі, не зусім яшчэ ўпэўнены і роўны галасок дзяўчынкі перадае нашы салдацкія думы з невыказнай дзіцячай шчырасцю. Мне здаецца нават, што горла Лідачкі дрыжыць, як у птушкі, што песня яе — куды большая за самую спявачку.

За мной, у наступным радзе, сядзяць бацькі малое — маўклівы Гаўрусь Каляда, побач са сваёй Яўгеняй. Гаўрусь неяк дзіўна камечыць невялікія вузлаватыя жмені, нібы хочучы схаваць за гэтым хваляванне. А Яўгеня не можа стрымаць сваю радасць — забылася нават пра хустачку ў руках, каб змахнуць са шчакі непаслухмяную, не першую слязу.

А я ўспамінаю тым часам пілікание самаробнай скрыпачкі і вялікія чорныя вочы малога Чыгунка. Алесь дарэмна яшчэ намагаўся тады перадаць драцянымі струнамі тое, што бывала ў яго на душы... Успамінаю таксама ікону Ісуса ў маленькай хаціне салдаткі Марты, Алесевай маці. Алесь сам намаляваў Ісуса, купіўшы ў анучніка фарбы. Успёршыся на кій, стары Сініца, дзед Макар, доўга жмурыў вочы на гэтую ікону і нарэшце не вытрымаў: «Каб табе, хлопча, і ручкі паадсыхалі, які ты спрытны!..» Гэта было і захапленне і злосць, што такі вось смаркуль, байстручок ды асмеліўся маляваць самога бога. Алесь быў і праўда смелы. На другі дзень ён зняў свайго Ісуса з покуця і, з-за недахопу паперы, намаляваў на другім баку іконы...

самога дзеда Макара. Таксама, як перад іконай, жмурачы вочы, стары Сініца зацягнуў у іголку нітку.

Гэта было даўно. Суровае жыццё не дазволіла Алесю стаць ні мастаком, ні вялікім музыкам. Цяпер ён іграе, з усмешкай глядзіць на дзяўчынку, якую шчасце сустрэла на самым пачатку жыцця. Няхай ужо яна расце, няхай красуецца!..

А голас дзяўчынкі з косамі дрыжыць, як у нейкай цудоўнай птушкі...

Пасля спектакля, пакуль мы, артысты,— вясёлыя, усхваляваныя ўдачай,— корпаліся за кулісамі, здымаючы свае бароды і змазваючы вазелінам грым,— у зале клуба моладзь расставіла пад сцены лаўкі, і вось азваўся Алесеў баян, заспявала вясёлая скрыпка, пасыпаў буйны дождж цымбальных струн...

Упершыню я палюбіў яго даўно — шаснаццацігадовым хлапчуком, на фэсце ў нашым Панямоні. І сёння стаіць у вачах, як жывы, той дзядзька без шапкі, у чорнай вышыванай кашулі, што трымаў на каленях цымбалы, па струнах якіх тупацелі яго малаточкі. Пасля мы плавалі ў Нёмане, каля дуба, што нізка прылёг над вадой з крутога, падмытага паводкай берага. Стогадовы асілак трымаўся карэннем за жоўты абрыў, а цёмныя і моцныя лісты яго дасталі да самай вады. Мы непакоілі празрыстую ваду, і лісты паласкаліся ў ёй зусім бесклапотна. Я смяяўся ад шчасця, бо чуў, як у плёскаце хваль і звіняць, і шумяць, нібы дождж, незлічоныя дзядзькавы струны. Пасля я ляжаў у гумне, дзе праз дзіркі ў страсе мігацелі высокія зоркі, а чароўная песня цымбалаў яшчэ ўсё шумела. І пад гэтую песню стаяла ў думках маіх Маруся, чорныя вочы якой не давалі мне спаць...

Многа бурнай вады працякло з таго часу. Маруся выйшла замуж, не дачакаўшыся майго прызнання. А можа, яна і зусім не чакала? Мне ж было тады толькі семнаццаць. А потым так і не было сапраўднага кахання. Усё чакаў яго...

І вось цяпер яно гэтак блізка — я абдымаю яго, я гляджу ў яго вочы, кружуся з ім пад шум веснавога дажджу. Гэта струны цымбалаў спяваюць той самы вальс. Гэта яна — мая вясёлая, галасістая шчабятуха

Паўлінка — сышла са сцэны нашага клуба і стала зноў той самай мілай і сур'ёзнай Ленай.

Мы гаворым пра ўсё, і, калі я раптоўна змаўкаю, яна не здзіўляецца. Яна разумее, відаць, што я не магу гаварыць абы-што, а не тое, аб чым я хацеў бы сказаць. І мы кружымся ў вальсе моўчкі. На вуснах Лены то патухае, то зноў — нібы напамінаючы пра нашу радасць — успыхвае ўсмешка. Глыбокія, сінія вочы пад чорнымі дужкамі брывей то глядзяць гэтак шчыра, адкрыта, то зноў пакрываюцца доўгімі вейкамі. А высокія грудзі пад шоўкам сукенкі то дакранаюцца да мяне, то зноў уцякаюць, каб я не пачуў, як стукае за імі сэрца...

Далёка за поўнач, калі заціх нарэшце клуб, мы ідзём з Ленай па вуліцы вёскі.

Так шмат пражыта за сённяшні дзень, так шмат пачута і сказана. А ўсё ж закончыць на гэтым не хочацца. Можа, сёння я мог бы сказаць тое слова, што вырашыць для нас усё... Можа, рана яшчэ?..

Каля акна таго пакойчыка пры нашай школе, у якім Лена жыла са сваёй сяброўкай і памочніцай Нінай Савось, мы спыніліся. За шыбамі гарэла лямпа, і праз фіранку нічога не было відаць.

— Ну што ж,— сказала Лена, падаючы руку,— сёння позна, Васіль, і я не запрашаю вас. Бывайце здаровенькі і пажадайце нам з Нінай спакойнай ночы. Прыйшла ўжо Нінка мая. А дзянёк у нас сёння які!..

Маленькія, цёплыя пальчыкі ў шорсткай пальчатцы не могуць адразу ўцячы з маіх рук. А можа, і не хочуць.

Мне хочацца сказаць ёй аб усім цяпер, ды ўсе найлепшыя словы нібы кудысьці адляцелі.

— Падабаецца вам Забалоцце? — кажу я, абы пастаяць яшчэ трошкі.

— Вядома, падабаецца. А што?

— А ў Забалоцці падабаецца хто-небудзь?

Цёплыя пальчыкі ледзь-ледзь уздрыгнулі ў маёй руцэ. А можа, мне толькі здалося?

— А хто ж гэта такі? Каму тут трэба пазайздросціць?

Лена прыкусвае ніжнюю губу. Адзін, маленькі, насцярожаны позірк — і зноў вейкі закрываюць вочы. А потым дзяўчына нібы ўстрапянулася, уздымае ба-

дзёрым рыўком галаву і па-сяброўску глядзіць мне ў твар.

— Нікому,— кажа яна, —не зайздросце нікому. І пра вёску сказала не ўсё. Вы ведаеце, Васіль... Так і быць — вам прызнаюся. Ехала я сюды працаваць і здорава такі пабойвалася, што там такая за яна — Заходняя Беларусь? Я ў Мінску педвучылішча закончыла, у мінулым годзе. Такое, думаю, нешта адсталае, відаць, старое.

— Ну, а цяпер яшчэ ўсё баіцёся?

— Ды што вы! — Леначка смяецца.— Гэта ж было тады, калі я была маладая, нічога не ведала.

На ёй — чырвоны вышываны кажушок і белая пухоўка-шапачка. Не адрозніў бы, мусіць, ад нашых дзяўчат. І мне не верыцца, што гэтае дзяўчо калі-небудзь было маладзейшае, чым сёння.

А Лена зноў сур'ёзная.

— І праўда, я тут вельмі пасталела. Тут гэтак хутка мяняецца ўсё. Ну, а школу маю... Яны такія слаўныя, мой першы клас!..

«І ты такая слаўная!» — хацеў бы я сказаць, але кажу не так:

— Вы, Лена, многа добрага зрабілі тут. Вас любяць тут усе.

І вось яна смяецца зноў:

— Пахваліце мяне, пахваліце. Я ўжо чатыры месяцы ў мамы не была. А хто ж мяне пахваліць без яе?.. Можа, вас пахваліць?

— Ды што мяне хваліць... Давайце лепш дружыць.

Рука яе — зноў у маёй, і я паўтараю:

— Будзем дружыць?

— А мы ж і дружым, Васіль.

І вось яна ўжо ля акна. Стукае ў шыбу. І, відаць, каб напомніць пра тое, чаго сёння напэўна не будзе, дадае:

— Спакойнай ночы!

За дзвярыма пачуліся крокі: Ніна ішла адчыняць.

## 7

Потым Лёня Шарэйка казаў, што той наш сход, калі арганізоўваўся калгас, быў падобны да старажытнай бітвы.

Даўней гэта выглядала так. Сустракаліся два варожыя станы і, стаўшы лоб у лоб на якім-небудзь гістарычным полі, выпускалі наперад асілкаў. Асілкі скрыжоўвалі зброю, а ворагі тым часам, гледзячы з двух бакоў на адзінаборства, набіраліся злосці.

А ў нас, перш за ўсё, не было выразнага падзелу на два варожыя станы, бо сядзелі мы ў адным клубе, перамяшаўшыся. Праўда, людзі нашага стану былі на сцэне, за сталом прэзідыума, размяшчаліся на пярэдніх лаўках, каб лепш пачуць і сказаць, каб наогул быць бліжэй да таго месца, дзе вырашаецца справа. «Варожы стан», непараўнана слабейшы, трымаўся пераважна задніх месцаў. Адтуль, бачыце, зручней і крыкнуць нешта такое, што ў вочы не асмеліўся б сказаць, адтуль і да дзвярэй бліжэй. Сярэдзіна двух гэтых станаў — «хісткія сераднякі» — расселіся па ўсім клубе, не выбраўшы пакуль што свайго канчатковага месца. Адзін з іх — мой паважаны швагрусь — пазіраў на сцэну неяк збянтэжана. Валя сядзела побач з ім і выглядала зусім нецікава, разгублена. І пэўна: тут муж, там — браты і большая палавіна вёскі, куды ісці — нялёгка разабрацца. Ды і разбірацца, бабскаю справай, лішне не будзеш — нітка павінна паўзці за іголкай.

Не было ў нас таксама і паядынкаў сапраўдных. Нельга ж назваць паядынкам тое, што пад час выступленняў сур'ёзных людзей раз-поразу падцкоўвалася самагоншчыца Таццяна Скок, па-вясковаму Тарадра́, белабрысая падсухая бабылка пад сорак з гакам год.

А ўсё ж такі і ў Шарэйкавым параўнанні нейкая доля праўды была.

...З дакладам выступіў адзін з прадстаўнікоў раёна, Кастусь Ячны. Другі прадстаўнік, галоўны аграном раённага аддзела сельскай гаспадаркі Верабей, сядзеў побач са мной за сталом.

У простых, па-салдацку да глянцу начышчаных ботах і цёмна-сіняй гімнасцёрцы з ордэнскай планкай Кастусь выйшаў з-за стала, стаў на трыбуне, адкрыў свае запісы і, паглядзеўшы на залу, памаўчаў.

— Таварышы,— спакойна пачаў ён,— перш за ўсё хачу сказаць, што я, як ваш чалавек, забалоцкі, вельмі рад сёння...

— Наш-то наш, а як падгладзіўся, глядзі! На гро-

шах седзячы, добра казаць! — заласкатала з месца Тарадра.

Дакладчык памаўчаў, заўважыў яе ў натоўпе, і ячнаўскі дух абудзіўся ў ім увачавідкі.

— Я менш злуюся без толку, Таццяна,— адказаў ён з усмешкай,— таму, бачыш, і праўлюся. Спакойны чалавек вады нап'ецца, і то на карысць яму пойдзе. І ты паправішся,— менш тарахці.

— Сама сябе загрызае са злосці!.. Самагонкі лізнула, відаць, з новай ходкі!.. Гавары, Косця, ну яе! — пачуліся галасы.

— На вось табе! Бачыў? — павярнулася ў той бок Тарадра.— Я ведаю, куды вы горнеце, не бойся! Дай мне яго грошы — таксама скажу, і не горш за яго!

Швагер мой павярнуўся, бліснуўшы позіркам на Тарадру, і прагудзеў:

— А можа, сціхла б, дала б чалавеку слова сказаць?

Гэта дапамагло. Тарадра зірнула на Міхасёвы вочы, на мыліцы, што стаялі побач з ім, замармытала нешта цішэй і змоўкла.

— Я вельмі рад,— яшчэ раз пачаў Кастусь,— што наша вёска адна з першых у раёне ўзыходзіць на правільны шлях. З гэтым я і хачу, перш за ўсё, павіншаваць вас ад імя райкома партыі.

Мікола, Леначка і Чыгунок, якія сядзелі на першай лаўцы, дружна запляскалі ў далоні. Гаўрусь Каляда зірнуў збоку на Лену, усміхнуўся і моцна залопаў сваімі здаравеннымі рукамі.

— Правільна сказана,— працягваў, перачакаўшы воплескі, Кастусь,— што мы мацнейшыя за ўсіх капіталістаў, бо самі кіруем сваёй дзяржавай. Дзе гэта відаць было калі-небудзь на свеце, каб мы — простыя людзі, ад плуга, як той казаў, і касы — ды самі кіравалі жыццём, былі членамі ўрада? У Маскве, у Вярхоўным Савеце краіны ёсць і наш прадстаўнік: наш бярозаўскі хлопец, Герой Савецкага Саюза Мікалай Шымук. Юрка Малевіч, Павел Іванавіч Канцавы — вось нашы пасланцы ў Вярхоўным Савеце рэспублікі. І ў мясцовых Саветах таксама нашы людзі, якіх мы добра ведаем, якім мы верым, як сабе...

— Паверылі, няўжо ж! — зноў азвалася Тарадра.

— Трашчыць кулацкі аўтамат,— шапнуў Верабей, прыгнуўшыся да мяне.— Па даручэнню, відаць.

— Народ кіруе сёння жыццём,— спакойна гаварыў дакладчык,— ён гаспадар свайго жыцця. Ён ведае, што адзіна правільным шляхам да шчасця — да заможнага і культурнага жыцця — для нас, сялян, з'яўляецца калгасны шлях.

— А што, не казала?! — ледзь не ўсхапілася з месца Тарадра.— Вакол крам ды зноў к нам. Так і казаў бы адразу! Людзі самі ведаюць, не маленькія!..

Шарэйка, які вёў сход, устаў.

— Грамадзянка Скок,— сказаў ён, стрымліваючы ўсмешку,— чаго ты крычыш увесь час, каб цябе спытацца?.. Кончыць таварыш Косця Ячны — устанеш і скажаш, што хочаш сказаць.

— А думаеш, не скажу? Ты, можа, мне не дасі гаварыць? Гэта вам не пры панах,— цяпер народу беднаму свабода!

— Ну добра, добра,— зноў павярнуўся мой швагер. І Тарадра аціхла яшчэ раз.

— Правільная палітыка нашай камуністычнай партыі,— гаварыў Кастусь,— палітыка ўсямернага развіцця індустрыі і калектывізацыі сельскай гаспадаркі — апраўдала сябе выдатна. Дзякуючы гэтай палітыцы савецкі народ перамог у вайну і цяпер аднаўляе, будуе, упэўненым крокам ідзе да светлых дзён камунізма. Мы, што жылі пад уладай паноў, на цэлых дваццаць год адсталі ад нашай савецкай радзімы. Нас раздзяляла граніца. За тое, каб не было гэтай граніцы, мы ваявалі калісьці з панамі. За нашу радзіму, поплеч з усім савецкім народам, мы ваявалі нядаўна з фашыстамі. А цяпер мы не хочам, каб нашы заходнія вобласці заставаліся ззаду, каб і цяпер яшчэ была нейкая мяжа... я хачу сказаць — нейкая розніца паміж нашым жыццём і жыццём усёй нашай краіны.

— Нядрэнна гаворыць,— зноў нахіліўся да мяне Верабей.

— Ага, нішто сабе.

Гэта ж той самы Ячны Косцік, з якім мы разам пасвілі, разам употайкі слухалі Мінск і Маскву, раздзяліўшы на двух навушнікі дэтэктарнага радыёпрыёмніка, разам пасля, у дні вялікай радасці, дзялілі панскае поле. Баявы партызан быў, гавораць пра хлопца сябры.

Добры работнік і сёння. Не па бацьку спаважны, негаваркі, не стаў Кастусь кабінетным асушкам.

...Пасля даклада былі выступленні. Найлепшыя — Шарэйкі і старой Зязюліхі.

— Хто яшчэ хоча сказаць? — спытаўся Лёня.— Ніхто не хоча больш? Таццяна, ты ж ірвалася ўвесь час.

— Захачу — скажу, цябе пытацца не буду! — адрэзала Тарадра.

— Ну, бачыш!.. Усе людзі як людзі, а ты... Як гэта кажуць: «Вясна, вясна! Усе людзі ткуць красна́, а мая Шэша яшчэ ўсё лён чэша».

— Няхай таму аблезе язычок, хто чэша! Я праўду кажу, я за народ!

Дружны смех пакаціўся па клубе.

— Ведаем мы, за які ты народ,— гаварыў Шарэйка.— Твой народ патайны, сам не будзе брахаць. Капейка, праўду я кажу? А ты не хавайся за спіны, зірні хоць разок на людзей! Мы цябе хлебам кормім каторы час, а ты нам за гэта хоць слоўца скажы. Як будзе лепш, па-твойму,— уступаць нам у калгас ці не?

Капейка сядзеў на адной з задніх лавак, бліжэй да дзвярэй. Ад слоў Шарэйкі ён прыгнуўся, але цяпер ужо не было куды хавацца — усе глядзелі на яго.

— Ну, бачыш! — гаварыў Шарэйка.— Так і заняло табе, чалавеча, як жабе на зіму. Па завуголлю ты толькі майстар шаптаць.

— От прыстаў! — не вытрымала Тарадра.— Чаго ты прычапіўся? Вы тут самі хоць пакаліцеся паміж сабой, а ён чужы чалавек!..

— Мы ведаем, што чужы. Табе ён толькі, відаць, не чужы...

— Разам градусы ціснуць!.. Прымак — прышый кабыле хвост! — пачуліся ў агульным шуме галасы.

І тады стаўся цуд: Капейка ўстаў і пачаў гаварыць.

— Вы з мяне, таварыш Шарэйка, дарэмна кепікі строіце,— сказаў ён, гледзячы спадылба.— Я заўсёды казаў і кажу, што ў калгасы трэба ўступаць. Калгасы ўсюды, і такі ёсць парадак савецкай уласці.

— Ну, бачыш,— падтрымаў яго Шарэйка.— Як той бацюшка гаварыў: «І атверзліся небяса, і паслышаліся галаса!..» Усе твае, Капейка, сваякі гаварыць, канешне, не будуць. Пан Шпэк, я гляджу, на двор

падаўся ціхенька. Якраз цяпер яму прыпёрла. Ганна Носік затое скажа нам круглае слоўца. Як там, Ганначка, па святому пісанню — хутка будзе вайна?

«Ганначка», маці эсэсаўца, сядзела побач са сваім Язэпам, злажыўшы рукі з выглядам і сапраўды зусім бязгрэшнай істоты.

— Дарэмна ты, Лёнечка, зусім дарэмна на нас. Сучок у воку брата твайго бачыш, а ў сваім воку не заўважаеш і браўна. Мы ніколі супраць ніякай уласці не ішлі: святы апостал Павел сказаў, што ўсякая ўласць ад бога ёсць. Таксама, Лёнечка, і калгас — дае нам гасподзь іспытанне, дасць сілы і перанесці яго.

— А што, наскочыў? — ледзь не ўсхапілася Тарадра.— Ужо і на бога руку паднімаеш! Адсохне!

— Та-ак, так,— паківаў галавой Шарэйка.— Сучок у вашым воку ёсць. Здаравенны сучок! Аслеп недзе, у пограбе седзячы. Ці, можа, ягадкі ў лесе збірае, пад снегам!

Тады зрабіўся яшчэ адзін цуд: «святая Ганначка» стала зямным чалавекам.

— Што ты бачыў?! — закрычала яна, усхапіўшыся з месца.— Чаго ты чапляешся да нявіннай душы, каб ты на кол усчапіўся, каб ты?! Я свае вочы выплакала па ім, хамут ты няшчасны! Госпадзі, госпадзі, усё ты, саздацель, бачыш!..

— Не тудой твае слёзы цякуць, паліцэйская шкура!..

Гэта сказаў мой швагер.

— Правільна, Міша! — узняў Шарэйка руку.— Ведаем мы, якая ўлада была для іх ад бога! Яшчэ Бабручыхі няма для капелы. Недзе моліцца дома,— увесь свой трэбнік прачытала на нашу галаву. Праўду я, Міша, кажу?

Міхась падазрона зірнуў на Шарэйку.

— А ты мяне, калі ласка,— сказаў ён,— у гэтую кампанію не мяшай. Я кроў праліваў за савецкую ўладу.

— Братка Міхась! — здзівіўся Шарэйка.— А хто ж цябе, Міша, мяшае да іх, што ты выдумаў? Я — ды цябе?!

Тут не вытрымаў я.

— Міхась, а ты сёння заяву напішаш? Пойдзеш разам з намі ў калгас?

Міхась яшчэ больш падазрона зірнуў на мяне.

— Ты, швагер,— сказаў ён,— робіш сваё, дык рабі. А я таксама маю галаву на карку. Каму ёсць як ісці — няхай ідзе, а я жыву за ракой...

Грымнуў рогат. Пачуліся ў агульным шуме галасы:

— Мосцік, мосцік яму палажыць! Паром! За граніцай жыве чалавек!

Валя смяялася разам з усімі. І пэўна ж — глупства сказаў! Хоць бы пра тое, што інвалід, а то дык — «жыву за ракой»!.. Яна смяялася, а Міхась паглядзеў на яе, адвярнуўся і больш не гаварыў нічога, а толькі панура сядзеў да канца.

Шарэйка яшчэ раз спытаўся:

— Хто хоча выступіць, таварышы? Ніхто не хоча?

Тады старая Зязюліха ўстала.

— Чаму, Лявонка, ніхто? Выступіла б і я, але ж не выйдзе ў мяне так гладка.

— Як, цётка, скажаце, так будзе і гладка. Гаварыце!

— А што тут многа гаварыць? То ж чалавек — такі, як мой нябожчык Макар ці я сама,— жыў даўней і на сонца зірнуць баяўся. А цяпер вунь у мяне ўвесь панадворак дрэвам завалены. У хаце новай буду сядзець. А праз каго? Праз нашу ўласць, праз добрых людзей. Дык каб я тут яшчэ нешта думала... Валодзька, ідзі ты, унучак, сюды!

Яна сказала гэта ў той бок, дзе на пярэдніх лаўках сядзела моладзь, камсамольцы. Валодзя Цітовіч — той самы, што выступаў у ролі Якіма Сарокі,— па свайму звычаю і тут зачырванеўся.

— А чаго туды? — спытаўся ён, устаючы.— Вы ідзіце сюды. Тут і папера і стол.

— А то ж і праўда, унучак, туды! — заспяшалася старая, прабіраючыся паміж лаўкамі.

Клуб загудзеў.

— Здарава, га? — ледзь не крычаў на вуха мне Верабей.

Забалоцце пісала заявы ў калгас.

Валодзя толькі прысеў да стала, як устаў і падышоў наперад Сініца, за ім Сымоніха, Чыжык...

— Дзядзечкі! — засмяяўся Валодзя.— Дык я ж тут з вамі адзін прападу!

Стары Ячны, які сядзеў за сталом прэзідыума з тоў-

ста абкручанай шалікам шыяй, сказаў, ці, лепш, прасіпеў:

— Тавай, прат, я тапамаху, ці што? Хорла мне сёння саняло — хоць ты пяры ды плач!..

Ён сышоў са сцэны да стала, дзе прымасціўся Валодзя, моўчкі надзеў акуляры, узяў другое пяро і, паглядзеўшы на чаргу людзей, паківаў на Чыжыка пальцам:

— Іці, прат Смітрок, сюты.

— Зірні — святая шацiя пайшла! — штурхануў мяне Кастусь.

І сапраўды: у чаргу, што сабралася каля стала, прысуседзіўся маўклівы Носік, а на два чалавекі перад ім стаяў наш католік Шпэк.

— Не хапае яшчэ аднаго для камплекта,— засмяяўся Кастусь.— Бабрук падсунецца зараз... А што, не казаў?

Стары кулак, што панура сядзеў недзе ззаду, за спінамі ўсяго «варожага стану», устаў і, трымаючы ў правай руцэ сваю калматую аўчынную шапку, цяжка, прыгнуўшы карак, ішоў да стала.

— Пачакай, няхай дойдзе да бацькі твайго,— сказаў я Кастусю.— Будзе маленькі спектакль.

Але спектакль не атрымаўся: Бабрук падышоў да Валодзі. Камсамолец узняў галаву, паглядзеў на наступнага «прасіцеля» і, пазнаўшы ў ім Бабрука, разгублена зірнуў на прэзідыум.

— Позна, дзядзька, сабраўся ісці з людзьмі,— сказаў са сцэны Кастусь.— Не пішы яму, Валодзя, заяву. Не прымем мы яго ў калгас.

Стары памаўчаў, не паднімаючы вачэй.

— Ну што ж,— сказаў ён глуха,— дзякуй за добрае слова.

І так, як падышоў,— трымаючы калматую шапку ў правай руцэ,— падаўся назад, да выхада.

## 8

У клубе танцы. І таму мы, праўленне і госці з раёна, сабраліся ў Ячнага.

— Шырока размахнуцца сёлета,— гаворыць Верабей,— на жаль, таварышы, не ўдасца. Увосені толькі

пачнём па-сапраўднаму, калі з поля збярэм. Цяпер жа і трактара няма дзе выпусціць, як у людзей. Да восені — хочаш не хочаш — палосы, цярпі. Аднаасобніка не выпрасіш з калгаснага масіву,— будзе жыта сваё здымаць, а абапал зямелька калгасная, калгасны ячмень, калгасная бульба...

Ён, Верабей, сядзіць, як гаспадар, на покуце. Слухаючы яго, так і здаецца, што па полі шырокім ідзе хлебароб — у цяжкіх ботах, спаважнай хадой. Чэрпае жменяй зерне з сявенькі і сее спакойна, упэўнена... Сам ён — родам з нашага раёна. Гадоў больш дваццаці таму назад, ледзь не падлеткам, пайшоў ён, услед за многімі, за граніцу, у СССР. А вярнуўся да нас аграномам. У госці прыехаў адразу пасля вайны, маці старую і брата адведаць, ды так і застаўся. «Хлопцы,— кажа,— назад не пусцілі». Павел Іванавіч Канцавы і іншыя «хлопцы», што выраслі тут за гады Вераб'ёвай адсутнасці, дамагаліся яго пераводу з Разанскай вобласці сюды.

— Вясна ідзе,— гаворыць ён цяпер,— і рыхтавацца будзем да яе па-новаму. Насенне прыйдзецца змяніць усё на гатунковае. Цяпер, вядома, яравое і бульбу. Тут нам ва ўсім дапаможа дзяржава. Пра мінеральныя ўгнаенні і пра машыны таксама адразу падумаем: сеялкі трэба, жняяркі, касілкі... Так што з пазыкаю нават не думайце доўга.

Кастусь Ячны спыняецца хадзіць па хаце.

— Усё гэта добра, Пятровіч,— гаворыць ён аграному.— Ты пра вясну клапоцішся, а нам, будаўнікам, зіму хоць надтачы. Будзем рабіць вясной калгасны двор, а матэрыял — увесь на пні стаіць, у лесе. Зіма наша вядома якая — сёння ў санях, заўтра ў калёсах, а паслязаўтра Нёман пайшоў, а ты сядзі і пазірай на лес. Моста няма яшчэ, а паромам не шмат дапаможаш. Прыходзь, Васіль, хоць заўтра па нарад, спяшайся.

Усё гэта нова для нас, дый мы таксама нібы пананавелі. Не раз прыходзілася бачыць тут, у Ячнага, і Камлюка, і Каляду, ды так, як сёння, яны не сядзелі ніколі.

У новай ролі, гаспадара жыцця, асабліва па-новаму — і радасна, і незвычайна, і няёмка — адчувае сябе найбольшы дагэтуль бядняк у Забалоцці Рыгор Камлюк.

— Таварыш аграном,— гаворыць ён, і голас адразу гучыць неяк глуха.— Пятро Пятровіч,— кажа ён, кашлянуўшы, званчэй,— то ж у суседзей нашых, у панямонскім калгасе, жытцо якое каторы год. Густое — вуж не пралезе, а колас — як біч.

— У панямонцаў «Вятка», гатунак такі,— адказвае Верабей.

— Дык нам бы жыцейка такога. Каб і ў нас...

— А што ж, браток, калгасы тым і трымаюцца, што ў іх усё для ўсіх. Пагавары з Малевічам, старшыня,— да мяне ўжо звяртаецца Верабей.— І ярына ў іх добрая. Бярыце ярыну.

Калі я вярнуўся дахаты, Валя сядзела ў нас і... плакала.

— Я яму морду пайду нахвашчу,— гарачыўся Мікола.— Зусім ужо здурнеў нарэшце!..

— Чаго ты пстрыкаеш? — супакойвала яго маці.— Не пстрыкай. Добра ўжо, што адзін пачаў даваць волю рукам. Завошта ён яе, дурніца, га? А ты, Валька, не плач. Чаго не бывае ў сямейным жыцці! Ну, ён трохі ўскіпеў,— апамятаецца, нічога...

Я павёў Валю дахаты, на шваграву сядзібу за ракой.

І каб хоць рэчка была — гэтая самая наша Сёўда — и то ж равок для жабаў, і толькі! А ён, дзівак, адгарадзіцца ёю хоча ад людзей.

— Ён яшчэ, можа, маўчаў бы,— гаворыць Валя, моцна трымаючы мяне пад руку,— каб не выйшла так смешна з ракой. «Я табе,— кажа,— пасмяюся, я вам яшчэ пакажу!» І на цябе вярзе ўсяляк, бо ад цябе, кажа, усе гэтыя свечкі загарэліся. Яшчэ і крывіць: «Падумаеш — прыд-ся-да-цель!..» Ой, ніколі яшчэ не быў такім зверам!.. Як там Верачка бедная, рыбка мая?..

Валя зноў прыціснулася да мяне, нібы шукаючы абароны. Стала шкада яе і крыўдна, і злосць узяла за сястру. Але я супакойваў яе і разам з тым хацеў супакоіцца сам:

— Нічога, Валя, нічога. Усё ўладзіцца, усё будзе добра. Ён жа свой хлопец, і не дурны...

Аднак вярнуўся я з-за рэчкі невясёлы. Добра, што

маці спала ўжо і Мікола таксама,— можна было, нікому нічога не кажучы, гарнуць папяросы адну за адной і думаць: як яно пойдзе далей?..

Злавесны водбліск агню лізнуў спачатку па шыбах акна, а потым кант нашай печы зрабіўся раптам ружовы.

— Мікола! — усхапіўся я.— Пажар!

Страшнае гэта слова для вёскі старой, дзе хата пры хаце, страха пры страсе!.. Адразу і вецер аднекуль з'явіцца, і полымя, раздзьмуханае ім, загуляе па саламяных хрыбтах будынкаў, нібы прагны, бязлітасны звер, пажыраючы іх часта разам з людзьмі і жывёлай.

І таму мы прывыклі з маленства да немага крыку на вуліцы, які не раз у гаду выклікае начамі жанчын галасіць, а мужчын — змагацца з агнём.

Я крычу, і на крык мой адказваюць іншыя. І гэты дзікі, старадаўні крык пякучай крыўдай садзіцца на сэрцы. Не гэтак ужо трэба тушыць, не столькі гарэць і не так будавацца!..

Гарыць наш клуб — таксама яшчэ ўсё салома і дрэва.

Высокая страха ўзялася з тылу, ад агародаў.

Агонь ужо ўвабраўся ў сілу: ён з шумам і трэскам угрызаецца ў тугі і тоўсты пласт спрасаванай саломы, і чорны дым над полымем уздымаецца штораз вышэй. На стрэхах хат — бліжэй ад клуба — снег ужо растае і салома падсыхае ўвачавідкі. Малая хатка, найбліжэйшая, нават прысела, здаецца, са страху, чакаючы, што люты звер вось-вось ускочыць на яе...

Мы, мужчыны, сядзім на стрэхах бліжэйшых будынкаў. Адно, што мы можам зрабіць — гэта ўтрымаць агонь на месцы, не даць яму ходу. Нам падаюць знізу вёдры з вадой, і мы залiваем іскры. Яны ляцяць спачатку не густа, а потым, калі ўся клубная страха ўстае над зрубам суцэльным вогнішчам,— на нас нясе, нібы мякінай з веялкі, і вочы самі плюшчацца ад грозных подыхаў агню.

— Страху, страху зрывай! — гучыць запозненая каманда.

Якое там — зрывай! Яна ўжо гарыць, і вось я, затуліўшы твар, качуся з хрыбта страхі на агарод, у

— Таварыш аграном,— гаворыць ён, і голас адразу гучыць неяк глуха.— Пятро Пятровіч,— кажа ён, кашлянуўшы, званчэй,— то ж у суседзей нашых, у панямонскім калгасе, жытцо якое каторы год. Густое — вуж не пралезе, а колас — як біч.

— У панямонцаў «Вятка», гатунак такі,— адказвае Верабей.

— Дык нам бы жыцейка такога. Каб і ў нас...

— А што ж, браток, калгасы тым і трымаюцца, што ў іх усё для ўсіх. Пагавары з Малевічам, старшыня,— да мяне ўжо звяртаецца Верабей.— І ярына ў іх добрая. Бярыце ярыну.

Калі я вярнуўся дахаты, Валя сядзела ў нас і... плакала.

— Я яму морду пайду нахвашчу,— гарачыўся Мікола.— Зусім ужо здурнеў нарэшце!..

— Чаго ты пстрыкаеш? — супакойвала яго маці.— Не пстрыкай. Добра ўжо, што адзін пачаў даваць волю рукам. Завошта ён яе, дурніца, га? А ты, Валька, не плач. Чаго не бывае ў сямейным жыцці! Ну, ён трохі ўскіпеў,— апамятаецца, нічога...

Я павёў Валю дахаты, на шваграву сядзібу за ракой.

І каб хоць рэчка была — гэтая самая наша Сёўда — а то ж равок для жабаў, і толькі! А ён, дзівак, адгарадзіцца ёю хоча ад людзей.

— Ён яшчэ, можа, маўчаў бы,— гаворыць Валя, моцна трымаючы мяне пад руку,— каб не выйшла так смешна з ракой. «Я табе,— кажа,— пасмяюся, я вам яшчэ пакажу!» І на цябе вярзе ўсяляк, бо ад цябе, кажа, усе гэтыя свечкі загарэліся. Яшчэ і крывіць: «Падумаеш — прыд-ся-да-цель!..» Ой, ніколі яшчэ не быў такім зверам!.. Як там Верачка бедная, рыбка мая?..

Валя зноў прыціснулася да мяне, нібы шукаючы абароны. Стала шкада яе і крыўдна, і злосць узяла за сястру. Але я супакойваў яе і разам з тым хацеў супакоіцца сам:

— Нічога, Валя, нічога. Усё ўладзіцца, усё будзе добра. Ён жа свой хлопец, і не дурны...

Аднак вярнуўся я з-за рэчкі невясёлы. Добра, што

польшчыкаў. А ў сорак чацвёртым, вярнуўшыся з фронту, даведаўся, што маці, жонка і дзве дзяўчынкі загінулі ад фашысцкай рукі... Разбураны захопнікамі калгас, што хораша пачаў расці перад вайной, прыйшлося аднаўляць на папялішчы...»

— Юрка Іванавіч,— гавару я.— А ўвечары ў нас пра ваша збожжа размова была.

І вось ён глядзіць на мяне, гэты ціхі, з выгляду нават пануры мужчына,— глядзіць з добрай усмешкай старэйшага брата.

— Мы думаем прасіць вас памагчы насеннем.

Пажарышча нашага клуба яшчэ ўсё тлее, як свежая рана, а мы ўжо вунь пра што.

## 9

Нялёгкая гэта справа — парываць са старым, спрадвечным укладам жыцця, адмаўляцца ад таго, што нажывалася гадамі ды крывавым мазалём.

Людзям, якія ўжо і нарадзіліся пры калектыўным ладзе, смешным і дзікім здаецца тое, што ў нашы дні якая-небудзь цётка Агата стаіць на загуменні і ледзь не плача, да рэшты збянтэжаная тым, што трактар прыйшоў і сюды і ўжо арэ па-новаму — не ўздоўж палосак, а ўпоперак...

Людзям смешна, а цётка ледзь не плача. З кожным заходам трактара ўсё бліжэй да вёскі падсоўваецца суцэльны абшар раллі, усё караценюць загоны і межы. І старая гатова, здаецца, прасіць трактарыста:

— Сынок, хоць бы кавалачак мяжы пакінулі, а то...

Па гэтай вось мяжы гадоў сорак назад ішла яна жаць першы раз на сваю паласу. Іван спераду, а яна следам. Хоць і цесна было на загоне, жалі побач. І ўсё загаварылі — як бы гэта, ды дзе б гэта знайсці такі заработак, каб пашырэла і іхняе поле?.. Ад гэтых думак, мусіць, і прыцёр Іван плугам сваю мяжу, адсунуў яе хоць трохі да чужой палоскі, за што яму тады і акрывавілі суседзі галаву.

Тут, каля гэтай мяжы, нарадзіла Агата першую дачку. Спавіла сваю Зосю хусткай і зноў узялася за серп. Страшны час быў тады — адзінота, мужчыны ўсе на «мікалаеўскай» вайне.

Па гэтай мяжы малая Зося, віхляючыся ад цяжару збанка, насіла маме і тату ваду, калі тата вярнуўся з вайны. Зноў жалі тую самую палоску. Зноў гаварыў гаспадар пра шырокае поле, пра хлеб. Пасля Кастрычніка і тут, пад уладай паноў, векавечная мара аб вольнай зямлі стала нарэшце акрэсленай. Гаварыў і Іван пра той край, дзе народу прасторна і хлебна. Праз дваццаць год гаварыў, пакуль не прыйшло і сюды вызваленне. Сам не дажыў, падкасіла хвароба, што вынес з акопаў, і цяжкая праца, галеча. Старая ўдавой святкавала той самы радасны на свеце дзень, калі іх, беднякоў, надзялілі зямлёй.

Цяпер людзі гавораць, што ў калгасе будзе лепш. Гаворыць пра гэта і Зося, дачка, якая замужам у суседняй вёсцы, дзе трэці год калгас. Згадзілася цётка на ўсё, пайшла з усімі добрымі людзьмі, а ўсё ж палоскі ёй шкада, шкада нават мяжы...

Смешна было нам у клубе, на сходзе, калі мой швагер Міхась сказаў пра раку, за якой ён жыве. Бо не рака адмежавала хлопца ад калгаса, а свой хутарок за ракой, куды ён вясной саракавога года вынес бацькаву хату, атрымаўшы надзел зямлі. За гэтую свабодную зямлю ён з першых дзён вайны пайшоў у партызаны, а пасля на фронт. Зямельку гэтую — сваю — яму нялёгка араць і з пратэзам...

Як толькі мы ачысцілі і абсталявалі пад канюшню два абагуленыя гумны, Ячны сказаў, што можа першы здаць у калгас каня.

І вось мы прыйшлі да старога на двор.

З адчыненых дзвярэй хлява, пачуўшы нас, высыпалі з піскам вераб'і. Гнедая Ластаўка стаяла над жолабам. Узняла галаву і азвалася:

— Фу-ту-ту-ту!..

Не нам, вядома, а гаспадару. Яна падышла да дзвярэй, уперлася грудзьмі на жэрдачку завалы.

Старыя пальцы Ячнага перабіралі чорную грыўку прычолка. Ластаўка закруціла галавой і ўшчыкнула старога зубамі за рыжы кажух, а потым, каб паказаць, што гэта жарт, заплямкала над яго далонню запэцканымі ў вобмешку губамі.

У левай руцэ старога была аброць — новая, з чырвонымі кутасамі каля навочнікаў.

— На, вазьмі,— падаў яе Ячны Шарэйку.

Шарэйка паглядзеў на Ячнага, моўчкі ўзяў з яго рук аброць і вывеў кабылу з хлява.

— Эх ты, пава! — захоплена крыкнуў, як толькі вясёлая, дагледжаная Ластаўка ганарыста затанцавала па снезе.— Каб табе так у плузе ды ў возе заўсёды! Ну, пайшлі!..

— Пачакай, дай цяпер мне,— спыніў яго Ячны.

— Глядзіце вы! — засмяялася Волечка, дачка старога.— Наш тата сёння варожыць, ці што? «На табе, дай мне». Дальбог, ажно смешна!

Ды Ячны не адказаў нічога. Ён моўчкі ўзяў павады і патупаў з кабылай на вуліцу.

— Век людскага каня не меў,— мармытаў, ідучы,— а вось нажыў, і шкада... Хоць ты прасіся, хлопцы, у вас, каб не казалі нікому...

Так... Нялёгкая гэта справа — парываць са старым.

У той жа дзень з двароў паехалі вазы, плугі, бароны, веялкі... Усё гэта на сярэдзіну вёскі, дзе ў абагуленым гумне быў склад інвентара.

І вось прыязджае туды дзед Мілюк.

Кабыла добрая ў яго, здаровая, а хамут на ёй чамусьці цесны і старэнькі. Пакуль здымаць з яго воза дабро, Ячны паглядзеў на дзеда Мілюка, паглядзеў на гэты самы хамуцец і, як быццам нічога-ніякага, павітаўся:

— Здароў, Сымон! Мо закурым? У мяне, брат, мультанчык сардэчны,— агнём пячэ, ліха яго галаве.

Яны адышліся і пачалі памалу гарнуць ды слініць цыгаркі.

— Стары дурань,— таямніча шапнуў Ячны, прыплюшчыўшы на дзеда сваё хітраватае вока.

— Як гэта — дурань? Ты што?

— Я-то нічога. Я — член ацэначнай камісіі, а вось ты што? Ты думаеш, мне засляпіла, або забыўся, або ў мяне не запісана, што мы ў цябе ацэньвалі? Кабыла няхай пастаіць, а ты шкандыбай, брат, дахаты і нясі сюды новы хамут. А гэта можаш сабе ўзяць, калі хочаш, назад. Будзеш на свята сам надзяваць, замест гальштука. Вось што.

І што б вы думалі,— дзед Мілюк пакінуў кабылу і

ціхенька патупаў ад гумна. А неўзабаве ўжо сам гаспадар, малады Мілючок, прынёс новы хамут.

— Здзяцінеў бацька, што ты хочаш! — апраўдваўся ён. А хамута старога не ўзяў.— Бярыце,— кажа,— хлопцы, і гэты: у добрай гаспадарцы ўсё прыдасца. Не падумайце толькі, што мы, як той казаў, шкадуем ці думаем якое, што не так...

Шпэк прывёз да склада цэлыя драбіны дабра,— плуг, акучнік, вагу, пружыноўку. Ды і не забраў, вядома, усяго за раз,— дома засталіся яшчэ малатарня, сячкарня, веялка...

— Прывітанне працоўным! — гукнуў ён, пад'язджаючы да гумна.— Новае жыццё будуем, таварышы! Прымай, дзядзька Сцяпан, і мой уклад. Чым хата багата, тым і рада.

Ячны пахадзіў каля воза, прыгледзеўся, падумаў нешта, а потым спытаўся:

— Распіску возьмеш адразу ці потым?

— Хе-хе-хе! — па-свойму захіхікаў Шпэк.— Распіску, хе-хе-хе!.. Не быў бы гэта, дзядзька, ты,— усюды знойдзеш з чаго пасмяяцца!

— Які тут, чалавеча, смех! Ты вось нам столькі дабрыска даеш, а спаганяць будзеш як? На плузе ты, скажам, метачку паставіў, на баронах — таксама, а на каня ў цябе і зубіла ўжо не было.

— Якога зубіла? Што ты? Смех-то смех...

Ячны ўзяў Шпэка за руку і падвёў, як малога, да воза.

— Прыгніся і зірні. Хоць бы замазаў чым-небудзь, а то зусім яшчэ свежая метка.

Шпэк яшчэ ўсё прыкідваўся здзіўленым:

— Ды што ты, дзядзька, можа, дзеці?

— Можа, нават і жонка,— мне што! А толькі будзь мая ўлада — павярнуўся б ты ў мяне назад, з усім тваім укладам разам. «Уклад», пайшчык знайшоўся! Не буду я ў цябе прымаць — каціся!..

— Куды каціся? Ты не маеш права не прымаць! Я вось пайду да прадсядацеля.

— Ідзі, ідзі,— ён цябе па галоўцы пагладзіць.

Шпэк знайшоў мяне каля кузні, дзе мы з Чыгунком аглядалі вазы, адабраныя для рамонту.

— На адну мінутачку, Васіль Пятровіч,— папрасіў мяне шляхціц, адыходзячы ўбок.

— Шэпты хату зводзяць,— усміхнуўся Чыгунок.

— Нічога, нічога, Алесь, у нас свая асабістая справа. Дык, значыцца, Васіль Пятровіч, атрымалася так...

Гэты вёрткі, танклявы мужчына служыў калісьці ў панскім войску капралам, дзеля чаго перайшоў на каталіка, стаў з Герасіма Генрыкам. Жаніўся ён, вядома, на шляхцянцы, ажно з засценка Партуны. На сенакосе, абедаючы з нанятымі касцамі, Генрык еў калісьці кашу асобна, сцізорыкам з гаршчочка, кожнае свята ездзіў у брычцы ў касцёл і, як чалавек «інтэлігентны і свой» — што казалі паны з пастарунка і гміны,— з году ў год прызначаўся солтысам. У першыя месяцы гітлераўскай акупацыі, пакуль у нашай ваколіцы не заварушыліся як след партызаны, Шпэк дапамагаў фашыстам рабаваць Забалоцце,— зноў жа ў чыне солтыса, цяпер ужо не «пана», а «спадара». Пакуль гітлераўцы не пачалі абіраць нашы вёскі падрад, пагалоўна,— яны спрабавалі ўладжвацца спакайней: клёк народны смактаць праз памагатых. Вось такім памагатым яны і прызначылі Шпэка. І заўсёды выходзіла так, пакуль ён гаспадарыў у вёсцы, што авечкі, каровы і іншы набытак забіраліся перш за ўсё ў бяднейшых.

Цяпер вось я гляджу на яго, панскага ды фашысцкага прыхвасня, слухаю, як ён лісліва выкручваецца, расказваючы мне пра «сваю асабістую справу», і думаю аб тым, як выглядаў калісьці гэты самы Шпэк, калі Ячны стаяў перад ім і прасіўся: «Раманавіч, няўжо ж такі ў мяне рашыў забраць каровіцу? Апошнюю...» — «Я сказаў, што вядзе гэтым разам Ячны. Усё, можаш ісці»,— адчаканіў «спадар» Шпэк і пакапралску хлёстка павярнуўся задам.

З вясны сорак другога года, як толькі Ячны, услед за сваім Кастусём, падаўся ў атрад, Шпэк прыціх. А ў сорак чацвёртым пайшоў разам з усімі на фронт, вярнуўся паранены трохі і нават з медалём.

І вось цяпер ён стаіць перада мной і круціцца, як вуж.

— Усё ў вашых руках, вы — наша ўлада, таварыш старшыня, і як вы скажаце, так і павінна быць.

— Не, брат,— сказаў я яму,— і ўлада не толькі мая, і справа гэта не такая, каб нам з табой шаптацца з боку ад людзей. Прыходзь увечары на праўленне.

...Не памятаю добра — хто, а нехта з нашых мужчын гаварыў:

— Не памацнее калгас ад такога гаспадара, як Іван Аўдолевіч. Заяву голенькую прынясе — і ўсё.

І праўда, пра беднасць Іванаву казку расказваць можна. Што жыў сабе, быў сабе ў Забалоцці Мурашка, жыў у хатцы на лапцы курынай і называўся Аўдолевіч...

Прыляпілася гэтая хатка на крутым адкосе ў канцы вёскі, як ластаўчына гняздо. Ідзеш тыя разы, глядзіш — і зайшоў бы, здаецца, ззаду, кашкануў бы яе нагой, каб і свету не брыдзіла! Табе смешна і злосць, а людзі жывуць, век у ёй пражылі. Самае, можна сказаць, барадатае гора, спрадвечнае.

І дзед, і бацька Іванаў былі батракамі. Іван Аўдолевіч пайшоў па іх: і працавіты быў, як мурашка, і не шанцавала яму ні ў чым, відаць, найбольш.

Навошта ўжо лепш — прыйшлі нашы, надзялілі Івана зямлёй з таго самага маёнтка, дзе служылі ўсе тры пакаленні Мурашкаў, далі лесу — жыві! А ён пачаў, дзівак, будавацца не так, як людзі: не хату спачатку зрабіў, а гумно. А хаты новай так і не агораў да вайны. Амаль усё Забалоцце згарэла за час акупацыі, а хатка яго засталася,— сама, сказаў бы, просіцца ў музей.

Заяву ў калгас Іван падаў адзін з першых. І вось тады нехта з мужчын ляпнуў, што ад такіх, як наш Аўдолевіч, калгас не памацнее.

А тут ён прыходзіць, і што ж нясе? Зусім новую збрую,— і новы хамут, і руская чырвоная дуга, і шоры, і аброць! І ўсё гэта, відаць, вісела доўга, толькі сурамяць дзёгцем падмазваў сяды-тады, пазглядаў і думаў — калі ж нарэшце набудзе да гэтай збруі першага ў Мурашкавым родзе каня!..

— Хлопцы,— сказаў Аўдолевіч,— каня ў мяне, самі здаровы ведаеце, так і няма. Трэба запрэгчы калгаснага. Пад'еду, яшчэ сёе-тое вазьму.

Узяў каня, паехаў і прывозіць новы скат колаў.

— Таксама,— кажа,— збіралі, яшчэ тата-нябожчык пачаў.

А ў першую нашу паездку прыйшоў Аўдолевіч да гумна, дзе стаялі вазы, выкаціў новыя калёсы, сабра-

ныя на ягоных колах, а тут яму сам Ячны, старшы конюх, прыводзіць каня.

— Дапасаваў,— кажа,— хамут твой, Іванка, якраз. На, запрагай, а мы закурым. І няхай гэта лічыцца, што мы за твой выезд малебен адслужым.

Пасталі мы, глядзім. Увёў Аўдолевіч каня ў аглоблі, заправіў дугу і давай засупоньваць хамут. За супоню бярэцца, а рукі дрыжаць... Уладкаваў усё, падыходзіць да мяне і кажа:

— Ну, Васіль, а цяпер закуру, брат, і я.

Дзіва не было б, каб чалавек курыў, а то ж і цыгаркі не ўмее гарнуць. І рукі яшчэ ўсё дрыжаць, махорка сыплецца з газеты. А стаў прыкурваць, гляджу: у вачах нібы слёзы. Цягне, пыхкае, губы не служаць...

— А ну яго! — не сцярпеў больш Іван.

Ды тут я яму запалку падсунуў. Прыкурыў чалавек і давай з непрывычкі кашляць.

Хлопцы ў нас вясёлыя, нават насмешнікі добрыя ёсць, і не раз яны кпілі з Івана, а тады — хоць бы каторы азваўся. Нават Ячны і той маўчаў... Але што я кажу,— ён, можа, лепш за ўсіх разумеў, што тут яно да чаго.

## 10

Высока-высока над вёскай мігціць сузор'е Вялікай Мядзведзіцы. А снег пад ботамі рыпіць так рупліва, што нават зоркі павінны гэта пачуць.

Іду і ўсміхаюся гэтай думцы.

Міргайце, міргайце, зоркі, як змоўшчыцы,— бачылі ўсё. І аснежаны ганак ля школы, і наша шчасце ў каханых вачах. Можа, нават і вы адчувалі, як б'юцца сэрцы адно пры адным, як гараць пацалункамі губы...

Пакойчык пры нашай школе. У зачыненай грубе датлявае крамяны жар. На стале каля акна спакойна свеціць з-пад абажура вялікая лямпа. Кнігі. Вучнёўскія сшыткі.

Як часта, выйшаўшы познім вечарам з хаты, я думаю пра гэты стол і ціхае святло ў акне, перад якім сядзіць над сшыткамі Леначка. Як цягне мяне сюды, як не хочацца выходзіць адгэтуль дахаты...

Сёння я быў там ізноў.

Ніна вітаецца са мной заўсёды неяк сарамліва:

— Добры вечар, Васіль Пятровіч.

Ціхая, сціплая, вечна працуе. І вучыць добра, і добра вучыцца сама,— канчаючы завочна педвучылішча. З працавітай сям'і, ведаю бацьку яе, актывіста з суседняй вёскі, ведаю брата Цімоха. Калі мы спаткаліся ўпершыню, Ніна расказвала: «Паноў я амаль не памятаю, так толькі нешта помніцца, нібы праз сон. Калісьці мама казала, што «вырасцеш, дзеванька, пойдзеш да пана Рушчыца грады палоць і заробіш сабе на сукенку...»

Сёння Ніна сядзіць над сшыткамі свайго чацвёртага класа.

А Лена глядзіць на мяне і неяк загадкава ўсміхаецца.

— А мы, Васіль, пісьмо атрымалі,— гаворыць яна.— Ды так і не ведаем, каму яно. Нінка думае — ёй.

— А чаму ж гэта мне? — чырванее Ніна.— Там жа адрас дакладны.

Пісьмо такое: «Віляй, камсамолка, віляй! Выступай, агітуй, памагай свайму Сурмаку! Мы табе...»

Далей не варта чытаць.

— Старая песня,— кажу я,— падпалы, запісачкі, стрэлы праз вокны... Фашысцкія неданоскі!..

Ёсць «пісьмо» і ў мяне: «Скачы, скачы, Сурмак. Другія таксама скакалі, пакуль наскакаліся. Наскачашся хутка і ты». Почырк той самы, пісаў нехта адзін, чаго добрага, малады Носік ці Рымша. А начапіць паперку на клямку нашых дзвярэй, перш накарміўшы Цюліка атрутай,— гэта ўжо справа іншых, хто бліжэй, хто ходзіць паміж нас...

— Дурні якія,— гаворыць Ніна.— Так ужо, думаюць, мы і спалохаліся або не ведаем, што нам рабіць.

А Леначка смяецца, абдымае сяброўку і кажа:

— Правільна, Ніна. Правільна.

— А ты,— звярнуўся я да Лены,— паколькі ўжо ты памочніца мая, дык ёсць яшчэ адна просьба. Нешта заблытаўся наш рахункавод, а я — няхай мне сорамна будзе прызнацца — таксама ў бухгалтэрыі не надта моцны. Калі б гэта мы паглядзелі, утраіх?

— Глядзі ты — «просьба»,— смяецца Лена.— Прыйду заўтра да Толі. Гадзін у шэсць. Добра?

І словы гэтыя: «Правільна, Ніна. Правільна», і смех гучаць цяпер вось у маіх вушах, калі я іду па спакойнай, аснежанай вуліцы вёскі.

Міргайце, міргайце, зоркі,— бачылі сёння і вы!..

Лямпа стаіць на стале, а за лямпай — акно, праз шыбы якога глядзіць на Міколу глыбокая ноч.

Ноч палохае маму. Яна прыхворвае нешта, ляжыць на печы. Ужо разоў са тры, пакуль я ў хаце, старая спачатку неспакойна варушыцца, кашляе і нарэшце гаворыць зноў:

— Тушыў бы ты, сынок, ці што.

— Зараз кончу,— адказвае Мікола, не адрываючы вачэй ад кнігі.

— Дык не сядзі хоць насупраць акна.

Мікола ўсміхаецца.

— Ты ж за комінам, як за мурам,— чаго ты баішся?

Маці хвілінку маўчыць.

— Мне што, сынок,— гаворыць яна пасля.— Мне то ўжо засталося, як той казаў, дзень мала, а два многа. А ты глядзі. Хто ім, разбойнікам, верыў...

Мікола ўсміхаецца зноў. За акном, як страшна здаецца старой на печы, можа, нават цяпер, у гэты момант, цэліцца ў яго пісталет бандыта... Старой, вядома, можна даравяць, паколькі яна баіцца не за сябе. А ён разгортвае тым часам сшытак і, палажыўшы на яго левыя старонкі сваю бяссільную руку, правай рукой нешта піша.

Я ўстаю, падыходжу і цераз плячо Міколы, з-над яго цёмна-русай чупрыны, гляджу. Гэта — проста канспект: хлопец рыхтуецца да палітзаняткаў. Нібы не могучы больш пераносіць майго позірку, Мікола азіраецца. Ён павінен, як мне здаецца адразу, спытацца, чаму я не сплю, у чым справа? Ды хлопец не кажа свайго звычайнага «ну?». Мы гадаваліся жорстка, з маленства не прызвычаены да ласкавых слоўцаў, да таго ж мы мужчыны, салдаты.

— Пісарскі почырк у цябе, стары.

Мікола, відаць, разумее, што я не тое хацеў бы сказаць.

— Чэкі толькі падпісваць,— усміхаецца ён.

Каб паказаць, што мне таксама напляваць на ўсякі страх... Ды не таму,— проста і мне не хочацца спаць.

— Трэба коней пайсці паглядзець.

Коні ходзяць у лес штодня. Ударны месячнік па нарыхтоўцы і вывазцы лесу дзяржаве прайшоў у нас добра. Цяпер возім сабе, на будоўлю калгаснага двара. Кожны вечар на ўзгорку за вёскай прыбывае па добраму дзесятку бярвенняў. Дарога далёкая, цяжкая, коні слабеюць.

У прыадчыненых дзвярах гумна — святло ліхтара і чуваць галасы. Я спыняюся і стаю незаўважаны.

— Таксама мне гаспадар,— гаворыць старшы конюх, Ячны.— Што дзе трымае, там і кіне. Хамут пад нагамі, лейцы пад нагамі. А каб цябе, Змітрок, з такой работай!

Змітрок Лапатуха, як заўсёды, згаджаецца:

— Шпянёк, шпянёк, так сказаць, трэба ўбіць у сцяну...

— Дык чаму ж ты не ўбіў? Можа, я табе заўтра інжынера выпішу з Мінска, каб дзірку ў сцяне пракруціў?..

— Добры вечар!

— А, гаспадар,— сустрэў мяне Ячны.— Не спіцца і вам, свая вош укусіла!

— А цябе?

— Што мяне? Мяне за двух кусаюць,— за сябе і за яго, за Змітрака. Ляжыць, вахлак, на печы, а коні да гэтых пор не поены.

— Прыдрамаў, так сказаць, прыдрамаў. Пазнавата, канешне...

— Сена заўсёды больш пад нагамі, чым у драбінах...

— Яны заўсёды так. Скаціна ўсё ж такі. Чалавек, так сказаць, не скацінай быўшы, і то накапае на стол...

— Вось бачыш ты яго! Свіння сама той мех дзярэ, ды сама і пішчыць. Не апраўдвайся лепш, а Сарну вядзі напаі.

— Якую Сарну? Петрусёву?

— Не Петрусёву, а калгасную.

Клічак ва ўсіх нашых коней раней не было. У большасці гаспадароў было так, што кабыла — кабыла,

і толькі. А то Гнедая, скажам, ці Сіўка. А як звялі гэтых гнедых ды сівак у адну канюшню — стала многа аднолькавых. Цяпер і клічкі ім далі, і шыльдачкі пры кожным стаяку прыбілі, а ў Змітрака яшчэ ўсё — «Петрусёва». Праўда, і сам той Пятрусь ці Сымон яшчэ не цалкам пазбыліся думкі, што гэта ўсё ж яго, а не калгасная кабыла. Ён, каб толькі мог, кожны раз прыйшоў бы падсыпаць ёй лішнюю жменьку аўса.

Ячны стаіць з ліхтаром у руцэ і глядзіць, як аброслы малы Лапатуха выводзіць са станка няпоеную Сарну. Калі ж за сцяной заціхне яе руплівая хада, стары гаворыць:

— Змяніць яго трэба, Васіль. Круціў я ўжо яго і так і сяк — адзін, брат ты мой, чорт. Абібок абібокам.

— Ну, а возьмем каго?

— Камлючок падышоў бы, я думаю. Я ўжо з ім гаварыў. Так толькі, намёкам. Абутку добрага ў хлопца няма.

— А ведаеш, стары, хто сам прасіўся на гэтую работу?.. Шпэк.

— Ну, і што ты яму адказаў?

— Я, вядома, сказаў, што паглядзім. Гаспадарыць ён можа. Ды і натура такая, што толькі яму загадай — пад лёд залезе, а рыбы наловіць.

— Гаспадарыць... Пад лёд... А я і казаў і кажу, што не трэба яго было браць у калгас.

— Ну, стары, як станеш так перабіраць... А мо перавыхоўваць трэба лепш людзей?

— Не нам такіх, як ён, перавыхоўваць!

— Ціха, дзядзька Сцяпан, не злуй,— смяюся я.— Які яго чорт будзе браць конюхам? Ён мне ўчора пра гэта шаптаў. Шэпча ўсё, шэпча, а не злавіўшы за руку — не скажаш, што злодзей. Што ж да Камлюка, дык ты, стары, вельмі добра падумаў.

Мы ідзём да другой канюшні.

Дрэнна пакуль што — раскідана ўсё па вёсцы: палавіна коней у адным гумне, палавіна ў другім.

Валёнкі Ячнага рыпяць па снезе перада мной, і ліхтар у ягонай руцэ плыве над самым снегам.

— Гаспадар ён... Пад лёдам дастане,— яшчэ ўсё бурчыць стары.— Давай вось лепш падумаем, як Камлючку на боты выкамбінаваць. Мо за калгасныя грошы купім, а потым аддасць?..

У канюшні, дзе конюхам той самы дзед Мілюк, які пашкадаваў спачатку хамута,— поўны парадак. У час напоеныя коні хрупаюць сечку. Пад нагамі ў іх свежы подсціл. Збруя вісіць на месцы.

Ячны паднімае ліхтар і здаволена прыглядаецца.

— Будзь здароў,— адказвае ён на пырханне каня.— За дзеда я, Васіль, заўсёды спакойны. Дзед робіць, як сабе.

Я ўспамінаю Леначку і Ніну, Міколу над кнігай, замурзаны сажай твар Чыгунка, кузня якога звініць цяпер ад цямна да цямна; успамінаю сасновае бярвенне на снезе, смех стомленых, але вясёлых лесарубаў... Устае перад вачыма наш дзень — звычайны дзень людзей, што робяць сваё, і ім, як той казаў, начхаць на запіскі на клямках.

Я паўтараю словы Ячнага:

— Так, гэты робіць — як сабе.

## 11

Даўно Міхась не заходзіў да нас. Нават Валю надумаўся быў не пускаць. А тут раптам — дзень добры!.. Мы ўсе былі ў хаце, толькі што паснедалі. Ніхто не заўважыў чамусьці, як ён прайшоў каля акон. Атрымалася, як на сцэне — адчыняюцца дзверы, і новы герой з'явіўся. Прытым — герой гэты выпіў. Дзверы так і засталіся адчыненыя, а ён, перасігнуўшы на мыліцах цераз парог, спыніўся.

— Мір вам, парахвіяне — хто ў шорах, ■ хто і без набэдрыкаў! Вось прыйшоў да вас цёмны, п'яны мужык. Хутаранін... нічога ліхога не кажучы. Швагер мой дарагі, Мікола, зачыні, калі ласка, дзверы. Бягом! Чаго глядзіш? Абрыдла мне выкручвацца за ўсімусякім на адной назе.

Мікола ўстаў ад стала і, смеючыся, пайшоў насустрач Міхасю.

— Ты ж глядзі,— шапнула яму маці наўздагон і дакончыла просьбу сваю, павярнуўшыся да мяне: — Не кажыце нічога супраць, няхай лепш будзе ціха...

— Куды лезеш?!

Мікола хацеў павітацца з Міхасём, падаць яму руку.

— Куды лезеш, пастой! — запярэчыў Міхась.— Таксама мне культура называецца,— быў загадчыкам клуба! З цешчай трэба раней павітацца. Дарагая мамаша маёй дарагой Валянціны, дзень добры!..

Швагер клюнуў, відаць, ніштавата. Здараецца гэта з ім рэдка. З маленства хлопец ён быў сарвігалава. Пасля паспакайнеў, асабліва ў сям'і. Гэты спакой Міхася, ці, лепш сказаць, яго цярплівасць, найлепш умеў выпрабоўваць бацька, стары ўдавец Селівей. Жмінда быў неймаверны! Мала, што цэлы дзень кавэнчыць над душой, дык і ўначы, калі ляжаш, для прыкладу скажам, спаць у каморы,— прыйдзе стары, прысядзе на парозе і давай пілаваць цябе ржавай пілой — усю ноч. Міхась пераважна маўчаў, а выпіўшы — здымаў са сцяны старую, разладжаную балалайку, трымкаў па струнах вялізным пальцам, як зубам з бараны, і салодкім голасам напяваў:

Ох, надаела мне
Гэта гімназія
Очань і очань даўно...

Перад вайной стары Селівей памёр, і Міхась застаўся адзін. На вёсцы любілі яго: і танцор, і спявак. Амаль заўсёды грубаваты, рэзкі, а выпіўшы — на дзіва далікатны і пацешны.

Павітаўшыся са мной без выкрутасаў, Міхась падышоў да Міколы і раптам кінуў мыліцы, застаўся на адной назе.

— Мікола, дружышча, арол! — закрычаў ён, расставіўшы рукі.— Не руш мяне, не памагай! А я цябе, брат, цалаваць буду. Вось так, зладзюга ты, вось так!.. Ну, а цяпер:

У чыстым полі, полі пад ракі-ы-ы-тай!..

Ён зацягнуў і абарваў, а тады, пры дапамозе Міколы ўгрунтаваўшыся на мыліцах, павярнуўся да ўсіх:

— Таварышы сваякі, вораг разбіты — мір! Аб'яўляю поўную капітуляцыю. Дазвольце сесці...

Швагер сеў на лаве, паставіў мыліцы побач з сабой, зняў шапку і ўставіўся вачыма на мяне.

— І дзе ж гэта ты зранку ў бочку ўваліўся? — пачала маці, але Міхась перапыніў яе, нібы адразу працверазеўшы:

— Пачакай, старая, потым будзеш адчытваць! Спачатку буду гаварыць з гаспадаром. На Васіля злаваў, з ім і мірыцца буду. Правільна?

Ён выняў з кішэні портак паўлітроўку.

— Поўненькая! З чырвонай галоўкай. Адну такую, Вася, сам аглушыў. Адзін. І закусваць не хацелася — цыбулі толькі пашамкаў. А ты глядзіш на мяне і думаеш: насмактаўся дурань, як гразь, заліў вочы і прыйшоў тут у хату спакойсцвіе нарушаць. Аднаасобнік, жыву за ракой!.. А гэта, па-вашаму, што?!

Міхась палез у кішэню сваёй гімнасцёркі і выняў акуратна складзены лісток паперы. Гэта была... заява. Кароткая. «Старшыні калгаса... і г. д. Прашу прыняць мяне і ўвесь мой інвентар у калгас». Тады — подпіс: «Ждановіч Міхаіл Селівестравіч».

— Ну? — глядзеў на мяне Міхась.— Скажаш, можа, што п'яны я змог бы так напісаць? Напісаў, а тады ўжо, брат, выпіў. Цябе, чорта, саромеўся, эх, Васіль!.. Цяпер, вядома, ты не прызнаешся, а думаў ты пра мяне, што выкінеце дурня з калгаснага поля вон, як чарвяка з мяса, і вось буду я недзе калупацца адзін, як той жук у гаўне. Думалі вы, што буду і я, як Хрэн Іванавіч, цэлымі гадамі думаць, збірацца. Вы думалі тады, што я і праўду пра рэчку сказаў: што жыву за ракой? Я так толькі ляпнуў, здуру. Я пра нагу сваю думаў: куды мне дзецца будзе на адной назе? Вы думалі, што я зямлю сваю пашкадаваў? На чорта мне зямля, калі застацца без людзей? Я яму сёння даў! Я яму паказаў, дзе камар мухі пасе! Толькі вы яго тут бачылі цяпер! Вось так!

— Каму даў? Каго? — здзівіліся мы.

— «Каму», «каго»? Капейку, каго ж!

— Ай-ёй! — спалохалася мама.

— Ты, старая, сядзі і пакуль што маўчы. Я кроў праліваў за савецкую ўладу, а ён мне што?! Ты ведаеш, Васіль, да чаго ён дайшоў: шаптацца думаў са мной, як з другімі, кампаніі са мной шукаць! Ды нічога,— я вам, хлопцы, пасля раскажу. Ён мне пра нашых людзей!.. Г-гых і... Пачакай, старая,— я не лаюся, я не п'яны. Я яму даў! Я ад парога зайшоў, падпорачку сваю вось гэтак во, ад нізу, узяў і — упяр-род, гвардыя, урра! Па гарбе мыліцай, па гарбе!.. Я яму... гэтаму самаму так і сказаў,— дваццаць чатыры гадзіны, і каб

духу твайго не было ў Забалоцці! Вось так. Ну, а потым, вядома, выпіў...

Пасля, калі ён трошкі супакоіўся, маці сказала:

— А ты, Міхаська, пра нагу сваю дарма. Людзі таксама жывуць, што ж ты зробіш. Знойдуць работу і табе. То ж дома ты таксама не сядзеў...

— Ай, цешча, не вучы! Я сам ужо разоў са сто падумаў.

— І Валька будзе рабіць. І ты дарма на ўсіх тады — на Васіля, на Вальку...

— Не трэба, маці, не трэба больш,— сказаў Мікола.— І так усё... Не трэба.

Міхась хацеў нешта сказаць, ды толькі паглядзеў на Міколу, падумаў нешта і ўсміхнуўся.

— Правільна, маці? — спытаўся Мікола і, засмяяўшыся, дадаў: — Адно няправільна — бутэлька на пустым стале.

— Ай-ёй,— схамянулася старая.— А я і праўда сяджу ды гляджу...

— За стол? — сказаў пасля Міхась, калі я папрасіў яго садзіцца.— Адзін за стол? А Валя? Без яе я не сяду. Яна ў мяне — во чалавек! Мікола, а ну — маментальна па Валю! І Валю мне, і Верачку сюды! Бягом!..

— Цяпер камандуеш,— перапыніла яго маці.— Дык чаму ж ты не браў яе сюды з сабой адразу?

— Адразу? Адразу яна дома не была, пайшла да Марылі, ці што... Ды што там адразу? Адразу мне трэба было гаварыць з Васілём!..

Валя з Міколам прыйшлі вельмі хутка. Калі яна — вясёлая, з дзяўчынкай на руках — увайшла, ледзь не ўбегла ў хату, я вельмі ясна ўспомніў свой прыход, тое наша спатканне. Першае, што яна зрабіла цяпер, дык гэта павіталася з маці. Яны пацалаваліся, і Валя зачырванелася яшчэ больш.

— Вазьміце, мама,— падала яна, як нейкі вельмі дарагі падарунак, сваю маленькую старой на рукі.

— Унучка мая! Я думала, і ты забудзешся... Ну, не забылася мяне, Верачка?..

«Ну, бачыш,— падумаў я,— усё так і атрымалася, як я тады казаў, а ты...» Хацеў сказаць гэта сястры, але яна і сама паглядзела на мяне і на ўсіх, а пасля на свайго Міхася і з дакорам сказала:

— От дурныя мы, Міша, з табою, га? Гэтулькі трэба было фанабэрыцца!

А швагер — нібы зусім цвярозы, нібы назаўсёды хочучы адмахнуцца ад таго, што было,— апусціў вочы і прагудзеў:

— Ну, годзе ўжо, ну, годзе...

## 12

Наш райцэнтр.

На рагу Першамайскай вуліцы, куды я паварочваю з плошчы, яшчэ ўсё стаіць касцёл. Каля дзвярэй яго ўмуравана вялікая медная дошка: «Анно Доміні 1686». Здагадацца, што па-лацінску напісана, можна. 1686 — гэта год заснавання касцёла. А потым прозвішча — «Ян Боніфацы Рушчыц». Ён, відаць, пабудаваў гэты «божы дом». Гляджу на вялізны спрадвечны будынак, і мне здаецца, што пад ім глыбока залезла ў зямлю векавое карэнне... Благое зелле глыбока расце. Маёнтак і касцёл, бізун аканома і крыж ксяндза — вось на чым яны тут і трымаліся — тыя, хто піў нашу кроў і наш пот. А дзе ж маёнткі цяпер? Дзе паны?.. Застаўся толькі ксёндз.

Побач з касцёлам — ксяндзоўскі дом, клебанія. Тут і сядзіць, як той стары пугач у дупле, «ясневялебны ксёндз пробашч».

Праходжу па тратуары каля ксяндзоўскіх дзвярэй. І раптам яны адчыняюцца...

— А, добры дзень!..

— Васіль Пятровіч, вы? Таварыш прадсядацель...

Наш паважаны шляхціц, Генрык Шпэк, ледзь не самлеў, сустрэўшыся са мной у гэтым месцы.

— Здароў! А ты тут чаго? Чаму ты сёння не ў лесе?

— А я ж усё, таварыш старшыня, з ныркамі са сваімі хаджу. У панядзелак быў, дык вось мне доктар і сказаў...

— Цяпер тут, значыцца, амбулаторыя? Дык нешта ж шыльды яшчэ не відаць.

— Хе-хе-хе — шыльды!.. Вы заўсёды, таварыш прадсядацель, як скажаце... А я гэта ў аптэку іду...

— І па дарозе да дзядзькі зайшоў? Ну, вядома, няёмка мінуць.

— Я толькі туды цяпер, у аптэку, і адразу назад. Сам ведаю — час не такі, каб хадзіць.

— Дык вось — ідзі і скажы брыгадзіру, каб даў табе работу. Такую, каб па нырках.

У яго яшчэ хапіла натуры засмяяцца, захіхікаць па-свойму, як валацужка. Ды я не слухаў больш, пайшоў.

«Сядзіць ён тут,— думаў я, ідучы,— гэты самы «ясневялебны ксёндз пробашч», за гэтым мурам святым і, як павук які, снуе сваю справу. Відаць, і шляхціц наш на повадзе ў яго. Прыбег жа нечага? Не думаю, што проста так».

І тут я ўспомніў, што запісачка з дзвярэй — пры мне... Што ж, пагаворым з Кастусём.

Наташа, жонка Косці Ячнага, стаіць на ганку са сваім Юрачкам на руках, і на твары яе — усмешка. Кастусь заводзіць матацыкл.

— А вы, Вася, трымайцеся добра,— гаворыць мне Наташа,— а то ён толькі і ведае, што гнаць, як вецер. Я з ім наогул баюся садзіцца.

— І правільна,— адказвае Кастусь.— Сядай, гвардзеец, і трымайся!

Матацыкл грукоча, як звер, якога раззлавалі і трымаюць.

Я яшчэ раз гукаю:

— Наташа, бывай!

Я чую, як яна смяецца:

— Леначцы ад мяне прывітанне! Ад Юрачкі і ад мяне!..

На павароце з двара заўважаю яшчэ раз усмешку Наташы, і вось мы ўжо ляцім па бруку цэнтральнай вуліцы.

Вечарэе тым часам. Мільгаюць голыя дрэвы, руіны, новыя домікі, людзі... Пасля мы ныраем пад арку на выездзе з гарадка, і вось яно — чыстае поле!.. Затуліўшы калені крыссямі шыняля, я сяджу за шырокай спіной Кастуся. Гляджу на рукі ў скураных рукавіцах, якія моцна ляжаць на ручках руля, гляджу збоку на твар, і мне смешна — які ён важны цяпер, які падобны... ну, нават, можна сказаць, і на лётчыка. А больш за ўсё — на бацьку, на старога Ячнага.

Ні хлопнуць Косцю па плячы, ні крыкнуць мне нязручна. Вецер садзіць у вочы, фурчыць у вушах. Застаецца толькі ўсміхацца... ды і то схаваўшыся за чужую спіну. І нясеш жа ты мяне, нясеш, як чорт грэшную душу! Любяць Ячныя ездзіць — нічога не скажаш!

Мы ўжо даўно за горадам. Даўно мільгануў кіламетровы слуп — і адзін, і другі... Хутка будзе рака. І вось мы пад гарой ужо, выныраем з-за гары, ледзь не потырч ляцім уніз... Ды ну цябе — пажыць ахвота, памалей!..

Кастусь, нібы адчуўшы маю думку, прыцішае ход, і вось мы набліжаемся да Нёмана.

На гэтым беразе ракі, трохі воддаль ад гасцінца — вёска, аднаасобная яшчэ Пясчаная Слабада. На доўгім мосце, з гэтага канца, стаяць два мужчыны. Калі мы пад'язджаем зусім блізка, абодва яны паспешліва здымаюць шапкі. Шпэк скідае асабліва старанна — я пазнаю яго на ляту.

Хачу нешта сказаць; Кастусь, відаць, таксама. Пераехаўшы мост, ён паварочвае да хаты пры гасцінцы і спыняецца.

— Перакур, гвардзеец! Ну, бачыў? «Мы простимся на мосту...» Нічога ты сабе калгаснічка нажыў! Яшчэ ўсё дахаты ідзе...

Шпэк стаяў з Рыбалтовічам.

Рыбалтовіч — адзін з самых цёплых калісьці дзядзькоў у гэтай вось Пясчанай Слабадзе. Падлеткамі яшчэ чыталі мы з Кастусём «Біблію» Крапівы. І хто б, як вы падумаеце, даваў нам гэтую кнігу ў той праклятый час! Старэйшы сын Рыбалтовіча, Янка. Ён вучыўся ў беларускай гімназіі і здаваўся нам тады вельмі адукаваным і разумным чалавекам, нават камуністам. А потым справа з гэтым тыпам праяснілася. Людзей паны саджалі ў турму, ганялі па гасцінцах пад канвоем, у кайданах. А малады Рыбалтовіч узышоў нарэшце, як бацька яго гаварыў, на правільны шлях,— пайшоў вучыцца на уніяцкага ксяндза.

Толькі нядаўна я па-сапраўднаму даведаўся, што такое унія. Паны прыдумалі яе даўно, каб ачмурыць нас, адарваць нас ад Расіі. Для гэтага «божы наместнік на зямлі» — рымскі папа — паслаў магната Шаптыцкага з Рыма ў Львоў. Святыя шпікі гэтага святога абшарніка прыйшлі і ў наш прыгранічны раён. Знай-

шлі недзе маладога Рыбалтовіча — а можа, ён і сам іх знайшоў — і павялі яго на павадку ў Львоў. Першы апостал з нашай ваколіцы.

Калі сын прыязджаў на канікулы, бацька набожна выпільваў з шыпшыны калючую рамку на абразок распятага пана Езуса, чытаў малодшым дзецям «святыя кнігі» памочнікаў мітрапаліта Шаптыцкага і нават слёзы, казалі, выціраў, слухаючы сардэчныя малітвы свайго вучонага сына. Такому бацьку што — абы сынок камандаваў людзьмі, абы лягчэйшы кавалак хлеба. А сын чытаў, маліўся над магілкамі сваіх дзядоў па-лацінску, з езуіцкай лісінай пакорай хадзіў па вёсках, носячы людзям «збаўленне ад бязбожнага камунізма»...

У час гітлераўскай акупацыі гэты любімы сынок Шаптыцкага з'явіўся аднекуль ужо без «господняй спадніцы». Новы кавалак лягчэйшага хлеба яму падкінулі цяпер нямецкія фашысты. Брахаў ён за гэты хлеб і ў газетах і па радыё. Ды яшчэ забраў да сябе, у горад, і двух малодшых братоў, каб вывесці і іх у людзі. І вывеў. Адзін быў звычайным паліцаем, а другі, як «больш здольны», вучыўся з нашым Носікам у эсэсаўскай школе.

Цяпер, кажуць, стары Рыбалтовіч у крыўдзе на савецкую ўладу: адзін сынок сядзіць, другі недзе «прапаў», і толькі самы старэйшы, уніят, трапіў пад цёплае крыло гарачых абаронцаў «святой веры»,— ажно ў Амерыку.

— А кланяюцца яны цяпер як нізенька: проста самому ад гэтага нудна,— сказаў я Кастусю, калі мы кончылі курыць.

— Ну іх к чорту! Не думай, Шпэк не так сабе нюхаецца з імі,— і з Рыбалтовічам, і з ксяндзом.

## 13

Даўней былі па нашых вёсках корчмы. Нібы скула на целе мужыцкім, сядзела такая карчма ў Забалоцці, цягнула з хат апошні грош на выпіўку. Маці расказвае, што бывала калісьці так: выйдзе які-небудзь дзядзька Тамаш ці Якуб раніцой трасянкі ўкінуць карове і,

глядзіш, няма яго назад, не ідзе... Цётка занепакоіцца, пакіне часам і печ незаслоненай — бяжыць шукаць гаспадара ў карчму. Так і знай, што ён там. Сядзіць і жлукча разведзеную вадой сівуху, закусвае ляжалым таранам. Дзядзька, вядома, не адзін, у кампаніі. Клюнулі ніштавата, ужо і да песень дайшло. Калі ж катора цётка схамянецца шукаць трошкі пазней — мужыкі паспеюць і пасварыцца, а то і ўзяцца ўчубкі. Часцей жа за ўсё бывала так, што цётцы налівалі ў чарачку каліва гары і яна канчаткова здавалася.

У свята карчма была заўсёды поўная. Карчмар паспяваў толькі запісваць, хто колькі бярэ «на павер». А вёска піла. Піла ад гора. Піла ад радасці... Ды якая там, зрэшты, магла быць радасць на хлебе з мякінай!..

Ужо на памяці такіх, як я, корчмаў нідзе па вёсках не было. Забалачане збіраліся ў Ячнага. Найбольш мужчыны, гаспадары, бо ў моладзі быў свой прыпынак, іншая хата. Ячны жыў такім чынам увесь на вачах, у людзей. Няма ніколі, каб у хаце не было каго-небудзь чужога; не з'ясі нават бульбы ці хлеба кавалак, каб людзі не бачылі, не скажаш слова на жонку ці сына, каб нехта не чуў.

Пасля вызвалення ў моладзі быў чырвоны куток, потым — клуб. Аднак мужчыны па-ранейшаму хадзілі і да Ячнага. «У меншай хаце цяплей,— гаварылі яны,— а клуб — ён падыходзіць больш для моладзі».

Старая прывычка ў старых засталася, ды гутарка ў іхнім «клубе» была, вядома, новая.

Надзеўшы свае акуляры, Ячны чытаў уголас «стацейкі» з газет, а потым мужчыны доўга, дзелавіта і амаль заўсёды весела абмяркоўвалі ўсё: будаўніцтва заводаў, дарог, гарадоў; справы ў калгасах — у нашай «Заходняй» і там, на ўсходзе, дзе яны ёсць ужо даўно. Абмяркоўваліся таксама і міжнародныя справы. Якой трасцы, напрыклад, хочацца Трумэну і ўсёй яго хеўры, што яны пагражаюць новай вайной? Часта Ячны чытаў якую-небудзь кнігу,— таксама уголас, бо інакш яму і не далі б чытаць.

Пасяджэнні праўлення, пасля таго як згарэў наш клуб, адбываліся таксама ў хаце Ячнага. Так яно ўсё было цікава спачатку, што прыходзілі не толькі члены праўлення, а ўсе амаль мужчыны, колькі ўлазіла ў хату.

Тым больш цікава было ўвечары, калі мы з Кастусём прыехалі з раёна.

Таксама, як мы, Кастусь не мог дачакацца вясны — рупіла хлопцу пачынаць у нас будаўніцтва калгаснага двара. Пачатак быў зроблены і, трэба сказаць, пачатак нядрэнны — больш ста кубаметраў сасны ляжала за вёскай на ўзгорку.

— Так... Забалоцце,— гаварыў Кастусь, схіліўшыся над праектам плана калгаснага двара.— Трэба сказаць, што назву нашай вёскі прыдумаў нехта трапна. Я дагэтуль аблазіў увесь наш раён, кожную сцежку, і ўсюды, таварышы, адна песня: амаль кожную нашу вёску можна было б назваць ці Забалоццем, ці Пясчанкай. Паны заўсёды заграбалі лепшыя землі сабе, заўсёды адціскалі нашага брата бліжэй да балота і пяскоў. Глядзіш — то поле табе барануе сам вецер, як у Пясчанай Слабадзе, то копы сена, як у нас было,— не сена, а слёзы, адна асака — трэба вывозіць з балота на лыжах...

Рыгор Камлюк, нядаўна прызначаны конюхам, мужчынка з каласамі ў каўняры кажуха, заварушыўся.

— Канешне,— сказаў ён,— усё гэта самая чыстая праўда. Каровы нашы ходзяць цяпер па траве, як па моры. А некалі ж душыліся ў гразі. Есці, бедная, хоча, залезе ў балота ды так і засядзе. Кожны дзянёк валачылі скаціну з багны.

— Нясеш тыя разы сена з балота,— пачаў Шарэйка,— а з рэзгінаў па спіне вада так і цячэ... Ха-лодненькая!..

— Ну добра, добра,— не вытрымаў Гаўрусь Каляда, які заўсёды любіць самую кароткую гаворку.— Ты, Косця, гавары.

Я гляджу на Кастуся, і ўзыходзіць на думку яго гаворка пра крыніцы. «Малевіч крыніцу пусціў на балота,— расказваў Кастусь,— сажалку выкапаў, карпаў разводзіць. А даўней як было?! Даўней у нас ваявалі з крыніцамі — загачвалі іх пырнікам, каменнем. Пад зямлю заганялі, каб больш было поля. А мы іх выпусцім на прастор — няхай бягуць, няхай працуюць на нас!..»

— Нехта скажа або хоць падумае,— гаворыць Кастусь,— што справу гэтую, калі на добры лад, трэ-

ба было б пачынаць трохі пазней: «ніхто зімой не будаваўся»... А мы пачнём сёе-тое цяпер,— не церпіцца, лішне доўга чакалі і мы, і нашы бацькі! Чаго мне тут з вамі лазіць па полі ды выбіраць, дзе будзе лепш: усе мы ведаем, што лепшага месца пад наш калгасны двор як Першая Кругліца — не знойдзеш і са свечкай.

Першая Кругліца — вялікае ўрочышча панскага некалі поля, што даходзіла краем да самага Забалоцця. Гэтым іменна «кавалачкам» зямлі — кавалачак гектараў трыста! — пан Баркоўскі і прыціскаў нашу вёску да балота.

— Правільна, Косця,— зноў не вытрымаў Камлюк.— Тут мы будзем цяпер будавацца.

— І суха, і ад вёскі блізенька, і паша таксама пад бокам,— пацвердзіў дзядзька Ячны. Стары ведаў ужо, што за план намеціў яго Кастусь, і яму, як бацьку, рупіла пахваліцца і правільным планам, і правільным сынам.— А потым,— гаварыў ён,— хто будзе жыў, дык мы і вёску перанясём вышэй, каб не мясіць гразі.

Кастусь паглядзеў на бацьку і ўсміхнуўся:

— А можа, ты і далажыў бы за мяне?

— А што ты думаеш,— пакрыўдзіўся стары,— ты думаеш — я не сказаў бы?

— Стары мой правільна сказаў,— спакойна гаварыў далей Кастусь,— пазней нам прыйдзецца і вёску вынесці з гразі, а потым і балота асушыць і сажалкі выкапаць, карпаў развесці. Але на ўсё свой час. Пачынаць будзем не з гэтага. Калгасны двор пачнём з пабудовы грамадскага свірна. Тады — канюшня і кароўнік. З гэтым трэба будзе паспець да зімы, а там далей будзе відаць. Можа, і з клубам што-небудзь прыдумаем.

— Столькі будынкаў за лета? — не вытрымаў Гаўрусь Каляда.— Дай, божа, адолець. Ды і дрэва ці хопіць яшчэ...

— Аб гэтым, братка, таксама ёсць што сказаць,— усміхнуўся Кастусь.— Я нешта потым скажу,— раней няхай гаворыць старшыня. Давай, Васіль, пачынай!

Я гаварыў пра будынкі, якія падлягаюць абагульненню,— пра ўсе гумны і пра адно гумно, што найбольшае ў Забалоцці.

— Бабрук, таварышы, дастукаўся. Закопваў хлеб, з пастаўкамі не справіўся — судзілі, і гэта ўсім нам вя-

дома. А ёсць і новае. Я заходзіў сёння ў райфо. Нам прапануюць забраць за сходную цану яго будынкі. Нам — бо гэта ж, так сказаць, наша балячка, гэты Бабрук. Я згадзіўся, аформіў справу цераз банк. Паслязаўтра прыедзе інспектар дзяржаўных даходаў і перадасць будынкі нам. Правільна?

Праз нейкі момант у хаце было ціха.

— Та-ак,— пачаў потым Ячны.— Новая навіна на старое чэрава...

— А што яго шкадаваць,— сказаў Камлюк.— Ён хіба чалавека мілаваў? Пры немцах толькі што выраблялі! А дай яму волю яшчэ раз, няхай бы толькі сыночкі вярнуліся,— ён бы яшчэ не так ашчэрыўся!..

Лёня Шарэйка скрывіўся:

— А ўсё ж такі шкада. Успомню толькі, як я каровы пасвіў у яго, як я яму варону ўкінуў у студню — ажно цяпер душа баліць за чалавека. А ў Васіля ж у нашага таксама. Ён жа таксама Бабрукову заціркачку сёрбаў. Давай, Васіль, разам паплачам!..

— Ой, ой, ой! І накурылі ж вы! — раптам пачулася ад парога.— Сваё неба зрабілі мне ў хаце. Добры вечар усім!

Гэта вярнулася з вячорак Волечка.

— Нешта ранавата яна,— штурхануў я Чыгунка.— І ёй не сядзіцца адной на вячорках. А не ведаеш часам чаму?

Алесь усміхнуўся, здаволены гэтым намёкам, бліснуў вачыма і прагудзеў:

— Ну, ну. А сам ты нібы лепшы.

А Волечка яго — нічога сакатуха. Румяная з марозу. А смяецца — аж зубы блішчаць.

— Сядзіце тут ды курыце,— кажа яна,— а ў Тарадры ікона абнавілася. Па ўсім сяле пайшло, а вы...

Ячны паглядзеў на мяне, хітравата прыплюшчыўшы левае вока пад сівым брывом.

— А што, не казаў я? Усё ў работу пойдзе як па плану!

...Пасяджэнне на гэтым не закончылася. Сяму-таму, вядома, хацелася б пайсці паглядзець на новае дзіва, што хадзіла-хадзіла навокал па вёсках і вось прыйшло нарэшце і да нас. Аднак ніхто не выйшаў.

— Глупства ўсё гэта, таварышы,— сказаў Кастусь,— будзем працягваць работу. Варожыя штучкі.

Хто не ўтрымаўся за грыву — таму і хвост не паможа. Дазвольце слова мне.

Ён гаварыў пра гліну ў нашых глінішчах і пра саманнае будаўніцтва.

## 14

— Эх ты, Васіль,— зайшоў да нас уранні Чыгунок,— сядзіш ты тут ды з ботам калупаешся, а я тым часам цуд зрабіў. Быў я дагэтуль Алесь, ды і толькі. А з сённяшняга дня я цудатворац. Старая ваша ў хаце? Не. Шкада... Ці быў такі святы, Васіль, як я,— які-небудзь Алесь ці Аляксей Цудатворац?

— Такога чорнага, як ты, здаецца, не было. Ды нешта ж і ты сёння няўмурзаны...

— А я, брат, і ў кузню яшчэ не заходзіў. Прыйшоў учора ■ праўлення і думаю: як жа нам тут сустрэць яе, ікону гэту абноўленую. Я ж яго, госпада бога, калісьці сам маляваў, памятаеш?

— Ну, і што ж ты прыдумаў?

— Прыдумаў, не бойся. Прыйшлося толькі ранелька збегаць у Клёнава, у аптэку.

Чыгунок зняў свае аўчынныя рукавіцы, кінуў іх на лаву і паправіў на кучаравым, «цыганскім», чубе вушанку, відаць, для таго, каб ямчэй было гаварыць.

— Якраз паспеў на іхняе набажэнства. Бачу, брат ты мой, поўная хата, а сама Тарадра падперлася кулачком і лапоча:

«Я ж кажу — я гэта хату пад вечар перамятаю, а потым гэта калі блісне, калі зазіхаціць! Гляджу — ды гэта ж прасвятая багародзіца! Усё золатца, што навокал яе святога тварыка, так і пасвятлела, так і блішчыць, як новенькае! Перахрысцілася я, цётачкі, ды — пуц адразу на калені...»

Бабы вушы развесілі, слухаюць. А Бабручыхі няма. Ну, думаю, ёлкі вашы зялёныя, я гэту справу разбяру. Цуд-то цуд, ды якія ж тут вывады будуць? А яна, брат, давай ім гэтыя вывады, як па пісанаму, адчытваць.

«А што,— кажа,— брэшуць толькі, што бога няма. І калгас гэты выдумалі, і ўсё...»

Так і ёсць,— думаю,— без Бабручыхі тут не абы-

шлося. Нават Ганна Носікава і тая ручкі на жываце зложыла.

«Канешне,— кажа,— сястрыцы мае. Сказаў бязумец у сэрцы сваім: няма бога. А ён,— кажа,— саздацель, бачыць усё. Се граду,— кажа,— і вазмездіе маё са мною...»

Тут я не вытрымаў:

«І ты сюды, кажу? А з якога гэта часу і вы, баптысты, за іконы берыцёся? То ж вы дагэтуль супроць іх былі».

Тады ўжо яны, бабы, на мяне — як тыя куры на бедную мыш.

«Бог адзін,— усхадзілася Тарадра.— Як хто ні моліцца, так і добра. А вы вон з мае хаты, бязбожнікі!..»

— А ты што, не адзін хіба быў? — спытаўся я ў Чыгунка.

— Ды што ты,— смяецца Алесь.— Ніводзін поп адзін абедню не правіць. Хлопцы былі і дзяўчаты. І па цябе я пасылаў, ды вас абодвух дома не было. А дзе ж Мікола?

— У сельсавет паехаў з Ячным Кастусём. Ну, гавары.

— Дай закуру. Дагэтуль часу не было.

«Аляксей Цудатворац» пачынае гарнуць папяросу. Аднак не церпіцца яму, і, слінячы яшчэ паперку, ён мармыча:

— Ну, тут ужо... вядома, я пачаў... Дай аганьку.

Пусціўшы з форсам першую зацяжку, Алесь пачаў гаварыць спакайней:

— Гляджу я, брат Васіль, на покуць, бачу — і праўда, блішчыць багародзіца. А побач з ёй — Мікалай Цудатворац. Глядзіць на мяне, барадач, з-пад свайго кацялка і, здаецца, вось-вось загне: «Пайшоў вон!..»

«Чаго ж ты,— кажу,— Таццяна, і Міколу яшчэ не памазала?»

«Што памазала? Чым памазала?»

«Сама,— кажу,— здарова ведаеш, чым мажуць. А хочаш, дык я табе яшчэ раз пакажу».

І паказваю ёй вось гэту самую, браток, бутэльку. «Ну, што,— кажу,— яна?»

«Нічога я не ведаю, чарнецце ты! Ніхто мне нічога не даваў. Няхай цябе,— кажа,— мазямі мажуць, калі я мазала яе!»

А тут хлопцы:

«Давай, Алесь, давай!»

«Што давай? А скулу я вам не дам?» — узвізгнула Тарадра.

Ніхто, брат, яе не трымае, а яна крычыць «пусці». А сама гэта ў запек ды за качалку. Шыбанула адтуль да стала на покуці і ну давай мянташыць качалкай, як шабляй.

Ну, думаю, тут можна, як той казаў, і галавой за праўду налажыць. Пойдзем, хлопцы, у абход. А мы ўзялі з сабою, пра запас, яшчэ адну ікону. І якраз такі самы Мікола: замурзаны, злосны. Дастаў я з кішэні анучку, змачыў яе з бутэлькі і пачаў. Выручай мяне, думаю, перакісь вадароду. Чуў, што гэтым можна пазалоту ачысціць, а сам ніколі не рабіў... І што ж ты думаеш? Пасвятлелі, брат, рызы свяціцеля! Хлопцы ў рогат, а я кажу:

«Ну, што, каханенькія, бачылі? Цяпер нясіце мне крупы і сала. Прымаю ў кузні, праз цэлы дзень».

І аб'явіў ім тады, што вось у гэтай бутэльцы. «А можна,— кажу,— і цыбулькай памазаць. Таксама памагае, аднаўляецца».

Правёў я першую частку праграмы і думаю — як тут прымусіць Тарадру прызнацца? Бо яна, брат, стаіць і маўчыць як вады ў рот набраўшы.

«Што,— кажу,— Таццяна, няёмка прызнацца, дык я памагу. Цябе,— кажу,— падвучыў той самы чалавек, лепш сказаць — тая самая баба, пра якую і я цяпер думаю. Праўда?»

«Чорт цябе ведае, пра каго ты думаеш. Чаго ты прыстаў да мяне?!»

«А думаю я пра таго,— кажу,— пра каго ты цяпер і сама думаеш».

«Чаго мне думаць пра яе! Што яна,— кажа,— маці мая або цётка? Што я не такі самы бедны чалавек, як і ты?..»

«Я ведаю,— кажу,— таксама, што яна табе дала».

«А што яна мне дала? Няхай яна ўдушыцца салам сваім!.. У-у-у!»

Так і паехала, так і заспявала. Нават качалка, здаецца, сама ўпала з рукі.

— Ну, як, Васіль, здарава?

Чыгунок глядзіць на мяне і прыкметна здзіўляецца маім маўчаннем.

— Не падабаецца, ці што?

— Нішто сабе зроблена,— усміхаюся я.— Ды толькі справу гэтую можна было зрабіць куды лепш.

— Яшчэ лепш? Эх, чорт, а можа, і трэба было мне з табою параіцца.

— Я пра другое ўчора думаў,— кажу я, канчаючы шыць.— Не трэба было б і ў хату ісці да яе і паднімаць гармідар з бабамі. Культурна можна было б зрабіць. Падрыхтаваў бы нехта з нас даклад пра гэту самую пятрушку з абнаўленнямі і прачытаў. Тады можна было б і цыбулькай нацерці ці гэтай самай хіміяй, па якую ты нашча бегаў у аптэку. Што, Аляксей Цудатворца, не так?

З новай цыгаркай у сціснутых губах Чыгунок збянтэжана глядзіць на мяне вялікімі цыганскімі вачыма і маўчыць, узважвае, што тут рабіць.

— У цябе тут што-небудзь знойдзецца? — ківае ён пасля на паліцу, дзе кнігі.

— Такога, каб адразу коратка і пра адно — няма. У бібліятэцы нашай, здаецца, такія брашуркі былі.

— Хрэн яго разбярэцца. Не з маім ротам мышэй лавіць.

Я абуваю свой ваенны, адрамантаваны бот, а ён, Алесь, гаворыць:

— А пра мянушку, брат, ты ўжо нікому не кажы.

— Пра якую мянушку?

— Ну, што я — Цудатворац.

— Зробіш даклад — не скажу. Ды сам жа ты і выдумаў яе. Свая сярмяжка не цяжка.

Мы выходзім на двор і разыходзімся кожны ў свой бок: Алесь у кузню, а я на склад, куды сёння звозім з двароў насенны фонд.

— Дык памятай,— гаворыць яшчэ раз Алесь,— пра Цудатворца больш ні слова.

Гэтая просьба здаецца мне такой недарослай, што я спыняюся і гляджу ўслед Чыгунку. Самому хочацца быць маладзейшым. Я крычу:

— Э, Аляксей!..

І ён здагадваецца, што гэта за намёк. Зняўшы свае аўчынныя рукавіцы, Алесь кладзе іх у кішэню і вось камячыць кавальскімі лапамі снежку.

## 15

На досвітку наступнага дня да ціхай хаты наводшыбе Забалоцця падкралася цёмная постаць.

За падвойнымі шыбамі новага акна гарэла лямпа. Маладзіца сядзела на прасніцы. Яна то глядзела на кужаль, з якога спрытныя пальцы выводзілі тонкую нітку, то зноў паглядала ў калыску. Калыска звісала ад бэлькі, на тонкіх вяроўках, якія летась толькі звіў шчаслівы бацька. У калысцы гудзела дзяўчынка. Яна паспела ўжо трохі паплакаць, пакуль разбудзіла маму, паспела і паснедаць. Маладзіца гайдае калыску нагой, а яе дарагая «бяссонніца» толькі робіць губамі «тттпппррр!.. ттппрррр!..». Калі ж яна чуе ласкавыя словы дакору і ловіць вачанятамі знаёмую ўсмешку — маленькія губкі яе зноў разводзіць смех.

— Зубок ты мой ненаглядны,— нахіляецца над калыскай маці.— Адзін зубок у дзеванькі маёй, адзін...

Пасля спрытныя пальцы зноў пачынаюць сукацьвыводзіць нітку, і, як ціхая музыка шчасця, шуміць нястомнае верацяно.

Малады гаспадар яшчэ спіць. І добра ёй, маладзіцы, ад думкі, што ўсё пайшло ў сям'і на лад. Учора і яна была ўжо на калгаснай працы. І сёння пойдзе, вядома. І зноў будзе рада, што разам з усімі людзьмі, а не так, як дагэтуль было — у злосці з роднымі, асобна ад усіх... І зноў будзе кіпець работа ў гэтых вось спрытных, умелых руках!

— Спі яшчэ, спі яшчэ, рыбка мая!.. Калгасніца мая, пявуння ты бяссонная!

Шыбы вокан замазаў мароз. З двара ў хату нічога не відаць.

Ды той, што стаіць за акном, не хоча тут бачыць нічога. Ён размахнуўся, падвойнае шкло зазвінела, і потым — пакуль ён паспеў шыбануць за вугал хаты — граната ахнула!..

Наш вартаўнік Цупрон, які хадзіў яшчэ без стрэльбы, не асмеліўся бегчы туды, дзе пачуўся выбух. Спачатку ён нават падумаў, што загрымела не там, на хутары, а ў вёсцы... Пакуль ён здагадаўся разбудзіць мяне, пакуль мы ўтрох — ён, Мікола і я — беглі па вулі-



Каля сцірты бавоўны. *Справа налева:*
П. Нілін, Л. Клімовіч, М. Турсун-Задэ, А. Вялюгін,
П. Лукніцкі, Я. Брыль, С. Барадзін.
*Таджыкістан, 1947 г.*

цы вёскі — справа, ад рэчкі, пачуўся немы, адчайны крык:

— А-га-а-а-а!!

Па сэрцы разанула здагадка.

З адным партызанскім наганам на трох мы пабеглі праз двор да ракі.

— Вазьмі мой кій!.. Пачакай! — задыхана крычаў за мной Цупрон.— На, вазьмі... Я мужчын пабуджу...

Мікола дабег да рэчкі першы. На гэтым беразе яшчэ, прыгнуўшыся, ён закрычаў:

— Міхась!..

Здагадка стала жахлівай праўдай.

Швагер праклаў на хрупкім снезе доўгі крывавы след. Поўз на руках, з параненай нагой, толькі ў бялізне. Моўчкі дапоўз да ракі і, не могучы больш, пакаціўся зверху на лёд. Здолеў яшчэ дакаціцца да гэтага берага, змог учапіцца рукамі за ніцы лазняк, ды тут ужо, відаць, спалохаўся, што больш не зможа сам, адзін, і закрычаў.

Мы павярнулі Міхася наўзнак, але праз кроў, што цякла па твары, залiваючы рот, праз хрыпенне пачуліся толькі два словы:

— Я-а... а-дзін...

За намі беглі ад вёскі мужчыны. Спачатку нешта двух ці трох, і я пазнаў па голасу Шарэйку. Потым, калі я дагнаў Міколу, калі Чыгунок — у расхрыстаным кажушку і з сякерай — задыхаў побач са мной,— мне зноў здалося, што ворагі яшчэ там, дзе засталіся Валя з Верачкай.

Ды іх, вядома, там ужо не было.

Там была смерць.

Калі я ўбачыў яе, асвяціўшы ліхтарыкам хату — ліхтарык мой, здалося мне, пагас...

Граната ўпала тут — паміж калыскай і ложкам. Дзіця разбілася аб край стала. Валю, відаць, адкінула калыскай да сцяны,— яна ляжала галавой пад стол, у лужыне крыві.

Я ўзяў запясць яе малой, халоднай рукі і, перш чым як след разабрацца, крыкнуў:

— Жывая!..

Нехта з хлопцаў знайшоў палатніну — настольнік, ці што,— і мы абгарнулі крывавае, цяжкае цела. Тады

Шарэйка зняў з сябе доўгі кажух, мы загарнулі Валю яшчэ раз і ўдвух панеслі да нас.

Міхась быў ужо там.

Даўно гэта было, больш дзесяці гадоў таму назад, калі малую сястрычку маю ўдарыў мужчынскай рукой па худзенькім дзіцячым твары плюгавы асаднік Куля — панскі настаўнік у забалоцкай школе.

І Валька не пайшла больш у школу. Выйшла назаўтра з хаты, патэпала трошкі ўздоўж плота, а потым, як быццам успомніўшы нешта, з плачам пабегла назад. Мама ўзяла яе на рукі і панесла ў школу сама. Разам з чарніліцай у запэцканых чарнілам пальчыках, разам з кужэльнай сумачкай, на якой уласнай рукой дзяўчынкі былі вышыты крывыя літары яе прыгожага імя.

Мяне не было тады дома два дні, і маці хацела наладзіць справу сама. Думала нават сказаць, што і пану таксама не можна быць зверам,— ды ён затупаў на яе і вызверыўся яшчэ горш як на малую першакласніцу. Ідучы назад, яны зноў плакалі, і мама супакойвала Валю тым, што прыйдзе час і на паноў.

А я не хацеў таго часу чакаць. Увечары, вярнуўшыся дахаты, я ўзяў з сабой дручок, паставіў яго каля школьнага ганка і пастукаў у дзверы таго, каго нельга назваць святым словам «настаўнік».

Куля, відаць, драмаў ці так ляжаў у п'яным ачмурэнні,— я застаў яго на ложку. Ён сеў — увесь памяты і зпахмачаны — і хрыплым голасам спытаў:

— Ну чаго?

Калі ж я папрасіў яго выйсці за мной на двор — ён зразумеў усё і ўстаў...

— Чаго на двор? Чаго я пайду гэтак позна на двор? — мармытаў ён і шарыў вачыма навокал сябе, нібы не могучы нечага ўспомніць. Калі ж ён кінуўся ў куток да этажэркі — я зразумеў яго намер...

Пад рукой у мяне была адна толькі зброя — табурэт ля парога, які я схапіў і шпурнуў у куток. Мусіць, удала, бо Куля зароў і пасля — удагон мне — па школьных дзвярах секанулі два стрэлы яго пісталета...

Гэта было даўно, калі я быў яшчэ падлеткам, калі паны маглі мяне назаўтра завесці ў падвал пастарунка.

А сёння вораг — нікчэмны, подлы забойца дзя-

цей — прыйшоў у светлы наш дом ваўчынай, начною хадой і тут жа — побач са мной, побач з намі, салдатамі,— ударыў Валю маю так жахліва, як могуць прыдумаць толькі яны...

Верачкі больш няма: недзе там, на нашых могілках, ужо, відаць, апусцілі ў глыбокую, вузкую яму малую сасновую трунку. І Валя таксама не бачыла гэтага...

Яна ляжыць на ложку раённай бальніцы, а я сяджу ў яе нагах. Даўно сяджу, даўно прайшоў сённяшні цяжкі дзень, а яна ўсё маўчыць. Забінтаваная галава бяссільна ляжыць на падушцы, і бледны, атулены бінтам твар здаецца мне малым, дзіцячым тварыкам. Ніхто не бачыць гэтага, і я ўстаю, гляджу на закрытыя вочы і сціснутыя вусны сястры і шапчу:

— Валюня... слаўная мая... скажы што-небудзь. Скажы...

Тады да пляча майго зноў нехта дакранаецца, і голас — знаёмы голас Марыі Сцяпанаўны — зноў выводзіць мяне з забыцця.

— Як вам не сорамна! Ну, я ж казала вам не хвалявацца. Хворай ад гэтага не будзе лепш.

Я прызвычаіўся верыць у сілу разумных людзей, я быў нядрэнным салдатам, і таму я зусім паслухмяна саджуся.

— Скажыце, доктар, яна... будзе жыць?

— Ну, мілы мой, вядома, будзе! — гаворыць старая, і добрыя вочы яе глядзяць на мяне сур'ёзна.— Нічога яны нам не зробяць, разбойнікі. Валю я ім не аддам.

У Марыі Сцяпанаўны — раней брыгаднага ўрача — Валя была санітаркай. Яна вучыла Валю перавязваць раны партызан, яна выпраўляла малую маю разам з хлопцамі ў бой і не спала начамі, старая, думала, дзе цяпер, як цяпер ходзіць дзяўчына з зорачкай на кубанцы і з крыжам чырвоным на сумцы з бінтамі...

— Усё будзе добра,— гаворыць Марыя Сцяпанаўна,— вы зірніце, якое дыханне.

Валіны грудзі зыбаюцца ледзь-ледзь улоўна для маіх вачэй, а ўсё ж за кожным іх уздымам нарастае ў душы маёй вера. Так, яна будзе жыць! Мне здаецца, што Валя павінна вось-вось усміхнуцца, зірнуць на мяне... Ды галава яе ляжыць на белай падушцы неру-

хома, і ахутаны тварык яшчэ ўсё бледны, як нежывы.

Безвыходная, горкая злосць закіпае ў душы, і мне становіцца цесна і душна ў палаце.

І вось тады прыйшлі яны — Паўлюк Канцавы і старшыня райсавета Шаўчэнка.

— Таварыш сакратар,— усхапіўся я з месца.— Павел Іванавіч, дайце мне хлопцаў... Ну, дзесяць, пятнаццаць... Дазвольце нам знікнуць на тыдзень. І мы прывядзём іх сюды. Ну, мо без ног ці без рук... ну, мо без галавы, а прывядзём!.. Павел Іванавіч, дазвольце!..

Павел Іванавіч бярэ мяне каля локцяў і ледзь не шэпча:

— Спакойна трэба тут, Сурмак... Давай спачатку павітаемся. Ну, добры дзень... ці, праўда, добры вечар.

— Ты толькі ціха, Васіль, толькі ціха,— таксама шэпча Шаўчэнка.— Выйшлі разам з бюро, ну, і ўспомнілі.

— Ну, як сястра? — пытаецца Павел Іванавіч.

— Пад вечар палепшала трохі, таварыш камбрыг,— гаворыць за мяне Марыя Сцяпанаўна, забыўшыся, што Канцавы ўжо больш трох гадоў не «таварыш камбрыг», а сакратар райкома.— Заўтра трэба рабіць аперацыю, выняць асколак. А пры такой вялікай страце крыві...

Павел Іванавіч стаіць каля ўзгалоўя Валінага ложка. Высокі, ссутулены гадамі панскай турмы, ужо амаль сівы.

— Усё будзе добра,— гаворыць ён.— Заўтра рана тут будзе хірург. Самалётам. Смірноў. Я нядаўна званіў у абком.

— Ну, а як Ждановіч? — пытаецца Шаўчэнка пра Міхася.— Правядзіце мяне, Марыя Сцяпанаўна, дзе ён. Паўло Іванавіч, пайшлі.

Міхась у гарачцы, трызніць:

— Дзіця, дзіця маё вазьмі! Дыскі падай, Казлоў!..

— І так вось не сціхае,— кажа дзяжурная сястра.

— Гэты лягчэйшы,— гаворыць Марыя Сцяпанаўна.— Два няцяжкія пашкоджанні — галава і бядро. Таксама толькі вялікая страта крыві.

— А рэчку я... пе-ра-паў-зу, не бойся!.. Падайце мне яго сюды!.. Чаго стаіш?!

Міхась парываецца ўстаць, але боль у назе і цяжкая праз меру галава зноў прыціскаюць яго да пасцелі.

Павел Іванавіч маўчыць. Ён глядзіць на спавітую бінтам галаву свайго адважнага падрыўніка, потым ківае галавой:

— Эх, Ждановіч! Як дорага, хлопча, давялося заплаціць за гарачку!.. І ты, Васіль, таксама... Вайну ім хочаш аб'явіць? Так, брат, не робіцца. Той, каму даручана, зробіць і сам. І памагаць яму трэба — умеючы.

## 16

Дайшло да гэтага так.

Капейка забрыў да Міхася нешта хутка пасля сходу, на якім заснаваўся калгас. Забрыў на хутар упершыню, і гэта было яму з рукі: можна было, вельмі падобна на праўду, здзіўляцца швагравым дастаткам і хваліць яго гаспадарлівасць.

— Парадачак у цябе, Сільвестравіч, трэба сказаць, адмысловы,— гаварыў ён, стоячы з Міхасём на ганку.— Плот які хлёсткі! Кубаметраў пад сорак пайшло?

— Чорт іх мераў. Вазіў ды рэзаў.

Міхась ведаў больш-менш, што за цацка яго няпрошаны госць, добра ведаў і тое, як глядзіць на Капейку большасць яго, Міхасёвых, сяброў, як адносімся я і Мікола. Ведаў, глядзеў на прайдзісвета зверху, як можа глядзець на такога партызан, франтавік, інвалід. Але, з другога боку, Міхась адчуваў пасля сходу, што ўсе мы — хто пайшоў у калгас — аддзяліліся ад яго, засталіся на тым баку і паміж намі ўстаў яго высокі шчыльны плот. Больш таго — Міхась разумеў, што не мы аддзяліліся, а ён сам аддзяліўся ад нас, таксама як сам паставіў гэты плот. І таму, што за рэчкай і плотам было дзікавата, а лічыць, што праўда на яго баку — вельмі хацелася, Міхась слухаў Капейкавы словы спачатку цярпліва, а потым і прыхільна.

— Цяпер, вядома, з лесам лягчэй,— гаварыў Капейка.— І маладзец, што не драмаў у шапку. Тут, брат, так — што выхапіш, тое і тваё. Як з кіпеню. Гумно таксама нядаўна рабіў?

— Летась.

— Колькі яно табе, браток, аднаго здароўя каштавала, інваліду...

— Пайду кабыле дам,— сказаў гаспадар.

Капейка пасунуўся следам. Пакуль мяшаць кабыле сечку, Міхась выпусціў яе да вады. І тут Капейка зноў пачаў хваліць — і кабылу з жарабём, і карыта каля студні, з якога яны пілі, і жолаб, у якім Міхась абмешваў вотруб'ямі сечку. І ўсё, што гаварыў Капейка, ападала на цвёрдае сэрца майго швагруся, нібы кропля за кропляй на камень.

Паслаць такога суцяшальніка к чорту — што ён зрабіў бы раней — Міхась ужо не мог: кроплі рабілі сваё...

— У цябе б, Сільвестравіч, рабацёнку якую займець,— сказаў Капейка пасля.— Хоць бы за хлеб. Цяпер, брат, няма чаго за многім гнацца.

Рабацёнка знайшлася, і Капейка адразу пайшоў у вёску, па свой мяшок з начыннем.

Валя прыйшла да нас назаўтра і зноў заплакала:

— На ліха ён здаўся нам, я гаварыла. І скрыня тая — на чорта яна! Няма дзе дошак падзець? Наваланок мне іх поўную хату. Ну... я не ведаю, мама, а ўчора як падумала — дык і спаць не магла... І цяпер не магу супакоіцца... Так і здаецца, што гэта ён робіць... труну...

— Ты што, дурніца! Падумай, што гаворыш!..

Ноччу Валя плакала цішком, каб не чуў чужы, і прасіла Міхася не звязвацца «з такім», а гэты самы «такі» нібыта хроп на лаве, а ўсё прыслухоўваўся.

— Баба, Сільвестравіч, бабай,— гаварыў ён назаўтра, паволі габлюючы дошку.— А твая ж, брат, хутчэй пацягне за маткай ды за братамі. Ты для яе — другарадная справа...

Пад вечар, як толькі Капейка выйшаў, Міхась аб'явіў, каб Валя больш не хадзіла да нас. «Або ты замужам — і слухай мужыка, або... як не, дык не!» Валя адказала, што «адно з двух — Капейка для цябе ці я», а то вось возьме малую і пойдзе да мамы. Міхась не ўдарыў яе, як гэта здарылася першы раз, але і Верачкі не даў таксама.

— Ты, Валя, не гізуй,— сказаў ён, доўга памаўчаўшы.— Ты не думай — я не забыўся...

Ён гаварыў і глядзеў на Валю так незвычайна, як

быццам хацеў напомніць ёй далёкі ўзлесак, зімовую сцюжу і першую сваю рану, якую не хто-небудзь іншы — яна перавязвала.

І Валя цяпер зразумела яго, здагадалася сэрцам, пра што ён хоча сказаць.

— Ну, дык чаму ж ты з ім шэпчашся, Міша?! Ну, дык чаму ж ён тут поўзае? Вунь дзе, лезе ўжо — глянь, палюбуйся.

Капейка ішоў ад ракі.

— Не я шапчу, а ён,— прыцішыў голас Міхась.— І ты не вельмі прыслухоўвайся. Я ведаю, што раблю.

Малая Верачка, што сядзела на каленях у бацькі, паглядзела на Міхася, паглядзела на Валю і, не могучы больш нічога сказаць ім, сказала «та-та» і «ма-ма». Міхась прыгарнуў малую, а Валя змоўкла...

Яна зразумела яшчэ раз, і вельмі моцна, што Верачкі ніхто ёй не аддасць, што без Верачкі яна — як там ні будзе — нікуды не пойдзе, што ісці ёй нікуды не трэба.

— Дык ты глядзі, Міхась,— сказала яна і ледзь не пабегла ў бакоўку-кухню. Сказала б, відаць, і яшчэ нешта, ды не хацела, каб пачуў чужы і — яшчэ больш — каб ён бачыў яе слёзы.

А чужы ўжо тупаў у сенцах, абіваючы з валёнкаў снег.

Яшчэ тыдні праз два Капейка згарадзіў нарэшце скрынку на авёс, і гаспадар паставіў увечары чарку.

Чарка гэта была не першая. Сяды-тады, з тугі, Міхась наліваў па шклянцы, і на душу яго зноў пачыналі капаць цёплыя, ліпкія кроплі Капейкавых слоў. Ды хутка гэта апрыкрала. Ужо было неаднойчы пахвалена ўсё — ад высокага плота, з якога Капейка пачаў, і да звычайнай дошкі на адрыне... Капейка, відаць, і сам палічыў, што ўжо даволі распарыў мужыка і можна паддаваць яго далейшай апрацоўцы. Ён пачаў пра вайну, што будзе нібы зусім неўзабаве, пра горкі лёс актывістаў, які чакае іх з прыходам тых, хто «навядзе парадак»...

Тады Міхась зразумеў канчаткова, што справа тут і сапраўды нячыстая. Яму здалося, нібы ён, што той дурны, даверлівы бычок, схіліў лабаціну, Капейка чухае яго паміж рог, а нож трымае тым часам напагатове...

І швагер вырашыў выпіць з Капейкам як след. «Паглядзім, хто больш панясе і што ты мне яшчэ раскажаш!»

Валя выпіла з імі паўчаркі, лягла на печы з Верачкай і прытаілася.

Яны ж сядзелі за сталом, адзін насупраць другога, і кулялі адну за адной. Капейка спляжыўся першы — пачаў гаварыць усё. На п'яны розум яму здавалася, што ён толькі робіць намёкі, ды ад гэтых намёкаў Міхась не спаў у тую ноч да дня, а, устаўшы раней за Капейку, сядзеў, курыў і думаў.

Думаць было аб чым. Міхась ведаў, колькі гарэлкі выпіў з Капейкам Мікола, і ўсё дарма. А тут той самы Капейка «намякнуў» яму за раз пра многае. Ёсць «людзі, што не спяць і цяпер». Іх малавата, але хутка будзе больш. І Рымша тут ужо. Ён ведае, што тут робіцца і хто тут што робіць, бо гэта не хто-небудзь чужы, а свой, тутэйшы, і ад яго нічога не схаваеш. Можа, ён з вашай нават, а мо і з суседняй вёскі — гэта пакуль што няважна. Важна адно — адкуль ён тут узяўся і хто яго паслаў. І хто хоча — той можа і сёння жыць так, каб заўтра яму сказалі дзякуй...

Валя казала потым, што імя маладога Носіка паўтаралася некалькі разоў. Адзін раз Капейка сказаў нешта і пра Грышку Бабрука... Міхась не мог прыпомніць гэтага і вінаваціў чарку.

Цяпер, уранні наступнага дня, ён моўчкі смаліў самасад і ўсё думаў аб тым, што, каб ён быў учора хоць крышку цвярэзейшы, і цяпер, каб яму другі розум — можна было б выпытаць у Капейкі больш.

Па снеданні, калі Валя, узяўшы Верачку з сабой, пайшла на суседні хутар з кудзеляй, Міхась пачаў атакаваць.

— Ты навучы мяне, Сяргей, што мне рабіць,— пачаў ён так шчыра, як толькі здолеў прыкінуцца.

Капейка раздумваў нядоўга.

— Ты хлопец хлёсткі,— прагудзеў ён, па-свойму і цяпер пазіраючы спадылба.— Ты мог бы, хочучы, многа зрабіць.

— Чаму ж ты думаеш, што я не хачу? Мяне толькі, брат, навучы...

Тады Капейка пачаў больш зразумела намякаць на тое, што ўсюды па вёсках ёсць «лішне гарачыя хлоп-

цы», актыў, якіх прыходзіцца «ахалоджваць». «Сямтам іх нашы ахалоджваюць,— ты сам, напэўна, чуў»...

Міхась устаў і, нібы так сабе, пачаў аглядаць сваю правую мыліцу. Ён узяў яе за ніжні, акуты, канец і спытаўся:

— Дык ты мне скажаш, можа, гранату ўкінуць каму-небудзь з іх? Можа, Шарэйку, а мо лепш швагру майму — Васілю?..

Капейка зразумеў усё, хацеў устаць... Ён не паспеў, бо па кепцы яго гваздanула, як цэп, прышыбкая салдацкая мыліца. Капейка хапіўся аберуч за твар і, згорбіўшыся, кінуўся да дзвярэй. Ды на бягу ён паспеў яшчэ двойчы ці тройчы адчуць на спіне, што пачаў гаварыць не з тым!..

Неўзабаве Міхась быў у нас з заявай. А пад вечар у хаце яго сядзеў малодшы лейтэнант Філіпаў.

— Ведаеш, Міша,— сказаў ён, выслухаўшы ўсё.— Каб я не быў з табой разам у партызанах, каб я не ведаў цябе — дальбог жа, хоць да адказнасці прыцягвай... Ну, што табе было сказаць хоць Васілю? Ну, што табе было хоць дзень яшчэ павалаводзіцца з Капейкам?.. А цяпер нам ізноў — шукай у полі ветру... Эх ты!

А «вецер з поля» вярнуўся да швагравай хаты на досвітку.

## 17

— Не было б у нас пана Рымшы — дык быў бы чорт іншы. Так, здаецца, калісьці казалі?.. Ты пачынай з Бабрука, які не справіўся з пастаўкай. За гэта ж мы і судзілі яго. А хто там Рымша — сынок Бабрукоў ці сынок Рыбалтовіча — гэта мы будзем ведаць. Каму ты ўжо сказаў пра гэта? Міколе? Ну, гэтаму можна, а больш, вядома, пачакай.

Павел Іванавіч Канцавы, каму я расказаў пра ўсё, што гаварыў Міхась, у заключэнне нашай гутаркі яшчэ раз паўтарыў:

— Усё, брат, у нашых руках. Гарачыцца не трэба. Спакойна, напорыста, планава. Возьмем.

Гэта я ўспамінаю сёння, калі мы ідзём па вёсцы ў той бок, дзе на ўзгорку, у самым канцы Забалоцця, відаць Бабрукова гняздо.

Ідзе нас шмат. Побач са мной — работнік райфа і Валодзя Цітовіч з ломікам на плячы.

— А можа, ён і клуб спаліў, і тую запіску на клямку чапляў? — пытаецца Валодзя.— Васіль Пятровіч, ён?

— Можа быць,— кажу я, і ад гэтай думкі мне робіцца смешна: не Бабруку хадзіць з такімі штукамі,— зацяжкі крок, завялікія боты.

Падыходзячы да плота Шпэкавай сядзібы, Шарэйка раптам крычыць:

— Э! Пачакай!

І праўда, позна хавацца. Шпэк паварочвае ад хлява назад. Мякка ступаючы валёнкамі ў галёшах, шляхціц хутка ідзе ад варот і на хаду, яшчэ здалёк, па-свойму ўсміхаецца:

— Дзень добры! Куды ж гэта вы ўсім калгасам?

— Ну, як сёння твае ныркі? — у сваю чаргу пытаецца Шарэйка.

— Хе-хе-хе, ты, брыгадзір, заўсёды — як скажаш!.. І праўда, куды вы?

— Бабрука раскулачваць. Пайшлі. Ты ж, здаецца, даўно хацеў узяцца за яго.

Шпэк хіхікае зноў, і па твары яго цяжка пазнаць, што думае.

— Я сякеру толькі вазьму, брыгадзір,— гаворыць ён,— я даганю вас, таварышы...

Дык вось ён, той самы высокі плот, тыя самыя высокія вароты!.. У вайну Забалоцце згарэла: амаль уся вёска, апроч хутароў. А Бабрукова хата — хоць у вёсцы, ды з краю — не ўзялася. Заскак брамкі даволі высока ад зямлі. Я ўспамінаю, падышоўшы да яе, што некалі было і мне сем год, і я, маленькі батрачок з парэпанымі чорнымі нагамі, ніяк не мог дастаць гэты заскак з зямлі...

Здаравенны сабака ўздымаецца з прызбы і, не спяшаючыся, ідзе насустрач нам. Спыніўшыся перада мной, звярына гэтая панура бурчыць праз адвіслыя губы і глядзіць на мяне такім чынам, нібы выбірае — з якога боку пачаць...

— У акно пастукаць трэба. А вунь — Бабручыха глядзіць!

Немалады жаночы твар мільгануў у шыбіне акна і

зноў схаваўся. Бабрук выйшаў з сяней і з парога паклікаў сабаку.

— Што скажаце, таварыш старшыня? — спытаўся стары, і па вачах яго мне здалося, што яму і пытацца не трэба: ведае.

Старому паказалі распараджэнне райфа: яго будынкі па суду перадаюцца калгасу.

— Гумно спачатку будзем разбіраць,— сказаў я.

Бабрук яшчэ раз паглядзеў з-пад вялікай аўчыннай шапкі:

— Ну што ж, ваша ўлада, бярыце...

Не так атрымалася з бабамі. Сама Бабручыха, Мітрафанава жонка Аксеня і дзве яе дачкі — адна ўжо дарослая дзеўка,— усе разам, як па камандзе, высыпалі з хаты. Ідучы за намі да гумна, яны пачалі галасіць. Бабрук застаўся, дзе стаяў.

— А сыночкі мае, а саколікі! — запрычытала Бабручыха.— А ці чуеце вы, а ці бачыце?!

— Далёка, цётка, сынкі, не пачуюць,— сказаў Мікола.— Прастудзішся толькі дарэмна.

Мікола пайшоў хутчэй. І тады, нібы ўспомніўшы нешта, Аксеня рванулася да гумна. Яна стала спіной да замка і яшчэ, на дадатак, раскрыжавала рукі.

— Ідзі, ідзі, бязрукі чорт! — закрычала.— Адсохла адна — і другая адсохне! Ідзі!

Партызан мой збялеў.

— Сыдзі,— сказаў ён, нібы праз зубы.— Сыдзі з дарогі, пакуль я добра кажу...

— Пастой,— узяў я яго за здаровую руку ў запясці.— Чакай, я сам.

У вачах Міколы заблішчаў, мне здалося, шалёны агеньчык.

— Ты... фашысцкая... ты нам...— ужо са слязьмі ў вачах панёс ён.

— Мікола! Ты што гэта — з бабай!..

— Пачакай,— падышоў, як заўсёды спакойны, Гаўрусь Каляда.— А ну, кума, пасунься на печы. Не захопіш і так усяго, дарма тут распасцёрлася... Ты думаеш, што ён ці я сабе гумно тваё бяром? Давай лепш ключ і не дурыся.

Аксеня ўжо адсунулася ад замка і апусціла рукі. А потым працягнула адну з іх у бок Гаўруся і расшчапіла кулак. Ключ упаў на зямлю.

— Вось бачыш,— таксама спакойна гудзеў Каляда, паднімаючы ключ.— Так і замка не трэба псаваць.

Ён адамкнуў вялізны замок, выняў абадок са скабы, і скрыпучая палавіна гуменных варот адчынілася.

Тут Аксеня нібы схамянулася зноў.

— Душыцеся! Бярыце ўсё,— закрычала яна.— Бокам вылезе, бокам! Будуць тваю труну вось так цягнуць, жабрак ты, будуць!

Гаўрусь выносіў з гумна драбіны.

— Я не памёр яшчэ, не спявай...

Першы ўзбег па драбіне Валодзя Цітовіч.

— А божа мой, а мілы мой,— галасіла старая, пакуль ён, як кот, узбіраўся наверх па страсе.— А няўжо ж ты не чуеш, не бачыш?

— Хлопчыкі мае! — крычаў Валодзя ўжо на самым вільчыку страхі.— Ах вы, ёлкі зялёныя, як далёка відаць!..

Камсамольцы — адзін за адным — узбягалі наверх. Унізе застаўся адзін Мікола. Бабрук яшчэ ўсё стаяў на тым месцы, дзе і сустрэўся з намі. Шарэйка лез па драбіне за мной, а Мікола — я зірнуў на яго — пачаў гарнуць папяросу... Адной рукой, як заўсёды.

— Лёня! — гукнуў я Шарэйку.— Пабудзь ты, можа, там, не лезь.

Шарэйка паглядзеў на мяне, азірнуўся наніз і, відаць, зразумеў, чаго я не хачу. А хто яму верыў, Міколе,— гатоў успыхнуць яшчэ раз.

— Ну, хлопцы, будзем пачынаць,— гудзе тым часам Каляда.— Салома яшчэ добрая, Васіль. А мо вязаць будзем? Шкада.

— Валі наніз. На подсціл пойдзе ці ў саман пасячом. Саломай крыць не будзем.

Гумно здаравеннае. Зірнеш зверху — ледзь не закружыцца ў вачах. Хлопцы дружна ўздзіраюць «спіну» і дабіраюцца да першых лат. Жоўтая, распатрашоная салома спакваля пакрывае страху... Дадаўшы новага дрэва, са зруба гэтага гумна мы пачнём дзён праз колькі складаць на Першай Кругліцы калгасны свіран.

— Яшчэ як новае,— гудзе Гаўрусь.— Асцярожненька, з толкам яго разабраць — усё яшчэ пойдзе ў работу: і кроква, і лаціна... А мы ж яго, Васіль, яшчэ з бацькам тваім, нябожчыкам, рабілі... Шкада, што не

дажыў дзядзька Пятрусь, каб разбіраць... Глядзі, і пан солтыс ідзе.

І праўда — дваром ішоў з сякерай Шпэк.

— Вось дзе каму не хочацца сюды,— гудзе Гаўрусь.— Як таму свёкру пялёнкі мыць...

Разам са Шпэкам падышоў Бабрук. Шляхціц пакінуў сякеру нанізе і, па загаду Шарэйкі, палез па драбіне наверх. Ракам паўзе, і нам відаць ужо — бледны, смяяцца хацеў бы, ды губы пакуль што не горнуцца...

Яшчэ не дабраўшыся да палавіны страхі, Валодзя Цітовіч заглянуў праз латы ў сярэдзіну гумна і закрычаў:

— Хлопчыкі, кумпякі! Аб'яўляецца конкурс — хто першы дойдзе!

— Эй, вы! — гукнуў я.— Гэта, хлопцы, не наша: я за гэта ў райфа не плаціў!

— Нічога,— побач са мной гудзе Гаўрусь.— Ты не бойся, Васіль,— чорт іх, гэтыя сцёгны, угрызе: з якоганебудзь чацвёртага года яшчэ!

І гэта можа быць. Было ж калісьці так, калі Бабрук жаніў свайго Мітрафана, што вясельнікі пачалі, падвыпіўшы, кідацца ёлкім, чарвівым салам. Даводзілася і мне кусаць такую кулацкую скварку. Павыводзяць на рынак адкормленых вепрукоў, пазыходзяцца, «сапраўдныя гаспадары», і давай адзін перад адным хваліцца. «Мой,— гаворыць адзін,— нічога ўжо есці не можа. Толькі што лустачку хлеба маслам памажаш — з'есць, а так...» «А я і зусім не прадаваў бы яшчэ,— не хоча адстаць другі,— але ж куды ты тое сала ды мяса будзеш дзяваць. У мяне ж яно яшчэ з трэцяга года вісіць у гумне...»

Такія вось кумпякі ды каўбасы заўважыў цяпер Валодзя.

Бабруковым бабам знізу здалося, што хлопцы і сапраўды спяшаюцца, каб захапіць іх скараміну.

— Стаіш як слуп! — закрычала на Бабрука старая.— Вунь сцёгны хочуць паабрэзваць! Чорт ім верыў! Здымай ідзі, чаго стаіш?!

Мікола яшчэ ўсё сядзеў на драбіне, курыў. Бабрук не асмеліўся патурбаваць яго, пайшоў у гумно без драбінаў.

Аксеня ўжо стаяла там на торпіку саломы і, задраўшы над галавой абедзве рукі, у якіх была каса, дарэмна

намагалася падчапіць касой за матузы, якімі была прывязана да лаціны жэрдачка з кумпякамі.

— Цётка Тэкля, а цётка! — падманьваўся зверху Валодзя.— А што ж гэта вы гэтак мала Тарадры за абнаўленне іконы далі,— адзін кавалачак сала. Вы б кумпячок яшчэ далі, пакуль не позна.

— Валодзя! — гукнуў я.— Не чапайце, не трэба!

— Ды што гэта вы, таварыш старшыня,— ледзь не пакрыўдзіўся ён.— Будзем мы рукі брыдзіць! Ды я ёй зараз памагу!

Ён дастаў з кішэні нож.

— Лаві! — крыкнуў праз латы ўніз і перарэзаў першы матузок.

Жэрдачка апала ўніз адным канцом, і пакуль хлопец паспеў перарэзаць другі матузок, па жэрдачцы шуганулі ўніз сухія, чарвівыя кумпякі...

...Салома спушчана. Цяпер трэба прыбраць яе ў адно месца, а потым ужо спускаць латы і кроквы. Пакуль што ў нас перакур.

Каля гумна цішэй, чым нядаўна было: Бабруковы бабы хаваюць недзе сваю скараміну, а нашы фурманкі яшчэ не прыехалі.

Затое перада мной стаіць сам Бабрук.

— Яшчэ ж і рашэння аканчацельна няма,— мармыча ён.— Мала што суд у раёне, можа, вышэйшая ўласць паглядзіць не так...

— А твая ж баба ўжо ездзіла ў Мінск,— гудзе ў адказ яму Гаўрусь.— Вы думалі, што там, вышэй, не савецкая ўлада?

— Яна ўсюды, канешне, адна. І ніхто супраць уласці нічога не кажа...

— Дык што — мы вінаваты?

— Я не кажу, што вы. Хіба ж я кажу, што вы. Толькі ж так яно неяк з нагалу ўсё. Я ж адзінокі чалавек, стары... Я ўвесь век працаваў...

— А я, па-твойму, што — не працаваў? — спакойна прагудзеў Гаўрусь.— Мы што тут — усе, па-твойму, паны? Вось твае парабкі — і адзін, і другі!.. А хто табе гумно рабіў, калі не я?

— Дзядзька Бабрук,— спытаўся Валодзя Цітовіч,— а чаму гэта вы адзінокі? Дзе ж вашы сыны?

— А лейцы яшчэ ў цябе? — дадаў Мікола.— Я пы-

таюся — лейцы яшчэ ў цябе, што Саньку Чыжыка павесілі на іх?.. Чаго маўчыш?

— Мікола,— сказаў я,— не трэба.

— Ды што ты мяне ўсё вучыш?..

— Ну, годзе, годзе, ну, сядзь,— абняў яго Шарэйка.— Усе мы ведаем, ты не кіпі дарма, навошта. Ты цяпер лепш на рабоце кіпі. Я табе песню за гэта — хочаш?

І Шарэйка завёў, як дзяўчына, танюсенькім голасам:

Не догадлив мой парнишка,
Не догадлив, но хорош!..

Хлопцы, нібы чакалі гэтага, засмяяліся.

— А ну цябе,— усміхнуўся Мікола і сеў.

Бабрук стаіць адзін, маўчыць. Якраз як той старадаўні каменны ідал. І Шпэк сёння не такі, як заўсёды: не спрабуе хіхікаць са мной і, калі я гляджу на яго, здаецца, хоча нават адвярнуцца...

«Спакойна, напорыста, планава. Возьмем»,— успамінаю я словы Канцавога.

А потым устае перад вачыма малая сасновая трунка... Крывавы снег ад хутара да самай рэчкі... Бледны, непрытомны Валін твар...

Падымаюся. Цяжка не думаць пра тых, хто хаваецца недзе за спінамі гэтых вось шпэкаў і бабрукоў. Я хачу, я да болю хачу яшчэ сёння, цяпер, сустрэцца з забойцамі Верачкі!

«...Усё, брат, у нашых руках»,— зноў прыходзяць на думку спакойныя словы.

Я прызвычаіўся верыць у сілу разумных людзей, я быў нядрэнным салдатам. І таму я глытаю гарачую, горкую злосць і, супакоены трохі, кажу:

— Ну, хлопцы, будзем сцэны разбіраць.

## 18

Наша старая любіць паразважаць уголас, успамінаючы мінулае. Неяк, шыючы мех каля акна, яна гаварыла:

— Таксама ж людзі калісьці жылі ў курных хатах. І няўжо гэтак цяжка было прыдумаць комін?

І вось, пры гэтых, можна сказаць, перадавых поглядах, яна аднойчы заявіла:

— Што ж, Васіль, вольнаму воля, а я табе раю ўсё ж такі добра падумаць.

— Аб чым гэта, мама?

— Сам павінен ведаць аб чым. Дзяўчына яна — нічога не скажаш — харошая, ды не твая гэта пара.

Сказала і схамянулася: «Што ж гэта я?.. Няхай яна сабе і настаўніца, і ўсё што хочаш, а ўсё ж, каб майму Васілю ды не пара?..»

— Я не тое хацела сказаць. А толькі, можа, браў бы ты, сынок, сваю дзяўчыну, забалоцкую. Ходзяць вунь, як півоні. А гэта што,— што гэта мне за нявестка: ні ты слова на яе не скажы, вечна асцерагайся, ні яна табе чыгуна на прыпек не падніме. Усё ж такі настаўніца!.. Ды і пад благаславенне маё яна не стане. Хаця ж і ты такі самы...

Так гаварылася раней.

На другі дзень пасля аперацыі, пакінуўшы дзяжурыць ля Валі Міколу, я дабраўся пад вечар дахаты.

— Ну, а вы тут адна што рабілі? — спытаўся я пасля таго, як усё расказаў.

— Чаму ж гэта адна? Са мной Аленка была.

Здзіўленне ў голасе маці было настолькі шчырае, што я міжвольна ўсміхнуўся: «Тут можна нават падумаць, што я ў сваяцтве гэтым ні пры чым...»

Лена прыйшла ў нашу хату тады, калі мама вярнулася з могілак і, позна ўвечары, засталася ў хаце адна.

— Пойдзеш ужо? — спытала старая далёка па паўночы.

І ад пытання гэтага, у якім былі горыч і боль адзіноты, Лена спынілася. Мікола звечара яшчэ, як толькі пахавалі Верачку, пайшоў да мяне ў бальніцу, і хата наша здавалася маме і вялікай і страшнай.

Леначка пастаяла, падумала: «Тут яна, мама майго Васіля... Ды не толькі таму. Яна — маці таго, на каго недзе, можа, таксама рыхтуюць гранату... А я яшчэ баюся тых, што скажуць ці падумаюць: сама прыйшла! Дурніца!..»

Яна сказала так сама сабе і распранулася.

Яны вячэралі ўдзвюх і пасля гэтага зрабіліся яшчэ бліжэйшымі. Маці паслала госці на маёй кушэтцы. Без лямпы яшчэ гаварылі, а потым Леначка так і не спала

да самага світання. Усё гэта, на што яна сёння пайшла, было такім незвычайным. Яна і не магла зрабіць інакш. Ну, дык чаму ж і ў цемры хочацца схаваць у чужую — у яго падушку гарачыя шчокі і вочы, якія так і просяцца заплакаць!..

Уранні Лена не захацела пачакаць, пакуль згатуецца снеданне. І гэта зноў засмуціла старую.

— А ўвечары, Аленка, ці зойдзеш? — спыталася яна.— Хлопцы ж сёння не вернуцца, мусіць...

Лена сказала: «Прыйду», але прыйшлі яны з Нінай удзвюх і вельмі рады былі, што неўзабаве з добрай весткаю вярнуўся з бальніцы Мікола.

— Дай бог усякаму добраму дачку такую,— гаварыла мне маці, усё расказаўшы.— Залатое дзіця, залатое!..

Прыйшоў пагодлівы канец сакавіка, пачатак новай вясны, што заўсёды так моцна хвалюе. Вераб'іны кірмаш у кучы бярозавага вецця пад плотам. Гуллівая песня шпака каля новай шпакоўні. Звоняць жаўранкі, звоніць вада ў ручаінах. На вёсцы цэлы дзень пераклікаюцца вербалозавыя свісцёлкі, якімі ў гэты час узброены кожны хлапчук. Запечны абібок — наш кот Ціхох — знайшоў ужо сухое месца на прычолку страхі і шчасліва мурлыча пад промнямі ласкавага сонца. А коні, выпушчаныя на руды загуменны поплаў, грабуць капытамі зямлю або, спыніўшыся на ляту, прагна храпуць, удыхаючы ноздрамі свежы вецер сырых палёў. Вясна! Ужо на нашым балоце з радасным гогатам часта садзяцца дзікія гусі. Ужо кігікаюць заўсёды незадаволеныя доляй кнігаўкі. Ужо даўно вызваньвае адыходную зіме наша калгасная кузня. Вясна, вясна ідзе, цяпер ужо бяссрэчна і няўхільна!..

А для мяне — усё напоўнена табой. Усюды ты, куды ні павярнуся. Адзін раз — ды і то без мяне — ты была ў маёй хаце залётнаю госцяй, а вось пайшла — і ў хаце стала пуста і самотна... І не пуста, не так я кажу. Ты ўсюды цяпер, дзе ні гляну, пра што ні падумаю. Дык чаму ж мне хадзіць да цябе аж за вёску, дзе светлы пакойчык пры школе?..

І вось аднойчы я спытаўся:

— Мама?..

— Ну што, Васіль? Чаго ты так задумаўся каторы дзень?

— Не, будзе гэта нядобра пакуль што, няхораша?.. Валя, Міхась — яшчэ ўсё там, а я... Словам, Лена пяройдзе да нас. Можа, нават і сёння. Добра?

І старая заплакала.

— Не так гэта трошкі, Васіль, ды ўжо рабіце ўсё па-свойму. Ну што ж, прыедуць Валька з Міхасём, тады і вяселле. Цяпер жа ўсё не так, усё па-новаму... Ну што ж...

— А жыць мы будзем, мама, пакуль што тут.

Старая паглядзела на мяне, здзівілася.

— Гэта яна ўжо цябе навучыла? Глядзі — маладая, ды вельмі разумная. А дзе ж гэта ты думаў жыць, як не ў хаце сваёй? Можа, пойдзеш у школу, у прымы?

Яна злуецца, а мне смешна.

— У прымы я, вядома, не пайду, бо і ісці няма куды. А хату гэтую рабіў Мікола. Таксама ж думаў хлопец пра сваю сям'ю? І пара. А я сабе хату зраблю. Каб нават і Лена мяне падвучыла, дык гэтак будзе найлепш.

— Вядома, для цябе ж яна цяпер — усё. А што маці чакала гадамі, дык гэта нічога...

Хату, пачатую Міколам, мы, нарэшце, закончылі. Праз новыя вокны на свежыя дошкі падлогі лілося вясновае сонца.

І разам з сонцам Лена ўвайшла ў нашу сям'ю, як родная даўно.

— Дзень добры,— прывіталася яна і абняла старую.

— Распранайся, галубка,— сказала маці, выціраючы вочы.— Ай-ёй, ды што ж гэта я? — замітусілася яна.— А ты, Аленка, таксама стаіш, як не дома ўсё роўна...

Тады Мікола непрыкметна штурхануў мяне пад локаць і кіўнуў:

— Глядзі.

Эх, ты! На засланым абрусам стале ляжала цёмная іконка «багародзіцы» — зусім забытая адзнака курных хат. Выйшла неяк само па сабе, што матчына блаславенне адбылося і без яе. Падрыхтавала старая ўсё і, што ж, забылася...

— Жывіце, дзеткі, хараша,— гаварыла яна.— І няхай усё будзе як найлепш... І пра мяне, старую, памятайце. Я ж вам не то што... я...

І тут яна заўважыла на стале «багародзіцу». Зірнула на мяне, зірнула на Міколу і... усміхнулася.

— У-у-у, злодзей, смяешся,— напала толькі на Міколу. А потым узяла іконку і паклала ў стол.

— Вось бачыш, мама,— засмяяўся я,— не так ужо і цяжка комін выдумаць, га?

Неўзабаве яшчэ адна радасць прыйшла ў нашу хату — мы з Міхасём прывезлі Валю.

— Вясна, дачушка мая,— гаварыла Марыя Сцяпанаўна, адпускаючы яе з бальніцы.— Вясна прыйшла. Ты больш па сонейку хадзі, па траўцы. І толькі, Валюша, не плач. Не плач, нічога гэтым не паможаш. І маме прывітанне ад мяне. Ну, а ты, гаспадар, глядзі,— звярнулася яна да Міхася.— Глядзі мне, каб добра было.

— Ёсць, каб добра было,— сказаў Міхась, узлез на воз, усеўся і дадаў: — Усё будзе добра, Марыя Сцяпанаўна. Ты, швагер, лейцы мне толькі дай. Вось так. Ну, селі ўсе? Бывайце, Марыя Сцяпанаўна, дзякуем!.. Ластаўка, эл-ля!..

Спачатку колы доўга і дакучліва грымяць па бруку. Пасля іх грукат абрываецца, і мы, яшчэ шпарчэй, ляцім па мяккай вуліцы, уніз, з гары. Адна за адной уцякаюць назад апошнія хаты і дрэвы. І вось нарэшце поле.

— Цішэй, цяпер цішэй! — нацягвае лейцы Міхась, і Ластаўка сцішае ход, а потым тройчы фыркае.— Здарова будзь! Яшчэ раз! На здароўе! Ну, вось, цяпер давай ступой... Эх, брат Васіль, вясна! Хоць сам ляці ды фыркай...

Спяваюць жаўранкі. Нябачныя, яны трымцяць у засмужаным злёгку блакіце, нібы назіраючы зверху, ці хутка падсохне для плуга зямля. А на тонкіх стракатых бярозках абапал гасцінца вось-вось павінны распусціцца клейкія зубчастыя лісточкі.

— За дзень, за два і ў поле пойдуць,— кажа Валя.

А я гляджу на твар яе, ахутаны хусткай і бледны, на вочы, што так пастарэлі за гэты страшны час, і мне

да слёз чамусьці хочацца сказаць: «Ты больш па сонейку хадзі, па траўцы...»

— Цяпер не спознішся, Міхась,— кажу я, каб хоць як-небудзь пацешыць Валю,— тваё не застанецца незавораным, і цябе не пакінуць без хлеба.

— Мне каб трошкі нага перастала,— гаворыць Міхась.— А так я здароў. Толькі з Валяй паняньчыцца трэба...

— Учора да мяне Аўдолевіч зайшоў,— перапыняю я шваграа, каб лішні раз не напамінаць сястры, што ёй на працу яшчэ ранавата.— Прыйшоў і кажа: прапанова ёсць. Давай Міхася на склад, кладаўшчыком, а я за плугам пайду. Так будзе лепш.

— На склад дык на склад,— усміхаецца сумна Міхась,— не прывык, то прывыкну. Эй ты, Ластаўка, лётам!..

...Над стрэхамі і голлем дрэў паблісківаюць на сонцы крылы галубоў. На нашым клёне — новая шпакоўня. І чорненькі, бліскучы шпак каля яе трапеча крыламі, ловячы сонца, і шчабеча, нібы хочучы на ўсіх у свеце галасах сказаць, што ўжо вясна.

Мама сустрэла Валю з пустымі рукамі...

— Не плач, дзіцятка, нічога не зробіш,— гаварыла яна.— Не вернеш Верачкі, ад слёз не ўстане. Ты думай, што трэба не плакаць, а жыць.

Вітаючыся з Ленай, Валя туліцца да яе, як да сястры, з якой не бачылася столькі год, якой можна цяпер паскардзіцца, усё, усё, што перадумала, сказаць.

— Не плач... Ну ты не плач,— гаворыць Лена і плача сама.

— Няхай сабе яны, Васіль...— кажа Міхась.— А мы давай, брат, закурым.

Жанчыны ідуць у хату, а мы стаім каля светлых акон. Вароты адчынены, і людзі ўсё яшчэ ідуць. Віншуюць Міхася, вітаючыся з ім, а ён, каб схаваць сваё хваляванне, глядзіць час ад часу ўгару, дзе над клёнам — бязмежнае неба.

— Ты зірні, брат, ты толькі зірні! От дзе хіба ідуць!..

На блакіце вясновага неба паблісківаюць белыя крылы. Гэта ходзяць, не могуць нацешыцца шчасцем сваім галубы.

## 19

Над палосамі свежай раллі, над жытняй рунню і травой цэлы дзень не змаўкаюць цудоўныя песні — званочкі жаўранкаў і грукатанне трактара.

Да таго, што жаўранак вяртаецца вельмі рана, што не змаўкае ён ад цямна да цямна,— у Забалоцці прывыклі, вядома, даўно. А грукатанне трактара — песня для нас зусім новая. Ды ўжо яна зачаравала нас, ужо ў душы прачнулася зайздроснае жаданне авалодаць і гэтай песняй. І авалодаем, не можа быць!..

А пакуль што... яна гучыць не на нашых палях.

Пакуль што на Дзікай мяжы, што аддзяляе нашы палі ад панямонскіх, сядзіць Шарэйка, брыгадзір, выціраецца кепкай і стогне:

— О-хо-хо!.. І як жа тут пераканаць яе, гэту вясну? Калі я цяпер, Васіль, не здурнею зусім, дык увосені буду вельмі разумны. Палосы праклятыя, га?..

І сапраўды, палосы нам дапяклі цяпер, як ніколі раней. Што там раней! Раней кожны з нас паасобку калупаўся на сваёй паласе, і толькі ўсяго. А цяпер брыгадзіру такому — улічы, калі ласка, што дзе пасеяна, пасля чаго пасеяна, хто і колькі пасеяў!.. Яны ж, палосы гэтыя, не толькі дзеляцца наўздоўж, яны і ўпоперак падзелены; кожны гаспадар сам сабе падзяліў: метраў сто — і асобны верацень, там жыта ў чалавека, там гарох, там бульба,— проста тая пярэстая коўдра, што шыецца з маленькіх markaляровых кавалачкаў.

— Ашалець трэба ад усёй гэтай бухгалтэрыі! — гаворыць Шарэйка.— А ён гудзе, ён іграе на нервах!..

Трактар відаць і адгэтуль, з мяжы.

На суцэльным абшары панямонскай раллі, нібы кацер па возеры, ходзіць руплівы жалезны араты і сейбіт. Не сціхае ад рання да ночы, як жаўранак, і ноччу свецяць ягоныя фары.

— Нічога, Лявон,— кажу я.— Увосені заспявае і ў нас. І так зірні — якое хараство!

Хараство ў нас такое, што выйшлі мы цяпер у поле талакой. Такая талака, што не было ад самага пачатку свету. Коні ходзяць папарна — і ў плузе, і ў сеялцы, і ў баране... не ў баране, а ў парных баронах «зігзаг», якіх мы паспелі некалькі набыць. Гной на адзін ці на два сумежных шнуры возіць цэлы дзесятак падвод. Растрасаюць яго таксама гуртам.

Засеўкі. Ціхенька, цёпла. Надоечы прайшоў, як па заказу, дожджык, ад якога ралля падышла, нібы цеста ў дзяжы. Дзядзька Ячны кленчыць зрэбнымі порткамі ў пухкай раллі і заграбае рукамі ў кужэльны беленькі фартух залатыя зярняты гатункавага, панямонскага, аўса. Рукі ў старога надзейныя, цвёрдыя — многа зямлі перавярнулі за свой век, многа зярнят засыпалі ў раллю. Стары цяжкавата ўстае. Пакуль набраць з фартуха першую жменю зярнят, даўней ён скінуў бы шапку, як рабілі заўсёды бацькі і дзяды, памахаў бы рукой ад ілба на жывот і з пляча на плячо. Але цяпер рабіць гэта — і старому таксама няёмка. Прывычка, праўда, прывычкай, а ўсё ж, навошта крывіць душой, калі і сам не верыш даўно і іншым можаш дапячы калючым словам?.. А я, прызнацца, думаў тады, што дзядзька і шапку скінуў на тое, каб перахрысціцца. Ды ён зняў гэту шапку, зірнуў на мяне, хітравата прыплюшчыўшы вока, і шпурнуў яе наводмаш цераз мяжу, на рунь. А сам пайшоў, пабрыў па раллі, спраўна гонячы перад сабой шырокі залацісты сеў. Без шапкі, з сівой галавой.

Былі засеўкі і на новы лад.

Вось ён — стаіць на нашым полі аграном Верабей, глядзіць услед за новай сеялкай і кажа:

— Смешна проста, таварыш Сурмак. Яна такая шырокая, а ён вузкі, загончык. Яна прывыкла высяваць... ці, лепш сказаць, не прывыкла яна, а ўжо такая і ёсць прырода ў савецкай машыны, што любіць гэта машына прастор. Возьмем гэтую самую сеялку,— хіба ж ёй па такіх вось, як гэта, палосках хадзіць?..

Што тут скажаш Вераб'ю? Адвык за дваццаць год на ўсходзе і ад палос, і ад парадку такога, як тут.

Мікола наш ідзе за сеялкай. Хлопец вачэй не звядзе — пазірае, як роўненька, як дружна сыплюцца зярняты. Яму прыемна, што ўжо і сеялка ідзе па забалоцкім полі, што нашы коні ў калгаснай канюшні, на калгасных харчах не сталі такімі, як ім прарочылі шаптуны. Коні лёгка ідуць у машыне, а побач з імі, за мяжой, па лапушыстай жытняй руні тупае яшчэ адно калгаснае жарабя. Такому дазваляецца пакуль што ўсё. Ячны нават і ртуці — «жывога срэбра» — зашыў коніку ў «жычку», стужку, якой упрыгожана шыя малога. Каб не сурочыла часам ліхое вока. Спрадвечны звычай. Ды тут, вядома, не ў звычаі справа, а проста ад рупнасці,

проста так добра бачыць, як яно спраўна расце і множыцца — наша дабро. Дык няхай сабе тупае, хоць і па руні.

Аграному смешна... Хоць і сам ён хвалюецца не менш за нас. Інакш не сядзеў бы тут Верабей цэлымі днямі, не ўставаў бы разам са мной на досвітку, не сачыў бы так пільна за ўсім. Сам памагаў размяркоўваць пасевы культур; вучыў, дзе і як рассяваць мінеральныя ўгнаенні; сачыў за ачысткай насення і нормамі высеву.

На Першай Кругліцы блішчыць пад сонцам аплазаваная сасна. Смачна пахне жывіцай, што ліпне да рук цесляроў. Рупліва чокаюць сякеры, шоргае прадоўжная піла, чуваць то смех, то галасы:

— Раз, два — узялі! Мяс-сам! Надзьміся!

На загончыках, якім ужо больш не арацца, вянок за вянком вырастае зруб. Грамадскі свіран, наша першая калгасная пабудова. Копчыкамі абмежаваны вялікі кавалак поля — плошча пад калгасны двор. Ён падзелены на тры асноўныя сектары: складскі, рабочы і жывёлагадоўчы.

На пляцоўцы жывёлагадоўчага сектара таксама пачалося будаўніцтва,— капаецца роў пад фундамент кароўніка — нашай першай пабудовы з саману.

Гаўрусь Каляда, якога мы выбралі брыгадзірам па будаўніцтву, працуе цяпер, як хлопцы кажуць, «па чарцяжах», бо ўсё будуем па тыпавых праектах. «Мне толькі добра растлумач,— гаворыць ён,— а я ўсё разумею і сам». Растлумачана ўсё, як належыцца: Кастусь Ячны бывае тут часта. І вельмі пацешна глядзець, як Гаўрусь падыходзіць да свайго каптана, вымае з кішэні яго ў дзесяць столак згорнуты «чарцёж» і важна разглядае, каб з нечым зверыцца яшчэ раз.

Без чарцяжоў працуе ў вёсцы дзед Мілюк. З трыма падручнымі стары будуе хату Зязюлісе. Балазе яе котлішча — побач з гумном, у якім пустуе цяпер днямі дзедаваканюшня. Паволі, роўна чахкае яго бывалая сякера, плазуючы бервяно, і не трэскі ляцяць, а адганяецца ад бервяна суцэльная і доўгая, як дошка, трэска. З-за невысокага зруба відаць збіты дзедам крыж, а на крыжы — вянок з вясняных кветак, які спляла і павесіла цётка Зязюліха.

Стары гэта звычай — ставіць у новым зрубе

крыж,— але і звычай гэты сёння ў нас выглядае па-новаму.

Над зямлянкай дыміцца драўляны дачасны комін. Апоўдні дзед Мілюк пазірае на сонца і потым кажа камандзе сваёй, што пара на абед. Гэты момант заўсёды пільнуе старая Зязюліха.

— Не, не, дахаты я вас не пушчу,— выходзіць яна на парог сваёй падземнай хаткі.— Мая работа, мілыя, мая і яда. Капусту сёння зварыла, закрасіла...

Дзед утыкае ў бервяно сякеру.

— Што ж, няхораша, хлопцы, і адмаўляцца.

І паслухмяная каманда памагатых услед за ім спускаецца ў зямлянку.

Для дзеда Мілюка, які за век нахадзіўся па людзях, не навіна абедаць за чужым сталом. А пачынаючыя цесляры гэтай вясной упершыню абедаюць не дома. І новая радасць — сядзець за сталом чалавека, якому ты робіш дабро,— толькі цяпер прыйшла да іх.

Саманную брыгаду, у склад якой сабраліся амаль адны маладыя, узначальвае Валодзя Цітовіч.

Вунь дзе ён, наш «саманны завод», каля самай дарогі, у глінішчах. Косця Ячны і тэхнік ягоны толькі першы дзень паказвалі, як усё гэта робіцца: капалі разам з намі яму, рабілі першы замес і фармоўку. Цяпер Валодзя варочае справай сам.

У круглай яме топчуцца двое коней, месячы гліну. Усё ідзе ў гэта месіва — і салома з Бабруковых стрэх, і пацяруха ўсякая, і кастрыца... Каля другой ямы, дзе гатовае месіва ўкісла за некалькі дзён пад саламянымі матамі, дзяўчаты і хлопцы фармуюць на новым таку саманную гліну. Гатовая цэгла сохне — адна на таку, а ранейшая ў штабелях. Яшчэ дзень-два, і пачнём класці сцены.

Косці Ячнага сёння няма,— ён недзе ў іншым калгасе, але справа і без яго, вядома, не стаіць на месцы. Ён ведае, калі будзе гатова першая ходка саману, і ён не спозніцца прыехаць паказаць нам кладку сцен.

Весела, шумна на гэтым заводзе.

Уранні, калі яшчэ сонца стаіць невысока над пушчай за Нёманам, прыносіць сюды смех і песні наша моладзь. Праз цэлы дзень гучаць яны, хоць і нялёгка хадзіць каля гліны з лапатай, з насілкамі. А ўвечары, калі ўсё гэта — румянае, вясёлае, з карэлымі, нямыты-

мі рукамі — пачынае збірацца дахаты, нястомныя рукі пускаюць у ход нашу, нядаўна набытую, помпу. Мыюць коней. Шлангам кіруе сам брыгадзір, Валодзя. І кожны раз абмыты конь на развітанне атрымлівае ў хвост струмень вады і, пад блазенскі рогат будаўнікоў, стралой імчыцца на дарогу.

Поўны месяц надоўга спыніўся над полем. У белай гушчы бязлікіх вішнёвых кветак да новай раніцы заціх любоўны, заклапочаны пчаліны звон. Пасля дзённых турбот задрамаў у падстрэшшы руплівы бацька — чарнагруды верабей. За вёскай, у росным лазняку над нашай звілістай рачулкай, спяваюць недзе салаўі. Ды песня іх не даходзіць сюды,— яна пакрыта песняй нашай моладзі.

Па гузіках баяна лёгка і чула ходзяць грубаватыя пальцы не цалкам адмытых кавальскіх рук. Цыганскі чуб Алеся Чыгунка схіліўся над самай музыкай. Алесь нібы слухае, нібы здзіўляецца зноў, колькі цудоўных гукаў схавана ў душы яго друга — баяна. Задаволены ім баяніст час ад часу рыўком уздымае чупрыну, і кепка яго толькі цудам сядзіць на патыліцы.

Хмель лугамі,
хмель лугамі,
а пшаніца палямі.
Малады наш Ясю,
маладзенечкі,
павячэрай з намі!..

Яна лунае ў прастор — песня пра нашы прыгожыя, спакойныя прасторы, пра нашу бела-зялёную вясну, наша залатое пшанічнае лета. І вялікія чорныя вочы Алеся глядзяць гэтай песні ўслед.

Акно адчынена. Я сяджу ля акна.

Паміж зямлёй і месяцам, на пірамідзе гумна, бачу даўно знаёмы выступ буслінага гнязда, а на гняздзе — самога бусла. Не дрэмле ён, таксама слухае, відаць. Далёка быў стары, далей яшчэ за мяне. А ўсё ж ніяк, здаецца, не можа вырашыць, якую старонку назваць радзімай, якім пірамідам аддаць перавагу. Аб гэтым думаў ён, даўганогі дзівак, на каменных егіпецкіх помніках горкай няволі, калі тужыў па саламяных пірамідах нашых гумнаў. Аб гэтым думае, відаць, і сёння...

— А што ж гэта яна — малодшая за цябе, а вучыць у чацвёртым класе?

Гэта чуваць мне з кухні, дзе свеціць лямпа на стале і маці з Ленай абіраюць бульбу.

— У яе ж і навукі не больш, як у цябе,— гаворыць далей старая,— а ты ўсё з меншымі ды з меншымі... Сяброўкі вы-то сяброўкі, але ж і свайго таксама не трэба ўступаць.

Гаворка ідзе пра Ніну Савось, якая адна жыве цяпер у пакойчыку пры нашай школе. У словах маці — клопат, наіўны клопат старой, жаданне не даць у крыўду сваё дзіця.

А «дзіця» гэта перш усміхаецца — мне не відаць, але я адчуваю,— а потым тлумачыць маме, што першы клас вучыць цяжэй, што ў яе дык якраз больш адказная праца.

— Ай-ёй,— здзіўляецца маці.— А я, глядзі ты, думала: малыя дзеці — малы клопат... А то ж і праўда,— як ты яго спачатку навучыш, так яно табе потым і будзе чытаць. Толькі ж задураць яны цябе за ўвесь дзень, задураць! Дзяўчаты, вядома, не так, а вось хлопцы, дык што ні кажы... З іншым родная маці не справіцца, а гэта ж ты адна, а іх поўная школа. Растуць, нібы грыбкі пасля дажджу.

Лена апраўдвае сваіх выхаванцаў,— нават хлопцаў, усіх, за выключэннем Толіка Шарэйкі.

— Няўрымслівы, як верабей,— гаворыць яна.— Так і не сядзіцца яму на адным месцы, так і шчабеча!

— У бацьку ўдаўся,— кажа маці.— Той таксама калісьці не па зямлі хадзіў, а па платах. А піша, мусіць, як курыца лапкай грабе?

— Ой, не! — пярэчыць Лена.— І піша добра, і чытае лепш за ўсіх. А што свавольнік трохі, дык гэта праўда.

...Малады наш Ясю,
маладзенечкі,
павячэрай з намі!..

Над вёскай песня ідзе, як ішла, радасць звініць, як звінела. Моцны і шчыры голас Лявона Шарэйкі чуваць у гэтай песні, як заўсёды, добра.

— А ты вазьмі такога рэздура ды трошкі на калені,— гаворыць маці пра Толіка, маленькага Шарэйку.— Або лінейкай пастраш.

У адказ на такую параду настаўніца мая зусім сыходзіць з сур'ёзнага, педагагічнага тону размовы і шчыра смяецца.

І маці — мне не відаць, я толькі здагадваюся — спачатку глядзіць на яе са здзіўленнем, а потым, схамянуўшыся, кажа:

— Ай-ёй! Ізноў забылася, што цяпер яно ў нас усё не так, як калісьці было, як даўней...

Калісьці старая таксама была настаўніцай. Праўда, сама ледзь-ледзь умее чытаць, а ўсё ж і Міколу і Валю яна навучыла распазнаваць тыя літары, з якіх складаюцца родныя словы. Мяне чытаць па-беларуску навучыў яшчэ бацька. Пасля такі абавязак перайшоў на мяне. Не на выдатна я спраўляўся з гэтым абавязкам, асабліва навучаючы Міколу. Вучань свавольны быў, неслухмяны, ну, а «настаўніку» пры ім таксама не сядзелася. І маці вучыла меншых сама, па старому парадку настаўляючы часта на правільны шлях зрэбнымі махрачамі свайго фартуха.

— А ты, Аленка, пачытала б мне што-небудзь яшчэ,— пачынае яна, памаўчаўшы,— хоць бы заўтра, святою нядзеляй. А то ўсе вы такія — кожны сабе. Ячны Сцяпан — дык той, бачыш, пазычыў мае акуляры на дзень, а дзень яго як здоўжыўся — на цэлы тыдзень.

Справа тут, вядома, не ў акулярах. Раней мы сплочвалі старой за навуку больш сумленна, чытаючы сядытады ўголас. Цяпер і Мікола і я заўсёды заняты, дома бываем мала, а Валя і зусім пайшла з сям'і. І старая напала на Лену. Чытаюць яны часта, і чытанне гэтае,— калі я часам слухаю яго ці ўспамінаю,— здаецца мне найлепшым сведчаннем іх дружбы.

Кнігі, якія былі на руках і не згарэлі ў клубе, стаяць у нас на паліцы. Сюды прыйшоў адзін-другі дзесятак Леніных кніг. Кожны прыезд з райцэнтра або з Баранавіч — Міколаў, Ленін ці мой — таксама папаўняе нашу бібліятэку. Ды ад гэтага кніг на паліцы не больш: яны заўсёды на людзях.

Лена чытае цяпер «Спадарожнікі» Пановай. Пачала іх адна, без маці, і заўтра прыйдзецца зноў пачаць. Ды гэта, відаць, не цяжка, асабліва для таго, хто сам пажадаў аддаць жыццё навучанню людзей. Вось і цяпер яна, Лена, нібы між іншым, пачаўшы гаварыць, што за кні-

га, аб чым, заахвоцілася пытаннямі старой і ўжо расказвае.

А песня над вёскай звініць, ужо трэцяя пасля Яся, якога жнеі прасілі прысесці ля іх павячэраць.

— Ай-ёй! — раптам здзівілася маці.— Навошта ж мы начысцілі яе ажно столькі?! — І, пад смех памагатай, яна наракае: — Гутар, гутар, а валы ў жыта: мы тут адно за адным, а рукі самі абіраюць. На цэлы ўзвод наабіралі, як мы некалі ў лесе.

— Нядзеля заўтра, паклічам гасцей,— азваўся я з хаты.

— А ты сядзіш там, дык сядзі,— смяецца маці.— Налётаўся за дзень, дык адпачні. А мы ўжо самі якбудзь, і без цябе... Бяры, Аленка, і лямпу туды.

Святло пераходзіць у хату, і, з уваходам яго, усё, што за акном, нібы знікае. Толькі песня звініць парайнейшаму. Лена — у светлым пярэдніку, з вялікай лямпай у руцэ — ідзе да стала. І ўжо на вуснах усмешка, а вочы жмурацца — ці то ад лямпы, ці то ад нейкай хітрынкі.

— Што, вершы тут складаеце, таварыш старшыня?

Я зноў сяджу, як раней, пазіраю ў акно. Яна ставіць лямпу на стол, і я ўжо чую за сабой яе знаёмую хаду. Пасля адчуваю цяпло яе рук, адна з якіх па шчацэ пераходзіць на лоб і вышэй, дзе пальцы пяшчотна тармошаць мой лішне багаты чуб.

— Маладыя старшыні калгасаў павінны таксама галіцца і стрыгчыся,— гаворыць Лена з даволі ўдалай сур'ёзнасцю.— Ну, пра каго складаеш вершы, пра свой калгас?

— Ну, скажам, пра яго.

— Пра той, што ёсць?

— Ну, што ты! Мы таксама з самакрытыкай знаёмы. Ды і пра той, што будзе ў нас, вершы ўжо складзены, без мяне. Паслухай, якая харошая песня!..

Стогалосая песня звініць. Галасоў, праўда, менш, ды пачуцця ў ёй хапіла б, відаць, і на сто спевакоў.

Шуміць, шуміць высокая пшаніца,
І ёй канца і краю не відаць,—

гэта пайшоў па версе наш Мікола. Гэта чуваць за галасамі хлопцаў і дзяўчат баян Алеся.

— І-і, злодзей, як залiваецца! — гаворыць маці пра Міколу.— Усе, няхай здаровы будуць, хоць у радыё.

Алесь да вайны толькі рыпаў на гэтым баяне, а сёння — глядзі ты!.. Ну што ж, малады наш Ясю, мо павячэраем?

«Якая там вячэра!» — хочацца сказаць. І я ўстаю.

— Ды што вы, мама! — кажа Лена за мяне.— Мы яшчэ пойдзем. І так ён тут зачакаўся мяне.

І мы ідзём туды, дзе песня.

— Вершаў не пішаш, газет не чытаеш, не голішся. Зусім адсталы старшыня,— смяецца Лена, беручы мяне пад руку.— Чытаў сёння ў «Звяздзе»? Зноў да нас палякі прыехалі, у Беларусь. Сяляне польскія. Вучыцца будаваць калгасы.

— Ну, да нас яны не прыедуць.

— А чаму?

— На што ім тут глядзець, у Забалоцці? Няхай вучацца ў старых калгасах, ну, а да нас — праз год, праз два. А цяпер...

— Эх ты,— заглядае ў твар мне Лена.— Таксама мне знайшоўся, ты — «не паэт»! А радасць наша, а нашы першыя ўдачы, па-твойму, людзям не цікавыя? Вось — паглядзіш — прыедуць! І вершы нехта напіша.

— Нам, цётачка, не да вершаў. За лён спалохаўся. Разагналіся мы шырока, а ўжо з праполкай адсталі.

Больш за дваццаць гектараў лёну мы, як нам параіў Верабей, пасеялі на ўзараным пералозе, і многія пакручвалі галовамі і нават мармыталі,— на пералозе лён, чаго толькі не выдумаюць аграномы!.. І пустазелле супраць нас пайшло — ажно гудзе на нашым лёне.

— Ты ведаеш, што будзе, хай толькі справа не ўдасца? — гавару я.— І я вось думаў: ці не падняць нам моладзь заўтра на праполку. Першы нядзельнік за ўвесь час. Цікава, што тут скажа камсамол?

— Ну-у, да чаго дадумаўся адзін каля акна! Пра гэта хіба думаць аднаму: пагаворым вось разам з усімі і пойдзем. Я і сама пайду ахвотна. Усе пойдуць, нават таварыш старшыня.

Яна бярэ мяне пад руку і збоку, зноў з хітрынкай, заглядае ў вочы.

— Што, не пойдзе?

— Можа, не вельмі ахвотна, а ўсё ж такі пойдзе. Баюся толькі, што ад нашай, мужчынскай, дапамогі лёну не пашанцуе.

— Павырываюць і лён з пустазеллем?

— Ну, што не вырвуць, дык з божаю помаччу вытапчуць. Хлопцы вясёлыя, разам з дзяўчатамі не памесцяцца.

— Хлопцы сур'ёзныя, не выдумляй! І дзяўчаты, і хлопцы сур'ёзныя.

А ўжо «сур'ёзныя» — чуваць — ад песні перайшлі да танцаў. Замяцеліла полька-цыганачка.

— І ўлев-ва! — гучыць задорны голас Лявона Шарэйкі.

І мы спяшаемся туды, дзе маладая весялосць.

## 20

Ад работы — дзе ты і ў вопратцы абы-якой, і рукі ў цябе брудныя — вельмі прыемна бывае памыцца, пераапрануцца ў святочнае адзенне і сесці на веласіпед. Прыемна ехаць туды, дзе будзе многа цікавага.

Вось так я і еду. На полі праца, будні дзень, а я ў новым кіцелі, з сякім-такім ваенным звонам на грудзях. Веласіпедныя шыны шуршаць пада мной на сцяжынцы, што белай стужкай ляжыць на зялёнай траве.

Што ж за свята такое ў мяне?

Леначка напрарочыла. З-за мяжы, з той краіны, што стала, нарэшце, і шчырым другам для нас і добрым суседам, прыехалі госці — сяляне. Прыехалі паглядзець, што ў нас робіцца, як мы будуем тут новае жыццё.

Пасланец сельсавета знайшоў мяне ў полі. Хлапчук перадаў мне запіску сакратара райкома і, стомлена дыхаючы, сказаў:

— Палякі прыехалі.

Павел Іванавіч пісаў, каб я адразу ж ехаў у сельсавет, а калі не застану іх там — да Малевіча. Туды павінны хутка падысці з суседняга раёна дзве машыны. Група людзей з дэлегацыі польскіх сялян. Суседні раён, адкуль яны заедуць, знаходзіўся калісьці за мяжой, на ўсходзе. Польскія госці пабывалі ва ўсходніх абласцях рэспублікі, у калгасах і на новабудоўлях, а па дарозе дахаты захацелі заглянуць і да нас — паглядзець хоць адзін з маладзейшых, нядаўна арганізаваных калгасаў.

Але пастой,— адзін піша: «хутка падыдзе», а другі вось гаворыць: «прыехалі»... Што такое?

— Ты што,— спытаўся я ў пасланца,— валэндаўся недзе з запіскай? Чакаў, пакуль яны прыедуць?

— Ды яны, дзядзька, у Панямонь яшчэ не прыехалі. Яны да нас прыехалі, я гавару... у наш раён.

Еду, гляджу на сцяжынку перад сабой і ўсміхаюся. Вядома, добра гаворыць малы — яны прыехалі да нас, бо і мы сёння — не проста так сабе нешта, мы таксама маленькая частка вялікай радзімы працоўных!..

Шыны шуршаць, а навокал наднёманскі май. Песні жаўранкаў, якія вельмі прыкметныя ранняй вясной, цяпер неяк не заўважаюцца, нібы яны толькі фон, як блакітнае неба ўгары, а зеляніна ўнізе. На небе лёгкія, павольныя хмаркі. Цені хмарак таксама лянівa паўзуць па палях, па сівым жыце і яркай, сакавітай зеляніне ярыны. Зялёны небакрай пацягнуты смугой. Нейкі мілы цвіркунчык, маленькая птушка, сядзіць на тэлеграфным провадзе і, нібы на жалейцы, раз-поразу паўтарае свой аднатонны напеў. Добра глядзець на хаду, заўважаць з вышыні, што жыта сёлета вельмі дружна бярэцца ў трубку, што на цёмнай ужо, сакавітай траве абочын камячкамі кволага пуху стаіць дзьмухавец.

А вось і Панямонь. Спачатку мястэчка, або хутчэй за ўсё проста вёска, у якой сельсавет, а потым, за Нёманам,— былы маёнтак, дзе размясціўся калгасны двор. Гасцей у сельсавеце няма, яны ўжо ў Малевіча.

На мосце ўспамінаю, як мы нядаўна ехалі сюды ўдвух з Кастусём Ячным: уз'ехаўшы на мост, ён не вытрымаў, крыкнуў мне цераз плячо, не пускаючы ручак матацыклавага руля: «Маёнтак пана Рушчыца! Глядзі!»

Так, гэта і ёсць былое Людвікова. Больш правільна — тут засталіся ад яго толькі ліпы, клёны і сосны, старадаўні маёнткавы парк. Уцалелі таксама дзве панскія пабудовы — мураваная каплічка з лацінскім надпісам «Маліся і працуй» і стары барак, дзе жылі каліcьці парабкі, тыя самыя людзі, якіх толькі і датычыўся наказ панскага бога, напісаны на каплічцы. Палац і ўсе іншыя пабудовы Рушчыцавай гаспадаркі пайшлі з дымам яшчэ ўвосені сорак другога. Тады ж павіс на ліпавай галіне і зондэрфюрэр Лепке — новы пан,

што прываloкся сюды, каб па загаду свайго фюрэра аднавіць для нас даўнейшую няволю. Сюды прыходзіў з партызанамі і наш Мікола. Гэта быў яго першы бой.

Прыемна ў засені старога парку. Я сыходжу з веласіпеда і ціха іду побач з ім. На абочыне дарогі, каля кустоў алешыны цвітуць блакітныя незабудкі. Я ўспамінаю Лену і нашу новую радасць... «Калі будзе дзяўчынка,— думаю я,— яна нарве некалі маленькай ручкай маленькі букет гэтых ціхенькіх кветак...»

Нібы ўжо бачачы гэта, я спыняюся і стаю. Слухаю, як шуміць сваю мудрую песню сасна, а адначасна мне прыкра і смешна ад думкі, што гракам да мяне няма аніякай справы. Ломяць сухое галлё, якое самі ж яны і высушылі, і крычаць, і крычаць... І салаўя не пачуеш з-за іх. Адна толькі песня выразна даходзіць адтуль, дзе людзі,— рупліва тахкае лакамабіль калгаснай электрастанцыі, зусім блізка, адразу за дрэвамі.

Госці і гаспадары, калі я ўбачыў іх, ішлі якраз па калгасным двары, ад канюшні. На месцы, дзе нядаўна была закончана артэзіянская студня і драўляная вышка над ёю стаяла яшчэ непрыбраная, прадстаўнікі дзвюх саюзных дзяржаў спыніліся.

«Як гэта важна гучыць — «прадстаўнікі»,— падумаў я. А што за смех? Дагэтуль працоўныя двух суседніх народаў не сустракаліся яшчэ ні разу як гаспадары жыцця, і ад гэтага, відаць, так многа было на свеце ўсякай непатрэбшчыны.

А ўсё ж такі ў такую ўрачыстую хвіліну нават і франтавік чамусьці спачатку бянтэжыцца. Я, напрыклад, збянтэжыўся і думаў, ідучы, з каго пачаць вітацца? Апроч гасцей з-за мяжы былі госці і нашы — Павел Іванавіч і Шаўчэнка.

Выручыў мяне Канцавы, які стаяў першы з краю.

— Прывітанне, таварыш Сурмак! — падаў ён руку.— Знаёмся з гасцямі.— А да гасцей звярнуўся так: — Проша знаёміцца. Старшыня маладога калгаса «Ленінскі шлях». І назва прыгожая, і старшыня, не пры ім кажучы, ніштаваты.

Каля яго з гасцей стаялі тры мужчыны.

Аднаго з двух малодшых — чарнявага і спаважнага, у маіх, відаць, гадах — звалі Чэслаў Гадомскі. Другі, Ян Строіш, быў старэйшы за яго,— высокі і стройны.



На Амуры. *Злева направа:*
Н. Гілевіч, Я. Брыль, Н. Кіслік.
*1962 г.*



З братамі Міколам *(справа)*, Міхасём *(злева)*
і пляменніцай Валянцінай.
*Загора, 1959 г.*

Трэці госць падпіраў сваю старасць тоўстым і гузаватым ядлоўцавым кіем. З-пад сівых вусоў прыязна ўсміхаліся губы, а добрыя вочы рабацягі глядзелі з-пад капяжа густых броваў. Гадомскі і Строіш былі ў касцюмах і плашчах, а стары — у зялёным капелюшы і ў камізэлі пад чорнай расхрыстанай курткай. На камізэлі — ад гузіка ў кішэньку — вісеў гадзіннікавы ланцужок. Пра ланцужкі такія калісьці пры панах крычалі на рынку бадзячыя гандляры: «Гэй, што за ён! Для навязвання быка, індыка і сцізорыка!..»

— Валенты Скіба,— назваўся стары, падаючы мне руку.

Шаўчэнка і госці-жанчыны стаялі па той бок калодзежнай вышкі.

Малодшую жанчыну, жонку Строіша, звалі Зося. Таксама, як муж і Гадомскі, яна была апранута па-гарадскому. Старэйшая полька, у яркай стракатай народнай вопратцы, калі я вітаўся, сказала:

— Я Анеля Каспэрак. А ў нашай Бялай Вульцы кажуць — Юзэфова.

— А я вас буду па-нашаму клікаць,— сказаў я папольску,— дазвольце, цётка Анеля?

— А южці, проша! [1] — засмяялася яна.

— Глядзі, Сурмак,— звярнуўся да мяне Канцавы.— Глядзі ты вось на гэтага, братка ты мой, малайца!

Ён абняў за плячо сінявокага, светлага Строіша.

— Эх, Ясю, Ясю! — сказаў.— Ты ведаеш, Сурмак, што мы з ім разам калісьці пад уладу пана Пілсудскага міну падкладалі. Ён недзе каля свайго Красністава, а я ў нашай Бярозаўцы, у гэтым Панямоні. А сядзець нам прыйшлося разам. Помніш, Ясю, у трыццаць трэцім? Дзе той пракляты туман на гарах Свентакшыжскіх? Дзе наш замак пануры?..

Побач з Малевічам стаялі яго лепшыя сябры — брыгадзір Качарга і пастух, дзед Саёнак. У знак свята дзед надзеў чорную, вышытую нейкімі бубачкамі кашулю і, відаць, таксама сёння прыстрыг з бакоў сівую бараду.

— Здравія жалаем! — важна сказаў ён, вітаючыся са мной, і дакрануўся шчопцямі пальцаў да маленькага, лакіраванага брыля сваёй вялікай і круглай, як рэшата, шапкі.

---

[1] А ўжо ж, калі ласка!

— Ну, што, таварышы, пойдзем далей? — спытаў Павел Іванавіч.— Вядзі, Малевіч, хваліся.

Шаўчэнка — здаровы і спакойны палтаўчанін, у час вайны наш, беларускі, партызан — з відавочнай прыемнасцю спраўляў сёння абавязак кавалера. Цётка Анеля і маладая прыгожая Зося ішлі абапал яго, а ён гаварыў:

— Па гэтай трубцы мы з вамі, дарагія госцейкі, так вось і прыйдзем у самы кароўнік. Малевіч, відаць, дзеля гэтага іх і паклаў.

«Гэтая трубка» — водаправодная труба ад студні ў кароўнік — ляжала на дне глыбокага раўка, яшчэ не засыпанага зямлёй. Чалавек дваццаць дзяўчат і хлопцаў з вясёлым гоманам пракладалі цяпер такі самы равок у кірунку канюшні.

Кароўнік быў пусты. Толькі ў першым стаяку направа чмыхнуў бык — здаравенны, пярэсты Айчым. Ён паглядзеў на нас і незадаволена надзьмуўся.

— Ляжыш, васпан,— прыгнуўся трохі дзед Валенты.— Табе б цяпер файку толькі і закурыць. А гэта што, сынок яго? — спытаўся дзед каля другога стаяка.— Ого, таксама штучка з форсам. Паглядзець бы такога на сонцы!

Малевіч, чуючы гэта, сказаў:

— І праўда, цемнавата. Уключыце, хто блізка.

Бліжэй да ўключацеля стаяў брыгадзір Качарга, аднак дзед Саёнак прыпыніў яго.

— Пачакай, я сам.

Магло б некаму здацца, што справа ідзе пра нешта вельмі складанае, у чым найбольш разумее стары пастух Лукаш Саёнак,— столькі важнасці было ў яго голасе. Дзед падышоў да вушака дзвярэй, старыя пальцы яго знайшлі на сцяне маленькі кіпцік уключацеля, і вось — уздоўж кароўніка пад белымі шчыткамі загарэліся электралямпачкі.

— Цяпер яно, браток, і ў нас вось так!

Дзед гаварыў «браток» да ўсіх таму, што думаў толькі, як, відаць, пра самага старэйшага з гасцей.

— То ці штука доперо, моісце вы! — здзівіўся дзед Валенты.— І вшыстко то тэраз, па войне, зробёнэ?! [1]

---

[1] Вось гэта дык штука, мае дарагія! І ўсё гэта цяпер, пасля вайны, зроблена?!

— А што ж ты думаеш, браток! Мы тут — чацвёрты год пасля вайны — не абручы ганялі па дарожцы, мы рабілі!

Госці агледзелі ўсю гаспадарку. За паркам, дзе па багата расквечаным поплаве снавалі сыценькія, нібы Ваточаныя, цяляты, завіхалася цётка Анеля. Дзед Валенты, а разам з ім і дзед Лукаш намагаліся ўгаварыць нас адразу ісці да статка кароў, што хадзілі за ракой, але справу адклалі да вечара, калі каровы прыйдуць дахаты самі. Таварыш Строіш, цагляр па прафесіі, асабліва разварушыўся каля цагельнага завода.

— На базе гэтай цагельні,— гаварыў Канцавы,— мы думаем пачаць вялікае будаўніцтва. Цагельны завод будзем рабіць. Малевічу першаму трэба пачаць барацьбу за цагляную вёску. Яму гэта больш па сілах, чым, напрыклад, таварышу Сурмаку. А можа, і наадварот?..

Зірнуўшы на Малевіча, я пазнаў, што гутаркі ў яго з сакратаром пра справу такую яшчэ не было. Павел Іванавіч гаварыў ад сябе. І гэта было ўжо не толькі меркаванне, справу гэтую прыйдзецца вырашаць неўзабаве. І дзядзька Юрка не здзівіўся, што пачынаць трэба яму. Ён паглядзеў на мяне і з усмешкай сказаў Канцавому:

— Будзе яно, Павел Іванавіч, не наадварот, а так, як гаварылася. Пачынаць будзем мы. У Васіля пакуль што іншай работы хопіць.

— А ты, дружа Юрко, не ганарыся,— сказаў Шаўчэнка, нібы хочучы абараніць мяне ад нейкай напасці.— Сурмак і так ужо абагнаў цябе ў адным. Праўда?

— А, саман! — усміхнуўся дзядзька Юрка.— Ну што ж, саман — добрая справа таксама. Ды мы ўжо лепш на цэглу адразу пяройдзем. А пакуль што і наша сасонка не так ужо дрэнна глядзіцца!.. Прашу, паважаныя госці, паглядзім наш клуб!

Клуб, з глядзельнай залай на трыста асоб, з пакоямі для бібліятэкі-чытальні і, часова, канторы праўлення, у сярэдзіне быў яшчэ не закончаны. Аднак ужо тут панямонцы спраўлялі сёлетні Першамай. Знадворку зіхацелі ад сонца шматлікія шыбы і шыбнікі акон і доўгай, ашклёнай веранды; блішчаў гонтавы дах. Побач з клубам пасаджаны парк; зеленалістыя ліпкі і клёнікі стая-

лі роўнымі радамі, пакуль што трымаючыся за падпоркі.

За клубам пачыналася вёска, не Панямонь, а новая, калгасная.

— Усё гэта, дарагія госці,— загаварыў Малевіч,— і гэты клуб і гэтыя хаты — пабудаваны намі ў чыстым полі. Людзі, якія тут жывуць, жылі... ды не жылі, а гібелі ў бараках. Яшчэ нядаўна — дзесяць год таму назад. Адзін з гэтых баракаў, як памяць, і яшчэ стаіць. Вы бачылі яго, вы самі добра ведаеце, што такое «чваракі»,— халупы для нашага брата, батрака, у якіх і сапраўды было хоць ракачком хадзі, па-вашаму, па-польску — на «чвараках»... А цяпер — паглядзіце!..

Новыя хаты стаяць абапал шырокай вуліцы, прасторна аддзяліўшыся адна ад адной прысядзібнымі агародамі. Цагляныя каміны, узорыстыя ліштвы вялікіх акон, перад вокнамі плоцікі, за якімі да позняй восені будзе цвісці дзявочая радасць — кветкі. На агародах — саджанцы новых садоў. Праўда, сцены драўляныя, дахі з драніцы, аднак уздоўж вуліцы гудуць на слупах правады, і над вокнамі кожнай хаты блішчаць шкляныя кубкі ізалятараў. На многіх дварах узвышаюцца жэрдкі антэн.

— Правільна, Юрка Іванавіч,— сказаў Канцавы.— Якое тут можа быць параўнанне не толькі з паршывым батрацкім баракам, а нават і са шмат якімі вёскамі раёна. Там жа яшчэ вельмі часта хата ледзь не на хаце стаіць, страха пры страсе... Яшчэ не зжытая спадчына. А гэта вось, калі ласка!..

Мы падышлі да двара старшыні.

— Прасі, Малевіч,— усміхнуўся Канцавы,— паглядзі, што ў цябе там у хаце.

Мы сядзім за багатым сталом.

Гасцей многа, і ў хаце так цесна, што Марыля, маладая жонка Юркі Іванавіча, спачатку была разгубілася... І разгубілася настолькі, што Канцавы паглядзеў мнагазначна на дзеда Скібу, пакруціў галавой і ўздыхнуў:

— Дрэнь наша справа, дзеду. Закусь нішто сабе, а размачыць яе няма чым...

— Ах, мамачкі! Цьфу, цьфу,— зачырванелася

збянтэжаная маладзіца.— І ты, Юрка, таксама глядзіш!..

Госці весела зашумелі, і пад гэты вясёлы шум на стале занялі сваё месца бутэлькі.

— Дарагія таварышы,— устаў на покуце Канцавы.

Мы падняліся з налітымі чаркамі.

Перада мной, цераз стол, стаяла тая самая дзяўчына, што сустрэла мяне, калі ўзыходзіў сёння на калгасны двор. Тады яна везла гной, апранутая абы-як, і магло нават здацца, што яна была вельмі далёка ад тых узнятых святочных пачуццяў, што напаўнялі маю душу. А цяпер вось яна, тая самая кветка, стаіць і ўсміхаецца. Вочы, як цвет ільняны, сукенка расцвіла густым бела-бэзавым колерам, як зацвіце ў свой час і той апошні ўчастак бульбы, які пасаджаны сёння яе брыгадай. А на грудзях ордэн пад сіняй стужкай. Вось мы, кажа, якія, дарагія госцейкі,— бачыце працу нашу, глядзіце і на шчасце!..

— Можна прыдумаць усякі тост,— гаварыў тым часам Павел Іванавіч,— вельмі разумны і вельмі прыгожы. Ёсць у нас і за што, ёсць і за каго падняць бяседную чарку!..

Побач з дзяўчынай стаяў брыгадзір Качарга,— той нястомны рабацяга, якога некалі аконамы пана Рушчыца лічылі толькі рабочай жывёлінай.

Юрка Іванавіч расказваў мне аднойчы пра першую калгасную касьбу пасля вайны. Пяць мужчын пачыналі яе ў незабыўным ліпені сорак чацвёртага года. І вось на трэці дзень касьбы самы лепшы ў калгасе касец, Апанас, не выйшаў на работу. Што такое?.. Старшыня пайшоў да яго ў барак. Апанас сядзеў каля стала, падпёршы кулакамі цяжкую ад гора галаву. Даўно не было ўжо на гэтым стале звычайнага чорнага хлеба. На шчаўі цягнуў касец, апошнімі сіламі, і вось машына, нарэшце, стала. Так пачыналася аднаўленне калгаса. А сёння ён, брыгадзір Качарга, глядзіць на свет як адзін з пераможцаў, сёння ў вачах яго гордая радасць. Ён слухае сакратара райкома і, у лад яго словам, міжвольна ківае галавой, сцвярджаючы найдаражэйшую праўду.

— ...І вып’ем мы, таварышы, за нашу народную ўладу, за нашу вялікую дружбу! — закончыў Павел Іванавіч.

Мы чокнуліся і выпілі.

А дзед Саёнак чамусьці спазніўся. І вось ён працягнуў руку да бутэлькі, якая стаяла бліжэй. Адразу я здзівіўся, потым — зразумеў. І сапраўды, непарадак! Шаўчэнка, дзедаў сусед з левай рукі, відаць, загаварыўшыся, наліў дзеду толькі паўчаркі. Старому гэта не спадабалася. Ён пачакаў нейкі момант, думаючы, што маладыя здагадаюцца, а потым устаў і выправіў памылку сам.

За ўсім гэтым сачыў яго другі сусед — стары Валенты; ён адзін і не выпіў яшчэ.

— Ну, браток, за народную ўладу! — узняў чарку Саёнак.— Будзь, Валента, здароў! Пастух з пастухом — як міністры!..

## 21

Днела, калі я вяртаўся дахаты.

Паехаў каля ракі, ускраінай лесу. І не ехаў, а ціха брыў па траве, што набрыняла за ноч расой, каціў побач з сабой веласіпед, пазіраў на зару і думаў...

Было аб чым.

Праходзілі ў вачах — сустрэча Канцавога і Строіша, сустрэча двух старых пастухоў...

З пачуццём добрай зайздрасці да поспехаў панямонцаў успамінаў будынкі, у якіх ужо і вада падыходзіць па трубах, і святло загарэлася. Успамінаў новыя хаты, і цэглу, і ціхі плёскат вады ў новых сажалках, над якімі праз вербы і ліпы чуваць салаўіная песня...

Усё гэта, вядома, бачыў я не раз. Аднак цяпер, разам з палякамі, глядзеў на новае ў нашым жыцці зусім як быццам па-новаму.

Прыемна было пагаварыць з гасцямі на іх мове. Бо хто ж калісьці, пры панах, гаварыў тут з такімі, як я, па-польску? І аб чым гаварыў? Больш за ўсіх пан секвестратар ды пан паліцэйскі. Часта заходзілі ў вёску беспрацоўныя з далёкіх прамысловых гарадоў, і мы гаварылі з імі па-польску аб тым, чаму і нам, і ім жывецца дрэнна.

Такім вось бокам і дакраналася да нас жывая польская мова.

Дзе я быў у той час, апроч свайго Забалоцця і іншых пяці-шасці вёсак ваколіцы?

Трохі ў войску і трохі ў турме. І там, і там з мяне выбівалі «савецкі дух».

І, вядома, ні паліцэйскі, ні капрал, ні турэмны дазорца не маглі здагадацца, што «хлопак з крэсаў» — спачатку ў лапцях, пасля ў мундзіры панскага салдата і, нарэшце, у шэрай вопратцы арыштанта,— што гэты «збальшавізаваны хам» любіў Міцкевіча, Ажэшка, Пруса...

Ні дзед Валенты, ні цётка Анеля не былі тут, вядома, ні ў чым вінаваты. Іх аддзяляла ад нас паліцэйская палка і крапідла ксяндза. А такія, як Чэслаў Гадомскі і Строіш, змагаліся за сённяшні дзень разам з нашымі беларускімі рэвалюцыянерамі-падпольшчыкамі.

...Вось-вось пакажацца сонца.

Гэтая самая зара цяпер глядзіцца ў наша светлае акно. Расцвіў перад акном духмяны белы бэз. Шчабечуць песню сваю мітуслівыя ластаўкі: над акном іх гняздо.

Ды гэты першы дзённы шум не разбудзіць маю гаспадыньку.

А можа, яна не спіць ужо? Ужо ці яшчэ?

Бывала ж так, што Лена ці не спала далёка за поўнач, пакуль я не вярнуся, ці ўставала да свету — чакаць.

Можа, і цяпер ужо адчынена акно, а ты глядзіш праз бэзава лісцё або чытаеш на падушцы, па-дзіцячаму падпёршы рукою шчаку?

А я іду. Я раскажу табе, як заўсёды, усё, і ўсё гэта ў мяне такое сёння незвычайнае.

Потым я пайду — у поле ці на будаўніцтва, а ты — таксама на працу, у школу. Многа працы ў цябе: завяршаецца школьны год. Калі мы выйдзем з хаты і ад варот разыдземся кожны ў свой бок, ты доўга будзеш стаяць у вачах: як ідзеш каля акон, у светлай сукенцы, з партфелем сшыткаў у руцэ; як на вусны твае то ўзыходзіць, то зноў на іх патухае шчаслівая ўсмешка; як прыязна вітаюць цябе і старыя і дзеці; як азіраюцца ўслед табе мае маладыя сябры...

...Я думаў так, а ўжо ад Нёмана дарога павярнула ў лес. Не лес яшчэ — толькі прылесак.

І вось у гэтым ціхім, духмяным прылеску мяне нечакана сустрэла бяда...

Я кажу — «нечакана». Не мог жа я чакаць таго, не мог не здрыгануцца, калі з кустоў пачуўся крык:

— Эй! Стой, Сурмак! Рукі ўгору, сабака!..

Тры дзецюкі выйшлі з кустоў на дарогу.

Першы бандзюга, які падышоў да мяне, спытаўся:

— Што, пазнаў? Не чакаў, што сустрэнемся? А чаму ж гэта лапы не ўздымеш?

Пазнаць-то я яго пазнаў — гэта быў Носік, той самы Валодзька, што «загінуў недзе ад нямецкай бомбы», ну, а чакаць такое сустрэчы... «Ведай цяпер, як з пустымі рукамі хадзіць...»

Носік стаяў з аўтаматам. Другі, таксама малады, наставіў карабін. Трэці — Капейка — з наганам.

— Ну што,— сказаў Носік,— не пісаў я табе, што даскачашся? І табе, і тваёй памагатай. Чаго маўчыш? Паспакайнеў... А мы пагаворым з табой за ўсё. Пусці нарэшце свайго коніка! Уляпіўся... Капейка, кішэні!

Капейка падышоў. Па-свойму гледзячы на свет з-пад кепкі, ён узяў з маіх рук і піхнуў набок веласіпед, а тады пачаў лазіць па мне той самай левай, свабоднай рукой. У кішэні кіцеля, у кішэні штаноў, за пазуху...

З усяго, што я дагэтуль ведаю, найбольш агідныя для мяне пацукі. Каб ён пабег па мне, каб ён панюхаў мяне... брр!.. Чытаў недзе калісьці, што італьянскія фашысты на допытах ужывалі жалезныя клеткі з галоднымі пацукамі. Клетку гэтую надзявалі на галаву ахвяры. Можа, не тры пацукі, а больш ці менш бывала ў той клетцы, ды мне здавалася цяпер, што іх заўсёды было тры...

А гэтыя вось «пацукі» — гладкія, нават паголеныя і, відаць, толькі ўчора. Не заўсёды сядзяць яны тут, у кустах,— ёсць і ў іх свае людзі...

Як жа тут з вамі пачаць?..

Абмацаўшы мяне, Капейка яшчэ раз пралез па мне ад галавы да ног вачыма... «Мяркуе, што дастанецца яму з падзелу спадкаў»,— падумаў я і здзівіўся, што ён не заўважыў на левым запясці маёй рукі гадзінніка, тым больш што бачыў яго раней не раз. Яшчэ больш я здзівіўся, што партбілет ён не знайшоў таксама!..

— Медалікі мы табе сёння здымем! — гыкнуў Носік, ашчэрыўшы моцныя зубы.— Трошкі пазней, пакуль што часу няма. І Грышу Бабрука пакажам табе.

Можа, нават і Рымшу самога. Я чуў — ты вельмі хацеў іх сустрэць. Ты адвядзі яго, Капейка, далей, а мы яшчэ пабудзем тут. Ды глядзі — калі што, не зявай. А ты, таварыш старшыня, пачакай там, падумай. Мы табе зараз і Канцавога даставім. Мы тут чакалі яго, а бог нам цябе прыслаў.

Мы адыходзім з Капейкам у лес. Калі я хачу азірнуцца або іду цішэй, ён штурхае наганам у спіну.

— Ідзі, ідзі, ак-ты-віст! — гаворыць.— Ты ж і са мной хацеў убачыцца, таксама страшыў. Вось і ўбачыў. І швагер твой убачыўся са мной. Шкада — павылізваліся. А цябе сёння будуць сабакі лізаць. Мы да вас дабярэмся, да ўсіх...

...Маленькая сасновая труна... Крывавы след на снезе... Валя!.. «Не «ну іх», а «мы іх!» — гаворыць Мікола... І Канцавога вам сёння не ўдасца злавіць: ён паехаў другою дарогай. І пачакай ты, пачакай! Толькі глыбей у лес, далей ад тых! Цяпер, толькі цяпер!..

Ды чорт вазьмі! — само неяк прыйшло на памяць, як клёнаўцы знайшлі над Нёманам фінагента Антонава. Сядзеў хлопец па пахі ў вадзе, акрываўлены ўвесь, з пагонамі і зоркамі, павыразанымі на целе.

Ды не, я не паддамся вам!..

А думкі чорныя цяжка спыніць...

На галінку сасны, што звісае над намі, прысела маленькая птушка. Сінічка ў сваім зялёным, і чорным, і жоўтым адзенні. Яна сказала б, вядома, сваё «ці-сік, ці-сік», здзівілася б, чаго мы тут, але ў дзюбіку быў чарвячок. Тут недзе ў птушкі гняздзечка і дзеці... А можа, толькі сяброўка, што сядзіць у нагрэтым гняздзе і чакае вялікай радасці?.. Хто іх ведае. Птушка кіўнула чорненькай, белашчокай галоўкай і, бачачы, што нас адгэтуль не выжывеш,— паляцела... А я застаўся зноў адзін з вялізным пацуком... Нічога, Лена, нічога!..

— А ну, давай сюды гадзіннік. І грошы давай. Ды глядзі, не кажы ім, што я іх узяў,— сказаў Капейка, трымаючы свой пісталет перад грудзьмі.

«Ага! — прамільгнула ў маёй галаве.— Дык вось чаму ты не палез па партбілет!.. Відаць, падумаў, што грошы. Таксама, падумаў, адзін забярэш».

Левай рукой Капейка палез пад маё рукаво. Халодныя пальцы шарылі па метале браслета, не ведаючы,

як яго расшпіліць. Я глядзеў бандзюку проста ў твар.

— Чаго ўталопіўся! — не вытрымаў нарэшце ён.— Здымі яго сам!

«А ну, давай, давай!..» — падумаў я, ужо з усмешкай у душы. Я расшпіліў браслет, і ён, нібы незнарок, спусціўся з рукі на мох.

І гэта вырашыла ўсё.

Капейка не вытрымаў, забыўся адразу, што пад наганам і я падняў бы гадзіннік з зямлі. Ён сам прыгнуўся... І тады, пакуль яго пальцы паспелі дакрануцца да бліШчастай змейкі браслета,— я з размаху чарахнуў яму наском бота пад самую храпу.

Выйшла!

Першае, што ён паспеў зрабіць — гэта схапіўся абедуч за твар, а я — за руку з пісталетам. Я рвануў яго раз і другі і кульнуў пад сябе на мох. Я намагаўся выкруціць з рук наган. Аднак лапы Капейкі былі так моцна сашчэплены, што гэта мне не ўдалося. А тут яшчэ ён, нібы цяпер толькі ўспомніўшы, што побач з ім — сябры, зароў пада мной, як жывёліна... Заставалася адно — абяззброіць яго інакш. Я нагвездаваў яму кулаком па вачах, на дадатак яшчэ раз садануў нагой у жывот — і чмыхануў у гушчар.

Лячу па лесе, як лось. Трашчыць сушняк, шчыміць пад ударамі голля твар, а дух займае ад лёту і шчасця!.. Недзе там, ззаду, чуваць стрэлы і крык пагоні. «Паршыўцы!» — думаю я і, у знак поўнай пагарды да іх, спыняюся, іду памалу, а потым саджуся на мох.

Навокал зялёна і ціха. Слых мой толькі праз момант ловіць музыку ціхага шуму лісцця, ды і то мне спачатку здаецца, што гэта ўсё яшчэ шуміць у галаве. Потым чую — пачаў салавей... Недзе бухнуў яшчэ адзін стрэл. Апошні.

У роснай засені цвітуць маленькімі белымі зоркамі кветкі чарніц, а высока ўгары, на вершалінах дрэў, іграюць промні сонца. Гэта вяртае мяне да жыцця яшчэ больш. Я заўважаю, што побач стаіць надламанае дрэўца бярозкі. «Добры кіёк, можа, прыдасца, хто ведае»,— думаю я. Зламаць бярозку лёгка, ды яна яшчэ ўсё расце, зелянеюць лісточкі. «Няхай расце»,— думаю я і ад радасці б'ю па зямлі кулаком:

Жыву, дарагая, жыву!..

*1949—1952 г. 1977 г.*

# НА БЫСТРАНЦЫ

*У. Калесніку*

Пласкадонка, якая ў гэтых мясцінах называецца чайкай, ад рання стаяла ў ціхай завадзі Быстранкі, прымкнутая ланцугом да вярбы.

Дзіцячы гоман і плёскат вады чуўся трохі далей, уверх па рэчцы. А тут, у зацішку, амаль зусім непрыкметна пагойдваліся на вадзе белыя кветкі, пяшчотна, відаць, з дзявочых вуснаў названыя гускамі,— лілііі ў акружэнні цёмна-зялёных талерак-лістоў. Насупраць, куды свяціла сонца, бераг быў высокі, абрывісты, напярэшчаны мноствам пячорак, каля якіх гуллівым і заклапочаным шчэбетам увіхаліся стрыжы.

Сцежкай ад вёскі, агароды, дрэвы і хаты якой відаць з вышэйшага берага, апоўдні прыйшоў сюды хлопец. Без кашулі, загарэлы, босы і з поўным дарожным мяшком. Кінуўшы ў лодку тонкі, выслізганы рукамі шост, ён палажыў туды і мяшок, падкасаў да калень штаны, адвязаў чайку ад вярбы і сапхнуў яе на ваду.

— Паехалі,— шапнуў ён, стаўшы на карме лодкі і шастом даючы ёй патрэбны кірунак: за вадой.— Паехалі,— паўтарыў уголас, з усмешкай, і левай рукой загроб уверх непаслухмяныя пасмы светлых валасоў.

Раскалыхаўшы на развітанне гускі і іх вялікія плывучыя лісты, чайка пайшла па стрыжні жывой і звілістай Быстранкі.

У вёсцы Патрэба, з якой ён прыйшоў да лодкі, хлопца змалку называлі Ганулінкым Толікам. Потым, калі ён паехаў у Мінск вучыцца і разам з іншымі аднавяскоўцамі пачаў прыязджаць адтуль на канікулы, нават і ад старых сяды-тады даводзіцца яму пачуць саліднае — Анатоль Пятровіч. Для сяброў і сяброўак —

і дома, і ў людзях — ён Толя, вясёлы і дружны Толя Клімёнак.

Сёлета Толя скончыў трэці курс літаратурнага аддзялення універсітэта. Дома, у вёсцы, дзе быў у яго толькі старэйшы, жанаты брат Кастусь, студэнт касіў з мужчынамі, з моладдзю да ўпаду танцаваў у новым клубе, а ноччу ўпотай пісаў. Адзін яго нарыс днямі надрукавала ажно рэспубліканская газета, а на шэсць вершаў, амаль месяц таму назад упершыню пасланых у тоўсты часопіс, яшчэ ўсё няма адказу.

Ды вось прыйшло, нарэшце, даўно чаканае пісьмо з нечаканай прыпіскай, і Толя забыўся пра ўсё і пакінуў усё — паплыў.

Пісьмо — не з рэдакцыі, а ад Максіма, сябра яшчэ з ваенных дзён. Аспірант лесатэхнічнага інстытута Максім і сёлета адбывае практыку ў іх партызанскай пушчы і вось завітаў, нарэшце, да бацькі, у свае Лазовічы, дзе млын на гэтай самай Быстранцы. Дарогай да млына — кіламетраў дваццаць, машыны трапляюцца часта, аднак Толя вырашыў лодкай таму, што яна ім з Максімам спатрэбіцца.

«Пабудзем дзянёк у старога,— піша Максім,— і рушым на Нёман, у пушчу, да нас, лесавікоў. Бацькава чайка — старая: смалы і часу на канапачанне спатрэбіцца больш, чым уся яна варта, ну а тваю мы на зваротным шляху ў Мінск падкінем да цябе на машыне, каб ты не гробся, як дурань, супраць вады. Вяслуй, пісьменнік, гарантую табе тону ўражанняў для новых класічных радкоў і пару гадзін нуды над маёй лясною пісанінай. Ясна? Шчыра вітаюць цябе бацька і Люда. Чакаем».

Асабліва змястоўнай здаецца студэнту прыпіска:

«Толя, і сапраўды прыязджай.

Люда».

Пісьмо ляжыць у рэчавым мяшку. Яно прачытана столькі разоў, што кожнае слова і кожная кропка стаяць перад вачыма як жывыя. А ўсё ж хацелася б і яшчэ прачытаць, хоць думкі твае адразу выйшлі далёка за рамкі старонак, а пачуцці, да якіх дакрануліся скупыя словы пісьма і асабліва прыпіскі, адразу пайшлі на поўнач, за вадой Быстранкі.

І Толя спяшаецца следам за імі. Не хоча нават прысесці на карме, бо стоячы будзе хутчэй, асабліва калі дапаможаш плыні шастом.

Вада — празрыстая, імклівая — з гор... Ну, не з гор, а адтуль, дзе маляўнічыя ўзгоркі наваградскага ўзвышша з прахалодным шумам густога лісця дубоў і клёнаў і залатым, гарачым шэптам спелага калосся. Прыгожы ён, гэты куток Заходняй Беларусі. Толькі ж вельмі пятляе Быстранка, нібы мітусіцца, шукаючы спаду. А Толю хацелася б простай, найкарацейшай дарогі. Туды, дзе блізкія людзі, дзе млын нястомна паўтарае адно імя, адно вельмі прыгожае слова:

— Люда, Люда, Люда...

Уяўленне гэта — не новае, кніжнае. Ды што ты зробіш,— і Толя чытаў апавяданне Пруса пра тое, што недзе ў Польшчы стаяў над вадою такі самы, як у Лазовічах, драўляны млын і ў млынара была дачка, імя якой з любасцю паўтаралі працавітыя камяні. Там была Ма́лгась, а тут — Люда, малодшая Максімава сястра, адзіная дачка дзядзькі Антося Нагорнага, партызанскага дзеда з наднёманскай вёскі, якога пасля вайны прыслалі ў Лазовічы загадваць старым, калісьці купецкім, млыном.

Поўдзень. Горача нават тут, на вадзе.

Жнівень прыйшоў і сюды — на пшанічныя ўзгоркі і ў даліны з багатым ільном,— шчодры і працавіты жнівень з вострым хлебным пахам і з песенным сакатаннем жняярак, гулам камбайнаў і гружаных аўтамашын. Сёння ў Патрэбе ўсю ноч гула складаная малатарня, пачаўшы падлік снапоў, а калі заціхала яна,— праз смех і гоман моладзі Толя чуў, як на патрэбаўскім полі ракоча трактар, зноў раскрываючы ўлонне зямлі для зярнят.

І праз увесь гэты бадзёры шум чулася хлопцу і ноччу, і днём — нібы ў прадчуванні пісьма і сустрэчы — даўно знаёмае, даўно хвалюючае грукатанне млына над рэчкай, у засені высокіх дрэў.

Хутка яно пачуецца наяве, дойдзе сюды па вадзе.

...Да першай сустрэчы з Людай Толя многае перажыў... Зрэшты, не падыходзяць гэтыя словы, мала іх, каб перадаць тое, што адбылося ў Толевай душы дзесяць гадоў таму назад, студзеньскай ноччу ў сорак трэцім.

Брат Кастусь, намнога старэйшы за Толю, пайшоў у партызаны амаль год перад гэтым. Толя і маці, удава Ганулля Клімёнак — яму чатырнаццаць, ёй больш за пяцьдзесят — жылі-гаспадарылі дома. Паліцаі звычайна прыходзілі днём, а тады наляцелі на вёску апоўначы. Маці па стуку пазнала, што гэта не Кастусь і не сябры яго, а чужыя, яны. Калі ж запаліла газніцу ды адчыніла дзверы і адзін з іх пераступіў парог,— старая крыкнула:

— Сынок, уцякай!

Хлопец убачыў толькі, як яна, шырока распасцёршы рукі, абхапіла паліцая за плечы, прыціснулася грудзьмі да яго аўтамата і рук. Толя кінуўся ў кухню-бакоўку, з ходу аберуч выпхнуў на двор рамы старога акна і выскачыў на снег. Босы, у адной бялізне, ён, здаецца, не адчуваў ні марозу, ні снегу, у якім загрузаў па калені. Больш таго — і горш за ўсё, што мучыць яго дагэтуль! — хлопец не чуў ні апошняга крыку свае матулі, ні стрэлаў у іхняй хаце. Праўда, ён амаль не чуў і тых стрэлаў, што грымелі яму наўздагон.

Толю выратавала тое, што ён, дабегшы да першага на ўзлессі хутара, пастукаў у акно. Дзядзька Мікіта Пчалюк пазнаў хлопца па голасу і адчыніў хату. Не запальваючы агню, Толю нацерлі моцным самагонам, прымусілі выпіць яго ледзь не цэлую шклянку і накрылі доўгім кажухом. Тут ён ляжаў дзесяць дзён, пакуль ачуняў і Кастусь забраў яго ў пушчу, у лагер.

Мама з'яўлялася часта. Не толькі ў сне, а нават і наяве, калі ў зямлянцы тушылі газніцу і хлопцы сціхалі на нарах, а ў цемры зыбалася гарачая чырвань жалезнай бочкі, што была ў іх печчу. Мама ніколі не папракала яго. Ён чуў толькі яе апошнія словы: «Сынок, уцякай!» Ён накрываўся з галавой і часта, уткнуўшыся ў падушку, плакаў. Нікому, нават Кастусю, ніколі ён аб гэтым не гаварыў. Нічым, здавалася яму, нават тысячай забітых ім фашыстаў, нельга будзе хоць трохі адмыць страшную ганьбу. Яго ўжо ўзялі ў разведку, ужо нават двойчы хвалілі, а ён, калі заставаўся адзін, часцей за ўсё ноччу, у зямлянцы,— накрываўся з галавой і шаптаў сваё горкае: «Мама... матуля... дык я ж...» А яна не казала нічога. Яна загадвала толькі, каб ён уцякаў, і гэты крык заходзіў у сэрца яго штораз глы-

бей, а разам з ім заходзілі і асядалі там і боль, і сорам, і горыч, што ўжо не вернеш мінулага — аніяк.

У зямлянцы пры штабе брыгады жыло іх дзесяць чалавек: дзевяць разведчыкаў і «дзед» — дзядзька Антось Нагорны, які спраўляў абавязкі старшыны. Разведчыкі начавалі ў лагеры рэдка, і старшына пражываў у зямлянцы найбольш адзін, як бабыль.

«Дзедам» старога называла ўся брыгада, і ў гэтай назве была нейкая пяшчотнасць, грубаватая, змешаная з адценнем лёгкай маладой насмешкі і пашаны. А ён усім рэзаў праўду ў вочы, усім гаварыў «ты», у тым ліку і камандзірам, якім ён і ўголас і шэптам часта даваў разумныя парады ў гаспадарцы і стратэгіі, а на жонак начальства, ваенных і даваенных, бурчаў, як свёкар.

Аднойчы пад вечар Толя вярнуўся ў штаб з даняседнем і застаўся да ранку ў лагеры. Пасядзеў у зямлянцы «Камсамольскага» атрада, дзе быў узводным іх Кастусь, пасля вярнуўся ў сваю зямлянку. Тут было сёння ціха і пуста. Дзед ляжаў, адвярнуўшыся да сцяны,— мусіць, спаў. Не запальваючы газніцы, пры рэштках святла ад дагараючай печы, хлопец распрануўся, залез пад коўдру і неўзабаве пачаў тужыць.

Гэта была ўсё тая ж туга.

І вось праз гэтую тугу і праз коўдру, якой былі накрыты хлопцавы вочы, што пачалі нядаўна бачыць і ў цемры, раптам пачуўся голас:

— Толя, ты спіш?

Ён хацеў спачатку не аказвацца, не ўпускаць нікога ў свой нябачны, цёмны і горкі свет, хацеў упарта маўчаць, як гэта звычайна робяць пакрыўджаныя падлеткі. Ды голас паўтарыў:

— Ты спіш? Не спі яшчэ, устань.

І ў гэтым знаёмым грубаватым голасе было цяпер нешта такое, што хлопцу, неяк ужо зусім па-дзіцячы, захацелася ласкі, спагады... Ды ён спалохаўся гэтай кволасці, змахнуў з твару коўдру і сеў.

— Ды не, не сплю яшчэ, дзядзька Антось.

— Я ведаю, што ты не спіш. Дык вось ідзі ты пакліч майго рэдактара і вашага Кастуся.

— Кастусь на заданні.

— Ну, дык яго, Максіма, пакліч. І Аржанца.

Максім Нагорны, дваццацігадовы юнак, які перад

самым пачаткам вайны закончыў дзесяты клас, працаваў сакратаром рэдакцыі іх партызанскай газеты. Позна было ўжо, але ён не спаў яшчэ, корпаўся нешта ў прыёмніку, і Толевы словы здзівілі яго, нават устрывожылі. Здзівіўся таксама і Аржанец, дзедаў сябар і часты субяседнік. І ў рэдакцыйнай зямлянцы, і на двары, пакуль яны ўтрох, адзін за адным ішлі па звілістай, коўзкай сцежцы паміж высокімі ціхімі соснамі, Максім спяшаўся, нібы не зусім верыў, што Толя, які ішоў за ім, нічога не ўтойвае...

— Ну, што з вамі? — спытаў Максім, пераступіўшы парог разведчыцкай зямлянкі.

Дзядзька Антось ужо не ляжаў, і ў печы зноў гарэла.

— Што? Нічога,— адказаў стары. Ён стаяў толькі ў суконных, даматканых портках і валёнках, трымаючы за ручку вялікую скавараду, дно якой было шчыльна замошчана белымі скрылікамі сала.— Ты ж сам ніколі пра бацьку не ўспомніш,— гаварыў, цяжкавата схіліўшыся над палаючай зяпай печы.— Сабакі хіба толькі сюды загоняць, як таго Янкеля ў царкву. Добра, Сяргей,— гэта да Аржанца,— што і ты не спаў яшчэ. Запаліце газніцу. Ды распранайцеся.

Цемнавата было, дый не так яшчэ добра Толя ведаў у той час Максіма, каб па вачах пазнаць, што ён думае. Відаць, злаваў на старога за гэтую дарэмную трывогу. Максім быў маўклівы, і за маўклівасцю яго недзе глыбока ў душы хавалася чуласць, якую ён маскаваў то маладзецтвам, то злосцю, а то, па бацьку, і грубасцю. Часамі яна, тая чуласць, вельмі рэдка і патаемна, для Толі тады яшчэ і зусім невядома, выходзіла на Максімавы вочы скупой, сарамлівай мужчынскай слязою. Часта «рэдактар» смяяўся — нейкім ледзь не дзіцячым хіхіклівым смехам, які цяжка было не падтрымаць. Цяпер, калі Максім скінуў кубанку, шынель і ў чорнай аўчыннай безрукаўцы паўзверх гімнасцёркі сеў за стол, скрытая трывога і злосць яго пачала непрыкметна пераходзіць на смех, які ўжо, здаецца, пачаў праступаць на твары.

— Ну, дык з якой жа гэта вы, бацька, радасці брыгаднае энзэ на скавародку ды ў агонь?

— З якой? Імяніны ў мяне,— адказаў стары, памешваючы лыжкай духмяныя, пісклівыя скваркі.—

Дзень анёла, святога-прападобнага Антонія Пячэрскага, хай яму там, за хмарамі, лёгкаікнецца. А ты, грамацей, бачыш, і не ведаў. Гарачае, каб ты згарэла! — Ён ухапіўся за ручку скаварады другой рукою і, таксама апёкшы яе, загрымеў: — Ну, а газніцу хто запаліць, інцялігенцыя?!

Максім нарэшце засмяяўся. Смяецца ён заўсёды ціха, спачатку патрымаўшы свой хлапечы смех, нібы ваду, у сашчэмленых тонкіх губах. Услед за Максімам ледзь-ледзь не ўголас засмяяўся і Толя. Было няёмка смяяцца з таго, што дзеду пячэцца, аднак ужо было і весела і неяк нечакана цёпла. Засмяяўся і Аржанец.

Газніцу запалілі і паставілі на перавернуты салдацкі кацялок. Дзед палажыў на стол круглае днушачка, кацёлку з бярозавага камля, і на яе па-гаспадарску паставіў поўную гарачага смаку скаварадў. Асабліва здорава, зусім па-хатняму, пахла ў зямлянцы цыбуля. Бохан хлеба ляжаў на канцы доўгага, няшчыльна збітага з дошак стала, падпёртага скрыжаванымі ножкамі, пахатняму люба накрыты, замест настольніка, ручніком.

Аржанца Толя ведаў таксама мала. Камісар аднаго з пяці атрадаў іхняй брыгады, пры панах — падпольшчык, сядзеў у турме. Пакуль што і ўсё. Да таго ж яшчэ Толя, які жыццё сваё лічыў больш на месяцы, чым на гады, а партызанскую службу пакуль што на дні, адчуваў сябе пры начальстве няёмка. Праўда, няёмкасць гэтая адчувалася нядоўга. Камісар зняў шынель і вушанку і — у даматканай, да шыі зашпіленай куртцы, пад правым крысом якой адтапырваўся наган — прысеў да стала, паправіўшы цяжкай рукой няхітрую цёмна-русую прычоску.

— Антось Данілавіч,— звярнуўся ён з прастадушнай усмешкай да дзеда,— а пра Антонія Пячэрскага вы нам, здаецца, загнулі. Наколькі я знаёмы з божым календаром — святы гэты нарадзіўся не сёння. Сёння, здаецца, святога Сяргея.— Ён дакрануўся вялікім пальцам левай рукі да грудзей.— Ці не мае гэта імяніны?

Хлопцы зноў засмяяліся. Дзеда гэта, аднак, не збянтэжыла.

— Абодва мы з табой, як бачу, добра ведаем каляндар. Глядзі, што сёння якога-небудзь Максіма ці Толіка. Дык вось мы з гэтай прычыны...

Стары пакорпаўся ў галавах сваіх нараў і паставіў на стол бутэльку.

— Скажаш, можа, што я і гэта ўкраў з брыгаднага энзэ? Ты, грамацей, гавары дый думай часамі, што кажаш... Ну, будзь, Сяргей, здароў!

Выпілі па чарзе, з адной шклянкі, і пачалі закусваць.

Дзядзька Антось недарма быў старым чалавекам: ён добра ведаў, як зближае хлеб ды соль. Яны ламалі тоўстыя лусты яшчэ не вельмі чэрствага хлеба, мачалі яго ў гарачы, духмяны тлушч і елі спакойна, на поўны рот, як могуць есці толькі тыя, што ведаюць цану і дарагой ядзе і цяжкай працы.

Гаварылі зноў пра тое, пра што цяпер гаварыла ўся краіна, увесь свет — пра вялікую радасць доўгачаканай перамогі, што нядаўна злучылася на вякі са словам Сталінград.

— Цяпер ён, фашысцкая сцерва, пакоціцца,— не ўпершыню, відаць, а ўсё ж са смакам гаварыў такое Аржанец.— Кулём пакоціцца назад. Цяпер і нам тым часам весялей. Дзяўбі пад рэйкай і дзяўбі, падстаўляй яму ножку, каб спатыкаўся. Сёння зарад, а заўтра два.

— А толу ты дзе набярэшся?

— Падкінуць, дзядзька Антось. Толу хопіць, ахвоты — таксама. Праўда, Клімёнак?

Ён нават падміргнуў.

— Праўда, таварыш камісар.

Толя сказаў гэта, здавалася, як і трэба — па-даросламу, па-салдацку,— а глядзеў на начальства ўжо нібы смела зусім. Як на старэйшага дабрадушнага дзядзьку.

Гаварылі і пра справы зусім звычайныя: дзед успамінаў свае плытніцкія прыгоды, Максім спрытна наводзіў яго на ўжо вядомыя яму вясёлыя выпадкі, і ўсе яны смяяліся. І цёпла было ад гэтай простай і разам з тым незвычайнай для Толі радасці.

Калі ж Максім, не пытаючы бацькі, ці не холадна яму ў адной кашулі, прынёс з нараў кажух і накрыў староме плечы, Толя не вытрымаў... Гэта ўсё было так зразумела,— што цёпла там, дзе напалена, што добра там, дзе сабраліся добрыя людзі, а ўсё ж хлопец не мог устрымацца, заплакаў... Калі ж у гэтым была прычынай і чарка, дык дай нам, божа, піць яе часцей...

...Студэнт вельмі жыва адчуў цяпер тыя хлапечыя

слёзы, ён нават вочы заплюшчыў і страсянуў галавой, каб вярнуцца ў сапраўднасць. Яшчэ ўсё стоячы ў лодцы, ён азірнуўся навокал.

З левага боку, амаль да самага лесу на даляглядзе, распасціраўся луг. Пакоша ўжо не колецца,— бяскрайнюю раўніну, люба для вока і босых ног, пакрыла светла-зялёная мяккасць атавы. З правага боку — вялікая вёска, якую Толя, прахапіўшыся з задумы, нібы цяпер толькі заўважыў.

Першымі жыхарамі вёскі, якія трапіліся тут, на рэчцы, былі качкі,— з сытым гоманам і плёскатам яны жыравалі і купаліся, пакрыўшы сваёй стракатай чарадою ўвесь шырокі плёс. Не дапусціўшы лодку лішне блізка, частка іх узнялася і лёгка, з посвістам крылляў пашыбавала над лугам.

«Дзікія»,— падумаў Толя. Не здзівіўшыся: бачыў такое і дома.

Спякотнае, спакойнае прыволле.

І сапраўды — «пусты ўлетку нашы сёлы»,— успомніўся радок са школьнага верша. Сельмаг цэлы дзень на замку, бо прадаўшчыца таксама пайшла за жняяркай. Праз адчыненае акно калгаснай канторы далёка чуваць дзелавітае лузганне лічыльнікаў і — час ад часу — то дзявочы смех, то ціхая песня, урыўкамі, бо за працай. На цёплым пяску адзінай вуліцы — сляды грузавікоў, калёсаў і босых ножак, сям-там пацярушаныя то сенам, то першым коласам. Як жа добра цяпер апусціць у самую глыбіню студні дзюбу старога «жураўля», дастаць з цёмнай страшнаватай бездані цяжкае драўлянае вядро, расплёскаць на босыя ногі сцюдзёную ваду, прыпасці сухімі губамі да мокрай сасновай клёпкі!.. А можа, горш залезці ў густое лісцё вішні, шукаючы асабліва салодкіх — апошніх, падзёўбаных шпакамі і прысохлых,— ягад? А бабуля ці мама шукае цябе, гукае з парога, нібы ты ёй немаведама як спатрэбіўся і іменна цяпер.

Толя зноў усміхнуўся. Нібы знарок пад думкі яго, на агародзе, у баразне стаяла нейкая бабуля і, гледзячы з-пад рукі сюды, на рэчку, гукала:

— То-лік! То-о-лік, го-оў!..

А Толік — яшчэ адзін незнаёмы цёзка студэнта — і сапраўды прапаў: не ідзе... Ды вось дзе ён, чарнаногі, няўрымслівы неслух! Толя ўбачыў яго раней, чым ба-

буля: малы ляжаў у траве, гледзячы ў неба, увесь загарэлы, у спалавелых ад сонца трусах, без шапкі. Вось ён устаў і нездаволена крычыць:

— Ну, чаго вы?! Іду-у!..

«Ідзі, ідзі, галыш, не агрызайся»,— з цёплай і сумнаватай усмешкай сказаў у думках студэнт. Стала прыемна за хлопчыка і неяк зайздросна, што ёсць яму каго слухаць, ёсць каму здуру і нагрубіць... «А што ты думаў, цёзка, гледзячы ў неба? Пэўна, сачыў за палётам буслоў?..»

Толя пакінуў веславаць, шост пацягнуўся па вадзе, чайка пайшла павальней, а студэнт загледзеўся ўгару.

«Ну, вядома ж, яны!» — усміхнуўся, неяк зусім падзіцячы задаволены.

Пад высокімі белымі хмаркамі кружыліся буслы. Гэта на іх глядзеў разморапы спёкай, заглыблены ў свае мары хлапчук.

Чайка тым часам вырашыла адпачыць,— сышла на пavароце са стрыжня і асцярожненька, ціха, нібы нават хітра ткнулася носам у шалпатлівы гушчар трысця.

Гэта напомніла Толю, што трэба плысці. Ён сеў на лавачку кармы, адпіхнуўся ад берага на быстрыню і пачаў працаваць шастом. Адзін на вадзе, у чароце, які дзвюма жывымі сценкамі ўзвышаўся абапал звілістай ракі, студэнт задумаўся зноў.

...Назаўтра пасля дзедавай чаркі хлопцы ехалі «ў раён» удвух: Толя вяртаўся да сваіх, у тую вёску, дзе сёння днявала разведка, а Максіму, як ён казаў, спатрэбілася нешта для газеты. Ці нават, здаецца, і не казаў нічога, а проста пад'ехаў уранні да зямлянкі разведчыкаў і з каня, як той казак у песні, пастукаў зложанай нагайкай у вузкае, прадаўгаватае, нібы ў хляве, акенца.

Толеў Сівы стаяў пад паветкай адзін і, з ласкі дзядзькі Антося, грэўся аўсом. Ён ахвотна пабег пад разведчыкам услед за чорнай Максімавай Лялькай. Разведчык толькі схіляўся пад лапы ялін ды пад вецце бяроз, з якіх пры дотыку шчодра сыпаўся іней.

У гэты ціхі ранак, з марозікам пасля адлігі, з яснай, румянай зарой усходу, з чырвонымі, здаецца, нават цёплымі снегірамі на сярэбраным голлі, з хрустам снегу і стракатаннем сарок — усё для Толі было напоўнена новым, яшчэ не зведаным, радасным зместам. Тое чор-

нае, што рэзка адгарадзіла хлопца ад маленства, цяпер, пасля начной гутаркі ў зямлянцы, нібы абвалілася, паніжэла... Хлопец адразу і пасталеў і нібы ўпершыню, пасля адзіночнага зняволення выйшаў у гэты ясны, сонечны свет. Ці яно — тое чорнае, страшнае — будзе вяртацца? Вядома, будзе. Аднак цяпер паміж ім і Толем ёсць ужо новае, светлае нешта, на што ён зможа абаперціся, да чаго прыгорнецца так моцна ўдаранай душой. Як назваць гэта новае? Ёсць, безумоўна, такія словы, ды іх не хочацца вымаўляць. Лепей проста маўчаць, не гаварыць ніколі і нікому пра тое, што было ў зямлянцы. Відаць, што і яны, пры кім ён заплакаў, ніколі не дакрануцца да гэтага словам.

— Што, пагрэемся?

— Эй вы, пайшлі!

І Толю весела — і ад таго, што ён навучыўся нарэшце добра сядзець у сядле; і што сёння ўвечары яны зноў паедуць у далёкую разведку, і ён будзе прасіць камандзіра, каб ехаць першым, бо не баіцца варожай засады; і што вось хутка яны прыедуць з Максімам у Капачы, бліжэйшую за Нёманам вёску, і зойдуць да яго маці і малодшай сястры.

Яны зайшлі. Цётка Марыля карміла іх капустай і паіла малаком, сказала ім пайсці за шырму і змяніць там бялізну. І Толя, калі яго абняло ласкавым халадком Максімавай кужэльнай кашулі, калі ён зашпільваў і адразу не мог зашпіліць пад шыяй маленькі касцяны гузік, Толя зноў адчуў тое самае, што і ўчора, калі той кажух... Ды добра, што быў дзень і што Максім, гледзячы на тое, як Толя ўтапіўся ў яго вялікай кашулі, засмяяўся, нібы набраўшы ў рот вады.

— А ну цяпер,— хіхікнуў ён,— яшчэ як споднікі мае надзенеш, узбярэшся на Сівага ці не?

Увесь час, пакуль яны былі ў хаце, Люда — сарамлівы, чарнавалосы падлетак у лапціках — цікавала на Толю з-за прасніцы і вельмі старанна слініла ў шчопцях кудзелю, і вельмі старанна выводзіла доўгую нітку, пускаючы верацяно, нібы ваўчок, на чыста вымытую, светлую ад сонца падлогу. Калі ж яны выйшлі, сур'ёзная пралля скочыла з каленькамі на лаву і прыцiснулася носікам да шыбіны.

Вось так ён увайшоў у іхнюю сям'ю, як свой, так пачалася ў іх дружба з Максімам.

Час ішоў, калі азірнуцца цяпер, незвычайна хутка,— і ў дні ваенныя, і потым, пасля вайны. З сарамлівай дзяўчынкі, не школьніцы, на жаль, а праллі, невясёлае маленства якой ахоўвалі партызанскія заставы, пасля перамогі зусім неяк неўпрыцям вырасла Люда, спачатку пяці-, шасці- і... дзесяцікласніца, пасля студэнтка настаўніцкага інстытута, а цяпер ужо і настаўніца, якая з хваляваннем чакае свайго — ужо не школьнага і не студэнцкага — першага верасня.

І чакае яна — калі верыць прыпісцы ў Максімавым пісьме — не толькі верасня...

Толя ўстаў і яшчэ больш старанна ўзяўся дапамагаць вадзе.

«Паўзеш ты ўсё ж такі,— са шчырай прыкрасцю падумаў ён.— А толькі чамусьці завешся Быстранкай...»

Раніца ціхая, светлая, з буйной расой. Першая Толева раніца каля млына.

Крошка свежага хлеба скачана ў галачку, начэплена на кручок і асцярожна апушчана ў ваду. На ціхай паверхні яе застыла ў чаканні блізкай удачы белае пёрца паплаўка.

Далейшае ўявіць няцяжка. Пад паплаўком, у тым таямнічым падводным царстве, куды патанула прынада, прачнулася ўжо далікатная прыгажуня плотка. Іменна тая, што павінна быць першай. Асцярожная, нават і нашча, яна спачатку паторкае крошку, соладка патузваючы рыбаковы нервы, і вось, нарэшце, ласкавы лёс яго пакажа тонкім пальцам паплаўка ў дно — цягні!

Хораша яна, гэтая плотка, выглядае на кручку, калі, трапечучы на валасянай струне, набліжаецца да прагных пальцаў жывым, мокрым срэбрам лускі. Прыходзіць як яшчэ адзін хвалюючы ўспамін, як напамінак аб сонечных і росных раніцах маленства.

Ды ўсё гэта для Толі не галоўнае.

Хлопец сядзіць на прызбе Максімавай хаты, каля вугла, сочыць за паплаўком і час ад часу азіраецца.

Двор ва ўсю шырыню роўна зарос густою травой; па-хатняму люба пахне рамонак, як той няхітры чай, які калісьці Толева маці гатавала ў гаршку, накрытым

чарапком. Тры такія гаршкі вісяць на частаколінах плота, перад кухонным акном. Дзверы ў сенцы яшчэ не адчынены, ды каля парога, на траве, ужо стракаціць і настойліва кланяецца хаце вечна галодная, нахабная арава качак. Яны то лісліва бурляць, як мелкі, шырока разліты на каменьчыках ручай, вось-вось гатовыя ўбачыць на парозе гаспадыню з рэшатам ці з вядром, то нецярпліва дзяруцца злосным, абураным крыкам.

Больш памяркоўна трымаюцца куры. Певень дык той наогул перабраўся на астравок сярод двух рукавоў ракі і пахаджае там у таварыстве трох чубатак, відаць, найбольш адданых і смелых.

«І як ён забраўся туды, за ваду!» — неяк між іншым думае Толя.

Астравок на рацэ — невялікі, зарослы гонкай ядавітай крапівой і густым, як жываплот, разгалістым дзядоўнікам з малінавымі шышкамі кветак. З левага боку ад вады падыходзяць аер і чырвоны трубняк, выдатны матэрыял на дзіцячыя помпы, з правага боку — мокры пясок, на якім відаць белы і шэры пух, амаль непрыкметна крануты расой, і адбіткі качыных лапак. Там жа ляжыць старая, забытая богам калода, што не баіцца ніякай сякеры.

Курыны гаспадар — чырвона-сіне-залацісты гарладзёр, з тых дружных і геройскіх пеўняў, якія ў казках сябруюць з катамі і выручаюць з бяды пакрыўджаных зайцаў. Убачыўшы на прызбе рыбака, ён ускочыў на калоду і, надзьмуўшыся, кінуў яму цераз ваду рашучы выклік:

— Как-ка-ге-е!..

«За астраўком,— успомніў Толя,— рукаво рэчкі вузенькае, а кладка з шырокай дошкі...»

Ясна, як там мог апынуцца гэты сухапутны герой. Ды Толя думае пра яго абыякава. Вочы студэнта — на белым пёрцы паплаўка, а час ад часу ён азіраецца з-за вугла на росны, зялёны двор.

А Люда ўсё не ідзе, і млын яшчэ маўчыць, не паўтарае імя дзяўчыны, не аб'яўляе, што хутка адчыняцца нізкія дзверы сенцаў і па роснай траве, у рамонкавым паху, у ранішнім золаце сонца пройдзе яна.

Млын ад хаты аддзяляе грэбля, такая высокая, што, седзячы на прызбе, Толя бачыць толькі другі паверх млына ды шэры дах з драніцы і, побач з ім, верхавіны

надрэчных алешын. Недзе там, за млыном, над лугамі ўзышло ўжо і трохі паднялося сонца, але прамені пакуль што не даходзяць сюды, дзе астравок з дзядоўнікам, зацішак на вадзе і нерухомы паплавок.

Плотка нарэшце заўважыла крошку. Белы паплавок ажыў і, старанна перадаючы гульню рыбы з прынадай, пачаў патузвацца і торкаць носам у ваду. Толя прыўзняў галаву, стаіў дыханне і заціснуў у жмені арэхавы прут вудзільна.

Ды гэта было не ўсё яго шчасце — якраз у той самы момант за вуглом хаты на росным двары пачуўся качыны спалоханы крык і шум крылаў: сюды ішоў чалавек.

Чалавекам гэтым магла быць і, напэўна, была толькі *яна*.

Толя падсек, і на канцы лёскі, пад вадой, пачулася даўно жаданае далікатнае супраціўленне. Потым растрывожаная паверхня вады асвятлілася бляскам лускі.

Раптам сталася нечаканае — плотка, даволі ўжо высока над вадой, сарвалася з кручка...

І ў той жа момант ззаду, над Толевай галавой, пачуўся голас:

— А што,— «жывуць на свеце людзі з вуды, але не ўсе і не заўсюды». Нічога, браце пісьменнік, не зробіш: і тут бываюць творчыя няўдачы. Ну, здароў!

Рыбаку хацелася паслаць філосафа трошкі далей ад ракі,— і таму, што гэта ён падышоў, а не тая, каго тут хацелі сустрэць, і што іменна ён убачыў першую рыбацкую няўдачу.

Ды прыкрасць гэтая сутыкнулася ў душы студэнта з іншымі адчуваннямі, і вось пачуўся ягоны голас, што ў нейкай меры нагадваў мармытанне далёкага грому:

— Здароў, здароў...

Азірацца не трэба,— і так вядома, хто гэта.

Максім быў з ручніком і мыльніцай. Чорная кучаравая чупрына, яшчэ са сцяблінкамі сена над ілбом і на скроні, чорныя вочы, ужо без следу кароткага сну, і тая самая ўсмешка на тонкіх губах.

— І мой стары,— гаворыць ён зверху,— не вельмі схільны да вуды. Часу, кажа, шкада. Яму падай Нёман ды невад, а тут — хоць трыгубіцу. У вас гэта называецца эпічным размахам. Ясна?

«Ясна, ясна»,— у думках перакрывіў яго Толя, яшчэ ўсё надзьмуты.

— Занядужаў ён зусім недарэчы,— гаворыць Максім.— А ехаць трэба. Заўтра паедзем.

«І гэта ясна».

Ды Максім не заўважае гэтай патаемнай прыкрасці і, аддаўшыся ўласнаму пачуццю, расказвае нібыта сам сабе, нібыта сябру:

— Млын яго падкасіў. Што пыл млынавы, то не лес. Па месяцу дома не бываў. А вернецца з плытоў,— маці яшчэ жыла,— выганіць яго старая ў царкву. Пайшоў. І думаеш, дойдзе? Як зачэпіцца за карчму, дык там табе і абедня, і вячэрня...

Максім чамусьці змоўк, і Толя зірнуў на яго. Так і ёсць — зноў зацiснуў губы, нібы набраўшы ў рот вады. Засмяецца. Ну, вось!..

— А ўвечары ідзе,— праз ціхі смех гаворыць Максім далей,— і з вуліцы яшчэ чуваць — спявае. Адна песня заўсёды: «Ой, бяроза, ты мая бяроза, усе мы п'яны, ты адна цвяроза». Па песні толькі яго і пазнаеш, што выпіў... Цягні!

Рыбак схамянуўся і пацягнуў. Запозна,— вуда з пустым кручком.

— З'ела,— нібы на злосць, спакойна сказаў Максім.

Ды Толя ўжо і ў думках нічога не адказаў. Начапіўшы новую крошку, папляваў на яе, закінуў і спытаўся:

— Ну, а як яна, тая адзіная песня, далей?

— Пакрыта змрокам невядомасці. Відаць, і сам ён не ведае. А мы тым часам памыемся. Ясна?

«Ну, тут навудзіш»,— зноў нездаволена падумаў Толя, пакуль дзве босыя нагі аспіранта асцярожна і, як здалося студэнту, няўдала пераступалі цераз вудзільна на траве.

Падышоўшы да броду крокаў з дзесяць правей ад Толі, Максім з нейкай асаблівай акуратнасцю павесіў на куст складзены і ўсё яшчэ доўгі ручнік з вышыўкай і махрачамі на канцах, палажыў на траву ружовую пластмасавую мыльніцу і паволі пачаў падкасваць калашыну.

— Ішоў бы за млын ды пакупаўся,— з надзеяй параіў Толя.

— Няхай пасля. Не хочацца.

Пакуль ён ішоў у ваду, занадта, як здавалася Толю, плёхаючы нагамі, пакуль ён пырхаў і пакрэктваў ад задавальнення,— нехта трэці, здалёк яшчэ, з-за ракі ўбачыўшы хлопцаў, падышоў да кладачкі, па якой перабіраўся нядаўна певень з чубаткамі, узышоў на востраў і пачаў падкрадацца да берага.

Рыбак сядзеў зноў надзьмуты і сачыў за паплаўком. Максім заўважыў трэцяга, ды той пагразіў яму пальцам, і аспірант застыў у чаканні, апусціўшы мокрыя рукі, з усмешкай на мокрым твары. Каля ног яго ледзь-ледзь гайдалася пустая ружовая мыльніца, нібы той паплавок перад Толевымі вачыма.

Ды вось на паплавок нешта раптам упала. Пачуўся ўсплёск, успыхнула злосць у душы рыбака, а злосць гэтую развеяў звонкі дзявочы смех.

Люда стаяла перад ім, за вадой, каля той самай забытай калоды, трымала ў адной загарэлай руцэ свежы лазовы кошычак грыбоў, другой рукой папраўляла хусцінку на чорных пышных валасах.

— Што, Толя, хто з вас больш злавіў? — смяялася яна.

А на вадзе каля паплаўка пагойдваўся на сваім капелюшы вялікі баравік.

Ну, што тут скажаш? Шчасце, вядома, не раз прыходзіць нечакана... Ці не, не так,— нельга сказаць нечакана, калі ты чакаў яго, марыў аб ім... Яно — чаканае, ды не адтуль, адкуль прыйшло. Затое яшчэ лепшае! Тут бы яго і сустрэць адпаведнымі словамі. Што ж, калі словы не могуць прыйсці так раптоўна, як радасць, што стаіць на беразе зялёнага вострава, за глыбокай і чыстай вадой.

Словы знайшліся ў Максіма.

— Трохі ўжо ёсць? — пытаўся ён з броду.— Ну, а чаму было і нас не пабудзіць?

— Вас пабудзіш! — смяялася Люда.— Відаць, і да світання не нагаварыліся.

Так і пачалася звычайная будзённая гутарка.

Максім, безумоўна, добры таварыш, але чаму яно ўвесь гэты час — і ўчора, і цяпер — выпадае так, што ён з'яўляецца не ў пару? Ну што ж, пасля, вядома, пойдзем снедаць, есці гэтыя баравікі, гаварыць пра ўсё, усе разам, а як толькі зноў здарыцца якая-небудзь магчы-

масць застацца з Людай адзін на адзін — зноў нагодзіцца ён: калі не з мыльніцай і ручніком, дык знойдзецца нешта іншае. Барахла ў хаце многа, і прычын усякіх многа, не скажаш жа яму, гаспадару: чаго табе нарэшце трэба? Калі ж не ён, дык стары... І як жа гэта я, вахлак, праспаў — не пайшоў у грыбы? І дамовіцца ўчора не здагадаўся...

— Толя! Толя, клюе! — па-змоўніцку, нібы спалохана азвалася Люда.

Ён бачыў гэта і сам, аднак толькі цяпер, як па сігналу, якога чакаў, падняў левай рукой вудзільна... Глупства ўсё гэта, што кажуць, нібы для плоткі, каб прыманіць яе, трэба нейкая незвычайная цішыня! Ужо не толькі смеху ды слоў хапіла б для таго, каб адпудзіць яе,— Толева сэрца забілася так, што біццё яго паўтарыла і крошка, з якой іграла так неабходная цяпер плотка. Яны былі цяпер утраіх — чырванапёрая, серабрыстая рыба ў вадзе, абапал якое ён і яна... Максіма нібы зусім не было. Люда паставіла свой кошык на пяску і, таксама як Толя, нахілілася над вадой. У лёгкай стракатай сукенцы, з рукамі, па-дзявочы поўнымі і загарэлымі вышэй локцяў, з трохкутнікам загару над маладымі грудзьмі.

— Цягні, Толя, цягні!

Хлопец падсек і пацягнуў. Гэта не рыба, гэта — суцэльная паэзія, з бляскам лускі і пырскамі вады, з невыказна прыемным біццём твайго сэрца!

І што ж, якраз у той самы момант, калі гэтая паэзія апынулася ў руцэ шчаслівага рыбака, пачуўся зямны, празаічны голас Максіма:

— Пачатак снедання ёсць! Грыбкі і рыба. Ясна?

«Ясна, ясна,— падумаў Толя ўжо са злосцю.— Ясна адно, што ты даўно ўжо мог бы памыцца і пайсці або купацца недзе за млыном...»

— Нічога, Толя,— сказала Люда,— пакуль я снеданне зраблю, ты зловіш яшчэ. Ну, я пайшла.

«Дык што ж гэта,— горка падумаў Толя.— І раніцы ўжо няма, і раніца ўжо сапсавана... І як жа тут сказаць ёй, Людзе, пра ўсё?..»

Ён разгублена начапіў на кручок новую галачку хлеба і ўжо без хвалявання і асцярогі апусціў яе на ваду.

...Рабочы дзень спланавалі так: дзядзьку Антося гуртам прымусілі паляжаць, з чым ён згадзіўся без асаблівага супраціўлення; Максім, паколькі якраз цяпер прыйшла прамкамбінатаўская трохтонка, адправіўся з гарцавым зборам на станцыю; Толя ўзяўся гаспадарыць у млыне; Люда паехала на веласіпедзе ў райцэнтр па сваіх неадкладных настаўніцкіх справах.

Моцна засмучаны гэтай раптоўнай і незразумелай неадкладнасцю, злосны на ўвесь гэты план, Толя, калі ён застаўся ў хаце толькі з дзедам, ціхенька плюнуў, надзеў ад пылу старую Максімаву вопратку і пайшоў у млын. Там ён моўчкі важыў мяхі, браў мерку, высыпаў збожжа ў скрыню, рабіў запісы ў кнізе, кладучы свой акуратны почырк пасля дробнага Максімавага жуткапісу і «старарэжымскіх», часам нават з цвёрдым знакам ды з «яцем», каракуляў дзядзькі Антося.

Завознікаў было няшмат. Размах для Толевай сярдзітай працавітасці быў невялікі. Прыняўшы збожжа, ён выйшаў на двор — пакурыць, пагутарыць з людзьмі.

На лаўцы каля дзвярэй сядзела чатырох: старэйшы дзядзька ў саламяным капелюшы, зарослы густой каштанавай атавай барады; другі мужчына, відаць, няшмат маладзейшы за яго, але свяжэйшы, паголены, са шчопцямі рыжых вусікаў пад носам; трэці — малады чалавек, гадоў дваццаць пяць, нядаўні салдат-пехацінец у шапцы з чырвоным аколышам, ссунутай набок і на патыліцу; чацвёрты — цыбаты падлетак, які прыкметна стараўся выглядзець дарослым. Прыслухоўваючыся да гутаркі старэйшых, хлапчук чакаў, здаецца, толькі смешнага.

Пятым завознікам была жанчына з выразам суровай стомленасці ў вачах. Цётка сядзела на возе, спусціўшы цераз цапкі яшчэ не старыя загарэлыя і падрапаныя ржышчам ногі, раз-поразу пацірала імі адна аб адну ад мух і, кусаючы саломінку, слухала, што гавораць мужчыны. Сівы конь у аглоблях паволі хрупаў канюшыну з пярэдняга палукашка і час ад часу, каб адагнацца ад заедзі, паціраўся вялізнай галавой аб спіну гаспадыні.

— Ну ж ты, падла,— спакойна, не азіраючыся, гаварыла яна, нездаволеная, відаць, толькі тым, што конь перашкаджае слухаць.

Калі студэнт выйшаў на двор і спыніўся каля лаў-

кі, завознікі слухалі якраз вусаценькага мужчыну, які са смакам і веданнем расказваў пра былога гаспадара млына — купца Боруха Бісінкевіча.

— Усе парэчкі ў мяне забіраў. Да ягадкі. І настойваў іх, пане браце, на чыстым спірце з цукрам. Быў у яго такі пасрабраны кілішак, і яшчэ такая змяя... абвівала гэты кілішак... Такая, пане браце, аздоба.

Асабліва ўважліва слухаў хлапчук: раскрыўшы нават рот.

— А ты што,— перапыніў расказчыка аброслы дзядзька ў капелюшы,— таксама, мусіць, лізаў тую змейку?

— Хі-хі-хі! — засмяяўся нарэшце хлапчук.

Расказчык змоўк. Ён ведаў, на што намякае аброслы. Пры панах ён, і тады таксама вусаценькі Сцёпка Мякіш, трымаў у недалёкай вёсцы краму, яўна і патаемна цёрся каля багатых і ўлады, не раз зарабляючы там чарку за «добразычлівы» шэпт. Ні да вайны, пасля вызвалення Заходняй Беларусі, ні пасля вайны, вось ужо восьмы год, яго не чапалі, а страх усё-такі быў, сядзеў на самым дне душы. Хоць і пабыў ён, Сцёпка, тры месяцы ў партызанах, хоць і нямала ён перад гэтым выціснуў самагонкі,— то з паліцэйскай, то з партызанскай мукі. Мякіш ужо даведаўся, хто такі Толя, і пры «начальстве», па даўняй прывычцы — другая натура — пачаў гаварыць даспадобы «начальству».

— Было — сплыло. Цяпер, пане браце, не тое. Усё народнае, ніхто табе на карку не сядзіць. І гэты самы Бoрухаў млын,— Мякіш павярнуўся трохі і, відаць, па памяці прачытаў надпіс на запыленай шыльдзе над дзвярыма: — «Млын Лазовічы, Бабровіцкага райпрамкамбіната». Парадак! Не тое што пры панах.

Настала няёмкая паўза: усе як быццам на пах адчулі падхалімаж.

— Рана яшчэ, а ўжо як горача,— сказаў Толя і, выцягнуўшы з кішэні запыленых мукой штаноў пачак «Беламору», прапанаваў мужчынам: — Закурвайце.

Бралі кожны па-свойму. Пехацінец, з выглядам чалавека, якому гэта не ўпершыню, спрытна выцягнуў адну папяросу і моўчкі кіўнуў галавой, што азначала ўдзячнасць. Сцёпка Мякіш сказаў чамусьці не проста «дзякую», а па-польску — «дзенькуе», што павінна бы-

ло азначаць нешта блізкае да колішняга салоннага «мерсі». Абраслы дзядзька ў капелюшы няўдала шчыкаў канцы папярос двума тоўстымі пальцамі, нібы вымаючы тупымі кіпцямі стрэмку з далоні, і нават сказаў напаследак: «А каб вас!..» Хлапчук хацеў спачатку не браць, не прызнавацца, што курыць, але не вытрымаў і пацягнуў з пачка вельмі ж панадную «беламорыну».

— У якім класе? — спытаўся Толя.

— У сёмым,— выдушыў хлапчук, не рады, што ўліп.

— Перайшоў у сёмы ці застаўся?

Адказаў за яго пехацінец.

— Ён глыбока бярэ — па два гады на клас. Плужыць па самы дышаль. Мы з адной вёскі.

— А курыць, брат, яшчэ ранавата,— сказаў Толя заўчаснаму кавалеру, які і так ужо зачырванеўся да вушэй.

Выручыў хлопца Мякіш.

— Вось вы, таварыш начальнік,— сказаў ён,— гаворыце: го̀рача. А каб яно, пане браце, у цяньку, ды з вудачкай, ды ўзяць бутэлечку з сабой. Ёсць жа такое сачыненіе Льва Талстога: «Бутылку водки с рюмочкой...» Вучонасць! Гэта не тое, што наш брат-мужык. Калгас, пане браце, калгасам.

Толя не адказаў, ужо зразумеўшы вусаценькага як падлізу. Ён памаўчаў трохі і пачаў гаварыць, звяртаючыся да ўсіх, асабліва ж — да дзядзькі ў саламяным капелюшы.

— Чулі прыказку: «У млыне, як у карчме: то поўна, то пуста»? — Толя сеў побач з абраслым дзядзькам на лаўцы.— А я вось тут ужо другі дзень, і што ж, гляджу, ні многа ні мала, а завознікі ёсць. Мелюць людзі, шатруюць. І гэта ж яшчэ леташняе. Што гэта, дзядзька, па-вашаму, робіцца?

— А што тут робіцца,— не спяшаючыся, адказаў абраслы дзядзька.— Тое робіцца, што сталі людзі жыць трохі раўней. Абы не горш было і далей.

— Ой,— азвалася з воза жанчына,— добра вам, дзядзька, казаць. У вашым калгасе людзі жывуць. А пажылі б вы ў нашым. Робіш, робіш, а ўвосень... Ну ж ты, каб цябе воўк не рэзаў! — махнула яна на каня, які зноў пацёрся аб яе спіну галавой.

Цётка хацела, відаць, і яшчэ гаварыць, ды вось умяшаўся Мякіш:

— Работаць трэба. А не работаеш, дык як жа будзеш добра жыць? А вы ўсё, пане браце, стогнеце. Несправідлова! Я ім заўсёды...

Гутарку яго перабіў голас з-за воза, на якім сядзела жанчына:

— Работнічак, трасца тваёй галаве!

Па кладцы ішоў ад хаты дзядзька Антось.

— А-а, таварыш Нагорны, дзень добры!

— Здароў, здароў. Даўно не бачыліся. Ты, відаць, ажно плакаў па мне.

Высокі, некалі мажны і моцны, цяпер ужо ссутулены сямю дзесяткамі год дзядзька Антось яшчэ амаль поўнасцю карыстаўся сваім ранейшым плытніцкім басам.

— Колькі ты ў гэтага хлюста прыняў? — спытаўся ён, падышоўшы да лаўкі.

— Дзвесце, здаецца, з нечым,— адказаў Толя.

— Я яму дзвесце хвігаў сунуў бы пад самы нос!

— А што? — збянтэжыўся ад гэтай грубасці студэнт.

— Як гэта — што? Людзі робяць, а ён туляецца, круціць. Прывык на дурнічку.

— Э, таварыш Нагорны, дальбог жа, дарэмна,— пачаў Мякіш.— Што я — украў?

— А што — зарабіў? Лапы пабіў на гэтым?

— Ну, ведаеце, пане браце, хто чым работае: хто рукамі, а хто галавою...

— А ты лычам! Людзі — як людзі: працуюць, хто на чым стаіць, а ты ўсё сваю самагонку...

— А што — вы бачылі? Дзе вы бачылі, га?

— Дзе? У гняздзе. Не такі ты дурны, каб хто ўбачыў. Але дакруцішся шчэ, ой, давіляешся!..

Стары пайшоў у млын.

— Які нервовы чалавек,— пакруціў галавою Мякіш, павёўшы вачыма на Толю, нібы шукаючы ў яго, культурнага чалавека, спагады.— І трэба ж, пане браце, выдумаць.

— А хто пшаніцу прывёз? — спытаў стары, паказаўшыся ў дзвярах.

— Я! — нібыта войкнула жанчына і нават саскочыла з воза.— Я, дзядзечка. Ашатраваць. На каравай.

— На каравай ды шатраваць?

— А дзе ж мне яе на пыцель набрацца? Сіраце, дзядзька, прыкіпіць у жываце. Сяджу вось дый меркі яшчэ не здавала: думаю, што мне рабіць — шатраваць ці малоць.

— А хто ж у цябе замуж ідзе? Сама?

— Ды што мне, дзядзька, старой бабе замуж ісці, няхай ужо дачка ідзе.

— У цябе ды ўжо дачка на выданні?

— Ой, якое там, дзядзька, выданне! У гэтым годзе толькі дзесяты клас закончыла, дзіця. Яно і так сказаць — хлопец харошы. Я, дзядзька, з Унукавіч, Пахадзенькава. Ваша ж дачушка будзе ў нас вучыць. Дык гэта Сымона Вераб'я Міша маю Нінку бярэ. На інжынера вунь выйшаў у Мінску.

— Ну, дык чаго ж табе лепшага трэба? Няхай здарова ідзе.

— Дык яно, пэўна, дзядзька, добра. Але падумаеш — шкада. Пачало ты вучыцца, няхай бы ўжо, як іншыя, таксама ў інстытут пайшло, хоць бы завочна.

— Бачыў — вочна, завочна...

— Дык гэта ж, дзядзька, добра!

— А я што кажу — дрэнна? Я кажу — хай ідзе, калі добрыя людзі бяруць. А там ужо самі яны разбяруцца — вочна ім ці завочна.

— Дык што, дзядзька, сшатруеце мне? То ж лецейка, жніво, няма калі сядзець.

— Млын сшатруе. Гэта ж не ласка. А я ўжо нешта нашатраваўся. Толя, — звярнуўся дзед да студэнта,— скажаш Івану, хай ён шатроўку пусціць адразу. А гэтаму,— ён паказаў на Мякіша,— засыпеш пасля ўсіх. Паспее. Во, бачыш, і людзі якраз пад'язджаюць.

З грэблі спускалася ўніз поўная белых мяхоў фурманка.

Дзядзька Антось пайшоў у хату. Памалу, ссутуліўшыся, ён ступаў па кладцы, з прыкметнай асцярожнасцю браўся рукой за жэрдку парэнчы.

— Глядзі, пане браце,— сказаў Мякіш, карыстаючыся тым, што і другі «начальнік», Толя, пайшоў у млын,— і скруціла ўжо добра, а ўсё крычыць!..

— А ты, і праўда, Мякіш, падкапай,— адказаў яму дзядзька ў саламяным капелюшы.— Віляеш, то на-

шым, то вашым. А што Нагорны? Ён табе праўду сказаў.

— У партызанах быў, хоць і такі стары,— дадаў пехацінец.— І ордэн у яго: «Чырвоная Звязда».

— Ён і без ордэна чалавек,— сказаў аброслы дзядзька.— Абы-што, Мякіш, дарэмна не трэба плявузгаць.

Тым часам Толя знайшоў Івана, млынара, і перадаў яму дзедаў загад. Пасля, пакуль прымаць мерку ў новых завознікаў, студэнт паглядзеў на два вялікія мяхі, што хітра прысуседзіліся каля самага каша, паклікаў Мякіша і голасам, які не абяцаў ніякіх уступак, але, нібыта між іншым, сказаў:

— Адцягніце далей, вунь туды. Пакуль што будуць людзі малоць, а вам, відаць, на работу не спешна... Ды што, Іван Іванавіч,— звярнуўся ён да млынара,— пачнём? Вось гэтай цётачцы на каравай.

Аднак на ўсмешку Толі цётка не адказала ўсмешкай. Сама прынесла з кута мяшок, паставіла яго на вагу і з нейкім заклапочана-адчайным выглядам сказала:

— Важце.

Ад гэтага слова мяшок, здалося Толю, яшчэ паменшаў, скурчыўся. Хлопец не бачыў дагэтуль, не чуў, каб нехта шатраваў на каравай: звычайна людзі пытлююць. Раней — багацейшыя, сёння — у іхняй Патрэбе — відаць, усе. І як тут мерку чэрпаць з гэтага мізэрнага мяшка, ведаючы пра яго вялікае прызначэнне?.. Не ўзяў бы, і пры Івану не ўзяў бы, але Мякіш побач тарчыць, пачухваецца, глядзіць то на свае мяхі, то на «начальніка»...

Толя разгублена і вінавата паглядзеў на цётку.

— Не трэба меркі,— ціха і нечакана сказаў ён, зачырванеўшыся.— Давайце я пастаўлю яго сюды.

Ён паспеў яшчэ па-хлапечы ўсцешыцца, што ні млынар, ні Мякіш не заўважылі нічога, а цётка толькі хацела падзякаваць хлопцу, ды вось на парозе зноў паказалася высокая, сутулая постаць дзядзькі Антося.

— Пачакаем, Іване, пушчаць,— сказаў ён.— Вады тым часам прыбудзе больш, чым завознікаў: пойдзе хутчэй. А ты, брат, ідзі ў хату.

— Чаму? — здзівіўся Толя.

— Чаму, чаго... Я думаеш, не чуў, што ён цябе

прасіў, каб ты там нешта прачытаў? Ідзі. Калі напісана, дык трэба прачытаць.

Гэта — пра дысертацыю, якую ўчора паказваў Толю Максім.

— Ну, а вы? — спытаўся хлопец, нясмела чапляючыся за нездароўе старога.

— А што я? Ты ўжо ім так і паверыў, што я не магу.

— Дык адпачылі б, дзядзька Антось.

— Ат, адпачну я, брат, як той конь — у татарскім гаршку. Ідзі. А то ж заўтра паедзеце.

Толя, які даўно прывык да бацькоўскіх загадаў старога, больш не супраціўляўся. Тым больш што цяпер загад гэты напомніў яму пра Максімаву працу, якую хацелася дый трэба было прачытаць.

І ён пайшоў у хату.

Гэта быў аб'ёмісты рукапіс, два гады пісаны, перапісаны і зноў пачырканы, з устаўкамі на палях і на адвароце старонак, з табліцамі і дыяграмамі, якія то раздражнялі Толева вока мноствам лічбаў, то супакойвалі яго лагоднымі фарбамі акварэльных малюнкаў.

Рукапіс ляжаў на кужэльным абрусе стала, разгорнуты на трыццаць сёмай старонцы, над якой, успёршыся на кулакі падбародкам, сядзеў задуманы Толя.

Максімава праца цікавая. Прынамсі, калі шчыра прызнацца, так здавалася Толю спачатку. Чаго варты быў адзін эпіграф — з Ламаносава, дзе на моцнай і абаяльнай мове даўно мінулага гаварылася пра ахову лясоў — адну з надзённых задач нашай сучаснасці. Гутарка ў Максіма ішла пра беларускія лясы, што гэтак пацярпелі ад вайны, пра новыя, пасляваенныя насаджэнні ў знаёмай Толю — іхняй, партызанскай — пушчы, пра сосны, пашкоджаныя нізавымі пажарамі, і пра лячэнне іх адпаведным доглядам. Новае ў спосабе гэтага догляду — тэма Максімавай працы. Праз дзелавую, строгую плынь старанна адшліфаванага тэксту прабівалася шчырае пачуцце да роднага лесу, дружбе з якім яшчэ ў партызанах Максім вырашыў аддацца поўнасцю, на ўсё жыццё, па-свойму ўжо, зусім па-новаму працягваючы працу бацькі-плытагона і дзеда-лесніка.

Аднак пасля гэтай, зусім зразумелай для Толі прэлюдыі пайшлі табліцы — вылічэнні, лічбы...

І вось ужо Толя зусім не бачыць гэтага, глядзіць вышэй стала.

Вышэй было акно, а паміж ім і сталом, на калодачках і проста на падлозе стаялі высокія вазоны. Сонца свяціла моцна, і на святле яго відаць было, здаецца, як па празрыста-зялёных лісцях і сцяблах ходзіць сок.

Толя не заўважыў і гэтага, ужо зусім ахоплены ўласнымі думкамі.

Было толькі нешта адно, што ён бачыў у хаце, на што ён час ад часу паглядаў. Больш таго,— ён увесь час адчуваў, што адтуль, з левага боку, глядзелі на яго трохі прыплюшчаныя вочы, і здавалася нават — вось-вось пачуецца голас:

«Чытаў бы ты, Толя. Ну і дзівак! Максім недзе хвалюецца, што ты скажаш, а ты... І сапраўды, што ты скажаш, калі ён прыедзе са станцыі?»

За гэтым голасам вось-вось пачуецца і смех.

Толя зноў паварочваецца і глядзіць на сцяну.

Партрэт невялікі, у дзве паштоўкі, прыгожа акантаваны цёмна-вішнёвай тонкай рамачкай, відаць, Максімавай работы. Люда схіліла трохі ўперад і трохі ўбок галаву, ледзь прыкметна прыплюшчыла чорныя вочы, а вусны раскрыла ў міжвольнай усмешцы. Гэта была не прафесійная ўсмешка артысткі з тых паштовак, што выгараюць на сонцы ў вокнах кіёскаў, і не завучаны аскал выдатна завітай і яшчэ больш задаволенай сабою мяшчаначкі з вітрынаў фотаатэлье. Першакурсніца Люда Нагорная, яшчэ ўсё просценькая вясковая дзяўчына, прыплюшчыла вочы, бо вельмі ветлівы фатограф даволі нахабна біў ёй у твар святлом. А таму што збоку, каля фатографа, стаялі яе сяброўкі — пад позіркам і ўсмешкамі іх дзяўчына не магла звесці вусны, надаць свайму твару той смешна-напружаны выгляд, які часта псуе фотаздымкі. Словам, партрэт удаўся. Люда зусім такая самая, якой яна бывае, калі глядзіць на Толю і хоча сказаць... Ну, хоць бы тое, што вось цяпер ён дарма не чытае, а думае.

Не, недарма!

Зрэшты, Толя не ўзважвае, добра гэта ці дрэнна, што ён, дацягнуўшы сяк-так да канца другога раздзела дысертацыі, спакваля, непрыкметна зусім перайшоў

са старонак рукапісу ў сваё мінулае. Хлопец глядзіць на партрэт, і яму нават хочацца гаварыць.

— Ну, смачна, га? — шэптам, з усмешкай пытаецца ён.— А гэта ж я сама зварыла!

А за словамі — успаміны.

...Вясной сорак чацвёртага года ў разведчыка Толі была аднойчы вялікая радасць.

Маёвай ноччу — такой, калі хмарна і месяц не свеціць,— разведка трапіла на засаду. Варожая страляніна пачалася з усіх бакоў, і хлопцы прарваліся з кальца занятых паліцаямі хутароў, як і раней бывала, з «музыкай». Адстаў толькі «рэдактар», які і ў тую ноч ездзіў з разведкаю «па матэрыял». Толя адзін пачуў адчайны крык Максіма:

— Ра-не-ны!

І радасць заключалася ў тым, што наймалодшы разведчык вярнуўся назад,— туды, бліжэй да паліцэйскага кулямёта, дзе на свежай, толькі што засеянай зямлі Максім выбіраўся з-пад забітай Лялькі. Кулі бзыкалі блізка ад Толевых гарачых шчок, галава, здаецца, сама тузалася ў бакі, а Толя саскочыў з Сівага, дапамог Максіму, падсадзіў яго на свайго каня, а сам — па-хлапечы неразумна, толькі прыкленчыўшы, але весела, у два ці ў тры націскі выпусціў на бобікаў увесь аўтаматны дыск.

— Ты едзь! Ты, Сівы, добра нясі яго! Я сам! Я сам!..— амаль крычаў ён у хмельнай радасці бою.

А потым пачуў і падмогу. З могілак на ўзгорку, якія раз-поразу, ад святла паліцэйскіх ракет, выяўляліся з цемры сцяной высокіх соснаў, загаварыў разведчыцкі кулямёт. Толя дагнаў Максіма і ўсё бег па мяккай, глыбокай раллі, гонячы Сівага перад сабой.

— Я сам, я сам,— паўтараў ён хоць больш не было чым страляць.

У Шчонаве, бліжэйшай вёсцы, куды яны перамахнулі цераз гару па пухкай глыбокай раллі, Толя ўпершыню рабіў перавязку, абматаўшы шырокія акрываўленыя грудзі Максіма бінтам яго, свайго і яшчэ двух індывідуальных пакетаў.

Развіднела ім на пароме, дзе неяк незвычайна ласкава плюхала вада і, абапал Нёмана, у рэдкім яшчэ ад маладога лісця лазняку спаборнічалі салаўі. А так усё было вельмі ціха. Нават чужы, незнаёмы шчонаў-

скі конь у аглоблях і Сівы пырхалі і пераступалі на дошках парома вельмі асцярожна. Максім зусім аціх і, заплюшчыўшы вочы, без пілоткі на чорным чубе высока ляжаў галавой на белай шчонаўскай падушцы, ужо не гледзячы ў неба. І стала страшна за яго, і нельга ўжо было спакойна ўспомніць, зноў пачуць, як наяве, нядаўнія словы любімага сябра:

«Будзем вучыцца, Толя! Эх, як мы будзем вучыцца!..»

Калі яны адпраўлялі Максіма на яшчэ таямнічы для Толі пушчанскі аэрадром, камісар Аржанец, заўсёды спакойны, разважлівы, ішоў побач з возам як гаспадар, трымаўся моцнай рукой за цапок драбінаў, нібы стараўся прытрымліваць воз на глыбокіх выбоях, і гаварыў:

— Хлопец таксама вось, як і ты, не стогне. Гэта я бачыў яшчэ перад новым годам, калі мы ездзілі зброс [1] забіраць. Хлопец не з нашай брыгады. Паранены цяжка, з саней у самалёт нясуць. Маці збоку ідзе, плача, вядома: «А куды ж ты, сынок, а куды ж мне табе напісаць?..» А той з насілак: «Пішы, мама, проста: Масква, Крэмль, таварышу Перапечку». Усе смяюцца, і ён смяецца, лайдак... Нічога, Максіме. Адляжышся там, як у бога за пазухай, а потым ужо не паверсе, не ноччу, а нізам, у светлым вагоне прыедзеш. Вучыцца будзеш. Хто што, а ты — натура пацягне — лес будзеш вывучаць. Глядзі, як ён свеціцца! Як ён шуміць!.. Налева трохі, Антось Данілавіч: там, здаецца, раўней...

Калі дзядзька Антось вярнуўся з аэрадрома, стала і спакайней за лёс таго, хто ўжо недзе далёка за фронтам, на Вялікай зямлі, было і пуста без Максіма, і неяк па-новаму цёпла ад пачуцця да дзеда, цёткі Марылі і Людачкі.

Аднойчы, ужо зусім напярэдадні вызвалення, Толя заехаў у сямейны лагер брыгады і прывязаў Сівага каля зямлянкі Нагорных.

Цётка Марыля і Люда жылі нарэшце ў лесе. Капачы былі ўжо спалены трэці раз за вайну, цяпер, пасля вялікай бітвы за пераправу, дашчэнту. Толя часта за-

---

[1] Маецца на ўвазе зброя і амуніцыя, скінутыя або прывезеныя партызанам савецкімі самалётамі.

ходзіў раней у хату, цяпер — у зямлянку да Максімавай мамы і сястрычкі: раней таму, што гэта было прыемна, цяпер таму, што і прыемна і трэба.

Зайшоў да іх, не стукаючы, як дахаты. Пуста. Цемнавата здалося з двара, і дыхнула водарам сушаных траў, што тырчалі пучкамі з-пад бэлькі, сабраныя на чай і лекі. Няма нікога, а павітацца хацелася,— і Толя сказаў сам сабе: «Добры дзень». Засмяяўся і зняў цераз галаву аўтамат. І тады яшчэ раз рыпнулі дзверы, ззаду на хлопца палілося святло і ў зямлянцы пачулася:

— Добры дзень!

Люда стаяла на парозе. Яшчэ ўсё малая, не згінаючыся ў нізкіх дзвярах.

— Дзень добры, Толік! — паўтарыла і адразу спыталася: — Есці хочаш?

Не чакаючы адказу, падышла да печы.

Спачатку ён памыўся. На дварэ. Яна палівала з вялікай меднай конаўкі, вымудранай дзедам яшчэ з мікалаеўскай снараднай гільзы, а Толя праз меру доўга пырхаў і ўсё прасіў ліць цэлай конаўкай на галаву. Люда смяялася, і гэта было, вядома, вельмі прыемна. Потым разведчык, зацягнуўшы на выцвілай гімнасцёрцы ўсе свае «кавалерыйскія» рамяні, сядзеў за сталом і вельмі ахвотна сёрбаў шчаўе, засіўленае смятанай.

— Смачна, Толік? — пыталася Люда.— А гэта ж я сама зварыла. Мама зранку да таты пайшла.

Дзядзька Антось быў, вядома, заўсёды на сваім месцы і вельмі рэдка, як шчыры службіст, заходзіў сюды з баявога лагера.

Разведчык еў, гаварыў, смяяўся, і яму было памужчынску добра і крыху ўсцішна ад думкі пра тое, якую таямніцу носіць ён трэці дзень і не выдасць нікому — ні цётцы Марылі, ні Людачцы...

Таямніца такая, што за Нёманам, у далейшых вёсках, падковай абдымаючы пушчу з захаду, збіраюцца варожыя часці: ужо не толькі паліцэйскі зброд, але і рэгулярнае войска. Рыхтуецца новая блакада з разлікам на вялікі поспех, бо ранняя вясна і гарачы пачатак лета падсушылі раней непраходныя сцежкі ў лясной забалочанай глухамані.

А ў пушчы столькі старых і дзяцей! Дзяды дзяўбуць ночвы ці выразаюць лыжкі; бабулі і мамы раз-

вешваюць ад елкі да бярозкі памытую бялізну, а ў нядзельныя раніцы, па старому, спрадвечнаму звычаю, пякуць у зямлянках аладкі для ўнукаў і дзяцей; малыя сядзяць над сшыткамі пад павеццю «зялёнай», партызанскай школы, крычаць — смяюцца на палянах і ў лісці бяроз... І ўсе чакаюць хуткага прыходу роднай арміі, усе гавораць пра гэта так многа.

Адзін толькі штаб, ды разведка, ды Толя Кліменак ведаюць пра новую блакаду. І добра Толю, і жудасна быць мужчынам.

Справа з блакадай не атрымалася: яе апярэдзіла вызваленне. Нешта праз тыдзень пасля гасцявання ў зямлянцы разведчык Толя з цудоўнай няёмкасцю — ох, не забыцца яе! — абнімаўся з вусатым запыленым армейскім аўтаматчыкам, без прывычкі няўдала гарнуў цыгарку з савецкай махоркі, і ў радасці, што падняла яго на высокай хвалі, была і думка пра тое, як у пару яны прыйшлі,— колькі такіх, як цётка Марыля, такіх, як Люда, і меншых засталося, каб жыць і смяяцца...

І вось цяпер, праз дзевяць год, Толя-студэнт сядзіць перад партрэтам Люды і, успамінаючы яе даўнія, яшчэ дзіцячыя, словы: «А ці смачна?», без слоў гаворыць ёй тое, што можна так гаварыць толькі ў думках:

«Дзяўчынка мая! Мне заўсёды было шкада, што не маю малодшай сястры, якой купіў бы блакітныя істужкі, якую ўзяў бы на рукі. Ты для мяне была сястрой, малою дзяўчынкай, якую я, пасля ранення Максіма, адзін з тваім бацькам... глупства кажу! — разам з хлопцамі абараняў ад ворагаў, дзеля шчасця якой не спаў начамі.

А потым прыйшло і другое... Відаць, пачалося яно ўжо тады, калі ты карміла мяне, як дарослая гаспадынька, калі нам неяк па-новаму, яшчэ нязведана добра было адным у зямлянцы...

Каханне, кажуць, прыходзіць па-рознаму, кожны ўлюбляецца па-свойму. У мяне яно пачалося з дружбы, і я люблю цябе так, як ніхто нікога не любіў, і люблю так даўно... Вось толькі ты ці любіш мяне? Ты, цыганачка? Сёння скажаш? Ну, што ж ты мне скажаш?..»

Гэтую невыказна прыгожую мяжу паміж пачуцця-

мі дружбы і кахання Толя пераступіў не адразу. Пераломнай, рашаючай была сустрэча ў вагоне.

Да той дарожнай сустрэчы яны не бачыліся гадоў са тры. У яго ўяўленні Люда яшчэ ўсё заставалася падлеткам, школьніцай, маладзейшай за яго на цэлых пяць гадоў, якая ўжо саромелася вітацца з ім па-ранейшаму: не абдымала, як Максіма, і не скакала ад радасці, а падавала запэцканыя чарнілам пальчыкі і нібы баялася, што вось ён прыгорне яе, як малую, скажа: «Ну, як жывеш, страказа?» і нават пагладзіць па галаве. Ён жыў у райцэнтры, у дзядзькі, дзе скончыў дзесяцігодку, працаваў у раённай газеце, пасля паехаў у Мінск, а яна недзе непрыкметна расла каля старога млына над рэчкай, і новае пачуццё да яе расло ў душы яго яшчэ больш непрыкметна.

І вось пазалетась зімой ён ехаў на канікулы адзін, без Максіма, які — тады ўжо аспірант — паехаў у Маскву. У Баранавічах, дзе вучылася Люда, Толя зусім нечакана сустрэўся з ёю ў вагоне прыгараднага цягніка. Зноў яна першая ўбачыла яго, як і тады, у зямлянцы.

— Толя! — пачуў ён скрозь шум і сумятню пасадкі.

Люда сядзела ў кутку, каля зацягнутага марозам акна, і ён прабраўся туды праз неспакойны гушчар кажухоў і паліто.

— Здарова, Людачка! А ты... якая ты...— гаварыў ён, аберуч ціснучы яе азяблую руку ў пальчатцы.— Ну ж і не бачыліся мы!

Ён палажыў свой чамадан на паліцу, расшпіліў паліто, зняў вушанку і сеў. І стала адразу чамусьці так горача, весела, добра, нібы ён фарсіраваў нейкі нялёгкі, запаветны рубеж.

— Ну...— гаварыў ён,— ну...

— З-замерз-зла я, Толік, як цюцька! — засмяялася Люда.— І ніяк не сагрэцца.

— Ніяк? А вось давай паглядзім.

Шчаслівейшы за ўсіх у поўным, шумлівым вагоне, ён узяў яе рукі ў летніх бездапаможных пальчатках і пачаў іх церці, ды так, што абое яны засмяяліся.

— Ой, годзе ты! Годзе! — прасілася Люда, і Толю здалося на момант: каб не праход паміж лаўкамі, што раздзяляў іх, дзяўчына, можа, нават і прыпала б галавою да яго грудзей.

— Рукі — не так, вельмі ж ногі ўдубелі. О, бачыў дурніцу!

Яна паказала яму малую, стройную нагу ў нейкім сінім туфельку, ледзь не ў басаножцы.

— Ты што — і сапраўды здурнела?

— У горадзе суха, лёгка...— смяялася, зачырванеўшыся, Люда.

— На пасаг збіраеш стыпендыю? Ну дзівачка! Мама з татам сустрэнуць — пахваляць.

Цётка Марыля тады яшчэ жыла.

Па загаду Толі Люда зняла спачатку адзін сіні, нібы пасінелы ад холаду, туфель, паварушыла пальцамі ў шэрай шкарпэтцы, пацёрла-паціснула нагу, пасля паўтарыла тое самае з другой. А Толю раптам захацелася ўзяць аберуч, як перад гэтым яе рукі, і малую ножку, каб пагрэць, пасмяяцца. Ды тут было ўжо нешта іншае, ад чаго зусім нечакана адчуў, як горача пачырванелі шчокі...

Цягнік нарэшце расчухаўся і пайшоў. У вагоне патроху стала аціхаць і цяплець. Толя курыў ужо, здаецца, трэцюю папяросу і ўсё глядзеў на Люду. І дзіўна — абаім было неяк вельмі прыемна і няёмка, абое стараліся змагацца з гэтай новай няёмкасцю, а ўсё ж глядзелі адно на аднаго не проста, а нібы нанава пазнавалі сябе — і не схаваеш гэтага — любаваліся.

Яна была прыгожая. А як пасталела! І сапраўды, вось ужо студэнтка першага курса. Дальбог жа, не верыцца! Карычневы шалік з нейкай какетлівай вясёлкай на махрыстых канцах атуляў яе твар, ужо румяны ад цеплыні. Тонкія, чорныя бровы,— свае, вядома, яшчэ не сапсаваныя модай. Чорныя вочы глядзяць адкрыта, на той харошай мяжы яшчэ ўсё ледзь не дзіцячай шчырасці і першай дзявочай хітрынкі. Вясёлыя, румяныя сваім румянцам губы па-свойму прыгожа разводзіць шчырая ўсмешка. І зубы... беленькія, нібы знарок дабраныя. Вось яна, Людачка! Ну?

Вельмі хутка, відаць, хутчэй, як усім у вагоне, Толю стала зацёпла. І ён, хвалюючыся ад прадчування яшчэ большай радасці, прапанаваў ёй распрануцца. Люда, нічога не падазраючы, зняла — пры яго дапамозе, вядома,— сваё цёмна-сіняе дэмісезоннае паліто.

І вось яна стаіць — дарагая спакуса! — высокая, стройная, у шэрай з сінім футболцы і ў чорнай, трохі

залішне, сям-там да бляску нават адпрасаванай спадніцы. Карычневы шалік з вясёлкамі, таксама, як і паліто, непатрэбны. Яна расхутала яго, пасля, нібы ідучы насустрач Толеваму жаданню, зусім адгарнула на плечы, пусціўшы на волю чорныя, пышныя валасы. І зноў усміхнулася — проста і шчыра.

— Ну ж і злосная я на Максіма,— сказала, вяртаючы Толю прытомнасць.— Так яму і напішу.

— А чаму? — спытаў ён неяк міжвольна.— Чаго злаваць?

— Чаго? Мы вось так і паехалі б утраіх. Да нас. Ты ж адзін не паедзеш. Буду сядзець на печы і слухаць, як млын гудзе...— Яна засмяялася.— Нягодны наш Максім,— сказала, трохі памаўчаўшы.— А потым будзе яшчэ горшы.

— Ну?

— Вось і ну. Вучоны стане, ажэніцца і будзе толькі пісьмамі — гады ў рады — ды прывітаннямі адмахвацца. А помніш, Толя, як хораша было раней? Усе разам...

Гаварылі пра ўсё,— успаміналі мінулае, расказвалі адно другому пра вучобу, раз-пораз успамінаючы свайго Максіма, добрую, ціхую цётку Марылю, дзядзьку Антося з яго басам і млыном. Смяяліся. І праз увесь гэты смех, праз усе звычайныя, простыя словы, праз позіркі з патаемнай іскрынкай — у Толевай душы не змаўкала новая песня...

З гэтай песняй ён дапамагаў ёй перад іхнім паўстанкам апрануцца, мужна нёс два пустыя студэнцкія чамаданы, вітаўся з дзядзькам Антосем, у санях закрываў Люду ад ветру, а потым, развітаўшыся на скрыжаванні, панёс гэтую песню дахаты, у родную вёску.

Яны дамовіліся перапісвацца. Але і ў пісьмах пачуцці хаваліся недзе глыбока ў падтэксце; за паўтара года хлопец так і не пачаў з тых слоў, якія штораз больш настойліва прасіліся на пяро: не напісаў ні разу «дарагая Людачка», а ўсё «дзень добры», або «здарова, Люда». А сустракаліся пасля тых цудоўных гадзін у вагоне — адзін толькі раз, на леташніх канікулах.

Цяпер сустрэліся зноў ненадоўга. Другі дзень разам. Ды хіба ж гэта разам? А заўтра — зноў разлука...

...Толя ўжо не сядзіць над рукапісам: ён ходзіць

па хаце, ад стала да парога, і ў хаце цесна, як цесна ў яго душы пачуццям, якія ўжо неабходна выказаць.

«Напісаць ёй, ці што?» — прыходзіць думка. І ад думкі гэтай, як ад свядомасці, што гэта — апошняя магчымасць выйсці з тупіка, стала і радасна і неяк трошкі не па ўзросту страшнавата. «І сапраўды напішу. Сентыментальна будзе, па-блазенску? Ну і што ж?»

Толя сеў, выняў ручку з кішэні пінжака, які вісеў за ім на спінцы крэсла, узяў лісток чыстай паперы.

Ну, як жа тут пачаць? А проста, як хочацца, як і хацелася даўно.

«Дарагая Людачка!» — напісаў студэнт.

— Акыш! — раптам пачуўся ў сенцах грозны бас дзядзькі Антося.— Кыш, арлаты на вас няма, каб вы...

Толя ўсхапіўся і скамячыў, схаваў у кішэню паперу. Зноў! Згаварыліся яны, ці што?

— Сядзіш у духаце,— сказаў дзед, увайшоўшы ў хату.— Ішоў бы ты да ракі: там жа таксама можна чытаць. Я там ляжаў. Нічога, добра ляжыцца.

Дзядзька Антось прысеў на лаве, зняў шапку і павёў далонню па мокрай лысіне.

— Не магу ўжо ўсё ж такі, трасца яго галаве...

Толя маўчаў, і ў душы яго змагаліся тры пачуцці: прыкрая злосць на старога, што не ў час зайшоў, нейкі сорам і нават боязь, што вось ён, дзед партызанскі, бачыць і ведае ўсё. Глядзі, што зараз загрыміць: «Ну, а што ў цябе за паперка ў кішэні? Ты што гэта, зладзюга, дачку ў мяне, хворага, хочаш забраць?»

— Ну,— сказаў стары, падсоўваючыся бліжэй да стала,— і што ты тут у яго вычытаў? Што ён піша каторы ўжо год? Што-небудзь людскае?

Толя пачаў ажываць.

— Работа, дзядзька Антось, талковая.

— Бачыў ты! Гм...

— Кніга будзе, дзядзька Антось.

— Бачыў ты! От булава!

Стары падсунуўся яшчэ бліжэй.

— А што ж, правільна,— сказаў ён, беручы са стала папяросу.— А што ж, хіба толькі панам пра лес пісаць? Мінулася, трасца іх галаве! Плытнікаў сын лепш напіша. Тфу, каб ты згарэла! — вылаяўся ён праз кашаль.— Ужо і курыць не магу. Дайшоў Антось да ручкі.

— А вы не курыце. Ды прылеглі б.

Толя раптам успомніў зямлянку і першую чарку з дзедам, «рэдактарам» і Аржанцом, успомніў, як Максім накрыў плечы бацькі кажухом, і даўняе пачуццё сыноўняй чуласці засланіла сабой усю недарэчную прыкрасць, і сорам, і страх, выкліканы нечаканым прыходам старога.

— І праўда, ляжце, дзядзька Антось. Я пайду ў млын, пагляджу. Дачытаю пасля.

— Ды лягу, брат, лягу. А толькі і з гэтага радасці мала.

Дзед цяжка ўстаў і пайшоў за перагародку. Чуваць было, як ён трохі тупаў там, а потым лёг на тоўсты саламяны сяннік.

Толя закурыў. І раптам усміхнуўся. Бо памяць яго, як здалося адразу, не зразумела, для чаго «кінула на ўхабу». Прыгадаліся словы Талстога з успамінаў Горкага: «Для веры, як і для кахання, трэба смеласць. Трэба сказаць сабе: «веру» — і ўсё будзе добра».

«Дык вось чаму я ўспомніў гэта! — зноў усміхнуўся Толя.— Вядома ж, веру, люблю, і нішто мне не перашкодзіць. Пішы, вахлак, калі не ўмееш гаварыць!..»

Ён узяў новы лісток паперы.

«Дарагая Людачка!

Ты не здзіўляйся, што я не асмеліўся проста сказаць табе гэта, а вось пішу...»

— Калі яму пішацца добра, дык што ж,— гаварыў за сцяною стары. І голас яго здаўся Толю мякчэйшым, чым заўсёды.— Мала хіба вам давялося...

Толя чуў і не чуў.

«...Я люблю цябе самай сапраўднай любоўю і вельмі даўно... можа, нават раней, чым мы з табой спаткаліся ўпершыню. Помніш, у вашай хаце, у Капачах? Ты не ўсміхайся, бо я заўсёды толькі так і адчуваю, што мы з табою ніколі не былі чужымі, незнаёмымі, што я заўсёды любіў цябе і проста не памятаю таго дня, калі б не думаў пра цябе, калі б у сэрца маё не глядзелі твае каханыя, твае бясконца родныя вочы...»

— Ды не цягаліся б вы гэтак доўга пустапасам,— гудзеў за сцяною дзед.— Знайшоў адзін з другім добрую дзеўку і жаніся, чаго ж. Ты хоць маладзейшы, а мой дык ужо ўсцярвеў кавалерам ад гэтай навукі...

— Усё!.. — выдыхнуў Толя, пераступіўшы нарэшце свой запаветны рубеж. З выключнай акуратнасцю склаўшы ў чатыры столкі лісток, ён напісаў і адрас: «Людзе», пасля падумаў, усміхнуўся і паставіў пад рыскай, так сказаць, адрас зваротны: «Ад знаёмага». Атрымалася даволі недарэчна, па-блазенску. І няхай!

— Табе таксама, відаць, не ў галаве яшчэ сям'я,— бубніў дзядзька Антось.— Універсіцет свой кончыш — таксама будзеш кнігу пісаць...

Толя зірнуў на партрэт і, па-змоўніцку ўсміхнуўшыся Людзе, падумаў:

«Паглядзім, дзеду, што ты скажаш заўтра!»

Млын загуў пазнавата. Толя застаў яго працу на самым пачатку.

Мяшок пшаніцы, з якое хутка павінен быў атрымацца каравай, трэба было падняць на другі паверх. Цётка паправіла хустку і ёмка, з горка набытай мужчынскай спраўнасцю ўзялася за вузел мяшка.

— Давайце я,— падышоў студэнт.

— Ды што вы, а божачкі! — запярэчыла цётка.— Памажыце, мужчыны! Алесь!

Нядаўні пехацінец усміхнуўся, падышоў і, з фасонам адвёўшы рукі жанчыны, сказаў:

— Памажы-памажы, а дачку аддаеш за другога. А ну, пусці мяне, цешча.

— А мо і цешча, што ты думаў? Пахадзі яшчэ кавалерам, дык і табе падгадую.

У гэтым млыне і пад'ёмны механізм быў таксама стары, першабытны: з жарала звісаў уніз ланцуг, які́м, цераз кола пад дахам, мяхі ўсцягваліся наверх. Алесь абняў мяшок пшаніцы пятлёй ланцуга і, узяўшыся за другі канец яго, звярнуўся да Толі:

— А вы ўжо, калі ласка, прыміце яго там, наверсе.

Ды жанчына апярэдзіла Толю: сама пабегла па сходках угару, мільгаючы загарэлымі лыткамі.

— О, хоць самую вядзі пад вянец,— засмяяўся млынар.

Удваіх з Толем засыпаўшы пшаніцу ў кош, цётка пачала яе з любасцю разраўноўваць. Палошчучы рукі ў медных зярнятках, яна ўсміхнулася:

— Назбірала сяк-так,— сказала нібы Толю, нібы самой сабе.— Як тая баба на калабок. А вы, дзякуй вам, добры хлопец.

— Ай, ды што вы!.. — Толя ўспомніў няўзятую мерку і, каб перавесці гаворку на іншае, спытаўся, кіўнуўшы на пшаніцу: — Што, апошняя?

— І першая, і апошняя. Дый тая не ўся свая. Пазычана, як той казаў, і па зярнятку палічана. Ой, ці ж такое вяселле хацелася б справіць дзіцяці!..

Знізу падняўся і падышоў да іх Алесь-пехацінец.

— Адна жывяце? — спытаў у жанчыны Толя.

— Чаму ж адна? Тры дзеўкі ў хаце — адна пад адною. На істужкі не паспееш зарабіць. Хаця ўжо ж і памагаюць мае дзяўчаты — ага!

— А муж?

— Не ведаеце хіба, дзе яны? І мужык, і сын — абодва не вярнуліся. Чалавек мой яшчэ ў партызанах загінуў, а Мішка ажно да Берліна дайшоў. Пяць дзён пасля вайны прыйшло: «Памёр ад цяжкіх ран...» А ўсё пісаў: «Ваш сын і брацік, гвардыі радавы Міхаіл Пахадзенька...» Ды хіба ж гэта я адна? Прывыкла...

— Дык, кажаце, дрэнна ў вашым калгасе?

— Не дай божа такога жыцця. Людзі як людзі, стараюцца. Але ж, вядома, які гаспадар, такая і хата.

— П'е іхні Цівунок дзень і ноч,— растлумачыў Алесь.

— І п'е, і закусвае. Цэлая хеўра сабралася з ім.

— Ну, а людзі, калі так, чаго маўчаць? — спытаўся Толя.

— Ой, гэта мужчыны ў нас такія. А ён распусціўся, як дзедава пуга, што хоча, тое і вычварае. «Я,— кажа,— зраблю, дык і Масква не паправіць. Я,— кажа,— ваяваў, я быў партызан, партызан і застаўся». Гірой! Адзін ён ваяваў! А цяпер толькі з пляшкай ваюе. Дзень пры дні ходзіць мокры, хоць ты выкручвай. Які ж тут будзе лад? Па дзвесце грамаў летась чыркануў. Які ж ён будзе, той наш трудныдзень, калі тут не калгас, як той казаў, але апошні год арэнды...

— Алесь! — пачуўся знізу голас хлапчука.— Алесь!

— Чаго? — нагнуўся над жаралом пехацінец.

— Кабыла адарвалася. «Чаго!» У рэчку вунь дзе палезла.

Алесь пабег па сходках уніз.

— Напаіць забыўся,— паківала цётка галавой.— І гэты думае, што не сваё. А хлопец спраўны. Прычэпшчыкам робіць на трактары. Увосень з войска прыйшоў.

Тут, на другім паверсе, быў халадок і не такі грукат, але ўнізе ляжалі непрынятыя мяхі. Да таго ж яшчэ Толя ўспомніў, што і ён нядаўна думаў, каб напіцца.

— Ну, я таксама пайду,— сказаў ён, нібы просячы ў жанчыны прабачэння. Зноў адчуў ранейшую няёмкасць: улез чалавеку ў душу, разверадзіў яго бяду, а сам назад... А ўсё ж пайшоў.

Прыняўшы мерку ў новых завознікаў. Толя сходзіў да ракі, напіўся і — усё яшчэ з рэшткамі тае няёмкасці — зноў падсеў на лаўку да мужчын.

Пачынаць гутарку яму не прыйшлося. Пехацінец прывязаў тым часам сваю кабылу да воза, і яна, задаволеная вадой і сваёй настойлівасцю, зноў жавала, ужо весялей памахваючы з-пад дзяругі рэдкім, хвішчаватым хвастом. А хлопец, стоячы перад лаўкай, гаварыў:

— Валодзя — трактарыст! Я ў яго ўсю вясну на прычэпе сядзеў. Мы суседзі. Ён яшчэ да вайны пайшоў у армію, як толькі нашы прыйшлі. Пайшоў — прыйшоў — і ціха. А ранены, і тры ордэны мае. Таксама і робіць цяпер: рукамі, не языком.

Сцёпка Мякіш, з выглядам чалавека, якога нядаўна пакрыўдзілі, ляжаў воддаль, у цяньку алешыны, накрыўшы кепкай вочы і вусікі, і зноў, відаць, «работаў галавой». Хлапчук, што хацеў выглядаць дарослым, быў у млыне, дзе ішла якраз яго мука. Каля аброслага дзядзькі ў саламяным капелюшы сядзеў новы завознік, інвалід вайны. З выпадку выезду ў людзі ён змяніў кавялу на пратэз, другую нагу таксама абуўшы ў новы, моцны чаравік. Мужчына — яшчэ не стары, з тых, што заўсёды бываюць у добрым настроі. Апусціўшы казырок кепкі ад сонца на самы нос, ён пабліскваў з цянёчку весела-хітрымі вачыма і часта падтакваў расказчыку: «ага!», «а як жа!..».

Пры Алесевых словах пра тое, што сябар яго трактарыст Валодзя, працуе не языком, а рукамі, інвалід падняў з-пад ног каменьчык і, папусціўшы ім у Мякіша, спрытна папаў таму ў жывот. Сцёпка падняў кепачку і, паглядзеўшы на людзей, зноў апусціў яе на твар.

— Пра цябе гаворыцца! — гукнуў інвалід.— Зусім размякнеш ад сонца. А як жа!

Мякіш не адказаў.

— Дык, значыцца,— гаварыў сваё Алесь,— закончылі мы план, а дырэктар выклікае Валодзю ў кантору і кажа: «Будзёнаўцы зноў з сяўбою адсталі, выручай». «Што ж,— думае Валодзя,— брыгады гэта не нашай, але справа, вядома, адна». Дый зарабіць ён таксама не лысы. Увечары яшчэ пабег да старшыні. «Насенне,— кажа,— каб было гатова». Точна ўсё, як заўсёды. А ўранні мы — ні свет ні зара — прыязджаем у Срэльнікі. Старшыня там,— ён павярнуўся да Толі,— панок. І што ж вы думаеце — спіць. Разбудзілі мы яго, памыўся ён памаленьку, зубы пачысціў, валасок з ноздры выстрыг, адзікалончыкам на сябе — ффу! ффу! — стаіць перад люстэркам і дапасоўвае гальштук.

— Мякіш, зноў пра цябе! — гукнуў інвалід.

— Пакіньце, ну яго! — зморшчыўся пехацінец.— А старшыню гэтага,— зноў павярнуўся ён да Толі,— райком прыслаў будзёнаўцам — на прарыў. Раней ён у райсавеце сядзеў, і адтуль яго паднялі. У яго і брычка ёсць адмысловая, і бінокль. Стане на ганку і ў той бінокль глядзіць, як людзі робяць. Каторая пара́, а насення яшчэ не вывезлі. Ну, мы яго ўвечары за тое адзікалонам!..

— Ага! — усцешыўся інвалід.

— Мы з поля ехалі на трактары, а ён ішоў па сцежцы каля плота. Валодзя — хлопец спакойны, малому і то саступіць, а то дык павярнуў да плота, у лужыну, ды газку!

— А як жа! — падхапіў інвалід.

— Панок адскочыўся, люстэрка, хустачку выняў — шморг, шморг, выціраецца... «Кожная праца,— казаў мне потым Валодзя,— любіць, браток, свой камбінезон». Наш Хіневіч, я вам скажу...

— Алесь! — гукнуў з млына хлапчук.— А-лесь!

— Чаго?

— Табе засыпаць. «Чаго!»

— Ну, я пайшоў.

Хвіліну памаўчалі. Потым азваўся інвалід.

— Хіневіч іхні — прадсядацель моцны. І працадзень у яго, і парадак — нічога не скажаш. Каня найлепей паганяць аўсом. Як па-твойму, Лагода?

Барадаты дзядзька, перш чым адказаць, выняў з кішэні курткі капшук.

— Закурвайце, хто курыць,— салідна сказаў ён. А тады ўжо, паволі горнучы цыгарку, пачаў адказваць інваліду.— Там, Собаль, і гаруюць людзі, дзе ладу няма. Ці ты просты мужык, ці ты на службе якой, а як зямельку не любіш — нічога яна табе і не дасць. Хваліў во хлопец Валодзю, таго трактарыста. Гудзе ён дзень і ноч, няхай здароў будзе,— сам думаю не раз. Такі пяску ў баразне не дастане. Або Хіневіч. Таксама правільны чалавек. У такога не толькі шыя для гальштука,— і галава на шыі ёсць. Ён сваё поле рукамі, мусіць, усё перамацаў. Гаспадар. Не тое што наш Іваноў.

— Таксама старшыня? — спытаўся Толя.

— Ды не. Дырэктар эмтээс. Я ў эмтээс жыву, у Грушаўцы. Дзе быў маёнтак.

— Дык што — у Іванова непарадак?

— Ды яно не скажаш, што горш, як ва ўсіх. Лічыцца нават перадавая, наша, эмтээс. А ўсе машыны зімалета пад голым небам.

— Аэрадром! — падхапіў інвалід.— Пойдзе дожджык — блішчаць камбайны, як самалёты.

— Ну, смеху тут ніякага, Собаль, няма. То ж наша праца, наш мазоль. Мужык — хоць бы і ты, і я, тыя разы, у адзіналічасцве быўшы — плужок свой увосень анучкаю абатрэш ды пад страху. А тут такія машыны ржавеюць!..

— Не гаспадарскі падыход,— зусім па-сталаму падтрымаў яго Толя.— Яшчэ не ўсе мы навучыліся сваё дабро, народную працу як след шанаваць.

Сказаў гэта і адчуў сябе трохі прыемна, а больш няёмка, як той хлапчук, узяўшы папяросу: і дарасламу хочацца быць, і не клеіцца.

Інвалід паглядзеў на яго з хітравата-калючай усмешкай.

Толя ахвотна павярнуўся да Лагоды.

— Вось то ж бо, не навучыліся,— салідна прастарэкаў барадаты дзядзька.— Нармалу ўсё яшчэ няма настаяшчага зверху. А знізу што? Колькі ты ўбіў другому лайдаку, столькі і ўехаў.

— Як гэты? — зусім ужо як свой, па-дарасламу спытаўся Толя, вачыма паказаўшы на Мякіша.

— Ды ці адзін толькі ён. Такога Мякішу вунь як хапае. Абы самому больш урваць, а там хоць трава не расці.

— Закурыце, можа, яшчэ? — падставіў Толя дзядзьку свой памяты пачак. Лагода ўзяў.— А вы?

— Што ж, сапсую і я адну далікатную,— адказаў інвалід, беручы папяросу.

— Відаць, усё-такі галоўнае тут у свядомасці,— пачаў Толя, смачна і важна зацягнуўшыся.— А дзе свядомасці няма...

— Гм! — перабіў яго інвалід.

Гэта было ўжо не вясёлае «ага», не з'едлівае «а як жа». У гэтым ціхім, але моцным «гм» Толя адчуў ня-даўнюю Собалеву ўсмешку — больш калючую, чым хіт-раватую. Зірнуў і ўбачыў яе зноў,— інвалід усміхаўся. І ад усмешкі гэтай стала ўжо — куды той хлапчук з па-пяросай! — зусім няёмка.

— Свядомасць,— сказаў інвалід.— Цікава, з чым яе ядуць? Вы мне не скажаце? Любіць зямельку, кажа Лагода. Любіў я, браце, яе і тады, калі ў мяне было яе — як добрай бабе сесці, люблю і цяпер, калі яна ўжо ўся мая — дзе ні зірнеш, куды ні паедзеш. А што яна мне за гэта? Можа, мне тыя любой ды свядомасць дзяцей накормяць? Колькі яе, свядомасці, прыходзіцца на аднаго чалавека? Ну, скажам, на мяне бязногага? Можа, і хопіць, што чыкіляю начамі, вачэй не плю-шчу — вартую? Сам не бяру і другім не даю, і ўсім нам ад гэтага ні храна не прыходзіцца. Толькі свядомасць... Я не смяюся, таварыш студэнт, я гляджу — хлопец ты, мне здаецца, нішто сабе, дый граматны. Ну, дык ска-жы, браток, чаму гэта нашаму брату, хто кроў праліваў за савецкую ўласць, жывецца так нясоладка? Добры калгас — дык добра, а дрэнны — дрэнна. А колькі іх, гэтых добрых калгасаў? Няўжо ж толькі мы, мужыкі, толькі я сам сабе вінават? Гнаў мяне немец да самае Волгі, потым я ўжо яго заняў ды да самае Эльбы хва-стаў. Там і спаткнуўся, над Эльбай, нажыў гэтую цацку. Скрыпіць яна мне дзень і ноч. І на душы скрыпіць... Чаму? Скажы, браток, чаму?

Толя маўчаў, раптоўна і ўшчэнт разгубіўшыся. Што ж тут адказаць? Гаварыць ім, старэйшым, вопыт-ным людзям, пра такіх віноўнікаў беднасці, як той старшыня-п'яніца, як той старшыня-панок, як той пера-

давы дырэктар, што марнуе тэхніку? Дык гэта ж ён тут, ад іх і пачуў. Ківаць на Мякіша? Яшчэ драбней. Не нова таксама, абрыдла ўжо следам за іншымі дудзець пра пасляваенныя цяжкасці. Спасылацца на тое, што хутка павінна быць лепш? Спадзяюцца на гэта і так. Але ж і пытаюцца. Бо маюць права, бо не могуць не пытацца.

Праўда, не першае гэта пытанне, былі яны — многа падобных, яшчэ вастрэйшых «чаму» — і ў іх студэнцкім асяроддзі, ад хлопцаў і дзяўчат з многіх раёнаў, нават з-за межаў рэспублікі. Расказвалі — хто ціха, азірнуўшыся, а хто і ўголас — пра бясхлебіцу, пра зямлянкі, пра тое, як мамы самі ўпрагаліся ў плуг... Пыталіся — адны ў адных, а то і ў выкладчыкаў, хто смялейшы,— чаму так зацягнуліся яны, тыя пасляваенныя цяжкасці, як яны называліся перад вайной?.. І Толю казалі: «Ты не спявай пра свой патрэбаўскі калгас. Ці многа іх такіх? І хлеб, і да хлеба, і хаты пад шыферам...» «Ды што я — ілгу? — абараняўся ён.— Прыедзь, паглядзі». «Не лжэш, але і праўды ўсяе не ведаеш». «Я што ведаю, тое кажу. Я сам дапрызыўнік. А трэба табе больш — у Янота спытайся!..»

Яноту ўсё было ясна. Пра ўсё ён гаварыў ім з кафедры спакойненька ды роўненька. За тры гады Толевай вучобы былі і восені, і вёсны, а Янот уяўляецца толькі ў футры. Непрамакаемы, непранікальны, непрабіўны. І нібы толькі што добра наеўся: і губы тлустыя, і за губамі засталося, гаворыць — як быццам смачна дажоўвае.

Яго б сюды — хай бы ён адказаў, калі яму ўсё ясна, калі ў яго ўсё на палічках ляжыць — высока, непарушна, недатыкальна.

Але Янота тут няма. Ён недзе ў Сочы, на пляжы. Вернецца, футра апране і ўсё растлумачыць. І цяжкасці, і Берыю, і новенькае — культ асобы...

А людзі вось перад табой. Глядзяць на блазнюка...

Толю хацелася не проста ўстаць ды пайсці, але рвануцца адгэтуль.

Няхай сабе брыдка будзе, ганебна,— абы не балела, абы не горка было за сваю дурноту, за бездапаможнасць.

Іх тут на лаўцы апроч яго самога двух. Трэці ляжыць воддаль, закрыўшы вочы шапкай, і маўчыць.

А здаецца, што іх тут так многа!.. Ну, як тады, калі ён піша і ўяўляе свайго чытача. Дзесяткі, сотні, тысячы — за адным гэтым словам: «чытач». Што ж ён ім можа сказаць? І ці яму адказваць на такія «чаму»?..

А хто ж адкажа?..

То ж ты хочаш пісаць, ты хочаш, нядаўні Ганулін Толя, стаць пісьменнікам. І не так сабе, а такім, якіх яшчэ не было. Ты вось наскроб дзесятак вершыкаў, надрукаваў адзін няшчасны нарыс, а ўжо глядзіш на ўсіх і на жыццё нібыта нават зверху, ужо гаворыш з людзьмі і прыглядаешся, натуеш у памяці іхнія словы, усмешкі, бароды... Сабе самому не салжэш, што і гутарку з імі, новымі, дагэтуль незнаёмымі людзьмі, ты пачаў з тае прыказкі нездарма. «У млыне — як у карчме: то пуста, то густа». Ах, які ж гэта ўдалы пачатак для новага нарыса. Як цябе зноў пахваліць Шашаль!..

Ён успомніў сухога, лысага газетчыка, праз рукі якога трапіў у друк яго першы нарыс. Так успомніў, што ажно дыхнула дымам з пракуранага пакойчыка, як у спёку з гаручага тарфяніка, ажно пачулася рыпенне голасу і пяра — рыпенне шашаля ў непрыступнай сцяне: «Толькі штаноўчае, малады чалавек, толькі штаноўчае. Яно, і толькі яно гаворыч пра таржаштво нашага ладу. У ім, і толькі ў ім шыла шапраўднай творчашчы...»

Хай бы вось ён прыйшоў ды адказаў!..

Дурань, Клімёнак! Яму, каго ты ахрысціў нядаўна Шашалем, як і таго Янотам, яму такога людзі не сказалі б, так у яго не спыталіся б...

Ну, а ў цябе спыталіся, табе паверылі — ты можаш адказаць?

Сядзіш, маўчыш. Брыдка нават зірнуць на людзей...

Ды тут прыйшоў для хлопца непрадбачаны ратунак.

— То-ля! — пачуўся ад хаты голас дзядзькі Антося.— Толя, ідзі ты сюды!

Ён адгукнуўся, устаў.

— Прабачце. Пагаварылі б ды мне, бачыце...

— А як жа! — сказаў інвалід.

Горкі роздум — ад «чаму?» да дзедавага покліча — трываў толькі момант, хвіліну... ну дзве, а Толю здаўся ён цэлай вечнасцю. Як пад вадой, калі ён хлапчуком ныраў за іншымі ў цёмную рачную глыбіню.

Ганьба таксама здалася вялікай — хоць ты ўцякай ды сагніся...

Зрэшты, ён так і пайшоў — трохі залішне спяшаючыся, нават трохі прыгнуўшыся. Нібыта ўзяўшы на плечы цяжкае ды мулкае, пякучае «а як жа!..».

Пад вечар студэнт ляжаў над рэчкай, заслонены ад сонца кустамі, і чытаў — цяпер ужо чытаў «лясную» дысертацыю па-сапраўднаму.

Локцям рабілася свежа ад зямлі, ды Толя гэтага не заўважаў. Босымі нагамі час ад часу прыходзілася амаль несвядома паварушваць, адганяючы надакучлівых жнівеньскіх мух. Побач з рукапісам ляжаў пачак папярос і запалкі, а навокал, вельмі блізка для слыху, у траве сакаталі нябачныя конікі. Ды ўжо не думалася аб тым, што пры іх дапамозе можна было б цяпер, у надвячэрняй цішыні, папрасіць на бераг язя ці яльца.

Нават і лічбы ў дысертацыі ўжо не здаваліся сумнымі. Праз гэтыя лічбы і спецыяльныя словы, сэнс якіх Толя часамі толькі ўгадваў, да сэрца яго даходзіла перш за ўсё тое, што хвалявала Максіма, што рухала яго творчую думку.

Добрая зайздрасць да сябра, што вось знайшоў сваё месца ў жыцці,— была адным з пачуццяў, якія то аціхалі, то зноў уздымаліся ў Толевай душы.

Галоўным было, вядома, пачуццё да Люды,— момант іхняй сустрэчы ўсё набліжаўся, і вера ў яе каханне, і радасць за іхняе шчасце раслі, ператвараліся ў цяжар, якому і цаны няма, у пакуту, якую нам суджана перажываць толькі раз у жыцці.

А праз усё гэта час ад часу прабіваўся боль і сорам нядаўняга паражэння, — тое «чаму», што так і засталося без адказу.

Усё аднак перамагала Люда.

У думках хлопца яна ўжо не раз ішла да яго, ужо свяціла ў душу святлом сваіх чорных, глыбокіх вачэй, сваёй непаўторнай усмешкай, працягвала рукі, шаптала, што пойдзе за ім, што будзе ягонай — заўсёды... Колькі разоў ён адрываўся ад рукапісу і глядзеў у той бок, адкуль павінны былі вось-вось пачуцца крокі ці голас! Колькі разоў ён пакідаў чытаць і, абапёршыся гарачым ілбом на рукі, доўга глядзеў у траву!..

Была і трывога: а што яна скажа, як выращыцца іхні лёс,— і гэта ўжо зусім, зусім хутка?..

Думаў Толя таксама, што, можа, не трэба даваць ёй гэта бяздарнае, блазенскае пісьмо, што лепей будзе, калі ён...

Ды вось ад хаты зачырыкаў веласіпедны званок. Студэнт азірнуўся і, нібы ўзняты сігналам, устаў.

— А хто прыехаў, Толя?

Гэта была яна.

Следам за Людай з-за вугла хаты, аберуч коцячы веласіпед, выйшаў мужчына.

Толя пазнаў Аржанца.

У белай вышыванай кашулі, без шапкі, былы камісар падняў ад руля руку і, узмахнуўшы на прывітанне, гукнуў:

— Здароў, Клімёнак! Годзе там вылежвацца!

Першае пачуццё, выкліканае ў Толі сустрэчай з Аржанцом, была ўсё тая ж самая прыкрасць, што вось зноў паміж Людай і ім, нібы падасланы насмешлівым лёсам, з'явіўся трэці.

Яны прыставілі веласіпеды да сцяны, ішлі сюды. А Толя ішоў да іх і ўжо ўсміхаўся, адганяючы недарэчную прыкрасць, ужо асуджаную ім, але адкінутую яшчэ не цалкам.

— Ну, пісьменнік, здароў! — сказаў Аржанец, працягнуўшы руку.

— Ды што вы, Сяргей Рыгоравіч, які пісьменнік...

— Як гэта які? А што ў руках? Бачыш, якую таміну выдумаў!

— Гэта Максімава,— сказала Люда.— Толя чытае яго працу.

— А ну...

Аржанец узяў з рук Толі рукапіс.

— Ой, я пайду,— схамянулася гаспадыня.— І вы не стойце: вунь тата чакае.

Толя крадком, міжвольна зірнуў ёй услед — на светлы плашчык, што разлятаўся над загарам быстрых ног у басаножках, якія лёгка тапталі густую, нізкую траву.

— Лясок, сасна! — гаварыў тым часам Аржанец, пускаючы з-пад пальца старонкі тоўстага рукапісу.— Як яно,— добра?

— Па-мойму, добра,— адказаў, нібы ўстрапянуўшыся, Толя.

— Гэта мы, брат, таксама пачытаем. Ды, зрэшты, вы ж лайдакі, паедзеце заўтра. На, брат, трымай. Пасля будзем глядзець. Хадзем,— стары чакае.

Дзядзька Антось стаяў каля парога.

— Здароў, Сяргей,— сказаў ён.— Вось і добра, што здагадаўся заехаць. Мы з табою, глядзі, толькі на сходзе якім у Бабровічах і ўбачымся. А тут я нешта пачаў крактаць...

— Вы — крактаць? Ад каго я чую? Дуб беларускі, Антось Данілавіч! Каму ж тады жыць, як не вам?

— Ат! — махнуў рукой стары.— Быў дуб, ды сваё адшумеў. Хадзем вось лепш у хату.

У сенцах іх сустрэла Люда. Пераадзетая ўжо, у фартуху, з пустым вядром у руцэ. Яна прапусціла ў хату бацьку і Аржанца, хацела прапусціць і Толю, ды ён, як быццам спынены, як зачараваны ёю, сказаў:

— Ну што ж ты, ідзі,— і чырвань той самай праклятай сарамлівасці зноў папрасілася на твар.

Хваляванне, відаць, перадалося і Людзе. Яна зірнула на яго, на момант сустрэўшыся вачыма, ледзь прыкметным рухам страсянула галавой, пачырванела і, апусціўшы вочы, пераступіла каля яго цераз высокі парог.

— Люда,— ціха паклікаў Толя, выходзячы следам за ёю.

Яна спынілася.

— Табе...

Яшчэ не ўзяўшы запіскі, яна пазнала яго почырк.

— Ой, ну цябе,— шапнула першае, што ўзляцела на думку, узяла пісьмо і хуценька схавала на грудзях, за выразам сукенкі.

У гэты самы момант — крышку толькі пазней — з-за вугла хаты паказаўся запылены мукою млынар Іван.

Ды Люда ўжо ішла па сцежцы да ракі.

— Што, бог гасцей прыслаў? — спытаў Іван.

«Позна ты, брат, з'явіўся,— з усмешкай падумаў Толя.— Не паспеў перашкодзіць. Усё!»

І ён сказаў:

— Хадзем у хату. Прыехаў, Іван Іванавіч, дарагі госць.

— Ён дарагі, а я — няпрошаны,— усміхнуўся млынар.— Дый часу няма. Я да старога, па французскі ключ.

На кладцы, за альховым кустом, Люда азірнулася. Няма нікога, толькі дрэвы, неба і вада... А можа, так толькі здаецца — нікога няма? А што, калі выйдзе хто-небудзь ды ўбачыць?

Яна апусціла руку да грудзей і прашаптала:

— Ну вось... дурненькі мой... Ну вось...

Сказала і зноў трывожна азірнулася.

Ціха. Толькі стрыжы лятаюць ды млын безупынна грукоча. Але гэта — заўсёды. Толькі на носе Толевай лодкі, якая стаіць трошкі воддаль, прысела жаўтагрудая птушка. І не баіцца нікога. Шчабеча нешта, а потым — глядзі! — ускочыла ў лодку, дзе сабралася трохі нагрэтай за дзень вады, і купаецца, толькі пырскі ад крыльцаў ляцяць...

— А я ўжо думала — так і паедзеш,— зноў зашаптала Люда, гледзячы на лодку.

Птушка пырхнула з лодкі і паляцела. Дзяўчына ўзяла вядро і схілілася з ім над вадою.

— А ты не паехаў,— шаптала яна. І тут убачыла ў вадзе сябе — свой твар, апушчаныя абапал шчок валасы і вочы. І стала неяк асабліва радасна, і крышку сорамна, і крышку смешна... і страшнавата...

— Варожыш, Людачка? — спытала дзяўчына ў самой сябе, і вочы яе нечакана пацяплелі ад слёз.— Не варажы. Пра што ж тады, ты думаеш, ён напісаў?..

Засмяяўшыся, яна палажыла вядро на свой адбітак у вадзе. Вядро ўзбунтавала люстраную роўнядзь, напоўнілася і ўзнялося над кладкай у маленькай, моцнай руцэ.

І вось якраз цяпер — яна ўбачыла — з сяней на двор выходзілі Толя і Аржанец з ручніком на плячы.

«Мамка мая! Хоць бы ж яны не пазналі нічога адразу!..»

Люда пайшла насустрач гасцям. І здавалася ёй, што вядро ў руцэ адчувалася менш і відно было горш, чым пісьмо, хоць яно і схаванае, хоць і малое...

Усё, чым хата багата, ужо на стале — сухая, знятая дзедам з вешала на гарышчы каўбаса, памідоры,

тушаная з качкай бульба, маласольныя агуркі, сыр і мёд, і тое, як кажуць мужчыны, без чаго ім не есца.

А маладая гаспадыня яшчэ ўсё хвалюецца: лічыць вачыма поўныя і пустыя талеркі, зноў выбягае ў кухню і на гэты раз уносіць ужо толькі сподачак з соллю.

Бо так хацелася б яшчэ пабегаць з хаты ў кухню, каб хоць трохі супакоіцца. Хвілінкі часу, каб выняць на свет, разгарнуць, прачытаць дарагую сваю таямніцу — няма. Дзверы ў кухню адчынены, многа вачэй.

— Капусту, можа, адразу падаць ці трошкі пазней? — пытаецца Люда.

— Сядай вось,— адказвае стары.— Капусту мы пасёрбаем пасля, каму захочацца. Уся сіла не ў капусце.— І ён узяўся сваёй вялікай жменяй за бутэльку.

— Гаспадынька, ідзі да мяне,— гаворыць Аржанец.— Сядай вось тут. Ты, брат, Толя, адсунься. Усе вы вельмі харошыя, але каб не Люда — я тут сёння, на гэтай лаве, не сядзеў бы. Нават не ведаў бы, што вы тут сабраліся. Эх, шкада, што Максіма няма!

— Мне, дзядзька Антось, дзевяноста дзевяць,— гаворыць Толя, калі над чаркай яго пагрозліва схіляецца бутэлька.

— А я табе сто адзін,— адказвае стары.— Не бойся: у мяне тут не карчма.

— За гаспадыню! — кажа Аржанец.— Каб за гэтым сталом хутка стала яшчэ больш гасцей.— І ён смяецца, гледзячы, як чырванеецца дзяўчына.

«Мамка мая,— думае Люда.— Якраз як заручыны...»

І вось тры чаркі працягваюцца да яе, каб чокнуцца.

Толю трохі няёмка, а больш прыемна, і ўжо цяпер, вось тут хацелася б гаварыць сваёй Людзе даўно гатовыя словы.

Сваёй?.. А дзе ж трывога? Адкуль упэўненасць? Хто іх ведае. Яму проста добра.

Ён выпівае разам з мужчынамі «за гаспадыню», а потым глядзіць, як яна, з дзявочай асцярогай і мілым, міжвольным какецтвам, толькі прыгубіла сваю, да палавіны налітую чарачку і зноў паставіла яе.

«Ну, што ж гэта ты?» — спытаўся Толя вачыма.

«А ты маўчы»,— адказала яна таксама без слоў, крадком цікнуўшы на яго, нават перасмыкнуўшы бровамі.

Ні Аржанец, ні дзядзька Антось не заўважаюць гэтай іх размовы.

— Можам, Толя, прадоўжыць, што пачалі з табой на дварэ,— гаворыць Аржанец.— Ты мне пра той мяшок, пра беднасць, пра адсталыя... На такое пытанне — «чаму» — адказваць, брат, вельмі нялёгка. Не аднаму табе. Я ўжо каторы год у самай вясковай гушчы жыву, не раз пыталіся, не раз адказваў, як мог, а ўсё ж душа баліць, браток, ад такога пытання. Баліць... Адсталы калгас. Што такое — адсталы калгас? Не здалёк, не па зводцы, не па тэлефоне. Гэта — горкая нястача ў хаце, гэта — нашы харошыя, нашы савецкія людзі, што ў светлы дзень глядзяць на цябе спадылба. Ты — пакуль што студэнт. А ў мяне, брат, пытаюцца не толькі як у настаўніка, але яшчэ як і ў камуніста, у старшага над камуністамі. Так гавораць у нашых Цыбулічах, бо я ўжо чацвёрты год сакратаром калгаснай партарганізацыі. Думай не думай, а сам, адзін усяго не перадумаеш...

— Адзін,— мармытнуў у вусы стары.— То бацька Сталін думаў за ўсіх нас адзін, то ты ўжо думаеш. Так ужо болей няма каму і падумаць?

— Ды вось сягоння пачалася сесія ў Маскве. Вярхоўнага Савета...

— Першая хіба? — махнуў рукой стары.— Ніколі не збіралася яшчэ?

— Антось Данілавіч, ад гэтай сесіі чакаюць нова-га. Яно не можа не прыйсці. Яно патрэбна — ой як патрэбна. Добранька трэба падумаць пра той магніт, што пацягне людзей сюды. Не толькі рыбку вудзіць ды загараць... Ты, Толя, не глядзі так на мяне — ты на канікулах. А я ўсё думаю: што ж гэта будзе, што моладзь так уцякае з сяла? Хто на завод, хто на вучобу, а хто і ў хатнія работніцы. У кожнай хаце — па два, па тры студэнты.

— Дык гэта ж добра, Сяргей Рыгоравіч!

— І я, Людачка, рады. Што вучацца. Я не пра тое. Трэба думаць і перспектыўна. Не будзе ж яно так, што ўсе мы скончым дзесяцігодку — і ў горад шусь! Кармі мяне, родная вёска!.. Ты вось скажы мне, Толя, ты пра такое думаў напэўна — чаму ў нас на мужыка, на калгасніка глядзяць зверху. Сам, відаць, чуў таксама

не раз: «А што вы хочаце — гэта ж калгаснік!..» Дык што ж гэта — хлебароб, карміцель, а яны яго ў кут!..

— А хто, Сяргей Рыгоравіч, *яны*?

— Як — хто яны? — перапытаў настаўнік, здзіўлена паглядзеўшы на студэнта.— Пэўна ж, не мы з табой...

— І праўда,— падтрымала Люда Аржанца.— Я сама чула ў Баранавічах, як адна разадзетая жонка казала другой: «А што вам, мілая Анна Пятроўна, надрывацца самой — вазьміце Глашу». Гэта пра нашых вясковых дзяўчат!..

— Што — нетыпова? — з'едліва ўсміхнуўся, гледзячы на Толю, Аржанец.— Ох, мастакі мы прыкрывацца гэтай фразай. Як распіша другі — чытаць моташна. А няхай вось прыйдзе сюды, няхай падумае, што гэта азначае — жыць, чакаючы, калі пабольшае працадзень... Ты, Клімёнак, і на сябе вазьмі з гэтай ношкі хоць трошкі. Таксама, браток, загладжваеш. Я твой нарыс чытаў.

Люда, якая сядзела паміж імі, устрывожана паглядзела на Толю. Хацела нават спытацца: «Што з табой?..» Ён неяк вельмі дзіўна паводзіў сябе,— пачырванеў, глядзіць у пустую талерку, кусаючы ніжнюю губу, і недарэчы барабаніць пальцамі па стале... «Што з табой, Толя?» — дарэмна чакалі адказу чорныя спалоханыя вочы.

Люда хацела ўжо дапамагчы яму, сказаць Сяргею Рыгоравічу, што Толя — не такі, ды вось ён сам нібыта праглынуў — амаль зусім прыкметна — нешта вельмі горкае, узняў вочы і, крыва неяк усміхнуўшыся, сказаў:

— Добра, Сяргей Рыгоравіч, улічу.

— І я скажу, Толя, добра. Вучыся, дружа, з праўдай сябраваць. Ваш брат, пісьменнік ды журналіст...

— Ды які я пісьменнік! — успыхнуў Толя.— Які я ім брат!

Аржанец засмяяўся.

— Ну, не,— сказаў ён,— ты ім яшчэ не брат, ты яшчэ толькі збіраешся. Мір? Толькі пачынай ты ўжо, браток, адразу без патакі. Будзь і сёння добрым разведчыкам. Глядзі не зверху, не здалёк...

Спачатку, як толькі селі за стол і Аржанец пачаў гаварыць, Толя глядзеў на ягоныя рукі. Вялікія, пра-

цавітыя, відаць, яшчэ ўсё з былымі мужыцкімі мазалямі. Хлопец з пашанай, нават з гордасцю падумаў, гледзячы, што гэтыя самыя рукі былі калісьці ў панскіх наручніках, пасля кіравалі агнём партызанскага аўтамата, гарталі старонкі школьных сшыткаў і інстытуцкіх падручнікаў, калі ён, настаўнік, вучыў і завочна давучваўся сам. Толя ўспомніў лясную ноч, агеньчык у занесенай снегам зямлянцы, пад шумам высокіх соснаў, сваю першую сустрэчу з Аржанцом і простыя, тады здавалася — на дзіва простыя, негераічныя камісаравы словы: «Дзяўбі пад рэйкай і дзяўбі... Сёння зарад, а заўтра два...»

Цяпер ён думаў пра тую ноч, наогул пра Аржанца — ужо трошкі інакш. Нават глядзеў на яго спадылба.

«Тады, у лесе,— думаў ён,— мне палягчэла нават ад твае прысутнасці, ад слоў тваіх, ад позірку, ад смеху. А цяпер ты з'явіўся зусім нечакана, ты ўзяў у мяне тое горкае «чаму» як быццам толькі дзеля таго, каб калоць ім у душу яшчэ больш балюча. Ужо не толькі не пацяшаеш мяне, а колешся, нібы сабе самому на палёгку. Ты і тады не пацяшаў. Але ж і калоў. «Без патакі... Разведчыкам...» Дзякую і за гэта. Толькі хто ж яго надрукуе — без патакі — ты?..»

У гутарку ўмяшаўся дзед, які дагэтуль, відаць, ад немачы, маўчаў.

— Добра гаворыш, Сяргей,— сказаў ён.— Рабочага чалавека трэба высока падняць, каб перад ім тая брыда з пакрашанай мызай не моршчылася, каб яго паважалі, каб ён сваё ведаў, каб ён сваё меў. Што мы не можам зрабіць, каб яму было лепш? Заводаў вунь нарабілі ўсякіх, машын, гарадоў, а тут дык і рукі ў с..? Не фыркай, Люда,— вельмі ты ўжо стала далікатная... Узяцца толькі за справу ніхто не бярэцца як след...

Пачало спакваля і змяркацца.

Першы стаміўся дзядзька Антось. Ён пайшоў за перагародку.

А яны ўсё сядзелі, гутарылі і, нібы змовіўшыся без слоў, чакалі Максіма, успамінаючы яго даволі часта.

— Сяргей,— пачулася раптам з-за сценкі.— Ідзі, брат, сюды.

Усе ўстрывожана ўсталі.

Стары сядзеў за перагародкай каля століка, асяд-

лаўшы лысіну паўабручыкам навушнікаў, і слухаў радыё. Дык вось чаму ён, дзед, маўчаў!

— Пра падатак гавораць. Парадак паменшалі,— шапнуў ён, нібы баючыся перашкодзіць таму, каго слухаў. Зняў навушнікі, адняў адзін і падаў яго Аржанцу.

— Ну, ну...— шапнуў настаўнік і прысеў побач з дзедам на табурэтцы.

Толя і Люда ціха стаялі ў цеснай спаленцы ў прыцемку, а слухачы толькі мучылі іх адзнакамі свайго захаплення.

— А што! — гудзеў стары.— Вось гэта так! З соткі бяры, а не з дрэўца, не з вулля...

— Ці-і-і,— сіпеў Аржанец, суцішаючы яго, і толькі ўсмешкай выказваў уражанне.

Зноў маўклівая паўза.

— А што — зноў не ўстрымаўся стары.— Правільна кажа! Гультаёў толькі разводзілі ды фінагентаў...

— Ды ціха вы, тата.

На гэты раз Аржанец супакоіў Люду: ён паглядзеў на яе, сказаў сваё «ці-і-і» і нават жартам пагразіў дзяўчыне пальцам.

Зноў паўза, цяпер ужо, вядома, яшчэ цяжэйшая.

— О! — азваўся Аржанец.— Даўно пара. Народ наш гэтую палёгку заслужыў.

Маўчанне пасля гэтага было яшчэ больш доўгім і пакутлівым.

Толя і Люда стаялі побач, у цёмным кутку; стары і Аржанец абодва сядзелі, напалавіну адвярнуўшыся ад іх. Толя асцярожненька знайшоў руку дзяўчыны і ціха, горача сціснуў маленькія пальцы...

Рука яе адразу ледзь улоўна ўздрыгнула, а потым адказала яму таксама ледзь улоўным поціскам.

А потым Люда схамянулася, вызваліла руку і выйшла ў другі пакой.

Там яна амаль нячутна хадзіла ад стала ў кухню і назад, асцярожненька бразгала посудам, здаецца, і хаваючы за гэтым хваляванне і, магчыма, нават клічучы яго... Хто ведае?

Толя выйшаў і, асцярожна ступаючы, пайшоў за ёю ў кухню.

«Палічаць, што напіцца»,— падумаў ён.

Люда чакала яго. У прыцемку хмельны ад шчасця

хлопец сустрэў яе хвалюючую цеплыню, адчуў яе і на грудзях, і на вуснах, і вакол шыі...

— Толічак... што ты... не трэба...— шаптала яна ў перапынках паміж пацалункамі.— Ну ідзі... Ну не трэба...

А рукі гарэлі на шыі, і вусны шукалі, і глыбокія чорныя вочы былі нарэшце гэтак блізка — то ля яго вачэй, то пад яго гарачымі і прагнымі губамі...

Пісьмо было пакуль што не прачытана.

Позняя раніца.

Сонца, якое сёння ўзыходзіла якраз за млыном, узнялося ўжо над ім значна правей і пазірае на «дзедаву» сядзібу і на востраў зверху. Раса хаваецца толькі ў засені густога лісця.

Працавітыя камяні грукочуць, з той самай ласкай паўтараючы імя маладой гаспадыні.

Праз гэты грукат, да якога тут даўно прывыклі і людзі, і коні, і птушкі, сёння прабіваецца бадзёры стукат малатка па жалезе, нагадваючы мінулую касавіцу. Касу часцей за ўсё кляпаюць да сонца. А гэтае чоткае цоканне — работа зусім іншая. І не работа гэта, як сказаў бы дзядзька Антось, а забава.

Ды сёння ён рады і гэтай забаве.

Паснедалі рана, як снедаюць звычайна перад дарогай. Хлопцы былі гатовы да ад'езду — хто ахвотна, а хто і без ахвоты...

За сталом яшчэ бацька не вытрымаў.

— А мо пабыў бы дзянёк? — звярнуўся ён да Максіма, нават не падазраючы, як спадабаліся гэтыя словы дачцэ і аднаму з гасцей.

Другому госцю, Аржанцу, як раптам аказалася, прапанова такая таксама была даспадобы.

— І праўда, Максіме, пабудзь,— сказаў ён, трымаючы поўную лыжку ў сваёй вялікай руцэ.— Лес, брат, нікуды не дзенецца — шумеў, людзі кажуць, і будзе шумець.— І, як быццам ставячы кропку, настаўнік сербануў свой гарачы суп.

Максім паглядзеў на Аржанца і па-свойму, нібы набраўшы ў рот вады, звёў тонкія губы ва ўсмешцы.

— Чаго добрага,— сказаў ён,— ты мне і такую прымаўку падсунеш: «Хто ў лесе не крадзе, той дома не гаспадар...»

— Пры чым тут раптам «крадзе»? Калі пабудзеш ты яшчэ дзянёк, дык што? І я работу тваю прачытаю.

— Не вялікае шчасце. Будзеш у Мінску — паглядзіш. А пабыць, дык я пабыў ужо цэлых пяць дзён.

— Якія пяць! — перапыніў яго стары.— Ты і ўчарашні дзень лічыш таксама?

— Праўда, Максім, пабудзь яшчэ сёння.

Гэта сказала Люда. Максім паглядзеў на яе і зноў усміхнуўся.

— А што мне скажа «маеце ласку»?

— Нічога не скажа. Ты ж казаў, што ён добры. Пабудзь.

— Добры, але і строгі.— Максім павярнуўся да Аржанца.— Гэта мой кіраўнік, прафесар Сіланцьеў. Чалавечына, розуму,— бездань, але трошкі і старазаветны. Першы раз, калі ён прывёз нас у пушчу, спытаўся: «Нагорны, я чуў, што вы мелі ласку партызаніць у гэтых мясцінах?» А застанься я сёння, ён скажа: «Вы мелі ласку, васпан, прымусіць мяне хвалявацца, чакаць вас цэлыя суткі...» Ды, зрэшты, справа не ў ім. Работа.

Здавалася, што на гэтым будзе ўсё і закончана, але не згадзіўся дзядзька Антось. Ён быў пахмуры ад ранку, і жаданне сваё — пабыць разам з сынам, пяшчотнасць свайго бацькоўскага пачуцця дзед выказваў, як заўсёды, па-свойму:

— Ат,— махнуў ён рукой.— І навошта гэта, не ведаю, быць такім упартым, як баран.

Моладзь і Аржанец адказалі яму выбухам смеху. І смех гэты вырашыў справу інакш.

— Ну што ж, бацька,— сказаў Максім,— паедзем мы сёння пад вечар. А ты,— звярнуўся ён да Толі,— дарэчы, і баброў паглядзіш ноччу. Ясна?

— Ясна-то ясна...— усміхнуўся Аржанец.— Але вам, Антось Данілавіч, хоць вы і родны бацька, а ўсё ж навуку абражаць не трэба. Чалавек, можна сказаць, амаль ужо кандыдат, а вы... І слова такога не вымаўлю, як вы назвалі яго...

— Вытрымае. Хто ж яму гэта скажа, як не я? Ад жонкі хіба дачакаецца.

Стары пайшоў у млын, нібы адразу паздаравеўшы. Аржанец засеў у хаце, над Максімавым рукапісам. А сам аўтар яго пабразгацеў у каморы начыннем, узяў

малаток, бабку для кляпання касы, нейкі адмысловы шпянёк, пласкагубцы і, кінуўшы Толю «пайшлі!», падаўся з ім на востраў.

Там, паставіўшы старую, забытую богам калоду старчма, убіў у яе бабку і дастаў з кішэні некалькі манет.

— З пятачка зробім, жоўтую,— сказаў, маючы на ўвазе яшчэ адну блясну для спінінга.

І вось ён кляпае, спрытна цюкаючы малатком. Вочы схаваны пад чорным, нізка апушчаным чубам. Аднак Толю, які сядзіць на пяску з другога боку калоды, і так добра відаць, што Максім нездаволены: уступіў старому, а думае ўсё ж пра пушчу, куды «мае ласку» пазніцца...

А Толю радасна... І трохі, небывала сорамна Максіма. Але радасна...

Учора... Ды зусім і не ўчора, а сёння, бо Толя і вока не звёў, і сённяшні дзень для яго — проста працяг учарашняга...

Паміж гэтымі двума днямі была толькі вельмі кароткая ноч, калі яны з Людай засталіся нарэшце адны.

Над маўклівым млыном, над аціхлай вадой, над стрэхамі дзвюх лазовіцкіх хат, над дрэвамі, кустамі і лугамі абапал Быстранкі — над усім узвышалася ціхае зорнае неба, а на ўсходзе, над градою ўзгоркаў, пакрытых пералескамі, няпоўны месяц стаяў маўкліва і абыякава, нібы падкуплены закаханымі вартаўнік. У гэтай таямнічай, напаўпразрыстай цішыні яны снавалі, як здані, па лугавой дарозе, нібы шукаючы прыпынку і ніяк не могучы яго знайсці. Пасля знайшлі яго, і вельмі блізка — каля самага млына, на мосціку, што быў накрыты ценем высокіх дрэў. Ён пасадзіў яе на парэнчы і ўсё трымаў у руках, бо толькі так яна магла не ўпасці ў раку... І так вельмі добра было пужаць яе, нахіляючы над вадой, каб зноў пачуць спалоханы шэпт, каб зноў, яна, нібы са страху, сама тулілася да яго. Тут ужо вельмі добра чуваць было, як пад яго палаючай шчакой б'ецца дзявочае сэрца, а пальцы яе пяшчотна, як ранішні ветрык лісцё, перабіраюць яго непаслухмяную чупрыну. Тут ужо добра чуваць было, як унізе журчыць халаднаватая вада, нібы супакойваючы іх, а за алешнікам, каля зачыненых дзвярэй млына,

стары вартаўнік Арцём час ад часу пакашлівае, нібы сігналячы, што хутка дзень...

А Люда ўсё ніяк не хацела паверыць, што іх тут ніхто не бачыць.

«Мамка мая! — шаптала яна захоплена.— А я яшчэ, дурніца, у белай суконцы. Здалёк відно. Ды, божа мой, хіба ж цяпер ужо не ўсё роўна...»

І яна парывіста сціскала шчокі яго далонямі, доўга і пранікліва глядзела ў Толевы вочы, а потым, падхопленая новым парывам, пакрывала твар яго пацалункамі і шаптала, задыхаючыся:

«Мой!.. мой!.. мой!..»

А потым стомлена і сарамліва прыпадала вачыма да яго пляча, і зноў ён адчуваў біццё роднага сэрца, схаванага за пругкім і пакутліва хвалюючым цяплом. Зноў яны чулі, як спакойна журчыць пад імі вада, а навокал — пад зоркамі — сакочуць бязлікія конікі, кожнай зорачцы — свой...

Цяпер над вадой стукоча па пятаку малаток.

А Толя заслухаўся ў сваё шчасце. У белай майцы, абняўшы калені голымі да лакцёў рукамі, студэнт глядзіць то на свае босыя ногі, то на жвавыя дробныя хвалі Быстранкі, якія пераліваюцца пад сонцам вясёлымі зайчыкамі, і думае, маўчыць.

Успамінаецца Толю чамусьці даўні, яшчэ з маленства, выпадак.

Неяк зімой, яшчэ пры панах, іхнюю вёску амаль дашчэнту выкаціў пажар. У Клімёнкавай хаце пасяліліся яшчэ тры сям'і. Стары, глухаваты Мірон, удавец, у першы пасля пажару вечар трымкаў на балалайцы і падпяваў, і па твары яго за гэтым блазенствам цяжка было распазнаць, куды ён хаваў свой вялікі, крывавы смутак. Адразу, вядома, цяжка было і прыдумаць, з чаго пачынаць: ці пазычаць, ці жабраваць, ці проста сесці ды плакаць?.. Плакалі тры яго дачкі, здаровыя рабацяшчыя дзеўкі, а Сашка, адзіны сынок, смяяўся. Васьмігадовы ціхі і хваравіты хлапчук. І вось бацька ўзяў яго неяк з сабой на кірмаш. Першы выезд у той далёкі, таямнічы свет, што пачынаўся за рысай хлапечага далягляду. Малы не спаў усю ноч, разоў некалькі будзіў бацьку, хаця б не спазніцца. А ўвечары прывёз усім малым, што жылі цяпер у Клімёнкавай хаце, гасцінца. Бацька купіў яму некалькі танных цукерачак, і Сашка прывёз іх усе дахаты, усю дарогу трымаючыся

за кішэню. І вось пры частаванні зусім нечакана цукерак на ўсіх не хапіла, якраз не хапіла самому Сашку. Апошняму ён даў Толю, а потым калі яшчэ раз усадзіў руку ў кішэню зрэбных портачак,— там было пуста.

«Ну і што ж... Ну і што ж...» — паўтараў разгублены хлопчык і смяяўся, а на вялікія разумныя вочы сама набегла сляза. «Ну і што ж...»

Толю было тады дзесяць год. Ён першы працягнуў Сашку сваю цукерку, за ім зрабіла гэта суседава дзяўчынка Галя, пасля і Косцік Рабы.

«На, еш, я не хачу, дальбог»,— гаварыў ён, працягнуўшы Сашку далонь, на якой быў пакутліва прывабны ласунак, ужо нават вылузаны з каляровай паперкі.

«Я не хачу... я вам прывёз!..» — адмаўляўся Сашка і ўжо не смяяўся, а плакаў.

Мінула многа часу, а Толя яшчэ ўсё памятае і той ясны вечар напрадвесні, і тыя Сашкавы слёзы скрозь смех, і тую радасць, з якой яны падзялілі цукеркі, раскусваўшы іх, а потым даганяліся на вуліцы, дзе ўжо сыходзіў снег, былі сухія праталіны і пад лапцямі трашчаў лядок.

Пасля здавалася часамі, што радасць тая — толькі дзіцячая, што толькі дзеці здольныя на такое. А вось цяпер Толю-студэнту, Толю-мужчыну, шчасліваму сваім вялікім шчасцем, неяк па-іншаму стала зразумелым слова радасць і жаданне падзяліцца ёю з некім другім.

Але Максім маўчыць, упарта стукае малатком, паволі ператвараючы пятак у падоўжную бляшку блясны, і даступіцца да яго са сваімі пачуццямі — не вельмі проста.

Толя раз-пораз уздымае ад каленяў светлавалосую галаву, глядзіць на сябра, прыплюшчыўшы блакітныя вочы, а потым — усміхаецца, знайшоўшы вельмі просты і адпаведны пачатак гутаркі.

— Ты не пытаеш,— кажа ён,— дык гэта ясна, а што я, дурань, маўчу, дык ты, брат, даруй. Я ж прачытаў тваю дысертацыю.

— Дамучыў? — з усмешкай спытаўся Максім, не перастаўшы стукаць.

— Пайшоў ты... ведаеш! «Да-му-чыў»...

Настае зусім невялікая паўза, пасля якой Толя гаворыць:

— Я табе, здаецца, ніколі не лгаў. Так і цяпер дамовімся. Прачытаў, брат, як гаворыцца, з задавальнен-

íем. І не таму кажу, што так яно гаворыцца. Можа, закурым?

Максім кладзе на калодзе малаток і дастае папяросы. Другая паўза, запоўненая ўрачыстай працэдурай прыкурвання, канчаецца таксама, і Толя гаворыць зноў:

— Стары пытаўся ўчора, што ты пішаш. Была ў нас такая сакрэтная гутарка. Кнігу піша, кажу. І сапраўды, я разумею справу так: дысертацыя — гэта кніга, калі ж яна не кніга, дык не лічыце яе, калі ласка, і навуковай работай.

— Трошкі не тое. Не завышай, брат, кандыдацкіх абавязкаў.

— Няхай не кніга, а добры артыкул павінен усё ж такі быць. А ў цябе атрымаецца кніга. Што мне перш за ўсё спадабалася, дык гэта жаданне знайсці сваё месца ў навуцы, дапамагчы народу ў яго вялікай працы. І ты знайшоў сваё. Праўда, аб гэтым будзе мець ласку сказаць свае слова прафесар Сіланцьеў, але я ў цябе веру і сам. Твая работа — гэта не тое млявае размазванне даўно вядомага, за што ўжо не адзін бакалаўр аграбае народныя тысячы. Я не лезу ў другія галіны: хопіць на маю злосць таго, у чым я трохі разбіраюся. Чытаў я іх трохі — і вараных, і сырых, і абароненых, і безабаронных...

Студэнт памаўчаў пад ляпанне, якое зноў пачалося.

«На маю злосць...» Не выпадкова выскачылі гэтыя словы. Учора Толя ўсё-такі злаваў на Аржанца.

«Без патакі... Разведчыкам... Ты паглядзі пайдзі,— падумаў ён цяпер,— на тых, што вучаць, як пісаць!..»

— Дык значыцца,— гаварыў ён нібы спакойна далей,— што такое, па-мойму, некаторыя нашы літаратурныя дысертацыі? Гэта такі «навуковы» будан, з усіх бакоў падпёрты сяброўскімі ручкамі кіраўнікоў, апанентаў, а нават часам і вучонага савета. Гэта, браток, такая тэматычная балея — вялізная, падчас нават з прэтэнзіяй на ўсеабдымнасць! — на дне якой расплываецца літаратуразнаўчая вадзіца. Уваб'ецца такі Калумб, скажам, у паэзію Купалы ці ў прозу Чорнага і давай пераказваць іх змест. Пры тым жа так грунтоўна, так на-ву-ко-ва, што нават і Рабінзон на сваім востраве пазяхаў бы з нуды. А дзе твае ўласныя думкі, што ты мне новага сказаў?.. Чытаў я адну такую вяс-

ной. Памятаеш — у «Паляўнічым шчасці» Самуйлёнка — Лаўрэн выводзіць на прагулку жарабца? Карціна! А дысертант падсеў да гэтай карціны і давай: што сказаў аб кані таварыш Ікс, што сказаў таварыш Ігрэк, што ў нас наогул сказана аб ролі жарабца ў народнай гаспадарцы... Эўрыка! І ўсё гэта, браток, не так сабе, а са зноскамі, з вучоным апаратам і славесамі. Колькі іх, такіх «навуковых работ», ляжыць недзе на пацеху архіўным мышам! Колькі бяздарнасцей лезе ў навуку ці ў літаратуру, замест таго каб дугі гнуць у райпрамкамбінаце!

Толя змоўк, заўважыўшы на твары Максіма даўно знаёмы прыступ смеху. Аспірант нібы набраў у рот вады і намагаўся, сціснуўшы тонкія губы, не выпусціць яе. І выпусціў,— смяецца, чорт, па-свойму, ціха.

— Ну, чаго?

— Што ты сёння так разышоўся!..

— А што?

— Ды нічога.— Максім пакінуў кляпаць, усміхнуўся.— Глас вопиющего на острове. Вазьмі і напішы пра гэта.

— І напішу. Думаеш — буду паказваць ім хвігу ў кішэні?..— Ён памаўчаў.— Чаму, скажы ты мне,— пачаў пасля,— нашы людзі гавораць не так, як мы пішам? Чаму мы не пішам так, як і пра што яны, людзі, гавораць? Я што — мая тут справа пакуль што цялячая. Я пра тых, што ўжо кнігі друкуюць. У цябе тут, як двойчы два, усё ясна. «Лес гарыць — трэба яго ратаваць. Змагацца з нізавымі пажарамі, па-мойму, трэба вось так». А ў многіх нашых кнігах, у часопісах? Я некаторых пісьменнікаў не толькі па творах ведаю, яны ў нас і выступаюць часамі. Мы іх нават і крытыкуем. Ну, як там крытыкуем,— вякнем каторы з месца або запіску падамо. Паспрабавалі неяк зачапіць аднаго — куды там! «У вас усе людзі ўжо вельмі добра жывуць,— напісалі яму ў запісцы.— А ці бывалі вы ў бедных калгасах?» Прачытаў ён, пачырванеў, а потым, усцешаны, ледзь не крыкнуў: «А я да лайдакоў і ездзіць не хачу!» І сыта — ке-ке-ке — засмяяўся. І наш Янот за ім. Сабраліся — мастак слова і волат думкі. Бяда, брат, не ў тым, што класік такі дурны ці бяздарны, што гусак такі сто гадоў пражыве і не зразумее, ні разу ў гэта не паверыць. Памятаеш, у Чэхава: гусака ты хоць кіем трэсні па галаве — усё роўна не зра-

зумее. Бяда галоўная ў тым, што ён ілжэ, за грошы смуродзіць млявай атрутай, і гэта яму дазволена. Ён яшчэ і зацірае сапраўдных пісьменнікаў. Пакуль тыя маўчаць або ходзяць ды шэпчуцца навокал свае праўдачкі, як кот каля гарачай місы. Дый не шэпчуцца нават — асцерагаюцца. А спекулянт грыміць, паверсе плавае, як дзярмо. Важнасць тэмы, надзённасць задач...

Максім ужо не кляпаў — ён слухаў. І не ўсміхаўся, як нядаўна.

— Ну, бачыш, Толя... Ты...

— Што? — не вытрываў паўзы студэнт. —Пачаў, дык гавары.

— Я, браце, рады за цябе. Дазволь пабыць старэйшым. Шэсць год — усё-такі шэсць год. Справа, вядома, не ў тым, што ты мяне пахваліш, я — цябе. Смешна было б. Мы ноччу гаварылі трохі з Аржанцом. Ён пра тваё «чаму», пра вашу гутарку гаварыў. Трэба бачыць усё. А ты бачыш.— Ён памаўчаў.— Можа, трохі палепшае ў нас. Здаецца, трохі ўжо нават пачалося. Хоць бы з падаткам, з гэтай палёгкай. Вялікі, браце, сэнс — зрабіць народу палёгку. Ён будзе памятаць. Падумай толькі, як гэтая вестка пакацілася па ўсёй краіне... Добра!.. Толькі — сам ведаеш — гэта далёка не ўсё. Многа, многа яшчэ застаецца ўсякіх «чаму»!..

Забытая богам калода была, аказваецца, універсальным варштатам. Выківаўшы з яе бабку, Максім уваткнуў у дзірку шпянёк і пачаў па ім глуха кляпаць сваю падоўжаную бляшку, надаючы ёй патрэбную выпукласць. Закончыўшы гэтую, даволі маруднуню, працэдуру, ён падкінуў на далоні амаль гатовую блясну:

— О, брат! Хоць сам хапай, не то што шчупакі! А ты чаго прыціх?

Тут ён убачыў Толевы вочы.

— Чытаў я некалі адзін верш,— цішэй, чым звычайна, пачаў студэнт.— Не памятаю, чый ён; дый увесь яго не памятаю, а толькі апошнія радкі запомніліся, мусіць, назаўсёды. Нібы яны проста мае, для мяне.

Думкі-хвалі імклівыя, вольныя —
вечна б'юць у адны берагі,—
сэрца шчырае, рукі мазольныя —
для цябе, мой народ дарагі!..

Можа, у мяне, Максім, нічога больш і няма, як толькі гэтае сэрца і рукі... Нават рукі без мазалёў... А так хочацца нешта зрабіць! Такое нешта, каб засталося надоўга, каб патрэбна было. Не многа, а хаця б адну кнігу напісаць, але такую, каб там была праўда. Няхай сабе горкая — але каб шчырая праўда. А вось ці напішу яе — хто ведае?..

Над комінам хаты паказаўся амаль не бачны нікому дымок. Паволі набліжаўся час абеду, і гаспадыня ведала сваю справу. У хаце, за сталом, засланым белым кужэльным абрусам, сядзеў Аржанец, трымаючы ў сваёй па-мужыцку моцнай руцэ адну са старонак рукапісу, з якога пахла яму жывіцай родных нёманскіх соснаў. Дзядзька Антось быў у млыне або каля млына, у гурце новых завознікаў, дзе гутарка сёння была весялейшая, чым учора.

А Толю ўжо не радасна.

Максімавы словы — тыя, сярод прыязных і радасных, што напомнілі пра «чаму» — дакрануліся да горычы ўчарашніх пачуццяў, напомнілі Толю пра боль, пра ганьбу таго паражэння...

«Крычу, ківаю на другіх, задрыпаны прарок, а сам?.. Дом на пясочку. Які там дом — будан сякі-такі. А я крычу, я пырхаю... Усё, усё трэба зноў — ад пачатку!..»

Ён думаў так, пазіраючы ў быстрыя, чыстыя хвалі рэчкі, да дна насычанай святлом багатага, яснага дня. Хлопец не чуў пацюквання малатка. Здавалася, што майстар — от сабе, нешта спыніўся, чагосьці шукае ці штосьці штукуе паціху. Не бачыў ён таксама, як на яго глядзеў Максім.

— А што ты думаў,— пачулася Толю.— Сэрца і рукі — гэта, браце, таксама вялікая сіла.

Студэнт маўчаў.

Ганьба з тым учарашнім «чаму» — гэта было яшчэ не ўсё, ад чаго яму горка... Не ўсё!..

...Хлопцы паехалі пад вечар.

Як толькі чайка адышла ад грэблі каля млына і неўзабаве схавалася за паваротам, першы з тых, што засталіся, загаварыў Аржанец.

— І я тым часам паеду таксама. Бывайце, Антось Данілавіч, здаровенькі,— працягнуў ён старому руку.

— А я вас, Сяргей Рыгоравіч, не пушчу,— сказала Люда.— Мне трэба з вамі пагаварыць.

— Не пусціш? Ну, дык я ўжо і ўцякаць не буду.

— Вы сабе тут гаварыце, а я пайду,— сказаў дзядзька Антось.— Будзь здароў, Аржанец. Зноў бог ведае, калі ўбачымся. Будзеш дзе блізка, глядзі — не мінай.

Стары пайшоў ад грэблі ў бок млына.

— Давайце я вас трохі праводзу, Сяргей Рыгоравіч.

Яны пайшлі па мосце, дзе на кругляках маснічын падскокваў, пабразгваў званочкам бывалы Аржанцоў веласіпед, пасля сышлі на лугавую дарогу. Аржанец ішоў па каляіне, конскаю сцежкай коцячы машыну, а Люда ішла з ім побач па маладзенькай атаве.

— Дык што — як настаўнік з настаўнікам, Люда?

— Я ўсё хацела з вамі пагаварыць. І ўчора, і сёння. Ды што ж...

— Ведаю, ведаю. Мы ўсё спрачаліся, вырашалі сусветныя праблемы.

— Вы спрачаліся, а мне і крыўдна трохі было: ці я ўсё яшчэ дзіця, якому не след умешвацца ў гутарку дарослых, ці я гаспадыня, каб толькі печы ды качак глядзець? Сапраўды — Максім ужо, відаць, назаўсёды прывык, што я — Людачка, дзяўчынка. Вы, здаецца, таксама. Нават і Толя... малодшы за ўсіх, студэнт...

— Нават і Толя? — шматзначна спытаў Аржанец.

Люда пачырванела. І сорамна, і прыемна зрабілася ад думкі, што вось ужо і ведаюць усе пра ўсё, што ён, Сяргей Рыгоравіч, глядзіць на гэтую дарогу і на яе самую не так сабе: ён бачыць — дарма, што абсохла раса! — іх учарашнія сляды на гэтай чысценькай траве, ад яго не схаваеш вочы і твар, што і дагэтуль гарыць... Ды Люда страсянула галавой і, здаецца, спакойна спыталася:

— А што Толя? Што з ім пра гэта гаварыць? Гэта ж не літаратура! Я ўсё хвалююся, Сяргей Рыгоравіч, я ўсё баюся...

— Чаго?

— Мне пяты клас далі. Самых раздуркаў. Я іх ведаю, мне і на практыцы пашанцавала на пяты клас. Ды, як на злосць, школа мужчынская, адны хлопцы, шмат другагоднікаў. Увайшла я ў клас... І не адна зайшла, а як на суд: і выхавальнік іхні, і метадыст, і студэнты... Мамка мая! — ніколі я не думала, што гэтак страшна будзе, калі ўстане ўвесь клас, калі трэба сказаць ім: «Дзень добры. Сядайце». Селі яны, а потым:

«Ого-о!» І не пазнаеш — каторы. А што «ого-о!», калі я і так ледзь стаю, ледзь іду і ўсю ноч перад гэтым не спала. А потым я адна ўрок вяла, замяняла настаўніцу. Ну, я не ведаю! Адзін уваткнуў у шчыліну ў парце пруток, самі глядзяць на мяне, ды гэтак уважліва, а нешта ўсё гудзе і гудзе, як чмель. Пакуль гэта я здагадалася, пакуль узяла сябе ў рукі!.. І вось баюся цяпер, хвалююся. Праўда, тут у мяне будзе змешаны клас, і хлопцы, і дзяўчаты.

— Тут і дзеці спакайнейшыя, Людачка, чым у горадзе. Я табе і не такое магу расказаць. Гэта я чуў, калі студэнтам у Мінску на сесіі быў. Адна практыкантка заходзіць у клас, настаўніцу замяняла, а там — калі ласка! — бімбус з восьмага раздзеўся, як гаворыцца, да расолу, стаў на стале і састроіў з сябе Апалона. Практыкантка, вядома, «ах!» ды назад. А пераможцы — равуць! Студэнтка — да дырэктара. Той — чалавек нервовы, інвалід — узяў сваю кульбу, прычыкіляў у клас і проста так, ад душы аперазаў Апалона па галышах. Скандал, чэпэ! Назаўтра пад'язджае да школы лімузін, уваходзіць Апалонаў тата. «Вы як адносіцеся да дзяцей? Мы падумаем, што вы нагогул за тып, ці месца вам у савецкай школе!..» А тып гэты — Алёша Рэдкі — пяць год у панскім астрозе сядзеў, у танку гарэў на Курскай дузе. Хлопец шчыры, разумны. Мой даўні, Людачка, друг. Гэта ён мне і расказаў. Вось яно як. У нас тут, у вёсцы, прасцей. У мяне быў летась такі выпадак. На камсамольскі сход запрасілі таго-сяго з бацькоў. Пры бацьках давай адсталых прабіраць. Адзін дзесяцікласнік — хоць жані, а двоек больш, чым троек. Бацька яго чырванеў, чырванеў, а пасля за рэмень і давай! Выехаў на ім з класа, а сам вярнуўся, штаны падпяразвае і просіць: «Таварышы, ізвяніце...» Таксама, Людачка, скандал. Там была дзікасць на аўтамашыне, а тут... Ну, тут не дзікасць, тут прастата. Не прызнаю я гэтага дзялення на мужчынскія ды жаночыя школы. У нас тут, вядома, разам усе, і ваш брат вельмі добра ўплывае на нашага: дзяўчаты ўносяць у клас высакароднасць нейкую, пры іх меней хамства... А што бывае часамі настаўніку і нялёгка, бывае, калі і сарвешся, дык што ж — Макаранка і той не вытрымліваў. Баяцца, Людачка, не трэба.

— Я не баюся, Сяргей Рыгоравіч, я ўсё хвалююся, як яно будзе.

— Ну, хваляваццa ты будзеш заўсёды. Я — стары верабей, тры гады завучам, цяпер ужо тры дырэктарам, і то хвалююся. І добра, Людачка. Мы робім не абы-што, мы выхоўваем чалавека. Вучы іх любіць працу, людзей, зямлю, няхай адразу ведаюць, што да чаго.— Ён спыніўся.— А ведаеш, Людачка, што? Калі часамі будзе нялёгка, дык ты мне напішы. Мы з табой не то што, а старыя сябры.— Ён засмяяўся, успомніўшы яе, партызанскае дзеўчанятка, што называла яго дзядзем.— Тут у цябе, вядома, будзе свой калектыў. У мяне таксама калектыў,— ёсць з кім параіцца. Праўда, мне больш самому даводзіцца раіць. А так часамі хочацца напісаць каму-небудзь, падзяліцца з другім!.. Дык напішаш?

Яна стаяла ад сонца, у белай вышыванай кофтачцы, зацягнутай чырвоным шнурком, трымала ў руках зялёную галінку, сарваную на хаду, і ўсміхалася, нібы старэйшаму брату.

— Я напішу, Сяргей Рыгоравіч, абавязкова напішу.— А потым сказала, таксама проста і нечакана: — Вы такі добры, разумны.

— Ну, такі ўжо і добры, разумны...— Ён усміхнуўся шырока.— Чаго добрага — скажаш яшчэ, што і прыгожы? А ты напішы. І не толькі тады, калі будзе цяжка, а проста сядзь калі-небудзь і напішы. Як Максіму, як Толю.

— Ой, што вы, што вы, Сяргей Рыгоравіч,— сказала дзяўчына, гледзячы на траву.

— Ты не саромейся, Люда. Мне, старому, можна ведаць усё. Толя — добры хлопец. Малады яшчэ, трохі гарачы, але добры.

— Ну, я пайду, Сяргей Рыгоравіч. Я вас і так затрымала.

Сваім, прывычным, ледзь прыкметным рухам Люда страсянула галавой і працягнула Аржанцу руку. Не выпускаючы яе маленькай, гарачай рукі са сваёй мужчынскай, дужай, Аржанец усміхнуўся на гэты раз трохі збянтэжана.

— Ну вось, а казала, што добры, разумны... Ты выбачай мне, Люда. Я проста так... Не проста так, а я хачу, каб ты была шчаслівая. А ўзяў і глупства ляпнуў. Не крыўдуй.

— Не, не глупства, Сяргей Рыгоравіч,— сказала дзяўчына зноў нечакана, звыш усякай свае смеласці.

— Не глупства? Ну і добра. Вельмі добра.

— А я пайду, Сяргей Рыгоравіч. Вы перадайце ад мяне самае-самае... Ну, прывітанне Марыі Міхайлаўне. Я так даўно не бачыла яе! Бывайце.

— Люда,— спыніў яе Аржанец.— А ты мне ўсё сказала?.. Усё, што хацела сказаць?

Пад прастадушна-хітраватым позіркам яго дзяўчына апусціла вочы і пачырванела.

— Усё, Сяргей Рыгоравіч,— адказала. Вочы дык узняла, а чырвань на шчоках яшчэ пагусцела.

— Ну што ж,— з усмешкай уздыхнуў Аржанец.— Калі ўсё, дык няхай яно будзе ўсё.

Яна павярнулася і трошкі захутка, нібы вырваўшыся, пайшла назад па светла-зялёнай ад сонца атаве, размахваючы аскубленай галінкай.

— Людачка, а напішаш? — пачуўся голас Аржанца.

Дзяўчына азірнулася.

— Абавязкова напішу! — памахала галінкай на развітанне.

Пайшла і ўжо не азіралася. «Дзяўчынка ты, дзяўчынка!» — ■ дакорам думала пра сябе. І толькі каля першых кустоў над рэчкай азірнулася.

Сяргей Рыгоравіч яшчэ ўсё ішоў — ужо далёка,— каля аўсянага ржышча з маленькімі бабкамі, па непрыкметнай лугавой дарозе.

А сонца было ўжо зусім нізка надградою ўзгоркаў, дзе зеленеюць-сінеюць ляскі.

— Дзяўчынка ты, дурная і шчаслівая дзяўчынка,— сказала Люда ўголас, і захацелася раптам пабегчы па гэтай мяккай, ласкавай траве.

У хаце яна дастала з сумачкі ў шафе пісьмо. Яго пісьмо.

Яно было прачытана толькі сёння на досвітку, калі ўсё ўжо і так было ясна. Люда сёння, вядома, не спала. І не лажылася б нават зусім, каб не тата за сценкай. Яна ляжала на сваёй кушэтцы, успёршыся локцямі на падушку, і ўсё глядзела ў адчыненае акно, за якім нараджаўся новы дзень, такі не падобны на ўсе ранейшыя. І ўсё чытала, перачытвала разгорнуты лісток...

Два хваляванні былі дагэтуль у Люды: яе любоў да Толі, надзея, няўпэўненасць і туга, і другое — думкі пра школу, пра пачатак настаўніцкай працы, да

якой яна рыхтавалася яшчэ з дзевятага класа, пра якую яна думала, можа, не менш, чым пра яго — свайго хлопца, чый вобраз даўно ўжо стаў неразлучны з жаданнем вялікага шчасця, вялікай любві.

І вось яно — першае хваляванне — прайшло. Не, не прайшло, а стала іншым — ужо без тугі, без салодкага болю чакання.

— Харошы мой,— шэпча Люда, зноў гледзячы ў пісьмо Толі, нібы на ягоны партрэт.— Будзе, будзе туга... Яна ўжо вось і пачалася... Ды ўжо не тая будзе туга, не тое чаканне!..

Ну, а другое хваляванне, пра што хацелася сказаць Аржанцу?

«Мамка мая! А ён ведае ўсё...— успомніла Люда.— І Максім, відаць, таксама, і тата... І хай ведаюць. Толькі лепей пасля, калі мы самі падыдзем і скажам, што любім адзін аднаго...

А табе хіба толькі радасна, Людачка? Толькі? Ну, а пра што ты хацела сказаць Сяргею Рыгоравічу, пра што ты яму не сказала? І добра, што не сказала: мы ўжо з Толем і самі падумаем. Самі. Праўда? Толькі ты не спяшайся злаваць і не лічы, што ты толькі правільна думаеш!.. Мне таксама нялёгка, харошы мой, я не чакала, што ты захочаш — каб ехаць адразу, пакінуць усё...»

— Люда! — пачуўся голас са двара.

— Я, тата! Што? — адгукнулася дзяўчына, міжвольным рухам схаваўшы пісьмо. Выйшла з хаты.

— Схадзі ты, дачка, у вёску,— сустрэў яе стары.— Пайшоў бы сам, ды ты схадзі. Да Салаўя зайдзі: ці паедзе ён заўтра з пастаўкай? І я паехаў бы з ім у Навагрудак. Ды ў краму зайдзі. Ты ж казала, што солі трэба на агуркі. На́ грошы.

Люда паглядзела на бацьку і нібы ўпершыню заўважыла яго маршчыны, худую шыю, сівізну валасоў і няголеных шчок, увесь яго да рэшты зношаны і стомлены выгляд. А ён яшчэ ўсё мацуецца! І ёй, як калісьці малой, калі ён прыходзіў у зямлянку з вінтоўкай, або яшчэ раней, калі ён вяртаўся з плытоў, ёй захацелася прыгарнуцца да бацькі, пагладзіць маленькай рукой яго вялікую, спрацаваную руку. Ужо слабыя, каязграбныя пальцы гэтай рукі выцягвалі цяпер з кашалька пакамечаныя рублі, яшчэ ўсё ім самім зароблены, а яна глядзела на яго з пяшчотнасцю і гавары-

ла без слоў: «Ну, і як жа, мой родны, як я пакіну цябе?.. Цябе — мой трэці, мой вялікі клопат. Хіба ж мала табе давялося пагараваць аднаму, пасля мамінай смерці, калі ты не захацеў, каб я пакінула вучыцца, а жыў тут адзін, на доглядзе суседкі-млынарыхі!..» Каб не заплакаць, хутка ўзяла ў яго грошы, замкнула сені, палажыла ў схованку ключ і сказала, дарэмна хочучы ўсміхнуцца:

— Ну, я пайшла.

Перайшла млынавы двор, пайшла па сцежцы каля кустоў.

«А ты не верыш,— гаварыла ўжо свайму Толю,— ты так і думаеш, што мне няма аб чым падумаць...»

— Цё-ця Лю-да! — услед ёй пачуўся знаёмы голас.

Дзяўчына павяла рукою па вачах і азірнулася.

Гэта — Юрка, Іванаў млынароў сынок. Ён бег за Людай па сцежцы, смешна падкідаючы голымі каленцамі шырокія калошыны кароткіх штонікаў.

— Вы ў вёску? — спытаўся загарэлы і, вядома ж, мурзаты свавольнік.— І я таксама ў вёску,— сказаў ён, не чакаючы адказу.

— Ну, хадзем.

Яна на хаду, не гледзячы, падала яму руку і з нейкай асаблівай, небывалай цеплынёй адчула ў сваёй руцэ дзіцячыя пальчыкі. «Мамка мая!» — страсянула галавой на гэта новае пачуццё. І зноў сказала сабе са шчаслівым дакорам: «Дзяўчынка ты, Люда, дзяўчынка!..»

— А мне тата ўжо купіць партфель,— прамовіў Юрка, нібы забыўшыся, што справа гэтая — даўно вядомая.

— Ну, а ракаў ты сёння лавіў?

— Во! — паказаў ён маленькі палец.— Укусіў! А я буду спачатку ў першы клас, а потым, як вырасту яшчэ большы,— у пяты.

— Спачатку ў першы, а потым у другі.

— А потым у трэці, у чацвёрты і ў пяты. І вы мяне будзеце вучыць?

— Буду, Юрачка, буду.

Яна гаварыла неяк рассеяна, абы-што, а маленькаму сябру яе, які не раз ужо расказваў пра гэта і ў іхняй хаце, дзе многа кніг, і ў градах, дзе ўсюды лезуць нягодныя качкі,— сябру-памочніку хочацца пагутарыць.

— Мне цяпер сем год, а потым будзе восем, а потым дзесяць, а потым будзе яшчэ мнажэй.

— Будзе, Юрачка, будзе.

Яна пусціла руку малога са сваёй рукі і зверху абняла яго пад шчаку і падбародак. «Які ты маленькі яшчэ, агародны, надрэчны ваяка! — думала Люда, перабіраючы пальцамі на цёплай хлапечай шчацэ.— А дзе я буду тады, калі ты станеш пяцікласнікам? І ці буду я вас баяцца яшчэ і тады?»

Сцежка ў вёску бяжыць, пятляе паміж надрэчных кустоў. На сцежцы і на траве сям-там валяецца чырвоная шкарлупа і калісьці куслівыя клешні печаных ракаў, з якімі тут няшчадна ваююць хлапчукі. Сонца заходзіць, і кустам у сонцы вельмі добра. А сцежачка бяжыць па беразе Быстранкі за вадой, у той бок, куды яна панесла лодку.

«Дзе ты ўжо, што ты гаворыш цяпер? — думае Люда.— Як я люблю цябе слухаць! І колькі я не буду чуць твой любы, твой усхваляваны голас?.. І калі ты мне скажаш, што праўда не на тваім баку,— што нельга, няможна так вось узяць і пакінуць старога, хворага бацьку, што цяжка мне... Ды мы дамовімся, мы зробім так, што будзе добра ўсё. Толькі ты не спяшайся злаваць, не глядзі на мяне, як глядзеў, калі вы ад'язджалі... Не кажы толькі, можа, нічога Максіму. Можа, пасля...»

...Чарот абапал ракі густы і высокі, з залацістымі ад апошніх промняў сонца мяцёлкамі.

Над хлопцамі толькі неба, а пад імі вада, ужо ахопленая ценямі вечара.

Толя сядзіць на носе чайкі, і на ўзбраенні яго — доўгі, лёгенькі шост і «іжаўка» дзядзькі Антося, якая ляжыць на брызенце плашч-палаткі, прыемна пабліскваючы варанёнай сталлю ствалоў. Шастом студэнт час ад часу папіхваецца, дапамагаючы плыні, а потым кладзе яго ўдоўж лодкі і з таямніча-ўрачыстым выглядам бярэцца за стрэльбу.

У чарацяным гушчары шчабеча ды шастае нейкая птушыная дробязь. Качак пакуль што няма, аднак яны могуць быць. Двойчы ўжо ўздымалася над ракой, відаць, усё тая ж самая хітрая чапля, не падпускаючы на стрэл. Навошта яна Толю ці Максіму — невядома, аднак першы стрэл неабходны.

У месцах, дзе з-за павароткі адкрываецца шырокая, падазроная глыбіня, Толя кладзе стрэльбу і бярэцца за шост. Чайка спыняецца каля берага, і Максім, з палёгкай палажыўшы сваё рулявое вясло, пачынае «абмацваць» спінінгам «вельмі ж адпаведную мясціну».

Шнур разматваецца з катушкі з хлёсткім, шматабяцаючым посвістам, новая блясна без лішняга ўсплёску ападае на ваду метраў за дваццаць ад лодкі (рака вузкая, і закід не поўны), катушка шуршыць, наматваючы шнур, і, вядома ж, напуста,— шчупакі тут не дурнейшыя за чаплю.

«Абмацаўшы» мясціну, Максім кладзе спінінг побач са стрэльбай і зноў бярэцца за вясло.

Пасля вудачкі і новай няўдачы яно здаецца яшчэ цяжэйшым.

Відаць, і праўда, што стары зрабіў ім гэтае вясло на злосць. Абрабавалі яго хлопцы ўшчэнт — і стрэльбу забралі, і самі паехалі... Як было людна ў хаце, так стала ціха. Засталася толькі Людачка, гаспадыня...

Хлопцам, думаў стары, і сапраўды, відаць, патрэбны гэты «шпінінг» і стрэльба. Ім відней. А дзядзьку Антосю, які і сам добрую палавіну жыцця не сядзеў у хаце, відней тое, што да гэтай «панскай вудачкі» і стрэльбы не пашкодзіць і добры грунт, які ў партызанах называўся таксама вучоным словам «энзэ». Грунт гэты дзед палажыў у лодку, зверху замаскіраваўшы яго дзвюма трафейнымі плашч-палаткамі. Энзэ і сапраўды грунтоўны — аполец сала, бохан хлеба, пара каўбас, з кошык бульбы і яблыкі. Ну, чыгунок і скавародку хлопцы ўзялі самі. Солі таксама ўзялі, перцу, цыбулі. Няважна, што яны будуць саліць — дзікую качку ці хатнюю бульбу,— важней за ўсё тое, што пасаліць будзе што.

Толя думае так, і перад вачыма яго ўстае высокі бераг — грэбля каля моста, высокая, сутулая постаць старога, які ўрачыста прыўзняў над лысінай шапку.

Ад успаміну гэтага робіцца неяк па-новаму сумна...

Побач з дзядзькам Антосем на грэблі стаяў Аржанец з веласіпедам і Люда.

Аржанец, якога ўжо недзе чакала сям'я і школа з новымі клопатамі рамонтаў і канферэнцый і калгас з турботамі гарачай уборачнай пары, глядзеў на спі-

нінг і стрэльбу крыху скептычна, адпускаючы дабрадушныя жартачкі.

А Люда, жмурачы вочы ад сонца, сумна ўсміхалася і махала рукой...

«Любы мой, я не магу так пакінуць усё...» — успамінае Толя і азіраецца на Максіма.

Спакойны, чорт, маўчыць, як нейкі новы, лесатэхнічны Міклуха-Маклай, што для навукі не пашкадуе нічога, якога нішто іншае, здаецца, не цікавіць, які ні аб чым яшчэ не здагадваецца.

Ды не! Відаць, здагадваецца, ведае. Бо што ж яму было падумаць учора, калі вярнуўся апоўначы і не застаў Люды ў хаце, а Толі на сене? А ранейшыя іхнія пісьмы, пра якія ён ведаў? Аднак «начальнік экспедыцыі» маўчыць, а вось зноў пачынае ціха спяваць...

А Люда ўсё глядзіць. Сумна ўсміхаецца, махае рукой і глядзіць...

Ноччу яны гаварылі пра ўсё. Многа можна сказаць і за кароткую ноч, у паўзах паміж мільёнамі пацалункаў.

Аднаго толькі ён не сказаў ёй — пра сваю ганьбу, пра ўцёкі ад таго «чаму»... Можа, таму не сказаў, што вось прызнаўся ціха Аржанцу, а ён — ой, любіць камісар пагаварыць! — зрабіў гэта ледзь не тэмай застольнай гутаркі. А можа, не сказаў ёй *пакуль што,* хочучы быць мужчынам як найбольш? Ці проста пасаромеўся, збаяўся, як блазнюк?..

Сказаў затое іншае. Нечакана, здаецца, і для самога сябе. Сказаў, што ім трэба ехаць адгэтуль. Божа моцны — якім ён раптам аказаўся звышпрактычным чалавекам!.. Плёў ёй штосьці пра іхні пакойчык, які яны наймуць, пра школу, у якой ён там, у Мінску, знойдзе ёй работу, пра яе зарплату і яго павышаную стыпендыю... А яшчэ лепш — казаў, што пашле яе ў педагагічны інстытут. Бо што там яе двухгадовы настаўніцкі!.. І верыў, здаецца, што гэтак будзе найлепш, што толькі гэтак і трэба...

Не вельмі працверазіўся і сёння.

Пасля гутаркі з Максімам на астраўку ён пайшоў у хату. Дакладней — у кухню, дзе яна, Люда, уходжвалася каля печы. У хаце за сталом чытаў Аржанец, і ў кухні яны, хоць і дзверы зачынены, пачалі шаптацца. І цалаваліся трохі. Яшчэ цішэй, здавалася, чым шапталі.

Усё ўчарашняе, начное вярнулася да яго, нават і тыя словы: «Трэба нам ехаць адгэтуль». Тое законнае, гарачае жаданне ўжо цяпер, неадкладна і назаўсёды быць разам. І ён упарта сказаў ёй пра гэта зноў.

У тым самым, што ўчора, калі аддаваў ёй пісьмо, у белым фартуху на сіняй, з белым гарошкам сукенцы, павязаная той жа сіняй касынкай,— Люда стаяла перад ім, толькі што вызваліўшыся з абдымку. І зноў яму не верылася, што гэта ён яе то горача, то ў ціхім забыцці цалаваў, што гэта яна яму адказвала сарамлівай, гарачай пяшчотнасцю. Цудоўнае, бясконца новае нявер'е!.. Яна шаптала:

— Ну... Толя... Ну, калі трэба, каб ты паверыў, дык я табе магу паўтарыць, што я... Ах, ну цябе!..

Яна яшчэ ўсё не магла зусім спакойна вымавіць тое простае слова, што заключала ў сабе ўвесь вялікі, хвалюючы, сонечны свет іх пачуццяў. У мілай разгубленасці яна апусціла вочы, пакруціла ў пальцах левай рукі гузічак на яго каўняры, а потым... неяк зусім нечакана спакойна і нават уладна абняла яго правай рукой за шыю і прыпала да губ гарачымі, духмянымі губамі.

— Ну... вось...— сказала, перавёўшы подых. Збянтэжылася зноў і, усміхнуўшыся, дадала: — Вось да чаго ты даводзіш дзяўчыну...— Тады па-свойму, набіраючы сур'ёзнасці, страсянула галавой і пачала сваё.— А ўсё ж я не магу цяпер паехаць з табой. І ты не злуй, не глядзі так. Ну, як я пакіну хворага бацьку? Максім яшчэ цэлы год не зможа яго забраць. А потым... не магу я так, што вось і ты і я махнём на гэта рукой — і па ўсім. А я ж хацела жыць, працаваць у вёсцы. Буду далей вучыцца завочна. Вось як я думала, Толя...

— Ну што ж...— сказаў ён, яшчэ гарачы, ужо засмучаны і надзьмуты.— У цябе ёсць свой план...

— А ты не смейся — ёсць.

Пад нечакана сур'ёзным і дзіўным, як здалося яму, позіркам Люды ён збавіў важнасці, але яшчэ ўсё з крыўдай сказаў:

— Калі ўсё гэта толькі так...

Пачаў і спыніўся. А яна з пакорнай і пяшчотнай Людачкі раптам ператварылася ў сталую і незаслужана пакрыўджаную жанчыну.

— Што ты сказаў,— прашаптала яна, гледзячы яму ў вочы.— Што ты толькі сказаў!.. Я не чакала,

Толя... Я табе ўсё сказала. Я табе ўсё і заўсёды буду адразу... А ты...

Нехта затупаў каля парога сяней...

Ён баязліва, саромеючыся гэтай боязі, узяўся за клямку...

«Як неразумна ўсё гэта! — падумаў ён цяпер, у лодцы.— Як неразумна і як горка!.. Там шчырасць, а ў мяне? Капрыз?.. І так паехаць, пакінуўшы яе з тым сумам у вачах!..»

...Тым часам непрыкметна пачалася ноч.

Пра гэта хлопцам напомніў першы бабёр.

У цішыні, якой не можа парушыць ні далёкая песня адтуль, дзе палі і дарогі, ні грукатанне экскаватара, што ўжо даносіцца па вадзе з таго боку, дзе Нёман, пры зорках, што неяк цьмяна прасвечваюць з высокай вышыні, і пры месяцы, які барвовым акрайцам устаў над лугам,— у такой цішыні і спакойнай паўцемры выйшлі на працу нядаўнія госці гэтых мясцін — бабры.

Вочы цяпер не слязяцца ад святла, балотны цясляр у прыцемку не плача. Грузна выбраўшыся на бераг, ён перакусіць спачатку, чым багаты кусты і чарот, пасля бярэцца за працу. Відаць, адзін з навасёлаў, бежанцаў, якога напалохаў каля Нёмана экскаватар...

Той магутны, агромністы звер робіць там нейкую сваю, не бабрынага розуму справу,— грызе вялізнай зяпай аброслы бераг, ірве карэнні лазняку і алешніку, грукоча на ўвесь свет, узнімаючы галаву на даўжэзнай шыі, паварочваецца і выплёўвае ўсё гэта далёка на траву. І як тут не спалохацца рахманаму бабру?..

Уцёк уверх па Быстранцы і зноў будуецца, з той самай векавой зацятасцю, як рабіў і мужык — пагарэлец ці бежанец,— які ніколі не змагаўся з суровай бядой слязьмі ды ўздыханнем...

Вялікія, моцныя зубы бабра, якімі ён грызе і пад вадой, якіх ён нават сплючы не можа закрыць губамі, заядла і ўпарта скобляць альховы камель, доўга — пакуль не ляжа на ваду яшчэ адна зялёная загата...

Ды што гэта? Усплёскі вады... галасы... Бабёр насцярожвае слых і, стаіўшыся, слухае. Успамінае, відаць, балотны бежанец той час, калі яго везлі сюды, у мясціны, якія спачатку здаваліся ціхімі. А можа, успамінаецца яму бліжэйшае — нядаўні, новы страх, калі яны, людзі, прыйшлі сюды, у свет ягонай ці-

шыні, з магутнай і грукатлівай пачварай? Ці, можа, проста, без думак сыходзіць з дарогі таму, хто мацнейшы?..

Вось ён паслухаў і, пераканаўшыся, што небяспека набліжаецца, ціха спусціўся на ўсе чатыры і — да вады. Губы прывычна сціскаюцца за разцамі, вушныя ракавіны шчыльна закрываюцца і, адапхнуўшыся ад берага моцнымі заднімі нагамі, ён, як калодка, потырч бухае ў ваду. Яшчэ і плясне хвастом — будзьце здаровы, злавіце!

Першы бабёр нырнуў зусім недалёка ад лодкі.

— Ах, чорт! — адначасова жахнуліся хлопцы. І стала раптам весялей.

— Ну, тут пайшло, брат, бабрынае царства,— сказаў Максім.

— Ба-бух!! — пачулася зноў перад лодкай.

— Вось паспрабуй здагадайся, калі ён...

— Ба-бух!! — раздаўся ўсплеск яшчэ бліжэй.

— Глядзі, глядзі, а во ён! — прыўстаў над лодкай Толя.— Вунь галава! А ну!..

Ён замахнуўся шастом, як восцямі, і сунуў ім у ваду.

— Якраз, папаў! — засмяяўся Максім.

Баброва галава паказалася двойчы і знікла, шост парнуў у пустую ваду.

— І дарэмна,— з дакорам заўважыў Максім.— Ну, раніў бы, і што?

— Больш не буду,— сказаў Толя і ціха засмяяўся, успомніўшы, што так апраўдваюцца малыя. Ён сеў.— Будзем чакаць, ці здолееш хоць «э!» сказаць, пакуль ён бухне.

Бабры больш не ныралі. Відаць, на гэтым участку яны будаваліся талакой. Магчыма, і чарка была бабрыная: бо што ж ён так раздурэўся, непаваротлівы цяльпук?

— Ён цяпер недзе...— пачаў Толя.

— Ба-бух!!

— А, злодзей! Так і не даў дагаварыць. Ён цяпер недзе прыўзняўся ды слухае. А зараз перахрысціцца і гупне!

— Перахрысціцца?

— Ды так жа дзядзькі старыя ныраюць,— хто добра плаваць не ўмее. «У імя айца і сына...»

— Ба-бух!!

— А ну вас, усё ж такі годзе! — засмяяўся Максім.— Усе нервы затузаюць.

Бабры зацiхлі на даўжэйшы час.

Лодка ўвішна выкручвалася на быстрай плыні стрыжня. Стала зноў добра чуваць, як шумяць верхавінамі чараты. Пачулася нават цвырканне коніка,— ці за трысцём, ці ў трысці. Пад вяслом і шастом ласкава плёхала ды булькала вада. І грукат экскаватара чуўся ўсё больш выразна.

— Халаднавата, аднак,— Толя пагладзіў голы плячук.

— Нічога, здорава. Ідзі вось памянці маім вяслом — нагрэешся.

Памяняліся месцамі. Закурылі, прыемна ўнёсшы ў гэтую цемру святло запалкі, а потым двух агеньчыкаў — маленькую адзнаку чалавечай сілы.

Гул экскаватара набліжаўся. Чуваць ужо нават і лязгат жалеза, і стук каўша, які ападае на грунт, і ўзмоцненае, нібы злоснае, вурчанне гэтай магутнай істоты, калі яна ўгрызаецца ў замацаваную, пераплеценую карэннем зараснікаў зямлю.

— Хочаш тэму, пісьменнік? — спытаўся Максім.

— Хачу, прафесар, давай. Пра што ты — пра экскаватар?

— Здагадлівы. А што, не падабаецца?

— Электрастанцыя. Асушка. Новае рэчышча. Не нова.

— Брэшаш або прыкідваешся. Ніводнай тэмы нельга вычарпаць да дна. Калі падыходзіць, вядома, не з боку экскаватара, а з боку чалавека.

— І калі чалавек гэты не будзе падобны на экскаватар,— сказаў у тон Максіму Толя. І засмяяўся.

— Самому смешна? — спытаўся Максім.

— Ды не. Я ўспомніў «Жніво» Нікалаевай. Там у яе сакратар райкома. Дзесяць гадоў жанаты, вельмі хоча мець дзяцей, але ніяк не збярэцца, не выбера вольнага часу, каб заняцца гэтай неграмадскай справай... Перадавіца ў галіфэ.

Максім засмяяўся, хіхікнуў па-свойму. І, памаўчаўшы, прадоўжыў сваё:

— А пра тэму я, браце, сур'ёзна. З меліярацыяй. Важней за ўсё — дзе гэта робіцца і хто гэта робіць. Скажам, у нас тут, у Заходняй, дзе народ нядаўна пачаў гаспадарыць, дзе некаторыя ніяк яшчэ не могуць

цвёрда паверыць, што яны — гаспадары свайго жыцця, нібыта ніяк не могуць апамятацца ад векавой няволі. Ясна?

А гул усё набліжаўся. Потым, на адпаведных паваротах рэчкі, паміж двума радамі чароту паказалася святло фараў.

— Хутка нас панясе, як з гары,— сказаў Максім,— уедзем толькі ў канал. Бачыў, куды адгэтуль бабры паўцякалі? І рыбы меліяратары, відаць, набраліся ў завоінах!

Неўзабаве лодка параўнялася з экскаватарам, пад страшэнны, ажно балючы грукат яго (нават і прывітання не крыкнеш!) прайшла з апошняй завіліны ў новае, простае рэчышча, і яе панясло, нібы да вадаспаду.

Па плану, распрацаванаму дома, першы начлег быў прызначаны на Нёмане. Сёе-тое ўжо беззваротна адпала: ні смажанай качкі, ні юшкі сёння не будзе. А потым і ўвесь план першага вечара стаў пад пагрозу зрыву.

Берагі былі па-ранейшаму высокія і чорныя, толькі ўжо не шумелі,— замест чароту абапал вады ўсталі высокія тарфяністыя сценкі нядаўна выпрастанага рэчышча. Над правым берагам неяк таямніча чырванеў вялікі акраец месяца, цяпер ужо трохі вышэй, чым звечара. Плынь пачала супакойвацца: Быстранка нібы сагнала ахвоту, пайшла павольней.

І вось неўзабаве — зусім нечакана і непрадбачана — у гэтым чорным, глыбокім і бясконца доўгім карыце лодку спыніла загата.

— Прыехалі,— сказаў Максім, упёршыся ў яе шастом, каб зменшыць штуршок.

Вада ішла пад ніз, а на вадзе, на ўсю шырыню ракі, трымаўся нейкі незразумелы для хлопцаў мост з бярвенняў, галля і гразі.

Пад нагамі — Максім адчуў гэта першы — бярвенні ўгіналіся, танулі.

— Пайграем мы тут накцюрн,— сказаў Толя, следам за Максімам выйшаўшы з лодкі на мост.— Старое, брат, параўнанне, але праверку вытрымлівае: глядзі — угінаюцца, як клавішы...

— Пакурым,— яшчэ ўсё спакойна вырашыў Максім,— а потым усцягнем свой карабель на гэтыя клавішы. Па спосабу продкаў — волакам. Вось толькі смала са дна абдзярэцца.

Спосаб продкаў аказаўся нялёгкім. Можа, не так было б цяжка цягнуць, ды цяжка, нязручна замацавацца на коўзкіх і хісткіх бярвеннях. Крыку было, аднак, няшмат. Нагружаная «чайка» ўспаўзла нарэшце на мост, з'ехала сваім вялікім жыватом на ваду і зноў панесла наперад стомленых, але яшчэ ўсё вясёлых падарожнікаў.

Значна больш крыку было на самым парозе Нёмана, каля першых хат вёскі Астравы.

Парогам гэтым быў моцны праязны масток, настолькі нізкі, што пад яго не праедзеш, і настолькі высокі, што лодку на яго не ўсцягнеш. І берагі абапал — крутыя...

— Вось дзе будзе накцюрн,— плюнуў Максім і ўпершыню за ўсю дарогу вылаяўся.

А неўзабаве яму, пасля кароткага роздуму, прыйшла геніяльная думка, з якой яны абодва згадзіліся ў нейкім атупенні ад стомы і прыкрасці. Будучы вучоны стаў ракам на носе лодкі, а будучы пісьменнік пачаў нагамі пхаць чайку пад мост, асаджваючы яе глыбей у ваду таксама геніяльным чынам,— ён учапіўся рукамі ў масток з-пад нізу, нібы хочучы выцягнуць яго тоўстыя па́лі са дна... Яш-чэ! Яш-чэ! Рраззам!.. І раптам пад мостам пачуўся немы крык аспіранта.

Выцягнуць лодку назад было яшчэ цяжэй, тым больш таму, што і ў студэнта аказаліся нервы. Ды вось, даўшы хлопцам магчымасць удосталь налаяцца, старая, бывалая чайка вылезла носам з-пад моста і, пайшоўшы кармой за плынню, спакойна прышвартавалася да канцоў маснічын.

Максім сеў на мастку, памацаў шыю, якую яму прыцёрла недзе там, у гэтай непрыветлівай цемры, бартом да бэлькі, памаўчаў хвіліну, а потым раптам зайшоўся ад ціхага смеху. І Толя, нібы пачуўшы сігнал, падтрымаў яго ахвотна.

У гэты рогат раптам уварваўся брэх сабакі. Хлопцы азірнуліся.

— Добры вечар, людзі! — пачуўся голас мужчыны, які з'явіўся на беразе нібы з-пад зямлі.— Ціха ты, Мурза! Пайшоў! Відаць, падарожныя?

Мурза супакоіўся, нават панюхаў Максіма, дыхнуўшы на яго цёплым і казытлівым сабачым пахам.

Дзядзька быў інвалід, на кавяле, і са стрэльбай. Ён вартаваў, відаць, калгасны двор, будынкі якога і высокія стагі цьмяна вырысоўваліся на шэрым небе.

Толя пазнаў чалавека: гэта быў Собаль, учарашні завознік. Ды хлопец вырашыў пакуль што памаўчаць: не вельмі хацелася прызнавацца...

А Собаль, відаць, не пазнаў яго.

На прапанову вартаўніка — занесці рэчы ў яго хату, «вось тут, недалёка», а самім пайсці ў адрыну на сена — падарожнікі не згадзіліся.

— Што вы, будзем вам ноч калаціць,— сказаў Максім.— Мы яе зараз на бераг.

Вылажылі з чайкі на мост і занеслі на бераг усю сваю гаспадарку, тады дзядзька паставіў стрэльбу да дрэва, і ўтрох яны, пакрактаўшы, усцягнулі лодку на сушу. Толя злажыў манаткі ў носе лодкі, у галавах, і пачаў масціцца на начлег. У яго было сена, дзве плашч-палаткі і Максімаў ваенны шынель.

— А можа, усё ж такі ў хату пайшлі б,— яшчэ раз прапанаваў вартаўнік, і ў яго простай, шчырай гасціннасці злёгку, здалёк пачулася трывога за гэтае іх суседства з калгасным дабром.

Атрымаўшы яшчэ адзін «дзякуй», Собаль пачаў закурваць.

— Давайце майго,— працягнуў ён хлопцам капшук.— Самасадзіку. Астравецкага. А пра навіну вы, вядома, чулі?

— Пра якую?

— Як гэта пра якую? А пра падатак?

— А што? — спытаўся Максім, непрыкметна штурхануўшы Толю локцем.

— Як гэта што? Я сам па радыё слухаў, вось так, як з вамі гавару. А сёння мужчыны яшчэ раз чыталі ў газеце, хто чуў, а хто яшчэ не чуў. Палёгка нашаму брату. А як жа! І падатак паменшылі, і нядоімкі ўсе скасавалі. І як жа гэта вы не чулі, га?

У голасе чалавека зноў пачулася нотка трывогі,— што такія за людзі: свае, не свае?.. І са стрэльбаю, і гадзіннікі на руках, і без шапак... Куды гэта ім рупіць так, што і ноччу не спяць?..

Адчуўшы гэтую трывогу дзядзькі, Максім сказаў:

— Чулі, вядома, і мы. Я, дзядзька, з Лазовіч,— дадаў ён.— Нагорнага сын, з млына. А гэта мой таварыш. Ясна?

— Ага! — прыгнуўся Собаль над Толем, які ўжо залез пад шынель і палаткі.— Прывітанне, таварыш студэнт! А я гляджу ды баюся ўкляпацца: знаёмы ці не? У хованкі гуляеце. Пад коўдзерка ўцяклі.

Ад апошняга слова ў Толевай душы яшчэ раз азваліся сорам і боль за ўчарашнюю ганьбу. Але хлопец прыцiснуў іх напускной весялосцю:

— Добры вечар, таварыш Собаль,— сказаў ён і вымушана засмяяўся.— Я вас пазнаў, але бачу, што вы так спалохаліся — дай, думаю, праверым, што вы за вартаўнік.

— Спалохаўся? Можа, вы скажаце: чаго?.. Я толькі, што вы, хлопцы, кажаце: не чулі. Гэта ўвесь свет пачуў. А як жа! Чаго добрага, без бацькі, сіротамі, пачнём лепей жыць, як пры бацьку.— Паслухаўшы цiхую паўзу, ён нібы схамянуўся, што ляпнуў лішняе. Стаў папраўляць самога сябе: — І жыць тым часам пачнём лепш, і вайны, відаць, не будзе. Каго ж нам баяцца? Усюды наша пралетарская струна прайшла. Абы яна добра звінела... А вы, мусіць, будзеце спаць?

— Ды ўжо ж,— адказаў Максім, кладучыся побач з Толем.— Наша работа днём.

— І гэта праўда. Я дык днём паспаў.

Ён памаўчаў.

— А можа, хлопцы, і праўда ў хату,— сказаў яшчэ раз.— Каля вады яно ўсё ж такі пройме. Нібы і нязручна, каб свой чалавек ды каля хаты твае на холадзе, не раўнуючы, як сабака...

Праз салад дрымоты Толя пачуў, як Максім засмяяўся, а потым сказаў:

— Дзякуем, дзядзька. Колькі ўжо тут засталося да раніцы.

А Собаль усё не адыходзіцца. Ён пастаяў, падумаў і, перамогшы ветлівасць, азваўся зноў:

— Можа, яшчэ і з пастаўкамі будзе лягчэй? А то крычаць, а то гоняць!.. «Першая запаведзь...» Па-мойму, ты раней глядзі, каб добра з поля прыбраў, а тады ўжо малаці. Усё ж яно наша, нікуды не дзенецца. Абы яго больш было. Па-гаспадарску трэба. А як жа!.. Ну, добрай ночы.

Ужо засынаючы, Толя чуў, як вартаўнік пайшоў, памалу шоргаючы па траве ботам і кавялой, а потым свіснуў за кустамі на свайго памочніка.

Дзень для хлопцаў пачаўся да сонца.

Першы прачнуўся Толя. Спачатку нешта доўга і настойліва дудзела яму ў вушы, тузала за нервы, намагаючыся разбудзіць. І разбудзіла.

— Дум-дум-дум-дум...— дудзеў гэты няўмольны, бязлітасны нехта.— Дум-дум-дум...

І адразу, па прывычцы, набытай у Лазовічах, дудзенне гэта здалося Толю грукатам млына. Ды гэта быў нехта іншы. Стары млын гаманіў спакайней, пастарэчы. А тут быў грукат малады, бадзёры, дужы. Металічны стукат матора ападаў на нервы кароткімі, адрывістымі ўдарамі: дум-дум-дум-дум!

— Ну, што гэта? — спытаўся Толя, вылазячы з-пад плашч-палаткі і шыняля.— Што ты дудзіш? — паўтарыў ён, жмурачыся ад святла.

— Рухавічок,— адказаў з-пад суконна-брызентавай цеплыні Максім.

— Не спіш. Які рухавічок? Пайшлі паглядзім.

— Я сабе гэта магу без лішняй турботы ўявіць,— лена прамармытаў у цяпле аспірант.— Зрэшты, каб ты мне тут святою раніцай пісьменніцкай маралі не чытаў, скажу: па-першае, гэта даволі далёка ад берага; па-другое — усіх сваіх манаткаў мы туды з сабой не панясём, а па-трэцяе, і галоўнае, я там учора, са станцыі едучы, быў. Электрастанцыю будуць пачынаць. Пакуль што прывезлі толькі лакамабіль. Во, чуеш, і цыркулярка заспявала. За сасонку ўзяліся: шпунты для катлавана апілоўваюць. Што — тэма? Правільна. Будзеш назад дабірацца — паглядзіш. Праз тыдзень пачнецца самае цікавае. А сёння мы і так спазняемся. Ясна?

— Ну, калі ясна, дык уставай.

— І-эх! — усхапіўся Максім. Ён заскакаў на месцы, басанож па роснай траве, у адных трусах, размахваючы рукамі.— І раз, і два, і тры! І як я-на тут, наша пар-ты-зан-ская Масква?! Глядзі,— пакінуў скакаць.— Глядзі, брат, куды ж гэта падзеліся ўсе маскі?

Астравы — прыгожая вёска. Адбудавалася пасля вайны. У партызанскія дні і яе, як і многа іншых вёсак, дзе размяшчаліся атрады, лясныя хлопцы называлі Масквой. Сады і новыя хаты абапал Быстранкі, якая тут стала шырэйшая. Хаты не проста цяп-ляп, а шаляваныя, з разьбой на белых ці блакітных ліштвах

вокан. Чырвоныя мальвы выглядалі з-за нізкіх штакет гародчыкаў перад хатамі, а за імі зялёнай сеткай поўз па сцяне, вышэй вокан, плюшч. А колькі дрэў! І ў садах, і на вуліцы, і над ракою.

— Хараша, праўда? — спытаўся Максім.— Слупы ды лямпачкі будуць тут вельмі дарэчы. Глядзі,— не хапае толькі, каб якая-небудзь астравецкая прыгажуня ўзышла на масток. Такая румяная, цёпленькая пасля сну. І ўсміхаецца. Што ты мне скажаш?

— Надзень штаны, а то няёмка будзе. Ну, хутчэй! Качкі толькі што ўсталі, і рыба збіраецца снедаць.

«Спосаб продкаў» на гэты раз быў лягчэйшы. Лодку перацягнулі цераз дарогу каля моста без асаблівай цяжкасці. І вось яна пайшла каля гародаў, дрэў і хат, у вялікія чыстыя вокны якіх заглядала зара.

Плынь Быстранкі чамусьці зноў пачала варушыцца шпарчэй, нібы рака пайшла больш крута ўніз.

— Вось тут, брат, зноў памчымся,— павярнуўся да Толі Максім.— Памятаеш, дзе быў калісьці князеў млын? Паліцаі ўзарвалі яго ў блакаду. Тут якраз будзе калгасная ГЭС. Зараз мы пойдзем, як на дняпроўскіх парогах.

І праўда. Неўзабаве, за крутым паваротам, Быстранка раздзялілася на два рукавы. І ў кожным з іх ваду цягнула, як у лейку.

— Плакаў твой човен, пісьменнік! — крыкнуў Максім.— Улева, улева бяры!

Толя скіраваў па камандзе. Весела! Шуміць, імкнецца вада, а недзе там, з-за дрэў правага берага, нібы падыгрываючы марш, задорна дудзіць рухавік і звініць цыркулярка. Горла лейкі звузілася яшчэ больш, старую лодку, не вельмі прызвычаеную да гэткіх уражанняў, ірванула наперад і, як з парога, пляснула днішчам на глыбіню. Яшчэ дзесятак метраў быстрыні, і рукавы рэчкі, вырваўшыся з-за вострава на шырыню, злучыліся.

Быстранка пачала памалу заціхаць, нібы ўжо адчула ўсю важнасць моманту — сваё злучэнне з вялікай ракой.

Нёман адкрыўся хлопцам урачыста ціхі, велічны.

Напрасткі, за шырокай люстраной роўняддзю, відаць быў адхонны бераг, а далей, пад зарой — піла лясного далягляду. Свет блакітна-ружова-зялёных фарбаў ціхай раніцы, раскошны свет вады, травы і сонца.

— Эх, прыгажосць! — ускрыкнуў Максім. Ён устаў.

Толя падняўся таксама. Без цяжкага вясла яму захацелася раптам або ўзмахнуць рукамі і паляцець над вадой, як лятаюць стрыжы, або падскочыць і нырнуць у гэту блакітна-ружовую глыбіню, як бабёр.

А чайка ўжо ішла сама, падхопленая амаль непрыкметным, магутным стрыжнем знешне спакойнай ракі.

— Ж-жу-ра-вы! Сядзь! — прыцішана скамандаваў Максім.

Налева адкрыўся шырокі плёс.

На светлапясчанай мелізне стаялі журавы. Многа, можа, нават за сотню. Яны — апетыя ў тысячах песень і вершаў — стаялі ціха, як на малітве, ва ўрачыстым роздуме і сузіранні.

— Дай паспытаю шчасця,— шапнуў Толя.

Хлопцы, прыгнуўшыся, памяняліся месцамі.

Гарачая Толева рука асцярожна і прагна ўзялася за халодную сталь двухстволкі.

Ішлі без вёслаў, затаіўшы, здаецца, і подых.

«Яшчэ ці ўжо?.. Яшчэ ці ўжо?» — трывожна пытаўся хлопец сам у сябе, і сэрца яго білася, здаецца, толькі трошкі цішэй ад грукату далёкага ды чутнага яшчэ рухавіка. «Ужо... Узнімуцца, дурань.... Ужо...»

Халодныя, шэра-бліскучыя ствалы ўзняліся. Мушка асцярожненька папаўзла па вадзе да ног адной, яшчэ ўсё ціхай, асуджанай птушкі. І дзіўная рэч! — хацелася нават прасіць яе: «Ну, не ўзляці», нібы ў гэтай просьбе і сапраўды была чуласць, спагада...

Грымнуў стрэл.

— Эх, партач!

Журавы, цяжка махаючы крыламі, узняліся. На фоне вады і блакіту прыгожы ён — магутны, вольны, шэры ўзлёт!

— Качыным шротам. І далёка было,— збянтэжана ўсміхнуўся Толя.

— Раніў, дурань, глядзі,— ледзь не шэптам сказаў Максім, пазіраючы ў неба, услед адлятаючай чарадзе.

Журавы развярнуліся ў клін.

Ззаду адзін прыкметна асядаў, намагаўся ўзняцца вышэй, у сяброўскі паток.

Пачуўся сумны крык — курлыканне журбы...

— Э! Ну і што ж,— неяк міжвольна выдушыў Толя.

І раптам ўспомніў руку без цукеркі, усмешку і Сашкавы вочы, і словы яго: «Ну і што ж...»

Словы тыя гучалі калісьці інакш... І радасць тую не параўнаеш з гэтай вось прыкрай няёмкасцю...

— Нічога, стралок,— сказаў Максім.— На першы раз даруем. А гэта ж грэх, старыя гавораць. Глядзі, як ён змагаецца. А як крычыць! Сядзе. Гэта, браток, не песня. Ясна? Адыдзе, можа, да выраю. Ну сядзь сюды, а я паспрабую без лішняга грукату.

Над вялікай вадою неўзабаве пачуўся шматабяцаючы посвіст шнура і асцярожны ўсплёск блясны.

...Шчупак нарэшце папаўся.

Радасці, праўда, было значна больш, чым жывое вагі, аднак, калі на дно лодкі ўпала гэтая зеленавата-серабрыстая прыгажосць — першы дар маці-прыроды,— хлопцы неяк адразу ўспомнілі пра голад.

— Стрымлівай прагнасць, Максіме,— сказаў сам сабе спінінгіст.— Дай божа памяць,— здаецца, з учарашняга абеду мы не елі. Кіруй на прывал.

І вось на пясчаным, пакрытым рэдкай і жорсткай травою беразе, каля хмызняку патрэсквае агонь, і полымя яго, вельмі ж сціплае ў сонцы, руплiва хрумстаежуе лазовы сушняк.

Аскрэбены і парэзаны на кавалкі шчупак ператварыўся з прыгожай, імклівай рыбіны ў звычайнае, празаічнае мяса. Юшкі — у поўным сэнсе гэтага смачнага слова — не выйдзе: будзе суп бульбяны, так сабе нейкае юшкападобнае варыва ў чыгунку, а на скавародцы — па добраму кавалку шчупака.

Кіпіць, булькоча вада, старанна варочаючы скрылікі бульбы, а неўзабаве засквірчыць, запахне па-хатняму сала з цыбуляй — адзнака таго, што гэты бераг з усёй сваёй як быццам дзікай прыгажосцю абжыты гаспадаром зямлі.

Каля вогнішча свяшчэннадзейнічае Максім.

Толя збірае сушняк. Зноў толькі ў белай майцы, з растрэсенай светлай чупрынай, хлопец стаіць, задумаўшыся, у лазняку і, нібы жораў на плёсе, моліцца ранняму сонцу.

Навокал — неабсяжная прастора пад бяздоннай веліччу неба. А Толя бачыць масток і — на мастку — яе... Яна ўжо ўстала, яна ўжо ідзе па ваду ці ў грыбы,— залітая сонцам, і гэтак родна мілая пасля сну, з іхнім шчасцем, з іхняй вялікай радасцю ў вачах...

«Як хораша!..— думае Толя, п'ючы грудзьмі духмянае, бязмежнае жыццё.— Каб ты ведала, як хараша!..»

Ды вось той самы сумны крык, ужо не чутнае даўно, але прысутнае курлыканне журбы зноў паўтарылася ў яго душы...

А за курлыканнем бязлітасна вярнулася ўчарашняе «чаму»...

Яшчэ не ўсё: радасць у той, уяўнай Люды на мастку змянілася сапраўдным сумам у яе вачах,— з якім ён, адплываючы, пакінуў яе на грэблі...

«І за што я пакрыўдзіў цябе? Ды адразу!.. Навошта быў той капрыз, тая поза? Пасля тых уцёкаў, каля млына, хацелася яшчэ раз уцячы — ужо з табой? Сам ад сябе?.. А ўчора, бедненькі, заснуў, не здолеў нават пагаварыць з чалавекам, падзяліцца з ім радасцю рабацягі, салдата!.. Хто ж ты тады — блазнюк ці нікчэмнасць?..

Не трэба іх — майго страху, а потым болю такога. Трэба праўдзе глядзець у самыя вочы. Не трэба і суму ў тваіх вачах, і маіх неразумных капрызаў. Не трэба ўсё гэта — як непатрэбна беднасць, што нараджае горкія і справядлівыя «чаму», як не патрэбен мой дурны нялюдскі стрэл і гэты вось надрыўны і самотны жураўліны крык!..

Няхай будзе добра, няхай наша радасць, як Сашкава, будзе для ўсіх...

Ну, і чаму мне не сказаць Максіму вось цяпер? Ты лічыш, дзівак, што так ён і не ведае нічога, не здагадваецца? Не сухар жа ён, як здаецца старому, не ўсцярвеў ад навукі. І пра каго ён думае, кажучы пра тую, што, залітая сонцам, ідзе па мастку? Можа, думкі Максіма — пра сваю каханую, што ходзіць недзе па росных сцежках над іншай ракою?.. Няўжо ён хавае гэта ад мяне? А я вось пайду і скажу».

Толя ідзе да вогнішча з маленькай сякерай у руцэ і з ахапкам сушняку пад пахай. Ён кідае гэты сушняк каля агню, кладзе сякеру і стаіць. Выцер адну аб адну сухія, гарачыя рукі. Маўчыць...

А ўсё ж такі і тут нялёгка прызнацца!..

— Ты, Максім!

— Ну?

Ён варожыць усё над сваёй скавародкай.

— Слухай, Максім.

Той пакідае памешваць і, з лыжкай у руцэ,— знізу ўверх — здзіўлена пазірае на сябра.

Пад гэтым позіркам Толя бянтэжыцца і робіць паварот убок.

— Скажы ты мне,— гаворыць ён, не гледзячы на Максіма,— пошта тут па дарозе будзе?

Максім зноў памешвае на скаварадзе.

— У нас там галубы ёсць,— гаворыць ён.— Паштавікі. Ну, і галінку міру абломім табе на бярозе. Пашлеш.

— Пайшоў ты, ведаеш... Я Аржанцу хацеў напісаць.

— І Аржанцу таксама пашлеш. Другога. І з Аржанцом памірышся... Чэрці лазатыя! І трэба ж столькі часу ад мяне хавацца!..

Максім глядзіць неяк зусім незвычайна, з усмешкай, якая з'яўляецца рэдка.

— Як дзеці,— кажа ён, зноў пачынае памешваць лыжкай, а потым з іншай ужо, даўно знаёмай Толю хітраватай усмешкай гаворыць: — А ў пушчы, пісьменнік, я цябе ўсё ж такі з тыдзень які патрымаю. Ясна?

*1953—1955 гг.*

# АПОШНЯЯ СУСТРЭЧА

## 1

Брыгадзір Лёня Жывень, спраўны мужчына гадоў пад сорак, стаіць каля адчыненых дзвярэй драўлянай, пад шыферным дахам, доўгай будыніны. Канчае курыць, каб увайсці туды, адкуль патыхае прывычным для гаспадарскага носа едкім цяплом, чуваць пазвоньванне ланцугоў, пафыркванне і дружная работа мноства сківіц.

Цыгарэта яшчэ не дасмактана да агню, не кінута на маладзенькую, пакуль што не кранутую раннім сонцам траву, не расціснута моцным запыленым ботам...

Гэта выкарыстаў старшы конюх Марцін Хоміч, медзведзяваты дзядзька з рэдкай сівай шчэццю на поўным, румяным абліччы. Ён вывеў з дзвярэй канюшні буланую Мяцеліцу, на якой звычайна ездзіць брыгадзір, і, падазрона ўсміхаючыся, сказаў:

— Проша, пане Расіцкі!..

Лёня кінуў так і не дакураны «бычок», растаптаў яго, плюнуў і моўчкі ўзяў з рук Хоміча павады.

— Што, браток, яшчэ не ўдалося?.. Дай я патрымаю. Ідзі па сядло. І чаго ты спалохаўся? Я не відзялэм, не слышалэм і ніц не повем.

Не адказваючы, брыгадзір накінуў павады на шыю Мяцеліцы, паляпаў яе пад грывай і пайшоў у канюшню. Вярнуўся з сядлом. Асядлаўшы буланку, паставіў у стрэмя нагу, спрытным рыўком узняўся і лёгка сеў. Хацеў і рушыць моўчкі, з месца рыссю, але конюх паспеў цапнуць за павады.

— Тпру, начальнік! Закурым.

Лёня дастаў з верхняй кішэні старога сіняга кіцеля пачак цыгарэт, запалкі і моўчкі працягнуў іх Марціну.

— Та-а-ак,— гудзеў той, паволі прыкурваючы.—

Та-ак... Вясна, таварыш Лёня. А вясной, браток, і трэска на трэску...

Лёня крануў жаробку павадамі, тарkануў абцасамі.

— Сігарэты вазьмі! Куды цябе!..

Удагон ахвочаму, лёгкаму тупату нядаўна па-вясноваму пераабутых капытоў затросся сыты і амаль бязгучны рогат.

Дарога з вёскі Вуглы ў мястэчка Гарэліцу, ад трэцяй брыгады да цэнтра калгаса, ішла каля самага Нёмана.

Каб не злосць на Марціна, што яшчэ больш разварушыла ў душы ўсю горкую чарнату, Лёню было б і сёння прыемна адчуваць сябе яшчэ ўсё маладым. Амаль як у тым сорак трэцім, калі ён — ноччу і днём, па снезе і па такой вось раскошы — гойсаў у самаробным партызанскім сядле. Тут, у родных мясцінах, дзе цяпер на памытай дажджамі і прычасанай баронамі раллі зноў вось празубліваецца ружавата-зялёная рунь яры-ны, дзе над халоднай, здаецца, нядаўна вызваленай ад крыгаў вадою цёпла мармычуць пчолы ў шэрых коцікаx вербалозу, дзе за ракою зноў па-новаму сінее пад зарой старая пушча...

Было б і сёння радасна... Але не будзе... І наогул — чортведама што будзе далей!..

Вясёлая Мяцеліца бяжыць і так ахвотна, а ён усё падварушвае.

Над шэрай і зялёнай ад азімай руні зямлёю Лёню чуецца зверху звон бяссонных жаваранкаў, а абапал, бліжэй — грачыны гоман у голых вяршалінах прыдарожных ліп. Ужо відаць гарэліцкія стрэхі і кроны дрэў, ліняла-сіні купал царквы і белыя сцены электрастанцыі на ўскраіне — усё гатова прыняць першыя промні сонца. Урачыстая, хвалюючая цішыня.

А ён зусім, здаецца, не заўважае ўсёй гэтай прыгажосці...

Мышастая «Пабеда» ўжо стаяла каля ганка праўлення. Сам старшыня, каржакаваты і рухавы Адам Бухавец, стаяў у пустой яшчэ канторы каля тэлефоннага апарата, прымацаванага да сцяны, і, трымаючы сваёй адзінай, левай рукою трубку, крычаў у яе так, што той, з кім ён гаварыў, свабодна мог бы, мусіць, пачуць і без дратоў на слупах.

— ...Ім добра гаварыць, таварыш Варонін, калі ў іх станцыя пад бокам! Хто бліжэй да міскі, той і чэрпае.

А табе... Што?.. Ды хто з вамі тыкаецца? Гэта я сам сабе... Я не ківаю на Пятра, я толькі гавару, што і мы не ў бога цялятка ўкралі... Што?.. Я, таварыш Варонін, словамі не кідаюся... І вы мяне, калі ласка... Што?..

Адам пачырванеў яшчэ больш, злосна скрывіўся і, закрычаўшы ў трубку: «Пагаворым, а чаму ж не!..» — нарэшце павесіў яе, а ручку рэзка крутануў на адбой.

— Здароў, браце Жывень,— сказаў ён, выціраючы далонню ўзмакрэлы лоб.— Чуў: «Чаму так рана? Чаму на кватэру?..» Яшчэ я і вінават!.. Ну, што там у цябе?

Адамавы поўныя шчокі, кнопачка-нос і вострыя шэрыя вочы накрыты нейкай бура-залацістай і заўсёды гладкай чупрынкай, за якую яго нядаўна празвалі Суслікам.

Ды сёння Лёню гэта не здаецца смешным. Не смяшыць таксама шумная мітуслівасць вельмі, зрэшты, талковага гаспадара, які вось і не сказаў, з кім і пра што спрачаўся, а думае, што ты ўсё ведаеш сам...

— У мяне, Пятровіч, атрымалася глупства.

— Ну? — насцярожыўся Адам.— У брыгадзе?

— Ды не...

— Дома што-небудзь?

— Не... Ты, відаць, вельмі спяшаешся?

— А што, доўга расказваць?

— Ды лепш, брат, увечары... Ты позна вернешся?

— Ну, увечары дык увечары. Я паехаў. Калі вырву там яшчэ салетры — пазваню па машыны. А едучы — назад — заеду. Пайшлі. Спраў там у мяне — па завязку...

Следам за ім Лёня выйшаў на двор, пастаяў, пакуль Адам, ужо накрыўшы прылізаную макаўку кепкай, захінуў полы чорнага паліто і сеў побач з шафёрам. «Пабеда» гарэзліва, як дагледжаная жаробка, ледзь не падбрыкнуўшы, стрэльнула дымам і пакацілася.

Лёня плюнуў, хацеў нават сказаць услед Адаму: «Суслік!», але моўчкі падаўся да прывязанай за плот Мяцеліцы. Злосны і на ўвесь свет, і на самога сябе — «Пёрся, цямця, а тут і заняло!» — ён сеў і паехаў памалу.

Куды ляцець?.. Купіць вось толькі цыгарэт.

Не прызвычаеная да ціхай хады Мяцеліца парывалася час ад часу перайсці з руплівай, дробнай ступы на рысь. А Лёня стрымліваў яе.

Ён не спяшаўся да сваіх людзей.

У запасе, для самаабароны, мелася такая думка, што ўсе «яго» людзі ведаюць і самі, яшчэ звечара, штó, дзе і як рабіць. Вуглоўцы ляжаць не любяць.

Хоць бы ўчарашні сход...

Наймалі пастуха для калгасніцкіх кароў. Ад кожнага хваста — пуд жыта, пуд бульбы або замест бульбы дзесяць рублёў грашыма. Карміць чалавека тройчы на дзень і двойчы, пасля снедання і пасля абеду, даваць у торбу, з сабою. Кожнай гаспадыні не хочацца, каб суседкі мылі яе языкамі. Хоміч казаў: «Не паўрэчы было б, каб пастух харчаваўся ў мяне ўсё лета. І сам пры ім пажыў бы. Бо баба, браток, стараецца, як перад зяцем». Паша ў Вуглах добрая і недалёка. Падпасак, стрэльба, сабака. Ляжы сабе на грудзе ды раманы чытай. Аднак вуглоўцы прагалёкалі на гэтым сходзе з абеду і да самага кіно, а ўсё ж ні леташняга пастуха не ўгаварылі, ні новага ахвотніка не знайшлі. Смяяліся, што трэба ісці ў МТС па раду: ніхто не хоча на гатовым харчы ўзяць машыну збожжа і машыну бульбы...

Прайшло ўжо тое, калі трэ было людзей упрошваць на працу. Часамі з паўдня думаеш, чым гэта заўтра ўсіх заняць. Хоць, праўда, некаторыя яшчэ ўсё стогнуць, кроячы хлеб: «Сёння-то сёння, але ж як яно, што скажа заўтра?!.»

І першы сярод іх — ён, Мукасей... Ах ты, маць твая сена ела!..

Лёня нават Мяцеліцу ўзняў на рысь, успомніўшы белабрысы, падзюбаны воспай твар свайго начнога хаўрусніка...

Ад успаміну ў душы яго ажыла з новай сілай уся тая горкая, ганебная чарната, ад якой вось і ў родную хату не хочацца...

Цяпер наогул вельмі дарэчы было б махнуць кудынебудзь далей, як Бухавец, каб не думаць: заскочыць дахаты паснедаць ці не, пагаварыць з Алесяй адразу ці пачакаць?

Зайсці, вядома, прыйдзецца — не цяпер, дык у абед,— дзе ж ты схаваешся, што ты ім скажаш. Зрэшты, зайсці — трохі лягчэй, чым пачаць з Алесяй размову, для якой патрэбна цэлая процьма смеласці...

Не смеласці, а шчырасці, відаць. Цяжка проста размяжаваць, што гаварыць, у чым прызнавацца, а што пакінуць толькі сабе, назаўсёды.

І не ў шчырасці, нарэшце, было самае цяжкае. Яно — гэта горкае, балючае, ад чаго хочацца кудысьці ўцячы, за любую цану забыцца пра яго — заключаецца ў той подленькай прычыне, што прымушае яго як найхутчэй прызнацца перад жонкай...

Словам, заблытаўся Жывень, ускочыў...

Што ж, найлепш будзе так, як падумаў, прахапіўшыся на досвітку: пагаварыць з Адамам...

Лёня крыва ўсміхнуўся: «Хлопчык! Шнуркі ў чаравіку вузлом завязаліся — татка патрэбен!..» Адагнаў гэты прыкры дакор сталай думкай пра тое, што Адам — разумны хлопец, добры друг, які памагаў ужо яму ў бядзе. Што ж, не пагаварылі цяпер, дык пагаворым увечары. І ў адкладзе сякая-такая палёгка.

А жыць і работу рабіць — усё ж такі трэба.

«Дахаты пакуль не паеду: няхай ужо хоць апоўдні. Не трэба і да будаўнікоў, дзе канчаюць саманную кузню, там — ён, Мукасей...»

Не даязджаючы да вёскі, Лёня полем павярнуў управа. Туды, дзе на чацвёртым, самым далёкім участку сёння пачнуць саджаць бульбу.

## 2

«Глупства» атрымалася напярэдадні.

А перад ім была тая зманлівая радасць, тая — чорт яе ўзяў бы! — яшчэ ўсё маладая паэзія, з-за якой і робяцца глупствы...

У мінулы панядзелак ён быў у райцэнтры. У будзень адтуль спадарожнікаў не было, і, вяртаючыся, Лёня стаяў у кузаве трохтонкі адзін. У кабіне, побач з Альшэвічам, шафёрам, сядзеў, па праву старэйшага, Хоміч. Таму і пасміхаецца цяпер, што ведае ўсё ад пачатку...

*Яна* стаяла на скрыжаванні, каля белай каталіцкай каплічкі, пад вялізнымі ліпамі, у тым месцы за крайнімі дамамі і хатамі горадка, дзе звычайна збіраліся «галасаваць». Стаяла *яна* не адна: стары, бязвусы мужчына ў нейкім не сваім паліто здалёк ужо трымаў узнятую руку. Па плашчыку, у якім была жанчына, і па двух чамаданах Лёня здагадаўся, што гэта — яшчэ адна госця-турыстка з Польшчы. Многа іх прыязджае апошнім часам да сваякоў.

Альшэвіч спыніў машыну. Высокі, бязвусы стары

задыханым трушком падбег з двума чамаданамі да задняга борта. Лёня ўзяў у яго багаж, пачакаў, пакуль людзі развітаюцца, і, зноў сагнуўшыся над бортам, працягнуў замежнай госці руку...

І ў той момант, калі ён адчуў у сваёй жмені цяпло яе маленькай моцнай далоні, калі зірнуў у адкрыты ўсмешкай, яшчэ ўсё па-маладому прыгожы твар,— Лёня пазнаў жанчыну зусім.

Лёгка перабраўшыся цераз борт, яна страсянула залацістай «полькай», сказала, прыплюшчыўшы вочы, «спасибо», а потым «здравствуйте». Калі ж машына пайшла і бязвусы стары перастаў махаць доўгай рукою ў караткаватым рукаве, жанчына паглядзела на Лёню, какетліва адвёўшы горда-прыгожую галаву, і здзіўлена ўсміхнулася.

— Пане Леосю! — ледзь не крыкнула, працягнуўшы руку.— Але ж дзень добры пану! А пан ні крышачкі не змяніўся. Такі самы пан малады, сімпатычны. То ж столькі год прайшло ад нашай з панам апошняй сустрэчы, столькі год!..

Яна гаварыла гэта, трымаючы сваю цёплую, энергічную ручку ў яго вялікай, дужай руцэ, і глядзела ў твар яму неяк па-асабліваму, па-свойму, спадылба. Яна яшчэ ўсё ведала сабе цану, умела паказаць, падаць сваю красу на агляд і дзіўленне — на самай крайняй мяжы магчымага паміж тым, што можа многім ускружыць галаву, і тым, што называецца добрым тонам. Залацістыя пышныя валасы, адкрыты светлы лоб, чорныя рысачкі броваў, вялікія блакітныя вочы, пухлаватыя смачныя губы... Вокам мужчыны, для якога ўжо даўно мінула юнацкая пара хвалюючых таямніц, Лёня — амаль, як здалося яму, неўпрыцям для яе — правёў вачыма ад светлага лба да маленькіх туфелькаў і, знізу ўверх, яшчэ раз. Папаўнела толькі за гэтыя трынаццаць год. Расшпілены крэмавы плашчык, як быццам знарок, умела паказваў цёмна-сінюю кофтачку і чырвоную вельветавую спадніцу, пад якімі вельмі прыкметна, хоць не крыкліва, і вельмі прывабна, але зусім прыстойна хавалася пародзістая пышнасць жанчыны, якая ўжо таксама перажыла наіўную пару першай маладосці.

Так, яна ўсё яшчэ ведала сабе цану.

І вось дамаглася, можа, нават міжвольна, жаданага поспеху — абудзіла ў ім даўняе, маладое...

Аднак, пакуль яны гаварылі, ў позірку яе, з якім ён раз-пораз сустракаўся вачыма, Лёня бачыў не толькі выпрабаванае ў перамогах або проста бескарыслівае какецтва, але і нейкую, не вельмі замаскіраваную насмешку. Вось ты сабе і ўспамінай, што хочаш,— здаецца, без слоў гаварыла яна,— і думай, як хочаш, злосна ці пагардліва, а мне ўжо ты нічога не зробіш. Я ўжо не тая, якой была для цябе калісьці, і за плячыма ў мяне цэлая дзяржава, што бараніруе мяне сваім, а для цябе — замежным пашпартам, недатыкальным званнем госці, турысткі. А ты сабе думай!..

Яны стаялі ў дрыготкім кузаве, успёршыся на шэры брызент кабіны. Пругкі вясновы вецер — з лёгкім пахам разварушанай зямлі і першай зеляніны — біў у твар, ажно вочы цёпла слязіліся. На выбоінах трохтонка так падскаквала, што ім міжвольна хацелася ўхапіцца аднаму за аднаго, асабліва, як здавалася Лёню, ёй. Яны гаварылі ад ветру голасна, шырока — нібы таксама ад ветру — усміхаліся, і ў Лёневай душы, разам з даўнім, растрывожаным захапленнем яе красою, то аціхала, то нарастала таксама даўняе пачуццё і крыўды і абурэння...

Альшэвіч, прымак у іхняй вёсцы, як быццам не ведаў, каго вязе, Хоміч як быццам не расказаў там яму нічога — машына шпарыла проста ў Вуглы.

Лёня ўжо збіраўся, як толькі яны наблізяцца да скрыжавання, пастукаць па брызенце, але яго апярэдзіў Хоміч. Трохтонка спынілася. Конюх адчыніў дзверцы, высадзіў сваё румянае мурло пад «аблавушкай» і, хаваючы ўсмешку, прагудзеў:

— Паненку трэба, відаць, пад самы ганак?

— Дзенькуе бардзо! — усміхнулася яна і амаль зусім «па-прастэму», «па-тутэйшаму», як з'едліва падумаў Лёня, дадала: — Я заплачу панам, іле тшэба. Бо валізкі мае заценжкія.

— Дзенькуе бардза! — кіўнуў галавою Хоміч.— Хоць залатовачку якую... Хоць на соль...

Прыкрываючы злосцю няёмкасць, Лёня зморшчыўся:

— Годзе крыўляцца! Давай на Устронне!

— Што ж, памагай бог!..

Хоміч быў пасля чаркі. Ён сыта рагатнуў і, падміргнуўшы Лёню, стукнуў за сабою дзверцамі.

Машына павярнула направа.

## 3

Былы маёнтак Устронне ўспамінаўся калісьці ў кнізе «Поместья и помещики Минской губернии», дзе апошні ўладар яго, Ян Янавіч Расіцкі, значыўся дваранінам польскай нацыянальнасці, праваслаўнага веравызнання, з поўнай «благонадежностью» ў неглыбокім падтэксце. «Благонадежность» дасталася яму ў спадчыну ад бацькі, які пасля паўстання 1863 года, са страху перад мураўёўскімі рэпрэсіямі, перахрысціўся ў праваслаўную веру.

Неўзабаве пасля заключэння Рыжскага міру, як толькі навокал Устроння канчаткова ўсталявалася панская ўлада, у душы пані Генавефы Расіцкай даспела жаданне вярнуцца ўсёй сям'ёй «на лона веры бацькоў», якой яна служыла дагэтуль падпольна. Ян Янавіч спачатку агінаўся, нават па-свойму адмахваўся мужыцкай лаянкай, аднак, нарэшце загадаў запрэгчы брычку і паехаў з паняй і дзецьмі ў касцёл.

Праз год пасля гэтай падзеі пані Генавефа нарадзіла пятае дзіця — дачушку Чэсю, якая ўвайшла ў новае, вольнае ад бязбожнікаў жыццё адразу ўжо рымска-каталіцкім анёлкам — светленькім, поўненькім, з вялікімі блакітнымі вачыма.

Пан Ян перастаў, праўда, па рускаму звычаю называцца Янам Янавічам, але ў касцёл усё ж такі заходзіў вельмі рэдка. Куды больш ахвотна ішлося ў Боруxаву карчму ў гмінным мястэчку Гарэліца або ў рэстаран пана Гжыбка ў павятовым горадзе. З дапамогай гэтых устаноў і славутага эканамічнага крызісу, які — у пачатку трыццатых гадоў — выпетрыў Польшчу больш, чым любую іншую краіну буржуазнай Еўропы, маёнтак Устронне, адзін з апорных пунктаў шляхецка-ксяндзоўскага ладу на «ўсходніх крэсах», паступова і няўхільна ішоў на спад.

Бедны селянін, у якога часцей за ўсё поўная хата дзяцей, гаворыць, што з імі клопат толькі да заціркі, а пачнуць самі есці — будзе ў хаце і дапамога.

У Расіцкіх было інакш.

Старэйшыя паненкі сарваліся з сярэдніх класаў гімназіі і заселі ў пакоях старога дома, акружанага ліпамі, бэзам, язмінам і ружамі. Пільна ахоўваючы рукі ад усякай работы, яны чакалі жаніхоў. Абедзве былі прыгожыя, кніжкі чыталі толькі пра каханне, і, зразумела,

прыцэл быў узяты на замужжа толькі сапраўднае. А час ішоў. Амаль трыццацігадовую Ядвісю выпхнулі за пана Францішка — лысага, з важным пакашліваннем, у даўганосых клоунскіх туфлях. Падзяліўшыся з братам, ён прадаў сваю частку фальварка, купіў у ваяводскім Наваградку камяніцу на восем кватэр і пачаў жыць з кватарантаў. Другая паненка, чарнявая, гарачая Казя, глядзела, глядзела то ў люстра, то ў акно і ціха звар'яцела ад няўцешнай тугі. Яна то сноўдалася па пакоях, рэдка калі дазваляючы маці або служанцы памыць і прычасаць яе, то цішком знікала з дому. За якой-небудзь другою-трэцяй вёскай на досвітку яна, як здань, выходзіла з імглы насустрач касцам, зрывала з сябе ўсё і ціха, заплюшчыўшы вочы, клікала: «Пшыйдзь, пшыйдзь, муй кахany!..» Нейк пад восень, на тарфяным балоце, ноччу яна набрыла на поўную вады капаніцу...

Старэйшы сын, Зыгмусь, таксама быў недавучкам. Адслужыўшы два гады ва ўланах, ён зблытаўся з жонкай настаўніка гарэліцкай сямігодкі. Сяк-так перажыўшы першую палавіну дня, пад вечар ён выходзіў палявой дарогай з маёнтка на гасцінец і па-капральску струнка і важна маршыраваў абочынай у мястэчка. Галава яго, нават з-пад капелюша, далёка пахла адэкалонам, а цесныя гарнітур бензінам. У той адсталы, бедны час такія пахі былі на дарогах вельмі прыкметнай рэдкасцю.

Устронне развалілася б значна раней, каб не другі паніч, Лешак. Гадоў васемнаццаці ён пакінуў вучыцца і ўзяўся за гаспадарку. Тоўсты, ужо сівавусы і задыханы пан Ян неўзабаве быў поўнасцю адсунуты ад кіраўніцтва маёнткам. Лешак ссадзіў валачашчага татуся з параконнай брычкі і перавёў з карчомна-рэстараннага харчу на хатні. Стары зміраўся з гэтым без асаблівага супраціўлення. Выспаўшыся на поўнае вока, ён спаражняў, як з пахмелля, самаварчык упрыкуску, пасля чаго доўга і з нейкім рэчытатыўным фасонам пакашліваў на крытым ганку, нібы спраўляючы саслоўнарадавы абрад. Часамі нават пакрыкваў адтуль, як з трона, на парабка ці пастуха, і крык ягоны турбаваў, бадай, толькі адных індыкоў. У людзі адстаўны дзедзіц выходзіў рэдка і пешшу, з тоўстым, гузаватым ядлоўцавым кіем, зімой — у сінім кунтушы з сівай каракулевай аблямоўкай, улетку — у кужэльным кіце-

лі і ў пілотцы, прынесенай Зыгмусем з войска. Самога Зыгмуся сустрэла тым часам загадкавая няўдача на рамантычным шляху, і ён пачаў больш сядзець дома, сяк-так памагаючы меншаму брату ў гаспадаранні. Для таго каб хоць збольшага акідацца ад даўгоў, прыйшлося прадаваць зямлю мужыкам і адмовіцца ад другога парабка.

Наймалодшую ў сям'і, Чэсю, упарты Лешак паслаў пасля сямігодкі ў настаўніцкую семінарыю.

Калі яна, насенная кветачка шляхецтва, па-спартыўнаму спрытная, загарэлая і недаступная, як каралеўна, ехала ў суботу на веласіпедзе па гасцінцы, а потым — забыўшыся, што ўжо дарослая — станавілася на педалях і птушкай ляцела з гары па палявой дарозе ў маёнтак, можна было падумаць — хто не бываў ва Устронні,— што за тымі дрэвамі ды кустамі ў даліне жывуць сапраўдныя паны.

Аднак у тым верасні, калі сюды прыйшлі Чырвоная Армія і савецкая ўлада, Расіцкіх ніхто не спяшаўся нават і раскулачваць: зямлі засталося ў іх мала больш дваццаці гектараў. Толькі абрэзалі да васьмі.

У тую восень і зіму вуглоўская моладзь ладзіла вечарыны ва Устронні. Маёнтак быў зусім пад бокам, а ў панскіх пакоях — такі прастор, якога дагэтуль не ведалі ні кадрыль, ні лявоніха.

Лешак, які яшчэ на пачатку польска-нямецкай кампаніі пайшоў на фронт, сядзеў недзе ў нямецкім палоне. Дома былі старыя, Зыгмусь і Чэся: ён вярнуўся з вайны, а яна з семінарыі.

Ад усёй ранейшай велічы, побач з несмяротным кунтушам пана Яна, у пакоях з дзіравай падлогай застаўся старасвецкі раяль і карціна, як гаварылі вуглоўцы, «з нейкімі голымі бабамі». Не вельмі паслухмяныя пальцы пані Генавефы самаахвярна гоцалі па клавішах — з жалю вартай энергіяй і грацыяй яна аддавала «хамам» з набытку сваёй арыстакратычнай маладосці толькі самыя прымітыўныя вальсы, полькі ды кракавякі. У перапынках разы са два, пакуль яго хлопцы не супакоілі, на раялі адпачываў, расцягнуўшыся, як на бацькавай печы, узмакрэлы ад танцаў цыбаты дзяцюк Макар Бохан, раней — устроньскі пастушок. Ужо зусім сівы і, як кавальскі мех, задыханы таўсцюх, які зноў называўся Янам Янавічам, цішком у кухні выпіваў з мужчынамі «маскоўскую» чарачку, уваходзіў у па-

кой і пушчаўся ў скокі. І ў польцы, і ў абэрку ён таптаўся адзін, як вучоны мядзведзь, з той толькі розніцай, што трымаў перад пузам сашчэпленыя пальцамі рукі і, прыгорбіўшыся, раз-пораз бухаў: «Гу-га! Гу-га!..»

Сяды-тады выходзіў у круг і не вельмі ахвотна, але «па-выкшталцонэму», як гаварыў Марцін, дыгаваў у вальсе пагардліва маўклівы Зыгмусь.

І танцаваць стараўся ён толькі з Чэсяй.

4

Марцін Хоміч быў у свой час кавалерам на ўсе Вуглы і ваколіцу. Лёня памятае яго — гладкага здаравілу з вяргіняй за раменьчыкам шапкі, у ботах-«дудках» з такімі пругкімі халявамі, што, не разуўшыся, казалі, у іх нельга было прысесці нават з бяды. Марцін добра спяваў, танцаваў, весяліў людзей вострым словам. Затое да працы быў не вельмі. Бацькі памерлі адно за адным, і ён, старэйшы, застаўся гаспадаром. Пад ім быў брат, паслухмяны таўкач, і чатыры сястры. З такім штатам можна было дазволіць сабе і на кавалерскае валацужніцтва і на панскі адпачын. Калі трэба было, дык мог Марцін і занядужаць. Нацёршы шкіпінарам рукі і ногі — ад мух,— ён спаў пасля свята амаль увесь дзень, а ўвечары выходзіў на вуліцу зноў са свежым голасам і свежымі нагамі.

Улетку дваццатага года, калі Чырвоная Армія пагнала легіёны Пілсудскага на захад і тут, у Наднямонні, ненадоўга зноў настала савецкае жыццё, з Марцінам здарыўся незвычайны выпадак... Ды што там нейкі вуглоўскі Хоміч! Такое не здаралася, відаць, як свет светам: да мужыцкага сына прыслалі сваццю з панскага двара...

Расіцкі не ўцякаў з Устроння нікуды — ні на ўсход, ад вільгельмаўскіх салдат, ні — пазней — на захад, ад бальшавікоў. А суседка яго, пані Струмілоўская, не паспела ўцячы ў Варшаву, да сына, і саветы засталі яе ў мілым Юзафове, з лістоўніцамі вакол пабеленага дома. Са старою паняй жыла адзіная дачка, якую з-за ваеннага ліхалецця і нецікавага выгляду не ўдалося выдаць замуж. І вось, «каб уцалець», пані матка вырашыла зрабіць адчайны ход дачкою: прыняць да яе вяс-

ковага хлопца. Сваццяй стала вуглоўская Сымоніха, якая і ў тыя дні яшчэ ўсё аціралася каля паноў. Калі ўжо браць у дом мужыка, дык хоць харошага. Сымоніха параіла Марціна. «Хлопец, дальбог жа, спрэс паніч, зірнеш — вады нап'ешся!.. Кульгае трохі, але ж гэта не ўрода такая, а ранілі яго на мікалаеўскай вайне. Гэта пабудзе ды пройдзе!..» Абедзве пані ведалі яго і самі. Маладая парумзала трохі і самаахвярна згадзілася. Ды тут — зусім нечакана — «жаніх» зрабіў ім «апсік!». Сыта зарагатаў і сказаў Сымонісе: «Перадай ты сваім сухарэбрыцам, што я мяняць рублёвага на капеечную яшчэ не збіраюся. Хай пашукаюць другога дурня...» Паненцы знайшлі прымака, а Марцін, хоць і ажаніўся, як казалі, «па любві» — за тыдзень да нараджэння першага дзіцяці,— жыў і далей па-свойму: трохі круціўся з бабамі, а больш пра гэта брахаў.

Увосені трыццаць дзевятага года Хомічу было ўжо за сорак. Аднак і ён не прапускаў ніводнай вечарыны ў панскім доме, куды, дарэчы, разам з моладдзю хадзілі і маладзейшыя мужчыны. Танцаваў ён, праўда, ужо няшмат. От, адгрукае часамі праз ахвоту «барыню», а то, калі добра папросяць, дык удвух са спрытным ды вясёлым Стасем, парабкам Струмілоўскіх, пройдуць «казу», пацешны танец, ад якога дзяўчаты, рагочучы, закрываюць твар няшчыльнымі пальцамі. А так Марцін спявае, брэша з хлопцамі, шчыкае здзевак — «вясёлы, жыццёвы дзядзька».

На першай вечарыне ў панскім доме Хоміч паклікаў Лёню ў куток і пачаў:

— Паненку Чэсю бяры танцаваць. Што ж яна будзе сядзець так — адна?

— Нічога, пасядзіць,— з ходу сказаў Лёня першае, што прыйшло на язык. А потым, нібыта хочучы апраўдацца, дадаў: — Па-панску я не патраплю.

— Яна ж, браток, як той белы наліў: ажно свеціцца!.. З вас тут пара, браток,— і не прыдумаеш!..

Лёню было тады дзевятнаццаць гадоў. Хлопец быў не толькі спраўны, але і «абгладжаны»: кніжкі чытаў, ладзіў у вёсцы самадзейныя спектаклі, кончыў усё ж такі сямігодку.

Лёня яшчэ не ведаў жанчыны; толькі нядаўна ён паспытаў, што за смак цалавацца з дзяўчатамі. І гэтыя выпадковыя, мімалётныя пацалункі былі, як і сам ён, чыстымі, вясёлымі — ад лішняй радасці жыцця.

Пачуўшы ад Хоміча такі незвычайны намёк, хлопец зачырванеўся, пачаў чамусьці смяяцца, а пасля адказаў:

— Падумаеш! Што ў нас — сваіх дзяўчат няма? Чаму ж ты, дзядзька, сам да паненкі ў прымы не пайшоў?

— Дзівак! Што ж я табе — жаніцца кажу, ці што? Так пакажы паненцы, што наша ўзяла. Каму ж і пагаварыць з ёю, як не табе! Чаго ты, браток, спалохаўся? Што ты думаеш — яна не жывы чалавек, у яе прыроды няма?

У наступную нядзелю Хоміч зноў паклікаў Лёню ў куток.

— Я гэтаму хлюсту, Зыгмусю, буду зубы загаворваць, а ты ідзі бяры яе танцаваць. Раз, другі, пакуль трохі абнюхаецеся, а тады — з вачэй. А там ужо сам разбярэшся.

За мінулы тыдзень Лёня добра такі наэлектрызаваўся першай гутаркай з Хомічам. Гарачы, начытаны і ўжо трохі разнаджаны дзявочай ласкай хлопец так наглядзеўся на гордую прыгажуню паненку, так надумаўся пра яе, што Марцінавы намёкі здаліся яму цяпер амаль зусім нядзіўнымі. Аднак на грубасць іх ён адказаў:

— Ідзі ты, дзядзька, ды паілжыце са сваім Зыгмусем! Хочаш — пра зайца, а хочаш — і пра мядзведзя! А мы і самі ведаем, што нам рабіць.

Чырванеючы ад хвалявання і рашучасці, Лёня заказаў музыкам свой любімы вальс «Бярозку». Старая пані іграла ім на раялі толькі спачатку, з восені; цяпер яны часцей за ўсё наймалі славутых на ўсю ваколіцу. Тоўсцікаў — скрыпка, гармонік, кларнет і бубен з усякімі бразгатушкамі. Набраўшыся духу, Жывень падышоў да Чэсі.

Яна стаяла ў чародцы маладзейшых дзяўчат, вылучаючыся ў іх свежым букеце не толькі сваёй белай кофтачкай і сіняй плісіраванай семінарскай спадніцай: як на злосць, паненка была прыгажэйшая за ўсіх яе вясковых аднагодак.

З кавалерскім фасонам і з блазенскім сорамам Лёня пакланіўся і, узняўшы вочы, сумеўся ад той амаль зусім звычайнай дзявочай усмешкі, якой адказала яму тая, калісьці непрыступная, каралеўна з веласіпеда. Нават нібы рада была — хто яго адразу разбярэцца...

Апоўначы, калі вярталіся ў Вуглы, Хоміч выбраў хвіліну сам-насам і спытаўся:

— Ну як? Смачна?

— Адчапіся ты, дзядзька Марцін! Не мерай ты ўсіх на свой капыл!..

— Бачыў яго! Хоць бы дзякуй сказаў. Скулу б я табе яе ўступіў, каб гадоў хаця пяць назад!..

— А ну цябе? Дзей-барадзей...

Лёня ўжо быў ахмялелы ад першай любоўнай чаркі, якая п'ецца яшчэ да першага пацалунка. Ужо той скупой, звычайнай блізкасці, што бывае ў танцы, яму хапіла сёння да шчаслівай, пакутлівай стомы. І цынізм Марціна, прывабны і ліпкі, як мёд, ужо ні крышкі не спакушаў, не раззадорваў яго, а проста раздражняў, здаваўся зусім недарэчным і крыўдным. І не было каму па-сяброўску сказаць: «Хаця б ты, хлопец, не ўрэзаўся здуру па-сапраўднаму!..»

Прыйшла нарэшце і новая вечарына. І Лёню ўжо зусім не цікавіла — забаўляе там Хоміч Зыгмуся паляўнічай манаю ці не... На паклоны вуглоўскіх танцораў Чэся адказвала той самай простай усмешкай, ахвотна ўставала або кранапася насустрач са свайго месца, многа, хораша і нястомна танцавала, ахвотна чуючы каманду: «І — кола! І — злева!» Аднак Лёню здавалася, што ён тут — самы багаты, што яму яна і ўсміхаецца інакш, і ў руках яго адчуваецца зусім іншым трапяткім цяплом...

Тады яно і прыйшло.

Накружыўшыся да салодкай знямогі ў шалёным кракавяку, яны апынуліся Чэсяй на ганку. Хто вёў, а хто ішоў туды — не разбярэшся і дагэтуль. Была адліжная лютаўская ноч. Пакуль яны адчулі, што на дварэ яшчэ зіма, пакуль успомнілі, што іх тут нехта можа ўбачыць, прастаялі там трошкі больш, чым ад танца да танца, паспеўшы за гэтыя некалькі хвілін... нацалавацца да памараку ў вачах.

Выйшла ўсё гэта так нечакана проста: ён, не думаючы, міжвольна абняў яе цёплыя, точаныя плечы пад той самай беленькай кофтачкай семінарысткі, яна таксама, відаць, міжвольна прыгарнулася да яго, а вусны іх, нібы пасля доўгай, пакутлівай разлукі, сустрэліся самі. Адарваўшыся ад яго першы раз, яна — у безнадзейным вянку ягоных рук — паспела толькі цяжка перавесці дух і дарма памкнулася нешта сказаць... Ад-

нак яна не толькі паддавалася яму: яна сама лавіла губамі ягоныя губы, нават паспела верхнюю ўкусіць і востры боль суняць яшчэ незнаёмай Лёню прагнай і вопытнай пяшчотнасцю доўгага, нясцерпна салодкага пацалунка.

Слоў, здаецца, зусім не было...

...На гэтым усё абарвалася: дзён праз некалькі Лёня пайшоў у Чырвоную Армію.

Казарма. Палігон. Вайна. Фашысцкі лагер. Уцёкі. Падполле. Партызанскі лес.

Сярод тых вобразаў, што ўспаміналіся на чужыне, разам з дзяўчатамі, з якімі ён мілаваўся калісьці ад паўнаты бесклапотнага шчасця, стаяла яна — найпрыгажэйшая, найсаладзейшая, найбольш пажаданая. Была калі бліжэй, а калі дык і вельмі далёка. Здавалася нават, што ўсё гэта — проста тое, што з часам прaходзіць, што можна адчуць і да другой дзяўчыны, абы прыгожай ды сімпатычнай.

## 5

Увосені сорак трэцяга года цёмнай ноччу разведка адной з налібоцкіх партызанскіх брыгад была абстраляна ў нечаканым месцы і невядома кім...

Сярожу Чамбровіча перапалавініла кулямётнай чаргой, і на сядле свайго найлепшага сябра, Лёні Жывеня, ён толькі трохі пахроп. Замоўк назаўсёды і кучаравы весялун, танцор і спявак Стась Клос, былы парабак Струмілоўскіх, сувальскі бядняк, што падлеткам прыехаў сюды шукаць хлеба. Камандзіру разведкі, Адаму Бухаўцу, разрыўною куляй адбіла ў запясці правую руку. Лёню толькі шыю апякло: нібы хтосьці прасунуў пад вухам гарачым прутам.

Сярожу і Стася пахавалі ў той вёсцы, дзе была першая брыгадная застава, і ротай далі развітальны залп.

Бухаўцу хірург Гольдберг абрэзаў — без усякіх, вядома, наркозаў — рэшткі разарванай запясці. Каржакаваты, рухавы Адамка папрасіў перад гэтым шклянку першаку і толькі стагнаў, пакуль яго трымалі — утрох. Іх аптэка ў той час, пасля вялікай блакады, збяднела зусім. Гольдберг падумаў трохі і засыпаў рану соллю. Адама зачынілі ў зямлянцы разведчыкаў, цішком забраўшы адтуль усё, што магло быць зброяй. І ён

там кідаўся і нема роў толькі спачатку, пакуль трохі прывык. Праз тыдзень пачаў выходзіць, трымаючы сваю забінтаваную цацку на перавязі, у цёплай вязанай хустцы. Яшчэ праз тыдзень пачаў ён, чорт лазаты, камандаваць зноў, праўда, не выязджаючы ў раён, а толькі даючы заданні свайму часоваму намесніку — Лёню.

Аднойчы намесніка аднаго, без разведкі, выклікалі з раёна ў лагер.

У зямлянцы начштаба сядзелі: сам гаспадар, былы сакратар сельсавета Коля Голас, начальнік асобага аддзела Зімін і Адам Бухавец.

Размову з Лёнем пачаў Зімін, трохі пануры і грубаваты таварыш з парашутыстаў, якога нядаўна празвалі «ёсць звесткі».

— У цябе, Жывень, былі ў свой час сувязі з памешчыкамі Расіцкімі. Ёсць звесткі, што сувязі даволі цесныя.

Стройны, бялявы прыгажун у хлёстка сцягнутым рэменем шынялі прыкметна быў нездаволены.

Дагэтуль яны па службе не сутыкаліся, нічога дрэннага Зімін яму не зрабіў, Жывень ведаў яго здалёк, па пасадзе, аднак звяртаўся — па званню, нібыта толькі з ім не забываючы, што сам ён сяржант, а гэты — са шпалай на новай гімнасцёрцы.

— У мяне, таварыш капітан, было з імі якраз стольکі сувязі, як і ў кожнага з нашай вёскі. Мы хадзілі туды, у панскі двор, гуляць.

— А ты падумай, Жывень, прыпомні.

— Я ўжо даўно падумаў.

— А ўсё ж ёсць звесткі, што ты...

— Ды ну цябе, Іван Кузьміч! — засмяяўся начштаба.— Давай адразу, не валынь. Справа, Жывень, вось якая. Ёсць звесткі, як справядліва кажа Зімін, што вас у тую ноч абстралялі легіяністы «Жбіка», значыцца,— пана Струмілоўскага. Лепш за ўсё — накрыць бы іх, сукіных сыноў... Ды ёсць другі загад. Вось цяпер ты, Іван Кузьміч, і давай.

Зімін пачаў «даваць», грунтоўна і манатонна, з непарушным спакоем гледзячы на разведчыка:

— Нам загадана наладзіць сувязь з атрадам «Жбіка»-Струмілоўскага, з мэтай дапамагчы яму ўзысці на правільны шлях. Улічваючы, што ў гэтай мясцовасці частка каталіцкага насельніцтва фактычна з'яўляецца

або называе сябе палякамі па нацыянальвасці, работу гэтую трэба лічыць вельмі адказнай. Улічваючы тваё, таварыш Жывень, веданне польскай мовы і сувязі з памешчыкамі Расіцкімі...

— Я паўтараю вам, таварыш капітан, што ў мяне з імі ніякіх сувязей няма і не было.

— Ёсць вельмі дакладныя звесткі, што такавыя...

— Чакай, Кузьміч,— перабіў Зіміна Бухавец.— Лёня, гэта я сказаў яму, што ты калісьці мацаў іхнюю паненку. Тую, бялявенькую, як яна там — Яня ці Франя?..

— Ну, ты, Адам, мог бы ўжо трохі лепей разбірацца. Якія ж гэта, чорт вазьмі, панскія сувязі!..

— А ты не бараніся так, нядократка! Цябе не ўпікаць сабраліся, а нам гэта трэба для справы. І ты не фыркай, а слухай. Мужчына!..

— А ўжо ж, не баба! І не люблю, калі са мной... Давай, таварыш капітан, далей.

Гэта — да Зіміна. І той, не мяняючы вельмі спакойнага выразу твару, гаварыў:

— Цяпер, калі ты, Жывень, сёе-тое прыпомніў, пойдзем далей. Карыстаючыся, як я ўжо гаварыў, веданнем мовы і тым, што мы не без падстаў назвалі сувязямі, ты павінен дабрацца калі не да самога «Жбіка»-Струмілоўскага, дык да яго намесніка, Зыгмунта Расіцкага, вядомага табе брата тае паненкі. Ён нібы, кажуць, прапаў. Не прапаў: ёсць дакладныя звесткі — у бандзе. Звяртаю таксама тваю ўвагу на іхняга шваг-ра, Шчуроўскага. Заданне — наладзіць сувязь, добра вывучыць іх настрой і, у зручны момант, прапанаваць перайсці да нас і, пакуль не позна, акупіць сваю віну ў барацьбе з нашым агульным ворагам. Пытанні ёсць?

— У мяне не пытанне. Я думаю, таварыш капітан, што я для гэтай справы не падыходжу.

— Чаму?

— Сюды каб гэта хто з палякаў ці хаця з каталікаў. А то так яны мне і паверылі... Каб гэта хоць Стась быў жывы. Няхай сабе парабак, але ж паляк. Гэта для іх вельмі важна.

— Ты, Жывень, не выкручвайся. І ласкі не рабі. Каб быў тут у наяўнасці паляк, дык мы з табой і гутаркі не вялі б.

— Ну, добра. Хоць не рад, як кажуць, ды гатоў.

Калі трэба. Толькі пытанне ў мяне, таварыш капітан. Па-вашаму, гэта яны нас тады абстралялі?

— Такія звесткі ёсць. Але ты забудзься пра гэта на нейкі час, трымай свае нервы ў руках. Табе давяраецца не абы-што. Яшчэ два словы: для канспірацыі...

...Так Лёню давялося сустрэцца з Чэсяй амаль праз чатыры гады пасля пацалункаў на ганку.

## 6

З васьмі чалавек разведчыкаў Лёня ўзяў з сабою аднаго Хоміча: ён і мясцовы, і бывалы ў гэтай сям'і. Рэшту хлопцаў пакінуў для большай смеласці на хутары пры гасцінцы, за два кіламетры ад Гарэліцы, дзе стаяў гарнізон паліцаяў.

У мокрай цемры, нудна хлюпаючы васьмю капытамі па глыбокай гразі, праехалі яны з Марцінам уздоўж сваіх Вуглоў, дзе ім — пасля таго як забралі сем'і ў пушчу — не вельмі карцела спыняцца. З гасцінца паехалі ўніз, у даліну, больш вобмацкам ды наўздагад, бо не відаць было нават конскіх вушэй.

І тут, на гэтай так добра знаёмай дарозе, Хоміч пачаў:

— Ну, табе, браток, вядома... Яна засядзелася там, чакаючы боскага злітавання. Жывое да жывога цягне. А якую халеру я там буду рабіць? Каб жыў хоць стары Ян Янавіч, дык пабрахалі б трохі, а так...

Лёня маўчаў.

Ён, зразумела, не расказваў нікому са сваіх сяброў, якія сталі нядаўна яго падначаленымі, ні пра заданне, ні нават пра тое, што ён ведаў, кажучы па-зімінску, пра становішча ў маёнтку на сённяшні дзень.

Яны дачлапалі да ганка і спыніліся ў мутным святле з вялікага акна. Коней прывязалі да плота, і Хоміч, падзюбаўшы двума тоўстымі пальцамі ў шыбу, прагудзеў магічнае ў той час:

— Эй, гаспадар, адчыні!

— Дык гаварыць з імі будзем толькі па шэрсці,— цвёрдым шэптам напомніў Лёня, першы ідучы да дзвярэй.

Адчыніла яна.

— Ах, это вы, товарищи,— сказала па-руску, амаль зусім натуральна выказваючы гасцінную радасць, якая

для некаторых была цяпер адным са сродкаў самаабароны. І сказана было гэта проста таварышам — партызанам, бо ні Лёню, ні Хоміча яна адразу не пазнала.

— Добры вечар. Чужых няма? — прывычна спытаў Лёня, першы ўваходзячы з цемры калідора ў асветлены пакой.

— Няма, няма, таварышы дарагія,— амаль зусім салодка прапяяла, стоячы каля стала, высокая, поўная жанчына, у якой Жывень не з ходу распазнаў Ядвісю. Зрэшты, яе ён не бачыў вельмі даўно: у трыццаць дзевятым яна сюды, з горада, не з'яўлялася.

Чэся, следам за Хомічам выйшаўшы на святло, пазнала Лёню і яшчэ раз — цяпер па-беларуску — сказала:

— Ах, гэта вы!..

На гэты раз здзіўленне прагучала шчыра. Яна падышла і працягнула яму руку. Паціскаючы яе, хлопец паспеў не толькі разглядзець паненку, але і адчуць, здаецца, у цёплай сіле малой далоні тое даўняе, пачатае, што часта калісьці, асабліва адразу пасля разлукі, хвалявала яго начамі...

Яна была адзета па суровай модзе ваеннага часу: у світэры і спадніцы, вязаных з нефарбаванай воўны. Падумаў нават: «Сама вязала ці нехта з нашых вуглоўскіх дзяўчат...» Гэтая клёшная спадніца і абціслы, высока на шыі заціснуты світэр не так маскіравалі, як падкрэслівалі яе красу. На карычневы світэр свабодна падалі залацістыя валасы. А вялікія блакітныя вочы пад тонкімі чорнымі брывамі глядзелі на Лёню адразу толькі здзіўлена.

— Відаць, і не вячэралі яшчэ, таварышы? — прапяяла Ядвіся.

— Дзякуем, не турбуйцеся.

— А што тут за турбуйцеся? Гэта ж не хто чужы — свае людзі, суседзі. Чэсю, займіся, каханне, гасцямі, а я прандзютка...

Яна пайшла ў дзверы, відаць, на кухню.

— Сядайце, проша,— пачала займацца імі Чэся.

Лёня ступіў да найбліжэйшага крэсла, сеў, зняў мокрую пілотку. Чорт вазьмі! Стала не па-салдацку няёмка за свае боты ў гразі, як быццам ён і сапраўды прыйшоў сюды з нейкім шляхецкім візітам.

— Сядайце, проша, і вы... Здаецца, пан Марцін?

— Дзенькуе пані. Я цалу дрогу на кабыле седзяў. Але ж і яшчэ прысяду.

Гаспадыня ветліва ўсміхнулася і села насупраць іх.

Наступіла даволі нялёгкая паўза.

— Што ж гэта вы, таварышы, так доўга да нас не заглядвалі?

Пустыя — на затычку — словы.

— Ды ўсё няма калі. Дый блізкі свет. А яно тым часам думалася не раз...

Адказвае Хоміч, успёршыся локцямі на калені, аберуч ашчарэпіўшы ствол мокрай вінтоўкі, на якой вісіць і зрэдку капае на падлогу мокрая кепка.

А Лёня маўчыць і пакутліва шукае, з чаго пачаць пра галоўнае...

Гэта — не сарамлівасць або нявопытнасць. У душы ў партызана змагаюцца два пачуцці. Першае, зусім тут непатрэбнае, міжвольнае — яго колішняе захапленне гэтай пародзістай, гарачай прыгажуняй, сляпая страсць, што вось нечакана выплыла, здавалася, з поўнага забыцця, зноў па-юнацку зашумела ў ягонай крыві... Па гэтым салодкім, дзікім пачуцці ён б'е такім яшчэ жывым успамінам... Немае хрыпенне Сярожы, што ляжыць на ягоным сядле, і цёплая, ліпкая, беззваротная кроў сардэчнага друга, якую Лёневы рукі будуць насіць усё жыццё!.. Вочы Алесі, Сярожавай сястры. Як яна плакала!.. Голас іхняга Стася,— вечна вясёлы, што так пацешна не выгаворваў беларускія словы, так незвычайна звінеў у іхнім беларуска-руска-ўкраінскім асяроддзі, у душнай зямлянцы і пад высокімі соснамі, калі Стась зацягваў адну са сваіх любімых родных песень і паглядаў з усмешкай на Лёню або Сярожу: чакаючы дапамогі, задаволены, што ёсць каму па-польску памагчы...

«А што, калі Зімін не так сабе, не па здагадках кажа, што нас тады абстралялі яны — прадстаўнікі вось гэтых, яснавяльможных?..»

На шыі, пад закарэлым бінтам, Лёня адчуў свой гарачы шрам: след яшчэ не ягонай кулі. І ўспомніў твар з пагардліва прыжмураным грымасай — Зыгмусь...

«Ха, чорт вазьмі!.. Ды не з такім жа мне настроем брацца за сваё заданне, уваходзіць сюды сваім чалавекам!..»

За сценкай з пашматанымі абоямі пачуўся старэчы кашаль.

— Пані, відаць, нездарова? — амаль зусім спагадліва спытаўся Хоміч.

— Старая ўжо, што вы хочаце,— адказала Чэся, амаль зусім як вуглоўская дзеўка.

«Як усё ж такі хутка і здорава вучацца людзі чужой мове — з бяды! Нават і той мове, якою калісьці, у свой час, адкрыта пагарджалі. Ды, зрэшты, пагарджаюць і цяпер...»

Хоміч прыкметна памкнуўся нешта сказаць, але раптам, яшчэ больш прыкметна, насцярожыўся.

Прыслухаўшыся, і Лёня пачуў за той жа сценкаю ціхае шлёпанне мяккага абутку.

Ды вось адчыніліся дзверы, і, моргаючы пасля цемры, у іх, як у раме, з'явіўся мужчынка.

У старых галёшах на босую нагу, у нейкіх задрыпаных штоніках і не менш «недатыкальным», бо непатрэбным для партызан пінжачку, даўно няголены, лысы.

— Мае шанаванне,— пакланіўся ён з годнасцю і назваўся: — Шчуроўскі.

— Добры вечар,— буркануў Лёня.

Хоміч ажно павярнуўся ўсім корпусам да дзвярэй. Непатрэбны па плану дзеяння смех пайшоў па губах румянага партызанскага байдуна.

— Вось яно што,— сказаў ён.— Схадзі ты, пан Шчуроўскі, калі так, падкінь чаго-небудзь нашым коням. Камандзірава Муха вельмі ж любіць канюшыну. Змалку. Ну, а мой Камендант — што ўжо яна, тое і ён пры ёй...

— Але ж проша, проша бардзо,— заварушыўся мужчынка.

Гэта быў муж Ядвісі, пан Францішак, былы ўласнік камяніцы ў ваяводскім горадзе. Немцы разбамбілі яе ў першыя дні вайны, і пан Шчуроўскі, стаўшы трохі менш важна пакашліваць, перабраўся да цешчы. І тут было не соладка. Нашчадкі гербавай шляхты, часова вызваліўшыся з-пад бальшавіцкай улады, усё ж такі былі вымушаны працаваць на сябе самі. Пан Францішак, адзіная цяпер мужчынская сіла ў маёнтку, корпаўся ў гаспадарцы з адным нядошлым канём.

Сяды-тады хадзіў ён у Гарэліцу, дзе, між іншым, вучыліся ў сямігодцы яго дзеці — хлопец і дзяўчынка; яны жылі там на кватэры і дамоў, ва Устронне, прыходзілі толькі на святы. Частавата ездзіў ён і ў Навагра-

дак, паблізу якога, таксама між іншым, трымаўся на сваім фальварку яго старэйшы брат.

Пра гэтыя яго паходы сёе-тое ведаў ужо маўклівы Зімін. Пра Шчуроўскага і пра Зыгмуся. Ад Зіміна трохі ведаў і Лёня.

Гутарку, якая не вельмі клеілася, ажывіў уваход Ядвісі. Дзябёлая, яшчэ даволі свежая і прыемная на выгляд, яна выплыла з кухні, з саладжавым прыгаворваннем несучы стандартны партызанскі пачастунак: сала, хлеб, салёныя агуркі і спацелую бутэльку самагону.

«Як яны здорава ўвайшлі ў новую ролю!» — думаў Лёня, чокаючыся з гэтымі калісьці недаступнымі для яго людзьмі. З нейкім маральна-гідлівым пачуццём ён піў халодны, прытарны самагон, выгнаны імі не толькі для сябе, жаваў мылкае сала і ўсё нябачна сціскаўся ад нейкай, яшчэ больш нябачнай кроплі, ад якой немагчыма ўцячы, якая халодным, прыкрым дотыкам вось-вось апячэ тваю шыю, як тая легіяніcцкая куля... Яна была няшчырая — іх прастата, вымушаная жаданнем перажыць ліхалецце, уцалець у тым патопе, дзе страшна ходзяць і час да часу крывава стукаюцца варожыя для іх хвалі...

Ну, не! — панам не проста хочацца перажыць, уцалець: ім, пэўна ж, марыцца вярнуць сваё. Шчуроўскі? Пра гэтага мала што трэба здагадвацца. Старая і Ядвіся? Пан бог з імі. А як жа яна, праз каго яму трэба дабрацца да Зыгмуся — да клубка? Што і як яна, Чэся, робіць для іхняй справы?

Вядома, многага сёння мы тут не даб'ёмся. Хопіць, калі пралажым сякі-такі першы след.

Дык не сядзі ж ты, Жывень, як за́ткала, не калупайся ў сваіх ранах!..

І ён, нібы ўстрапянуўшыся, ахвотна далучыўся да пустой, але патрэбнай і нават — потым — вясёлай гутаркі, якую ўдала пачаў з «паненкамі» і няголеным панам Францішкам развярушаны чаркай Хоміч.

## 7

Марцін быў нядрэнны памочнік. Але наступным разам, дні праз тры, Лёня сказаў яму, што паедзе ва Устронне адзін.

— Ты заставайся тут, у Вуглах.

Хоміч здагадваўся, што Жывень пачаў едзіць туды не так сабе. «Так сабе» — дзеля Чэсі — ён мог бы якнебудзь сабрацца заглянуць да іх і раней. А цяпер жа ў яго ёсць другая, усё роўна што жонка — Алеся. Аднак Марцін маўчаў, маскіруючы свае здагадкі па прывычцы грубаватым, ласым гудзеннем.

— Што ж,— прыглушана гудзеў ён з каня, калі яны спыніліся за крайнімі хатамі роднай вёскі.— Што ж, едзь, калі трэба, адзін. Там ужо і за маё здароўечка... Каб не гэты Ядвісін лысы смаркуль, дык і я...

— Ну, ну, ваяка! Каму што, а Базылю — аладкі. Чакай мяне праз гадзіну.

...Быў марозік у тую лістападаўскую ноч — першы марозік і месяц.

Адчыніла Лёню зноў яна.

— Ах, гэта вы! — сказала і нібы нават усцешылася, што ён адзін.— Добры вечар... таварыш Лёня!..

У гэтай маленькай паўзе паміж словамі «вечар» і «таварыш» яна паспела, ён заўважыў пры месяцы, неяк ці то какетліва, ці то шчыра ўсміхнуцца.

— Добры вечар. Я, панна Чэся, хацеў бы з вамі пагаварыць адзін на адзін. Справа вельмі важная. І для нас, і — яшчэ больш — для вас...

Яго сур'ёзнасць перадалася і ёй. Нават тугія плечы занылі пад світэрам, нібы ад холаду. Каб не гэтае: «І для нас, і — яшчэ больш — для вас», яна падумала б, што ён паспрабуе вярнуцца да таго, што пачалося ў іх... Ах, як даўно! Як марудна паўзе гэты нудны і страшны час! А яно пачалося ў іх тады так нечакана і забаўна, як у рамане. Як у панны Юстынкі і вясковага Янэка з «Над Нёманам». Здаецца, нават куды цікавей, з такой... ну, вельмі любай, спакуслівай незвычайнасцю. Аднак цяпер гэты мілы, амаль зусім інтэлігентны і, відаць, валечны [1] хлопец пачаў пра нешта іншае. Што ж, і яна ўжо не тая дзяўчынка, сарваная вайной з семінарскай парты, і яе ўжо тым часам сяк-так падвучыла бяда...

— Прашу ў пакой. Тут холадна. Я сёння дома толькі з мамусяй.

Ад гэтых слоў Лёня пачаў міжвольна налівацца дрыготкай гарачынёй. Калі яны, удвух у вялікім пу-

---

[1] Мужны, адважны.

стым пакої, селі абапал століка, раздзеленыя толькі лямпай, ён спачатку проста-такі не мог гаварыць. Нават зусім, як здалося яму, па-блазенску схаваўся за лямпу, каб не бачыць яе хітраватых, салодкіх, сонечных вачэй, яе гарачых і ў меру, для раскошы, поўных губ...

Ды тут ён зноў успомніў перадсмяротнае хрыпенне і цёплую кроў на руках, убачыў вочы — другія, поўныя бяздоннага гора, адчуў іх слёзы на сваім сухіх гарачых вуснах...

І ён нібы рвануўся наперад грудзьмі пад партупеяй і шэрым армейскім сукном, спакойна, але ўладна працягнуў руку і адставіў убок лямпу.

— Панна Чэся, дзе Зыгмусь?

Яна маўчала. Нават не апусціла вачэй.

— Што ж, можаце і не казаць. Вы мяне ведаеце, я вас — таксама. Вы — паненка, а я, каб не прыйшлі саветы, быў бы ці сякім-такім гаспадарыкам, калі б пашанцавала, ці проста парабкам. Можа, нават і ў вас, у вашага брата. Лешак узяў бы сваё. Здаецца ж, быў такі намер: пакахаць няўдаліцу Яню, дачку Струмілоўскіх? Яшчэ гектараў з пяцьдзесят... Ды я не пра тое. Нават — прабачце. Наша ўлада не зрабіла вам крыўды. Жывіце, працуйце. Памятаеце нашы вечарынкі пасля вызвалення? Як старанна мы выціралі ногі, заходзячы ў ваш дом? А хто каго-небудзь з вашай сям'і пакрыўдзіў хоць словам? Мы любілі слухаць ігру вашай маці, але нам хутка абрыдла глядзець, як яна і гáдзіцца нас, і пакутуе ад нянавісці... Макар Бохан, ваш былы батрачок, таму і лажыўся, каб дапячы вам, на раяль, пакуль мы яму не сказалі, што годзе, што справа не ў гэтым. Мы не маглі інакш, бо мы ішлі, імкнуліся да святла і тады яшчэ, калі вы, ваша панская ўлада засланялі яго ад нас... Ад Макара, ад Стася, ад мяне... Ды хіба ж вам гэта наша імкненне патрэбна?!. Вы нас церпіце толькі, як церпяць, скажам, мароз, навальніцу... І тут таксама... бог з вамі!..

Яна глядзела на яго, нібы застыўшы ў насцярожанай позе. І выгляд яе заўсёды горда ўзнятай галавы, выраз яе твару з пахаладзелымі вачамі і губамі гаварыў нешта новае, падазрона не тое, што відаць было Лёню раней. Успомніў раптам, што падобна глядзеў на іх калісьці, на тых вечарынках, пануры Зыгмусь...

«Яснавяльможная прачнулася!..» — падумаў Лёня

і яшчэ больш адсунуў яе ад сябе, яе — жанчыну, ужо амаль не прывабную, а пакінуў толькі паненку, памешчыцу, відаць, усё ж такі звязаную з тымі, хто забіў Сярожу і Стася, хто акалечыў Адама, хто прымусіў так горка плакаць Алесю, хто... Трымайся, Жывень, спакойна!

— Панна Чэся, вы чулі, напэўна, што быў ужо Сталінград, была ўжо Курская дуга, што наша армія ў Гомелі, у Кіеве?.. Колькі там фашысты і розныя іх паслугачы ні брэшуць на нас, вы ведаеце, што і мы, партызаны, робім нямала. Вы памятаеце Стася?.. Яго няма. І больш палякаў у нашай брыгадзе няма. Але ж ці мы палякам ворагі? Мы хочам разам змагацца з фашызмам. Там, на польскай зямлі, ёсць, панна Чэся, не толькі АК, што хацела б старое вярнуць, але ж і Гвардыя Людова — нашы таварышы, польскія чырвоныя партызаны. І гэта не ўсё. Днямі пад Магілёвам уступіла ў бой першая польская дывізія імя Касцюшкі.

Чэся глядзела таксама моўчкі, нібы ведала ўжо і пра гэта.

— Чаго вы хочаце? Няўжо не ясна, што нашы не спыняцца да самага Берліна? Што будзе Польшча, ды толькі Польшча не тая, якой вам хочацца?.. Зразумейце ж хоць вы, панна Чэся.

Яна маўчала. І ён, нейкі момант моўчкі паглядзеўшы на яе, павярнуў на канкрэтнае.

— Я прыйшоў да вас як сапраўдны друг. Верце, пакуль не позна. Я прапаную вам перадаць брату, што камандаванне брыгады «За родную Беларусь» апошні раз працягвае вашым акоўцам руку. Яшчэ не ўсё страчана, яны яшчэ могуць вярнуцца на шлях сапраўдных патрыётаў. Вось!

Ён палажыў перад ёю запячатаны канверт.

— Няхай пан Францішак перадасць гэта Зыгмусю.

Толькі пасля ён зразумеў, што пра Шчуроўскага сказаў неабдумана.

Аднак яна і на гэта не адказала, нібы зусім не здзівіўшыся.

І тут на выручку ёй прыйшоў нечаканы стук у шыбу завешанага акна. Стук гэты падазрона паўтарыўся два разы. І голасу не чуваць... Лёня амаль усхапіўся з месца, узяў міжвольна з левай у правую аўтамат. Таксама міжвольна сышоў з акна, насупраць якога стаяў.

Не паспеў ёй сказаць пра пісьмо — яна сама схавала яго пад світэр.

— Гэта свае — Ядвіся з Франкам.

Ды ён усё ж пайшоў за ёю ў калідор.

Прыйшоў Шчуроўскі адзін.

— Яна асталася з дзецьмі,— сказаў пра Ядвісю.— А за мной нехта едзе. Удвух. Мусіць, таварыш Жывень, вашы...

Непрыемна ўсміхаючыся, лысы, сёння паголены мужчынка акуратна раскручваў з шыі самаробны шалік, здымаў куртку, вешаў яе — таксама ваеннае апрашчэнне! — на цвік, знарок па-мужыцку ўбіты каля парога ў панскую сцяну.

Цягнулася нейкая прыкрая, насцярожаная паўза, нібы перад немінучай бядою...

Лёня толькі ўзяў сябе ў рукі, хацеў пачаць з якоганебудзь пытання да Шчуроўскага, ды за акном пачуліся тупат і гамана. Лёня быў чамусьці ўпэўнены, што гэта свае, і таму стаяў сярод пакоя, ледзь не зусім спакойна чакаючы. І вось пачуўся стук у шыбу і голас:

— Гаспадар!.. Адчыні!

Словы гэтыя суправаджаліся не менш зразумелым для Лёні мармытаннем.

Адчыняць пайшоў пан Францішак.

Неўзабаве адтуль — адзін, без Шчуроўскага — увайшоў няраслы ваяка ў кепцы, з асабліва доўгай за яго спіною вінтоўкай. Сашка Немец з коннага ўзвода. П'яны, гад,— ажно ногі не служаць.

— А, Жывень! Прывітанне разведцы! Дык ты і праўда за паненкай ухлёстваеш! Так і запішам! Хто ішоў сюды перад намі? Дакументы на стол!

— Немец, пакінь!

— Стой, Жывень! Допыт мы зробім па форме. Восем месяцаў у міліцыі... Ты думаеш, гэта табе... ну, так сабе?

— Швагер мой перад вамі ішоў, проша таварыша. Быў у дзяцей, у Гарэліцы.

— Ага, у гарнізоне! З бобікамі нюхаецца? Так і запішам! Ты, пане, з кім — з паліцыяй, з панскай бандай ці з намі?..

— Немец, пакінь чапляцца. Тут людзі свае.

— Можа, каму яны і свае, а я ім... на грош не веру! Я іх такім, брат, вокам... Навылёт, як ранген!

Лёню нясцерпна захацелася ўзяць гэты «ранген»

за каршэнь і вынесці за дзверы. Аднак ён перамог сябе і, для большага поспеху, цераз сілу спакойна сказаў:

— Пойдзем, Сашка, адгэтуль. Позна.

— Позна? У нас тут уся ноч наперадзе! У мяне тут з імі яшчэ дзялоў!.. Я, брат, лепшы разведчык, чым ты! Так і запішам!

— Сашка, адно толькі слова. І ўвойдзем зноў. Мне, брат, трэба з табою параіцца.

— Са мной? Што, і камбрыг так казаў? Са мной параіцца? Ну, калі трэба, дык я... Я, брат, магу ўсё!

Калі яны выйшлі з пакоя ў цёмны калідор, Лёня хутчэй адчуў, чым убачыў, яшчэ аднаго.

Уключыўшы ліхтарык, злавіў святлом яго твар пад кудлатай зімовай шапкай — бялёсыя вейкі, што замір-галі нібы спужана, здаровы нос, здаецца, порысты ад воспы, і ненавісная, крывая ўсмешка...

— І ты тут, Мукасей? Ну што ж, паехалі.

А на дварэ ва ўпор і шэптам ад злосці спытаўся:

— Ты Немца напаіў?

— А што — без мяне ён, па-твойму, не можа?

— Ты напаіў?

— А калі я, дык што?

— Заўтра даведаешся — што. Чаго вас прыгнала сюды?

— Мы — то мы... Мы хоць удвух. Другія шэпчуц-ца па аднаму... сам-насам...

...Як жа гэта ўсё выйшла недарэчна!

Праўда, ён не даў ім там астацца. Малога Немца разабрала ў бок памякчэння настрою, і ён згадзіўся ўсцерабіцца сяк-так на каня і паехаць. А той — бела-брысы, з порыстым, як губка, носам — паехаў за імі сам і моўчкі, усю дарогу да Вуглоў. Далей, дахаты, у пушчу, яны пасунуліся адны, без Жывеня і Марціна.

Гадзіны праз тры, на досвітку, каб праверыць сваё цяжкае прадчуванне, Лёня заскочыў з Хомічам ва Устронне.

Двор і дом былі пустыя.

На століку, за якім сядзелі ■ Чэсяй, стаяў шкляны пачаты слоік вішнёвага варэння, упоперак якога ля-жала лыжка.

— Можа, стрыхніны якое насыпалі,— гудзеў Мар-цін, у святле Лёневага ліхтарыка схіліўшыся над ста-лом.— Наце вам, кажа, наш падарунак.

Лёня свяціў і маўчаў.

«Які ж я дурань! Які недарэка!» — думаў ён, глытаючы горкую злосць.

А потым ён узяў слоік на правую, свабодную, далонь і, азірнуўшыся па пакоі, выбраў цэль. Нават і пасвяціў туды з левай рукі.

Тое самае лінялае і бяздарнае палатно, помнік былое велічы, перад якім вераснёўскімі вечарамі рагатала над «нейкімі голымі бабамі» вольная вёска.

Партызан размахнуўся і пляснуў слоікам у адну з тых раскошна адпачываючых прыгажунь.

Здавалася, гэта была апошняя кропка ў летапісе панскага гнязда.

## 8

З таго ранку прайшло больш трынаццаці год.

Ад зусім нечаканай сустрэчы — пяць дзён.

Сеялі кукурузу на бульбянішчы каля Устроння. Пад'ехаў якраз Бухавец. І Лёня сказаў, што калі яна на такім абшары ды ўродзіць хоць бы не горш, чым летась,— куды будзе падзецца з сіласам?..

— Няхай толькі ўродзіць,— па-свойму заклапочана адказаў Адам.— Куды падзецца? А яма стаіць у цябе ды зеўрае каторы год пустая.

— Дзе?

У адказ Адам тыцнуў сваёй куксай у дэмісезонным рукаве ў той бок, дзе відаць быў маёнтак.

Ад яго засталіся, праўда, толькі дом, чатыры ліпы, бэз і цэлая плантацыя дзядоўніку, зімой — харчовая база для ўсіх навакольных шчыглоў ды чачотак. Эх, каб так яно ўсё ляпілася за зямлю! Вунь як цямнеецца, проста — насенны лубін.

— Ага, ты пра іх склеп! Паехалі, зірнём.

— Толькі мне і работы,— адказаў Адам.— Сам паглядзіш як-небудзь. Скляпы ў дварах былі адмысловыя Ну, бывай!

Па разгладжанай баронамі раллі ён пакаціўся да свае «Пабеды», што стаяла на дарозе.

А Лёня ўсміхнуўся ад думкі, якая толькі што і як быццам зусім нечакана, міжвольна з'явілася: «Хай сабе едзе!..»

Ён перакінуў павады цераз галаву Мяцеліцы, сеў у сядло і — па той самай дарозе ды ў іншы бок — паехаў туды, дзе ліпы, дом, дзядоўнік і... яна, што як з

неба звалілася ў гэты, нікім не ўзяты на ўлік, запаведнік панскай старасветчыны.

І сёння быў самы звычайны працоўны дзень, а яму, брыгадзіру, мужчыне, чамусьці раптам вельмі жыва ды хораша здалося, што ён — той самы, на кані, у небяспечнай цемры гаспадар начэй, поўны сілы і прагнага хвалявання юнак, якім ён быў... чорт вазьмі, так даўно!..

Быў і сорам, які змагаўся з пачуццём вострай, шматабяцаючай цікаўнасці. І змагаўся... не вельмі актыўна.

«Трэба ж мне яма для «палітычнай культуры»,— усміхаўся Лёня, нібыта маладзён, як быццам тут быў хтосьці, перад кім трэба было так усміхацца — для маскіроўкі.

Пад'ехаўшы да парослай бур'янам і напалавіну заваленай ямы панскага склепа, надоўга складзенага калісьці мясцовымі мулярамі з адборнага камення, Лёня з сядла паглядзеў на гэтую яму — амаль мімаходзь... Так, нядоўга, бо тыя два пачуцці — сораму і цікаўнасці — добра ўжо растрывожылі і нагрэлі яго сваім змаганнем. Па-саліднаму, па-мужчынску сорамна было за сваё блазенскае пазіраванне на коніку перад любым акном, з якога цябе, напэўна, бачаць... І па-блазенску прыемна было ад цікаўнасці: а ці бачыць яна сапраўды, ці выйдзе на парог з тым самым — і прытворным, і шчырым, і мілым, як калісьці, здзіўленнем: «Ах, гэта вы?..»

І пані Чэся выйшла.

Калі Лёня, як быццам на нечы голас, павярнуўся тварам да дома, ён убачыў яе на тым самым ганку, дзе з пацалункамі зайшла ў яго душу калісьці — і так нечакана надоўга! — салодкая, невылечная зараза.

Лёня міжвольна тузануў павады і, вядома ж, паехаў насустрач хвалюючай небяспецы.

— Добры дзень,— спыніўся ён каля самага ганка.

— Дзень добры, пане Леосю. Як хораша пан выглядае — зноў на кані. Нібыта ўсё вярнулася — і маладосць, і вайна... Ну, мілая, ну!..

Яна працягнула руку і тымі самымі белымі, цёплымі пальчыкамі, што гладзілі калісьці яго валасы і прыцікаліся да ягонай шыі, пашкадавала шэра-блакітную, з ружовымі плямамі і казытлівымі валаскамі далікатную храпу Мяцеліцы.

— Пан бязлітасны, пане Леосю. Як яна цяжка дыхае!

— Глядзеў тут ваш склеп. Падыдзе нам добра пад кукурузны сілас. Ён вашай маці і так, відаць, не патрэбен?

— А каб патрэбен быў, дык што — вы яго не ўзялі б?.. Мамусі тут больш не патрэбна нічога: я забяру яе. Разам паедзем.

Яму хацелася сказаць: «На добры лад, гэта вам трэба было зрабіць даўно». Ды ён сказаў:

— Крыўды ёй тут у нас, як бачыце, не было. Што ўсім непрацаздольным, тое давалі з калгаса і ёй. Ды і Зося стала інжынерам не з бяды.

Старая пані засталася тут з унучкай, Ядвісінай дачкой. Быў час, калі такое выходзіла вельмі проста. Улетку сорак чацвёртага года, калі яны ўсім родам уцякалі на захад, бабця з трынаццацігадовай Зосенькай адбілася ад сваіх у дарожным пекле, наступленне абагнала іх, і заставалася адно — вярнуцца. У «пекле савецкім», як называла пані нашу рэчаіснасць, яе здзівіла перш за ўсё тое, што дом іхні ўцалеў. У ім, як вераб'і пад бусліным гняздом, яшчэ пры немцах размясцілася шэсць сем'яў вуглоўскіх пагарэльцаў. Не менш здзівіла паню і тое, што яны не прагналі яе ад парога, а потым і зусім перабраліся ў сваю вёску, у новыя хаты, пакінуўшы ёй увесь дом. Поле пайшло, вядома, у калгас, але быў яшчэ агарод. Ніхто не забараніў ёй жыць з працы рук, пасылаць Зосю ў школу, а потым адпусціць яе ў інстытут, які тая летась скончыла. Нават і выйшла ўжо замуж.

Але Чэся, відаць, разумела ўсё гэта па-свойму.

Усмешка перасмыкнула яе румяныя вусны.

— Я вельмі ўдзячна за гэта. Але вазьму яе. Няхай не пакутуе, гледзячы...

Вочы іх сустрэліся на момант. Зразумелі адно аднаго...

— Пан жанаты? — сказала яна пасля даволі прыкрай паўзы.— Уцехаў шмат ужо? Ну, па-вашаму,— дзетачкі ёсць? Бачыце, пане Леосю, я яшчэ не забылася...

Ён не адводзіў позірку ад яе вачэй. Ён зразумеў, што яна пачала пра іншае не з простай ветлівасці або асцярожнасці: у цікаўнасці яе пачулася шчырая нотка. І ён адчуў патрэбную для любага змагання сілу.

— І вы замужам? Пашанцавала камусьці...

— Дзякую, пане Леосю! А пра дзяцей пан і не пытае. Сын у мяне. Мой Ясь.

— Што ж вы яго не ўзялі?

— Школа. Зрэшты, бацю я яму прывязу, а ўсё іншае... А потым — будзем шчырымі, пане Леосю,— хочацца і выпырхнуць куды адной, адчуць свабоду, маладосць... Сустрэць сваю цудоўную прыгоду... Тут не Балтыка і не Татры, вядома, але што ж... Гаворым: цяжка, і кахаем далей... Ці не так?

Па-свойму, па-ранейшаму, а можа, і больш яшчэ панадна прыплюшчаныя вочы дапамагалі гэтым словам.

— А пан любіць свабоду, пане Леосю? Хоць трошкі свабоды, праўда?.. Ёсць такія, што ўмеюць ёю карыстацца...

Ён — у сядле, яна — на ганку, і твары іх былі амаль на адным узроўні. У вачах яе зайграла спакуса, якая можа павесці, а ў тоне апошніх слоў пачуўся востры хмялёк той насмешкі, што, закрануўшы мужчынскі гонар, падварушвае нерашучага.

— Што ж, трэба ехаць,— сказаў ён, нечакана нават для самога сябе. Аднак застаўся на тым самым месцы. І здаўся сабе — да гарачага сораму — недарэкам.

— І вечна пан Леось вось так спяшаецца? То вайна, то планы... А што ж тады для сябе?

Ах, як далёка, ганебна далёка былі яны цяпер — і тая пякучая ранка на шыі, і слоік з вішнёвым варэннем!.. Напоены, аглушаны іншым пачуццём, ён не адчуў, як адчуў бы раней, яе чужацкі, яшчэ ўсё шляхецкі, не вельмі замаскіраваны замах на гонар найдаражэйшага для яго. Не сэрцам, а толькі розумам стала брыдка, і ён, каб адагнаць, у імя пачатай справы, свой сорам за самога сябе, прабурчаў першае, што прыйшлося:

— Вы там у горадзе ці ў вёсцы жывяце?

— Ну, калі наша Машэва — горад, дык у горадзе. Гэта, пане Леосю, на вызваленых землях, на Прымор'і.

— У школе працуеце?

— Неяк жывецца, пане Леосю...

— Сумна вам тут, у гэтай чыстаполіцы?

— Асабліва ўвечары,— адказала яна, па-свойму паглядзеўшы спадылба. Яшчэ і ўсміхнулася.— Ніхто не заедзе, не зойдзе...

— Нікога, скажам, і не запросяць...

Яна нарэшце засмяялася. Па-ранейшаму, па-дзявочы закінула назад залаціста- і пышнавалосую галаву, прыплюшчыла свае блакітныя, вялікія, так люба грэшныя вочы.

І гэты смех сказаў яму многа.

— Некаторы, можа, і заехаў бы, панна Чэся...

— О-о, пане Леосю! Якая цудоўная памылка — «панна Чэся!..». Я прыгадала пану той час, калі і сапраўды была не пані, а панна? Пане Леосю, пане Леосю!.. Час так хутка, так бязлітасна бяжыць... А нам з панам ёсць што ўспомніць. Калі ад сэрца, без нуднай палітыкі — дык нават і добрым словам. Іменна тут, на гэтым ганку... Ці не так?

Зноў нечакана для самога сябе, з п'янай рашучасцю ён глуха, паўшэптам сказаў:

— Вечарам... я прыйду.

Яна заплюшчыла вочы і ўсміхнулася. Потым, расплюшчыўшы іх, нібыта ў дапамогу не толькі, не проста какетлівай усмешцы, паглядзела яму ў душу, яшчэ дала паспытаць салодкага хмелю, зноў звяла доўгія, цёмныя расніцы і... кіўнула галавой.

## 9

Ён быў жанаты, гэта — праўда.

Аднак праўдай было і тое, пра што Лёня яшчэ нікому, нават пад чаркай, нават намёкам не прагаварыўся,— ён і дагэтуль не разабраўся — любіць ён сваю Алесю па-сапраўднаму ці не, каханне гэта ці так сабе...

Тады, пасля пахавання Сярожы, яна вельмі плакала перад Лёнем, калі яны пайшлі прайсціся просекай і асталіся адны ў сырым паўзмроку адвячорка. І ён быў да слёз, да болю сэрца засмучаны. А да таго яшчэ — яму было вельмі шкада гэтую чарнявенькую, разумную і такую яшчэ, як аказалася, бездапаможную дзяўчынку. І ён прыгарнуў яе, калі яна па-дзіцячаму, як да старэйшага брата, прыткнулася бяссільнай, набалеўшай галавой да кранутага халоднай вільгаццю шынельнага сукна на ягоных грудзях. Гэта было б так хораша і памятна на ўсё жыццё, калі б яно закончылася на тых, амаль зусім толькі братніх, чыстых пацалунках!..

Але ім гэта так спадабалася, што неўзабаве, пры трэцяй сустрэчы, яны спатыкнуліся...

Алеся яго кахала. З усёй яснасцю гэта выявілася ў тую ноч, калі яны сталі роднымі. Як яна плакала ў цемры пустой, зашчэпленай з сярэдзіны зямлянкі сямейнага лагера, як горача цалавала яго, на змену слёзам — ціха, сардэчна смяялася, захоплена, горача шэпчучы яму проста ў вусны, у вочы:

«І назаўсёды ты мой, я твая, назаўсёды!..»

А ён, шчаслівы, стомлены пераможца, ужо і тады, на яе дзявочай падушцы, адчуў нейкі холад і сорам, хутчэй няёмкасць, што выйшла ўсё так проста, нават залішне проста, іменна з ёю, Алесяй, Сярожавай сястрой...

Гэтае адчуванне — далёка, тонка, але ж балюча — брынчыць у душы і цяпер. Нібы нейкі дакор.

Ён і ажаніўся з ёю без асаблівага хвалявання, не бачачы іншага выхаду са становішча, і ў душы ганарыўся за гэта сваёй сумленнасцю. За дванаццаць год сумеснага жыцця яна справілася і ашчасліціць яго мілай, як першы палявы букет, дзяўчынкай і бойкім хлопчыкам — сынам! — і скончыць завочна фінансавы тэхнікум, добра працуючы раней у райкамунгасе, пакуль яны жылі ў раённым цэнтры, а цяпер, трэці год, у калгаснай канторы. Быў лад і ў хаце, і ў сям'і. І ўсё яна кахала яго, верыла свайму Лёню, і не падазраючы, відаць, што гэтага ўсяго яму — замала...

Часамі ён шчасліва, здзіўлена як быццам выяўляў, што яна ў яго вельмі харошая, мілая, сапраўдная, і ён з асаблівай, нібы вінаватай пяшчотнасцю цалаваў яе ў ціхай сямейнай цемры, шаптаў ёй штосьці молада, нібы просячы і ў яе і... у самога сябе прабачэння.

Аднак было і іншае.

«Як добра было б,— думаў ён даволі часта,— каб яна была не такая звычайная, каб я не толькі паважаў яе, але і кахаў — на ўсю душу, з хваляваннем!..»

Ды што ж, папрыгажэць Алеся не магла. Дзеці, праца, непрыемнасці, гады — не красілі яе і так не багатую, а ўжо і чэрствую жаночасць.

І ён глыбока ў душы лічыў, што лёс яго ўсё-такі абмінуў.

Ёсць у іх, праўда, дружба, сапраўдная дружба таварышаў, якія многае разам прайшлі. І ён ганарыцца, што гэтай дружбе аддаў усё, што мог аддаць.

Пяць год таму назад Жывень быў зняты з пасады загадчыка аддзела ў райсабесе.

Гэта была не першая ў яго пасада. Адразу пасля партызан яго прызначылі дырэктарам спіртзавода. Там быў патрэбен не толькі розум, якога ў Лёні хапіла б, але і службовая вёрткасць, якою ён пагарджаў. Ён не хацеў, каб спірт выцякаў праз усякія дзірачкі, не па прамому прызначэнню, і праз некалькі месяцаў папрасіўся, каб яму далі другую работу. З другой работы, праз некалькі год, яго перавялі на трэцюю па той прычыне, што яна, другая работа, была ім вельмі нядрэнна наладжана і туды быў пастаўлены больш заслужаны таварыш. На трэцяй пасадзе Жывеню было і лёгка і сумна. Сумна — ад гэтай іменна лёгкасці... Лёня змалку даволі многа чытаў. Сустрэўшы ў аднаго пісьменніка словы: «Я быў разлічаны на большае» — не ўпершыню задумаўся пра сваё жыццё. Пра тое, што расце ён *не па той лініі*. Не змог, як хітрэйшыя хлопцы, вырвацца з работы на вучобу, не набыў прафесію па душы — скажам, настаўніка ці інжынера,— на якой мог бы найбольш карысна працаваць, а проста, от сабе, ішоў — куды пасылалі. Другая яго пасада, па сельскаму будаўніцтву, падабалася яму. Але што ж, спадабалася яна і другому... Былі такія, каму падабалася і трэцяя яго пасада. Яна лічылася, як-ніяк, адказнай, і потым, каб Жывеня пакараць, з гэтай пасады яго знялі — як недастойнага.

А здарылася гэта з-за Алесі.

Пры немцах яна вучылася ў беларускай настаўніцкай семінарыі. Вядома, лепш было б ёй не вучыцца. Але ж Лёня і сам, уцёкшы з палону дахаты, амаль цэлы год быў у суседняй вёсцы настаўнікам пачатковай школы. Каб не чаплялася паліцыя, каб у Нямеччыну не вывезлі. Не адзін ён выкручваўся ад гэтага, як мог. Праўда, апошнія тыдні свайго настаўніцтва Лёня хадзіў з наганам за поясам, пад кашуляй. Каб так сабе не дацца, калі як-небудзь выйдзе наверх яго сапраўдная работа... Алеся рэвальвера не насіла. Шаснаццацігадовае дзяўчо і не думала нават, што звесткі, якія яна прывозіла хлопцам у сваю вёску, і тыя іх просьбы, якія ёй даводзілася выконваць у горадзе,— ну, перадаць там нейкае пісьмо, дастаць, скажам, паперы,— што ўсе гэтыя дробязі даюць і ёй права называцца партызанкай.

Яны — вуглоўская група маладых падпольшчыкаў — у той суровы час кіраваліся самі. Не было яшчэ

з кім раіцца, як найлепш рабіць тую справу, на якую яны пайшлі па загаду сумлення. Адным актывістам, як Адаму Бухаўцу, пашанцавала ўцячы на ўсход, другіх гітлераўцы пастралялі, трэція нечакана прыціхлі. У ваколіцы, да вясны сорак другога года, не чуваць было ні мясцовых, ні прышлых партызан. Самі хлопцы падполле ладзілі, самі пайшлі са зброяй у лес.

Алеся была сувязной аж да наступнага лета. Тады — зусім нечакана — у іхнюю пушчу з Вялікай зямлі прыляцелі на дапамогу землякам Бухавец і Сяропса Чамбровіч... Незадоўга перад гэтым фашысцкія паслугачы пачалі націскаць, каб усе ў той настаўніцкай семінарыі запісваліся ў іхні СБМ — «саюз беларускай моладзі». Алеся — з ведама атрада, каб і далей працаваць на яго,— стала для лепшага выгляду «эсбээмаўкай». Калі ж іх Сярожа нібыта вынырнуў з двухгадовай глухой, балючай невядомасці, яна, толькі пачуўшы пра гэта ад сувязнога, уцякла з горада дахаты — хавацца ад ворагаў па закутках ды мэндліках разам з бацькамі, пакуль і ўсім ім не давялося перабрацца ў пушчу.

І вось праз сем гадоў пасля вайны, калі ўжо іхняя Маруся скончыла першы клас, Лёню запрасіў зусім бязгрэшны Зімін, «ёсць звесткі», ужо маёр, і тонам сяброўскай парады прапанаваў ні больш, ні менш, а развесціся з жонкай!.. «Годзе табе прыкрываць яе сваім імем...» Лёня не паслухаў, вядома, не паверыў у недарэчную хлусню, што атрутным брудам сабралася вакол чыстай душы Сярожавай сястры і ягонай сяброўкі. І толькі ў сувязі з тым — прымусовым і імі, партызанамі, дазволеным, патрэбным для іх — месяцам прабывання ў фашысцкім маладзёжным саюзе.

Лёня не толькі не паверыў Зіміну з усімі яго «звесткамі», але назваў гэта спачатку дзіўным непаразуменнем, а пасля, разнерваваны,— дзікай і варожай правакацыяй.

Пануры Зімін лёгка шчоўкнуў костачкамі пальцаў па тоўстай, мяккай папцы з нейкімі паперамі:

— Я гавару з табой пра твой абавязак! І ты мне ласкі не рабі!

— Пра абавязак? А як жа я потым у вочы зірнуў бы — і ёй, партызанскай памочніцы, потым настаўніцы партызанскіх дзяцей, сястры майго друга, маці маіх дзяцей? Як я смеў бы не толькі назваць, а нават успомніць яго, Сярожава, імя? Як я мог бы хадзіць па род-



На Нарачы. З Міхасём Лыньковым.
*1964 г.*

най зямлі, страціўшы веру ў сваіх таварышаў, у самога сябе? Вы думалі пра гэты мой абавязак?

— Ты, Жывень, вельмі дарма прыкрываеш яе. Звесткі гавораць...

— Пакіньце, таварыш маёр! Не думайце, што на вас і свет канчаецца.

— Свет не свет, а чыясьці кар'ера — можа. Вось! Той самы шчоўк па тоўстай, мяккай папцы.

— Ты не старайся, Жывень, усміхнуцца. Хопіць тут і з цябе..

Было закранута яшчэ адно, чым ён мог ганарыцца: на яго... ды што там! — амаль гераічныя ўцёкі з палону бяздушная рука паставіла тоўстым сінім алоўкам пытальнік...

Два гады ён змагаўся за сваю і Алесіну праўту. Пры дапамозе нямногіх сяброў, дзякуючы якім і ве рыў, што гора яго — часовае непаразуменне. Так і вый шла,— вясной пяцьдзесят чацвёртага года яму прапанавалі работу ў раёне. Ды ён тым часам прыжыўся ў сваіх Вуглах, знайшоў жывую цікавасць да працы ў калгасе, на які якраз была звернута большая ўвага, і ў раён не пайшоў. Тым больш што старшынёй да іх, у Гарэліцу, пакінуўшы свой райвыканкомаўскі кабінет, прыйшоў Бухавец. Добраахвотна, як калісьці з фронту ў партызаны. Гэта іменна ён, Адам, ваяваў за яго і за Алесю, гэта ён быў чалавекам, з якім хацелася падзяліцца і найлепшым і найцяжэйшым у жыцці. Уцякаць ад яго зноў у які-небудзь ціхі ды затхлы райсабес — гэта было б дэзерцірствам.

Па Адамавай прапанове Жывеня зацвердзілі брыгадзірам. Алесю ўзялі на працу ў кантору, бухгалтарам.

Так яны пачалі сваё жыццё зноў ад пачатку.

Лёня быў ім пакуль задаволены. Працай, што была клапатлівая, але жывая; кнігамі, на якія зімовымі вечарамі часу хапала; дзецьмі, якія добра, весела раслі; жонкай, якая...

Ох, не!..

З ёю, з Алесяй, яму чагосьці не хапала...

Інакш не было б ні тых па-юнацку хвалюючых мараў пра штосьці, што можа яшчэ адбыцца, ні таго суму і крыўды на няшчодры лёс, не пацягнула б магнітам да той, каго ён і дагэтуль успамінаў як самую чароўную з усіх знаёмых і незнаёмых жанчын.

## 10

...Пазней, калі апала першае полымя, Чэся прызналася, што больш за ўсё хацела, каб гэтая прыгода была ў іх па-сапраўднаму прыгожай.

Ноччу, баразнамі, як злодзей, ён прабіраўся з вёскі сюды, рызыкуючы ў імя той самай прыгажосці.

Яна сустрэла яго пад крайняю ад Вуглоў ліпай, у самым далёкім кутку сялібы. Светлы плашчык заўважыў ён у паўзмроку здалёк. Калі ж спыніўся перад ёю, рукі яго незразумела, здрадліва дрыжалі. Маўчаў, каб не дрыжаў і голас. Яна маўчала таксама. І ён абняў яе, прыпаў да вуснаў, да шыі...

Уступ, аднак, не зацягнуўся. Як быццам яны, не змаўляючыся, вырашылі ўлічыць усё, што адбылося ў іх тады — семнаццаць год таму назад.

Чэся ўзяла яго за руку і, шэптам загадаўшы маўчаць і ступаць асцярожна, павяла да акна.

Старыя рамы расчыніліся, нібы таксама па яе загаду, моўчкі. Лёня пранік у пакой. Адтуль, у зусім ужо маладым ап'яненні, ён памог ёй лёгка перабрацца цераз падаконне...

...Акно засталося адчыненае і дыхала на іх крыху загадкавай, крыху хвалюючай і прыемнай свежасцю красавіцкай ночы.

Чэся, адпачываючы, курыла. І гэта яму падабалася. Іменна той момант, калі яна падносіла цыгарэту да вуснаў і цягнула. Агеньчык ажываў, выхопліваў з паўзмроку яе твар на падушцы, у безладзе хвалістых светлых валасоў, і — самае прывабнае, бо незвычайнае — трохкутнік бліскучага ланцужка, які сыходзіўся ў маленькім медальёне трохі вышэй над яшчэ маладымі грудзьмі. З левай рукой пад яе шыяй і плячамі, ён збоку і зверху глядзеў на яе ад сцяны, любаваўся здабытым скарбам. І час ад часу не вытрымліваў — дакранаўся да пышнай, духмянай, гарачай пяшчотнасці прыпухлымі ад пацалункаў губамі...

Прыкурыўшы ў яе, ён усміхнуўся:

— А яму ў цябе добра!

— Каму?

— Ды Езусіку. Бачыш ты, прымасціўся!..

Цёплыя плечы на яго руцэ перасмыкнуліся. Яна заціснула агеньчык у сподку на тумбачцы і, памаўчаўшы яшчэ хвілінку, сказала:

— Не люблю, калі блюзняць.
— А ты што — верыш?
— Не толькі.
— А што яшчэ?
— Яшчэ і ваюю за гэта.
— З кім?
— З бязбожнікамі, прашу цябе, з камунай.
— З камуністамі — у Народнай Польшчы?
— Тра-ля-ля-ля! А толькі гаворыш: «Ведаю, што ў вас там робіцца»... Зрэшты... — Яна працягнула левую руку, у якой быў нядаўна агеньчык, і пяшчотнымі пальцамі правяла па яго валасах.— Зрэшты, каханне маё, я на тваім месцы не вельмі стаяла б за іх... Я трохі ведаю...
— Што?
— Тое самае. Як табе адплацілі за верную службу...
Ён памаўчаў. Здагадаўся, на што яна намякае. Сказаў з пякучай гордасцю ў голасе:
— А ты што ў гэтым разумееш?
— Ды тут і разумець няма чаго.
— Не разумеючы, яно лягчэй...
— Ты злуешся? Не трэба, каханне. Я не хацела цябе абразіць. Ну, не трэба...
Яна ўзялася выводзіць іх з тупіка, выцягваць тую белую нітку, што ўжо даволі прыкметна і непрыглядна сцягвала іх чужыя... так, ён адчуў гэта як быццам упершыню — іх розныя, чужыя душы. Больш таго — у ягонай душы накіпала, збіраючы даўнія сілы, і батрацка-працоўная і партызанская злосць на яе, адсвяжалася даўняя крыўда, абраза, якой яму заплацілі калісьці за шчырасць, за працягнутую руку. І з гэтай крыўдай і нянавісцю, узмацняючы іх, спалучалася злосць на самога сябе... З-за слоў яе — вось гэтай колішняй каралеўны, якая так лёгка стала і для яго вяселаю, «прагрэсіўнай» носьбіткай прыгожых прыгод. З-за гэтых па-шляхецку ганарыстых слоў пра яго найдаражэйшае, святое міжвольна выплыў, халодна-балючым дакорам устаў перад ім вобраз Алесі, дружбу з якой ён кінуў у гэты вось заплеснявелы, дагніваючы панскі закутак...
— Я столькі думала пра цябе! І ты, я веру, таксама. То ж праўда, каханне маё? Ты разумны, ты з інтэлігентнай душою, ты ведаеш, што чалавеку трэба ад

жыцця. Няўжо ж мы для таго сустрэліся, каб пасварыцца?

Яна схілілася над ім і пачала будзіць яго з горкай задумы пяшчотамі.

Ды гэта было ўжо не тое. Амаль уся тая «прыгажосць», што замяняла ім дагэтуль сапраўднае, паўнацэннае пачуццё, знікла кудысьці і не хоча вяртацца... Прынамсі — для яго.

Бо яна ўсё кліча яе — гарачая, пышная самка. Яна яе ўмее, ой, як умее клікаць...

...Вельмі дарэчы і гэтае акно, і такая глухая, свежая ноч.

— Ну, нарэшце ты, можа, пакінеш дзьмуцца? І гэтак упарта маўчаць. Ну, не глядзі так!..

А ён усё ж такі памаўчаў і даўгавата, не могучы знайсці ні слоў, ні думак у зноў пустой галаве.

— Хто ж табе тое сказаў? — спытаўся потым.

— Што?

— Ну... што мне «заплацілі»...

— Зноў ты пра тое... Магла сказаць і мамуся.

— Але ж не сказала...

— О Езу! Ты і дагэтуль астаўся разведчыкам! Як яны пакалечаны, вашы бедныя душы, палітыкай! Нават і тут, і цяпер ты думаеш пра яе! Як тады... Памятаеш?

— А ты... непакалечаная душа!.. Адкуль жа ў цябе... я скажу проста: столькі цынізму? Напамінаць мне... Пра што — пра тое варэнне, што вы пакінулі нам на стале? Пра вашы ўцёкі ў гарнізон?

Яна закурыла. І пры святле запалкі, а потым агеньчыка, які цяпер разгараўся часцей і мацней, ён убачыў яе строга-прыгожы профіль з ганарліва нахмуранымі бровамі.

— Хочаш пачуць маю шчырасць? Пра якое ты мне варэнне?.. Няўжо ты думаеш... Ну... Я наогул была тады дурная для барацьбы. Асабліва, калі хочаш, пры табе. Я больш глядзела, як зачараваная... Пісьмо тваё я Зыгмусю, вядома, не перадала. І Франаку не сказала. Цяпер падумаўшы: каб я перадала — ён пасмяяўся б...

— Нікчэмнасць.

— Хто?

— Фашысцкі прыхвасцень. Ён жа не толькі сюды, але і да вас, у Полычу, баіцца прыехаць.

— Ты забываешся, што ён мой брат!

— А ты, што ён — мой вораг. Не толькі мой, але майго народа. Каб ты хоць трохі разбіралася, дык і твайго.

— Гавары, пан, спачатку за свой народ. За свой мы самі разбяромся. І Зыгмусь ваяваў за Польшчу. Час прыйдзе — вернецца і ён. Як Лешак з нямецкай няволі... Праз столькі гадоў!..

— Ха! Зраўняла!.. Ты не ведаеш, можа, што гэта яны нас тады абстралялі? Можа, скажаш, што і наогул не ведала, дзе ён быў, з кім і як яны ваявалі? Колькі людзей, па вёсках ды па хутарах, паплакала ад іх, крывёю аблілося?.. — Ён памаўчаў.— Ну, а сюды яму, Зыгмусю, не хочацца яшчэ? У маёнтак? Ці, можа, і сюды пара? Нават з-за мора-акіяна?..

— Гэта таксама час пакажа...

— Ты, бачу я, цяпер ужо куды лепш падрыхтавана да барацьбы.

— О так! Цяпер бы я паводзіла сябе інакш!

— Ну, а паводзіш як?

Яна маўчала. Пасля засмяялася:

— Дурныя мы!.. Зноў за палітыку!.. Гэта я так... Ад цябе заразілася. У вас жа тут усё прасякнута палітыкай. Нават зямля, нават каханне...

І ў смеху і ў словах яе яму выразна чулася няшчырасць.

Але яна ўжо зноў схілілася над ім:

— Ты — мой смелы... О, такі вось салодкі!.. Такі адзіны... Не пабаяўся, прыйшоў... О, як жа я ўдзячна табе!.. Маўчыш. Ну, не злуйся, прабач мне яшчэ раз, апошні... А ў мяне нават просьба была,— сказала яна пасля паўзы.— Без усякай палітыкі, проста так пасяброўску... Ціха! О Езу, мамуся ідзе сюды! Ты заціхні, каханне, а я сустрэну яе там...

І сапраўды — за дзвярамі на калідоры пачуліся крокі і галасы.

— О, яна не адна!..

Скрыпнулі дзверы.

— Чэсю! Ты спіш, дачушка? Мы да цябе з панам Мукасеем.

Чэся ўсхапілася, накінула халат і выйшла са спальні ў суседні пакой.

## 11

Сівая, ссутуленая, але яшчэ ўсё стракатлівая пані Генавефа і белабрысы,васпаваты гугніла Мукасей адчувалі сябе больш-менш нармальна. Гэта чутно было Лёню ў іх гутарцы за тонкай перагародкай.

Сам ён, няшчасны каханак, запёрты, як зброддлівы кот у чужой каморы, баяўся паварушыцца. Колькі смеху было б, колькі ганьбы, каб нехта даведаўся!..

А найгорш было Чэсі...

— Я ж пані так і гавару, як з вамі ўчора гаварыў, паненачка,— гугніў Мукасей.— Больш вам не дасць ніхто. Калгас калі і возьме, дык за капейкі, бо толькі на дровы, цэглу апальваць. А я з гэтай вашай абэржы зляпаў бы сякую-такую хату для свайго «доктара».

— А што, ваш сын — доктар?

— Доктар, паненачка... Дзесяць год валачыўся ў Гарэліцу. А летась паслаў я яго ў медыцынскі інстытут. Вывучышся, думаю, дык пры ўсялякай уласці кавалак хлеба будзе... А яму там узялі ды балаў не паставілі, колькі трэба. Дык вось і вывучыўся на сабак брахаць. У клубе цяпер, загадчыкам. Вучоныя!.. Старэйшы, дык той хоць з бацькі не бярэ. Інжынер, называецца, а капейкі ў хату не ўкіне. Сам, стары, ведай — рабі, рабі ды папраўся.

— Пане Мукасей, давайце гаварыць, як добрыя суседзі. Дзесяць тысяч — зусім няшмат. Што цяпер гэтыя тысячы. Сад увосені пан прадасць — вось і дом...

— Ай, пані, каб гэта так, як вы гаворыце! Чаго б ён плакаў, слеп, каб бачыў божы свет? Што цяпер, вы кажаце, тыя тысячы. Хоць і пры той самай Польшчы — чалавек, скажам, прадасць быка або каня, дык азалоціцца. А што цяпер?

— А ўсё ж крычалі, пане Мукасей, а ўсё ж стагналі: «Паны! Крывапіўцы! Прыгнёт!..»

— Крычалі, пані... А хто крычаў? І як крычаў? Таксама трэба разбірацца... Я вось, вы скажаце, у партызанах быў. Быў. Як вужа віламі, прыціснула мяне паліцыя, ледзь вырабіўся, калі мой інжынер здурнеў тады, смаркачом, як вам вядома, быўшы, ды пабег у лес за ўсякай галайстрой. Давялося і мне, гаспадару, па людскіх панадворках цягацца, у чужыя хлявы заглядаць. А вы ж, здаровы, самі ведаеце, які з мяне быў бальшавік...

Так, паміж двух агнёў Чэсі было найцяжэй. Лёню здавалася нават, што бачыць, як яна пакутуе, не могучы, каб не выдаць самую сябе, сказаць ці хоць бы падміргнуць тым дваім: спыніце вы гэтую споведзь!..

І споведзь плыла:

— Я да вас, пані, і да вас, паненачка, і тады як чалавек: «Уцякайце, кажу, куды-небудзь, бо нешта яны з вамі не так сабе. Нездарма ён, Жывень, братацца з вамі пачаў. Пастраляюць бязбожнікі...»

— Ды што там, пане Мукасей!.. Навошта даўняе ўспамінаць...

— Трэба, Чэсю, добрае трэба ўспамінаць. Пан бог заплаціць вам, пане Мукасей, за тое, што вы нас тады папярэдзілі. Няхай нас маці найсвентшая заўсёды ратуе ад смерці раптоўнай і неспадзяванай!.. Толькі цяпер вы дарма нас хочаце пакрыўдзіць...

— Чатыры тысячы, пані, гэта і грошы з мяшком за такое гнілле. Я да вас і тады, і цяпер, і заўсёды быў як чалавек. А вы мне, бачыце, не вельмі... Вы думаеце, пані, другі вам так памагаў бы, як я? А колькі трэба было хавацца! Ой, паненачка, яшчэ вам гэта гатоў расказаць!.. Іду тыя разы ўзмежкам, цёмначы, нясу... ну, хлеба бохан, ці бульбы мяшок, ці сала добры аполак, а сам душою дрыжу: будзе табе, Мукасей, калі выйдзе наверх, не памогуць табе ні сыны-камсамольцы, ні тваё партызанства!.. Але ж шкада было, пані, і вас, і вашу ўнучачку. І да калгасаў і пры калгасе. Чым мог, тым памагаў. Відаць, вам пані сама гаварыла пра гэта, паненачка? Ды і я ж ужо гаварыў.

— Гаварылі, пане Мукасей, і я вам вельмі ўдзячная за ўсё.

— Удзячная, Чэсю, дык гэта мне зразумела: ты ж чалавек культурны. Але ж, пане Мукасей, не за так вы мне і памагалі. Чаму ж вы маўчыце пра тое, што кожны раз бралі з мяне распіску?..

— Але ж, мамусю! Не трэба!..

— Чакай, дачушка...

— Я гавару — не трэба. Дзеля бога!..

— Я яму ўсё скажу, хоць цяпер!.. Ён мне ўжо ўсе нервы растузаў, гэты... пан Мукасей! Я маўчала, калі баялася. Айчына ўспомніла пра мяне. Я — Расіцкая з Анцутоўскіх, і я не дазволю...

— У імя ўсяго найдаражэйшага, мамусю, ну, не трэба! Ты ж павінна ўбачыць усіх, хто любіць цябе...

І Лешак, і Зыгмусь... Ну, супакойся... І вы, пане Мукасей... Ну, я вас прашу — таксама...

— А што, паненачка, я? Я ж толькі заікнуўся пра сваё. Калі я, пані, насіў вам, карміў вас, як родную маці, дык і я быў для вас чалавек...

— Быў ты мне, Мукасей, чалавек, дабрадзей! А хто з мяне распіскі браў? Два-тры кошыкі бульбы, бохан хлеба, кавалак сала — і зноў распіска на цэлы гектар!..

— Мамусю, родная, мы з табой хутка паедзем... Ужо і дакументы для цябе...

— Мы паедзем, а ўсё застанецца!.. Наша, кроўнае, ад дзеда-прадзеда!.. Я паеду, а што я скажу сынам? Што скажуць Лешак і Зыгмусь? Куды ім будзе вярнуцца? Пан Чарнота таксама думаў, што гэта глупства! Пры тых яшчэ, пры самых першых бальшавіках, калі тыя банды пайшлі на Варшаву. Я тваю хітрасць, пане Мукасей...

— Але ж, мамусю!..

— Мільч, Чэслава! Я яму ўсё павінна сказаць! Свентай паменці пан Станіслаў Чарнота сядзеў тады ў бальшавіцкай турме з адным хамам. Арандатар нейкі, млынар ці яшчэ нешта іншае. Сядзіць пан Чарнота дый кажа: «Езу каханы, каб жа хоць закурыць! Увесь маёнтак таму адпішу, хто дасць адну папяроску!..» А той, што ў камеры з ім... Ну, ты ведаеш, Чэсю, таго, што пасля на Чарнотавым Бэрнатове панам сядзеў,— нейкі Шуляк. Дык у таго Шуляка, як на грэх, знайшлося ўсё — і тытунь і запалкі. Пан Чарнота і напісаў таму хаму...

— Але ж, мамусю, я ўсё гэта ведаю!

— Нічога ты не ведаеш! Ён напісаў яму распіску на ўвесь маёнтак. Думаў, бедны, што так ці так — усё прапала. І вось самога яго расстралялі праз дзень... Сьвяці, пане божа, над нявінная душою! А той вырадак, калі бальшавікі адступілі, стаў панам на Бэрнатове. Да самай вайны спадчыннікі пана Чарноты судзіліся з ім. Вось! А ты мне, Чэсю, гаворыш!

— Нічога я, мамусю, не гавару. Ты толькі супакойся, любая!..

— Ну і што ж гэта, пані, да чаго? Няўжо ж вы мяне з Шуляком зраўнялі? Хоць ён і панам быў перад вайной, а круцель круцялём. Немцы ўжо, як сабаку, расстралялі яго за гумном. Сам зондэрфюрэр Шульц ха-

цеў Бэрнатовам завалодаць. А я, пані, на чужое ніколі не разяўляўся. Быў я калісь гаспадар, дасць бог — можа, і яшчэ пабуду, хоць на старасці год. Хай мне толькі маё аддадуць — зраблю я сам сабе сацыялізм. Паненка, гаворыце, што ў вас там, у Польшчы, якраз на тое ўжо і пайшло, без калгасаў. Можа, яно і сюды дакоціцца, можа, бог дасць, і тут усё стане на месца... Вы вось, пані, лаеце мяне ды брыдзіце, а я богу душою нічога не вінават. То ж забаўка адна была: я пісаў — не ведаў, навошта пішу, а вы, пані, таксама падпісвалі. Я тыя вашы распіскі даўно парваў ды на вецер пусціў.

— Не лжыце, пан Мукасей, пабойцеся бога! Ды што вам бог! І вам, і вашым дзецям!

— Ой, пані, не грашыце і вы! Я не адрокся ад бога і не збіраюся.

— Дык вось ён і пакарае цябе за тое, што ты абрабаваў мяне, старую, безабаронную! Ён не дасць мяне ў крыўду!

— Ат, пані, каб я з гэтай вашай табурэткі не ўстаў, калі я іх не падзёр, тыя вашы распіскі. Эх, не было з кім пагаварыць! Не сказаў мне збавёны чалавек у тую ліхую хвіліну: «Не лезь, не пэцкайся, Мукасей!» І палез. Ну што ж, гарэць, калі так, панскаму дому ў калгаснай цагельні. А вам і ў Польшчы паняй не быць: і там да вас мужыкі дабяруцца! Бывайце здаровы!

— Бог усё бачыць, Мукасей! Ён табе...

— Але ж, мамусю!..

— Ты мяне, дочка, не вучы!

Бразнулі калідорныя дзверы.

## 12

Чэсі не палягчэла і пасля гэтага.

У мамусі разбушаваўся даўні, завалены гадамі горкага маўчання панскі дух. Яна трашчала, як старая, з растузанымі нервамі сарока, сыпала на галаву таму разбойніку, хаму і крывасмоку і панскія, і хамскія праклёны, да якіх яна, дарэчы, прызвычаілася яшчэ пры сваім пану Яну. Заадно з Мукасеем дасталося і ўсім яго суайчыннікам, усяму бязбожнаму бальшавіцкаму свету.

А дачка, звязаная па руках сваёй таямніцай, мусі-

ла толькі ўлагоджваць нервы старое, угаворвала пайсці адпачыць.

— Я сама ўсё зраблю,— гаварыла яна, як гавораць малым.— Я сама ўсё, мамусю, уладжу. А ты ідзі, супакойся, паспі...

Калі яны абедзве пайшлі ў далейшы пакой, Лёня ўсхапіўся і пачаў, як па трывозе, апранацца.

Вярнуўшыся, яна спынілася ў праёме дзвярэй.

— Усё гэта, аднак, даволі прыкра...

Ён толькі злосна дыхаў, адвярнуўшыся, ужо апрануты.

— Яшчэ не вельмі позна...

Не адказваў.

— Няўжо ж мы так расстанемся? Ды, зрэшты, што хацець...

Гэта зрабіла сваё. Ён падышоў да акна і стаў закурваць.

— Можа, маю? Яны — добрыя.

— Дзякую. Учора думаў: зусім пакіну курыць...

Апошняе вырвалася само, якраз пасля таго, калі ён першы раз, з прагнасцю і асалодай зацягнуўся, дыхнуў гарачым дымам у акно, насустрач прахалоднай свежасці. Словы былі не толькі недарэчныя, але і без патрэбы, нечакана шчырыя.

Яны, відаць, і падбадзёрылі яе. Чэся прайшла, пасвойску, цёпла ацёршыся аб Лёню ў вузкім праходзе, да тумбачкі, узяла цыгарэту, нават пашастала запалкавым карабком, аднак прыкурыць папрасіла ў яго.

Разлік, калі ён быў, не апраўдаў сябе. Жар двух злучаных агеньчыкаў не нагадаў яму пра прымірэнне. А нібы незнарок шчодра расхінуты зверху халат не ўскружыў галавы. І не толькі таму, што ўжо адсутнічалі чары таямнічасці, што ён стаміўся ад яе прыгажосці. У душы яго не маўчалі другія пачуцці. Шыя, плячо і ў меру не зусім адкрытыя грудзі з трохкутнікам ланцужка сталі проста адкрытым целам, астуджанай мякаццю. Больш таго — у гэтым, нібы падсвядомым, нібы натуральным для яе какецтве ён зноў убачыў разлік на ўздзеянне. Убачыў і злосна ўсцешыўся, што прамахнулася. Ён не сказаў нічога, але і ад позірку яго, у якім апроч пагарды было і страшнейшае — грэблівасць, яна захінула халат. І сціпла села на край — толькі цяпер гэта стала прыкметна — вузкага ложка.

— Пане Леосю,— сказала, зноў перайшоўшы на

«вы»,— як усё ж такі многа прозы ў жыцці! Такой вульгарнай, але, на жаль, непазбежнай!..

Ён памаўчаў.

Пасля спытаўся:

— Што вы хацелі ў мяне папрасіць? Што вы за просьбу не дасказалі?

У сваю чаргу і яна памаўчала. А потым:

— Хм! А вы, гляджу, не зусім пазбаўлены рыцарства.

— Не гаварыце пошласці, Чэся. Яе тут і так было дастаткова.

— У мяне ці ў вас?

— Вядома, і ў мяне. Але ж і вы... Дык што вам памагчы?

— Ну што ж... Я вас хацела папрасіць.. купіць наш дом... для калгаса.

— Гэта — і ўсё, што вам прыйшло ў галаву?

— І то з-за мамусі хацела прасіць.

— Ці не тыя распісачкі непакояць і вас? Маўчыце... Няўжо вы ўспомнілі, што Мукасей — мой дваюрадны брат? Што я магу ўгаварыць яго вярнуць іх вам? Зноў маўчыце... Як і тады вы маўчалі, калі я прыязджаў з пісьмом. Эх, панна Чэся! Ну, няхай ужо маці, старая пані, хворы чалавек... І столькі гаварыць пра Айчызну, пра гордасць... Прабачце, гэта не Польшча — усе тыя вашы распісачкі, усё, чым дыхнула ад іх! Таксама, як не мы, не Беларусь — увесь гэты ваш Мукасей... Нічога, дамовіцеся, ён яшчэ прыйдзе. Уладзіце ўсё. А я вам дзякую за шчырасць, хоць такую.

Яна ўстала. Захінула яшчэ раз халат, нават прыціснуўшы яго рукой на грудзях.

— Добраноц пану,— сказала глуха.— Ест бардзо пузьно.

Твар яе быў так недалёка, што нават у паўзмроку відаць было, якім холадам гаварылі вочы.

— Вось гэта правільна — позна,— адказаў ён з усмешкай.— Позна нават і для нянавісці. Правядзіце мяне, калі ласка. Праз дзверы.

На ганку ён хацеў штосьці сказаць, нават памкнуўся, але асекся на хаду і толькі выдушыў:

— Довідзэня.

...Праз некалькі хвілін на засеяным полі сустрэліся два чалавекі. Яны не хацелі гэтай сустрэчы — ні той, што ішоў ад вёскі, ні той, што з былога маёнтка. Ві-

даць, нават наткнуліся адзін на аднаго ў цёмных кустах сваіх думак.

— Што, раздумаў? — спытаўся адзін з іх, зблізку гледзячы ў твар другому.— За дом ідзеш дадаць ці мо вярнуць распісачкі?

— А ты... зноў кампаніі з імі шукаеш?

Адзін глядзеў другому ў белабрысы, падзюбаны воспай, па памяці бачны твар, поўны глыбокай і грунтоўнай нянавісці, змешанай з хітрай, асцярожнай баязлівасцю. І ў душы таго, хто глядзеў, як у кіпені, то ўсплывалі, то хаваліся абрыўкі горкіх успамінаў...

Ананімкі... Бяздушнасць тых, што ім верылі. «Добры дзень! Як жывеш? А-я-яй, як шкада, брат!..» Такое — з вуснаў тых, што ўпотай смуродзяць жыццё «добранамернымі» пісулькамі без подпісаў... Колькі іх там было, у той мяккай зімінскай лапцы?..

Ідыёцкая прагнасць, з якой гэты самы... панскі дабрадзей цягнуў і з савецкіх машын, пакінутых пры адступленні, цягнуў пасля і з нямецкіх, цягне, хітруга, і з калгаса!..

Кулак, узброены матацыклам, электралямпачкай і радыёпрыёмнікам, сляпы, няўдзячны падлюга, які, спажываючы дары сацыялізма, не жыве, а ўсё мацуецца як-небудзь «пераэкыць», «дажыць», прыстасоўваецца да той магічнай, таямнічай «перамены», якая, як яму здаецца, прыйдзе нарэшце на кліч яго аброслай шчэццю душы эгаіста, уласніка...

Далёка ён загнаны, ад усіх адарваўся, нават і ад сыноў, а жыве і атручвае наваколле...

— Ну, а як расплаціўся з табою Шчуроўскі за тое, што ты падказаў ім тады ўцячы?

— Пайдзі данясі на мяне. Якраз вось паверанць, што гэта я, а не ты ім сказаў. А я скажу трошкі менш: пра панскія цёплыя ногі. Пашкадуе цябе твая эсбээмаўка!..

Затым пачуўся выгук, трохі падобны да таго, з якім заядлы дрывасек апускае на вузлаваты чурбак сякеру.

Адзін з іх вякнуў, як заяц, задраўшы ногі на мяккай зямлі, а потым убачыў, што гэта — яшчэ не канец, і ўсхапіўся, пабег — не па гадах і не па ботах лёгка.

Проста ў поле.

Другі, зрабіўшы некалькі крокаў па ўзмежку ў той бок, дзе была вёска, адчуў, што вочы яго напоўніліся гарачай вільгаццю...

Крыўда і жаль. На самога сябе.

## 13

Званочкі-жаваранкі апушчаны ў яшчэ не вельмі ўтульную рунь — да наступнага золаку. Недзе вурчыць і свеціць за ўзгоркам трактар. Нехта вяртаецца лугам, прыпазніўшыся, і непакоіць чуйную зануду кнігаўку. Здуру роспачны, сумна прыгожы енк яе кладзецца на аднастайны, але таксама прыемны і стройны жабіны хор.

Доўгая драўляная будыніна пад шыферам зноў напоўнена гукамі. Жуюць моцныя сківіцы, звоняць кольцы і ланцугі аброцей, фыркаюць мяккія, цёплыя храпы.

Няма пакуль што толькі Мяцеліцы.

І старшы конюх Хоміч, які прыйшоў на начное дзяжурства, з прыемнасцю пачынае здагадвацца, дзе можа быць брыгадзір...

Калі ён нарэшце прыехаў да канюшні і, моўчкі лёгка прызямліўшыся, стаў памалу здымаць са сваёй быстраногай буланкі сядло, Марцін не вытрымаў:

— Здароў! Кажуць, што ты, браток, знайшоў учора сіласную яму?..

Замест адказу Лёня працягнуў яму павады і выдушыў:

— На!

Сам ён панёс на месца сядло.

Пасля яны выйшлі з цёплай цемры ў прахалоду пад зоркамі, і Хоміч, каб завязаць размову з іншага боку, успомніў:

— А сігарэтак я тваіх не чапаў. На! Пакуль кінеш курыць, дык і самому спатрэбяцца.

Выспаўшыся за дзень, дый наогул па схільнасці да гутаркі на любімую тэму, Марцін пачаў набліжацца зноў да таго ж.

— Асцерагаўся б ты больш, браток, а то без аглядкі, як цецярук...

Лёня маўчыць.

— З-за баб пакутаваць? Іх, браце, толькі добра гладзь...

Лёневы боты ніяк не могуць адарвацца ад зямлі. Зноў дыхнула ў душу нянавісцю і небяспекай — ён успомніў белабрысы,васпаваты твар і, праз камяк у горле, спытаўся:

— А што ты чуў?

— Яно, браток, халера яго ведае, заўсёды так: лыч схаваеш — хвост відаць, хвост уцягнуў...

— Ды гавары ты як чалавек!

— Табе — гавары, а сам ты мне, нябось, ні слова... Верка мая была ў іх, калі ты панскі склеп глядзеў ды перад ганкам дыгаваў на сядзельцы... Яна там у пані нейкія польскія транты купляла. Верка будзе маўчаць. Я сказаў. Ну, а вяртацца досвіткам трэба асцеражней... Я якраз дома быў...

— Бывай здароў!

— Ідзі, браток, набегаўся за дзень з «казою» ды нагоцаўся ў сядле. Калі ж яшчэ і да тае казы... Хе-хе-хе!

Гэта ўжо гаварылася ўдагон.

...Лёня ішоў памалу, бо дарога была, на жаль, невялікая. Стомы амаль не адчуваў: наперадзе было цяжэйшае... Нават шапку трымаў у руцэ, і кіцель і каўнер кашулі расшпіліў...

Цяжка... З усімі трэба дзяліцца нікчэмнасцю: і з тымі, у гнілым, затхлым шляхецкім кодле, і з гэтым... Ну, а сам ты хто? Ён, Хоміч,— проста вясёлы бык, а ты — бык з псіхалогіяй. Яго і старасць не бярэ, а ты — ты цяпер пачаў папраўляць сваю чыстую маладосць?..

Зараз мо дзеці сустрэнуць?.. Не, сёння ўсё ж такі пазнавата.

Дачка Маруся часта ішла насустрач яму, да канюшні, нібы толькі з-за малога Сярожкі. Сама ўжо ў сёмым класе, маму вось-вось дагоніць ростам, касатая, блакітнавокая сур'ёзніца... Так, ты ўжо думаеш, што ты дарослая... І мне ўжо няёмка па-ранейшаму глядзець на прыгожых дзяўчат — я ўспамінаю міжвольна, што ты, мая радасць, якую я так нядаўна, здаецца, баяўся браць проста на рукі, а браў на падушку, што ты ўжо робішся падобнай да тых прыгажуняў і што я не хацеў бы, каб нехта глядзеў на цябе нячыстым вокам, з нячыстым сэрцам, без дружбы, без сапраўднага кахання!..

А ён, Сярожка? Лёня не ведаў, што сына, хлопчыка, можна не толькі горда, але і пяшчотна любіць, што і ён, яго хлопец, будзе ласкавы, як дзяўчынка. Колькі разоў ён, Сярожка, пытаўся, калі бацька ўвесь дзень быў у яго пад рукою: «Ты мяне любіш? А я цябе вельмі, вельмі люблю!..»

Ачысць мяне, абгладзь сваімі, сыне, ручанятамі! Здымі з маіх вачэй... Лепш размахніся, збяры ўсю сі-

лу, якую будзеш потым мець, ды пляснi мне па паганай мордзе!.. Не, ты не зробіш ні таго, ні гэтага!..

Думка... такая прымаўка таўчэцца ў галаве: «Жонка — не рукаво, не адпораш...» А маці, цудоўная маці маіх ненаглядных дзяцей,— якую пра гэта прымаўку выдумаць?.. Не, а не мог бы пакінуць яе, пайсці з нашай хаты пабітым сабакам, жаніхом пераспелым цягацца па свеце — шукаць таго, што нялёгка, калі наогул магчыма знайсці, пачынаць усё ад пачатку, перад самім сабою прыкідвацца не проста абноўленым, але новенькім, свежым...

Як я ўдзячны табе, мая дарагая дурніца, мой друг найлепшы, што ты і тут, і цяпер не паверыш нікому, што я — ажно такі нягоднік!.. Як я ўдзячны, і як мне цяжка!..

І праўда: вер, я не зусім падлюга. Я... Ну, а хто ж я цяпер?

А тая, другая?.. Што адышлася толькі, каб потым, у зручны момант вярнуцца ў душу тваю неспакойным, спакуслівым успамінам. Які ён усё ж такі складаны чалавек!.. Не будзь свяценькім, Жывень,— так вельмі лёгка ачышчацца, плюючы на таго, з кім грашыў! Яна ж таксама чалавек... Ха, Жывень, ты, выходзіць, яшчэ і гуманіст! Ты што,— калі ты прабіраўся да яе па полі, пра *чалавека* думаў ці пра штосьці іншае?..

Не так было тады, у тую восень сорак трэцяга года, калі ты ўмеў перамагаць у сабе ніжэйшае, калі ты ішоў да яе як чалавек, калі табе цяжка было быць чыстым, але ты быў, калі ты бачыў шчасце ў гэтай чысціні, у барацьбе за лепшае.

Як ты далёка цяпер адышоў ад самога сябе!..

А да таго ж яшчэ — трапіў у тую іх брудную, панска-кулацкую яму, стаў ахоўнікам чужой смярдзючай і атрутнай таямніцы...

Больш — нават нібыта, міжволі... хаўруснікам!..

Хаўруснікам старой пачвары, звар'яцелай на мёртвым пункце свайго — «богам дадзенага», «несмяротнага» шляхецтва. Хаўруснікам і яе, «прагрэсіўнай» шукальніцы прыгод, што прынесла сюды «свежы» вецер з гнілых шляхецка-мяшчанскіх задворкаў, жыхарам якіх не па сэрцы народная ўлада. Зачараваная кветка на дрыгве, куды ты, ласы дурань, ступіў... Хаўруснікам нават і Мукасея, якому цяжка ўжо так доўга прыкідвацца савецкім чалавекам...

Так, хаўруснікам, бо табе даверылі, нават хацелі прасіць у цябе дапамогі.

І ахоўнікам, бо ты цяпер будзеш баяцца, што ён, Мукасей, раскажа, і ты будзеш маўчаць пра ўсё...

Стой! Машына? Сюды?

Так, з гасцінца ў Вуглы паварочвае легкавушка. Адам.

Што гаварыць яму? Сам напрасіўся, а што гаварыць? І навошта? Хоць ён — здаравяка, хоць ён і друг, які гарой стаяў за іх у цяжкі час, хоць да яго і пацягнула ўранні... Мусіць, згарача.

Ён стаяў *за іх*, за іх з Алесяй. А што ён сказаў бы... што скажа цяпер? І ці тая гэта бяда, якой трэба дзяліцца?..

Калі яны, пешаход і машына, сустрэліся на скрыжаванні перад Вугламі, Бухавец па-свойму нястомна выкаціўся з «Пабеды» і дзелавіта спытаўся:

— Ну што там, Жывень, у цябе зноў атрымалася? Кажы.

Лёня яшчэ раз і канчаткова адчуў, што гаварыць з Адамам нават так, як уранні хацеў, яму ўжо не хочацца. Аднак пачаў, нібы бічуючы сябе:

— Я, брат, ступіў у глыбокую гразь. Думаў нават, што сам і не вылезу. Прабач, дружа, але я вырашыў... не дурыць табе галавы.

— Ну што ж, каб я гэта ведаў...

— Адаме, што ты? Не! Я раскажу, я табе ўсё раскажу... Але трохі пазней. Давай паехалі.

— Куды?

— А куды хочаш. Мне ўсё роўна.

— Да смерці будзеш дзіваком!.. Сядай наперадзе. Не, давай разам, на заднім. Міхаль, дахаты!

Маўчанне. Пасля, праз гул матора:

— Табе, Жывень, не брыгадзірам быць, а якім-небудзь, скажам, паэтам...

Зноў маўчанне. Цяпер надоўга.

«Ха! Дадумаўся! — горка і ўжо з невялікай, але адчувальнай і нечаканай палёгкай думае Лёня.— Адно мне трэба — каб я не шкадаваў сябе, не любаваўся сабою, не лятаў... не садзіўся... не падаў так нізка!..»

*1958—1959 гг.*

# НІЖНІЯ БАЙДУНЫ

## ГІСТОРЫЯ

Пэўна ж, ёсць і ў мяне паваротка з гасцінца на палявую дарогу, у родную вёску. Нават не адна, а дзве, з захаду і з усходу, нібы сімвалічна. З захаду я аднойчы вярнуўся дахаты пасля даўжэйшай разлукі; з усходу, госцем, прыязджаю даволі часта і амаль заўсёды з хваляваннем. Яна бывае то большае, то меншае, але ж у нечым кожны раз адно, сваё на ўсё жыццё.

Аўтамашыны пакуль што не адчуваюць на паваротках ніякай узрушанасці, а коні калісьці, чуючы дом, таксама як і людзі, хваляваліся.

Гнеды ў старога Качкі быў сляпы, з гасцінца яго трэба было паварочваць ляйчынай. А гаспадар і сам не бачыў на правае. Пра іх з канём гаварылі: «адно на двух». Цяжэй сказаць, як там яны дзялілі сваё хваляванне.

Зрэшты, у тую ноч, калі на свеце гула і падвывала белая завірушная цемра, Захар Іванавіч Качко (так ён любіў называцца) вяртаўся з карчмы пехатою. Доўга ішоў з мястэчка, нялёгка, з блытаннем ног і адпаведным унутраным маналогам. Урэшце сяк-так набрыў на слуп каля павароткі і, шчасліва абняўшы яго, прытуліўшыся да сцюдзёнай драўніны аброслай шчакой, ціха, пяшчотна спытаўся:

— Чы тутэй весь Дольнэ Байдуны?

Спытаўся на мове тады афіцыйнай, бо гэта — з краіны майго маленства, з палавіны дваццатых, заходнебеларускіх гадоў.

Колькі часу мінула, а згадваеш тое пытанне амаль кожны раз, калі маўклівы слуп на паваротцы набліжаецца да цябе, калі на яго адзіным, выцягнутым драўляным рукаве зноў праяўляецца надпіс — імя нашай вёскі, ужо даўно па-свойму, як у загалоўку.

Адзін з маіх сяброў, вядомы крытык з братняй рэспублікі, з якім мы сустракаемся даволі рэдка і з прыемнасцю, неяк раіў мне, мякка, але настойліва, напісаць «два-тры апавяданні на гістарычную тэму». Яго аўтарытэтная настойлівасць падказвала падазрэнне, што апавяданні тыя патрэбны не столькі нашай літаратуры, як мне самому,— для разрадкі, ці што, каб трохі адцягнуць мяне ад залішне аголенай лірыкі. Ды я тады толькі смяяўся, не падазраючы, што і такое можа калі-небудзь здарыцца.

«На гістарычную тэму...» Тое, што я хачу цяпер гаварыць, таксама ўжо гісторыя. Паўстагоддзя ад завірухі ў цёмную ноч, горны хрыбет вайны, які пралёг паміж тым часам і сённяшнім днём, круты пераход ад вузкай цераспалосіцы ў індустрыяльны сацыялізм...

Ды лепш, відаць, проста пачаць, без усякай уступнай тэорыі. З таго, што часта і весела ўспамінаецца, што добра бачыцца — адно здалёк, другое зблізку.

## МОЙ ПАДРЫХТОЎЧЫ КЛАС

Жонка, увішная і даволі-такі звяглівая цётка Юста, называла яго па-вясковаму: не Захар, а Захара, нават яшчэ і па-свойму, без «р» — Захава.

Уранні, даўшы Гнедаму, карове з цялухай і авечкам, Качка любіў затрымацца ў гумне. Трасянкі на дзень натрэсці, падмесці ток, патупаць трохі паміж невысокімі тарпамі сена і саломы, раз-поразу бухукаючы неадчэпным кашлем.

Але ж якраз тады, калі чалавеку патрэбна была адзінота і цішыня, баба выбягала на парог і тонам загаду кідала цераз двор:

— Захава, есці!

— Іду! — міралюбна адгукаўся ён. Але адразу не ішоў, яшчэ ўсё патроху бухукаў.

Тады яна зноў выбягала з сяней.

— За-ха-ва! Есці ідзі, каб ты наеўся чэмеву, каб ты!

— Ды іду!

Аднак яшчэ ўсё корпаўся.

За трэцім разам Юста аўтаматычна доўгай чаргой:

— Есці ідзі, сказала! Што ты там кешкаешся, каб цябе свінні пад плотам кешкалі, каб цябе! Што ты таўчэшся там, каб ты тоўкся па смеўці казою, каб ты!..

Тады ўжо гаспадар паказваўся ў чорным праёме гуменных дзвярэй.

— Распранаперакувыркутваю!.. Бу-ху, бу-ху!.. Цігра ты ўсурыйская! Я ж сказаў, што іду!..

Юста знікала ў сенцах, а ён памалу зачыняў гумно і, не спяшаючыся, ішоў у хату.

Дыялог патрабуе тлумачэння.

Лаянка цёткі Юсты заключала ў сабе два складаныя вобразы. Кешкаць гаспадара пад плотам свінні маглі не толькі п'янага,— такі ж мог быць і канец чалавеку, у такім жахлівым заняпадзе. Хадзіць па смерці казою — тут ужо быў не толькі намёк на калядную батлейку, а нават нейкі ажно будызм з яго перасяленнем душ.

Аднак не скажаш, што дзядзька Захара прымаў гэтыя праклёны на ўсю глыбіню. Бабіна лаянка была на гэты раз не вельмі каб і злосная, звычайная.

Седзячы ў нас па-суседску з кудзеляю, цётка Юста магла, напрыклад, расказваць маёй маці так:

— Завэзала пазаўчова дзве гусі і кажу свайму: «Дзявы, Захава, пеўе, каб ты на сцену дзёўсё, каб ты!..»

На сцяну людзі дзерліся з найвялікшай бяды. «Гарбачэ назбіралі грыбоў, наварылі, наеліся, а потым усёю сям'ёю на сцены дзерліся. Не дай божа!..» Такое, казалі, калісьці было.

Ну, а ўяўляць, як гэта дзядзька Захара дзярэцца на сцяну — з адным сваім вокам, з сівым вожыкам і вяросла ю сівай бародкай — гэта было, вядома ж, весела. Мне, падшыванцу.

Злосці ў той лаянцы, паўторым, не было. Была нават паэзія, хай сабе грубая, але ж і хлёсткая. Я ўжо тады, яшчэ не каровін, а толькі свіны пастушок, мог налічыць колькі хочаш гэтых праклёнаў. «Што ты там дзяўбеш, каб табе крумкач вочы выдзеўб!», «Колькі ты сыпаць будзеш, каб табе губы абсыпала!», «Чаго ты сядзіш, каб ты каменем (або крыцаю) сеў!», «Чаму ты не едзеш, каб ты бокам ездзіў!..» «Распеліся тут пад акном, каб вы пелі на хлеб!..» І так — бясконца, а ў цёткі Юсты яшчэ і з паўторам: «Каб ты!..»

Што ж да «ўсурыйскай цігры» і да той шматступеньчатай «перакувыркі», дык тут ужо выступае бываласць і важнасць дзядзькі Захары.

На царскай службе ён быў старшым унцерам нейкага там асобага чыгуначнага батальёна, «стаяў» у

нейкім для нас, малых слухачоў, таямнічым Нікольск-Усурыйску, «стаяў» і ў яшчэ больш загадкавым Кітаі, называў кітайскія гарады, сярод якіх найбольш адзін — Танку́... Гадоў праз некалькі я выпадкова знайшоў у адной кнізе вытлумачэнне многаму з яго расказаў. Старшы унцер Качко прымаў бязвольны, несвядомы ўдзел у міждзяржаўным удушэнні іхэтуаньскага («баксёрскага») паўстання, і тое яго, п'янае ці толькі цёмнае: «Бярош ходзю за касічку і — нагайкай!» было па сутнасці вельмі нясмешным... Аднак, у расказах дзядзькі Захары, ледзь што не казачна аддаленых па месцы і часе дзеяння, слухачы лавілі перш за ўсё смешнае. Тым больш, вядома, дзеці, зусім нявінная прастата.

Я сябраваў тады з Качкавым Валодзем, таксама як і я яшчэ дашкольнікам, і зімовыя расказы ў іхняй хаце мы маглі штовечар, да таго ж яшчэ і з цёплай печы, слухаць — колькі нам хацелася.

Жылі Качкі бедна, сям'я была вялікая, але і дружная, дарма, што я пачаў пра дзядзьку і цётку з іх раншняй «зарадкі». Дабраліся яны, Захара і Юста, настолькі ўдала, што нават абое не чулі насамі і вельмі любілі цыбулю. Аднак, у іх цесную, душную хату мужчыны збіраліся кожны асенні ці зімовы вечар, ды ўсё дзядзькі бывалыя, не наслухацца іхніх расказаў.

Амаль заўсёды верхаводзіў гаспадар.

— Дай бог памяць, кажацца, у адна тысяча дзевяцьсотым, у маі або ў юні месяцы было. Стаяў я тады ў Танку (*ён казаў не Тангу, як трэба, а Танку*), на пагрузцы імушчаства з караблёў у вагоны, а то і абратна. І вот прыходзіць аднажды французскі крэйсер «Парыж». Капітан крэйсера... (*заміначка*) дай бог памяць, некто мусье Піцѝ. Перакувырку тваю! — ён ні слова па-рускі, я ні слова па-французскі... Паставіў я водку, Піці паставіў хар-рошы каньяк. Сядзім. Закуска, канечне... (*Зноў заміначка.*) Мяса соч-на-е, сладка-е... Белы хлеб, халадзец, кансервы... Сядзім мы так, бяседуем, і кажа ён: «Захар Іванавіч, дружышча!..»

— Захара, а ты ж казаў, што той Пеця ні слова не ведаў па-нашаму.

Перапыніў гаспадара Ігнат Сякач, па-вясковаму Балалэй.

Да службы ў царскай арміі, куды яго ўзялі ў вайну, Ігнат працаваў грузчыкам у «санкт-пецярбургскай ці-

паграфіі Маркуса», якога ўпарта лічыў «самым старшым над усімі бальшавікамі». Ды смешнае, што пра яго, Балалэя, казалі, было не там, а дома, і не так даўно. Паехаў ён у мястэчка па святара, той павінен быў вось-вось вярнуцца аднекуль, і прыйшлося пачакаць. Сядзеў Ігнат у кухні. Ні дзвюх дарослых пападзянак, ні служанкі нешта не было дома. Матушка, проста апранутая жанчына, сама мыла ў пакоі падлогу. Ігнат не ведаў пападдзі, і яму захацелася пагаварыць з гэтай жанчынай, як са сваім чалавекам. Падышоў да дзвярэй, адчыненых у пакой, і пачаў:

— От жа, служаначко, наш поп і абдзірач! Ох, падло, і абдзірач!..

Было і іншае, не дамашняе. Пасля грамадзянскай вайны Ігнат вярнуўся ў Ніжнія Байдуны, а тут яго неўзабаве — у польскае войска.

— Паставіў мяне каля помпы, ваду ў карыта пампаваць. Я пампую, а ён стаіць і ўсё «старчы!» ды «старчы!». Я думаў, што ён гэта хваліць мяне, што я ўжо буду ў іх нейкі старшы, а ён, падло, падскочыў ды па мордзе. Той капраль. А хлопцы потым смяюцца, каторыя нашы, што «старчы!» — гэта па-іхняму «годзе!».

І такое яшчэ, што ён мог бы, каб не любоў да смешнага, і не расказваць пра сябе самога.

— Вочы, кажу, баляць, нічога добра не бачу. Гэта я да доктара да іхняга пайшоў. А ён мне, лекаж той, шклянку касторкі наліў. Рыцына па-іхняму. Усю, падло, выпіць заставіў. Во дзе было пасля!..

Для нас з Валодзькам Сякач быў таксама стары, як і ўсе іншыя мужчыны, а для дзядзькі Захары на цэлы салдацкі век маладзейшы. Хоць Ігнат і казаў яму «ты».

Любіў Сякач падсеч. І «адно вока на двух» — гэта таксама ён прыдумаў. Але цяпер спыніць, збянтэжыць расказчыка было не так проста.

— Балалэй ты! — упёрся той адным вокам у недавярка.— Ва-первых, не Пеця, а Піці, а ва-ўтарых, перакувырку тваю, мы, калі выпілі, ён пачаў па-рускі, я па-французскі... (*Замінка даўжэйшая.*) Прыгожы быў чалавек, царсцвія нябеснае! Вот я яму і гавару...

У старшага унцера Качко знаёмых у высокім свеце было наогул шмат. І на ваеннай службе, і потым, калі ён, недзе там акалечыўшы вока, працаваў у Адэсе тракцірным палавым.

— Дай бог памяць, кажацца, у адна тысяча дзевяцьсот дзевятым. Праязджаў генерал-губернатар Таўрычаскага края... (*замінка*) некто Крэставаздзвіжанскі Пётр Філімонавіч. На Дзярыбасаўскай — перакувырку тваю!.. І я стаю на крыльцэ свайго тракціра «Белая акацыя». А ён прыдзяржаў рысакоў ды гукае з талпы народа: «Захар Іванавіч! Качко! Дружышча!..»

— Пазнаў! — захоплена перапыняе хтосьці з мужчын.

— Вот жа, перакувырку тваю! Наш быўшы генерал. Па Нікольск-Усурыйску. Патом у Танку... *(Замінка.)* Пракрасны чалавек!..

На гэты раз чамусьці абышлося без «царсцвія нябеснага», нібы знаёмы недзе жыў-здароў.

— Яшчэ адзін Пеця,— трохі цішэй, як звычайна, сказаў-такі, не вытрываў Ігнат.

Але на гэты раз гаспадар, відаць, не пачуў.

Пасля такога, усурыйска-таўрычаскага, знаёмства былі яшчэ і намёкі.

Аднойчы дзядзька Захара вярнуўся з мястэчка пад мухай, але не ноччу, і не зімой, і я тады, прытаіўшыся, бачыў і чуў цераз плот, як ён сустрэўся з Канісам каля будкі. Той быў навязаны, выйшаў насустрач, сеў на хвасце, гледзячы ў твар гаспадару з усёй адданасцю.

— Каніс! Дружышча! Здрастуй, перакувырку тваю! Как гаварыў пакойны Мікалай Аляксандравіч Раманаў-Утарой: «Нічаво не віжу, тока крофь, крофь, крофь, крофь!..»

У такт з гэтым паўторам чалавек пагойдваўся назад-наперад-назад, а сабака, таксама ў такт, мёў, матлашыў па пяску хвастом. Тады чалавек пачынаў спяваць. Сваю любімую, адну на ўсё жыццё:

— І гарыт лучына, із-да-ва-я тр-рэск, і вакруг трывож-ны!..

Далей, да «разлівання блеску», не ішло. Зноў паўтаралася трагічнае «крофь, крофь» пакойнага Раманава-Утарога. Як пра якога-небудзь яфрэйтара або унцера п Танку, што «Іваноў-утарой», ці радавога — «Сідараў-трэці»...

Так і падобна бывала часта. Калі ж у расказах, кажучы мякка, перабольшваў хто-небудзь іншы, дзядзьку Захары гэта не падабалася. Нават і другу свайму, Івану Бохану-Калошы, па мянушцы Лётчыку, ён не даваў уздымацца залішне высока.

Бохан-Калоша служыў калісьці ў «пецяргофскай воздухаплавацельнай роце». Падагрэты расказамі Качкі, і ён пачынаў сваім мяккім, таксама «гарадскім», культурным голасам што-небудзь, напрыклад, такое (бяру не з пачатку):

— І так, значыцца, паднімаю ўзвод па трывоге, а сам саджусь на дзерыжабль. Даю каманду...

— Яфрэйтарышка, перакувырку тваю! Які ўзвод? Якую каманду? Хто т-та-бе дасць дзя-ры-жабль?!

Паветраплавацель не меў той непахіснасці, што чыгуначны старшы унцер, і ён абараняўся мякка:

— Ты жа ведзь там са мною не быў. Што ты арош на міня? Удзівіцельны чалавек!..

## ЧАМУ Ж ЁН НЕ СОКАЛ?..

«Авёс сей у гразь...» А бульбу садзяць, калі ўжо зусім цёпла, калі цвітуць сады, шчабечуць ластаўкі.

Усе тым часам падхадзіліся, а дзядзька Бохан-Калоша сама што пачынае.

У яго худой, віхлястай кабылкі таксама была мянушка, трохі задоўгая: «Не на таво наскачыла». Так на яе гаварылі на пашы, у табуне, на вуліцы, калі коні вярталіся ўвечары з выгану, і калі яна была ў возе — абы не чуў гаспадар. Бо, на добры лад, мянушка гэтая належала не ёй, а самому Лётчыку, яшчэ адна. Гэта яна, буланка, аднойчы падгрузіла яго пад сябе, загізаваўшы ў аглоблях, калі парваліся спачатку супоня, а потым і хамуціна. Навокал рогат, бо тое здарылася на вуліцы, а Лётчык выбраўся з-пад буланкі і пераможна закрычаў.

— А, сцерва, не на таво наскачыла!..

Сёння супоня і хамуціна трымаюцца, воз таксама ліпіць, на возе — гной, а побач з возам ідзе сваёй лёгкай, яшчэ ўсё ваяцкай хадою былы паветраплавацель.

Насустрач едзе Алісей Цівунчык, з дзіўнай і дагэтуль не зразумелай мне бабскай мянушкай Рыўка. Гэты дзядзька, маладзейшы за Лётчыка, таксама заслугоўвае асобнай гаворкі, але гэта — пасля. А тут ён пакуль што і слова не скажа. Цівунчык ужо тым часам поўнасцю падхадзіўся з веснавою работай, едзе аднекуль улегцы, і, знакам вясёлай пагарды да гультая, ён уздымае, седзячы на возе, правую руку над галавой,

круціць настаўленым у неба паказальным пальцам і важна, засяроджана гудзе:

— Гу-у-у!..

Лётчык ведае гэты жэст, бачыць яго ў Цівунчыка не ўпершыню, але па далікатнасці свае натуры не можа стрываць, злуецца:

— Рыўка ты! Больша я цібе нічаво!..

Так і размінаюцца.

Не гаспадар быў дзядзька Бохан-Калоша. Не туды ў яго цяга была. Дарма, што прозвішча, як у шляхціца, дубальтовае,— двор іхні быў невялікі, з хаты ў гуменца крокаў менш за паўсотню, а ён, казалі, прыйшоўшы калісьці салдатам у водпуск, выходзіў з бацькам раненька малаціць і падпяразваў у хаце шаблю. У гумне распяразваў яе, ставіў у кут, а тады ўжо за цэп. Снедаць ішлі — зноў падпяразваўся. Дзе там шабля, а дзе «дзярыжабля» былі ў яго ў тых салдатах, не вельмі хто ў вёсцы разбіраўся. Хапала таго, што гэта было пацешна. Пасля вайсковай службы Іван Сцяпанавіч жыў да рэвалюцыі ў губернскім Мінску, а што ён там, бравы яфрэйтар без шаблі, рабіў — пра гэта не вельмі любіў расказваць, увесь свой жыццёвы росквіт звязваючы толькі з Пецяргофам.

Перш чым забегчы ў расказе пра дзядзьку Івана далёка наперад, я павінен з канца дваццатых гадоў вярнуцца назад, у самы пачатак стагоддзя.

Мая старэйшая сястра Ульяна, цяпер ужо зусім бабуля, была тады дзяўчуком, а там, дзе ў нашым агародзе, у кутку ад вуліцы расце вялікі май (так у нас называюцца клёны), тады стаяла курная хатка. У хатцы жыў дзед Карашок, якога так празвалі за прыгаворку «ідры твае карашкі». Казачны «маскаль», мікалаеўскі салдат, які, зусім магчыма, быў не толькі на Шыпцы, але і ў Севастопалі ці нават «скараў» перад гэтым Каўказ. Бо паміраў ён, сястра мне расказвала, у дзевяцьсот сёмым годзе, маючы «без году дзевяноста». У дзеда былі «тры медале і нейкі белы шлык на галаве, а на нагах калюгі, выступкі з вострымі наскамі». І ён прасіў так яго пахаваць: у каўпаку, у калюгах і «медале» начапіўшы. Сястру маю, сваю любіміцу, папрасіў дапільнаваць, каб усё, «ідры яго карашкі, было па поўнай форме». На Ульяне тады, як гаварыў мне хросны, «вада не трымалася», няўрымста была і рагатуха. «Ты ж, дзеду,— сказала яна,— усіх на тым свеце

перапалохаеш. Гэтым сваім шлыком ды калюгамі». Але зрабілі ўсё, як ён прасіў. Медалі так і пайшлі з Карашком у зямлю. Можа, калі і выплывуць наверх, як той дукат з часоў караля Зыгмунта-Аўгуста, які наш бацька выараў каля самае вёскі — праз чатыры стагоддзі.

Цяпер зірнём і наперад.

Дзядзька Бохан-Калоша не толькі перажыў свайго друга Захара Качку, але яшчэ і ў партызанах пабыў. За сынам Венем пайшоў, калі ўжо не мог ухавацца ад паліцаяў. Век быў у яго тым часам не той, каб хадзіць на аперацыі, і дзядзька даглядаў пры штабе коней. Раз толькі і выбраўся ў раён, пазычыўшы нагана. Ішоў па прыпушчанскіх вёсках і ў хатах, куды заходзіў перакусіць да знаёмых, пытаўся: «Як тут мая разведка?» Бо жыў ён з разведчыкамі ў адной зямлянцы. «Калі што плоха — не пакрывайце, кажыце. Ой, дам, ой, правучу!..» І собіла ж старому ледзь не ў лоб напароцца прыцемкам на засаду. Уцёк ад яе такім асцярожным кругам, што ў лес, дахаты, вярнуўся са свайго паходу толькі на пяты дзень. Хлопцы смяяліся, і сын яго, талковы і вясёлы Веня-мінёр, таксама смяяўся. А сам стары пазлаваў, папырхаў, але ваяцкага гонару і пасля гэтага не страціў. Калі перапісвалі неяк брыгаду і пісар спытаўся ў «дзеда»» пра званне ў першую сусветную вайну, Іван Сцяпанавіч сціпла, з поўнай перакананасцю сказаў: «Што жа, пішы лейценант».

І пра лятанне сваё, зусім ужо міфічна састарэлае, не забываўся. Сам я аднойчы чуў, як ён расказваў пра гэта новаму чалавеку. З суседняй брыгады прыйшоў да нашага камісара ад'ютантам бойкі варшаўскі яўрэй Крамарчык, і «дзед» пачаў яго, нешта на трэці дзень, заварожваць сваім мінулым. Я якраз начаваў у лагеры, прыехаў з раёна з данясеннем, лёг раней, адзін у зямлянцы, і праз прачыненыя дзверы то чуў, то не чуў з двара, пра што там наш сівенькі буркуе. Потым яны ўвайшлі ўдвух у зямлянку, стары для пэўнасці спытаўся, ці я сплю, я стаіўся, і ён гаварыў далей:

— І так, значыцца, кагда я камандаваў воздухаплавацельнай ротай...

Ад гэтага павышэння па службе я не вытрымаў, гыкнуў. А ён:

— А, сцярвец, ты не спіш!..

Пасля вызвалення, улетку і ўвосені сорак чацвёрта-

га, ён працаваў участковым фінагентам, хадзіў з афіцэрскай сумкай, у якой былі паперы, хімічны аловак, кавалак хлеба і сабраныя грошы, ніколі не разлучаўся з нядаўна набытай вінтоўкай, а на куртцы яго красаваўся медаль партызана Вялікай Айчыннай вайны.

У тую зіму дзядзька Іван і памёр. Старая Алена, цётка вельмі павольная, сонна сказала, што, можа, яго не толькі з медалём, але і з вінтоўкай трэба пахаваць: «Бо вельмі ж ён яе любіў». Веня быў на фронце, але і дочкі разабраліся, што з вінтоўкай не трэба. А ўжо медаль пайшоў туды, дзе даўно ляжаць Карашковы — можа, з Шыпкі, а можа, з Севастопаля ці за Каўказ...

Калі вярнуцца зноў у час майго малалецтва, дык пра дзядзьку Івана трэба сказаць, перш за ўсё, што жыў ён вельмі бедна. Усе дзеці служылі, хто ў панскім двары, хто ў рабіна, хто ў кулака, і Веня, і дзяўчаты — з самага малку. А бацька з буланкай сяк-так качаў свой загончык з боку на бок, што бедны чалавек, а што яшчэ і гультай, змоладу пакалечаны лягчэйшым хлебам.

Мой хросны, кравец Рафалак, чалавек душэўны і трохі бывалы, растлумачваў мне гэта так:

— Ваня Бохан-Калоша, каб жыў у горадзе, дык, можа, і жыў бы як-небудзь па-людску. А тут — ні вала яго, ні асла яго...

Такое прыстасаванне да беднасці, такое прачытанне дзесятай Майсеевай запаведзі пра грэх зайздрасці: «Не пожелай дома ближнего твоего... ни жены ближнего твоего, ни вола его, ни осла его...» і гэтак далей.

— Папо, вы мне купілі чаравічкі?

Нясмелае дзіцячае пытанне, ад якога ў іншага бацькі душа перавернецца. А ён, Іван Сцяпанавіч, прыехаў з кірмашу падвыпіўшы.

— Цібе — чаравічкі? — абараняецца ён.— Цібе — сукеначку? — Тое дзяўчаткам, а гэта — сыну, хлапчуку: — А цібе, можа, гальштук ілі шляпу-канацье? А ці спрасілі вы, сцервяцы: а здароў лі ты, папенька? А?

Дзеці былі маўклівыя, пакорныя, як быццам усе трое, і дзяўчаты, і Веня — толькі па маме. На такім пытанні, пра чаравічкі ці пра што-небудзь іншае, прэтэнзіі іхнія і канчаліся. Дый бывала такое толькі тады, калі яны былі малыя. Падраслі, разышліся па службах і самі ўжо стараліся, не толькі сабе, але і ў хату.

А папенька доўга быў маладым. Калі ў іхняй хаце

вечарынка, дык ён яшчэ і павучыць моладзь танцаваць гарадскую ойру. (Яшчэ адна яго, таксама доўгая, мянушка: «Ой, цы-дры-ца, ойра, ойра!») Хлопцам-пажарнікам, калі яны часамі наладжвалі святам свае заняткі, Лётчык паказваў, што такое сапраўдная гімнастыка, нават на прыблізным турніку. А найдаўжэй дык ён спяваў. І ў партызанах, бывала, вечарам, у аціхлай зямлянцы. Ужо стары, нямоглы, але яшчэ ўсё молада моцным, хоць і ніколі не гучным, грудным, прыемным голасам.

...Толькі гэтым і падобны на бацьку Веня Бохан-Калоша, мой ціхі сябар з маленства. Працуе ён у Гродне, слесарам на заводзе, бачымся мы часамі ўлетку, у Ніжніх Байдунах. Аднойчы, спяваючы за сталом, дайшлі і да такой: «Звенит звонок насчет поверки» — пра Ланцова, што ўмеў уцякаць з-за кратаў.

— Мой Лётчык вельмі любіў гэтую песню,— сказаў тады Веня, дабрадушна, спагадліва, як пра кагосьці малодшага. І, памаўчаўшы трохі, засмяяўся: — Помніш, як яны ваявалі калісьці з Захарай, Тангу і Пецяргоф?..

Гэты разумны, добры смех і мне дазволіў апісаць яго бацьку — не для здзеку, а толькі з усмешкай.

## НА САЛАМЯНАЙ ЭСТРАДЗЕ

Перакрываюць хату.

Салома шчацініцца сонечным золатам яшчэ не вельмі высока; крыльцы (у нас казалі і стрыхарэ) дайшлі да палавіны страхі. Аднак і там яны — вышэй над усёю сваёй будзённасцю, у прыўзнятым настроі.

Мне так здаецца. Я падаю ім знізу то цяжкія, тугія кулі саломы, то доўгія, гнуткія повязкі, то кручаную лазу. І слухаю іх філасофскі дыспут.

Гутарка ў большасці сваёй, як гаворыцца, не да друку.

Мне пятнаццаць гадоў. Я сам не вельмі лаюся, нават воддаль ад дому, у мужчынскай кампаніі, але да вясковай «скаромнасці» і я прызвычаены змалку.

З горада мы вярнуліся пазней за ўсіх іншых, хто быў у бежанцах. Мне пайшоў тады пяты год, і новыя сябрукі вельмі смяяліся з мяне, калі я кідаўся абараняць курыцу ад пеўня. Свіныя пастушкі, яны, па зага-

ду бацькоў, самі ганялі свіней да кныроў. Ганяў потым і я. Ну, а калі ўжо да Туркавага жарабка, страшэнна-га, залівіста-іржыстага красуна, прыводзілі кабылу — ад нас, і большых, і меншых, не засланіцца было ні платамі, ні варотамі.

Малых нас, хлопчыкаў, у лазню бралі мамы, а то і старэйшыя сёстры. Цяпер, бываючы ў роднай вёсцы не вельмі часта, моладзь я пазнаю па бацьках. Вунь у Алесі якая красуня вырасла, яе апошняя,— уся як маці калісьці была. Маці тая сёння ўжо проста бабуля, а я ўспамінаю з хвалюючым сумком, як прыглядаўся да яе, сам яшчэ зусім смаркач, а яна ўжо дзеўка. У лазні, калі Алеся ўваходзіла ў парнасць з халодных сенцаў, так распрануўшыся і так блізка цяпер адкрыў-шы ўсе свае таямніцы. Яшчэ і ўсміхаецца або і злуе, ці што: «Ну, уталопіўся! Цікуеш...»

Мамы, купаючы нас, смяяліся: «Во, закрываецца, бачыш! Што ты хаваеш, што там у цябе хаваць? Раней я ў цябе гэта бачыла, чым ты сам».

І тады, і потым, калі я ўжо быў падлеткам, бабы-скудзельніцы, сабраўшыся ў нашай хаце, гаварылі пра ўсе свае беды і радасці адкрыта, толькі зрэдку пера-ходзячы на шэпт, які таксама збольшага быў зразу-мелы.

Ну, а мужчыны — тыя з самага нашага малку аду-коўвалі нас, сваю змену, з поўнай свабодай слова.

Як жа мне тут цяпер перадаць яе, тую свабоду, хоць на якую-небудзь яе палавіну?..

Крыльцоў (ці стрыхароў) на хаце чатырох. Злева, ад вуліцы, Яўхім Заяц. Дзядзька салідны, маўклівы, вядомы на ўсю аколіцу цесля. Ён — хросны нашага Андрэя, майго, на пяць гадоў старэйшага, брата. Анд-рэй ад хроснага авалодаў няпростым майстэрствам стрыхарства. Крайні справа, ад гумна, сектант-пяцідзе-сятнік Брат Арсеній. А паміж ім і Андрэем — рагатун Косця Бяляк, па мянушцы Асечка або «Дай я гахну».

Недзе там дзецюкі калісьці хацелі камусьці «гах-нуць» з высокай прызбы ў нізкае акенца, і кампаней-скі Косця папрасіўся зрабіць гэта першы, спаслаўшы-ся на гарох з панцаком. Але не гахнуў і, як нядаўні салдат, яшчэ і сказаў: «Эх, асечка!» — набыўшы такім чынам дзве мянушкі за адзін раз.

Было гэта даўно, цяпер ужо Косцю за сорак, а ён яшчэ ўсё кавалер, яшчэ ўсё кажа: «Паспеем! Нажы-

вёмсё!» Чалавек ён вясёлы і добры, у бядзе якой ці ў патрэбе паможа першы.

Брат Арсеній, інакш дзядзька Арсень Паходня, у секту, што завялася ў суседняй вёсцы Плёхава, пайшоў следам за сваёю Параскай, плёхаўскай бабай, драпежнай да ўсяго. Яна і дзяцей нараджала яму поўную хату, адных дзяўчатак. Раней ён мог і выпіць, і пабуяніць, а цяпер і сам прыціх, і іншым прапаведуе, як і дзе толькі можна.

І тут, на хаце, таксама.

— У свяшчэнным пісанні сказана ясна: бог есць любоў,— цягне ён сваю думку.— І імеюшчы вушы, штоб слышаць — да слышыць.

Асечка рагоча. Нібы не вельмі натуральна для яго, нібы знарок так звонка.

— Якая тут, хлопец, любоў на страсе? — крычыць ён сваім тонкім голасам.— Любоў у нас вечарком!

Нават у ладкі пляснуў, раней чым яшчэ раз зарагатаць.

І ладкі гэтыя рассмяшылі Цімоха Ярмоліча, які толькі што падышоў і спыніўся каля мяне. Абагнаўшы картоплю, Цімох завёў на пашу каня, а самому дахаты не вельмі рупіць. Хоць невялікая, ды ўсё ж кампанія.

— Любоўнік! — смяецца ён.— Ве-чар-ком... Табе каторая каб нават смехам дакляравала, хоць у Хлюпічах, дык подбегам папёр бы, рук з кішэняў не вымаючы.

Хлюпічы ад нас далёка, каля самай пушчы, у якую нашы зімою ездзяць па дровы.

Косця і тут смяецца. У Цімоха мянушкі чамусьці няма, Асечку застаецца толькі яго прозвішча:

— Эх ты, Ярмоліч, Ярмоліч!..

Брат Арсеній (а гэта ўжо даўно стала мянушкай) абурана плюнуў, але сказаў зноў жа цытатай:

— Мерзасць запусценія, рачэнная прарокам Даніілам.

Цімохава жонка, Волечка, таксама блытаецца з пяцідзесятнікамі, якіх у нас называюць бапцістамі,— таму Цімох і злосны на «святых», і з цытатамі трохі знаёмы.

— Не тое,— кажа ён,— браце мой, асквярняе, што ідзе ў чалавека, а тое, што з чалавека вылазіць.

Цытата — перакручана і не зусім да месца. «Не то, что входит в уста, оскверняет, но то, что выходит из

уст»,— гэтыя словы пра пост ці не пост чуў ён, Цімох, ад свае хатняе прапаведніцы, але хто яго ўсё запомніць.

— Хоць бы ўжо слова божага не разурашчаў,— зноў абураецца Брат Арсеній.

— Прарокі! — звонка рагоча Асечка.— Усе прарокі разляцеліся, як сарокі!

Таксама не зусім дарэчы гэта, але складна, весела.

— Святы ўжо, браце мой, праведнік,— усміхаецца Цімох.— Чаму ж тады ў цябе калені спераду? Як у Котавай Акуліны. Ці ты ўжо, можа, зусім забыўсё?..

Пра калені — прымаўка, а з Акулінай — намёк на тое, што Цімох з Арсенем ведаюць, відаць, толькі ўдвух. І таму Брат Арсеній не па-прарочы, а па-мужчынску доўга маўчыць.

Асечка маўчаць не можа. Тэму ён абнаўляе так, нібы пасля паўзы вядзе яе далей зусім лагічна.

— І праўда,— пытаецца ён,— чаму гэта ў цябе, Арсень, адны дзяўчаты? Пяць дачок — пяць разоў гарэць будзеш. А сам хоць з торбай потым ідзі.

Брат Арсеній яшчэ ўсё ў «мирском», збянтэжаным настроі, але адказвае ён, па прывычцы, як яму і належыцца:

— Без волі госпада і волас з мае галавы не спадзе.

— Пры чым тут волас? — смяецца Асечка.— Ты што, без госпада ўжо і сына не змайструеш? Вунь паглядзі ў Рафалка — ажно тры сыны. Спытаўся б ты ў яго.

Тут зноў уступае Цімох. З прапановаю Брату Арсенію:

— Калі хочаш, дык і я цябе навучу?

Той маўчыць, і дарадчык гаворыць далей:

— Гэта, браце мой, трэба падперазаўшыся, і з сякерай за поясам. Памагае.

Брат Арсеній плюе і моўчкі круціць галавой.

Ды тут ужо рагоча не толькі Асечка, які пляснуў у ладкі і проста заліўся, не толькі сам Цімох, Андрэй і я, але і маўклівы, салідны дзядзька Яўхім.

— З табою, Ярмоліч, не заморышся,— кажа ён, пасмяяўшыся.— Ішоў бы ты ўжо дадому, ці што...

Цімох ніколі не спяшаецца. Конік у яго малы, сівенькі, быстры. Трапечацца, тупае ў плузе ці ў возе, а потым занаровіцца і стане. Гані не гані — не скранецца. Тады гаспадар памалу злезе з воза або падыдзе

ад плуга, папросіць у Сівага ножку, пярэднюю левую, пастукае знізу па капыце тоўстым канцом пугаўя і — гатова.

— Ну, падкаваў. Паехалі, дрыстун.

І жывуць сабе далей, конь час ад часу наровячыся, а гаспадар, куды часцей, ілгучы.

Калі Качка ці Лётчык ілгалі з пэўнай накіраванасцю — «вось які я, глядзіце, быў і наогул што я такое»,— дык ён, Цімох Ярмоліч, маніў бескарысліва і часамі да поўнага самазабыцця.

Гэта я памятаю яшчэ з маленства, калі Цімох расказваў нашаму бацьку, як у ваенным шпіталі ён, у пяту паранены кавалерыст, «пяць разоў паміраў ад аперацыі і пяць разоў уваскрасаў з таго свету». Расказваў пры жанчынах і дзецях, без скараміны, і таму, відаць, сумна, бо бацька, і сам бывалец і добры байдун, сказаў пасля, калі залішне позні госць пайшоў: «Ну ж і вярзе, так, здаецца, і даў бы па карку».

Ва ўсіх Цімохавых расказах для слухачоў галоўным быў ён сам: уся яго, як гаварылі, выхілка — міміка, жэст, інтанацыя. Пра тую самую аперацыю, якую я ведаў у менш цікавым варыянце, ён аднойчы расказваў на вуліцы, мужчынам, а нас, хлапчукоў, мужчыны не адганялі. Цяпер ужо санітары трымалі параненага Цімоха не ўчатырох, а ўшасцёх, і хірургам быў не мужчына, а «нейкая барынька».

— Халацік беленькі, а сама, браце мой, ідзе — яечка з галавы не скоціцца. І ўсё пры ёй, як мае быць, і з тых самых, відаць, што толькі пераступі цераз яе — ужо і тоўстая. Што ж, і я не з трухлявай алешыны, з дуба. Прымергаваўсё я трохі, прыціх, і толькі ўжо, браце мой, яна намерылася нагу маю разануць — калі хаплю яе за падчарэўе!.. Гвалт, піск, і санітары тыя, і яна: «Фуліган!..» Разбегліся, а потым ужо васьмёх прыйшлі, такія во — кожны за трох дурных можа з'есці і выпіць. Аблажылі мяне, далі на сон, ледзь не затхнуўся, і ўжо не тая барынька, а зноў мужчына прыйшоў. Таксама добры дурыла. Рэзаў, браце мой, колькі яму хацелася!..

Ад далейшага Цімоха выручае Васіль Кураўка:

— Нагу адрэзаў,— дадае ён зусім сур'ёзна, у тон расказчыку.

Выбухае рогат.

Па простай логіцы і трэба было б адрэзаць: да таго

ўсё ішло, аднак перад усімі тут, на роднай ніжнебайдунскай зямлі, стаяць абедзве нагі ў здаравенных яладовых ботах. Далей ужо напраcткі не папрэш, трэба якнебудзь убок, але Цімох не бянтэжыцца, нават як быццам рад і ўдзячны за дапамогу.

— На-гу ад-рэ-заў,— кажа ён не сваім, а Кураўкавым голасам, і рогат зноў выбухае.— Сам, браце мой, бачыш, што не адна, а дзве клыпы мае стаяць. Разумны доктар трапіўсё. Яшчэ і накрычаў на тую, што рэзаць хацела. Асколкі павыкалупваў з пяты, ваты туды напхаў...

Кураўка зноў падказвае:

— Кожную раніцу, браце мой, выцягаю патрохі...

Усе рагочуць. Цімох таксама смяецца.

— Прыйдзі, пазычу,— кажа ён.— Заткнеш сабе, каб лішне не курэла.

## ЦІ БЫЎ, ЦІ БАЧЫЎ...

З вайны, улетку сорак пятага, Цімох вярнуўся смешна.

Кожнага мог ён падкалоць, нават і Есіпа, меншага брата, не шкадаваў. Той неяк прывёз зімою з лесу дзве тоўстыя крывуліны, скінуў на вуліцы перад хатай, і ляжалі яны ўлетку неакораныя, без кладуноў. «З аднаго палена будзе малатарня, а з другога арха»,— гаварыў Цімох, намякаючы на тое, што Есіп быў «ні за кол, ні за цям», толькі што працавіты, як вол, і без толку гарачы.

З Германіі Цімох прынёс трафейнае... кавадла. Праўда, маленькае. І малаточак да яго, і клешчыкі. Але ж — кавадла!.. Відаць, што пацешна малое — таму і спадабалася, і валок, блізкі свет, хоць майстар быў ён не лепшы за Есіпа.

Як толькі я, трохі пазней, наведаўся з Мінска дахаты і пачаў цікавіцца, хто, што і як, пра Цімоха з гэтым кавадлам мне расказалі адразу.

— Ну, як ты там? Як ваявалася? Як куецца? — спытаўся я, калі мы сустрэліся.

Маё апавяданне, у якім гаварылася і пра Цімохавы байкі, было ўжо напісана, але яшчэ не надрукавана. Зрэшты, тады мне неяк і не думалася, што ў Ніжнія Байдуны яно як-небудзь можа дайсці. Дый апісаў я



*Злева направа:*
Д. Паўлычка, Я. Брыль, І. Драч.
*Кіеў, 1967 г.*



У гарах паўднёвай Індыі.
*1967 г.*

Цімоха, вядома ж, пад іншым імем. І таму адчуваў сябе перад ім чыстым, смелым, не тое што трохі пазней...

— Спачатку быў у пяхоце,— сказаў Цімох з нейкай крыўдай у голасе.— А потым, браце мой, здалёк убачыў, што карова праглынула цвік, дык узялі мяне да коней.

— У кавалерыю?

— Ага, у тую, што ў хамуце.

Мы з ім былі на «ты», аднак ён быў на дваццаць з гакам старэйшы. Ужо, здавалася б, не крыўдна чалавеку і ў абоз.

Наступным разам мы сустрэліся з ім на нейтральнай тэрыторыі, больш чым праз год і зусім нечакана — на кірмашы ў райцэнтры.

Я ўжо ведаў, што Цімоху прачыталі маё апавяданне і ён як быццам сказаў: «От зараза!..» Як хочаш разумей: злуе чалавек, не злуе? Калі ён гукнуў мяне з гушчы кірмашных вазоў і коней, я ішоў да яго не вельмі каб спакойна...

Цімох сядзеў на возе адзін, нібы кагосьці чакаючы. Павіталіся. Тады ён, як і заўсёды, не спяшаючыся, дастаў з-пад сена торбу, з торбы хлеб і сала, накроіў аднаго, нарэзаў другога, зноў пасадзіў руку ў сена і дастаў бутэльку.

«Спачатку чарку дасць»,— падумаў я асуджана.

А ён сказаў:

— З горла ды ў горла. Будзь здароў!

Пацягнуў добра сам і перадаў бутэльку мне. Самагонка, вядома. І добрая. Была сякая-такая прывычка,— я пацягнуў, нібы з адчаю перад цяжкай гутаркай, і мы пакуль што пачалі закусваць.

— Збіраешся, можа, зноў неўзабаве быць?

Я не збіраўся.

— А што?

— Прывёз бы, можа, пораху трохі? Бяздымнага.

Ну, калі толькі гэта, калі ягонае «от зараза!» — не злосць была, а пахвала байдуна байдуну, дык я табе магу і дымнага і бяздымнага!.. Аднак я сказаў пакуль што стрымана:

— Чаму ж. Пагляджу.

Падбадзёраны гэтым, Цімох пайшоў далей:

— І патронаў. Шаснаццатага. І шроту, калі ўжо так.

Пра апавяданне маё — ані слова. Мала таго — яшчэ і сам пачаставаў мяне вясёлымі навінамі.

Перш за ўсё — пра Асечку.

— І яшчэ, браце мой, не ажаніўсё.— Тут Цімох, пераймаючы Косцю, пляснуў у ладкі, звонка зарагатаў і тонкім голасам ускрыкнуў: — «Паспеем! Нажывёмсё!» А самому ўжо... Ну але, ён за мяне на год старэйшы, пяцьдзесят тры. І на вайну пасля партызан не ўзялі, як таго Лётчыка. Ка-ва-лер! Я яму ўдоўку нядаўна нагледзеў, у Хлюпічах. Грышку Лазовіча забілі, баба засталася. Пад сорак будзе. Гладкая, браце мой, адных цыцак колькі! І шые яшчэ на машыне. Праўда, дзяцей няма, але няўжо ж табе конча ўжо на гатовае? «Пайшоў бы ты,— кажу яму,— хоць голку ёй зацягнуў. Яшчэ ж у вушка, можа, пападзеш? Там жа, можа, не протар».— Цімох яшчэ раз перакрывіў Асечку: — «Паспеем! Нажывёмсё!» Збіраўсё ён нібыта, але ж і яна чакаць не будзе. Навалач нейкую знайшла, прымака. Нейкі Швілі ці Швіляў. Худзізна — скура ўжо не на рэбрах, а пад рэбрамі. Чорны, як Каін, і дзве левыя нагі. Тры дні, тры ночы, браце мой, з хаты не выходзілі! А потым выйшаў ён... Я якраз міма праходзіў, бачу: па-аў-зе і, як п'яны, хістаецца. «Ты што,— пытаюсё,— толькі што з шахты вылез?»

Літаратура! Дзе тыя ў чорта Хлюпічы — ці быў, ці бачыў, ці гаварыў што сам — не важна...

Пра самога сябе Цімох, памятаю, казаў: «Які я там бабнік — проста адзін баюсё спаць». Як там бывала раней — у вёсцы гаворана і гаворыцца розна, а ўжо ў пасляваенныя гады яму памалу рабілася не да гэтага. А пагаварыць, пацмакаць ласы ён быў і ў старасці.

Другая страсць, паляванне, таксама спакваля міналася.

У калгасе ён быў спачатку лесніком і заадно вартаваў зарэчныя лугі. Скардзіўся мне аднойчы, што вельмі ж нялёгкая гэта работа — сена ў копах пільнаваць, бо лясныя хутаранцы, шляхцюкі, «зладзеі спрадвеку», вельмі ж на копы тыя насядалі, цэлымі чародамі.

— Адзіналічнікі, браце мой, дый злосныя яшчэ, як тыя мухі ў спасаўку. Махалам не адмахаешся! Страляў я раз, страляў, а потым давай тою двухстволкай попускам — па нагах!

— Па іх страляў?

— Ды не. Солі якраз не было...

Потым яго шляхцюкі паўступалі нарэшце ў суседні, плёхавіцкі, калгас, і аднойчы Цімох, вяртаючыся

з лесу, сабраў каля нашай хаты чараду мужчын — паказваў, як тыя хутаранцы выйшлі на сваю першую калектыўную сяўбу.

Мужчыны нашы днямі ўжо бачылі гэты спектакль, расцяпер Цімох частаваў ім мяне, аднак рагаталі ўсе. Расказчык адзін за некалькіх сейбітаў п'яна крычаў на ўсялякія галасы, з розным ды розным тварам і жэстамі, уяўна набіраў насенне ва ўяўны фартух, за аднаго шляхцюка ішоў, хістаючыся, за другога паказваў першаму, як кіраваўцца на яго сігнальны свіст і ўзнятую руку, за трэцяга — толькі стаяў і тупа, дзіка глядзеў кудысьці... А потым сейбіты, зноў жа ў асобе аднаго Цімоха, ішлі да ўяўнага воза з мяхамі, дзе ў іх была пачатая ці поўная, і, як гаворыць адзін мой знаёмы паэт, папраўлялі там галаву.

— Толькі і ведаюць, што самагонку добрую гнаць,— спакайней канчае Цімох, сядаючы на лаўцы.— І не зловяць ніводнага, як пад зямлёю ўсё роўна гоняць. А бабы і дзеўкі старыя курыць з дасады пачалі. Куль-ту-ра! Нацягнуцца, браце мой, адна з другою — толькі вочы, як белыя гузікі або як у рыбы ў юшцы. Памочнікі прыйшліся плёхаўцам, работнічкі, трасца іх матары!..

Цімох і сам, як вядома было і раней, таксама не надта перадаваў. Што лянота, любоў да прыволля, а што ўжо і старасць. Яшчэ гадоў праз некалькі яго вызвалілі ад вартавання лесу і лугоў, і стаў ён хатнім, тым больш што сын і дачка, ужо гарадскія, з вясны падкідалі ім з Волечкай унукаў, і дзеду было каго вартаваць.

Аднак пра стрэльбу ён зусім не забываўся. Ваўкоў было ўжо куды менш, чым адразу пасля вайны, але страляць іх трэба было ўсё роўна.

Ад вёскі нашай да лесу найдалей адсунуўся, яшчэ здавён, хутарок Бурака, які таксама ледзь што не спаў з тою вудай ды стрэльбай.

— Прывезлі нам туды, браце мой, здохлага каня,— адзін такі вясёлы быў, зайшоўсё з рогату. Скінулі воддаль за хлявом, ад лесу. Сядзелі мы з тым Бурачком, сядзелі ноч, і другую, і трэцюю — не ідуць, чуюць нас калядныя салаўі. Толькі здалёк заспявае каторы...

— А з якім Бурачком — з Аркадзем?

— Які табе, браце мой, Аркадзь! З бацькам, з Кандратам.

Аркадзя, маладога Бурака, Цімох недалюбліваў. Можа, таму, што той стаў пасля яго леснікам і паплаўнічым, а то, глядзі, і за тое, што з вайны, з Германіі, Аркадзь прынёс не кавадла, а паляўнічую стрэльбу.

— Гэта дык стрэльба, браце мой! — хваліў мне яе аднойчы Цімох.— Завар — чатыры кальцы!

Чацвёртае кальцо да «Заўэра» дадалося тут ад зайздроснага захаплення.

Гады праз тры мы зноў успомнілі пра Бурачкоў трафей. Цімох толькі рукой махнуў.

— Не ў тыя рукі трапіць, дык у глум і пойдзе.

— Як гэта?

— Ды так. Гусі, браце мой, напрадвесні селі на лузе. Дзікія. Эх, зарадзіў Аркадзік завар і папоўз. Думае...

Цімох скрывіўся і ўголас паказаў, што тады моўчкі ды сам-насам думаў Бурачок: «Чым большы дам, птамаць, зарад, тым далей той шрот панясе, лепей, птамаць, дастане...» Добра, дурыла, даў таго пораху, дый бяздымнага яшчэ. Поўз, поўз, заскерыўсё (*Цімох паказвае*), прыцэліўсё і — цяў!.. Усяго таго, браце мой, завара к чорту парвала, і зубы яму апошнія ўшчэнт пакрышыла. Стралок! Крыстына Роўбіха потым пыталася (*зноў адпаведны, тут танклявы, голас*): «Што ты там, Цімафей, такое здзелаў? Гэта, кажаш, не ты, а Бурак? Свісцела, свісцела, а потым равела, равела!..»

Гэта ляцела, значыцца, левая руля Аркадзевай стрэльбы, якую «парвала наўздоўж». Аж на суседні хутар, добры кіламетр.

Ці праўда тут, ці трохі нейкай праўды, ці толькі зайздрасць, што ўжо не сам ты малады ляснік, што не ў цябе такі «завар»,— праверыць мне не ўдалося. Дый не вельмі карцела. Тым больш што Аркадзя я потым неяк сустрэў ў Мінску, можна сказаць, зусім на хаду: ён спяшаўся на свой аўтобус, быў, вядома, без стрэльбы, і я толькі па ўсмешцы яго паспеў заўважыць, што зубы ў чалавека хораша ды бела адраслі. Тыя «апошнія, пакрышаныя ўшчэнт». Што ж, можа, і стрэльбу Бурачок таксама сабраў ды склеіў...

Згасаў Цімох памалу і доўга, ужо не ў лесе, не ў лузе, а ў хаце і каля хаты. Сівы і цяжка ссутулены, хоць і вясёлы. І лёг ён апошні раз таксама па-свойму, арыгінальна — на былым панскім полі, толькі што шчодра прырэзаным да нашых вельмі ж перанаселеных мо-

гілкаў на схіле крутога зялёнага ўзгорка. У вялікім квадраце роўнай жытняй пожні, у далейшым кутку — адна, бо першая, Цімохава, магіла.

«Якога ліха, браце мой, тоўпіцца там, дзе ўжо і ўздоўж, і ўпоперак, і наўскасяк»,— падумалася мне ягоным словам, можа, нават з ягонай усмешкай, хоць і быў я там у той дзень у зусім невясёлым настроі...

## «Я ГАЛОДЗЕН!»

Лгаць не ўмелі і лгуноў не любілі браты Цівунчыкі. Хоць абодва таксама людзі бывалыя.

Жылі яны па-суседску, асобнымі гаспадаркамі. Сцяпан, старэйшы, ваяваў у пачатку стагоддзя з японцамі, у Маньчжурыі, і жонку сваю называў па-кітайску — «фіма». Маладзейшы, Алісей, быў на першай сусветнай у Румыніі, і баба яго стала ад гэтага «фумеяй».

Дзядзька Сцяпан быў не толькі старэйшы, але і бывалейшы. Нават скончыў гарадское вучылішча, на той час — вельмі рэдкая для вёскі вышыня. Нядаўна адзін з маіх добрых знаёмых, вясковы настаўнік-пенсіянер, расчулена ўспамінаючы сваю далёкую маладосць, сказаў ажно так, што «гарадское — ого-го! — гэта больш, як цяпер аспірант». А мне пры гэтым успомнілася, як я рабіў калісьці ўрокі, а дзядзька Сцяпан, які сядзеў у нас, доўга глядзеў на мяне спадылба, а потым буркнуў — спытаўся, зусім нечакана:

— Сямю дзевяць?

Я быў у чацвёртым класе польскай сямігодкі, лічыўся нават выдатнікам, але так разгубіўся ад гэтага раптоўнага пытання, што ляпнуў штосьці не так.

— Д-да, вучоба! — сказаў дзядзька Сцяпан з прыціскам, якім і перакрэсліваў усё, што не па Малініну з Бурэніным.

Гадоў праз трыццаць пасля гэтага, калі ўжо ў мяне было больш за дзесяць кніжак на трох мовах, стары аднойчы пацікавіўся, на лавачцы перад хатай, што ж я ў тым горадзе раблю. Мы былі толькі ўдвух, аднак ён спытаўся зусім па-змоўніцку, ледзь не шэптам:

— Што, Антонавіч, па-відзімаму шчатаводам, д-да? Рублёў пяцьсот акалпачваеш?

Гэта яшчэ дарэформенных, на сённяшнія — пяцьдзесят.

Што ж, «несть пророка» і ў Ніжніх Байдунах... І ў Байдунах, і па суседству. Неяк улетку, калі ўжо тых кніжак было — пятнаццаць, ды на мовах чатырох, ішоў я да цёткі ў Плёхава. А насустрач, стоячы на пустых вазах, весела ехалі два плёхаўскія падшыванцы. Звычайна ў нашым баку школьнікі вітаюцца са старэйшымі, нават і незнаёмымі, але цяпер яны, два гэтыя хлопцы, былі на канікулах, памагалі вазіць снапы. Моўчкі мінулі мяне, а потым першы звонка, радасна крыкнуў другому:

— Валерка, бачыў? Во дзе рыла наеў!

Я засмяяўся, але ж, прызнаўшыся, трохі і прыкра было.

Там — малыя. А з дзядзькам Сцяпанам — другое. З гарадскім вучылішчам, з такою бываласцю, ён не чытаў ніколі ні кніг, ні газет. Не верыцца нават, што сам калі-небудзь і радыё мог уключыць. Гэта — пасля вайны ўжо, калі ён, нарэшце, развітаўся з беднасцю, калі аджыла яго вечная скарга «я галодзен», што была заадно і мянушкай.

З японскай вайны ён вярнуўся фельдфебелем з двума «Георгіямі» і цяжкім раненнем. Не хапае адной рабрыны, трасуцца сінія, набрынялыя рукі. Зрэшты, яны трэсліся ўжо і тады, калі я ўведаў яго, калі з дзіцячым захапленнем і жахам слухаў яго расказы пра штыкавыя баі. Пасля Маньчжурыі была Адэса-мама, то ўзлёт да пісара, то падзенне да біндзюжніка. Жаніцца прыехаў у родную вёску (ці не прыехаў, казалі, па шпалах прыджгаў), тады ўжо ўдваіх падаліся ў Піцер. Быў там шчаслівы перыяд у іхнім жыцці, калі ён спачатку служыў тэатральным пажарнікам, а пасля паштальёнам. А потым — зноў Ніжнія Байдуны, ды ўжо шасцёра дзяцей і поўная ў дзядзькі Сцяпана няздатнасць да гаспадаркі. З братам у іх надзелы былі роўныя, але старэйшы, які так доўга «не сядзеў» на бацькаўшчыне», жыў намнога бядней, як ні трапяталася яго «Сама», жанчына ўладная і працавітая.

Ён не любіў ні Качкі з яго кітайскім Танку, ні Лётчыка з яго Пецяргофам, ні Цімоха з яго мясцовай маною. У жыцці дзядзькі Сцяпана было залішне сапраўднай бывальшчыны, аднак і ў смяшнейшых расказах яна была ў яго чамусьці прасякнута то горкім скепсісам, то апатыяй і цынізмам. Расказваючы, ён не шкадаваў і самога сябе:

— Д-да, біндзюжнікі... Наша прапіўшаяся брація... Адзін прарэзаў у мяху дзіркі: для рук і галавы. А ўтары — зусім голы. «Мар-роз — тока звёзды мярцают!..» Гэта — адзін. А той, што ў мяшку: «Д-да, б-брат, сачуўствую, і сам у прошлым гаду без адзёжы страдаў». З такою публікай жывал Сцяпан Міхайлавіч. На самым дне Максіма Горкага. Патом — праверка. Гоняць нас, галубчыкаў, ад самага сіняга мора ды ў паліцэйскі ўчастак. «Па аднаму! Па аднаму!» Уваходзіш — адзін вярзіла стаіць, кулакі па пуду. Ка-ак смажат па рожы — ляціш да дзвярэй! А там утары вярзіла. Ка-ак саданёт па шэі — дзвер башкой адкрываеш. І ўсё, ты ўжэ на вуліцы і нікакіх фармальнасцей, апяць ты ў самага сіняга мора.

Пра «фіму» сваю і наогул пра ўсіх жонак:

— Д-да... Толькі ажэнішся — так і пайшло! Рот разявіць: «А-а-а!..» Ты туда лапці, бацінкі, анучы, чулкі! Ты туда кофты, спадніцы, шляпкі, зонцікі, платкі! Мала, мала і мала! У Піцеры фіма мая і да святога прападобнага Іаана Кранштадскага мяне таскала. Ка гробу яго чудатворнаму, за благадзенствіе памаліцца. Д-да... Палажу сваю трудавую лепту да яшчо і лбом сваім собсцвенным стучу, як баран, у той халодны каменны пол. Сама, усё яна сама...

Аднойчы Сама адна паехала на кірмаш, купіла парку парасят, а яны аказаліся няежныя. Дацягнулі сяк-так да наступнага кірмашу, і прадаць парасят Сама паслала свайго Сцяпана. Яшчэ і непагадзь была, як на тое. Дзядзька стаяў, згорбіўшыся, каля воза, дарма стараўся сагрэць у рукавах мокрага, палапленага кажушка набрынялыя сінія рукі. Худая кабыла грэлася рэшткамі мокрага сена, а на ручцы воза вісеў завязкамі доўгі, мокры мех, у якім, ужо на зямлі, варушыліся ды кавэнчылі ацэплыя «пацучкі».

— Парасяты? — спытаецца, праходзячы, магчымы пакупец.

— Д-да, б-брат. Б-бяры, хоць рукі мне апрастай. Ніч-чаво не ядзят.

Цярплівасць яго вельмі рэдка, аднак жа ўзрывалася дзікасцю страшнага гневу. Тады хапала і Самой, і дзецям. А потым ён зноў уваходзіў у сваю апатыю і скепсіс, спускаўся да панылага, бясконцага: «Я галодзен. Мне б уцілізіраваць свіных плячэй...»

— Д-да... У свабоду было,— успамінаў ён петра-

градскае прадвесне семнаццатага года.— Талпа збярэцца — мітынг. Адзін узлезе на бочку: «А-ла-ла-ла!..» Той не кончыў — сцягнулі з бочкі, а то і па шэі далі — зляцеў. Потым другі, потым трэці, чацвёрты... А я стаю — у адным кармане булка, у другім кармане каўбаса. І я на бочку — гоп! Маложа быў, лягчэйшы. Тока хацеў «а-ла-ла!» — а тут мяне за штаны ды па шэе. І ўжэ не пяты, а шастой на бочке. Д-да... У адным кармане булка, у другім — каўбаса... І чаго я хацеў?

Горкі і беспрасветны смех. Кароткімі, сутаргавымі рыўкамі.

Японцы ў яго, ідучы на штыкі, крычалі не «банзай!», а як туркі — «ала!» І сцвярджалася гэта з матэматычнай катэгарычнасцю. Як і тое, што сам ён, «лічна», будучы паштальёнам, «насіў пошту пісацелю Гогалю. У дзевяцьсот дванаццатым і позжа». Яшчэ і малюнак даваўся, як той Гогаль, ці нават Гогалеў (куды важней), хадзіў «задумчыва па сваім велікалепным кабінеце», а потым «харашо даваў на чай».

Быў у дзядзькі Сцяпана і трохі святлейшы смех,— зрэдку, нямнога, але быў. Пасе, ён, скажам, карову — прыпасвае на повадзе на сценцы, палявой дарозе, або на поплаве сярод збажыны. І суседскія дзеці таксама папрыпасваюць. Пагаварыць малым ахвота не толькі паміж сабою, але і са старым. І шукаюць пра што. За ўраскошнай улетку хлебнай далінай, воддаль — на ўзгорку, над хатамі і дрэвамі мястэчка светла ўзвышаецца царква, белая, з салатавымі купаламі.

— Дзядзько, а цэркаў перад сёмухай пабялілі,— пачынае бліжэйшая ад старога дзяўчынка.

— Д-да, пабялілі,— згаджаецца ён.

— Дзядько,— не сунімаецца гаваркая суседачка,— а як гэта яе пабялілі? Так жа высока! Як?

— Очань дажа, уважаемая, проста: павалілі, пабялілі і апяць паставілі.

Сваіх дзяцей ён, вядома ж, таксама любіў. Але іх было многа на такую бядоту, а да таго ж яшчэ абодва хлопцы не вельмі ўдаліся. Старэйшы, якога клікалі па мянушцы — Жмака, сам пакінуў вучыцца, па два гады пахадзіўшы ў першы і ў другі класы, а меншага, Мішу, выгналі з трэцяга за безнадзейныя двойкі і злоснае хуліганства.

— Д-да,— гаварыў пра гэта дзядзька Сцяпан,— оба выбылі па са-кра-шчэ-ні-ю шта-та.

Словы такія дзядзька любіў. Да нас, вечарамі, заходзіў ён часта, сядзеў і расказваў доўга. І амаль заўсёды, адыходзячы, маме нашай, што нястомна сядзела на прасніцы, гаварыў з аперэты, якую калісьці слухаў з-за сцэны, быўшы пажарнікам,— стары старой гаварыў:

— Д-да... Да свіданія, Джульетка, паслязаўтра я прыйду.

Але прыходзіў і назаўтра.

## І ЁН, І ЯГО

Куды весялейшы быў другі Цівунчык, дзядзька Алісей, той самы, якога богведама чаму празывалі Рыўкай.

Яго ўжо даўно тым часам няма, больш за дзесяць гадоў, а я нядаўна, у сонечны дзень і ў светлым настроі, адзін ідучы па варшаўскай адноўленай вуліцы Кракаўскае Прадмесце, успомніў дзядзькаву прыгаворку. На польскай мове на ніжнебайдунскі лад:

«Ішла пані Ядкова па Кракоўскім Пшадмесці і згубіла седэмнасце злотых. Кеды цывільны зналяз — проша оддаць, а кеды жолнеж — згінэнло на векі векуў. Аман».

Калі разліць на стале трохі вады і, побач, трохі малака, каб гэтыя лужынкі сышліся, мяжу паміж вадой і малаком не правядзеш. Гэта я недзе прачытаў, у нечым разважанні пра этнаграфічныя межы.

У нас, беларусаў, яны размываюцца з пяці бакоў, на стыках з Польшчай, Літвой, Латвіяй, Расіяй і Украінай. А ўсярэдзіне? У нашым заходнім кутку?

Мая бабуля па маме з пятнаццаці год служыла ў маёнтку пакаёўкай і потым, усё жыццё, будучы праваслаўнай, малілася па каталіцкай кантычцы. Прывучыла да польскіх малітваў і дзеда. Тым больш што дзеда, яшчэ маладога, паўстанцы восемсот шэсцьдзесят трэцяга года бралі ў абоз і потым ён «адбываў пакаянне пры нясвіжскім кляштары», можа, таму, што Ніжнія Байдуны ў паншчыну належалі Радзівілам. За праваслаўныя грахі дзед калоў каталіцкія дровы, насіў ваду, цэлымі днямі касіў мятлою. Наша Улляна, ад якое я ўсё гэта чуў, сама памятала яшчэ, як дзед, ужо стары, даўно пасля таго пакаяння, маліўся «папанску». Дзеда па маме звалі Іван, а дзеда па бацьку

Даніла. Некага там хаўтурылі з нашых сваякоў, і дзед Іван, пакуль прывезлі папа, чытаў над нябожчыкам па кантычцы. Дайшоў у той літаніі да слоў «свенты Данелю, мудль се за намі», зірнуў на свата Данілу і, грэшны беларус, засмяяўся. На адпяванні!.. Дзед Даніла таксама быў панскім парабкам, толькі ў іншым маёнтку, таксама трохі набыльваў па-польску, відаць, яго там Данелем і клікалі.

Бацька наш з самага моладу, ад пугі дваровага пастуха, падаўся ў горад, на чыгунку, многа ездзіў па Еўрапейскай Расіі, Украіне, Малдавіі, Закаўказзі, сяктак далучыўся да рускай культуры, любоў да яе прышчапіўшы і нам, сёстрам Улляне і Надзі, брату Паўлу, які застаўся ў Савецкім Саюзе, Андрэю і мне. Але ў яго, у бацькавых, расказах мы чулі многа і ўкраінскага: і анекдоты, і песні, і так паасобныя словы.

Ну, а калі ўжо гаварыць пра нас, тое пакаленне «заходнікаў», чыё маленства і маладосць прыйшліся на міжваеннае дваццацігоддзе пад буржуазнай Польшчай, дык нас тады «размывала» знутры і школа, і служба ў войску, і турма, і падаткава-шарварковыя сутыкненні з нялепшымі сынамі братняга народа...

Дзядзька Алісей бываў таксама далёка. Салдатам служыў у Чыце, ваяваў у Румыніі і ў Галіцыі, а ў маладосці, да салдатчыны, працаваў у маёнтку пані Ядковай сыраварам. Праўда, сыры аднойчы былі не ўдаліся, і, каб зацерці сляды, рагатун Рыўка з яшчэ адным такім майстрам, не з нашай вёскі, узʼехалі з цяжкім возам на стары склеп, і ён праваліўся.

І прыгаворка пра «седэмнасце злотых» — адтуль.

Школьнікам я ахвотна маляваў. Найахвотней «партрэты». То алоўкам, то акварэльнымі фарбамі. Не з натуры, а больш па памяці або «зрысоўваў» з кніг, з паштовак. Аднойчы, дома, гэта быў Хрыстос у цярновым вянку. Над гэтай копіяй і застаў мяне дзядзька Алісей, мой самы часты назіральнік і дарадчык. Малы, як маці казала, «маляр» падпёр шчаку языком і робіць выгляд, што яму абыякава, хто там стаіць за спіной, а сівы аптыміст прыглядаўся спачатку моўчкі, а потым не стрываў:

— Во-во! Давай!.. Пане божа, ты мяне ствожыл, а я цябе намалёвал, спшэдал і пянёндзы пшэпіл!..

Таксама, відаць, успомнілася ці не з маёнтка, з парабкоўскага фальклору.

Наша маці, калі ўжо і старая была, магла часамі заспяваць, прадучы ці шыючы, не толькі роднае «Учора не быў, сягоння не быў», не толькі рускае «Все люди живут, как цветы цветут», але і такое вось «польскае»:

Сядзем, паедзем, каханнё маё,
ніц не паможа плаканнё тваё,
ніц плаканнё не паможа —

стоён коні, стоён уроны —
юж залажоны...

Дзядзька Алісей заходзіў у нашу хату адзін раз, напрыклад, з такою прыгаворкай:

Прыйшоў, прыдыбаў казёл пад акенцо:
«Ці прадуць, ці вядуць дзеўкі верацёнцо?..»

Гэта — тады, калі ў хаце былі скудзельніцы, хоць і даўно ўжо не дзеўкі, пра якіх далей гаварылася так:

І прадуць, і вядуць, верацёнца шумяць.
А як прасці не хоча — за казла яе аддаць.

Іншым разам былі прыгаворкі яшчэ больш недарэчы — абы вясёлыя. Скажам, такая, пра пераборлівую паненку:

«Святая пакрова, пшыедзь хоць на пары коней — дальбуг жа не пуйда!» А потым, дзеўкай насядзеўшыся: «Свенты Дамініку, пшыедзь хоць на едным коніку — дальбог жа, пуйда!»

Таксама сумесь беларускага з польскім, нават і са святамі: праваслаўнымі пакровамі і каталіцкім Дамінікам.

Было і румынскае: «Нушты русешты, нумот румэнэшты» — не разумею па-руску, толькі па-румынску. Была і тая «фумея» — на цётку Зосю, яго гаспадыню.

Былі ў дзядзькі і словы свае: «гамталязікі» — пра аладачкі або піражкі, «ахламенька» — пра сала ці каўбасу, «камінарнік» — пра франтаватага кавалера або пра мужа наогул...

Лаяўся ён з натуральнай і шчодрай свабодай. Любімая прымаўка, і да мужчын, і да жанчын аднолькава: «Будзь дуг, на...ы ў шапку!» Гутарачы з нашай маці на зусім сур'ёзныя, жыццёва важныя тэмы, ён гаварыў:

— Дзеўкі мае, Катрыно, зрабілі ў хаце цэлую краму: паліца вобуву — чаравікі, туфлі, снягоўцы. Што

ні заробяць — тарпу ў князя капаючы, на жніве, на бульбе — усё на с..., усё на сябе! Шура адны боты зрабіў — і ўсё. А гэта? Зіна сабе, Ліда сабе. Ды ўжо і Жэнька, глядзі ты, ладнае курвяня.

— Каб табе, Алісейка, язык нечага аблез! Ну як жа можна так — на сваё, на такое харошае?

Маці нават пляvalася, без усякай, вядома, надзеі, што праз два-тры словы такога ці горшага не пачуе.

Тут, з жанчынай, у яго было яшчэ нейкае далікацтва, а поўная свабода — у мужчынскай кампаніі.

У Цімоха Ярмоліча, я гаварыў ужо, быў меншы брат, Ёсіп. Калі яны з Цімохам падзяліліся, Ёсіпу прыйшлася бацькава хата. Яна стаяла глухой сцяною да вуліцы, а ён захацеў павярнуць яе фронтам дый адарваць такім чынам ад сяней, каморкі і хлява, якія ўзяў з падзелу Цімох. Сабраў Ёсіп усю вёску мужчын, узялі мы той апусцелы ды раскрыты зруб на добрыя друкі і, пад каманду Асечкі, заўсёды найбольш ахвочага да талакі, толькі хацелі напяцца равануць угару і панесці — пачуўся натужны голас дзядзькі Алісея:

— Перанясенне машчэй з бардака ў паліцыю!

Большасць чула такое ўпершыню, сказана яно было пад руку, настрой гурту і так прыўзняты, узбуджаны,— што ж, грымнуў рогат, і хата зноў асела на стары падмурак. Шчасце яшчэ, што не зусім набок.

У блазнаванні сваім ён быў заўсёды лёгкі, рухавы.

Што мне цяпер успомнілася, дык гэта наша «вострая брама». Андрэю было тады семнаццаць. Гаспадар. А мне дванаццаць. Памагаты. Змайстравалі мы браму ад вуліцы, з новых штыкетаў. Хацелі, вядома ж, каб здорава, на дзве форткі, уверсе з бакоў абрэзаныя ўвагнутым паўкругам, а пасярэдзіне — востра. Начапілі форткі на крукі — атрымалася крыва, не зачыняецца... Я рагачу, Андрэй — у злосць. Ён на мяне сказаў Гезыль, а пасля і зусім Касавокі, а я на яго то Цененькі, за пісклявы голас, то Вярблюд, хоць ён гарбатым або слінявым ніколі не быў. Сядзім на лаўцы злосныя, маўчым. Добра, што хоць нікога няма. І маці з Надзяй у полі, на паліве. А тут — на табе! — едзе аднекуль дзядзька Алісей. Спыніў перад намі кабылу, скокнуў з воза. А нас нібыта зусім і не бачыць. Падышоў да брамы, укленчыў, зняў шапку, перахрысціўся і рукі злажыў:

— Святая, вострая, негабляваная! Амін, амін!..

Гора ў жыцці яго было многа. Два разы гарэў. Другі раз так, што «і попел развеяўся, і каменне патрэсканае». Без пары памерла «фумея», дабрадушная цётка Зося, а потым Зіна, старэйшая замужняя дачка. У акупацыю другую дачку, Ліду, разам з яе Сяргеем, малымі дзецьмі і Жэнькай, найменшай і найспраўнейшай дзядзькавай дачкой, якая гасціла тады ў Ліды на хутары, карнікі арыштавалі ў блакаду і вывезлі ў Германію. Там яны ўсе і пагінулі з дзецьмі,— ніхто не скажа дзе — у лагеры якім ці ад саюзніцкіх бомбаў. А тады яшчэ, і зусім дабіваючы старога бацьку, з фронту прыйшло, што загінуў і Шура, адзіны сын.

Зусім аглухлы, дзядзька Алісей апошні свой час хадзіў палявым вартаўніком. Закурваючы з ім, вясёлы брыгадзір Васіль Кураўка крычаў старому ў самы твар:

— Ты ўжо толькі дарогаю, дзядзька Алісей, хадзі!.. Дарогаю, кажу, хадзі!! А то павалішся дзе-небудзь, і не знойдзем!..

Уцяміўшы, што да чаго, стары спачатку смяяўся, а потым махаў рукою: «Ат, адзін чорт!» Але і то, здаецца, весела. І тупаў полем ці дарогаю далей. Пакуль зусім не натупаўся.

У адрозненне ад старэйшага брата, Сцяпана, з яго гарадскім вучылішчам, дзядзька Алісей, што закончыў толькі царкоўнапрыходскую, ахвотна і многа чытаў. Пры Польшчы з кнігамі ў вёсцы было вельмі туга, у акупацыю тым больш, а потым ужо ён, як сам гаварыў, прысмактаўся да нашага клуба, дзе памалу расла сабе ладная бібліятэка.

І яшчэ адно — самае сімпатычнае ў ім — дзядзька любіў дзяцей. За што, вядома, і яны яго любілі. Не толькі сваіх і не толькі свае.

## ПРАЛЛЯ І ВАРТАЎНІК

Баба прадзе, мама прадзе, і маленькай унучцы зрабілі нарэшце маленькую прасніцу. Тыдзень таму назад, і Анечка ўжо добра смыкае. Слініць тую кудзелю, нібы клюючы яе губкамі, і нітку цягне, вядзе. Нават сказала, задаволеная ўдачай:

— Во, як я ві-ва-ла-а!

Прыйшоў дзед Алісей. Стаіць у парозе, прыпёршыся плячом да вушака. Спачатку штосьці гаварыў, а цяпер вось глядзіць на маленькую праллю, сам сабе ўсміхаецца, а потым ціха кажа бабулі:

— Катрыно! Га?

І паказвае ёй кіўком галавы на ўнучку.

А тая Анечка нібы і не чуе, не бачыць нічога — вядзе сабе, смыкае з усёй пацешнай сур'ёзнасцю чатырохгадовай памочніцы.

Стары памалу, нібы непрыкметна ды так сабе, здымае сваю ягнячую шапку-каўпак, прыплюшчвае вока, прыцэльваецца і спрытна кідае на праллю. Паў! — нітка перарываецца паміж кудзеляй і ручкай. Гэта ўжо не ўпершыню, і ўчора так было, і Анечка злуецца, смешна, «па-дарасламу»:

— Алісей ты! Ты мне ніколі прасці не даеш!

— А я цябе, Ганя, не ба-ю-ся! — нараспеў пацвельваецца дзед.

Тады яна ўстае са свае прасніцы, ставіць яе каля ножкі стала і не на жарты прыступае да свайго перашкаджальніка. Неўзабаве дзед ужо ляжыць, «павалены» на падлогу. Анечка то ляпае яго далонькай па пухкім кажусе, то верхам сядзіць на яго жываце і пераможна смяецца. Потым яна ўстае, поўнасцю здаволеная і стомленая, а ён садзіцца на падлозе і пачынае пакрыўджана «плакаць». Як малы, выціраючы кулакамі вочы.

— На-бі-ла, шап-ку за печ за-кі-ну-ла, ы-ы-ы!..

Спачатку Анечка прымае гэта як працяг гульні, а потым у яе маленькім сэрцы абуджаецца далёка-далёкае, будучае матчына шкадаванне.

— Устань! — спачатку крычыць яна на старога.— Сказала табе, устань! — І нават мякка тупае валёначкам.

Гэта яшчэ ўсё толькі гульня. Дзед плача — зусім як плача. І Анечка пачынае яго шкадаваць:

— Алісеечка мой, сыночак маленькі! Я больш не буду. Я табе малачка.

Гэта — таксама яшчэ ўсё з іхняга рэпертуару.

— І шапку тваю знайду, вушкі твае не памерзнуць.

Дзед плача горка і няўцешна. І тут ужо Анечка бянтэжыцца: а можа, ён і папраўдзе?.. Яна глядзіць на яго, і вочы яе пачынаюць большаць і вільгатнець. Стары яшчэ ўсё хныкае, закрыўшыся рукой, аднак і

глядзіць праз карэлыя пальцы і, адчуўшы, убачыўшы, што ўжо тым часам годзе, што і малая можа заплакаць, аднімае ад твару далонь і смяецца:

— Што, Ганууся, спалохалася?

І малая таксама смяецца.

— От вы, дзядзько, які! — гаворыць пралліна мама, а ў голасе яе і маладая весялосць, і сталая матчына ўдзячнасць.

Бабуля перастала прасці і ціха смяецца, нічога не кажучы. Да «вычварання» гэткага і іншага яна па-суседску прывыкла даўно.

Задоўга да таго, як на свеце з'явілася Анечка, здарылася аднойчы такое.

У канцы лета, пад вечар, у вёску ўтупацеў, убразгацеўся потны, запылены эскадрон уланаў. Не так, як некалькі гадоў перад гэтым, калі і салдаты разам з паліцыяй шукалі па нашых прыпушчанскіх вёсках чырвоных паўстанцаў, і не так, як гэта пазней рабілася ў Заходняй Украіне ці на Брэстчыне, дзе войска ставілі ў сёлах на карны пастой,— цяпер былі проста манеўры. Па двух, па трох, па чатырох, спешыўшыся на вуліцы, уланы з конъмі разышліся па дварах і — усякая праца ў Ніжніх Баўдунах спынілася.

Здымаліся сёдлы з танканогіх узмакрэлых коней. Коні, усе аднамасныя, задаволена пырхалі. Бразгацелі, звінелі страмёны, цуглі, шпоры. Былі сапраўдныя шаблі, пікі, карабіны, якія можна было нават пачапаць. Чулася польская гамана — то каманда якая, то проста гутарка, жарты, нязлосная лаянка, смех. Рассядланыя, расцугляныя «ганчакі» зусім па-конску хрупалі сена і, як свае, глядзелі добрымі, глыбокімі вачыма. Перад Качкамі, дзе шырэйшая вуліца, спачатку толькі дыміла, а потым і незвычайна духмяніла кавай палявая кухня. Кіславата пахла хлебам, пабразгвалі кацялкі. Уланы, вызваліўшыся ад усіх сваіх патранташоў ды рамянёў, сталі з ваякаў звычайнымі хлопцамі з розных далёкіх вёсак і гарадоў, асабліва свойскімі тады, калі захацелі «купіць» малака, а «наша мама» (бо так было ледзь не на кожным двары) вынесла ім цэлы збан і грошай, вядома ж, не ўзяла.

У дваццаць чацвёртым — дваццаць пятым гадах, ганяючыся за «бальшавіцкімі бандытамі», ніякае войска ў Ніжнія Байдуны не заходзіла, крыўды ад яго ніхто не памятаў. І раней, у польска-савецкую вайну,

нашу вёску абмінулі і бітвы, і ваенны пажар. А цяпер, ужо даўно не на першым годзе пасля крывавага ліхалецця, многа і нашых хлопцаў служыла ў польскім войску, і ў кавалерыі, і ў пяхоце,— служылі і раней, і ў тое лета, далёка ад роднага дому...

Таму яны, матчыны сэрцы, і раскрываліся.

Цётка Катрына не была яшчэ тады бабуляй Анечкі. Будучы бацька малое праллі ў салдаты пойдзе яшчэ не хутка. Ды матчын клопат, яе трывога, насцярожанасць даходзяць у прадбачанні вельмі далёка. І цётка, вядома ж, таксама вынесла гэтым уланам непачаты збан малака і паўбохана хлеба — проста як нечым сынам.

А ўсё ж, калі пачало сутуняцца, яна, руплівая ўдава, паклікала меншага сына-падлетка і ў сенцах, каб ніхто не чуў, сказала:

— Пойдзеш спаць у аўсяныя мэндлі за Алісеева гумно. Чорт ім верыў, яшчэ снапы пакрадуць сваім коням.

Хлопец, як яму ні хацелася застацца дома, на вуліцы, зблізку пачуць, як трубач зайграе «цапштык» — адбой, паслухмяна пранікся матчынай асцярожнасцю. Ніхто не чуў, няхай жа ніхто і не бачыць. Загарнуўшы кажушок у посцілку, нібы так сабе клунак нейкі нясе, ён перайшоў цераз вуліцу, цераз Цівунчыкаў двор, міма аціхлых там людзей і коней, заўважыў, што ні самога дзядзькі Алісея, ні цёткі Зосі, ні Шуры іхняга, ні дзевак там няма, перайшоў цераз загуменную дарогу і ціха пашамацеў мяккім аўсяным іржышчам да першых мэндлікаў. Паслаўся паміж імі на цёплых яшчэ снапах, лёг і накрыўся посцілкай і кажушком.

Хлопец успомніў, як ён нядаўна, гэтай вясною, вяртаючыся позным вечарам з Плёхава, ад цёткі, свіснуў на скрыжаванні за сваёю вёскай. Кажуць, што, калі там свіснуць апоўначы,— з'явіцца чорт. Хлопец свіснуў, а чорт не з'явіўся. Можа, таму, што яшчэ не поўнач была? Яму, аднак, стала страшна, ён спачатку пайшоў памалу, а потым не вытрымаў — азірнуўся, пайшоў хутчэй і, нарэшце, пабег. І толькі ўжо на вуліцы, а яшчэ больш на сваім двары падумаў, што вось і не вельмі спалохаўся.

Успомніў хлопец таксама і тое, як летась у жніво была вялікая навальніца, а пад вечар, калі яна сціхла, маці паслала яго на далёкае поле, паправіць павале-

ныя ветрам і ліўнем жытнія мэндлі. Уранні таго дня, яшчэ задоўга да навальніцы, у Ніжніх Байдунах было накідана «афішак» (так у нас называлі лістоўкі), у якіх не па-польску, але па-нашаму было надрукавана, каб не плаціць панам-пілсудчыкам падаткаў, дамагацца школы на роднай мове, свабоды, зняволеным палітвязням, дамагацца, каб і тут, як у Савецкім Саюзе была ўлада рабочых і сялян. Хлопец ціха ішоў па мокрым бадылістым жытнім іржышчы, набліжаўся да мэндляў, адны з якіх былі абернуты, а з іншых толькі пазбівала шапкі, ішоў і думаў, што тыя смелыя і таямнічыя, хто раскідаў «афішкі», цяпер — сядзяць у мэндлях... Яму было сцішнавата, і ён пачаў ціха напяваць. З дзвюх песняў, якія ўжо трохі ведаў — «Ад веку мы спалі» і «Вставай, проклятьем заклейменный». Спяваў не так для смеласці, як дзеля таго, каб пачулі тыя, што недзе тут сядзяць у мэндлях, а ноччу зноў пойдуць па вёсках, спяваў, каб пачулі і зразумелі, што ён ім — свой...

А што ж ён будзе рабіць цяпер, калі прыйдуць уланы — па іхні авёс? Няўжо толькі крычаць? Няўжо яны тады адразу вернуцца, уцякуць?..

Навокал сакаталі конікі, у небе паміргвалі, таксама незлічоныя, зоркі, у вёсцы амаль зусім аціхла гамана, вось-вось павінен быў пачуцца горн адбою... Лета гарачае канчалася, але дні былі яшчэ ўсё па-летняму надоўгія. Хлопец, пастух, устаў вельмі рана, за дзень набегаўся, а потым, пад вечар, і нагледзеўся. На цёплым аўсе, пад дзяругай і кажушком, нядаўна павячэраўшы, было так цёпла, што песню горна хлопец пачуў ужо як праз сон. А потым — каб і стралялі яны, з усіх сваіх карабінаў — і таго не пачуў бы...

Уранні ён прахапіўся раней, чым у вёсцы пачуўся сігнал вайсковай пабудкі. Мэндляў абапал яго — не было!.. Нейкі момант ён, яшчэ седзячы, лыпаў вачыма, тужыўся разгадаць, што ж гэта адбылося, а потым, устаўшы, убачыў свой авёс. Крокаў за трыццаць далей, трохі за ўзгорачкам, відаць толькі крайнія шапкі. Падбег туды, палічыў. Усе пятнаццаць, без таго, шаснаццатага, на якім спаў. І пастаўлены хораша, нібы тут яны і стаялі.

Спачатку хлопец занёс туды і паставіў шаснаццаты, потым ішоў дахаты і на Цівунчыкавым двары, дзе спалі і ўланы і коні, сустрэў дзядзьку Алісея.

— Здароў, Іванко,— адказаў той на прывітанне, нібы нічога ніякага, як і заўсёды. Але па ўсмешцы дзядзькавай малому стала ўсё ясна, хоць і смяяўся Рыўка «навыварат», гаворачы за ўланаў «па-польску»:

— Як богем кохем, ніц не вем!..

...Анечка прала на маленькай прасніцы гадоў... хутка сорак таму назад. Нядаўна мы з ёю, Ганнай Андрэеўнай, тэхнікам на льнозаводзе, весела ўспаміналі тое мапрадзенне. Я бачыў яго тады разам з яе бабуляй і мамай, адна з якіх мая маці, а другая братавуха.

Снапы я вартаваў яшчэ на некалькі гадоў раней.

Дзядзька Алісей быў тады, на аўсяным іржышчы, пад зоркамі зусім адзін. Але я дагэтуль бачу, хоць і не бачыў, як ён стаіць над сонным хлапчуком і сам сабе ўсміхаецца...

## ПЕСНЯ

Ёсць такая пара, на стыку вясны і лета, калі нядзеля ў мужыка свабодная, калі ён можа не ў працы, але «па-панску» палюбавацца прыродай. Тым больш што яна тады — у самым росквіце.

Мы, пастушкі, занятыя былі і ў нядзелю. Ды ў нас, у хлопцаў, былі ж і сяброўкі, якія маглі «адпусціць», калі ўжо такая патрэба. Час мы мералі не гадзіннікам — на ўсю вёску іх са два, можа, і было — а даўжынёю ўласнага ценю. «Пусці мяне на ступак, на паўтара, на два...» У самы поўдзень каровы, прыгоненыя «з ранак», былі дома, але і тады, калі мы іх зноў выганялі на пашу, цень быў яшчэ ўсё кароткі, мы мералі яго з дакладнасцю да палавіны і да чвэрткі ступака, у хлопцаў невялікага, а ў дзяўчатак яшчэ меншага. А што да патрэбы, дык дзе там ужо большая за тую, калі з вёскі па выгане, цераз падсохлае балота, на луг да рэчкі ідзе вялікая грамада — мужчыны, хлопцы, свабодныя ад пасты хлапчукі! Ясна, што будзе...

Калі грамада збіралася ў вёсцы на выхад трохі раней, а нашы каровы яшчэ стаялі ці ляжалі кожная на сваім двары, мы дамаўляліся з дзяўчатамі дома; калі ж трохі пазней, дык мы ўжо на пашы мералі цень ступакамі і з крыкам, у падскоках даганялі тую грамаду.

Рэчка наша спакойная, з тарфяністым дном, шмат

крутых (у нас кажуць «пrыткіх», а то і «спрытных») берагоў, пад берагамі многа падрэзаў, а на дне — вялікага куп'я.

Гэта якраз і трэба, гэта, па-сучаснаму кажучы, і абумовіла даўні мясцовы від маладзецкага спорту.

Над рэчкаю, на мурагу, што расквітнеў купаллем, рамонкамі, кашкамі, вогнікамі, смолкай, браткамі і процьмай іншых кветак, усе мужчыны, ад найстарэйшых да наймешшых, распранаюцца. Ні трусоў, ні трусікаў — не было яшчэ такога звычаю. Малыя распранаюцца хутчэй, як быццам баючыся не паспець на самае галоўнае. А мужчыны і дзецюкі не спяшаюцца. Раздзеўшыся, сядзяць у сонцы, абменьваюцца заўвагамі наконт таго ці іншага, ахвотна адводзячы тэму ў той бок, дзе малым асабліва цікава, ласа слухаецца.

Пасля нарэшце даецца каманда,— Цараў норт, той участак ракі, які сёння трэба апрацаваць. Абняць яго з двух бакоў, разысціся адгэтуль ніжэй і вышэй і ўзняць належны шолам. Хто бяжыць, а хто ідзе да вады, хто лявей, хто правей — натоўп падзяліўся на дзве голыя палавіны. Пачынаецца плаванне з крыкам і буханнем нагамі па вадзе — рыбу заганяюць пад берагі, у норы і падрэзы, а на дне — пад вялізнае тарфяное куп'е.

Потым хто-небудзь старэйшы камандуе «годзе!» і — пачынаецца галоўнае.

Словы «спорт», «чэмпіён», «рэкорд» і іншыя падобныя былі тады ў нас не ў модзе, як і трусы,— хто чуў дзе, у войску ці ў школе, а хто і зусім не чуў. А чэмпіёны былі. Ды гаварылася пра гэта проста: рыбу рукамі дастаюць найлепш каваль Пучок, Цівунчыкаў Жмака і, вядома ж, Цімох Ярмоліч.

Пучок, праўда, лавіў не так ужо добра, як пацешна. Малы, шыракароты, «чарнамызенькі» дзядзька, ныраў ён густа і часцей за ўсё напуста. Захопіць з сабой паветра, падскочыць шпунцікам угару, нырне нагамі ўніз, і даволі доўга яго няма. Так доўга, што за гэты час можна паспець разоў пяток узапар сказаць яго доўгую мянушку: «Не хачу хлеба, дай сала!» Тады ўжо ён вынырвае і перш за ўсё, развёўшы рукі, паказвае, якая рыбіна ўцякла. Тады, амаль адразу ж, зноў хапае паветра, падскоквае і — у дно. Сяды-тады вынырваў з рыбінай, аднак яшчэ ўсё меншай за тую, па душу якое зноў і зноў даваў нырца.

Дужы і звераваты Жмака часта вымаў з-пад донна-га куп'я ці з берагавога падрэзу вялікіх язёў, мянькоў і акунёў, часамі рэзаў рукі акунёвай пілкай і кожную рыбу ці рыбінку, узняўшы яе над вадой, раней чым шпурнуць на бераг, абкладаў панурым конскім матам.

Цімох сюды не прыходзіў разам з усімі з вёскі — улетку ён жыў з сабакам у сваёй паплаўнічай будзе і, калі да рэчкі дагамоньвала святочная мужчынская грамада, далучаўся да яе часамі так непрыкметна, што нібы з-пад куста ці нават з-пад зямлі. На глыбіні, стаяка плывучы на адным месцы, ныраў ён не нагамі ўніз, як іншыя, але дзябёла падскокваў, згінаўся над вадою ў поясе і, пацешна бліснуўшы незагарэлым азадкам у неба, як цераз жэрдку, пераваліваўся ў глыбіню. Але сядзеў там найдаўжэй і выныраў заўсёды з рыбай. То з большым чым-небудзь, то з аднымі плоткамі. Бывала, наўсаджвае, назаціскае тых плотак паміж пальцамі абедзвюх рук, а яшчэ па адной — паміж пальцамі на абедзвюх нагах. Ужо і маніць не трэба, колькі іх там, пад адным падрэзам ці між вялікімі грудамі торфу.

— Толькі, браце мой, пагладжвай ды бяры. Як бабу...

У палоне, куды я трапіў з польскага войска ў верасні трыццаць дзевятага, мне разоў некалькі дакучаў адзін і той самы сон. Поўная апаноўка яечні. Адно пакрэктвае ды папырсквае салам — толькі што з агню. І луста хлеба, тоўстая, наздравата-пухкая і вялікая на ўвесь бохан. І думка, з логікай натуральнай у сне: «От хіба дурань! Чаму ж я тады так мала, так неахвотна еў?..»

Другі сон прыходзіў, здаецца, толькі аднойчы. Адзін толькі раз так бязлітасна ярка. Я ўбачыў наш мурожны луг з усімі яго кветкамі і матылямі, з усімі пахамі і песняй жаваранка над спякотнай цішынёй, з усёю травяною, зялёнаю ласкай для босых, заўсёды пакола-тых ног... Са сцішнаватай, ледзь празрыстай цемраддзю рачное глыбіні, у найглыбейшым падрэзе, дзе я — ужо не пастушок — пагладжваю, улагоджваю майго найбольшага язюка... Луг і рэчка, і той радасны гоман і смех — сіламі ўсіх ніжнебайдунскіх хлопчыкаў, хлопцаў, мужчын,— смех, ад якога я і прачнуўся на нарах, найшчаслівей заплаканы.

Вельмі мала знаёмыя са словамі «спорт», «рэкорд», «чэмпіён», мы не ведалі тады і слова «браканьер». Рыба была, і рыбу лавілі. Трохі сеткамі, трохі вудамі, трохі рукамі. Але рыба была. А сёння, калі яе і ахоўваюць, і глушаць амаль усенародна,— і лесхімгасаўцы, замест таго каб карчаваць тым толам лес, і мяшчане на персанальным транспарце, і некаторыя на ўсюдыходных «газіках»,— калі яе і токам б'юць, і «тэлевізарам» ашукваюць, калі яе шкоднымі адыходамі дастаюць нават у такіх далёкіх лугах, як наш,— цяпер ужо і сетачкай на юшку налавіць — таксама браканьерства.

І мы не згодныя з гэтым. Тыя «мы», што сёння, у чэрвеньскі выходны дзень пяцьдзесят восьмага года, бродзім з таптухай. Дзе ў беразе, дзе на мяльчэйшым, у зеллі. Колькі нам трэба — дай бог вядро, ці хоць няпоўнае — на восем чалавек. Ды раз у год ці ў два гады,— так усё часу няма, каб спаткацца, як людзі.

Добра, канечне, любіць людзей маладых, каторыя варты гэтай любові. Аднак сустракацца з тымі, з кім сёе-тое перажыта, каторых усё менш ды менш,— гэта таксама добра.

Калі я пражыву і трыста трыццаць год, дык усё роўна буду з цёплым, высокім сумам успамінаць такія вечары, дзе чокаюцца не дзеля таго, каб напіцца, а каб смялей, шчырэй было сказаць, як мы рады сяброўскай сустрэчы, той сустрэчы, калі мы потым і заспяваем, ладна сышоўшыся не так галасамі, як для ўсіх нас зразумелым хваляваннем.

Наша вёска песенная здаўна. Мужчыны добра спяваюць. А больш дык правільна будзе сказаць: спявалі. Адны не павярталіся з франтоў, а хто вярнуўся, дык ужо і пастарэў. З тых асабліва, што на вайну пайшлі сямейнымі, пажылымі.

Хлопцы ў той вечар расказалі мне, што два з найлепшых ніжнебайдунскіх спевакоў, Уладзік Чыркун і Антось Навумовіч, летась увосень сабралі да плота ледзь што не ўвесь кірмашны натоўп. Ды не збіралі яны, а проста самі паселі, стаміўшыся, каля высокага тыну, на духмянай бясцветным рамонкам траве, на тым свабаднейшым на рынку месцы, дзе прадаюцца гаршкі, і заспявалі ціха і няспешна, для сябе.

Побач аціх спакваля перастук па гаршках ды збанках, торг спыніўся, і людзі сталі падыходзіць на песню. Спачатку мужчыны. Бліжэйшыя, пасля далейшыя. Хто

на песню ішоў, а хто і на той збор, але, услухаўшыся, і сам заставаўся.

Што ж яны там спявалі? Што з тых песняў, якія ў розны час слухаў, а то спяваў і я? Можа, гэтую, горда-арлінную:

...Зовет меня взглядом и криком своим
И вымолвить хочет: «Давай улетим!..»

Ці, можа, гэтую — будзённую, зусім ужо сваю, вясковую, гарэзліва-вясёлую:

...А каб свінні паздыхалі
і хата згарэла,
як мне гэта прымачае
жыццё надаела!..

Ці гэтую — журботна-задушэўную:

...Як хороше, як весело
на білім світі жить!
Чому ж у мене серденько
І ние, и болить?..

Людзі стаялі, слухалі, і людзям было добра. То задумацца можна, то весела стане, то засумуецца. Так па-святочнаму, незвычайна.

Бо вось паселі гэтыя двух каля плота, адзін нават выцягнуў на траве кавялу. Гэта Уладзік, што з Вялікай Айчыннай прыйшоў без нагі. Антосю ж яшчэ ў першую сусветную паадбівала пальцы на правай руцэ. Першаму будзе за шэсцьдзесят, і не ведаючы пазнаеш, а другому ўжо і на восьмы дзесятак трохі пайшло. Можна сказаць: лебядзіная песня. Правалачы сваю безліч дзён і начэй праз войны, нястачы, трывогі, некалькі зменаў улады — тут можна і стаміцца, і засумаваць. А людзі гэтыя спяваюць! Так шчыра, хораша. На два галасы. Нягучна, аднак яшчэ ўсё молада. І ім самім, відаць, таксама добра. І сумна і добра. Можа, нават і так, як бывала ў іх рэдка калі...

Як і нам цяпер, хлопцы, сябры мае, ужо таксама даўнія, не ўчарашнія партызаны.

## МАЁР АСМАЛОЎСКІ

Вось так. А цяпер мне — думай, як ад такой узнёсласці вярнуцца зноў да смеху?

Што ж, і ў жыцці яно так: бывае самае нечаканае чаргаванне.

...Дык мы сядзім сабе, спяваем за сталом. Акно адчынена ў зялёны сад, асветлены з хаты. І раптам у гэтае акно з таго саду даволі спрытна гоцнуў чалавек, якога я прывык лічыць... бадай што і нябожчыкам.

Ускочыў, выхапіў з-пад пінжака (пад гальштукам!) добры аполак сала, пляснуў яго на стол, сказаўшы: «Мой уклад!» — і працягнуў мне цераз стол руку:

— Здароў, Антонавіч?

— Сідар — ты?! — гукнуў я міжволі.

— Сідар — я! — адказаў ён у тон мне і засмяяўся: — Хрыстос васкрэсе, браток!

І трэба ж было (і такое бывае), што зранку дома, тады на рэчцы, пасля зноў дома — і ніхто мне ані слова пра тое, што Сідар-гоп і сапраўды ўваскрос, другі ўжо раз пасля вайны!..

Пра Сідара пачнём з мянушкі. Проста ён смешна танцаваў, няўдала падскокваючы ды падрыгваючы ў польцы, а то і ў вальсе, таксама без толку і ладу. Калісьці, гледзячы збоку, Уладзік Чыркун падбадзёрваў яго: «Сідар — гоп!», гэтае «гоп» падхапілі мы, падшыванцы, і так яно прыліпла назаўсёды.

Сідару вельмі ж хацелася ў войска, а яго ўсё бракавалі. Пазней я даведаўся, што па Версальскім дагавору Польшча Пілсудскага мела права толькі на трыста шэсцьдзесят тысяч войска, таму і адбіралі «пабаровых» так прыдзірліва. Сідару першы раз далі адтэрміноўку, на другі год таксама, а ўжо на трэці забракавалі зусім. Паміж другім і трэцім годам надзеі з Сідарам здарылася такое, што ён лічыў нядрэнным козырам. На ўзгорку за нашай вёскай паставілі «маяк», трыганаметрычную вышку, якая нам, пастушкам, здавалася проста паднебнай. Аднак знайшоўся чалавек (не з тых, што ставілі «маяк»), які не толькі залез на яго да самага верху, але, ашчарэпіўшы нагамі шпіль, апусціўся ўніз галавою. Гэта быў Штокала, вядомы мястэчковы жулік. Другі да шпіля далез Сідар-гоп. Зачапіцца нагамі і павіснуць уніз галавою ён не асмеліўся, рэкорд свой адзначыў тым, што скінуў адтуль галёш. Была ўжо восень, гразь, і галёш, прасвістаўшы снарадам, урэзаўся ў раллю. А вясною, «на здачы», Сідар-гоп казырнуў маяком: «У мяне вельмі моцная галава, вазьміце ў лётчыкі!..» Не памагло. Выхад сваёй няўрымслівасці ён знайшоў у іншым... Зноў тлумачэнне патрэбна — не была б гэта гістарычная тэма!..

У бліжэйшым ад нас, невялікім маёнтку быў панам Сідараў, дваюрадны брат. У рэвалюцыю пані Ядкова (тая самая, што згубіла «седэмнасце злотых») са страху і дзеля самастрахоўкі ўзяла да дачкі прымаком сялянскага дзецюка, стала такім чынам нібы і сама сялянкай. Потым панская ўлада вярнулася, і ўсё стала наадварот,— прымак, звычайны, нават не вельмі спраўны Ганнін Мечык, з прозвішчам, як і Сідар-гоп, Асмалоўскі, з мянушкаю Сэпель, зрабіўся панам Мечыславам. Панскай радні, якая жыла ў асноўным у Варшаве, не гонар быў такі сваяк, але, параіўшыся, пагадзіліся на тым, што паслалі яго на нейкія курсы, каб трохі абгладзіць. А ён пасля, не вельмі зазнаўшыся на пасадзе панінага мужа, узяў да сябе, у маёнтачак, і свайго дваюраднага. Ведаючы яго другую, пасля мілітарнай, страсць — лячыць жывёлу, Мечыслаў уладзіў Сідара, узброенага двума класамі царкоўнапрыходскай школы, на ветэрынарныя курсы, з якіх ён, дарэчы, вярнуўся хутчэй, чым чакалі.

Ці так, ці гэтак, а нашы Ніжнія Байдуны набылі сваю арыстакратыю — пана і доктара.

Пан співаўся настолькі паслядоўна ды настойліва, што да верасня трыццаць дзевятага года ад яго маёнтачка засталіся ўжо толькі рожкі без ножак. А доктар лячыў сялянскую жывёлу так самаахвяравана і ўдачліва, што неўзабаве набыў сабе славу на некалькі вёсак і мястэчка. І гэта — без адрыву ад уласнай гаспадарачкі, якую яны вялі сяк-так з малодшым братам і сястрою. Праўда, калі людзі прыходзілі з яго рэцэптамі ў аптэку, аптэкар круціў галавой і ўсміхаўся ад Сідаравых польскай і, тым больш, лацінскай моў, аднак здагадваўся, чаго пан ветэрынаж Асмалоўскі хоча: з гадамі ён прывык да невялікага асартыменту Сідаравых лекаў.

Сідар лячыў душою і нахабствам. Вязе яго, скажам, які-небудзь не з нашай вёскі дзядзька да хворай каровы, а той доктар ужо на пад'ездзе да вёскі ажно гарыць. Не чакае, пакуль і веснікі адчыняць — гоп цераз іх, пінжак ці кажушок з сябе, на плот, і крычыць гаспадыні: «Цёплай вады!» За вочы людзі пакеплівалі, аднак бралі яго ахвотна, бо да гміннага ветэрынара з мужыцкай капейкай не вельмі было даступіцца, а гэта і свой чалавек, і цаны ніякай не вызначае,— што хто дасць. Нават і чаркі з яечняй ды добрага слова хапала.

Трэба дадаць яшчэ адно. Сідар-гоп быў усё-такі

«доктарам» не афіцыйна, толькі народным, ці што, і на лячэнне яго гмінная ўлада глядзела праз пальцы: няхай сабе, як-ніяк — панскі сваяк.

Ветэрынарства гэтае Сідара і падвяло.

У ліпені сорак трэцяга, у дні вялікай блакады нашай партызанскай пушчы, у мястэчку спыніўся быў уласаўскі карны батальён. Сідара хтосьці там з мястэчковых рупліўцаў ці проста дурняў падаткнуў: «Вунь стаіць ніжнебайдунскі доктар...» Яго забралі як патрэбнага пры конях, і так ён знік з родных мясцін, а для добрых людзей — «прапаў за сабаку».

А ўлетку сорак шостага, праз тры гады, я прыехаў да брата і на вуліцы роднай вёскі, у сонечны дзень — проста аслупянеў...

Насустрач мне ішоў, злёгку пакульгваючы, шыкоўны савецкі маёр — з залатымі пагонамі, з двума ордэнамі і, як адразу здалося, мноствам медалёў. Ён падпіраўся далікатнай кульбачкай, відаць, не толькі для большай важнасці, але і з патрэбы, бо на яго парадным кіцелі была і жоўтая стужка цяжкага ранення.

Тады я першы раз выгукнуў сваё: «Сідар — ты?!», а ён адгукнуўся ў тон мне, з прастадушна шырокай усмешкай: «Сідар — я!»

У адказ на маё маўклівае недаўменне ён выняў з кішэні кіцеля свой ваенны білет, яшчэ (не памятаю які) дакумент, адкуль у памяць маю назаўсёды ўступіла фраза: «Смыл кровью вину перед Советской Родиной и восстановлен в звании майора». Іменна, іменна гэтае «восстановлен»! У чалавека, што ні ў польскім войску, ні ў Чырвонай Арміі да вайны не быў нават і радавым. А тут: «майор Исидор Алексеевич Осмоловский»... Гучыць?

Яшчэ адным пераканальным доказам поўнай Сідаравай легальнасці была яго жонка. Бо чалавек нарэшце і ажаніўся. Пад яблыняй у дзядзькавым садочку, на вярблюджай коўдры, з белай падушкай ляжала завітая дамачка ў ярка-стракатым халаце, з кнігай. Сідар нас пазнаёміў. Я даведаўся, што Злата Аркадзьеўна — ваенфельчар, і заўважыў, што яна па-мірнаму цяжарная.

Далейшае адбылося без мяне, я толькі чуў пра гэта ад некалькіх землякоў, і з тых расказаў, дадаўшы іх да Сідаравых, склалася даволі выразная карціна вялікага пераўтварэння нашага Сідара-гоп у маёра, а потым наадварот.

З таго карнага батальёна ён перабег у партызаны, на развітанне як быццам атруціўшы ўколамі некалькі ці нават многа коней. Сідар мог і дадаць сёе-тое, так што ўсяму не надта і верылася. У арміі, куды ён трапіў з партызан, прыйшлося праясняцца ў штрафніках. Пры штурме нейкай вышыні «загінулі ўсе камандзіры», адчайны Сідар (гэта — без іроніі) павёў рэшткі роты ў атаку, вышыня была ўзята, а цяжка паранены Асмалоўскі апынуўся ў шпіталі. Калі ён апрытомнеў і ў яго спыталіся пра былое званне, Сідар доўга не выбіраў.

І найдзіўнейшае ў тым, што ён быў у сваім маёрстве ўпэўнены. Яшчэ мацней, чым старшы унцер Качко ў сваіх сяброўскіх выпіўках з капітанам французскага крэйсера або яфрэйтар Бохан-Калоша ў сваім камандаванні «воздухоплавательной ротой».

Хвароба нейкая ніжнебайдунская, ці што?..

З Усходняй Прусіі «маёр» Асмалоўскі трапіў у Маньчжурыю, пасля разгрому Квантунскай арміі (там Сідар атрымаў другі свой ордэн) блізу год праслужыў у адным далёкаўсходнім гарнізоне, а пасля, на бяду сваю, з бляскам наведаў родную вёску.

Тут яго не было каму і дзе прыняць. Малодшы брат, якога нездарма яшчэ на пашы празвалі Катлом, служыў паліцаем, а потым уцёк на Захад разам са сваімі бановымі панамі, забраўшы з сабою, у беззваротнае бадзянне, маці і сястру. Іхнюю хату, як «бросовое хозяйство», часова занялі пад школу. Сідар з жонкай спыніўся ў дзядзькі. Наслухаўшыся на сваяцкіх частаваннях рознага захаплення наконт яго геройства, ён не вытрымаў (і не з такімі здараецца) выпрабавання славай, паехаў у райцэнтр і з усёй катэгарычнасцю запатрабаваў аддаць яму хату. Легенда кажа, што там ён нават і стукаў і грукаў — кулаком па стале і кульбаю ў падлогу. Маёрства высветлілі. Злата Аркадзьеўна паехала з адпачынку адна.

А выплыў Сідар для мяне, і сапраўды ўваскрос,— ускочыўшы з саду ў акно.

Трэба сказаць, што на ўсе свае віны і заслугі глядзеў ён цяпер... проста дзіва, з якой аб'ектыўнасцю. Першы свой тост за нашым сталом узняў:

— За савецкую, хлопцы, турму! Бо гэта, я вам скажу, не турма, а суцэльная прывілегія. З дурня зрабілі з мяне чалавека. Зноў я нашы кароўкі лячу, зноў нашым людзям дабра хачу, п'ю нашу родную чарку, ем

нашу родную скварку, няхай жыве наша рабоча-сялянская ўлада і — нічога нам болей не нада!..

Ён не вельмі зманіў пра кароў — цяпер не лячыў іх, праўда, але ўжо ад зімы займаўся ў калгасе справай штучнага абсемянення, якое называюць проста «саматыкам», ды так старанна і талкова працаваў, што ў вёсцы пачалі казаць: «Сідар-гоп цяпер за быка».

У рыфму гаварыць ён мог заўсёды і зусім свабодна. Памятаю я гэта яшчэ з далёка-даваеннага часу.

Маці наша смяецца ажно да слёз, а Сідар стаіць перад ёю, як на эстрадзе, у творчым экстазе імправізацыі.

— Мілая мая цётка Катрына,
ёсць у вас і хлявок, і адрына,
і агарод, і садок, і хата.
Толькі памёр ваш нябожчык тата...
Не ваш, канечне, а вашых сыночкаў,
а такжа вашых і дочкаў,
а ваш — любімы мужык,
што з вамі жыць дружна прывык...

Так магло б і плясціся, калі б не траплялiся словы, дзе з ходу не вельмі і зарыфмуеш. Скажам, такое:

Цяпер жывяце вы, цёця, удавою,
над хазяйствам сваім галавою,
і жызня ваша больш ужо не скарбейная,
бо сыночкі вашы павырасталі... Ага!

Няма тае рыфмы да самаробнага слова «скарбейная» — і такое бяды: тут падстаўлялася запасное, дзяжурнае «ага!». Як у той польцы — «Сідар — гоп!..» Гопнуў, брыкнуў і — паэзія.

У гэты свой, яшчэ адзін талент Сідар верыў, як і ў маёрства.

— Антонавіч,— гаварыў ён мне аднойчы, зусім цвярозы.— У цябе ж, браток, машынка пісучая ёсць. Прыеду я да цябе калі-небудзь, сядзем і ўдвух усю жызню апішам сціхамі!..

Задуму гэтую мы з ім, на жаль, не здзейснілі.

А ён быў, думаецца, і сапраўды здольны. У яго была і фантазія, і назіральнасць, і ўменне коратка, дакладна перадаваць другім убачанае. Расказваючы мне пра Маньчжурыю, Сідар так згадваў рыкшу, мімаходзь: «А капялюш, браток, шырэйшы за аглоблі!..» Расказваў ён мне і пра тое, як намагаўся забраць сваю хату,

як тады «трохі памацаў тых бюракратаў». «Гарбуновіч — адразу са страху пад стол, а Марцыян як сігануў у акно, дык раму на шыі вынес на вуліцу і папёр!..» У дачыненні да тых, каго я добра ведаў як паважаных ды салідных, неверагоднае было міжволі смешным, бо і расказанае з мімікай, з жэстамі і з перайманнем галасоў. Не горш за Цімоха Ярмоліча. Быў таксама расказ пра лагернага старшыну, страшэннага заразу, якога Сідар, падаўшыся не ветэрынарам, а «чалавечым фельчарам», лячыў ад гемарою шкіпінарам. Было і яшчэ сёе-тое. Словам — буйства фантазіі і гарачая, непахісная вера ў самога сябе. Пакуль яны, разам з ім, спакваля не атухлі.

З Сідара зрабілі забаўку. Былы наш старшыня калгаса, чалавек недалёкі, спачатку нядрэнны гаспадар, пасля раздзьмуты і ачмурэлы, лічыў Асмалоўскага сваім прыдворным паэтам, і на выпіўках — стацыянарных і выязных — Сідар зарыфмаваўся пры начальстве да поўнай старэчай нікчэмнасці.

А чалавек ён быў, калі глыбей узяць, і недурны, і нядрэнны. Не п'яны або не ў «творчым настроі», ён разважаў і так:

— Не вер, браток Антонавіч, калі каторы стогне. І колюць, і рэжуць, і хаты будуюць пад бляхай. А колькі ў нас маладзёжу вучонага? Каб не Савецкая ўласць, не было б чаго другому і дзяліць паміж сыноў, і дочкам у пасаг даваць. А гэта? Вяселле — тры дні і мора магазіннае гарэлкі, хрысціны — два дні, у армію ідзе — два дні! Няўжо ж такое з гора? Калі пры тым адзінаЛічастве адзін ці два гаспадары жылі ў нас, як яны думаюць, лепш, чым яны сённека жывуць, дык што ж ад гэтага другім, усяму нашаму бальшынству? Што мы з табой, браток, не бачылі тае скарбейнае жызні? Што ты стогнеш другі, як карова, аб'еўшыся роснае канюшыны?..

Пра Сідара я неяк чуў: «Харошы, *просты чалавек*». Яшчэ і тут, на гэтым прыкладзе, я намагаўся пранікнуць у глыбінны сэнс такога азначэння. Тыя, хто так гаварыў пра Сідара, і самі былі людзі простыя, і ён, зрабіўшы захмарны віраж са сваім фантастычным маёрствам, адбыўшы потым сваю «прывілегію», зноў быў шчыра руплівы, вечна з-за недахопу часу непаголены, у недачышчаных кірзачах. І з яго, можна думаць, было б не тое, калі б яго з самага маладу ды ў спрыяльныя ўмовы,— як сёння моладзі: школа, завод, інсты-

тут... А прастата яго — у нечым іншым, не знешнім, глыбейшая якасць.

Толькі ж гарэлка, гарэлка...

Ды ў гэтым ён не першы і не апошні.

## «ВАРОНА ЕЛА ГРАМУЗДУ»

Тут — не адзін які ўспамін, а некалькі вельмі вялікіх, шматфарбных малюнкаў, убачаных праз акно самалёта ў розныя гады і ў розных шыротах, сваіх і замежных. Палі ў шматфарбным летнім росквіце.

Па-польску цераспалосіца называецца «шахаўніцай» — ад шахматнай дошкі. Іменна так было б зручней называць вялізныя квадраты і прастакутнікі нашых палёў, бо палосы ў цераспалосіцы — звычайна падоўжныя і, у большасці, вузкія.

Летась я з групай сяброў-літаратараў быў на Таймыры. Цяпер успомнілася, з якім хваляваннем, пад прыкры трэск у верталёце, глядзелася зверху на тундру. На яе зялёна-бура-шэрую самотную бязмежнасць, на бліскучую процьму малых і меншых азёр-азярынак,— нібы на шкуру казачна вялізнага аленя, зусім не казачна пабітую на сотні дзірачак заеддзю, запалярнымі аваднямі. На наша шчасце, як сказалі лётчыкі, дзень быў на рэдкасць сонечны. Хваляванне ўзмацнялася тым, што напярэдадні мы апускаліся ў адзін з нарыльскіх руднікоў. Трэск верталёта спалучаўся ў памяці з магутным грукатам горнага камбайна. Складана было на душы ад такога «вышынна-глыбіннага» пазнавання гэтай зямлі, незвычайна багатай і сцішна суровай... Назаўтра хваляванне паўтарылася інакш, прасцей. У параўнаўча ціхім пасажырскім лайнеры мы вынырнулі з-за высокіх, рэдкіх аблокаў у сонечнае, спела-жоўтае, сакавіта-зялёнае Падмаскоўе. Кантраст паміж тундрай і панарамна вялізнай «шахаўніцай» культурных палёў адчуўся па-новаму, як штосьці так па-хатняму ласкава, хораша абжытае... Тады і падумалася пра ёмкасць і дакладнасць польскага азначэння цераспалосіцы.

Цераспалосіца, палосы і палоскі... Зверху бачыў я іх у Францыі, у Пакістане, у Канадзе, у іншых краінах. І ўжо не помню, дзе, у якім падарожжы, над чыімі палямі згадаў яшчэ аднаго вясёлага земляка з яго незвычайнай прывычкай.

Дзядзька Тодар Клімовіч, за вочы Грамузда, напасвіўшы ў нядзелю ці ў свята якое каня, дзе-небудзь на поплаве або на мяжы, адводзіў яго на выган па вёсцы, пасля па дарозе, а сам вяртаўся дахаты інакш. Ішоў па полі, упоперак загонаў па жыцце, па аўсе, па бульбе, па канюшыне. Ішоў памалу, адпачываў такім чынам і думаў. Можа, чытаў з гэтых палосак жывую гісторыю роднай вёскі, расслаенне яе на багатых, бяднейшых і бедных, а можа, проста радасць адчуваў — ад чаргавання збажыны і нібы ад палёту. Вось я іду па зямлі — нібы лячу над ёю, без усякай дарогі!.. За гэта яму ніхто ніколі ды нічога не сказаў. Усе суседзі зараз, усёю вёскай не збяруцца дзеля таго, каб асудзіць («чаго ты грузішся па хлебе, га?»), а кожны паасобку — ат, падумаеш! Хіба што пасмяецца хто, адзін другому скажа: «Бачыў, бусел ізноў пасігаў!..»

Грамузда — мянушка з самага маленства. Яшчэ ў той старэнькай школе, што згарэла ў акупацыю, калісьці малы Тодарка павінен быў расказаць настаўніцы байку Крылова «Ворона и лисица». А ён не вывучыў. Калі яму ззаду шапнулі чарговы радок: «На ель ворона взгромоздясь», ён, беларускі хлапчук, паўтарыў яго па-свойму: «Варона ела грамузду». І ад таго пайшло. Мала што смешна, дык яшчэ і незразумела — грамузда, ад чаго і смяшней.

Усе ніжнебайдунскія мянушкі пачыналіся ад смешнага, за кожнай з іх было першае здарэнне.

Злоснага здаравілу Жмаку празывалі яшчэ і Богбачко. У школе, на ўроку «божага закону», поп загадаў малому назваць «лица пресвятыя троицы». Той цягнуў сяк-так на падказцы, і выйшла ў яго, тады бяззуба-шапялявага, так: «Бог-ачэч... бог-шын і... бог-бачко!»

Да нярослага каваля Пучка з самага малку цэлая фраза прыліпла ў якасці мянушкі: «Не хачу хлеба, дай сала». Кавэнчыў, скварку ў маці прасіў, а яна была баба вясёлая, надзела яму торбачку: «Ідзі, сынок, пажабруй, бо ў нас ужо таго сала ані бародавачкі няма». І ён пайшоў. Суседкі смяюцца, хлеба малому даюць, а той шморгае носам з марозу ды: «Не хачу хлеба, дай сала».

Было і «Важнае ліцо». Мітроша Рагач. Хлопец, здаецца, як хлопец, толькі і розніцы ад іншых дзецюкоў, што нярослы ды што ў яго такі добранькі бацька: да самай сынавай жаніцьбы не даваў яму араць ды сеяць.

У хаце ў іх было поўна жанчын — маці, цётка і сёстры,— можна туляцца і ад іншай палявой работы. Мітроша то габлюе што-небудзь у халадочку, а потым, маме на радасць, распішацца на кожнай стружцы тоўстым сталярскім алоўкам, то возьме рыдлёўку, шнур і выпроствае ў полі мяжу. Вярнуўшыся з войска, дзе ён служыў у коннай артылерыі, Мітроша павыгаблёўваў ды павыпісваў шыльдачкі і панавешваў іх у хляве, праве́ўшы казарменны ўлік: «Кабыла Лысая», «Карова Красуля», «Цялуха Манька». Толькі авечак ды свіней не выдзеліў паасобку. Выпісаў з Варшавы, з выдавецтва «Добро», эмігранцкую газетку «Меч», паўгода чытаў у ёй пра італа-абісінскую вайну, а потым перамог-такі свой гонар, спытаўся ў мяне, шмат маладзейшага, сам-насам: «Скажы, пажалуста, а што гэта за гасударства — Мусалін?» Мянушку сваю Мітроша набыў раней, яшчэ да службы ў войску. Ішоў у нядзелю з мястэчка з плёхаўскімі дзяўчатамі. Развітваючыся каля нашай паваротні, яны запрасілі яго на танцы да іх, увечары. І ён згадзіўся: «Харашо. Тока скажыце вашым кавалерам, што да іх прыйдзе важнае ліцо». Гумар такі. А дзяўчаты паверылі. І сказалі. А кавалеры абдумалі, як тут яго сустрэць і правесці. Сустрэлі падкрэслена ветліва, а потым, як сцямнела, выгналі з вёскі не цяжкай зброяй дзецюкоўскіх боек, не штанкетамі ці каменнем, а далікатна — пугамі.

Мянушкамі здавён была пацярушана ўся наша вёска, хапіла на кожную хату па адной, і па дзве, і па тры. Свой фальклор, для саміх сябе і найлепш зразумелы, і найбольш вясёлы. Як і ў кожнай іншай вёсцы, спрадвеку, у нялёгкай мужыцкай долі — па прыказцы: «Не пацешыўся б, дык павесіўся б». І я тут не буду іх больш прыводзіць. Толькі адну з пазнейшых, сучасную, што не стаяла на месцы, а год ад году расла, сталела, разам з тым, каму належала з пялёнак.

Сыночка мама называла «мой анёлачак». Такім ён выбег з хаты на вуліцу. Калі падрос на падлетка — ужо сама вёска, без мамы, пачала называць яго Анёлак. А стаў студэнтам, пасля інжынерам — назаўсёды ўсталявалася саліднае ды «гарадское» — Ангел.

Ах, чорт! Разбалбочашся, дык і спыніцца цяжка. Яшчэ хоць гэта:

«Гоп, Мар'яно, тры дні свят!»

«А можа, яна пойдзе на Плёхава?»

«Коштык, а джэ тое?»

Першае — бядняцкі аптымізм. А пачалося з дзядзькі Гора, які так пацяшаў сваю жонку ў нястачы, нават задоўга да тых свят, якія таксама невядома чым было сустракаць.

Другое пайшло ад бабулі Барбары, старэнькай, глухой і не вельмі відушчай. «Бабо, вайна, кажуць, будзе?» — «Га?» — «Вай-на бу-дзе!!» — «А можа, яна, бог мілы дасць, пойдзе на Плёхава?» Нібы пра дажджавую хмару ў сенакосны прыпар.

А з Коштыкам — пра канспірацыю. Два Самусёвы хлопчыкі ўкралі суседавага пеўня. Сям'я такая, дзеці ад бацькоў вучыліся. Ды яшчэ без належнага спрыту. Увечары да іх, як заўсёды, сабраліся вячоркі. А хлопчыкам карціць праверыць, ці ўсё ў іх шыта-крыта са здабычай. Меншы з печы пытаецца: «Коштык, а джэ тое?» А большы, з лавы, супакоіў: «Мама яго ўзо загэзала...»

Ды вернемся да Грамузды.

Апроч гэтай, галоўнай, мянушкі была ў яго яшчэ адна: «Ён затрубіў». Дзядзька Тодар, як і Цімох Ярмоліч, служыў у царскай кавалерыі і здорава мог пасля, на начлезе, трубіць у кулак. Усе нашы коні ад гэтага гуку ўзрываліся табуном і ўцякалі. І вось аднойчы як быццам і трэба было, каб Грамузда ляжаў трохі воддаль ад іншых начлежнікаў. Затрубіў ён тады асабліва ўдала. Спалоханы табун, як па дамоўленасці, грымануў якраз на трубача і... назаўтра ўранні старэнькая маці, баба Ліска, рабіла яму нацiранне. А потым бабін унучак, вясёлы па бацьку, прыходзіць з вуліцы і кажа:

— Бабо, вы яго не лячэце, ён не хворы, не прастудзіўся, ён затрубіў!

Кавалерыйская натура дзядзькі Тодара сышла з былых гарачых скакуноў на сівага, трыбухатага каня, па старасці шчодра абсыпанага грэчкай. А з гэтым Сівым звязаны дзве навелы, кожная, як і належыцца, з нечаканай канцоўкай.

Царква ў нашым мястэчку прыгожая, стаіць у спрадвеку высокіх ліпах, на высокім, зрэзаным узгорку. У час абедні, я памятаю гэта з маленства, быў момант, калі поп заводзіў: «Создателей і благотворителей святаго храма сего, стоящих здесь и молящихся, да помянет господь бог во царствии своем!..» Тады на левым клірасе, дзе звычайна стаялі найсаліднейшыя прыха-

джане, стары фальварковец Троска важна схіляў сваю сівую галаву ў заслужана сціплым, набожным паклоне. Ён будаваў калісьці гэты святы храм і, гаварылася, купіў у нейкай сувязі з гэтым фальварачак.

Царквы ў Ніжніх Буйдунах не было, стаяла толькі драўляная, самшэлая капліца, з такімі ж старымі іконамі ўсярэдзіне і са званіцай перад дзвярмі. Званіца — слуп са стрэшкай з дранкі і два блёмкалы-званы.

Капліца наша стаіць і сёння. А званіцу нядаўна забраў малады, таленавіты кінарэжысёр, якому яна спадабалася, калі ён з групай праязджаў міма на здымкі яшчэ адной, вельмі патрэбнай, карціны. Ехаў удзень, прасіў аддаць яму званіцу таксама завідна, а калі бабы не згадзіліся, ён, разам з адным прадстаўніком мясцовай улады, вярнуўся на могілкі ноччу. Нашы бабкі ды цёткі ходзяць цяпер у клуб яшчэ пільней. Усё прыглядаюцца на экран, каб пазнаць там сваю прапажу. Я таксама пакуль што не бачыў яе. І жаданне сустрэцца з тым рэжысёрам спакваля прайшло, тым больш што ён — з качэўнікаў і недзе ўжо зноў растварыўся ў мностве іншагародніх талентаў.

Вернемся ў час даваенны, дavailable.

Дзядзька Лукаш Хмялеўскі, інакш Несалёны, не быў «создателем» ніжнебуйдунскага храма, а толькі «благотворителем» яго, царкоўным старастам, як гаварылася. Ды важнасці, набожнасці ў яго было не менш, чым у таго фальваркоўца Троскі. Неяк царкоўны актыў, узняты новым, маладым дыяканам, пайшоў з нашага мястэчка хрэсным ходам у Жыровіцкі манастыр, ажно за сто кіламетраў. Пеўчыя час ад часу спявалі, хто нёс пратэсы, хто падмяняў, а наш Хмялеўскі (для зручнасці гаварылі і Хмель) ішоў наперадзе з вялікім драўляным крыжам. І з рук яго не выпусціў, не даўся падмяніць. А потым, дома, ляжаў цэлы тыдзень з патрэсканай ад сонца лысінай, мажучы яе то смятанай, то несалёным маслам. Капліцу Несалёны адмыкаў не вельмі часта: калі хавалі каго-небудзь і ў тую нядзелю перад жнівом, калі тут бывала сваё, ніжнебайдунскае свята. З паніхідамі каля магіл, з хрэсным ходам па вёсцы і па «сценках» сярод даспяваючай збажыны. Наш царкоўны «благотворитель», добра такі пажылы ўдавец, частаваў потым дома папа, дыякана, дзяка, пеўчых і сяго-таго з мясцовага каплічнага актыву. А мы, падшыванцы, падглядалі праз вокны. Потым у

вёсцы казалі (не змоўчаў хто-небудзь з тых актывістаў), што бацюшка пад канец пачастунку ніяк не мог выгаварыць: «Лука Іралы... Іралы... Іла-ры-во-на-віч...», а больш душэўна захмялелы дзяк, сухашчавы і чарнавусы бас Харкевіч, выбраўшы момант, шаптаў гаспадару з другога боку: «Ну, Хмель, а как же твоя вдовица засирая?..» І падміргваў. Бо гаварылі, што Несалёны заглядвае начамі да салдаткі Жэні. Відаць, няпраўда, бо вельмі ж быў ён салідны, і сам нібы з духоўнага звання.

Грамузда, як чалавек бывалы і трохі пісьменны, разумеў гэтую саліднасць і ставіўся да Хмеля з усёй належнай павагай.

— Здрастуйця вам, Лукаш Ларывонавіч,— павітаўся ён з ім аднойчы каля Пучковай кузні.— Лошадзь каваць прывялі. І я во таксама сваю хачу падкаваць...

Не свайго, а сваю. Тым больш што «лошадь» — жаночага роду.

Трыбухаты, густа абсыпаны грэчкай Сівы чакаў свае чаргі, прывязаны да плота. Драмаў пра запас ці думаў штосьці невясёлае, адвесіўшы губу.

— Дзякуй богу, жарэбная,— гаварыў тым часам Грамузда.— Кажуць, Лукаш Ларывонавіч, што на сёмым месяцы ўжо можна пазнаць, жарэбчык будзе ці жаробачка. Па левай цыццы пазнаюць, яна цяпер цвярдзейшая. Ужо і Сідар-гоп глядзеў, казаў: жаробачка. Дзякуй богу пры нашых дастатках! Чалавек жа валнуецца, каб як найлепш. Ён і мне паказаў, як гэта пазнаваць. Па левай. Мо зірняце?

Зацікаўлены ды налагоджаны пашанай, дзядзька Лукаш падышоў да Сівага і, салідна прыгнуўшыся, цапнуў старога за тое, што не было ніколі левай цыцкай.

— Цьфу, шарлатан! — плюнуў ён, як быццам толькі цяпер уведаўшы, што ў Грамузды, суседа праз пяць хат, «лошадзь»-то «лошадзь», але ж конь.

А тонкі носік дзядзькі Тодара так і тырчэў сабе вастранька, нерухома над светла-русымі вусамі, што злёгку падрыгвалі ад бязгучнага смеху.

Другім разам Сівы так і прайшоў за жарэбную Сіўку. Ужо з начальствам не духоўным, а свецкім. Было гэта на шарварцы, дзе драгамістшам, дарожным майстрам, наглядчыкам стаяў штабс-капітан Вяршынін, белаэмігрант.

Прыбіўся ён у наша мястэчка богведама адкуль, на-

няў хату, ледзь улез туды з мноствам большых і меншых сямейнікаў, а працаваў то драгомістшам, то падатковым секвестратарам, усюды аднолькава злосны. Асабліва ж тады, калі і такой, больш-менш пастаяннай, працы не было і ён аціраўся на пошце, у пакоі для наведвальнікаў, чакаў, каб каму-небудзь што падпісаць, запоўніць, даць параду. Не за так, вядома. На століку былі ў яго свае чарніліца і ручка. Іншых, казённых, у такія дні на стале не было.

Двойчы я сустракаўся з натурай Вяршыніна.

Падлеткам, на шарварцы, калі я не вельмі так, як трэба было ці як хацелася пану драгомістшу, адгладжваў рыдлёўкай адхон глыбокай дарогі. За ўсё жыццё ніхто не брыдзіў мяне так, нават пазней у войску, дзе я быў ужо ўсё-такі дарослы, не ўчарашняе дзіця.

Другая сустрэча са злосцю штабс-капітана адбылася на пошце, гадоў праз пяць пасля той шарваркі. Штосьці мне трэба было паправіць у адрасе, як сказаў з акенца паштар, і я прастадушна ды ветліва звярнуўся да штабс-капітана знарок па-польску: «Можэ, мі пан на хвілечкэ позволі?» І паказаў на ручку на стале, нават і растлумачыўшы, што сваю самапіску забыўся дома. Як ён зірнуў на мяне з-пад капелюша! Лаяцца тут не мог, уся тая чорная, гнойная лаянка была ў яго вачах, губы пад вусікамі скрывіліся ў атрутнай усмешцы, і ён прыцішана прасіпеў:

— Вы что, за дурачка меня принимаете?

Я замахнуўся на ягоны хлеб.

І вось аднойчы, ужо на другой шарварцы, якую той восенню рабілі ў самім мястэчку, пан драмогістш хацеў накінуцца на Грамузду. Што і едзе памалу, і жвіру на возе замала. Так і пачаў. Але былы кавалерыст не збянтэжыўся, як я калісьці.

— А вы напрасна так, ваша высокаблагароддзе,— перапыніў ён Вяршыніна.— Нельзя мне. Лошадзь-то жаробая.

Сказана гэта было з такой сур'ёзнасцю і пашанай, што ў сезонным наглядчыку, без падазронасці на іронію, прачнуўся былы пяхотны афіцэр, які прыкметна разгубіўся:

— Как так — жеребая?

— Да так, абыкнавенна. Вунь Асечка...

— Что еще за осечка?

— Ды Косця Асечка. Яму не пяршынка...

Шарваркоўцы былі ў асноўным з Байдуноў: і пешыя з рыдлёўкамі, і возчыкі. І таму навокал драгоміст-ша, хто бліжэй, пачалі рагатаць. Бо толькі што пасла-ўка пра Асечку пайшла,— як быццам гэта ад яго патаў-сцелі адразу дзве старыя дзеўкі, адна ў Плёхаве, а другая ў Хлюпічах. І трэба ж было на дадатак, каб якраз тады, як Грамузда апраўдваўся, сам наш Косця Асечка, «Дай я гахну», вечны вясёлы кавалер, паказаў-ся з-за павароту местачковай вуліцы. Сядзеў на возе, надзьмута падвязаны хусткай: зубы ехаў лячыць або загаворваць...

А ўсё ж «высокаблагароддзе» ад нашага рогату так і не здагадаўся, што Сіўка — конь, і ён так і ездзіў да вечара з меншай нагрузкай.

## МОЛЬКА

Дзядзька Тодар праславіўся быў яшчэ і Арэсевай сучкай.

Арэсь (так Алесь Макарэц выгаворваў сваё імя) прызываўся яшчэ і Вінтоўкай: не гнулася адна нага. Высокі, сутулавата-здаравенны, нейкі не тое што дурны, як гаварылі некаторыя, а такі сабе прастарэка, нядоля. Нікуды ён ніколі не спяшаўся. І сам расказваў, як быў аднойчы ў гасцях у сястры, што замужам у Хлюпічах, як яна частавала яго аладкамі.

— Адну спякра — градзу я, другую, трэцюю, цац-вёртую — градзу я. Цуес? А ўзо як восьмую спякра — узяў Арэсь ды ў момант цасу з'еў!

Ну, а аладкі ў тых далёкіх Хлюпічах, таксама казаў ён, пякліся адна на ўсю скавараду, і пухкія, «на доб-рым падыходзе».

Або насоўваецца, скажам, хмара навальнічная, дзядзьку Арэсю трэба на гвалт спяшацца па ячмень, які і не звязаны, у жменях ляжыць. Жонка з дачкой пабег-лі вязаць, а ён скрыляе на сваёй «вінтоўцы» цераз усю вёску, а потым — глядзі! — спыніўся каля лужка, дзе людзі, дзве-тры сям'і, завіхаюцца перад дажджом, гра-буць і копяць сухое.

— Памагай бог! — гукае дзядзька Арэсь. І, у доказ яшчэ большай прыязнасці, хоча суседзям штосьці піль-нае расказаць. Пачынае ён, як звычайна, пытаннем: — Цуес?

— Ты вось, Алеська, не «чуеш», а ішоў бы па таго каня, калі ідзеш,— скажа якая-небудзь суседка, якой і не да слухання, і не да смеху з чалавека.

— А я ў момант часу,— адказвае ён.

Не хочаце слухаць — таквеля тое бяды, паскрыляў сабе далей. А потым, калі ўжо тыя суседзі, скапіўшы сена, не паспелі ўцячы ў вёску і суха-весела сядзяць пад копамі, а дождж з грымотамі цабаніць, як з вядра,— дзядзька Арэсь памалу едзе сабе, адставіўшы «вінтоўку», верхам на непатрэбным дома коніку, і анікуды яму, прастарэку, не рупіць. Лепей жа ехаць, чым ісці.

І такое яшчэ. Захацелася смажанай бульбы. А жонкі і дачкі няма: пайшлі кудысьці, нядзеля. Што ж, ён падсмажыць і сам. Паласуецца па-святочнаму. У яго была мерка багацця свая, пра Грамузду ён казаў: «О, бедны, бедны, а ўранку я зайсоў, дык яны снедаюць. Картопра скрэбеная, цай. У будні дзень. Цуес?» Агонь з печы дзядзька Арэсь высунуў у самыя чалеснікі, ледзь не на прыпек,— глядзі, што вось-вось загарыцца ў коміне сажа. Вядома ж, які гаспадар,— калі ён той комін чысціў.

У хаце некалькі чалавек суседзяў. Найбліжэйшы сусед, якому разам будзе і гарэць, Цівунчыкаў Жмака сядзіць перад агнём, на лаве, і, па сваім звычаі, старанна абгрызаючы пазногці, маўчыць. Потым Жмака памалу ўстаў, спакойна ўзяў з лавы вядро з вадою і, таксама спакойна, пляснуў у печ. І бульба скрэбеная туды, і апаноўка з трыножкаю следам. Жмака спакойна паставіў на лаву вядро, памалу сеў амаль каля яго і — зноў свае пазногці ў зубы.

— І ты думаес, сто ўзо вермі разумны? — не менш спакойна спытаўся дзядзька Арэсь.— Бог-бацко быў, бог-бацко і будзес. А я сабе ў момант часу картопры зноў наскрабу.

У здаравеннага дзядзькі была маленькая сучка. «Да ноцы добрая»,— хваліў яе гаспадар, хоць і ахоўваць не было асабліва чаго, і страх з тае Молькі быў невялікі. Нават, здаецца, не гаўкала, толькі круцілася пад нагамі. Былі такія моманты, калі Арэсь сваю пярэсценькую браў, нібы кошку, за пазуху, пад рыжую суконную сярмягу, хаваючы ад небяспекі. Скажам, калі ён скрыляў па мястэчку і пабойваўся паліцыянта, што возьме ды аштрафуе: які ні пёс, а ўсё ж не навязаны.

Аднойчы ў мястэчку зайшлі да Гірша Грамузда і Арэсь, а там ужо, чакаючы гаспадара, сядзелі дзядзька Яўхім Заяц і я. Ён, як заўсёды, маўчаў, а я, вучань шостага класа, не асмельваўся загаворваць.

Гірш-Эля Кумагерчык быў шавец. Халодны. Шыць новае неслі да Вэльвула, а Гірш толькі лапіў ды падбіваў. Ён быў яшчэ, па сумяшчальніцтву, і шамэс, служка пры сінагозе, якую называлі «школай». У пятніцу на змярканні няраслы і мітуслівы Гірш бегаў па местачковай плошчы, ад дома да дома сваіх аднаверцаў, і ледзь не па-пажарніцку крычаў пад вокнамі:

— Цайт ліхт бэнтшн! Ін шул арайн!

Першы заклік адносіўся да жанчын і азначаў, што прыйшла пара запальваць шабасовыя свечкі і пачынаць над імі благаславёную малітву. Другі заклік — нібы каманда мужчынам: «у школу!»

Быў яшчэ Гірш і пажарнікам, і не простым, а камандзірам тапорнікаў. У тую зіму, калі гарэлі Хлюпічы і з усіх вёсак кінуліся туды добраахвотныя пажарныя каманды, дзе яны былі, галоўная каманда, местачковая, так ляцела, што аж згубіла ці забылася свайго найгарачэйшага — Гірш-Элю. Ён пабег наўздагон, вытрымцеў дзевяць кіламетраў і паспеў яшчэ да сваіх тапорнікаў на асмалкі, за што і атрымаў пасля медаль.

Дабрадушны, крыклівы Гірш-Эля. Боты мае ў той час, у школьныя гады, прашморгваліся найчасцей на халявах, а сярэдзіны, дзе костачкі. І майстар, трымаючы такі бот, ужо знаёмы яму, круціў галавой, заўсёды пад кепкай:

— Уй, Іванко, Іванко! Табе сабакі рвуць, ці што? Біў латке — зноў латке!..

А я не толькі маўчаў, але і пабойваўся, што ён нарэшце возьме ды спытаецца: «Ну, а чаму гэто і ты крычаў і шпрынген па школе?» Іхняя «школа», старая, драўляная сінагога, стаяла недалёка ад нашай сямігодкі, і нядаўна мы на вялікім перапынку заўважылі, што Кумагерчык кудысьці пайшоў, а «школа» не зачынена. Нашы агледзіны яе знутры былі гэтым разам такія вясёлыя, што бедны шамэс, дабегшы туды, не толькі загалёкаў на ўвесь свет, не толькі гнаўся за намі з мятлою, але знайшоў і нашага «кероўніка» (дырэктара) у настаўніцкай і доўга крычаў яму, як мы там, у святой сінагозе, шпрынген — скакалі па сходах і лаўках.

Старэйшы Гіршаў сын быў «падрабінкам», вучыў-

ся ў Міры на рабіна, і пра яго казалі: «О, гэто кэпэлэ!» Гэтую «кэпэлэ», вучоную галаву пад чорнай ярмолкай ды з пейсамі, я бачыў раз ці два, калі той «падрабінак», госцячы дома, праходзіў з двара ў сваю баковачку або выходзіў з яе на двор. Малодшы сын, ужо не безымянны для мяне, а Гіршаў Бэрка, вучыўся на краўца. Спрытны, вясёлы, тарыскі юнак, цяпер ён успамінаецца мне часамі перад тэлевізарам, калі на экране ўсміхаецца і не вельмі развязна шчабеча адзін маладзенькі канцэртны канферансье. Бэрку я бачыў часцей не дома ў іх, а ў Нохіма, дзе ён вучыўся, бо я заходзіў туды з Нохімавым Тэпсікам, з якім мы сябравалі.

Дык, значыцца, дзядзька Яўхім і я моўчкі сядзелі і чакалі Гірша, а потым зайшлі Грамузда і Арэсь, і мы ўжо чакалі гаворачы, а тады гаспадар нарэшце прыйшоў.

Ён, як заўсёды, уварваўся з сенцаў мітусліва, а разам з ім — непрыкметна, з-пад ног — прашмыгнула штосьці ні то кашэчае, ні то сабачае. Пакуль хто паспеў здагадацца, што гэта Молька, якую дзядзька Арэсь культурна пакінуў у сенцах, Грамузда ўсхапіўся з месца, ускочыў на зэдлік і дзіка закрычаў:

— Кручаны! Ратуйся!

На гэты покліч у Гірш-Элю прачнуўся былы салдат і сучасны тапорнік,— ён кінуўся ў качарэжнік, паспеўшы крыкнуць жонцы:

— Ентэ, хавайся! Мах ды тыр цу!

Квела ссутуленая Ента і цяпер, як амаль заўсёды, стаяла каля прачыненых дзвярэй бакоўкі. Яна і шуснула туды, зрабіўшы «мах ды тыр цу» — зашчапіўшы за сабою фанерныя дзверцы.

Дзядзька Яўхім, Арэсь і я — як сядзелі, так і не паспелі ўстаць.

— З гаршка вунь хлебча! — крычаў з-пад самай столі Грамузда.— Бі, Гірш, чаго ты глядзіш!

Каля прыпека стаялі два чыгункі-стаўбуны, адзін з вадою, а другі са скрэбенай бульбай. Гірш замахнуўся гаршчэшнікам угару, стукнуў па столі і тропнуў па чыгунку. Стаўбун паваліўся, пакацілася бульба, і палілася вада.

— Пена, пена на мызе! — крычаў Грамузда.— Кручаная, Гірш!

Гаршчэшнік — зноў да столі і — па сучцы. Пералёт! яшчэ раз — міма!

Ды тут ужо апрытомнеў Арэсь. Яшчэ не ўстаўшы з лавы, ён перагнуўся ў бок ад свае «вінтоўкі», спрытна, як для яго, схапіў сваю Мольку, як кошку, цяжкаю лапай пад жывот, і тая, нават не кеўкнуўшы, апынулася ў яго пад сярмягай, за пазухай. Зноў жа, з неверагоднай для яго рухавасцю, Вінтоўка сігануў міма разгубленага, з узнятай зброяй, Гірша ў сенцы і — на двор.

— Гірш, не ідзі за ім! — крычаў Грамузда.— Ён яе сам прыдушыць, яму да гэтага не прывыкаць!

Тады ўжо скокнуў з зэдліка на падлогу.

— Ну, дзякуй богу,— сказаў прысеўшы.— Усё абышлося добра. Нават стаўбуна не раскалоў. Пяхота, браце Гірш, усё-такі пяхота! Другі ўмлеў бы са страху, а ты... Вунь на Зайца зірні — яшчэ ніяк не адыдзе.

Дзядзька Яўхім і тут маўчаў. Толькі што галавой крутануў ды ўсміхнуўся.

Нават і я стрымаўся, не захіхікаў хоць цяпер.

А Гірш тым часам трохі адсопся, паставіў зброю ў кут, падперазаў фартух, сеў на сваё шавецкае месца і загадаў у бакоўку:

— Ентэ, мах а парадак!

Яна паслухмяна і ціха, відаць, яшчэ ўсё спалохана, выйшла і пачала прыбіраць каля печы.

— Пяхотэ,— сказаў Гірш-Эля.— А думаеш ты, Грамузда, ваяваў? На сваім кабыле, у сваім кавалерыя? Ваш, рускі ваяваў? Ваш толькі ваймяцасына і ляжыць! Фарфалн міт ды ганцэ пастройкес![1] А я? — Тут у ім канчаткова прачнуўся былы імператарскі пехацінец: ён усхапіўся і загадаў: — Ентэ, гіб а гаршчэшнік!

Ссутуленая ціхоня адагнулася з анучай ад падлогі, ступіла да качарэжніка, узяла той гаршчэшнік і, як свяцільнік, рожкамі ўгару, паднесла яго мужу, а сама прыпынілася каля дзверцаў бакоўкі.

Гірш, не зняўшы зрэбнага, зашмуленага фартуха, ужо камандаваў сам сабе:

— К ноге! Наперавес! К атаке — гатоўсь! Упярод! Ур-ра!..

Дабег да парога і, грозна патыкаўшы рожкамі гаршчэшніка ў вушак, сам паставіў яго на месца. Вярнуўся да зэдліка, сеў і, трохі задыханы, заключыў:

— Во так я ваяваў.

А мне ўявілася, раптам і ярка, як там недзе скрыляе

---

[1] Прапаў з усімі будынкамі! *(яўрэйск.)*

па бруку перапалоханы дзядзька Арэсь і, з сучкай за пазухай, азіраецца, усё яшчэ ўцякае ад магчымай пагоні. І я не вытрымаў, засмяяўся.

Аднак гэта справы не сапсавала: чаго вы хочаце ад хлапчука? Дзядзькі пачалі пра шавецкае, у каго што было да халоднага майстра. А я магу і пачакаць.

...Лягчэй было б так і закончыць гэты ўспамін. Ды мне здаецца, што тут паставіць кропку я не маю права.

Усё, што ўспамінаецца з жыцця яўрэйскага насельніцтва нашага мястэчка, і вясёлае, і не, і ўсе вобразы людзей, менш блізкіх і бліжэйшых мне,— усё абрываецца той небывала, неверагодна жахлівай трагедыяй, якую і ў наш зялёна-сонечны прыпушчанскі куток прынесла фашысцкая акупацыя.

І другое. Пра Грамузду.

У ліпені сорак чацвёртага, калі прыйшло вызваленне, дзядзька Тодар быў у Ніжніх Байдунах старастам. Стаў вінаватым без віны. Ніхто тады, пры гітлераўцах, не хацеў у нас гэтай сабачай пасады, і таму вырашылі адбываць абавязак кожная хата па тыдню. Так і ішло сабе, пакуль чорт не прыгнаў павятовага бургамістра. Прыехаў ён, казалі, не адзін, з паліцаямі, пад аховай, і загадаў, каб мясцовая ўлада была пастаянная. Хто цяпер староста? Тодар Клімовіч? Няхай і будзе ён. Так Грамузда і дастаршыняваў у нас апошні месяц акупацыі.

Неяк пад восень ён зайшоў да нас, у рэдакцыю раённай газеты, і, папрасіўшы мяне на двор, пачаў:

— Антонавіч, можа, што памаглі б? Усё цягаюць мяне... Трэці раз. Што ж я каму зрабіў?..

Ніколі яшчэ я не бачыў яго такім горкім. Ён гаварыў мне «вы», «Антонавіч» — упершыню ў жыцці. Зусім пажылы чалавек, два сыны якога былі на фронце, весялун, якога мой бацька калісьці з прыязнасцю старэйшага называў у гутарцы «галубчык Федзя» — добры, сумленны чалавек, ён не ўсміхаўся нават, хоць бы і сумна.

На вострым носіку, над паніклымі светлымі вусамі сабралася сляза...

Я ўжо раней заходзіў туды, дзе могуць памагчы. Я зноў пайшоў, зноў гаварыў пра тое, што было зусім ясна для нас, мясцовых партызан.

Больш мы не сустракаліся... Трыццаць гадоў мінула. Ніхто не скажа, што я — раённы літработнік, рада-

вы партызан — мог тады зрабіць больш, чым я зрабіў, каб папярэдзіць яшчэ адну памылку. Ніхто не скажа, і сам я не скажу. Але, як гаварыў адзін з любімых, і тут застаецца яно: «но всё же, всё же, всё же...».

Усё ж лягчэй, прасцей было б успамінаць, каб і не гэтая адна праклятая сляза...

## ЧЫРКУН І КУРАЎКА

Здаецца, люты трыццаць чацвёртага.

Глухая, белая, марозная зіма. Вёска заціснута ў цішыню, адарвана ад свету, ізалявана — як востраў які сярод белага, непарушнага акіяна.

І раптам — такая падзея! У Ніжнія Байдуны ўехалі поўныя сані-развалы музыкаў. Гармонік, скрыпка, бубен і кларнет. Уехалі ў вёску як немаведама адкуль, разбудзілі яе сярод белага, соннага адвячорка. Грымнулі, рэзнулі, жарнулі — як хочаш гавары, а да таго ж яшчэ — закукурыкалі.

Кукурыкаў адзін кларнет. У гэтым і была найбольшая незвычайнасць падзеі, бо музыка, урэшце, як музыка, полька як полька, а кларнецiст, што кленчыў у развалах на саломе, ускіне раптам сваю чорную дуду і самым сапраўдным чынам, толькі пісклява, закукурыкае. Нібы ад радасці якой, не могучы знайсці ёй іншага выхаду.

Дзень быў будзённы, і танцы наладзілі не дарослыя, а мы, падлеткі. У малой і сцюдзёнай, з тоўста замёрзлымі вокнамі хаце старога Ляпножкі. Якія там танцы — вучэбная таўкатня, нават ніхто не распранаецца, каб не калець у перапынках паміж полькамі, вальсамі, «кадрэлем».

І вось яно, тое пісклявае «кукурыку», адно за адным, спачатку пацешнае, потым, у хаце, да нудоты аднастайнае, успамінаецца цяпер яшчэ сумней, знакам таго, як яно бедна пачыналася, наша юнацтва, як нялюдска звязана было яно тым часам і тым ладам...

Уранні, падмацаваныя нашымі медзякамі, бадзягі адбылі ў той белы свет, адкуль прыехалі, ужо без «кукурыку», берагучы яго для наступнага вострава ў белай сумоце. І сёння не памятаю, і тады, здаецца, мы не ведалі, хто яны былі, тыя музыкі са сваёй фурманкай, адкуль прыехалі і куды падаліся. Гэтая загадкавасць толькі ўзмацняе ўсмешлівую горыч успаміну.

Цяпер у нашай вёсцы клуб. Не лепшы і не горшы, як у іншых вёсках наваколля. Ужо і пастарэў за дваццаць пяць гадоў, хоць з цэглы ды пад шыферам, атынкаваны. У клубе часта бывае кіно, сяды-тады наладжваюцца спектаклі, выступае свая і прыезджая самадзейнасць, а найчасцей, вядома, танцы. Тым больш што ёсць свой баяніст і свой скрыпач. Ды не абы-якія.

Скрыпач Петрык прыйшоў да нас у прымы з Плёхава, усе яго ў Ніжніх Байдунах ведаюць даўно, і ў нас ён хутка стаў яшчэ больш сваім, чым тады, калі толькі прыходзіў са скрыпкай ці так сабе. Музыка з тых, што апантаныя гэтым з пялёнак і нястомныя да самай дамавіны. А да таго ж яшчэ Петрык прынёс з вайны, у якасці трафея, не кавадла, як Цімох Ярмоліч, а скрыпку, якую называе «страдыварус». Слова, што прагучала ў Плёхаве і ў нас упершыню, дзякуючы Петрыку, які цяпер ужо нібы не са сваёй гвардзейскай танкавай, ордэна Кутузава, слова тое прынёс, а нават і свіней з ім пасвіў. «Мой страдыварус»,— гэта гучыць у яго зусім упэўнена і прывычна. Не бянтэжыць і тое, што Петрыка амаль адразу ж і празвалі Страдыварусам.

Баяніст наш таксама прышлы. Гэты ўжо — бог ведае адкуль. Цыган Рома, які прыбіўся да хутарскоe Зіны, дачкі Крыстыны Роўбіхі, калі ўжо сама Крыстына памерла, а Зіна, наймалодшая ў яе, засталася на хутарку адна. Быстры хлапчына, чорны і кучаравы, як належыцца, а вочы, карыя і вялікія, не хітрыя зусім.

Бедны Рома! Так і карціць мне забегчы наперад, каб сказаць, як усе шкадавалі яго, калі ён так недарэчы, так непатрэбна загінуў, засыпаны ў толькі што выкапанай студні. Капаў ён, людзі казалі, выдатна. Некалькі студняў выкапаў на новым пасёлку, дзе будуюцца, жэнячыся, маладыя ніжнебайдунцы і куды сцягнулі некалькі нашых хутароў, у тым ліку і Ромаў. Ён вылез з ужо гатовай студні, а потым («такі заядлы!») апусціўся яшчэ раз, каб штосьці папраўляць, ды ўжо і самога адтуль не адразу змаглі дастаць. Я пачуў пра гэта пазней. І быстры, шчыры, вясёлы хлапчына ўспамінаецца, хочаш не хочаш, праз агульны жаль па ім...

Калі наш Страдыварус іграў з душой і ў сорак пяць гулліва і нястомна па-юнацку, дык Рома, здаецца, яшчэ весялей. Усё пачутае і там, адкуль ён прыйшоў, і ў нашым ужо наваколлі, і ў свеце вялікім — па радыё, па

тэлебачанні, з юнацкіх магнітафонаў і прайгравальнікаў, цыган, нібы вясняны шпак, лёгка ператвараў у сваё папуры, радасна новае, свежае нечаканасцю, сваё і для танцаў, і проста так, для слухання, калі вясёлага, а калі і з сардэчнай журбою. І ўсё гэта ён аддаваў з усмешкаю, у якой таксама спалучалася многа чаго: і дабрата, і гарэзлівасць, і сціпласць, і гордасці трохі, а больш за ўсё харошай чалавечай прастаты.

З гэтай усмешкай ён і жыве і хай жыве ў маёй і многіх іншых памяці, у радасным, вясняным шматгалоссі музыкі, Петрыкавай і яго.

Я ўжо казаў, што маладых у сваёй вёсцы пазнаю цяпер у большасці па бацьках: хто на маму сваю падобны, хто на тату. А то дык і спытацца трэба, чый гэта хлопец або чыя дзяўчына. Маіх аднагодкаў і старэйшых мужчын засталося ўжо няшмат. А хто жывы і ў клуб заходзіць, з тым добра ўспомніць былое. Нават не толькі з ім, але і пры ім, седзячы моўчкі, толькі ўсміхнуўшыся ці падміргнуўшы.

Калі маё пакаленне пачынала сваю маладосць, моднай была полька-цыганачка. Не трасуха, а, як казалі, «шырокім сцягам», «галоп». У нас — завіруха, а мужчыны навокал стаяць ды, як толькі танец аціхне, крычаць, як блазнота: «Хлопцы, нанава! Нанава!..»

Цяпер у модзе танцы іншыя, як бабы кажуць, гарадскія, бо і моладзь, калі паз'язджаецца ўлетку ці на святы, у большасці гарадская.

На крэслах, спалучаных радамі і парасстаўляных каля сцен, апроч тае, дзе сцэна, сядзяць у якасці прыязнай і зайздрослівай публікі больш і менш пажылыя жанчыны і некалькі мужчын.

З колішніх смехуноў сёння тут толькі Васіль Кураўка і Уладзік Чыркун, інвалід з кавялою, той, што спяваў каля плота. Маўчым і прыглядаемся да танцаў.

Плёхаўскі кавалерчык. Цыбаты, з малою галоўкай, зверху да пояса рухавы, як кенгуру, а ногі значна цяжэйшыя, сяды-тады як анямелыя. «Бугі-вугі» яго бесталкова нервовыя, нібы знарок для кепікаў збоку. Куды там Сідар-гоп з яго падскокамі — тут дрыганне і крыўлянне свядомае. І валасаты, і з бародкай нейкаю. А важнасці — і не кажыце, пацеха! Калі чаго не хапае яшчэ, дык толькі гумавай жвайкі.

Як толькі танец закончыўся, Кураўка раптам устаў, падышоў да цыбатага юнака, ветліва папрасіў яго па-

дысці з ім да Чыркуна і, паказаўшы на Уладзіка, зусім сур'ёзна сказаў:

— Таварыш хоча з вамі пагаварыць.

Я затаіўся ў вясёлым чаканні. Яны ж, Кураўка і Чыркун, сядзелі абапал мяне і ні ў чым не змаўляліся — будзе чыстая імправізацыя.

— В меня вам тока адзін вапрос,— пачаў Уладзік, таксама, як і Кураўка, вельмі спаважна, нібы беручы гістарычнае інтэрв'ю.— Скажыце, пажалуста, гэта не вы на тым тыдні прывозілі з Хлюпіч прадаваць цабры і ражачкі? Хадзяін такі самы пажылы, як вы, [redacted] бародкаю. І кабыла пярэстая, як у адэскай пажарнай камандзе. Пры старым, канечне, рэжыме. Васіль Пятровіч, бойкі на возе, здаецца, таксама былі?

— Былі, Уладзімір Цупронавіч,— зусім сур'ёзна адказаў Кураўка.

Юнак стаяў разгублены.

— Вы панімаеце, што такое па-дзеравенскі бойка? — разварушваў яго Чыркун.— Такая храновіна [redacted] сасновых клёпак, у якой б'юць масла.

Юнак яшчэ ўсё маўчаў. Дзе там у чорта тыя Хлюпічы і што там за цабры ды ражачкі і бойкі?.. А навокал сабралася моладзь. Свае, заўсёды спадзеючыся па гэтых дзядзьках чагосьці вясёлага, а прышлыя ды прыезджыя — у недаўменні, як і той плёхаўскі кенгуру.

Момант гэтай напружанасці Чыркун запоўніў «замежнаю мовай». Гэта адна з дзвюх яго спецыяльнасцей: Уладзік мог вельмі добра імітаваць нямка і «гаварыць па-інастраннаму». Балбатаць чортведама што, ні крышку не збіваючыся, не трацячы важнасці тону. І цяпер ён пачаў плесці нешта, вельмі падобнае на чыюсьці мову. Звяртаўся то да Кураўкі, то да таго танцорчыка, то да ўсіх астатніх. Кураўка толькі ківаў галавою і час ад часу мармытаў сваё, ніжнебайдунскае «ага» або «яволь» і «йес», прынесеныя з міжнародных сустрэч на вуліцах разбітага Берліна і над Эльбай. Нарэшце Чыркун закончыў свой маналог нейкім складаным, доўгім выкрунтасам і сказаў Кураўку больш празрыстае «данкішэн». А той перадаў асноўны змест усяго сказанага кароткім паведамленнем таму, яшчэ ўсё збянтэжанаму, юнаку:

— Ён гаворыць,— ківок на Чыркуна,— што вы можаце быць свабодны.

Калі дагэтуль у гурце моладзі, што акружыла нас,

чуўся то нечы абрывісты смяшок, то стрыманая рэпліка, дык цяпер проста выбухнуў рогат. Смяяўся, здаецца, і сам той хлопец.

А потым у шум уступілі баян і «страдыварус», і ўсё аціхла ў новым танцы.

Чыркун ваяваў яшчэ і ў першую сусветную, а потым і ў грамадзянскую. Знакам даверу, ён мне аднойчы пры панах паказваў «краснаармейскую афішку» пад загалоўкам «Слезное моление вши» — дасціпны сатырычны верш, зброя ў змаганні за салдацкую гігіену. І расказаў тады, як у «свабоду», пасля Лютаўскай рэвалюцыі, іх, акопнае брацтва на часовым перадыху, вадзілі разоў некалькі ў тэатр. А ў некаторых хлопцаў было назапашана па «аптэчнай» бутэльцы вошай, уласнага ўраджаю і пазычаных. І ў тэатры яны, тыя хлопцы, як толькі гасла святло, церушылі з бутэлечак на далонь і ціха, асцярожна сеялі на футравыя каўняры і боа новага начальства, што з жонкамі сядзела спераду.

Уладзік не казаў, але і так не цяжка было здагадацца, што пачынальнікам з тымі бутэлечкамі быў хутчэй за ўсё ён.

Дарэчы, жулікаватасць перадалася і сыну яго, наймалодшаму, таму Анёлачку-Анёлку-Ангелу, які на другім пасляваенным годзе яшчэ толькі канчаў у мястэчку школу. Вучыўся Анёлак не вельмі, найбольш ад ляноты. І вось на ўсяночную перад вялікаднем, калі на плошчы перад царквой колішнім ладам сядзелі на вазах ды пры вазах і паміналі калекі-старцы, малады Чыркунок, разам з сябрамі-дзесяцікласнікамі, заказаў старцам памінанне. За плату, вядома. Па жывых-здаровых настаўніках, матэматыку і фізіку, найбольш «любімых». І дзед з бабаю памянулі.

Бачыўшы, чуўшы ўсяночнае памінанне многа разоў, няцяжка ўявіць і Анёлкава. На возе — зрэбная буда, нацягнутая на арэхавыя каблукі. Каняжына хрупае сена не з перадка, як звычайна, не ў аглоблях стоячы, а прывязаная за возам. Паміж задзёртымі аглоблямі, на ахапку саломы, сядзіць бязногі ці бязрукі дзед. Сляпая бабуля — на возе, у чалесніках буды. З бабінага слязлівага раешніка возьмем толькі пачатак, а можа, і з сярэдзіны, словам, тое, што мне запомнілася з маленства.

За галоснымі званамі
ды за яснымі свяцамі,

за бажэсцвеннымі службамі...
Знаеш, ведаеш, як то
бог кожную душачку хрысціянскую,
па імені назваўшы...

Тут уклінялася канкрэтнае — заказ дзесяцікласнікаў:

Івану Максімавічу і Аляксею Іванавічу,
душэўным настаўнічкам нашым
царства нябеснае!..

А дзед у аглоблях уторыць, як чмель:

Божа, ўспомні душачкі змарлыя,
божа, ўспомні...

Нямком старэйшы Чыркун прыкідваўся, вядома, не сярод сваіх. Часамі гэта выручала ніжнебайдунцаў, а то дык бывала і дрэнна...

Па дровы нашы ездзілі пры панах далёка, бо лес бліжэйшы быў малады, казённы і не прадаваўся. А торфу тады капалі мала. У тую зіму, якую згадваю, было вельмі многа снегу. Звернеш трохі з наезджанай дарогі, і конь правальваецца, і сані тыя з дровамі — як выцягнуць, і гуртам папіхаючы. І вось на Галым балоце, у пушчы, сустрэліся два абозы з дровамі, наш і, здаецца, хлюпіцкі. Сутыкнуліся першымі коньмі, храпа ў храпу, і стаяць — кожны вазак сам сабе хітры, ніхто не хоча скрануцца ў аб'езд.

У нашых першы ехаў Кураўка. Тут да яго, саней за трое, падышоў Чыркун і, як нямко, прычапіўся сварыцца. Не да таго чужога, сустрэчнага, а да свайго. Адзін мармыча штосьці, нема паенквае, размахвае рукамі, а другі крычыць. І скачуць ужо загрудкі. Кураўка так раз'ярыўся, што давай распрагаць кабылу. Працей было б сякеру з воза ўзяць, а ён распрог, схапіў дугу за канец і, трасучы ёю над галавой «нямка», крычаў усякую несусвеціцу. Доўга дурыліся. Нашы ўсе ад вазоў сабраліся, і тыя ад сваіх. Нашы, вядома, ніхто не смяяўся. Хлюпічане спачатку глядзелі, слухалі, а потым плюнулі і пачалі аб'язджаць, грузнучы ў снезе і лаючы нашых. Кураўка тады запрог, закурылі, рагочучы, і паехалі.

Абозамі ездзілі не толькі ў пушчу. З мястэчка на бліжэйшую чыгуначную станцыю, за дваццаць сем кіламетраў, вазілі збожжа з купецкіх «шпікняроў» (вялізных свірнаў), ад Бейліна і Бісінкевіча. Заработак

быў не лішне вялікі, аднак і лепшых не было. Ездзілі людзі беднейшыя, і нашы, і плёхаўскія, і з іншых вёсак. Разоў некалькі ездзіў і я, калі Андрэй служыў у войску, а мы з сястрою Надзяй гаспадарылі.

Мікіта Турак у гэтыя асенне-зімовыя заработкі ганяў сваіх двух сыноў. На двух вазах, на добрых конях. Чалавек ён быў працавіты і прагны — да прыдуру. Сечкі тым коням трэба многа, дык ён начамі грыз яе старой касою, скоскам. Сам такую сячкарню прыдумаў: як церніца, ці што, толькі не лён яна трэ, а рэжа салому. Потым, казалі, сячкарня тая прыснілася яму ў «смяртэльнай» кашулі, белай і доўгай, і добра такі напалохала: «Зарэжу к чорту самога! Замучыў ты мяне! Купляй фабрычную!» Тады ўжо Турак купіў ручную сячкарню, якую хлопцы яго, што якраз падняліся на памочнікаў, круцілі на змену. Здаравенныя грукачы, паслухмяныя.

Здаўшы на станцыі збожжа, абознікі заходзілі ў чайную. Са сваімі торбамі, але перакусіць у цяпле, узяць шклянку чаю, а то і абаранак ці селядца. Толькі Туркавым хлопцам бацька такога рэспусту не дазваляў. На холадзе яны, вядома, не сядзелі, аднак елі толькі сваё, усухамятку ці запіваючы халодным малаком з бутэлек.

Раней, пакуль я сам не паехаў, Кураўка мяне пераконваў, што Туркі ішлі са сваёю торбай не ў чайную з усімі, а да помпы на плошчы, адзін пампаваў ваду, а другі запіваў ёю хлеб, а потым, на змену, другі.

І вось аднойчы, калі мы сядзелі ў чайной і сёрбалі гарачы чай, туды зайшлі два нейкія панкі. З дробных ужэнднічкаў, відаць, або якія перакупшчыкі. Трохі пад мухай, а больш з фанабэрыяй. Падышлі да буфета, папрасілі яшчэ па адной.

Чыркун устаў з-за століка і падышоў да іх. Нямком. Жэстамі і мімікай папрасіў закурыць. Пачаставалі яго папяроскай. І запальнічкай пстрыкнулі пад нос. Ён стаў ім дзякаваць, мармычучы, размахваючы свабоднай рукой і штосьці нема ўскрыкваючы ад захаплення.

Тут я не вытрымаў, засмяяўся.

— Ты цо се смееш? — павярнуўся да мяне адзін з панкоў.— Он ест калека, ему так пан буг дал. Ты цо се смееш?

Ён падышоў. А я... спалохаўся, ці што. Хутчэй збянтэжыўся. Бо што ж рабіць, калі палезе біцца?..

Я не паспеў нічога вырашыць, бо тут паміж намі ўшчаміўся Кураўка.

— Пане,— сказаў ён вельмі перапалохана,— вы яго лепш не чапайце. Не глядзіце, што ён такі маладжавы. Ён двухжыльны. Падковы гне. Восі ломіць. Любога каня паднімае навыцяжку. А як разыдзецца — не дай бог бачыць! Што я вам, пане, скажу...

Ён нагнуўся да панскага вуха і штосьці зашаптаў. Пасля кіўнуў у мой бок галавою і зноў зашаптаў.

Панок паглядзеў на мяне. Спадылба, таямніча. Нічога не сказаў. Кураўку ён, ужо сам, без просьбы, прапанаваў папяросу. Працягнуў тую пачку і мне, а калі я адмовіўся, ён паглядзеў яшчэ раз і моўчкі адышоўся да свайго калегі.

Ужо ў дарозе ўсе смяяліся з таго, што там Кураўка пашаптаў.

— Пане, кажу яму, ён ні за што вас, як муху, плясне. Ён ужо трох забіў. А сам у турму не сядзе. Апраўдаюць. Самі не ведаем чаму — але не сядзе.

Так я і пахадзіў пасля з яшчэ адной мянушкаю — Двухжыльны.

## «НЯМА ЧАГО ПАКРЫВАЦЬ!..»

Кураўка смяшыў заўсёды на поўнай сур'ёзнасці, а сам часцей усміхаўся, чым рагатаў.

Едзем мы, скажам, з таго абозу, вяртаемся ўлегцы. Восень позняя, але яшчэ ўсё цёплая, добра ляжаць на возе. Коні з ўзгорка падварушыліся трухта і даганяюць — узбоч гасцінца, па сцежцы ідзе незнаёмая спраўная маладзіца. Кураўка, угрэўшыся пад кажухом, ляжыць сабе на баку, падпёрся далонню пад правую сківіцу, ласа глядзіць на шуструю загладуху, а потым, калі зусім параўняліся, ціха гукае:

— Кабето!

— Што, дзядзько?

— Купі качалко на лето.

— На чорта мне яно? — разгублена спыталася яна.

— Як на чорта? — зусім сур'ёзна здзівіўся ён.— Макарону будзеш качаць.

Урэшце здагадаўшыся, тая зачырванелася і плюнула.

А ён глядзіць ды прыязна ўсміхаецца, нібы нічога лішняга і не сказаў, і не падумаў.

чуць і бачыць Васіль быў мастак.

У Арэся была тады незамужняй дачка Марыля, таксама здаравенная, не вельмі, як і тата, складная. Але ўсяго дзявочага было ў яе нямала. І дабрадушная. Каля яе прыпасваўся суседскі Вінцучок, дзяцюк нярослы, але спрытны і памаўзлівы. Сядзяць мужчыны ў Арэсевай хаце зімою, яшчэ трохі завідна, гамоняць ды пакурваюць, а Марыля ляжыць на цёплай печы жыватом, тырчыць сваім багаццем угару. Усё ў мужчын нібы перагаворана, а то яшчэ, здаецца, і не ўсё, і хтосьці кажа, без усякага на што-небудзь намёку:

— Вінцучка нешта сёння няма. Няўжо ён з лесу яшчэ не прыехаў?

— Прыехаў,— спакойна і ўпэўнена, як быццам ведаючы гэта, гаворыць Кураўка. І дадае, кіўнуўшы на печ.— Ужо вунь і сані перавярнуў...

Неяк пры Польшчы мястэчка наша моцна гарэла і пасля гэтага дружна сабрала грошай на матароўку, маторную помпу. Для большай пэўнасці набожныя мешчанчукі вырашылі яе пасвянцаць. Пасля абедні поп з дзякам і пеўчымі выйшаў на паперць. Унізе, ад плошчы, адчынілі святую браму, і малайцы-пажарнічкі, не паздымаўшы сініх форменных канфедэратак, а толькі па-службоваму апусціўшы раменьчыкі пад бараду, па ціхай камандзе «бегем марш!», без гіку ўскацілі матароўку на высокі ўзгорак, у вялікі натоўп прыхаджан. На той час і гэта было не абы-якое відовішча, культурнае мерапрыемства. Поп нараспеў маліўся, пеўчыя стройна спявалі, а нейкая бабка, што прыпазнілася, ніяк жа, людцэ мае, не магла працісну́цца наперад, да таго цікавага... І трэба ж ёй было спытацца якраз у нашага Кураўкі:

— Сынок, а што гэта яны там робяць? Я ўжо дадому была пайшла, але вярнулася.

— Карову, бабко, да быка пускаюць.

— Вой, а чаму ж гэта тут?

— Папову, бабко. Да камендантавага быка.

— Камендантавага? Гэта таго, што ў пастарунку?

— У пастарунку, бабко. Ты толькі так не крычы, а цішэй. Зараз во будуць і ў званэ званіць...

Адзін час, таксама пры Польшчы, Мітроша — Важнае ліцо быў у нас солтысам. Праўда, вёска на яго не скардзілася — от сабе смешная важнасць, і толькі. Нават купіў нейкую скураную куртачку, чорна-бліскучую,

у якой праводзіў сходы. Перад сваёй хатай, на вуліцы. Сам ён звычайна прыпазняўся, выходзіў з хаты тады, калі ўжо мужчыны і збяруцца, і пачакаюць. Следам за ім выходзіла маці, старая, нядаўна аўдавелая Рагачыха, станавілася ў гародчыку за плотам, паміж кустамі бэзу, і час ад часу ўстаўляла сваё, рэжысёрскае:

— Дзе што добрае зробіцца, дык усё ж мы, Рагачэ ды Рагачэ. Ніхто ж другі не глядзіць, ніхто ж не пастараецца...

— Ціха, мамаша, дай гаварыць.

І гаварыў, упэўнена і важна, як з трыбуны.

Зімой па Ніжніх Байдунах пачала лятаць незвычайная галка. На валляку ў яе, на моцным шнурочку, вісела круглая, як медаль, фанерынка, на якой выразна, каломаззю было кругам напісана «Soltys». Выйдзеш з хаты — сядзіць на плоце: «Каў!..» І паляцела. На другі двор, на трэці, чацвёрты... Усе двары аблятае за дзень. Не было б таго медаля, дык і не падумаў бы ніхто, што гэта ўсё адна ды тая самая.

І да Мітрошы, вядома, лятала. Ён і пра гэта гаварыў на сходзе, ужо ў хаце:

— Дурная безабразія! Каб я толькі ведаў, хто такую насмешку зрабіў...

Што тады быў бы за страх — невядома. Толькі пазней стала ясна, што зрабіў гэта Кураўка. Пры дапамозе свайго старэйшага, школьніка, які і выдаў іхнюю таямніцу.

Васіль быў дабрадушны, ціхі. І вельмі бедны, з найбольшым правам на смех.

У партызанах нехта аднойчы падшапнуў новаму камандзіру нашага атрада, што іменна ў яго, у Кураўкі, схаваны ў гумне два кормныя япрукі. І ён, наш Сашка-лейтэнант, нядаўна прысланы з Вялікай зямлі, паверыў і даручыў паехаць «изъять излишки» іменна мне. Колькі я ні ўтлумачваў яму, што гэта жывая лухта, Сашка ўпёрся і паслаў нас з Коржыкам удвух, хоць той быў і не наш, а з Хлюпіч. «Няма чаго залішне пакрываць сваіх аднавяскоўцаў»,— сказана было нават і так.

І мы паехалі. Ёлкі зялёныя,— паклікаў я таго багацея на двор (хата старэнькая, поўна малых) і расказаў яму, што да чаго. Толю Коржыка, маладзенькага, баявога хлопца, Кураўка не ведаў, і мы, каб усё прайшло па ўсіх законных правілах, пайшлі на пошукі ўтрох.

Ішло прадвесне, і, як у нас гаворыцца, у многіх бог Вярбіч (першая ажывае вярба) паеў ужо і сена, і салому, і амецi. У прыстаранках Кураўкавага гуменца было амаль зусім пуста. Утрох з гаспадаром шуршэлі мы па прыстаранках, хто ботамі, а ён лапцямі, нават папсвечвалі трафейнаю батарэйкай, вось-вось гатовы засмяяцца, палохалі тых фантастычных, створаных дурным падшэптам, парсюкоў: «А-юсь! А-юсь!..» А потым і засмяяліся — і мы з Кураўкам, і Толя, які і так паверыў мне раней, а цяпер, пачаўшы з хаты, і сам убачыў, што наш Сашка-лейтэнант заслугоўвае слова, якое тут жа было і сказана.

Пра Васілёву беднасць я ведаў змалку, пра тое, што ён звязаны з партызанамі — толькі здагадваўся, а потым, пасля вызвалення нашай мясцовасці, і пачуў. І ад самога яго, і ад хлопцаў з суседняй брыгады, якой Кураўка добра памагаў. Нават медаль яму далі — партызанскі, другой ступені.

На фронце, калі фарсіравалі з боем рэчку Шэшупэ, граніцу з Усходняй Прусіяй, Васіль са сваім аддзяленнем першы ступіў на той бераг. Але героя не далі, хоць перад боем і гаварылася.

— А што далі? — спытаўся я.

— «За адвагу».

Адказваў ён без найменшага жалю ў голасе ці ў вачах, толькі з усмешкай, як заўсёды, сціпла-хітраватай. І дадаў, памаўчаўшы:

— Ох, і далі ж мы ім тамака! Кацюша як жарне, як жарне — толькі шыняле ўгару ляцяць!..

## ГРЭХ ЦІ НЕ ГРЭХ

У гэтай сціплай і няпоўнай галерэі маіх вясёлых літаратурных продкаў па мужчынскай лініі асобнае месца займае кравец Рафáлак.

Дваюрадны брат майго бацькі, ён быў яшчэ татаў і мамін кум, а мой хросны. З мяне хапіла б і гэтага, другога сваяцтва, тым больш што хросная мая засталася ў Адэсе, дзе я нарадзіўся, дзе тады быў у бежанстве і хросны. А бабкі-павітухі я наогул не меў, бо мяне не бабіла, а прымала, як гаварыла маці, дзяжурная акушэрка.

Бабкі, хросныя, кумы — гэта ў той час было сваяц-

твам, няхай некроўным, а ўсё ж блізкім. Сем'і такія не толькі клікаліся (на вяселлі, радзіны, хаўтуры), але і дружылі, што асабліва падабалася малым.

У Андрэя быў поўны камплект: бабка, хросны і хросная. Бабку Ганулю, Грамуздову маці, празывалі Ліскай, хоць і была яна зусім не хітрая, а толькі ўвішная, весела гаваркая і добрая. Калі мы вярнуліся з горада, мне было пяць, Андрэю — дзесяць, ужо не малы, аднак Ліска то жменьку сушаных груш прынясе, то трохі гарбузянят, то жывое яблыка зімою, то велікоднае яйка. Андрэю перападала і ад хроснай, але куды радзей, бо яна была ўжо замужам у Хлюпічах. Праўда, і тая Андрэева хросная, і асабліва Ліска, даючы штонебудзь яму, не забываліся і пра малога, пра мяне, ды гэта было зусім не тое, бо я ж тут ішоў на дадатак. І я зайздросціў брату ўдвая, за бабу і за хросную. А ўжо мой хросны, Рафалак, быў куды лепшы, чым Андрэеў — маўклівы і скупаваты дзядзька Яўхім Заяц.

Зрэшты, хросныя бацькі з хрэснікамі не вельмі ўжо так і нянькаліся. Гэта мой замяняў мне і бабку, і хросную. Ён і наогул быў другам нашай сям'і. У бацькі нашага не было ні братоў, ні сясцёр, а хросны рос пры сваім старэйшым браце, чалавеку благім, і таму наш тата і Рафалак з маленства дружылі. Любіла майго хроснага і наша мама, і ўсе мы, сёстры і браты, бо ён быў не толькі сваяк, але ж,— а можа, і перад усім,— харошы чалавек. Да слёз чуллівы, да слёз вясёлы і добры. З нашай сям'ёю ён і пасля татавай заўчаснай смерці дружыў, вядома ж, таксама дапамагаючы ўдаве з сіротамі («Кастрынко, сястрыцо мая»), чым толькі мог.

Хросны быў вельмі няпрослы і нібы гарбаты, і называлі яго не Рафаіл, а толькі Рафалак, нібы кавалак сапраўднага Рафаіла. Імя ў нашай мясцовасці, можна сказаць, унікальнае, дадзенае папом па святцах, і таму яно гучала хутчэй як мянушка. Ды ён не крыўдзіўся, бо і прывык да гэтага змалку, і сам любіў пасмяяцца, заўважыўшы што-небудзь смешнае ў іншых.

Трэба сказаць таксама, што, як там мы ўсе ні любілі ды ні шанавалі яго, ні ад бацькі, ні ад маці, калі яна засталася з намі адна, не было нам ніколі ўшчування за тое, што мы сяды-тады смяяліся з чаго-небудзь пацешнага, якое адбылося з маім хросным.

Да споведзі і прычасця школьнікаў напрадвесні, у вялікі пост, вадзілі з Ніжніх Байдуноў у мястэчка арга-

нізавана. А я, першакласнік, якраз на тым тыдні хварэў. Потым, калі паправіўся, маці не было як павесці мяне ў царкву самой, і яна даручыла гэта хроснаму, які і сам ішоў туды ж, па той жа справе.

І мне запомніўся той першы выхад у вялікі свет.

Як у краўца, у хроснага было ў наваколлі многа знаёмых, у тым ліку і з людзьмі, як ён казаў, духоўнага звання. Хросны і сам пасмейваўся з гэтага, параўноўваючы свае высокія знаёмасці з тым, што казала старая Гіта, хвалячыся сваім Хаімам, краўцом: «Уй, мы старому бацюшку шылі пітрахіль!..» Епітрахіляў бацюшкам ён не шыў, ні старому, ні новаму, тагачаснаму, але ж і дзяк Харкевіч, і царкоўны стараста дзед Бойка, хоць і ў мястэчку былі краўцы, шылі ў хроснага, чым ён не мог, як майстар, не ганарыцца.

Чорны і сухашчавы вусач Харкевіч, суровы з выгляду і громападобны сваім, злёгку хрыпатым, басам, запісваў нас да споведзі па знаёмству, без чаргі, тым больш што хросны выйшаў з чародкі жадаючых трохі наперад і дзяк спачатку кіўнуў яму, а потым і сказаў: «Прошу вас, Рафаил Степанович!» Мяне ён бачыў у хроснага, можа, не раз і не два, але цяпер спытаўся прозвішча, імя, імя па бацьку, а тады, на нейкі доўгі момант, зверху ўпёршыся ў малога злоснымі вачыма, грымнуў:

— Холост?

І ад пытання, і ад голасу я задрыжаў, нібыта злоўлены ў чужым садзе. Ды хросны мой, які таксама ж быў у горадзе, засмяяўся ў адказ дзяку не менш культурна:

— Ах, Радзівон Парфіравіч, да ведзь жа младзенец яшчэ і сіротка.

Дзяк пакруціў галавою:

— Младенец? Поверим, Рафаил Степанович, поверим.

Хросны нават пагладзіў мяне па ім жа самім на бручку абстрыжанай учора галаве, відаць, і не падаграючы, што сцэнка гэтая, у маёй перадачы, сёння ж яшчэ насмяшыць нашу маму і Надзю з Андрэем.

Другі знаёмы духоўнага звання, дзед Бойка, жыў зусім недалёка ад царквы, пры якой быў старастам і званаром. Хатка яго стаяла ўнізе пад узгоркам, каля нізкага муру царкоўнай агароджы, у зацішным кутку пад высознымі ліпамі.

У хатцы і так была духата, а мы пілі гарачы чай. Дзед Бойка быў родам з Плёхава, але доўга жыў у Маскве і адтуль прывёз сваю бабу. На грудзях у дзеда, з выпадку свята, было начэплена некалькі медалёў, на адным з якіх я цераз стол прачытаў «За спасение утопающего», а на другім — «За отличную стрельбу». На іншых чатырох здалёк не змог разабраць. Дзедава баба чай піла ўпрыкуску, са сподачка, палажыўшы на прыпол сабе ручнік. Дзед і хросны таксама сёрбалі са сподачкаў, прасмоктваючы той чай цераз кавалачкі цукру. Толькі я піў салоджаны, з вялікага фарфоравага кубка, прыкусваючы хлебам з маслам. Пілі ўсе доўга. Баба выціралася адным ручніком, дзед з хросным другім, а я ўжо, як у тым анекдоце, абсыхаў і так.

Я кончыў піць хутчэй за ўсіх, мне пачало быць сумна ад іх бясконцай гутаркі і хлюпання, і дзед, дзякуй яму, здагадаўся — даў кнігу. Гэта быў, як я сказаў бы пазней, вялікі і раскошна выдадзены том біяграфій рускіх пісьменнікаў, ад Ламаносава да Горкага. Не памятаю: можа, быў хто-небудзь і ранейшы за Ламаносава, аднак апошнім быў, бясспрэчна, Горкі.

З тых нямногіх кніжак, якія былі ў нас дома, я ведаў па партрэтах Ас-Пушкіна (так мы чыталі-забаўляліся з Качкавым Валодзем), Мю-Лермантава, Энвэ-Гогаля, Іа-Крылова. Гартаючы дзедаву кнігу, я пазнаваў там сваіх нешматлікіх знаёмых, а з мноства новых найбольш чамусьці ўразілі тры. Іменна той, апошні ў кнізе, Горкі, толькі Максім, без Аэм, а перад ім — Тэгэ-Шаўчэнка і Элэн-Талстой. У першага (хоць і апошняга ў кнізе) мне спадабалася і чорная, доўгая кашуля, падпяразаная шырокім рэменем, і доўгія, назад адкінутыя валасы. У другога — кажух, калматая папаха і вусы. У трэцяга — зноў жа доўгая і падпяразаная вузкім раменьчыкам, але белая кашуля і вельмі ж вясковая барада, амаль як у старога Чыркуна, дзеда Цупрона.

Неўзабаве і чаяванне, і гутарка хроснага з дзедам і бабай здаліся мне вельмі ж кароткімі. Хросны мяне ад кнігі проста адарваў, а дзед Бойка пацешыў, што, калі я буду добра паводзіць сябе, старанна вучыцца і шчыра хадзіць у царкву,— ён і яшчэ калі-небудзь кнігу гэтую мне пакажа. Нагаварыў амаль таго самага, што і поп, калі я стаяў у яго пад крылом, накрыты тым «пітрахілем», ці як яно там называецца.

З той кнігай больш не паўтарылася. З душнай пры-

царкоўнай хаціны (яе ўжо даўно, як і дзеда з бабай, няма) у памяці засталося толькі дзіцячае пачуццё, так сказаць, закаханасці [redacted] першага позірку, якое, можа, і было падсвядомым прадчуваннем пазнейшых сустрэч не толькі ўжо [redacted] партрэтамі тых трох, двух у кашулях і аднаго ў кажусе, але з вялізным і чароўным светам іхніх душ, без якога і мне цяпер не ўявіць свайго ўласнага існавання... А за паводзіны дзед Бойка меў потым права не раз і не два разы накруціць мне вушы.

Гэта тады ўжо, калі я хадзіў не ў ніжнебайдунскую, [redacted] ў местачковую школу. У будзень, пасля заняткаў, нам сяды-тады ўдавалася зайсці ў прычыненую царкву і, пакуль той стараста прыбіраў там недзе ў яе вялізнай, звонкай пустэчы, ціхенька, асцярожна ўзабрацца па крутых і вітых усходах званіцы ажно пад самае неба...

Куды там той «маяк», [redacted] якога Сідар-гоп скінуў галёш! Якое гэта, ні з чым не параўнанае, шчасце — глядзець на ўсё на свеце з вышыні! І на ўсё мястэчка, і на палі вакол яго, і на дарогі — і тыя, што ва ўсе бакі, і на тую адну, на гасцінец, па якім ты, нябачнай зверху сцежкай на абочыне, столькі пратупаў ужо і столькі яшчэ пратупаеш...

Нам, аднак, гэтага шчасця — толькі глядзення зверху — было замала. Бо тут, пад самым небам, віселі званы. Малыя, большыя і найбольшы, вялікі. Галасы іх мы неаднойчы чулі, але знізу. Цяпер, з усім адчуваннем урачыстасці і небяспекі, мы падыходзілі да найбольшага. Затаіўшы дых, як перад нырцом у найглыбейшую, найхаладнейшую ваду, мы дакраналіся да яго вяроўкі. Пасля такі і тузалі. І звон нездаволена адгукаўся прыцішаным, але глыбінным «б-бом-м!..».

І гэтага нам было мала. Мы тузалі смялей, яшчэ адзін раз. А тады ўжо кідаліся ўніз, каб паспець спусціцца на зямлю, сто тысяч разоў пратарахцеўшы па тых сходах быстрымі, вясёлымі нагамі, пакуль нас знізу не сустрэне дзед Бойка — з венікам ці з анучай... Званара мы баяліся больш, чым Гірш-Элю з яго сінагогай: шамэс толькі крычаў, а не біўся. Уніз мы заўсёды спазняліся: дзед добра ведаў нашага брата, а сам быў чуткі і шустры, на голас звона, нават і найцішэйшы, адразу ж бег, дабягаў да выхада са званіцы. Каму пападала, каму не, як калі пашанцуе, але заўсёды ўсім было весела. І ніжэй, прарваўшыся міма дзеда, і на царкоўным пляцы, і на вуліцы, і на сцежцы ўзбоч гас-

цінца, з якое так добра было азірацца на белую красуню на ўзгорку, на той адзін з салатавых купалоў, пад якім ты нядаўна быў...

Малыя мы бывалі жорсткімі. Відаць, усе. Асабліва калі збіраліся разам і жорсткасць нашу пакрываў, вязаў у адно наш невычэрпны, нястомны смех.

Нядаўна мне, у прэзідыуме аднаго высокага сходу, знячэўку ды недарэчы, успомніўся Жмака. Вельмі ярка, з вострым, жывым,— праз паўстагоддзя — адчуваннем дзіцячай крыўды. І з дзікім смехам гэтага недалёкага дзецюка. Мы, некалькі пастушкоў, нават яшчэ не каровіных, а свіных, палезлі ў рэчку, дзе ўжо купаўся ён. Адзін. Не ведаю, чаму адзін, але ж у памяці — так. Ён выйшаў на водмель — такі здаравенны! — і раптам пачаў забаўляцца: хапаць каго-небудзь з нас і з галавою панураць у ваду. Ты задыхаешся ў перадапошнім жаху, пачынаеш ужо балбатаць пад вадой, а ён — рагоча, як жарабец, які падбіў цябе процьмай цяжэразных капытоў. Толькі тады ўжо, калі ты, здаецца, зусім заходзішся ў вадзе, пад націскам яго капыцістых далоняў, ён адпускае цябе, а сам яшчэ шчырэй іржэ — ужо з таго, як уцякаюць з вады твае сябры, уся бездапаможная малеча. Яму ўжо не відно і не чутно, як ты плачаш і лаешся, спачатку, бліжэй да яго — толькі плачаш... Зрэшты, не памятаю, ці задыхаўся пад вадой і ці плакаў я сам. Толькі той смех памятаю. І вострую горыч той самай крыўды.

Ну, а тады ж і нам самім было часамі вельмі смешна ад крыўды, якую мы прычынялі іншым, старэйшым за нас і старым. Весела, смешна было забаўляцца, перамагаючы страх, гуляючы з небяспекай,— калі магло за гэты смех і папасці ад таго старэйшага ці старога, абы ты трапіў яму ў рукі.

І толькі зрэдку калі-небудзь да самога цябе, раздурка, даходзіла, што гэта — не тое, зусім не той смех, што і другому таксама баліць...

Зімою дзед Бойка рабіў калядны аб'езд парахвіі, прыязджаў і ў нашу вёску. Зрэшты, не прыязджаў, а прыходзіў, цягнучы за сабою «козачку» — санкі-прычэп, якія, возячы з лесу бярвенні, падстаўляюць пад верхавіну. Паставіўшы на вуліцы сваю «козачку» з двума няпоўнымі мяхамі жыта і мукі, дзед заходзіў у хату, здымаў шапку, хрысціўся на покуць і змрочна вымаўляў тры нейтральныя словы:

— Ваш царкоўны стараста.

Што азначала: падайце і не скупіцеся.

А тым часам яго «козачцы» перад чарговай хатай не стаялася. Калі гэта было на ўзгорку — мы папіхалі яе ўніз. Эх, пайшла, павіляла! Абернецца, рассыплецца мука і жыта? Не, дзед хітры, мяхі ён кожны раз завязвае. Калі ж яна стаяла перад другою хатай на роўным, мы яе адцягвалі і ставілі ўпоперак дарогі. Дзед выходзіў і — пачыналася вясёлае. Ён або трухаў з горкі ўніз, або падыходзіў да «козачкі» на дарозе і крычаў не на нас, бо мы былі ў недасяжнай адлегласці або затуленыя за зруб студні ці за вугал хаты,— ён крычаў на памочніцу:

— Я цябе дзе паставіў? Дзе? Колькі разоў табе гаварыць? Колькі разоў?

І біў яе — брэнкаў кіем па выгнутым перадку, а мы рагаталі здалёк або хіхікалі ў сваёй недалёкай схованцы.

Абедаў дзед Бойка заўсёды ў хроснага. Сядзеў ён там доўга, «козачку» зацягнуўшы на двор і прывязаўшы да плота. Але ў хату да хроснага я ніколі тады не заходзіў: спачатку баючыся за здзекі з «козачкі», а потым, калі ўжо хадзіў у школу ў мястэчка, і з-за таго паднебнага шчасця — званіцы.

Аднойчы, калі я радасна расказаў свайму хроснаму, як дзед б'е і лае «козачку», ён пакруціў галавой і сказаў:

— Ой, нядобра, сынок, ой нядобра! Гэта ж ён хворы чалавек, ён нервенны. З такога брыдка смяяцца, грэх.

Не скажаш, што гэта так ужо да мяне і дайшло. Тым больш што мой настаўнік памаўчаў крыху над шытвом і раптам, штосьці ўспомніўшы, засмяяўся. Расказаў тое штосьці і мне.

— Ён і бабу сваю так ганяе. Не думай, што яны толькі чай папіваюць. Раз ён пры мне разышоўся, пачаў пасуду біць. Ой, а Лукер'я яго Цімафееўна... Нехта, відаць, навучыў, а можа, і сама даўмелася. Бо ціхая яна, благачасцівая. А то дык давай і яна малаціць па гаршках, па талерках! «Гасподзь з вамі,— кажу я,— што ж вы робіце, людзі такія харошыя!» А сам у кут, каб і мяне, чаго добрага, не раскалолі, як гаршчок. А дзед тады спыніўсё і пытаецца: «Луша, а што ты дзелаеш?» — «А ты, Мікалаевіч, што?» Дык ён гэта

плюнуў ды з хаты. Во як!.. Але смяяцца з гэтага грэх. Стары, нервенны чалавек.

Хросны шые моўчкі, а потым смяецца зноў.

— Захара Качка,— кажа ён,— прымак у Юсты. Чалавек ён нішто сабе. От, бухукае, ілжэ. А цесць яго — ты, канечне, не памятаеш — быў трапяткі, як Юста. І заўсёды што-небудзь вычварыць. Юста дзяругі ткала, у вялікую клетку, чырвоную і сінюю, здаецца. Дык ён сабе, Захараў цесць, дзядзька Габрусь, узяў ды на порткі з гэтага адрэзаў. Сам адрэзаў, сам скроіў, сам пашыў. Вядома ж, якое там было шытво — збоцькаў толькі сяк-так, абы ногі ўсадзіць. Надзеў, выйшаў на вуліцу і стаіць. У тых чырвоных ды сініх, як певень які галагуцкі! А тут ідзе Ганчарыха. І яе ты не ведаеш. Памерла ўжо даўно. Баба была прыветлівая, дый кума яго, і нічога ж яна такога яму не сказала, а толькі ўсміхнулася: «Ну ж ты і выстраіўсё, кумок!» А той як гыркне: «Пацалуй, мая кумко, сабаку ў...» Пабег у хату. І ўжо ніхто яго ў тых пеўневых портках не бачыў. Юста казала, што на анучы іх палупіў. Таксама нервенны быў чалавек.

Кончыўшы тое, што ён абмётваў рукамі, хросны сеў за машыну. Пастракатаў сваім «зінгерам», а потым перастаў, бо зноў смяецца.

— Монька Грыгоры Іванавіч... Цяпер ужо ён пан Гжэгаж. Плёхаўскі настаўнік. Таксама шые ў мяне. Шыў адзін раз. Кажух. А ўжо цяпер у яго не кажух, а паліто. Што там Габрусь ці Бойка! Гэта ж такі абразаваны чалавек, і гарадское кончыў, як Сцёпа Цівунчык, ды яшчэ і нясвіжскую семінарыю. І цяпер жа яго паны ўперавучвалі недзе на Гжэгажа. Можа, і не далі б вучыць па-польску, але ён у бацюшкі нашага родны пляменнік. Вучыць. І каму б гэта так даравалі, як яму даруюць. От нервенны дык нервенны! Свістам яго знаравілі. Проста бяжыць, уцякае, калі хто свісне. І нашы ж таксама,— скажам, Валодзя Чыркун або Косця Асечка, а то і Цімох... Едуць з лесу, а ён насустрач ідзе па дарозе. Ды ўжо здалёк, як толькі пазнае, што гэта нашы, сыходзіць з дарогі ў поле — па снезе, па цаліку. Адвернецца да іх, нагнецца, паліто задзярэ — на, свішчы! Пан навучыцель!

Хросны рагоча да слёз, а потым, супакоіўшыся, зноў растлумачвае: — Нервенны чалавек.

Ды ўжо не кажа, што з такога грэх смяяцца.

## МУЖЧЫНСКАЯ ГАВОРКА

Хросны сядзіць на кароткім зэдліку, і ногі яго, абутыя ў самаробныя валёнкі, ледзь дастаюць да падлогі. Ён абвесіўся полкай: яго стрыжэ Цімох Ярмоліч.

— З лета самога збіраўсё, Цімоша, і, дзякуй богу, прыйшоў,— смяяўся хросны, калі садзіўся на зэдлік.

— Каб у мяне было адно столькі клопату, што цябе абіндзёжыць, дык я даўно зайшоў бы,— спакойна апраўдваўся Цімох, які і ўвосень яшчэ прападае то ў лузе, то ў лесе, то над ракою. Балазе падняўся яго старэйшы хлопец, ёсць каму рабіць у полі.— Затое я цябе цяпер ачалавечу, хоць яшчэ раз жаніся.

Калі б той зэдлік можна было, як у цырульні, падкруціць угару, Цімоху было б значна зручней, бо так ён стаіць над хросным крукам.

У хаце яшчэ толькі цётка Агата і я. Цётка недамагае штосьці і таму ляжыць на печы, а я сяджу на лаве, гляджу і слухаю.

Гнучыся над хросным, Цімох то засяроджана наводзіць «польку», то штосьці сам сабе ўсміхаецца. Магчыма, што і ўспамінае...

Не, гэта сам я ўспомніў тую «радаслоўную», якую ён, Цімох, нядаўна прыдумаў. Пачуўшы ад свае Волечкі ці, можа, нарэшце, і прачытаўшы ў самым пачатку «Евангелля», як гэта «Авраам родил Исаака; Исаак родил Иакова; Иаков родил Иуду и братьев его», ён перанёс тое ў Ніжнія Байдуны, пачаўшы з хроснага:

— Рафалак радзіў Ляпножку; Ляпножка радзіў Пучка; Пучок радзіў Мітрошку, а ўжо Мітрошка — Вінцучка.

Ляпножка — гэта той маленькі і адзінокі ўдавец, у сцюдзёнай хатцы якога мы танцавалі сваё «кукурыку»; мянушка пайшла ад таго, што ён, ідучы, смешна згінаў у калене правую нагу і ляпаў лапцем зверху, нібы знарок. Пучок — наш каваль і найлепшы нырэц. Мітрошка — Важнае ліцо. А Вінцучок — той самы, што ў Арэсевай хаце перавярнуў на печы «сані». Усе яны нярослыя, а Рафалак найменшы,— таму з яго і пачынаецца.

Мне за хроснага не крыўдна, а таксама смешна. Смяяцца за вочы бывае і не брыдка, хоць і не хочацца, каб ён пра гэта ведаў. Як тады ў нас з Качкавым Валодзем было, калі мы ўкралі ў хроснага галубку і хі-

хікалі, прабіраючыся агародамі дахаты, што вечна злосная цётка Агата возьме яго ў дзяругу за плечы і кінецца нас даганяць. Смех, можа, і дурны, але — што ж ты зробіш? — вясёлы.

Нават і цяпер, калі мне ўжо не дзевяць, а шаснаццаць.

Хросны і сам не крыўдзіцца на Цімоха, не думае выгаворваць яму. І, відаць, не таму толькі, што і сам любіць смешнае, але і ў нейкай сувязі з жаданнем лічыцца сапраўдным, паўнацэнным мужчынам. Ён быў не толькі смяшлівы, але і слязлівы, мог заплакаць ад песні, ад чужое крыўды, а пра такія натуры ў вёсцы гавораць: «як баба». Мала, што ты калека, дык яшчэ і «баба»... Радзіў? А што ж, калі не «Ісаака ды Іакава», дык Мікалая, Сяргея і Жэніка. Старэйшыя недзе ў школе, Мікалай у мястэчка ўжо ходзіць, Сяргей у сваю, а Жэнік пабег на вуліцу. Хлопцы яшчэ малыя, таму што хросны ажаніўся позна, а потым дзеці паміралі адно за адным, таксама трое, пакуль не нарадзіўся Мікалай.

Сцвярджаючы сваю мужчынскасць, хросны любіць пагаварыць з Цімохам і пра тое, пра што ўжо ён цяпер гаворыць пры мне не вельмі асцерагаючыся.

Гутарка ў іх, у цырульніка і кліента, ідзе даўно, я бяру яе тут з сярэдзіны:

— Як я быў, Цімоша, малады... Ды каб жа людскае што, а то ж калека няшчасны, а вып'еш тыя разы з хлопцамі, дык не толькі, здаецца, што, а сцяну цалаваў бы!..

— А чаго ж,— гудзе Цімох, даволі спрытна і нягучна ляскаючы нажніцамі.— Вось і нацалаваў. Хлопцы здаровыя, як бурвэлкі, як самому сабе робленыя. Вам бы яшчэ...

— Брахунэ вы! Што толькі сліна вярзе...— перабівае з печы цётка Агата, амаль заўсёды нечым нездаволеная.

Але Цімох як быццам і не чуе, гаворыць далей:

— ...дачок са тры ці з чатэры. Пагаварыў бы ты з Братам Арсеніям. Ты яму — як гэта хлопцаў, а ён — як дзявок. Па-суседску...

— Дочкі,— гаворыць, нібы ў роздуме, хросны.— Яны ў Арсеня беленькія, далікатненькія, як маца.

— У яго як маца, а ў цябе будуць як халы. Ён свяцейшы, а ты каранасцейшы.

Цётчына «брахунэ вы!» не было, відаць, вельмі

злосным, а толькі так, па прывычцы быць нездаволенай, бо вось і яна далучаецца:

— Старыя мы ўжо, Цімох, на дочкі. Куды там. Дай бог сыноў пагадаваць.

Цімох зноў лезе ў тое, чаго наслухаўся ад свае Волечкі, толькі ўжо не ў «Новы запавет», а яшчэ далей — у «Стары».

— А як жа Сорка ў таго Аўраама? — пытаецца ён.— Старая баба была, дзевяноста гадоў. Дый «гаспадзіну твайму», Рафалку, не дзевяноста дзевяць, як таму Аўрааму, калі яму бог зрабіў абразанец.

Хросны хоча смяяцца, а пад нажніцамі яму не вельмі зручна, дый боязна, што тузяне, і ён толькі моршчыцца ва ўсмешцы.

— Ты кажаш, што па-суседску,— паўтарае Цімохава, ужо далекаватае.— Па-суседску бывае ўсяляк. Табе казалі, а я ж сам бачыў і чуў, як ён, Арсень, Аленку Секачыху адвучваў. Ігнат яе — от, Балалэй, толькі што пасмяяцца з каго-небудзь умее спадцішка. А сама ж яна — малатарня!

— Злосная ўрэдзіна, аж у роце чорна,— удакладняе Цімох.

— Ну,— згаджаецца хросны.— Толькі і ведае, што «лерара» ды «лерара». Праўду гаворыць той Заяц Яўхім: «Слова скажа, дык і не ведаеш, куды яго апрадзяліць». Мала таго, што свайго з ранку да ночы дзяўбе, дык і на Арсеня спанатрыла. Бапціст, «бог есць любоў». Калі-то жох быў, сам ведаеш, а сёнека — хоць дой, такі рахманы. Дык можна ўжо, другая думае, і на галаву чалавеку на... Гэта ж цярпенне трэба на такую суседачку! А тут ён пута з плоту хапіў і давай па азадку шалёстаць!

— Колькі там і азадку таго,— зноў удакладняе Цімох.— Высах і ён ад злосці.

— Ну,— згаджаецца хросны.— Аленка ў крык: «Табе ж не можна! Ты ж святы!» А ён: «Можна,— кажа,— такую, як ты, можна. Гасподзь скаціну вервіем з храма святога выганяў!» А пута тое, тое вервіе, у яго яшчэ ж і мокрае: ён толькі што кабылу з поплава прывёў. Святою раніцай і пачалі...

Тут ужо хросны не можа стрываць і рагоча. І Цімох разгінаецца над ім, не стрыжэ.

— З расіцай яно лепш,— удакладняе ён і гэта.— І касіць, і з бабай...

Цімох прыйшоў не толькі стрыгчы хроснага — прынёс і порткі шыць.

У той час хросны быў яшчэ, і праўда, дужы. Шыў і кажухі, і суконныя сярмягі, якія ў нас называлі буркамі. А порткі — колькі хочаш. Мог і клёш, і «гальфе», і ні тое ні сёе.

— Прымерку зробім,— сказаў ён, падзякаваўшы за стрыжку.

Але спачатку адышоўся да парога, высцепаў полачку ад валасоў, склаў яе з прафесійнай павагай да кожнай тканіны, тады ўзяў з качарэжніка венік, падмёў ад зэдліка ў качарэжнік, зэдлік паставіў да грубкі і паўтарыў:

— Давай будзем мерацы.

— А на чорта нам тая прымерка? — лена і мудра спытаўся Цімох.— Мне абы крэсла спераду.

Хросны спачатку проста абураецца:

— Ну што гэта ты, Цімоша, гаворыш? Трэба ж мне і дліна, і паясніца, і ў подшагу...

А потым хросны смяецца:

— «Крэсла спераду»... А мо табе яго ззаду зрабіць? Як у малых цыганянят? З распоркаю на ўсю...

## ЖЫВОЕ СЛОВА

Неяк на багатым нясвіжскім кірмашы маладжавы вясёлы мужчына так падахвочваў мяне браць яго яблыкі:

— Яны ж у мяне, таварыш, не глядзяць, а смяюцца!

І праўда, яблыкі былі вялікія, румяныя, адно ў адно.

А хросны казаў калісьці і так:

— Выйшаў я ноччу на двор, а кабыла мая: «Гы-гы-гы!..»

Нават і яна ў яго была вясёлая, як там тады ні жылося і кабыле, і гаспадару.

Маці наша расказвала, што маленства ў хроснага было цяжкае: сіратой ды калекам пры нямоглай матцы і старэйшым браце. Дрэнны быў чалавек гэты яго старэйшы брат Баўтрук, але «бог даў — пайшоў у Плёхава ў багатыя прымы». А хроснага мой бацька, старэйшы за яго і ўжо тады з надзейным заработкам у го-

радзе, уладзіў вучыцца за краўца, а потым «Рафалак наш,— мама казала,— пачаў жыць з іголкі».

Дзядзька Баўтрук як закрычыць у Плёхаве на карову: «У хлеў, каб ты здохла!» дык ажно ў нас, у Ніжніх Байдунах, чуваць, за два кіламетры. Сыны ў яго падняліся, два дзецюкі, як дубы, і сам здаравенны, гарласты.

— Нікога не баіцца, нічога не стыдзіцца. Сам — пастронкам не падпяражаш, бо што ж, жыве — вароты пірагом падпёртыя.

Так гаварыў пра свайго брата хросны. Бывалі яны адзін у аднаго вельмі рэдка («Абыходжу я Баўтручка, як тую барану»), але пра адно здарэнне ў братавай хаце хросны расказваў аднойчы так дакладна, праўдзіва, што нібы ён і сам тады там начаваў. Можа, зрэшты, і начаваў, мы пра гэта не думалі.

Мы — гэта я і ўсе тры яго хлопцы. На шарай мы сядзелі без агню, толькі што ў дзверцах грубкі гуло і зыркала полымя. Цётка Агата кудысьці пайшла, і хроснаму было ад гэтага свабадней. Бо вельмі ж яна ўсё вучыла яго, камандавала, вечна ён нечым ёй не падабаўся.

Гаварыў ён ніколі не спяшаючыся, ні за машынай, ні іголкай шыючы, ну, а цяпер, у нядзелю, тым больш.

— Легла Матруна на печы. Палеглі хлопцы, зуслон да лавы прыставіўшы. Дзякуй богу, здаровыя, пасолі густое з картопляй ды з хлебам як натопчуцца — ажно тыя дошкі-дылёўкі пад імі равуць. Паснулі ўсе, а сам Баўтрук не спіць, ляжыць на ложку і пазяхае на ўсе чалеснікі, абдумвае, які б яшчэ інтарэс дзе зрабіць. А потым чуе ён: у кухні штосьці шмотаецца... І ўсё яно во так: «Буль-буль! Кех-кех! Буль-буль-буль! К-кех-кех-кех!..» Баўтрук і здагадаўся: «Злодзей лезе! Добра, што я не сплю». Ды як зараве: «Хлопцы, уставай!» Тыя ўсхапіліся, пабралі яны — хто што, і цераз сені ў камору. Батарэйкаю свецяць — нікога няма. Што за чорт?..

Ён робіць паўзу, а мы, слухачы, насцярожваемся ў гэтым пытанні: і сапраўды — што за чорт?..

— А гэта ў кухні, у баковачцы. Свіное цеста ў цэбры. Падыходзіла ў цяпле ды толькі булькала сабе ды кехкала...

Смяюцца вясёлыя, чырванашчокія хлопцы. І сам іх тата смяецца, нібы і не вельмі старэйшы за іх. І я, ужо

сталы дзяцюк, таксама смяюся, прыемна адпачываючы. Хлапчукам — калі што смешна, дык яно і праўдзіва, тым больш што гэта ж іх тата расказвае. А я ўжо тады і праўду асноўную бачыў: праўду беднага, добрага, разумна-вясёлага чалавека.

— Бываюць людзі злосныя, зайздросныя,— гаворыць хросны, памаўчаўшы.— У Плёхаве быў адзін такі, Кукель. Без нагі, на дзеравяшцы хадзіў. І цвік убіты ўнізе, каб не паслізнуцца. Дык ён тыя разы ў цэркві так і мяргуе, каб на нагу каму наступіць.

Паўза.

— Або наш Турак, Мікіта. Каровы з пашы ідуць, а ён стаіць каля брамкі свае і пытаецца: «Дзеці, а чыя гэта цялуха, вунь тая, пярэстая?» — «Гэта, дзядзько, Асечкава!» — «От каб яна яму здохла!» І не таму, што Асечкава, а што чужая ды гладкая.

Зноў паўза. Потым смех і — новае:

— Бапцісты нашы хрысціліся. У Нёмне каля Хлюпіч. Па-іхняму, што ты малы ахрышчаны, дык гэта не тое: трэба, каб сам цяпер да госпада прыйшоў. Людзей сабралася. Бо гэта на ўшэсця было і ў Хлюпічах быў фэст. Маладзёжу — з усіх вёсак... І ты ж, здаецца, быў?

Пытанне — мне. Я кажу сваё «быў» неахвотна, бо хочацца і пра тое пачуць.

— Прасвіцер іхні стаіць у нечым чорным, як папова раса ўсё роўна, ён сам да пупа ў рацэ і кожнага бярэ так: адной рукою пад спіну, а другую паложыць на грудзі і — эп! — кульнуў назад у ваду. Бабы, дзеўкі, мужчыны — адзін за адным. А потым нейкі мужчына, худы і доўгі, як чапяла. Яго прасвіцер як кульнуў, дык ён яшчэ потым, мокры, і зачэрпаў тое святой ярдані, памыўся. Людзі на беразе смяюцца, вядома ж,— лічы, што адзін маладзёж. А той худы брыдзе да берага і, руку задзёршы, як прарок які, крычыць: «Смейцеся, рагачыце, бязумцы! Паглядзім, як вы будзеце ў вечным агні смяяцца! Угатаваным дзіявалу і ангелам яго. Паглядзім!» Во як.

— А падумаўшы,— кажа ён пасля паўзы,— дык і на чорта яна, прасці госпадзі, вера такая, каб адзін чалавек у пекле гарэў, а другі ўжо быў загадзя рады?..

Дат ён амаль ніколі не ведаў, дый не цікавіўся імі. Неяк я быў спытаўся ў яго, калі нарадзілася мая мама (яе ўжо тады не было, а яны ж з ёю вельмі дружылі),

і хросны адказаў з як найбольшай упэўненасцю: «Чаму ж гэта не ведаю калі? Перад самай сёмухай».— «А год, а месяц, а дзень?» — «Хто ж яго помніць усё...» Аднак, як сказаў бы мой сябар-філолаг, «мастацкі сінтэз мінулага» хросны падаваў гатовымі малюнкамі.

Часамі, хоць і не часта, гэта бывала ў яго і не смешна.

— Хлеб з ільняною мякінай не кроіўся. Ламалі яго кавалкамі, накалоўшы нажом ці чаранком лыжкі. Тэкля, старэйшая Грамуздова сястра, маладзенькай пайшла ў далёкі замуж, на гэткі хлеб. Прыйдзе дадому і плача, што есці яго не можа. Хацела ўжо і зусім уцякаць. І маці плача, гледзячы. Але бацька завёз тую Тэклю назад. Два боханы нашага хлеба завёз, без мякіны, з картопляй, і дагаварыўся, што будзе пасылаць ёй туды па бохану на два тыдні,— пакуль яно, маладое, дурное, прывыкне...

Больш было весялейшага.

— І я тых казакоў добра помню. Калі ў нас забастоўшчыкі былі, панскія мэндлі палілі і не пушчалі людзей ісці ў маёнтак у заработкі...

— Гэта, відаць, у дзевяцьсот пятым годзе? — удакладняю я.

— Ну,— на ўсякі выпадак згаджаецца хросны.— Можа, і ў пятым. Я ўжо тады пасля прызыву быў. Улляна ваша добры ўжо была дзяўчук. І шустрая. Калі яны па нашай вёсцы ехалі, дык яна аж на трэцяе пяло на весніках узбілася, каб усё добра ўбачыць. Вядома ж, казакі! Дык адзін з каня нахіліўсё ды за цыцку яе як схапіў — ледзь цераз веснікі не перакінуў!..

Хросны смяецца, а потым, нібы апраўдваючыся:

— Што ж, з песні слова не выкінеш... Я ж яшчэ помню, як той князь Мірскі ў Мір са сваімі казакамі прыехаў. Першы раз. Я тады ў Шлёмы Касмая шыць вучыцца пачаў. Князь... Белая барада, у чырвонай рубашцы, у брычцы сядзіць. А за ім ужо тыя казакі. Ён і замак, і бровар, і маёнтак, і ўсе маёнткі, што ля Мяра, купіў у тае барыні, што перад ім была. Сабралі ўсіх мяран на траве каля замка. Бочкі з гарэлкай стаяць. А ён пад'ехаў, стаў у брычцы: «Саседзі! Жыцялі дрэўняга Мяра! Будзем жыць мірна і дружна!..» Гарэлкі людзям, закуска ўсякая на сталах. Потым казакі скакалі на конях, навыперадкі і цераз жэрдкі. На трубах ігралі. І такое яшчэ, такая забаўка: у вялікія місы,—

яна ў горадзе называецца таз,— наліта поўненька вады і на дно насыпана грошай. Па капейцы, па пяць і па грыўні. І трэба, рукі назад залажыўшы, губамі грошы тыя даставаць. Колькі дастанеш — твае. Я не палез, я толькі пазіраў. Балбочуць людзі, мызаюць ў вадзе, аж да вушэй у тых тазах. Тут і ўдушыцца можна, захлынуцца самахоць!..

А потым тыя казакі самі князева збожжа касілі. Не пайшлі ні «саседзі», ні парабкі, ні людзі з вёсак далейшых. Забастоўка. Я ўжо тады не ў Шлёмы быў, а шыў дома. Так ехаў да Мяра ды бачыў. Смех адзін — тая касьба. На трыццаць чалавек адна мянташка. Больш менцяць, чым косяць. Што ж, панскі дзень — да вечара...

Былі расказы і яшчэ больш даўнія, з яго далёкага маленства.

— Быў у нас кот Цімох. Не раўнуючы, як Цімоша Ярмоліч. Толькі вусаты. І здаравенны, як конь. У тое лета ўсё былі дажджэ, дажджэ, пшаніца ў мэндлях парасла, і булкі пякліся адразу салодкія, і вельмі ж ляпіліся ў роце, ніяк не глынеш. Цімох наш злодзей быў, злодзей! Недзе ашварак той булкі ўварваў, ідзе і толькі «во-оў!». Прысеў і лапаю з рота дзярэ. Ледзьве я яму памог... А хітры быў, як вуж! Збанке з малаком стаялі ў нас пад прыпекам так, што ён галавы туды не ўсадзіць. Пячорка такая, што як збанам толькі ўлезці. Дык ён возьме ды лапу туды прасадзіць, абмочыць у малако ці ў смятану і аблізвае, абмочыць і аблізвае. А ціхенька!.. Мама наша згледзела гэта ды — «каб ты здох!» — накрыла збанэ ручніком. Сядзім мы потым у хаце, вячэраем, а ў нашай кухні — ру-ду-ду! — загрукацела. Мы туды. А гэта Цімох. Хацеў збанке раскрыць. Упяўсё кіпцюрамі за ручнік і — усе тры з малаком на сябе! Во дзе потым аблізваўсё!..

Мікола, Сяржа і Жэнька рагочуць.

А мне, даросламу, ужо і думалася, што тут у хроснага — і любасць да ўсяго жывога, і тое ўсё, што ідзе адтуль, з той чароўнай краіны, дзе нараджаюцца казкі.

Сёння мы бачым,— і па саміх сабе, і па дзецях,— што нам прынёс савецкі лад жыцця, хто як вырас на той ці іншай рабоце. Цяжкой сказаць, а што было б у таксама спрыяльных умовах з таго ж Сідара-гоп, Чыркуна ці хроснага — медык, артыст, пісьменнік? Можна толькі гадаць ды прымерваць. Вялікі горад, у якім

мой хросны жыў у бежанстве, знаёмства з сякой-такой мясцовай інтэлігенцыяй і людзьмі «духоўнага звання», з усімі, каго ён мераў, каму шыў, не адвучылі яго ад матчынай мовы. Словы ў яго былі, як арэхі, адно ў адно, а з усіх разам — вобразнасць і смех.

Яшчэ раз пра таго ж Мікіту Турка: «Авечку зарэжа, і то не ядуць адразу, а павесіць у запас. Тымі сухімі сцягонцамі — хоць у лапту гуляй!..»

«Адна нявестачка ў яе — як тая ластавачка, а другая — як вулей». І поўная, значыцца, і салодкая. Потым прыйшло акрэсленне і сучаснае: «Баба — як трактар». Пра іншую, дзе і сіла, і гром.

Пра ткаллю-гультайку: «Як стукаць ды лопаць, як за дзень, дык і локаць, а як за сем дзён, дык і губка вон».

«Добры нос чарку (ці хвігу) за тыдзень чуе». «Пагладзь ката, дык ён і хвост задзярэ». «Не любіш дроў калоць — і не наколеш». «Што не даямо, то дапеямо». І тое, урэшце, яшчэ раз успомнім: «Не пацешыўся б, дык павесіўся б...»

Нічога, калі мне хтосьці скажа цяпер, што ён такое недзе ўжо даўно чытаў. Мне люба-дарага было пачуць гэта ў той час, калі я не бачыў яшчэ аніякіх фальклорных тамоў, а толькі чуў пачутае, адчутае на смак і захаванае, каб перадаць, а то яшчэ і дапоўненае, прапушчанае праз яшчэ адзін народны, безыменны талент.

Некаторыя прыгаворкі хроснага патрабавалі тлумачэння. І ён гэта рабіў. Напрыклад, гэта:

— Дзед бабу пасадзіў зімою не ў вазок, а ў сані лясныя, толькі палукашак паставіў. Сам прыкурчыўсё спераду, а баба, як пані, капою расселася ззаду. А потым людзі крычаць: «Чалавек, бабу згубіў! Чалавек, бабу згубіў!» А дзед думае, што гэта не яму. Не азіраецца, не бачыць, што той палукашак з бабай кульнуўсё на ўхабе і ўжо далёка ляжыць на дарозе. Так і пайшло яно: «Крычаць не крычаць, а мы з табою, бабо, едзьмо!» Гэто дзед так тады прыгаворваў.

Або такое:

— Запарыла яна таму Жэніку мяты, чарніц сушаных дала пажаваць. Бо ўжо ж яго замучыў Аляксей... Які, ты кажаш, Аляксей? Па-гарадскі гэта — панос. Як: «пры чым Аляксей?» Ёсць жа такое свята напрадвесні: Аляксей — чалавек божы з гор пацёкі.

Пазней я праверыў гэта ў праваслаўным календа-

ры. Семнаццатага сакавіка па старым стылю «Аляксей — Человек божий» — гэта ёсць. А «з гор пацёкі» — самадзейнасць у медыцынскім прыстасаванні.

Як тая дзесятая запаведзь,— «ні вала, ні асла яго»,— пра Лётчыкаву беднасць і гультайства.

## НАЙБЛІЖЭЙШЫ ЗВЕРХУ

На чыгуначнай станцыі, дзе не спыняюцца хуткія цягнікі, яшчэ ўсё стаяць дагэтуль аблезлыя рэшткі атынкаванай невысокай абгароджы, якая больш за паўстагоддзя таму назад здавалася мне высачэзнай, даўжэзнай і таямнічай белай сцяной.

За гэтай сцяною тады кудысьці знік мой хросны. Упершыню ў жыцці з'явіўся і неўзабаве знік. Потым з'явіўся зноў. Ды ўжо не выйшаў з пугай з-за сцяны, а выехаў адтуль з канём і з возам. Каб больш ніколі не знікаць.

Гэта тлумачыцца вельмі проста. Мы вярнуліся з горада, і на апошняй станцыі нас сустрэлі сваякі, у тым ліку і хросны, які вярнуўся з бежанства настолькі раней, што я зусім не памятаў яго. Павітаўшыся, сваякі пайшлі на плошчу па коней, і мы, забраўшы сваё дабро, на трох фурманках паехалі ў вёску.

Хроснага я палюбіў, відаць, з таго самага дня. А неўзабаве, гадоў праз шэсць ці сем, ужо хацеў і пісаць пра яго. Потым пісаў, а яшчэ пазней і друкаваў напісанае, на працягу гадоў расцерушыўшы гэты вобраз на многіх і розных старонках. Цяпер я не падбіраў у памяці рэшткі гэтага вобраза, асцерагаючыся паўтораў, а думаў, што раскажу пра яго, нарэшце, усё. Ды вось жа зноў няма яго — такога адчування. І справа, вядома, не ў фактах яго сціплага жыцця, якія вычарпаць ды падлічыць не надта цяжка...

Апошняя наша сустрэча была такая ціхая і светлая. І — перш за ўсё — яна тады аніяк не здавалася нам апошняй.

Перад вялікімі чыстымі вокнамі новай хаты, пабудаванай яго наймалодшым, Жэнікам-трактарыстам, у агародчыку, дзе былі кветкі і яблыня, на яблыні гэтай зязюля збірала вусеняў. І зусім не баялася нас. Пашалясцела ціхенька, паператётвала з галінкі на галінку і махнулася шэрая — паляцела далей, у іншыя сады і

агародчыкі. Такая звычайная, будзённая, нібы артыстка, якую пасля яе паэтычных, аддаленых сцэнай «куку» сустрэнеш у магазіне з авоськай.

Мы з хросным сядзелі на суседавай лаўцы, цераз вуліцу, і штосьці сонечна гаварылі, а можа, і маўчалі больш, таксама сонечна.

Ён любіў кветкі, галубоў, гусей. Калі гусі, сказаўшы «цвяроза», гэта смачнае мяса і мяккае пер'е, дык галубы і кветкі, адны ў падстрэшшы ці ў палёце, а другія ў агародчыку ці ў вазонах,— гэта ўжо толькі паэзія. Дый з гусямі таксама.

Каля Ніжніх Байдуноў цячэ, ледзь прабіраецца па пашы безыменная рачулка. Старыя ў маім маленстве людзі казалі, што раней, на іхняй памяці, рачулка была рэчкай, мела імя і ў ёй купалі валоў, таксама ўжо, як і яна цяпер, гістарычных. Цяпер на рачулцы экскаватар выкапаў вадаём, для гусей ды качак не мелкі. Над гэтай вадою, як у народнай песні, расце вярба, а пад вярбою, куды старэйшай за вадаём, у цяньку на траве часта сядзіць, як той патрыярх Аўраам пад мамврыйскім дубам, адпачывае «во время зноя дневного» мой хросны Рафалак. На старасць ён амаль аслеп ад шыцця, ужо толькі гусі пасе. Белыя гусі з жоўтымі гусянятамі. І памагаюць яму дзве маленькія ўнучкі, якіх каля вады трэба пасвіць куды пільней, чым гусянят. Пад вярбу ён іх, унучак, то гукае, то прыманьвае казкай. А ў адзіноце то думае, то не думае, то спявае, калі спяваннем можна назваць той песенны шэпт, за якім у душы тваёй гучыць, нячутная для іншых, песня.

...Пазней, зімою, яго кароценькую труну неслі на змену чатыры сыны, уключаючы хрэсніка, тры пляменнікі і два братавы ўнукі,— усё мужчыны ды юнакі. Гэтаю сілай мы і хавалі яго пад соснамі. Нібы дзіця. Такая была труна, такая яма і такое адчуванне.

Нават на той чыгуначнай станцыі, дзе я ўбачыў яго ўпершыню і ўпершыню засмуціўся, што адразу ж і страціў, бо ён не вернецца з-за той белай сцяны, хросны здаваўся найменшым сярод усіх вялікіх, а праз гэта і *найбліжэйшым зверху*. Толькі, вядома, пасля мамы і таты, хоць яны ўжо тады і не бралі мяне на рукі.

Калі я вярнуўся з палону, пасля першай вялікай разлукі з усім родным, хросны здаўся мне яшчэ меншым, чым быў заўсёды. Ён, радасна заплаканы, хацеў мяне абняць, і мне прыйшлося нізка нагнуцца.

Ад усяго царкоўнага, калі яно і было ў мяне хоць у зародкавым, прыўнесеным стане, даўным-даўно нічога не засталося, слова «хросны» заўсёды было толькі прывычным азначэннем старэйшага друга, па-бацькоўску блізкага, бездапаможна чыстага чалавека. Нават малога, як дзіця.

У той марозны дзень на заінелых могілках адчуванне гэтае было асабліва ясным. І светла, хоць і праз горыч, думалася, што чым далей я ад'язджаў ды адлятаў ад найбліжэйшых на Зямлі мясцін, тым лепш, радней, чысцей ён бачыўся здалёк.

*1974—1975 гг.*

# ЗОЛАК, УБАЧАНЫ ЗДАЛЁК

Думаю пра сябе, і гляджу на яго. Думаю пра яго — і самога сябе раскрываю.

*М. Прышвін*

## 1

Рака шырокая, пакуль што чыстая, трыснёг, лаза і асака абноўлена зялёныя, сонца зноў, як штогоду, грэе па-летняму, і ліпа ў самай квецені, гудзе ад цямна да цямна. Сяджу пад ёю ў халадку, і гуд пчаліны люба пяе ад высокай травы, да якое звісае духмянае голле, і ў самае неба, ажно тая ліпа варушыцца ўся. Пчол, паважаючы працу, баяцца не трэба. Можна зблізку паназіраць, як яны робяць сваё. Бясконцае, нястомнае і вельмі важнае.

Ліпа тут, над ракой, на ўзлессі, не адна. З палянай, дзе пачынаецца белая грэчка, стаяць яшчэ чатыры такія красуні, таксама ў шчодрай духмянасці і неабсяжным гудзе.

На адной з дзвюх бліжэйшых ліп хаваецца ў кроне буслянка. Мноства разоў на дзень жыхары яе зверху абмахваюць бела-чорнымі крыламі зялёна-залацісты гуд, то асядаючы на гняздо, то зноў узлятаючы. Сям'я з трыма падлеткамі, што яшчэ чарнадзюба хекаюць ад спёкі і, стоячы ў гняздзе, з трывожнай цікаўнасцю разглядаюць бліжэйшае наваколле. Дрэвы, раку, траву, будынкі леснiковага двара, чырвоныя, сінія, жоўтыя скрыначкі вулляў — усё, над чым так добра і так яшчэ боязна планіраваць на няўпэўненых, радасных крылах. Далей за ракою — лугі, за імі каласіста-спелыя прасторы палёў, якія цяпер, амаль апоўдні, у парнай смузе. У другім баку, за леснічоўкай, зялёнае мора хвойных і лісцяных вяршыняў — пушча. Ды ўсё гэта для буслянят — тое «вельмі далёка», што яшчэ будзе ў вялікім, хвалюючым іхнім «пасля».

Ад новай хаты з ашклёнай верандай, з кветкамі ды слоікамі суніц у вялікіх чыстых вокнах, з тэлеантэнай над шыферным дахам па сцежцы ў траве ідуць да ракі

дзве дзяўчынкі. Большая з доўгімі чорнымі косамі, у стракатай суkenачцы не да каленяў, голыя ногі, рукі і твар хораша загарэлі. А меншая, светлая, што пацешна тэпае перад большай, загарэла-голенькая ўся, да поўнай святасці без крыльцаў.

Недзе далей ёсць яшчэ два галышы — яны нядаўна таксама прыйшлі па сцежцы да ракі. Хлопчыкі з горада — блізняты, «купленыя оптам».

Так мне толькі што гаварыла іх цётка, маладая вясёлая леснічыха, маці дзяўчатак.

— Яны там купляюць у горадзе, не тое што нам тут буслы, дзякуй богу, прыносяць.

— Малавата купляюць,— сказаў я.

— Грошай, відаць, у абрэз.

— Дый вам не надта носяць. Буслы з бусліхамі. Хоць і за так.

«Бусліха» Яня звонка смяялася — грудзі шчодра трасліся, зубы чыста блішчалі. Пасля ўздыхнула:

— Ой, Міхайлавіч! Хоць бы нам гэтых на ногі паставіць. Цяперашнім светам. Тома ўжо ў трэці пойдзе, а Натка такое ж яшчэ горкае дзіця...— Зноў засмяялася.— Учора плакала, чаму ў яе няма пісунчыка, як у Андрэя з Валеркай. Во як! Дурное яшчэ.

Яна пайшла, а я яшчэ ўсё весела маўчу. Бо меншая леснічаначка, колькі б мы [redacted] ёю разоў на дзень ні сустрэліся, усміхаецца мне ці то ўжо сарамліва, ледзь не па-дзявочы, ці то неяк зусім па-даросламу асэнсавана і шматзначна. Скажам, учора, калі я застаў іх, голенькую тройку меншых, без Томы-наглядчыцы, у пяску над ракою. Залатая галоўка, Наташа, усміхнулася крыху спадылба, і вачыма, і губкамі, і па-сталаму растлумачыла нам:

— Гуляем тут.

Нібы яна, трошкі старэйшая за дваюрадных брацікаў, адказвае за іх і рада, што ўсё ідзе ладам.

Бог мой! — больш за паўвека таму назад была ў мяне такая самая сяброўка, мала старэйшая за Наташу, але з вельмі ж падобнай усмешкай...

Недзе ў далёкай, незнаёмай мне Ліепаі ўжо таксама, калі жыве, пастарэла калісьці светленькая Тоня Латышка, у дзеда якое была перад хатай вялізная ліпа, адна з трох на ўсе нашы Аўсянікі.

У дзеда было таксама імя і прозвішча, аднак яго называлі Прочым, ад рускага «впрочем», якое ён пры-

вёз у маладосці з горада і паўтараў залішне часта, з важнасцю. А маленькую Тоню празвалі Латышкай таму, што бацька яе і сапраўды быў латыш. У першую сусветную вайну наша вёска два з палавінай гады лічылася прыфрантавой, кіламетраў з дваццаць на ўсход ад акопаў, і ў ёй было людна ад салдатні. У дзеда Прочыма быў адзін сын, Цімох, і тры дачкі, меншая яшчэ падлетак, сярэдняя так сабе, нават таўкачаватая, а найстарэйшая з усіх дзяцей, Надзя, была прыгожая і трохі ганарыстая, бо яшчэ і шыла на машыне. Яна ўпотай злюбілася з адным салдатам, латышом, часць якога пасля раптам некуды перавялася, нават ноччу. Спачатку той Франц, што і паехаў не развітаўшыся, пісаў, а потым і пісем ужо не было. З ганаровай Надзі хто за вочы, а хто і ў вочы смяяліся, некаторыя аж надта задаволена, а Тоня — па тагачаснаму акрэсленню — з'явілася на свет незаконна: байстручкай.

Прочымава ліпа, першая ліпа ў маім жыцці, была не проста вялізная,— яна была непараўнана большая за ўсе тыя ліпы, якія мне потым давялося бачыць у многіх вёсках, гарадах, лясах і парках вялікага свету. Яна таксама соладка пахла, і звонка гудзела ад халадочку зямлі да бясхмарнага неба, і ўся аж варушылася ад пчол. Але, у адрозненне ад гэтай, што над ракою, яна была тады яшчэ і страшная. У садзе ў Тоніната дзеда стаяла некалькі вулляў, яны былі кожны на розны колер прыгожыя, і таксама страшныя — не падысці. Удзень усе пчолы гудзелі на ліпе,— бясконца многа іх, і кожная пякучая, ажно вочы запухнуць, калі джыгане.

Тоня пчол не баялася. І ў той наш дзень яна мне сказала на вуліцы:

— Хадзем, Юрык, да нас — я паабедаю, тады пойдзем да вас — ты паабедаеш.

Так яно ў нас, малых, было заўсёды. Каб я сказаў раней, пайшлі б да нас, а то ж яна сказала першая. Зрэшты, мне сёння захацелася пайсці спачатку да іх, і я не стаў камандаваць, а адразу згадзіўся.

Стаяла спёка, аднак мы, малыя, не распраналіся дагала, бо гэта было тады брыдка. І за рукі мы з Тоняй не браліся — проста ішлі, нават не побач, бо я, хоць і баяўся пчол, быў першы. І заскак брамкі я адчыніў, і не спяшаўся, не бег — ні ў цяньку пад ліпай, ні зноў на сонцы, уздоўж высокай прызбы, яшчэ ўсё сцяўшы-

ся ў душы ад сцішнаты, усё чакаючы, што вось которая, нарэшце, прыбзыкне да лба... да карку... пекане... Дзверы ў сені таксама я адчыніў, а зачыніўшы іх за намі, апынуўшыся ў халаднаватым пад босымі ножкамі прыцемку, павесялеў: небяспека мінула!

У хаце мы... Не мы, а я не павітаўся з Тонінай мамай, моўчкі ўвайшоў, а Тоня яшчэ ад парога сказала:

— Мамо, дайце мне есці.

Праз некалькі год, калі я ўжо быў падлеткам, а Тоніна мама яшчэ ўсё незамужняя і, на сённяшні мой лік, маладая, гадоў трыццаці, яна мне бачылася кралюняй. А малы я не думаў пра гэта: проста Тоніна мама, толькі што маладзейшая за маю.

Тоніна мама сядзела каля акна і шыла на ручной машыне. Калі мы ўвайшлі, яна перастала шыць і павярнулася на зэдліку да нас. А калі Тоня папрасіла ў яе есці, яна не ўстала адразу, а толькі ўсміхнулася і сказала:

— А чаму гэта толькі табе? А Юрыку не дамо?

Я добра памятаў, што есці ў чужых не трэба, і адказаў:

— Я не хочу. Я дома наемся.

Гэта быў яшчэ не абед, і Тоніна мама ўнесла з кухні кубак малака, а хлеб, як і ў нас, ляжаў на краі стала, пад белым кужэльным настольнікам. Не цэлы бохан, а паўбохана.

— Хлеба, Юрык, ты адкрой. Нож там,— сказала Тоніна мама, а сама, зноў усміхнуўшыся, прысела да свае машыны.

Кроіць хлеб у нас дома было каму без мяне, і тут гэта быў нечаканы і вельмі прыемны давер. Як вялікаму! Я ўзлез з каленьмі на іхнюю лаву, адгарнуў чысты настольнік, узяў той цяжкі акраец, левай рукой прыгарнуў яго пукатасцю да жывата, правай узяў стары, сточаны нож з драўлянымі тронкамі і, прыцяўшы ніжнюю губу зубамі, затаіўшы дых, нават трохі надзьмуўшыся, адкроіў першую лустачку. Падаў яе Тоні.

— Вашы, Юрык, на сена паехалі? — спыталася Тоніна мама, яшчэ не пачаўшы шыць.

— Ыгы, паехалі,— гаварыў я, кроячы другую лустачку.

— А ты дамаўнікам? І не баішся, Юрык, адзін?

Я ўжо тым часам еў тую, другую, лустачку, жаваў нячорствы, смачны хлеб і гаварыў:

— Я не баюся. Я і тады яшчэ не баяўся, і цяпер ужо не баюся.

Тоніна мама глядзела на мяне. З тою самай усмешкай.

— Ты ўжо, Юрык, вялікі.

І тут я схамянуўся, што жую не свой, а іхні хлеб!..

Гаварыць «добры дзень», «дзякую», «памагай бог» нас яшчэ ўсё вучылі, а слова «выбачайце» мне пакуль што не даводзілася гаварыць. Я хутка дажоўваў, глытаў, і мне было сорамна — хоць ты плач або з хаты ўцякай... Я палажыў іхні акраец, побач нож і накрыў іх настольнікам. Хацеў і з лавы іхняй устаць, але Тоніна мама сказала:

— Юрычак, еш! Не саромейся! Вы ж з маёй Тоняй так дружыце. Еш! Я ж казала — і малака налью.

Яна ўстала ад машыны і ўжо хацела ісці ў кухню, але я, напярэсцігі ёй, закрычаў:

— Я не буду, не буду! Не хачу я есці, гэта я так!

У гэтым «так» было тое, што і хлеб вельмі смачны, нават пахам сваім, што і загаварыўся я, што і есці ўжо хачу таксама, а тут я — толькі з Тоняй за кампанію, забыўшыся. І ў крыку маім было столькі рашучасці, што Тоніна мама спынілася, а потым села і, зноў усміхаючыся, сказала:

— Дружы́це, Юрычак. І ты хлопчык харошы, і Тоня мая. Як жаніх і нявеста.

Тоня не пырхнула малаком, не засмяялася,— яна толькі ўсміхнулася па-свойму, крыху спадылба, вялікімі блакітнымі вачыма і губкамі ў малаку, сур'ёзна і сарамліва адразу. Гэта я сёння так хораша бачу тую ўсмешку. А таго, што сказала Тоніна мама, тады было ўжо зашмат. Я глядзеў на гэтую цётку Надзю — на чысты, незагарэлы твар, на вясёлыя вочы пад чорнымі бровамі, на поўныя, румяныя губы, якія так добра ўсміхаліся, і мне прыгадалася, як маёй маме расказвала цётка Анэта, наша суседка:

«А той латыш, той Франц яе, мужчына быў відны, спакойны такі, адно ўсё гаварыў: «Надзезда мая ха-ро-са-я...» А вось жа ўзяў ды пакінуў!»

Добра гэта ці не, што ён пакінуў, я не разбіраўся, мне толькі прыгадалася: «мая ха-ро-са-я...»

Што я сказаў бы, што зрабіў бы далей — не ведаю. Выручыла Тоня.

— Яшчэ адрэж, Юрык,— сказала яна.

І зноў усміхнулася так, як быццам мы абое сталыя ўжо і добра, шчасліва ведаем, чаго ўсміхаемся.

Як цяпер леснікова Наташа.

## 2

Сябравалі мы з Тоняй Латышкай нядоўга.

Адна з дзвюх яе цётак, маладзенькая рагатуха Люба застала нас на блізкасці, што здалася ёй вельмі смешнай. Неяк, гуляючы ў іх на двары, калі ўжо пчол на ліпе не было, а вуллі стаялі воддаль, за плотам, мы з Тоняй адышліся да хлява і з малечай свабодай пачалі кожнае на свой лад...

А Люба тая выйшла з сяней і давай:

— А во, і не брыдка, жаніх і нявеста! А во!..

І так смяялася, вясёлы шаламок, што я пабег дахаты і ледзь не плакаў, а Тоня, я чуў, уцякаючы, плакала ўголас... З таго дня мы пакінулі разам гуляць, хадзіць адно да аднаго. Пакуль не падраслі і дружба наша не стала трохі іншай. Ужо калі мы пасвілі і ў школу пачалі хадзіць.

Царскі салдат Франц Бікша, колькі там наша вёска ні гаварыла, пра сваю «харосую» не забыўся. Пасля «мікалаеўскай» вайны і «свабоды», як называлі ў нас рэвалюцыю, зноў пасля вайны, з палякамі, калі, нарэшце, усё аціхла, усталяваліся граніцы і пачала хадзіць пошта, латыш даведаўся, што яго беларуска не толькі не выйшла замуж за іншага, але і дзяўчынку гадуе, іх дачку, якая нарадзілася добра такі пасля таго, як іх разлучыў яго салдацкі лёс. Франц пісаў часта, многа прасіў «Надзезду» прыехаць у яго Ліепаю, дзе ён, адзін у бацькоў, мае кватэру, добра зарабляе на заводзе і ўсё чакае яе. Аднак ні Надзя, ні сямейнікі, хоць Прочым і пабываў у горадзе, не змаглі асмеліцца на такое незвычайнае,— не паехала яна «невядома куды», за граніцу, не паверыла Францу настолькі, каб узяць ды назаўсёды парваць з родным гняздом, хоць у ім ужо рабілася цесна: ажаніўся брат, і братавая ледзь не з ходу пачала выяваць за поўную самастойнасць. Малодшыя сёстры, нават таўкач Параска, а потым і рагатуха Люба павыходзілі замуж, дзед Прочым ішоў на спад, Тоня расла, а сама яна, Надзя не маладзела з году ў год,— прыйшлося падумаць і пра сябе з дач-

кой. Латыш чакаў, чакаў дый напісаў, што ажаніўся, і толькі вельмі ўжо ўпрошваў сваю даўнейшую «харосую» аддаць, пусціць да яго Антаніну. Дарма, не пусцілі. Гадоў пад сорак Надзі знайшоўся нямоглы, бяздзетны ўдавец, і яна перайшла туды з Тоняй, якой было ўжо каля дваццаці.

Тады, пад канец трыццатых гадоў, з нашых Аўсяннікаў, як і з кожнай заходнебеларускай вёскі, ад нядолі не было куды ўцякаць. Не тое што раней, няхай сабе і пры цару,— хочаш у тую Адэсу-маму, а хочаш, дык і ў самы Піцер. Туды дарогі былі перакрыты недарэчнай, незразумелай граніцай, а ў іншы бок, на захад, куды ад нас ніколі не ездзілі, можна было паехаць ці навабранцам у войска, ці — «за палітыку» — у турму, а калі ўжо на заработкі, дык ці ў маёнтак за сыравара або за парабка, а дзяўчыне — за наймічку да багацея ў суседнюю ці ў далейшую вёску або ў мястэчка, да гандляроў-яўрэяў. Хто смялейшы, тыя ад беднасці кідаліся і ў свет вочы — вербаваліся ў Аргенціну, у Францыю, у Парагвай. А потым найбліжэйшай заграніцай стала Латвія, якую — ад сумесі з польскай назвай: Лотва — вёска называла Лàтвай. На тых заможных ды культурных хутарах яны ўжо так стараліся, так шчыра працавалі, нашы хлопцы і дзяўчаты, ад беднасці залатыя работнікі. Дзяўчаты прывозілі з Латвы ці швейныя машыны, ці так капейку на пасаг, хлопцы — грошай на хату, каб аддзяліцца, сяк-так пачаць сваю гаспадарачку.

І Тоні, падчарыцы, без надзеі на больш-менш людскі замуж, не цяжка было, нарэшце, згадзіцца на ўгаворы бацькі, якога яна ведала па здымках ды па пісьмах, цяпер ужо толькі да яе адной, з прывітаннямі маці.

Вясною ў 1938 годзе яна — не па-мясцоваму бялявая, высокая і ціхая, міла наіўная работніца — ішла з канца ў канец роднай вёскі, ад тое хаты, дзе яна марна жыла пры маме з яе старым, бурклівым кашлюном, да тое хаты пад векавечнаю ліпай, дзе прайшло яе, не горшае, чым у іншых, маленства і дзе цяпер жылі, абкідаўшыся дзецьмі, цялюкаваты дзядзька за злоснай дзядзінай, сама сабе гаспадыняй, бо ўжо і свёкар, дзед Прочым, памёр. Ішла Тоня Латышка па вуліцы і з усімі, каго сустракала, развітвалася — упершыню і апошні раз за руку.

— Да таты еду, у Латву,— гаварыла яна і як быццам апраўдвалася сваёю, ад нараджэння сталаю, светлавокаю ўсмешкай крыху спадылба: — Усё ж такі бацька.

Так і са мною развіталася. Я якраз выйшаў на вуліцу.

Потым, пэўна ж, і ўспаміналa таксама, а то і цяпер яшчэ калі-небудзь успомніць вялізную дзедавую ліпу і нашу маленькую светлую дружбу.

Так, як і я ўспамінаю.

## 3

Нічога не зробіш — ужо не толькі наогул, але і пасля перамогі над Гітлерам пражыта так многа, што мне часамі хочацца перанесціся нейкім цудам з вялікага, шумнага горада ў наша старое гумно — якога, дарэчы, даўно ўжо няма,— легчы на свежым сене і ў той непадаўнай цішыні, толькі пад роўны шум аблажнага дажджу ды пад дзяціны шчэбет ластавак, спакойна і грунтоўна перабраць у памяці ўсё...

Якое там усё,— ужо нават тое хочацца толкам прыпомніць, як гэта дзеці твае былі *калісьці* малыя... А што ўжо казаць пра самога сябе, пра сваё... ужо нібы спрадвечнае маленства.

Яно прыходзіць калі-нікалі неверагодна прыгожымі снамі. Адзін такі паўтарыўся ў мяне... ну, не раз ужо і не два. Вельмі проста, як быццам успамін які. Пасля гвалтоўнай навальніцы на нашым неабсяжным выгане,— у маленстве ж усё нам здавалася большым,— на пашы, яшчэ смачней пазелянелай пасля дажджу, пад майскім сонейкам, яшчэ святлейшым пасля нізкай, грукатлівай хмары, на густой, маладзенькай траве ў лагчынках стаіць вада. Яна — толькі што з неба, і так яе многа навокал у лужынах, а сам ты, як гэта ў сне бывае, *чамусьці* сухі. Вада такая цёплая, празрыстая, так весела, так добра плёхаць па ёй, нарэшце, босымі пасля зімы, яшчэ не паколатымі ржышчам, нагамі, так цікава спыніцца ў гэтай незвычайнай лужыне, заціхнуць і праз зусім-зусім празрыстую ваду глядзець, як у густой, залітай траве, сярод лісточкаў ды сцяблінак рэдкімі зоркамі жоўта цепляцца кветачкі курасле пу.

Бачыць самога сябе з вялікай адлегласці бывае

вельмі прыемна. Бо бачыш не проста самога сябе, а сябе найлепшага, без памылак-грахоў і балючых дакораў сумлення. Бачыць сябе *таго* — дапытлівага, чыстага, вясёлага — выразна бачыць, дзякуючы даравамай узростам ды вопытам дальназоркасці, мудра асцерагаючыся залішняга самалюбавання, прэсна расчуленага на старэчы лад,— тут адчуванне незвычайнае, крыху падобнае да таго хвалявання, з якім разглядаеш ніколі дагэтуль не бачаны твой вельмі даўні фотаздымак, які ў кагосьці нейкім цудам захаваўся.

Тым больш хвалюе гэта, што на здымку ты не адзін, а з тымі, з кім табе добра было, каго так радасна ўспамінаць.

...Вось яно едзе, маё маленства, на нашым гнедым кані, з мамай і нашым Раманам на возе, у передку якога, спіной да каня, сяджу я — трохі сам, а трохі мой, цяпер прыдуманы, літаратурны герой — усё ў адной асобе. Асобе гэтай шосты год, той узрост, калі на пацеху табе хтосьці добры часамі весела скажа: «Вунь ты які ўжо герой!..» Ён сабе, гэты смаркаты герой, едзе па пыльным, шырокім гасцінцы, ужо ў канцы летняй святочнай раніцы, калі той дзень неўзабаве пяройдзе ад свежага, звонкага халадку да нуднае, потнае спёкі, ён сабе едзе... значыцца, я сабе еду, і мне вельмі добра. Гнеды тупае шпарка, з горачкі нават трухціць, аднак наш Раман, намнога старэйшы за мяне мой брат па бацьку, час ад часу ўсё ж падварушвае яго ляйчынай. Мацней ляпнуўшы па конскім баку і сцягне, старая, няжорстка сырамятная ляйчына значна слабей, нібы між нішым, кранаецца майго пляча. Раман і мама не заўважаюць гэтага, а мне прыемна, што я ўжо таксама вялікі і мне не баліць. Раман і мама гавораць пра штосьці сваё, дарослае, я гэта чую — не чую. Я перш за ўсё і больш за ўсё шчаслівы, што еду, і еду вельмі далёка. І вельмі незвычайна гэта, што ўсё навакольнае раскрываецца мне не так, як заўсёды, спераду, а з'яўляючыся адразу злева і справа, наплываючы з-за спіны. То поле абапал гасцінца, то луг, то старыя карэлыя бярозы і шырока-цяністыя клёны прысадаў, то танкастволы і пярэсценькі гушчар бярозавай кудзеркі гаю на ўзгорку, то хаты, і платы, і дрэвы, і куры, што купаюцца ў пяску, і людзі, што сядзяць на лаўках, абапал вясковай вуліцы, то зноў поле, і луг, і бярозы...

Лета далёкага 1923 года. Зноў вялікае падарожжа,

другое пасля вяртання з бежанства, якое, зрэшты, малому помніцца даволі цьмяна і абрыўкамі і ўжо за два гады шмат у чым перакрылася свежымі, яркімі фарбамі і гукамі новых, вясковых уражанняў. Па тым, дзіцячым, вымярэнні часу, два гады — вельмі многа. Пасля вялікага падарожжа ў таварным вагоне мяне на доўгі час — на цэлыя два гады! — замкнулі ў маленечкім на ўсёй Зямлі, але ж вялізным для дзіцяці свеце. На поўдзень ад цэнтра гэтага свету — ад нашай хаты, двара, агарода і прыгумення — быў пастаўнік, а потым шырокі гасцінец — мая граніца, цераз якую перайсці без дазволу, з большымі дзецьмі, мне давялося дагэтуль раз ці два. На ўсход, за апошнімі хатамі вёскі, быў выган, за ім — вялікая кругліца поля і той далёкі луг, куды мяне аднойчы бралі на сенаванне. На поўначы, за полем, была суседняя, найбліжэйшая вёска, Рута, адкуль наша мама, дзе жыве яе малодшы брат, дзядзька Алесь, які часта прыходзіць да нас, і куды я з мамай некалькі разоў хадзіў. На захад еду я толькі цяпер, упершыню, еду ў далёкі свет, кажуць, за дзевятнаццаць вёрст, у тыя таямнічыя Яры, таксама вёску, з якое да нас, толькі летась вярнуўшыся з бежанства, разоў некалькі прыязджала цётка Аксеня, маміна сястра, малодшая і за дзядзьку Алеся.

— Што, пасажыр, нацешыўся?

Раман смяецца, гледзячы на мяне. А мама, пакуль я паспеў адказаць, пацяшае:

— Яшчэ тры вярсце.

Мы ехалі, ехалі па ўзбоччы гасцінца, а потым Раман сказаў:

— Ну, пасажыр, трымайся!

Воз павярнуў у той бок, дзе мая правая рука, потым ён раптам шухнуў уніз. Трымаўся я за сена пад сабой, але ўсё роўна адкінуўся на спіну і над сабой спалохана ўбачыў неба. Потым воз ірвануўся ўгору, я зноў убачыў маму і Рамана. Мама працягнула руку, схапіла мяне за запясць і пасадзіла. Воз зноў пакаціўся роўна. Цяпер направа ад мяне вельмі блізка хілілася да нас калоссе жыта, а налева была нізкая пакоша. Мы ехалі па ўзмежку лугавой дарогай. Пасля жыта пайшоў авёс, і над аўсом я ўбачыў штосьці незвычайнае...

Нейкая чорная, вялізная капа, непадобная на копы сена, несамавіта ўзвышалася над сіва-зярністаю зялёнінай аўсянага поля.

— Мама, што гэта?

— Гэта? — перапытала яна.— Гэта калючы дрот.

Я ведаў дрот — ім абгароджвалі поле ад пашы, нацягвалі на нізкіх слупчыках адну бясконцую калючую драціну; ім адгароджваліся, у некалькі драцін, да суседняга агарода. А гэта?

— Чаму такі дрот?

— Што тут табе сказаць? — за маму адказаў Раман.— Тут нядаўна праходзіў фронт. Вайна была. Такія провалачныя заграждзенія. А цяпер іх сцягнулі, у копы сабралі. Потым забяруць. Во, зірні — яшчэ адна. Не туды, на пакошу глядзі.

Спачатку мне, як я ні стараўся, не ўстаючы, выхіліцца з-за конскага зада, нічога не было відно, а потым паказалася, зусім ужо блізка, вялізная, чорна-карычневая калючая капа, наматаная з дроту, як недарэчна кантовы клубок.

— Ужо і заржавеў не адзін раз. Мо і крыві было на ім...

— Раман, не трэба так пры дзіцяці.

Яны памаўчалі. А потым зноў паказалася незвычайнае. Над полем, справа ад мяне, дзе ўсё было то жыта, то авёс, то зялёная бульба, то зноў жыта, то яшчэ адна драцяная капа, пасля з'явілася высозная будыніна. Не як гумно, не з дрэва і не з высокаю саламянай страхой, а як царква, але і не царква, бо без сіняга купала, як у тых Мілтачах, цераз якія мы праязджалі, а неяк дзіўна зверху абламаная. Я не паспеў спытацца, што гэта, бо тут наша мама сказала, гледзячы туды ж, куды і я:

— І цэркаў святую нехрысці не пашанавалі. Трэба ж так збіць!

— З цяжолай арцілерыі,— растлумачыў Раман.

Зноў невядомае, зноў хочацца спытаць: «А што гэта? А хто?» Ды тут наш Гнеды спыніўся, і я адразу ж пачуў, як ён за мной, за плеценай сценкай палукашка шчодра цурболіць на зямлю. А Раман яшчэ і падсвіствае.

— Устань, можа, Юрык,— сказала мама і падала мне руку.— Твае і ножкі, мусіць, памлелі.

Ух ты, як здорава!.. Я стаяў на нашым возе, і ніхто мяне не трымаў, а навокал было так далёка відаць. Там, дзе за полем тырчала тая абламаная царква, былі яшчэ стрэхі будынкаў і дрэвы. Вёска. А на другім баку,

за пакошай з рэдкімі, але вялікімі чорнымі копамі дроту, было зелена трохі інакш, і мама мне адказала, што гэта ўжо яроўская паша. А на той пашы воддаль стаяў задзёрты ўверх шэры кручок над нейкай шэрай скрыначкай, побач з якой працягнута шэрая палоска. Я здагадваўся, што́ гэта, бо яно і ў нашай вёсцы ёсць, але ж мне было вельмі добра так во стаяць, зверху глядзець на ўсё, пра ўсё пытацца, і я спытаўся:

— А там вунь што?

— Не дурыся,— усміхнуўся Раман.— Сам добра бачыш, што гэта калодзеж ■ вагой і карыта.

— А там? — паказаў я на жоўта-зялёныя ўзгоркі за зелянінаю вялікай, роўненькай пашы.

— Там ужо Яры,— сказала мама.

— Там, дзе Люда жыве?

— Там, там.

— Там, дзе наш певень жыў?

— Ат, бэйбус! Песцішся, як малое. Садзіся вот, бо паляціш.

Гнеды наш зноў затупаў, нават ужо ахватней. Ды я паспеў плюхнуцца ў перадок, у ямінку ў сене, не паляцеў на зямлю.

Зімою цётка Аксеня прывезла нам залаціста-чырвонага галагуцкага пеўня і цэлую торбу гароху. Гарох быў буйны і смачны, яшчэ не сухі, бо толькі што абмалочаны. Добра было глыбока запусціць руку ў тую белую торбу, адчуць, як халадок варушыцца між пальцаў. А пеўню развязалі ногі, ён гупнуў з цётчыных рук на падлогу, і мама сказала: «Во жарабец!» Не паспеўшы спытацца, ці можна, я сыпнуў яму жменю гароху. Гарошыны спружыніста падскочылі ўраздроб і раскаціліся па чыстых, учора пад вечар вымытых дошках падлогі, хто да парога, а хто і пад ложак. Певень спачатку спалохаўся, а тады пачаў стукаць сваёю дзюбай па дошках, і вясёлыя гарошыны адна за адной знікалі ў яго вялікім, залацістым валляку.

— Пад печ ганіце,— сказала цётка,— а то ён тут вам і падзякуе на чыстае.

А вясной, на вялікдзень, цётка Аксеня прыехала ўжо не адна, а са сваім чорнабародым Міхаілам і з іхняй Людай, маёй дваюраднай сястрой. З Тоняй Латышкай я тады яшчэ не дружыў, і з Людай нам было так весела, мы так многа бегалі, смяяліся. На двары і на вуліцы было ўжо амаль усюды суха, у садзе нават рас-

ла ўжо трохі трава, і я паказаў маёй госці, як мы з хлопцамі пазаўчора куляліся, убачыўшы першага бусла.

— Гэта трэба вось так,— тлумачыў я, хоць Люда і старэйшая на цэлы год,— калі ён прыляціць, дык трэба так вось перакуліцца.

Важна было паказаць. Я ўкленчыў на рэдзенькай траве, прыгнууся лобам да сырой зямлі, упёрся ў яе рукамі і, падбрыкнуўшы, кульнууся. Карак трохі балеў, і лоб зямлёю замазаўся, аднак я быў на вышыні.

— І на́сі хлопцы куляюцца,— сказала Люда.— А мы, дзяўцяты, не.

Яна, хоць і старэйшая, а трохі шапялявіла, і не з пястоты, а так выходзіла. І смешная была, вясёлая. Сказала чамусьці і так:

— Ты, Юрык, мой дзядзька. Не брацік, а дзядзька. У цёткі Ганны ты сынок, а я ў яе ўнуцька-суцька.

І засмяялася, і пабегла. А я — за ёю.

## 4

На тых узгорках, якія градой узвышаюцца за вялікай пашай, там дзе ў глыбокай даліне хаваецца Людзіна вёска Яры, там і далей на поўдзень і поўнач *калісьці* была нямецкая лінія. З верасня 1915-га да студзеня 1918 года на гэтай лініі стаяла «ў стратэгічнай абароне» войска баварскага прынца Леапольда, генерал-фельдмаршала. Амаль таксама, як і ўся нямецкая армія, з агаворкай пра ўсебаковую і нязменную перавагу прусакоў, баварцы, хоць у асноўным ландвер ды ландштурм, пажылыя апалчэнцы, былі загадзя добра абучаныя, узброеныя найнавейшай тэхнікай і культурна ўбетаніраваныя ў зямлю. Як сведчыць «душа германскага генеральнага штаба» Эрых фон Людэндорф, пазней адзін з галоўных настаўнікаў Гітлера, баварцы былі да таго ж на належным узроўні «eisener Fleiß», незвычайнай, нястомнай, даслоўна — жалезнай руплівасці на службе кайзеру і фатэрлянду.

Слова «калісьці» падкрэслена мною цяпер, з гістарычнай дыстанцыі. А ў той далёкі дзень майго шчаслівага падарожжа, у разуменні і адчуванні мамы і Рамана і ўсіх дарослых людзей, той руска-нямецкі фронт, тая вайна — была зусім нядаўна. Бо на немцах яна не

закончылася: пасля іх была «свабода», потым белапалякі, тады бальшавікі, зноў палякі, якія і ўсталяваліся ў нашых мясцінах са сваімі панскімі парадкамі, якія пасля «свабоды» былі працоўным людзям вельмі не да душы.

А мне і Людзе, да якой я прыехаў, усё такое было і недаступна, і цікава толькі па-нашаму, для гульні. «Унуцька-суцька» дома была яшчэ весялейшая, чым у нас, бо госцем быў ужо я, і ад гэтага яна стала як быццам больш, чым на год, старэйшая за мяне. Да таго ж у яе была сяброўка, Наста, зноў жа трохі старэйшая, ужо за нас з Людай абаіх, і я пры іх стаў такім, што хоць за ручку бяры. Але прыкра ад гэтага не было. Нават і тады, калі мы, нагуляўшыся на Людзіным і Насціным дварах і на вуліцы, пайшлі «сценкаю», палявой дарогай, а потым зарослай мяжой з кустамі калючай шыпшыны і апынуліся на зялёным абрыве над глыбачэзным ярам, і Наста, а потым і Люда ўзялі мяне за абедзве рукі. Яр быў такі глыбокі, што не толькі высокія густыя кусты ляшчэўніку на яго крутых схілах, але і старыя яліны на дне былі зусім унізе. Я, праўда, не дрыжаў са страху, што дзяўчаты захочуць звесці мяне ажно ўніз, але ж, прызнацца, і баяўся. Моўчкі баяўся, сам сабе, раптам жыва згадаўшы, што расказвала мама зімою. Як гэта тады яшчэ, вельмі даўно, калі цётка Аксеня ішла сюды замуж, ёй далі ў пасаг карову, і тая карова ніяк не ўмела сыходзіць у яр, пасвіцца разам з другімі на схілах. «Стане, бедная, і са страху раве. А потым яе другія каровы сапхнулі ў той роў. І прыйшлося дарэзаць...» Я, вядома, уніз пайшоў бы, калі б дзяўчаты ішлі, аднак яны мяне туды не павялі, бо дома ім было вельмі строга загадана (сам Міхаіл загадаў) гэтага не рабіць. Мне толькі зверху паказалі штосьці светлае ў зеляніне, на дне яра, побач з лапінай глiністай дарогі, дзве каляіны і конская сцежка якое зноў зніклі ў кустах. Наста сказала:

— Гэта бліндаж. Цы-ман-то-вы! Іх тамака многа. І ў гэтым рове і ў другіх.

А Люда растлумачыла:

— Там былі немцы.

Ціха сказала гэта і таямніча, нібы і страшачы, і сама баючыся...

Калі мы пад вечар, з мамай і Раманам, вярталіся дахаты, на вялікай яроўскай пашы я яшчэ вельмі зда-

лёк убачыў тую шэрую вагу над калодзежам і не тады, вядома, а потым зразумеў, што гэта яна была і засталася для мяне найбольшым уражаннем з той франтавой паласы, якую ў нас і тады называлі, і цяпер яшчэ людзі старэйшыя называюць «лініяй Гіндэнбурга».

...Шэры кручок вагі, самотны шэры журавель — адзін тырчыць на зялёным бязмежжы...

Нашы Аўсянікі, калі глядзець на іх збоку, з гасцінца, тырчалі і яшчэ тырчаць у неба высокімі, улетку густымі, зімой бязлістымі кронамі рэдкіх, вышэйшых за будынкі дрэў, сярод якіх найвышэйшыя тры магутныя, несмяротныя ліпы, пад адной [redacted] якіх жыла мая Тоня Латышка. У зямлю наша вёска ўваходзіць, умацоўваючыся, як доўгімі, тоўстымі палямі, ствaламі калодзежаў, нябачнымі збоку слупамі чыстай, сцюдзёнай вады. Адны з гэтых ствалоў даўжэйшыя, ідуць глыбей, некаторыя нават і вельмі глыбока, два найкарацейшыя называюцца крыніцамі, з іх драўляных, нізкіх зрубікаў ваду чэрпаюць проста вядром. Над калодзежамі, якія ў большасці з цымантовых кругоў, то цяжка клыгаюць, з поўным вядром, то гулліва ляскочуць, з пустым, круцёлкі з жалезнымі корбамі. І толькі над тым калодзежам, што на вуліцы, перад Суботавай хатай, вялікім крукам тырчыць у неба журавель, вага, адна на ўсю нашу вёску.

Гэта рыплівае, калі ця́гнуць ваду, а то ўсё больш маўклівае, шэрае збудаванне было для нас, малых, і велічным, і таямнічым. Нашу сталасць і сілу яно выпрабоўвала сурова і бязлітасна. Спачатку паспрабуй дацягнуцца рукой да вялікага драўлянага вядра, што вісіць на смыку. А ўчапіўшыся за тоўсты край вядра, часцей за ўсё мокры ад нядаўняга акунання, трэба ж перацягнуць вядро ў свой бок, каб потым ужо, натужна хапаючыся лапкамі за гладкі і таксама не тонкі для хлапечай жмені смык, прымусіць усю тую механізацыю задраць угару цяжэйшы канец вагі. Ён самым задам камля ляжыць на перакладзіне, а той канец, які танчэйшы і тырчыць у неба, трэба прыгнуць носам да зруба, каб вядро дайшло да вады і зачэрпала, хоць бы напалавіну. Ну, а наверх дастаць? Над зрубам не нахілішся, бо ты малы, на зрубе, на самым узмежку *таго свету*, не станеш — усё-такі страшна. Страшна, але ж і хочацца, аднаму перад адным. Таму нас і ганялі ад калодзежа — амаль усе, хто большы.

Строгая самавітасць гэтага незвычайнага збудавання парушалася толькі адзін раз у год, свавольнай купальскай ноччу.

Якое гэта было вясёлае свята, які, на жаль, кароткі вечар! Спачатку, па поўдні, кветак трэба на лузе нарваць, перш за ўсё тых, што завуцца купаллем. А хадзілі па кветкі не толькі нашы дзяўчаты, але і мы. З кветак разам вілі вянкі, вязалі крыжы і закідалі іх на стрэхі хат. Нават каровы ў той вечар вярталіся з пашы з вянкамі на рагах. А трэба ж было яшчэ прынесці з ямаў за вёскай пяску ў прыполах суконак і кашуль, высыпаць сцежкі ад хаты да хаты,— хто каго любіць, хто да каго хадзіў бы ці ходзіць. І дзецюкам, і дзеўкам такое рабілі, і самі сабе, куды вясялей, размяркоўвалі такім чынам або намячалі нашы першыя сімпатыі.

А самае важнае, чым вызначаўся гэты вечар, яшчэ было наперадзе, пра яго нам, найменшым, можна было толькі здагадвацца, хоць і ніколі не ўгадаеш, што яны вычвараюць, тыя вялікія, дзецюкі і маладзейшыя мужчыны. Гэта тады ўжо, калі нас, малечу, нарэшце, расклічуць, разгоняць па хатах.

І вось уранні акажацца, што ўсяго, чаго мы спадзяваліся, так і не ўгадалі. Ну, добра — зноў нечы комін накрылі шкляною шыбай: глядзі, гаспадыня, ад прыпека ўгару — неба табе відно, а дым туды не ідзе, увесь на хату. У кагосьці знялі вароты і з дзвюх вярэяў зрабілі на вуліцы перад хатай буду. «Укралі» чыйгосьці каня, прывязалі за чужым гумном, нават і торбу з сечкай на храпу надзелі, каб не ржаў. Яшчэ і кароў суседзям мянялі ў хлявах, а то і чужога бычка паставілі падслепаватай бабе Агаце на месца зведзенай каровы — дой. І вялікая шыльда была на хаце ў Парасчыных. Бо звяглівая, быстрая цётка Параска сама звычайна стрыгла свайго папіхача Максіма. На шыльдзе той не толькі літары выпісаны: *Парыкмахер*, але і цётка намалявана, як яна верхам на дзядзьку сядзіць, бінцы дзёжыць яго кудлачы вялізнымі авечымі нажніцамі.

Сярод усіх тых прыштукаў, за якія ніхто, каб надта, не злаваў (цётка Параска, вядома ж, уранні крычала на вуліцы), асабліва месца займала вага. Яна была адна, не на нечым двары, а на вуліцы, гуртавая, а на дадатак — на ўзгорачку, і кожны раз яе каранавалі чым-небудзь іншым. На задзёртай дзюбе то барану

павесяць старую, шаноўную, з яшчэ драўлянымі, вялізнымі зубамі, узяўшы яе ў некага з-пад страхі, то веснічкі вялікія туды ўсцягнуць, то лясныя сані без аглобляў... Для малога, ад саменькага нізу гледзячы,— проста цуд! Гэта ж табе не вянок карове на рог начапіць!..

А потым шэрая, высозная вага зноў па-будзённаму доўга, самотна тырчэла над зрубам, над вуліцай, нават над стрэхамі, над тымі дрэвамі, што ў садах.

Але не тая гэта была самотнасць, як у вагі, што так далёка ад нашай вёскі стаіць на зялёнай пустэчы...

Пазней, калі я ўжо кнігі не толькі гартаў, але мог і чытаць, тая не наша вага спалучылася для мяне з двума датуль не чутымі, загадкава незвычайнымі словамі: *венгерская пушта*... Вельмі проста цяпер разгарнуць энцыклапедычны том і ўбачыць: «Пушта, пуста (венг. puszta, славянск. паходжання) — назва стэпаў у Венгрыі». Тады ж я тыя два словы праслібізаваў пад малюнкам у рускім растрэсеным падручніку геаграфіі. Слова «венгерская» даволі доўга, а «пушта» яшчэ даўжэй чаравалі мяне сваёй таямнічасцю, абуджаючы ў прагным на новае ўяўленні цьмянае адчуванне, якое можна назваць падсвядомай патрэбай экзотыкі, да якое мы цягнемся з самага малку, як да вуголля, занурзана жуючы яго без найменшага паняцця пра неабходны дзіцячаму арганізму кальцый.

Адтуль жа, ад падсвядомай тугі па экзотыцы пазней прыйшла мая цікавасць і любоў да геаграфічнай карты з яе карычневымі, зялёнымі і блакітнымі адценнямі гор, раўнінаў і мораў ды акіянаў з іх рознай глыбінёй. Добра было разглядаць тыя карты, яшчэ больш прыемна — самому іх расфарбоўваць алоўкамі ці акварэллю. І ва ўсім гэтым быў свой глыбокі падтэкст, свая свядомая і несвядомая мара, надзея: ах, каб жа гэта і мне!.. А можа, яно і будзе?..

На ілюстрацыі ў старым падручніку была вага над калодзежам, доўгае карыта, раўніна і самотнасць — адчуванне ўжо знаёмае, што вось і набыло двайное, загадкава прыгожае імя: «венгерская пушта». Самотнасці зусім не перашкаджала тое, што пад вагою каля калодзежа былі чалавек і коні, якія пілі з карыта: я разумеў, што і вага, убачаная на чужой, далёкай яроўскай пашы, стаіць не так сабе, а каб у спёку пастухі паілі з карыта кароў. Аднак такое, праца яе, бывала рэдка, больш яна проста стаяла — адна ў чыстаполіцы...

Дома ў нас, за гасцінцам, які спачатку быў паўднёвай граніцай майго дзіцячага свету, віднеўся голы, самотны хутар, за ім прастора падсохлага куп'істага балота, тады святлейшае поле, а на полі, на ўзгорачку — яшчэ больш самотнае, здалёк маленькае дрэва. Яно таксама клікала кудысьці ўдаль, і да яго я за ўсё маё пражыванне ў родных Аўсяніках так і не выбраўся дайсці. Спачатку, па малалецтву, не змог, а потым, калі падрос і свет мой пачаў [illegible] кожным годам рабіцца ўсё большым, дрэва тое — з яго сумам ды заклікам — спакваля адыходзіла ў пераажытае, ва ўспаміны.

А да вагі на яроўскай пашы я не вытрымаў-такі, нарэшце, падышоў. Хоць і не хутка, а ўжо як быў юнаком. Да цёткі мы ездзілі не часта, але рознымі порамі года. Упершыню ўбачаную ўлетку, вагу пасля бачыў я і ў асенняй імглістай аголенасці палёў, і ў белай сцюдзёнасці адзіноты зімовай. Зімою я і наблізіўся да яе, не падышоў, а пад'ехаў, вяртаючыся з Яроў. Снегу было яшчэ няшмат, самы пачатак зімы, і кабыла весела бегла па белі, з адным чалавекам у лёгкіх санках. І ў чалавека было лёгка на душы, бо у тых Ярах, якія ён, здавалася, добра ўжо ведаў, яго спаткала рэдкая ўдача. Дзякуючы Людзе, што з шапялявай ды смяшлівай шчабятушкі вырасла на талковую і прыгожую дзеўку, я даведаўся, што ў аднаго яроўскага пажылога бывальца ды кнігалюба ёсць Рубакін, «Апавяданні пра вялікія падзеі разных часоў і народаў», кніга [illegible] багатай, прынаднай назвай, яшчэ адна кніга, пра якую дагэтуль я толькі чуў. І вось яна ўжо ў мяне пад кажухам, над поясам! Дзядзька, сябар нябожчыка Міхаіла, ахвотна паверыў, пазычыў на цэлых два тыдні, «ну, а не зможаш, дык хай сабе і трохі надаўжэй». Радасць далёка не бібліятэчная, дзе безліч шчыльна застаўленых паліц і загадкава перапоўненых кнігасховішчаў; радасць — на малады апетыт самотнага, прагнага самавука, для якога ад кнігі да кнігі няпэўныя месяцы надзеі на ўдачу і часта многія кіламетры ад вёскі да вёскі. Ад новай рэдкай удачы мне і падумалася тады: «Ну, дакуль жа я буду ўсё міма ды міма свае венгерскае пушты? Паўкіламетра збочыць, ды яшчэ на зімовай дарожнай свабодзе». І збочыў.

Тады я ўжо ведаў, нават даволі даўно, што гэтая вага на працягу двух з нечым ваенных гадоў стаяла на нейтральнай паласе, паміж акопамі рускіх і немцаў.

Ні разу за той час не зарыпела, не апусціла ў застаялую ваду выпетранага ад многіх спёкаў ды сцюжаў драўлянага вядра, не асвяжыла першым попаўзам плыні доўгае, патрэсканае, ужо нібы па-музейнаму старадаўняе карыта-дзяўбунец...

Як выбухалі тут, навокал гэтага мёртвага вадапою, снарады, гулі-сіпелі асколкі і цёўкалі кулі?.. Чаму не збіла вагі — калі не снарадам, дык асколкамі?.. Няўжо і тут было чутна хрыпатае, дзікае штыкавое «ўра»?.. А потым, можа, і тут снавалі вялыя санітары і, набрыўшы на яшчэ адзін труп, утыкалі яго вінтоўку штыком у зямлю, прыкладам высока ўгару, значачы такім чынам яшчэ адну сваю нялёгкую знаходку?..

А можа, і тут, на гэтай пашы, якая за два пустыя леты ператварылася ў шчодра зарослы, чатыры разы не скошаны луг, па густой і намёрзлай траве якога, мякка топчучы разбітымі ботамі і шалпочучы поламі збуцвелых шынялёў, ішлі насустрач адны адным людзі, нарэшце, без зброі,— [redacted] усходніх акопаў салдаты ўжо не царскія, а [redacted] заходніх яшчэ ўсё кайзераўскія,— каб тут, у першым братанні, напіцца з аднаго вядра?..

Так я думаў тады, першы і адзіны раз у жыцці пастаяўшы каля свае даўняе загадкі. Ужо не дзіця, а без двух год салдат другой вайны, яшчэ шырэй, яшчэ глыбей, страшней сусветнай, ужо без братання...

Гэтай другой вайны, якая зной жа здаецца людзям апошняй, калодзеж на пашы не перажыў, хоць і дайшоў, казалі, ад старасці. Едучы да цёткі Аксені пад восень 1944 года, пасля даўжэйшай разлукі, я ўжо не ўбачыў самотнай шэрай вагі. Аднак яшчэ праз трыццаць год, у службовай камандзіроўцы, яна мне прыгадалася ў новым, страшным падабенстве.

Далёка ад нашага Наднямоння, у трохі інакш маляўнічым магілёўскім Прыдняпроўі, на месцы колішняй, назаўсёды ўжо невядомай вёскі, спаленай гітлераўцамі разам з людзьмі, у лугавой, па-летняму раскошнай чыстаполіцы стаяў самотным помнікам шэры калодзежны журавель. Ужо не над вадой, заваленай у спарахнелым зрубе, з неяк ненатуральна строма задзёртай вагой і дубовай, тупой ды тоўстай рагацінай сахі, каля якіх бездапаможна звісаў і ад ветру пагойдваўся смык без вядра — як рука з адарванай далонню,

## 5

Хлопчык з вялікімі карымі вачыма, з даўно не стрыжанымі залатымі кудзеркамі,— як анёлачак з каляровай паштоўкі. І яшчэ прыгажэйшы, бо сапраўдны, жывы і мілы, няшчасны — хоць ты заплач. Тым больш што з вачэй яго коцяцца буйныя слёзы, а ён не можа іх стрымаць, як ні намагаецца.

Медсястра, пажылая жанчына ў белым халаце, разбінтоўвае яго адарваную вышэй калена ножку і строга супакойвае:

— Не плач, стралок. Палез, куды не трэба, вось і маеш...

Рукі яе працуюць разумна і хутка, робяць тое, што трэба, як найспраўней, і ў гэтым іх матчына дабрата. А хлопчык, цераз сваю неймаверную мужнасць, ціха і зрэдку, з тымі міжвольнымі, буйнымі слязьмі ў вялікіх перапоўненых вачах, на бледных шчоках, на дрыготкім падбародачку, паўтарае:

— Ой-ёй-ёй!.. Ой-ёй-ёй!..

Паўза цярплівасці, і тое самае зноў,— усё-такі дзіцячае.

Гэта я памятаю з лета 1945 года, з перавязачнага пакоя ў мінскай клініцы.

А за гэтым балюча згадваецца яшчэ на дваццаць год ранейшае, з майго пасляваеннага маленства.

Сяброўка нашых гульняў і працы — на вуліцы, на пашы, у школе — Маня Варона, пра якую бацька яе, прастадушны дзядзька Цыбук, гаварыў неяк нашай маме:

— Бяда такая, Ганно. Каб гэта ж цяля ці аўца, то чалавек прадаў бы ці дарэзаў бы, а гэта ж дзіця...

Манін твар быў скарэжаны ад выбуху той «бомбачкі», якую два хлопцы разбіралі, а яна, таксама смелая, толькі глядзела. Гэта здарылася яшчэ тады, калі мы з мамай і Раманам былі ў бежанстве, і хлопца, якога парвала насмерць, таго Вінцусёвага Петрыка, я не ведаю. Другі хлопец, Богушаў Шура, застаўся глухаваты і з сапсаванай левай рукой. А Мані вырвала вока з брывом, патрушчыла сківіцу і рэбры з правага боку. Яна хадзіла скрывіўшыся набок і згорбіўшыся неяк даўганоса, з уцягнутым падбародкам, за што яе і празвалі Воранай.

Першы раз убачыўшы Маню, я быў нават спало-

хаўся, а потым той страх і грэблівасць перамяжаліся то з жаласцю, то — спакваля — з прывычкай.

З усіх маіх сяброў і сябровак ніхто ў нашай вёсцы доўга не ведаў, што засталося пасля вайны на той бок былой лініі руска-нямецкага фронту, бо толькі наша цётка была так далёка замужам і толькі я быў за тою вагой на яроўскай пашы. І я расказваў на вуліцы з гонарам першаадкрывальніка і адзінага знаўца пра чорныя драцяныя копы на скошаным лузе і ў збожжы, пра той цымантовы нямецкі бліндаж, які я бачыў у яры, няхай сабе здалёк і зверху, пра яроўскія гумны і хлявы, не такія, як нашы, а плеценыя з веццяі абмазаныя глінай, і пра зямлянкі ў тых людзей, што не паспелі зляпіць хоць бы якую хату, як мой чорнабароды дзядзька Міхаіл.

А што вайна пакінула ў Аўсяніках, гэта ўжо ведалі мы ўсе. Галоўнае — насып вузкакалейкі.

Значна пазней мне стала вядома і зразумела, што наша вузкакалейка была праведзена ад чыгуначнай магістралі Масква — Варшава да лініі фронту. Такая самая была праведзена і немцамі, з іхняга боку. Тая вузкакалейка перажыла і другую сусветную вайну, я меў пацеху праехацца ў недарослым вагончыку ў пяцідзесятых гадах. Рускую вузкакалейку ліквідавалі ў «свабоду». Людзі, хто не быў тады ў бежанстве і ў каго была ў хаце сіла, расцягнулі і рэйкі, і шпалы, і станцыю, што была каля нашай вёскі, а заадно ўжо разабралі і «магазін» — вялікі грамадскі свіран, куды здаўна і разумна ссыпалася збожжа: на выпадак бяды, неўраджаю або пажару, каб талакой ратавацца ад голаду. Паравозікі і вагончыкі нашым параздзіраць не давялося, салдаты адагналі ўсё да тое станцыі Замір'е, што на вялікай чыгунцы, і там яны дасталіся, відаць, камусьці іншаму.

Калі і я, сказаўшы высокім стылем некаторых заслужаных жыццяпісаў, пачынаў сваю працоўную дзейнасць свіным пастушком, насып вузкакалейкі, дзе ён праходзіў па полі, быў ужо амаль зусім роўна разараны, а на пашы яшчэ заставаўся. Там ён густа ды роўна аброс травою з белымі кветачкамі дзяцеліны і жоўтымі кураслепу, і нашы дзюдзі ахвотна грызлі тую былую стратэгію. А мы то даганяліся па такой незвычайнай дарозе, то скочваліся бокам пад адхоны, то капалі ў іх печкі, гуляючы ў сям'ю.

Час у маленстве вымяраецца днямі. Два, тры гады таму назад — гэта ўжо вельмі многа, а тое, што было да нас, да нашага ўступлення ў свядомасць — ужо і наогул легенда.

Такой легендай была для нас наша вузкакалейка таго часу, калі па ёй хадзілі цягнікі і станцыя была, і называлася Сібірка. Будавалі яе «найбольш усё кіргізы ў халатах ды ў каўпачках», як потым я даведаўся — рабочыя каманды з узбекаў, таджыкаў, уласна кіргізаў, што ў тую вайну са зброяй не ваявалі. Цётка Анэта расказвала, што «кіргізы» жылі тады па хатах, вечарамі гулялі ў нейкія косці і галаганілі не па-нашаму.

— Як раскрычацца каторы раз, дык я і гукаю свайму крахтуну на печ: «Устаў бы ты, Васіль, ды ўзяў бы ты рамень, ды супакоіў бы іх трохі!..»

Легенда разгаліноўвалася: другая наша суседка, баба Ярына, успаміпала, як яна аднойчы выйшла на кірмаш у Мілтачы, каля той станцыі ішла, а салдаты гукаюць:

— Бабушка, пагадзі, падвязём!

— Ат,— кажу я ім,— пакуль вы гэты свой самавар распаліце, дык я тым часам і зайду! Ажно ж, трасца яго галаве, распалілі — пыхкае, ляціць. Так і мінулі мяне. Стаяць на той сваёй платхорме ды смяюцца...

Некаторыя легенды раскрываліся многа пазней. Пра тое, хто колькі схапіў у «свабоду» на той Сібірцы, спачатку толькі гаварылася, доўга і цьмяна, прыблізна, і ўжо толькі ў 1934 годзе, калі наша вёска на большую палавіну згарэла, сын Тонінага дзеда Прочыма, дзядзька Цімох, прызнаўся, што ў іхняй каморы толькі салдацкіх ботаў згарэла сорак тры пары. І не адразу прызнаўся. Пажар быў якраз у кірмашны дзень. Цімох, ледзь не запарыўшы каня, даляцеў з Мілтачоў на той дым тады, калі ўжо яму было позна. Яго трымалі, аплёўшы рукамі, жонка і сястра, а ён ірваўся да сякеры ці хоць да якога друка, каб бегчы да таго, з чыйго двара загарэлася.

— Цётко Ганно,— казаў ён потым нашай маме, калі яны ў нас жылі, бо наша хата не згарэла,— дальбог жа, забіў бы я тады Ёсіпа, ну, на месцы забіў бы!..

Тым разам ён і прызнаўся пра сорак тры пары ботаў, раскрыў сямейную таямніцу. Людзі казалі — далёка не ўсю...

Зрэшты, дзед Прочым у «свабоду» падлапіўся не адзін: большасць людзей з нашай вёскі ў бежанстве не была.

Апроч усяго таго, што вайна пакінула для дарослых,— рэйкі, шпалы, калючы дрот, дошкі, бэлькі, боты, шынялі, папахі са штучнай мярлушкі, башлыкі,— было сёе-тое і нам, для адкрытай гульні і для захоўвання ў таямніцы. Былі патроны, з порахам і пустыя, салдацкія рамяні, цэшкі і гузікі, снарадныя галоўкі, з якіх, пры дапамозе цвіка і вяровачкі, рабіліся прышыбкія ваўчкі. У хаце ў нас адкрыта вісела на вушаку плеценая казацкая нагайка, якая прымала часам пэўны ўдзел у маім выхаванні, а пад страхой у нашым хляве была заткнёна сцішна бліскучая, вострая шашка ў скураной похве з меднымі бляшкамі — таксама казацкая. Шашкай можна было пакарыстацца раз у год, дый то з вялікаю асцярогай. Гэта, праўда, рабіў спачатку адзін Раман, калі мы ў полі, на макрэйшым ад пашы канцы паласы, секлі ўвосень капусту. Я толькі пазіраў, а мама ківала галавою на Рамана.

— І ты як блазен, гаспадар!.. — А потым нечакана дадала: — Даў бы ўжо й гэтаму сакануць. Бачыш, як уталопіўся?

Раман мне даў, і я тады ссек ажно чатыры качаны.

Па хатах засталіся яшчэ і сякія-такія пісьмовыя помнікі прыфрантавой паласы: кнігі, падшыўкі ілюстраваных часопісаў, паштоўкі патрыятычнага зместу. На адной з іх мы бачылі самага першага георгіеўскага кавалера той вайны, данскога казака Кузьму Кручкова; на другой вусатага дзеда Франца-Іосіфа, аўстрыйскага цара, які сядзеў, як у лодцы, у вялізным галёшы; на трэцяй скакала дзеўка, а рускі салдат іграў на балалайцы. На паштоўках былі і вершыкі, з якіх я памятаю паасобныя радкі. Першы вершык расказваў, як той казак Кручкоў адзін адбіваўся ад цэлай чарады нямецкіх коннікаў, многіх пасек, пакалоў, а потым «товарищи тут подоспели и Кузьке живо помогли». Другі, пра дзеда ў галёшы, расказваў, як «Франц-Иосиф видел сон, будто он Наполеон». Трэці вершык — дуэт з-пад балалайкі:

— Все не может перестать,
Пляшет с новой силой!
— Ну, а как же не плясать,
Коль приехал милый?

Да кніг і часопісаў, што зрэдку захаваліся ў некаторых хатах, я вярнуўся пазней, з ужо абуджанай ахвотай, а то і прагай да слова, а тады мы, малыя, толькі гарталі іх, дзеля «цацак», малюнкаў.

Вайна пакінула і насценную літаратуру.

Над дзвярыма цётчынай хаты, перавезенай у Яры з далейшай ад нямецкай лініі вёскі, застаўся чорны надпіс буйнымі літарамі: Villa Lieschen. Раман у бежанстве хадзіў у гарадское вучылішча, і ён, у мой першы прыезд да цёткі Аксені, растлумачыў, што гэта азначае «віла Лізачка», што так пацешыўся на чужыне нейкі вусаты мурлач у спічастай, сукном абцягнутай касцы. Ужо і цёткі няма, і Міхаіла, яшчэ даўней, у Люды дзеці павырасталі, а надпіс той усё трымаецца — ужо не на хаце а над дзвярыма хлява, зробленага са старое хаты.

А на дзвярах нашай адрынкі, з сярэдзіны, ужо тым часам зусім зацёрся падрабязны, старанна выведзены алоўкам адрас казака з данской станіцы Міцякінскай, імя і прозвішча і нумар часці якога памяць мая аж дагэтуль не захавала.

Іншых пісьмовых помнікаў не засталося. Або пісьменнасці было ў той час настолькі менш, або моды такое — мазаць на сценах, на дзвярах.

Быў затое ў Аўсяніках ваенны фальклор, брудныя пацяробкі з афіцэрскіх і салдацкіх сталоў, якімі доўга ласаваліся і моладзь, і мы, цікаўная малеча.

Вясёлая балбатуха Люба, маладзейшая Тоніна цётка, ці па ваду ішла, ці грады палола, ці памыі пляхала з вядра за плот — заўсёды штосьці спявала. Многа ўсяго-ўсялякага вынесла яна свежай памяццю з ваенных дзён, вырастаючы з падлетка на дзеўку, і цяпер не магла ўсім тым скарбам нацешыцца. Настырным, звонкім голасам выводзіла ці вышчабетвала то жаласлівую «Разлуку», то весялейшае што-небудзь, скажам, такі вось «жестокий романс»:

> Выходзіць мілай ў залу,
> Растропаны вусы,
> Знімае чорну шляпу
> І смотрыць на часы...

Спявала Люба вельмі старанна, амаль урачыста, і для душы, і з пэўным разлікам выданніцы, і гэтым паднімаючы сабе цану. Дый пра вайну яна ўспамінала па-свойму:

— Ераплан нямецкі прыляціць, з такімі чорнымі крыжамі. Та-ра-лах-ціць!.. А салдацікі павыбягаюць з хатаў ды з вінтовачак: пух!.. пух!.. Ой, весела было!..

Дзецюкі і мужчыны добрымі галасамі спявалі на вуліцы салдацкія брыдкія песні і яшчэ бруднейшыя прыпеўкі, у паўзах падмацоўваючы іх матам, рогатам і іншымі адзнакамі маладога здароўя. І ў вясновыя звонкія вечары ўсё такое свабодна даходзіла ў хаты. Мама наша толькі ўздыхала: «Госпадзі, і памаліцца не дадуць...» А мне, калі б гэта па-віднаму, сорамна было б зірнуць ёй у вочы, нібы вінаватаму. Хоць сам я на пашы і лаяўся. Праўда, менш за іншых, бо з асцярогай, што дома дачуюцца. Бо і Раман пры маме, нават пры мне не лаяўся.

З тых неахайных песенных аб'едкаў дзецям даставаліся аб'едкі яшчэ больш прыблізныя. Хоць бы з той песні, дзе

У цяні густой акацыі,
На беражку марском
Сядзеў старык Гарасім
І чысціў пуп пяском...

Мы разумелі ўсё, апроч Гарацыя, з якога ў нас атрымаўся Гарасім, балазе такі дзядзька ў Аўсяніках быў.

За брыдкія песні дома нам даставалася, хоць і далёка не кожнаму, і мы іх спявалі на пашы, у поўнай свабодзе.

Былі, аднак, не толькі брыдкія. З тых дзён я ўсё жыццё люблю дзве паэтычныя песні — «По Дону гуляет» і асабліва «Под ракитою зеленой».

Першая з іх, пры ўсёй прастаце, нават і прымітыўнасці, гучаннем сваёй раздольнай мелодыі назаўсёды спалучылася для мяне са светлым летнім вечарам, калі дзяўчаты і маладзіцы вярталіся з сенавання і здалёк яшчэ ў вёску плыла іх песня, калі не вельмі стройная, дык шчырая — да захаплення... Зрэшты, гэта ўжо сёння я так гавару, тады ж іх песня была чароўна прыгожая.

Другую, «Под ракитою», спявалі звычайна мужчыны. І некаторым з іх, старэйшым, словы песні нагадвалі многае, што каму давялося паспытаць ці ў царскую вайну, ці ў грамадзянскую. У гэтай песні мяне чаравала ўжо не толькі мелодыя, але і словы, і тое, што бачылася за імі, асабліва ж там, дзе

...Кровь лилась из свежей раны
На истоптанный песок...

Пясок патаптаны не проста, не так сабе, а ў штыкавым баі, жах якога я адчуваў, як тады мне здавалася, ужо на ўсю глыбіню.

А былі ж яшчэ пра вайну і расказы, расказы...

## 6

Раман паехаў у лес і пад вечар прывёз штук з пятнаццаць маладзенькіх доўгіх бярозак. Гэта было ў суботу перад сёмухай, ездзіў ён на возе, а бярозкі былі тоненькія і зялёныя. Прывёз ён і пук аеру.

Я пасвіў на вузкакалейцы нашу свінню з парасятамі і, як толькі ўбачыў, што Раман едзе выганам з-за ракі, пагнаў сваю чародку дахаты, зусім не падазраючы, якая там крыўда чакае мяне. Мала таго, што ён у лес мяне не ўзяў, дык яшчэ і накрычалі, ён і мама, што я ўжо не малы, што сонца яшчэ высока і ўсе дзеці пасуць... Адправілі зноў на пашу. Праўда, Раман адламаў мне ад дзвюх зялёных доўгіх аерын таўсцейшыя, бела-ружовыя канчары, аднак жа ўсё іншае — ён будзе дома рабіць без мяне. Бярозкі, знятыя з распрэжанага воза, ужо стаялі на двары каля плота, яшчэ больш тонкія і доўгія. Жывенькія, стракатыя, з зялёнымі зубчастымі лісточкамі... Такіх бярозак у вёсцы няма, аніводнай такой, бо тут яны толькі старыя, вялікія. Сёння, і заўтра, і паслязаўтра, і яшчэ даўжэй яны будуць стаяць каля нашай хаты радком, укапаныя, бо на сёмуху свята такое. Аер пакрышаць доўгімі кавалкамі, раскідаюць яго па вымытай падлозе. І ўсё гэта — Раман і мама, без мяне!..

Я гнаў сваю свінню і парасят (падохлі б яны ўсе!..), трохі цёўкаў аерынай, як на губным гармоніку, і, разумеецца, плакаў. Мне не было яшчэ шасці гадоў. Цяпер, у старасці, бярозкі тыя ўжо неаднойчы прыгадваліся тою сваёй хвалюючай незвычайнасцю, мноствам лісточкаў, убачаных так блізка, а што ж ужо казаць пра той далёкі дзень,— як я тады адчуваў сваю крыўду, горыч нялёгкага абавязку...

Не толькі пасвіць,— і касіць, і жаць мы пачыналі вельмі рана, што і дагэтуль значыцца на пальцах ледзь прыкметнымі парэзамі. За плуг, калі па-сапраўднаму,

мы браліся пазней, а паараць толькі для першай радасці — гэта ўжо гонар быў, і не абы-які. Як на каня самому сеўшы ўпершыню, як першыя чаравікі абуўшы.

Дзве нашы каровы займала тады Анэціна Жэня, старэйшая за мяне. Але на трэці год і я далучыўся да пастухоў каровіных. І там ужо ў мяне былі іншыя сябрукі, няхай сабе і старэйшыя трохі, а першы сярод іх Шура Богуш, у якога было тры мянушкі — Аляксандр Сяргеевіч, Сцягач і Глушак, адна нязлосная, а дзве для лаянкі.

Шура быў больш як на два гады старэйшы за мяне. Перад вайной бацька яго, Сяргей, працаваў у Пецярбургу на заводзе, чытаў многа кніжак і першага сына назваў Аляксандрам, у гонар любімага Пушкіна. Сына першага і адзінага, бо жонка памерла ад першых родаў. Сяргей прывёз малое ў Аўсянікі, бацьку і сястры, а сам неўзабаве пайшоў на вайну. Праз пяць гадоў ён заявіўся дахаты чырвонаармейцам, як на Варшаву ішлі. І другі раз заскочыў конна з гасцінца, калі адступалі. Трохі забавіўся ў бацькавай хаце, і вось тады яго дагналі польскія ўланы, засеклі шаблямі яшчэ на аўсяніцкім полі. Шурава цётка, пакуль выйсці замуж, паспела падгадаваць пляменніка, а тады ўжо хлопец жыў пры дзеду і дзядзьку Іване, які тым часам вырас на дзецюка.

Дзед Богуш быў высокі, з сівай барадой, яшчэ не горбіўся, але хадзіў заўсёды з кульбай і ўжо толькі хаты глядзеў. Усю работу, і мужчынскую, і бабскую, рабіў у іх Іван, які пры сваёй рослай ды сутулаватай дужасці не толькі гаварыў смешна танклявым голасам, але часамі, прастарэкуючы з суседкамі, і памыляўся: «Я сама зварыла. Я сама спяку...»

Аляксандрам Сяргеевічам Шуру, уласна кажучы, не празывалі,— так пра яго гаварылі часамі дарослыя, хто ўспамінаючы яго бацьку як проста добрага чалавека, а хто і як светлага хлопца, які перад вайной, калі з Піцера прыязджаў і да таго яшчэ, у вёсцы жывучы, кніжкі чытаў не толькі сам сабе, але і людзям, уголас. Калі мы пасвілі, я пра Пушкіна ўжо трохі ведаў, бо ў нас была такая кніга, і называць Шуру Аляксандрам Сяргеевічам, часцей у думках, любіў і дагэтуль люблю, ужо, вядома, па-іншаму, з іншай усмешкай.

Мянушка Глушак была вельмі простая: ад выбуху той «бомбачкі», якую яны з Вінцусёвым Петрыкам,

пры Мані Вароне, што ўсюды лезла з хлопцамі, узяліся трохі разабраць, Шура аглух, больш на правае вуха. Адтуль жа пайшоў і Сцягач. Знявечаная левая рука загаілася ў яго так, што з пяці пальцаў атрымалася тры: вялікі застаўся адзін, а паказальны з сярэднім і безымянны з мізінцам зрасліся. Камусьці першаму такая далонь нагадала сцягач, сагнуты трохзубы сахор, якім на полі сцягаюць з воза гной, і параўнанне стала мянушкай. Шура быў вельмі дужы,— учэпіцца за каршэнь тым сваім сцягачом, дык і не вырабішся. А глухаватасць дала яму ўсмешку, трохі разгубленую, а больш дабрадушную.

Бліжэй пасябравалі мы з ім праз рыбалку.

Многа шчасця было ўжо ў самой падрыхтоўцы да тае рыбалкі, у працэсе наладжвання вудаў. Галоўнымі былі тут зазубень-кручок і вудзільна. Адзін трэба было купіць, а другое загадзя падрыхтаваць. Найлепш — арэшыну, доўга-танклявую, роўную ды яшчэ і выпрастаную ў пазе сцяны знадворку, прыцягнуўшы той светла-карычневы, драпясценькі, сям-там гузаваты прут прабоямі, якіх таксама трэба самому насекчы ды назагінаць з калючага дроту. Шура, нягледзячы на свой «сцягач», рабіў усё гэта вельмі спраўна, я яму трохі памагаў, а больш дык прыглядаўся, змалку не надта спрытны сам, але ахвочы любавацца майстравітасцю іншых. Потым мы браліся за шнуры. На іх ішло валасенне з конскага хваста, абавязкова белае. Белых коней было ў Аўсяніках мала, дый не да кожнага дступішся, а то яшчэ і па вушах заробіш ад гаспадара. За ўсіх адказваў стары сівак адзінокай удавы Яроміхі, худы, пярэшчаны грэчкай Павел Бурэ, «поставщик двора его величества». Так назваў яго Тонін дзед Прочым, у камізэлі ў якога, на ланцужку, бываў часамі, у свята якое, гадзіннік з дробненькім надпісам на покрыўцы, з сярэдзіны. Павел Бурэ таксама ведаў нашага брата. Спачатку ён адступаўся, касавурыўся, цяжка, няўдала іўкаў, каб катораму прыпаяць, аднак, акружаны, здаваўся. Так бывала з ім часта, так зрабілі і мы з Шурам. Ён трымаў яго «сцягачом» за грыву, другою рукой за храпу, а я ўжо — таксама смеласці трэба і асцярогі! — натузваў пасмачкамі валасні. З гусінымі паплаўкамі і волавам на грузіла клопату было менш. А найменш з чарвякамі ці з хлебным мякішам, на што мы вудзілі.

Дзяўчаты пусцілі нас на рэчку апоўдні, а вярнуліся мы ўжо разам з каровамі. І пайшлі з Шурам адразу да нас. Раман пасмяяўся з такога ўлову: дзве плотачкі, акунь і трынаццаць келбікаў-печкуроў. Ён сказаў тады нават: «Найлепш, кажуць, тая рыба, што чухаецца аб плот». Але мы сваю рыбу пачысцілі, і мама нам яе падсмажыла. Гэта было ў нядзелю, Раман прынядзеліўся і кудысьці пайшоў, а мама есці з намі не захацела. «І так жа ў вас тое рыбы добраму кату на хап!» А наша вячэра, ужо пры лямпе, была вельмі смачная. Звычайна ж бывала так, што «пойдзем да вас — ты паабедаеш, потым да нас — я паабедаю», а тут — Шура ў нас, і мы сядзім, ямо, а наша мама глядзіць і ўсміхаецца: «Во, рыбакі!..» А ў Шуры ж мамы няма, і наогул... ну, гэта так добра, што вось мы ў нас, за нашым сталом, і ямо, і гаворым. А мама нам і чаю яшчэ дала салодкага,— ліпавы цвет, запараны ў гаршку,— і хлеба маслам памазала.

Пасля яды я быў з самага малку прывучаны хрысціцца, нават малітву гаварыць: «Благодарю тебя, создатель...» Каровіным пастухом маліцца я пачаў адвыкаць, тым больш няёмка было пры чужых, але хрысціцца яшчэ ўсё хрысціўся. А Шура тады ўстаў, паглядзеў на іконы на покуце, надзьмуўся, здаволены і нібы выдыхнуў:

— Годзь-дзе!

Мне было трохі смешна, а больш дык зайздросна, ці што — во якая свабода! Ды што ж, ён старэйшы...

Добра гэта — мець сябра, большага за цябе.

Сябравалі мы, хлапчукі, і з дзяўчатамі. Сябраванне тое было спачатку такім, як у мяне з Тоняй, у кожнай парачкі ці тройкі дружбакоў крыху па-свойму. Гэта дома яшчэ, пакуль мы не пасвілі, і на першай свіной пасьбе таксама.

У свіных пастушкоў гульні былі яшчэ зусім дзіцячыя.

Скажам, сёння мы капалі новую печку ў адкосе вузкакалейкі або, калі старая печка была яшчэ добрая, гульню пачыналі адразу са снедання. Як заўсёды былі выбраны тата і мама, дзед і бабуля, сыны і дочкі, і кожны стараўся адпавядаць сваёй ролі: кашляць, бурчэць, камандаваць, сварыцца, плакаць — паўтаралася тое, што мы бачылі дома. Сёння была ў спектаклі нядзеля, і снедалі мы, як заўсёды ў святы дзень, аладка-

мі, напёкшы іх з пяску. Потым сям'я збіралася хто куды. Дзед і бабуля «лезлі на печ»: проста сядалі трохі збоку, дзед бухукаў, а баба нешта ўсё наракала. Тата з мамай ехалі ў госці: сядалі воддаль на траве, тата цмокаў на ўяўнага каня, сцябаў яго сапраўднай пугай і ледзь не зусім па-даросламу лаяўся, а мама, на гэты раз, па нечай маме, была разважлівая, дакарала спакойна: «Паспеем, не гані ты яго, учора за дзень наараўсё». Моладзь ладзіла танцы, у нас казалі: гулянне. Выбіраліся музыканты. Адзін рэпіў на скрыпцы, кійком па кійку, другі заліхвацка расцягваў уяўны гармонік, трэці барабаніў кіем па зямлі, і, для поўнага падабенства, дзынкаў губамі, пераймаючы медныя талеркі. Гарманіст гудзеў сваё «тува-тува-тува», а скрыпач то падцілінькваў яму, то спяваў па-вясельнаму:

Дылі, дылі, дылі,
едуць маладыя,
едуць маладыя
на сівай кабыле.
Кабыла кульгачка,
пад хвастом балячка...

Пасля танцаў моладзь разыходзілася парамі, «ухаджваць». Сядзелі, абдымаліся, хіхікалі. Потым тата і мама вярталіся з гасцей. Тата быў п'яны. Бабуля з печы лаяла яго, дзед кашляў, добрая мама ўсіх супакойвала, а потым ужо лажыліся спаць: дзед з бабай сабе, тата з мамай сабе, усе паабдымаўшыся, як тыя парачкі, што яшчэ ўсё буркавалі на сваіх «лаўках».

Такія спектаклі без гледачоў, калі не лічыць свіней, што трохі воддаль, абыякава плямкалі ды парохквалі на адкосах вузкакалейкі, кожны раз наладжваліся паіншаму. Бывалі святы, бывалі і будні, калі мы і пралі, і ткалі, і падшывалі лапці, і калолі вепрука, і аралі... Вепруком артысты бывалі ахвотна, піск пад уяўнай швайкай бываў страшэнны. Хто іграў ролю плуга, той лажыўся на спіну і задзіраў ногі, за ступакі якіх араты трымаўся, як за ручкі, цмокаючы на ўяўнага каня і падганяючы яго нагою пад плугаў азадак. Словам, ўсё, чаго не хапала, жыва ўяўлялася, бо галоўнае — былі мы самі, заўсёды нястомныя, цікаўныя, з вострай памяццю, назіральнасцю, уяўленнем.

Гульні свіных пастушкоў былі працягам гульняў вольнага часу, гадоў да шасці, калі гулялася яшчэ зусім наіўна. Праўда, ужо і тады мы часамі хадзілі на

сена, дзе гуртам гулялі ў «тату і маму»: лажыліся спаць, абдымаліся, ціскаліся, але ва ўсім гэтым не было яшчэ ні разумення, ні сораму, хоць ад вялікіх мы і хаваліся. Разуменне і сорам прыйшлі пазней, спакваля — трохі тады, калі мы ўжо выганялі свіней, а яшчэ больш — калі пасвілі кароў, калі найменшаму, як мне, магло быць дзевяць, а найбольшаму і трынаццаць, як нашай Мані Вароне.

Вучыліся ўсе ад усіх, і вучыцца было ад каго.

Першы, штодзённы прыклад прастаты адносін давала прырода. З самага малку, калі ў чалавека бывае найбольш ненатольных «чаму?», мы бачылі, як *гэта* робіць усё жывое. Слоўнік для акрэслення таго, і брыдкага, і панаднага, быў адпаведна багаты. Коні палявалі, каровы бегалі, свінні гу́калі, авечкі маркатавалі, сабакі гандлявалі, каты марцавалі. Пра птушак, усіх аднолькава, гаварылася: граюць. І куры, і буслы, і вераб'і, і галубы. У буслоў гэта адбывалася пад самым небам, на гумне, а ў галубоў найпрыгажэй: яны спачатку доўга цалаваліся, пяшчотна гудучы. Вясной славутая трэска лезла на трэску. Нават жабы і тыя паркаваліся, цяжка скакалі верхам адна на адной, і гэта называлася нерасам. Што было смешна, а што — напрыклад, галубы — ужо і хвалявала нас, не называючыся каханнем.

Не лічачы звычайнай і штодзённай грубасці, прастаты ў акрэсліванні ўсяго сваімі словамі, была яшчэ і мацярная лаянка, якое мужчыны навалаклі ■ усіх казармаў царскай імперыі, а потым ужо і польскага «паньства», дзяржавы. Не ўсе бацькі асцерагаліся гаварыць пра *гэта* пры малых. У цясноце хат маладыя, жанатыя не заўсёды спалі ў каморы і не заўсёды маглі дачакацца, пакуль тыя хатнія паснуць. А хто і не вельмі хацеў засынаць, прыслухоўваўся, хоць і набегаўся за дзень на пашы. Прочымаў Цімох ажаніўся, як гаварылася, на вельмі прыгожай Зосі з далёкай вёскі. Мы, хлапчукі, падпільнавалі, як тая тоненькая Зося купалася раз адна ў рацэ, а потым гуртам абмяркоўвалі і тое, што пабачылі, і тое, што ўяўлялася ў дачыненні з целюкаватым здаравяком Цімохам. Сабраўшыся на вуліцы ці, зімою, у нечай хаце, мужчыны маглі свабодна ўзняць і такую тэму: «Ну, хлопцы, давай раскажам, як у каго было ў першую ноч». І ўсё гэта пры малых, не вельмі іх адганяючы, калі на вуліцы, а ў ха-

це нібы не памятаючы, хто іх слухае з печы. Каханне дзецюкоў з дзяўчатамі, у асноўным патаемнае, выходзіла наверх то вяселлем, то гаворкаю пра тое, як тая ці іншая няўдала скінула, ад чаго «бедная» або і «суччка гэтая» вось і «сохне цяпер», то спробамі этруціцца самой ці піхнуць у рэчку шчаслівейшую суперніцу, а то і проста цяжарнасцю ашуканай дзяўчыны, з якое тады за вочы і ў вочы кпілі: «Што, з'ела павука?..»

Зімой, на масленіцу, жанчыны гулялі «на доўгі лён»: каб ён ім улетку добра ўрадзіў. Спачатку пакуль валіцца на сані ды імчацца з песнямі ў другую вёску, яны галёкалі ў чыёй-небудзь хаце, а мы і дарослыя дзецюкі і мужчыны стаялі ды начэквалі цікавага. І яно пасля пачыналася. Трохі падвыпіўшы, маладзіцы і весялейшыя цёткі з крыкам і смехам высыпалі на вуліцу. Некаторыя былі «за мужчын», у шапках і ў портках, намазаўшы сажай вусы, а порткі ўзброіўшы морквінай ці тонкім бураком. Мама мая гаварыла, што як жанчына вылаяцца матам, дык пад ёю на цэлы сажань углыбіню загарыцца зямля — такі грэх. Бабы звычайна і не лаяліся па-мужчынску, у сварках далей «пацалуй ты мне» ці «а во табе» не даходзіла. А цяпер, на масленіцу, быў і мат, нейкі нягеглы ў вуснах жанчын, і такія прыпеўкі, што проста не верылася: няўжо тая ці гэтая, маладая ці трохі старэйшая цётка цішком насіла ў сабе дагэтуль ажно такую смешную брыдоту...

Ды што казаць пра маладых...

Дзед Богуш быў добры, разумны і смелы.

Пра дабрату яго я ведаў і сам. Раз я прыпасваў свае каровы на папары, паміж Прочымавым жытам і Богушавым аўсом, трохі прыцїх, задумаўся седзячы, потым прылёг і, заўсёды гатовы, заснуў...

— Унучак, уставай! — катурхаў мяне дзед.

Я ўсхапіўся і ўбачыў, што каровы мае — у іхнім, Богушавым, аўсе! Толькі пысамі ўгару патузваюць, цярэбячы яго, яшчэ зялёны. Я страшэнна спалохаўся, мне было вельмі брыдка, нават і так падумалася балюча, што вось канец і нашай з Шурам дружбы — як ты зойдзеш цяпер да іх у хату. А дзед сказаў:

— Адвярні іх, унучак. І не ляжы, бо зноў заснеш.

Больш нічога. Кульба ў яго руцэ засталася толькі падпоркай.

Пра дзедавы розум і смеласць.

У вайну, калі тут стаялі рускія, у Богушавых жыў афіцэр. І ўсё свістаў у хаце, як быццам тут ні людзей, ні іконаў. І дзеду такое вельмі не падабалася. Спачатку ён маўчаў — што ж, усё-такі пастаялец не абы-хто, а ваша благародзіе. Потым не вытрымаў.

— Свішчы, свішчы,— сказаў,— ужо семнаццаць губерняў прасвістаў, васемнаццатую свішчаш?

— Молчи, старик! — уз'еўся той штабс-капітан.

А дзед:

— Вось давай мы з табой, як людзі, і памаўчым.

Пра гэта расказвалі, а другі раз, ужо на маіх вачах, польскі камендант паліцыі ехаў па нашай вёсцы конна. Было нейкае свята, і мужчыны сядзелі перад дзедавай хатай. Пан камендант спыніўся каля іх, спачатку пачакаў, а потым:

— А чэму ж то не вітаце сень зэ мнон?

Усе маўчаць, а дзед яму, як заўсёды спакойна:

— У нас яно спрадвеку так, што калі добры чалавек да людзей падыходзіць або пад'язджае, вось як ты, дык сам і вітаецца першы.

— Цо, цо ты мувіш, ста́ры галга́не?

— А ўжо ж, калі я цябе разумею, дык і ты падвучыся, і будзеш ведаць, што я гавару.

Дзеда я паважаў і любіў разам з Шурам, можа, і таму яшчэ, што свайго ў мяне не было. І дзеда не было, і бацькі я не памятаў. А да таго ж яшчэ, да дабраты, розуму і смеласці, ён быў такі магутны і стары. Адно, праўда, уяўлялася, а ўжо другое, дык было відаць. Неяк калі ён прыйшоў да ракі, дзе мы купаліся, і пачаў распранацца, я з вады вельмі здзівіўся, што ён не толькі сівы сам, але і ўсюды ў яго ўжо сіва. І дзіўным, да сораму дзіўным, ужо не толькі смешным тады здалося мне тое, што нядаўна пра дзеда расказвалі. Як удава Яроміха папрасіла яго па-суседску набіць на цабэрак абручы, а калі ён набіў і прынёс, яна пачала яму дзякаваць і пытацца:

— А што ж вам, дзедачку, за гэта? Што?

Дзед хмыкнуў у бараду і сказаў:

— Ты мне, галубко, сырое... Памяркуемся трохі, як баба з мужчынай...

І гэта, і яшчэ сёе-тое пра дзеда, што мы чулі ў вёсцы і на пашы, Шуру нібы і не крыўдзіла, смяяўся ён разам з усімі.

Уплыў нармальнага, што акружала нас у прыродзе,

уплыў свабоднай, цёмнай разбэшчанасці слова і, у пэўнай ступені, паводзіны дарослых рабілі сваё. Пасучы свіней, мы яшчэ заставаліся зусім дзецьмі, якія, хоць і пераймалі ў гульнях і сон бацькоў і заляцанне моладзі, за сваёю патрэбай адбягаліся ад гурту зусім не далёка. А ўжо ў вышэйшым класе гэтай пастухоўскай школы, каля кароў, нашы гульні, гутаркі, паводзіны пачыналі быць іншымі. Прыходзіла пара падлеткавай раз'яднанасці, выспявання. Дзяўчаткі шапталіся сабе, хлапчукі сабе, асабліва большыя,— у хлапчукоў таксама былі ўжо свае таямніцы. Дзякуючы тым большым і да меншых прыйшла неўзабаве салодкая, брыдкая патаемнасць, пачатак многіх інтымнасцей сталага веку, і хмельна шчаслівых, і з цяжкім пахмеллем. Праўда, большыя хлапчукі не надта шапталіся: па прыкладу дарослых, дзецюкоў і мужчын, яны не толькі ўголас гаварылі пра сваё, але яшчэ і фанабэрыліся перад меншымі хлапчукамі і перад дзеўкамі, а тыя дзеўкі, хоць ім і цікава было, ужо нібы і саромеліся, як ім належыцца, і нават ушчувалі хлопцаў:

— От дурныя! Каб вам яны паадсыхалі, вашы язычкі!..

Гульні нашы былі ўжо сталейшыя. Больш памятаюцца мірныя гульні, можа, таму што мне так сёння хочацца ўспамінаць, так бачыцца наша з'яўленне на папялішчах вайны, наш радасны, непераможны смех. У дзяўчат былі «каменьчыкі», у хлопцаў «ножык». Гуляць у каменьчыкі спрабавалі і мы, але ў дзяўчат гэта выходзіла лепш, іхнія рукі меншыя, пальцы спрытнейшыя, ці што, бо яны ж ужо і вязалі на пашы, і вышывалі, змалку работніцы. Хапаць з гладкай, да зямлі выгрызенай травы то два, то тры, то зноў адзін, то ўсе чатыры каменьчыкі, паспяваючы падхапіць падкінуты пяты, усё гэта мяняць, лічыць... Ат, няхай сабе носяць свае каменьчыкі ў кішэнях кофтачак ці каптаноў, старанна падабраныя, адшліфаваныя пальцамі,— куды лепш мужчынскае — «ножык»! Адкрыты складанчык з небяспечным вастрыём, які яшчэ больш, чым тыя каменьчыкі, трэба ўмець падкідаць. Так трэба, каб ён перакуліўся, а ты схапіў яго на далонь, тады зноў, другім бокам падкінуць, каб ён уваткнуўся ў зямлю толькі так, як ты хочаш. Многа ўсякіх «каленцаў», не менш, чым у «каменчыках». А потым было пакаранне таго, хто на гэты раз прайграў. Ён менціць тым скла-

данчыкам перад раскрытым ротам, а пераможца камечыць земляныя шарыкі і спакойна, смакуючы першынства, намагаецца «накарміць» — цаляе ў той нехаця, ледзь не сутаргава разяўлены рот. Хоп — ёсць! Адзін адплёўваецца, а ўсе рагочуць, і хлапчукі, і дзяўчаткі. Перад дзяўчатамі да таго ж цікавей, прыемней быць пераможцам.

Для смеху былі гульні і яшчэ менш чыстыя. Калі хто часам і адыдзецца задалёка, прыляжа і, размораны спёкай, засне,— пастух жа заўсёды недасыпае,— яго асцярожненька, пры ўсеагульным напружаным маўчанні трохі намазвалі свежым каровіным. Не намазвалі нават, а толькі рабілі вусы. Тады пабудзяць крыкам-рогатам, а ён, пакуль здагадаецца, пачынае выцірацца, а потым бяжыць да вады. Не лічылася гэта ні брыдкім, ні крыўдным, бо такое, як і стаць апошнім у лічылцы, магло здарыцца з кожным. З усякім гноем, які называўся прасцей, мы, на свой пастухоўскі лад, абыходзіліся па-гаспадарску: сухія каровіны ляпёшкі кідалі ў вогнішча, а конскае, перасохлае, здаўна лічылася настолькі ўжо чыстым, што яго церушылі ў махорку, калі яе нехта прыносіў часамі з дому. А то смалілі і без махоркі, абы дым. Гэта была ўжо адзнака нашай мужчынскай дарослацці.

Такою ж адзнакай былі і праверкі, якія мы, хлопцы, сяды-тады рабілі ў дзяўчат. Калі тая праверка ўголас і знарок раптоўна, як трывога, аб'яўлялася, дзяўчаты кідаліся ўцякаць, мы іх лавілі, па двух ці трох на адну, і , пакаціўшы на траву, загольвалі ды глядзелі, ці ўсё ў яе ўжо як у дзевак. Адна пры гэтым намагалася абараняцца, па-дзяўчацку няўдала менцячы перад сабой кіёчкам, нашай агульнай пастухоўскай зброяй, а потым, ужо на праверцы, плакала і дарэмна крычала. А другая, і не ўцякала лішне, бо куды ты ўцячэш. Яшчэ і смяялася, пакуль яе «правяралі».

Тоня абаранялася і крычала найбольш. І як мага старалася апынуцца побач з Маняй...

Сярод хлопцаў я быў найменшы, аднак не адставаў, нават часамі стараўся найбольш. І Тоня аднойчы, ужо абараніўшыся, седзячы побач з Маняй, як пад ахові у тае, сказала мне, што стаў задыхана перад імі:

— Дурань ты, Ігага! Я вось скажу тваёй маме!..

Ігага — гэта мая мянушка. Я нарадзіўся ў бежанстве, калі па новаму стылю, дык пятага чэрвеня, у дзень

святога Ігара. І поп, «не мудрствуя лукаво», так мяне і назваў. А маме, калі кумы вярнуліся, вельмі не спадабалася маё імя: «І-га-га нейкае! Будзе лепш Юрык». Адтуль яно і прыйшло — з Тамбоўскай губерні ў нашы Аўсянікі: ці мама, ці Раман, ці і сам я прагаварыўся. Дый цяпер яно так: каму я Ігар, каму Ігар Міхайлавіч, а каму, па-сваяцку ды па-зямляцку, і Юрык, добра, што ўжо не Ігага, хоць і на гэта я, пачуўшы даўняе, вясёлае адразу азірнуўся б...

Але тады мяне, ад Тоні, не мянушка, і не «дурань», не страх перад мамай збянтэжылі.

Крываротая, аднавокая Маня Варона і ў той дзень, як заўсёды на нашых праверках, сядзела моўчкі, панура прыгорбленая. Можа, якраз і хочучы, каб і яе, як усіх... Ды мы яе ніколі, ані разу не зачапілі.

Чаму?

Гэтае страшнае «чаму» я тады, гледзячы ў зняважаны вайною твар нашай горкай сяброўкі, адчуў як быццам упершыню. «Каб гэта цяля ці аўца...» — пачуўся мне голас дзядзькі Цыбука. Здалося нават, што вось я вазьму — у сонцы такім, на траве — уголас, як малы, заплачу...

## 7

Калі на пашы над усімі намі верхаводзіў Шура, дык у школе я адчуваў сябе амаль што раўнёю з ім, а ў нечым і першым. Мы вучыліся ў адным класе — пасля ваеннага ліхалецця многа было пераросткаў, і класы былі па ўзросту няроўныя,— да таго ж я вучыўся лепш, нямала дапамагаў Аляксандру Сяргеевічу, выручаў яго, і гэта, як адчуванне раўнавагі ў нашай дружбе, было мне прыемна.

Школа стаяла трохі наводшыбе, бліжэй да гасцінца. Стары, шэры даміна пад гонтавым дахам, з незвычайна для вёскі вялікімі вокнамі. Адзін пакой на ўсе тры класы, калідор, у якім мы распраналіся, і пакойчык настаўніка. Раней, для нашых бацькоў ці старэйшых сямейнікаў, школа была рускай, царкоўнапрыходскай, а для нас яна стала польскай, «паўшэхнай», і арудаваў тут малады паляк, які нядаўна прыехаў недзе з-пад Кракава ці Жэшува, каб тут на новы лад даводзіць нам, што мы — дзеці народа без імені, без род-

най мовы. Ва ўсім гэтым, праўда, спачатку лепш разбіраліся старэйшыя, а для нас, дакладней — пры нас, «пан навучыцель» часцей за ўсё выглядаў квактухаў пры качанятах. Гімназіст-недавучка, падмацаваны настаўніцкімі курсамі, нібы фанабэрысты трохі, нібы прастадушны, не злосны, чужаніца гэты, каб вучыць нас на сваёй мове, павінен быў хоць трохі разбірацца ў нашай, у звычаях іншага асяроддзя. Спачатку ён разбіраўся неяк сам, а неўзабаве знайшоў памочніцу. За паўтара кіламетра ад нашых Аўсянікаў быў моцны хутар «без'языкага», Кучуры, які гаварыў пра самога сябе: «Я — Куцура, ма́ленькі памесцыцак». У яго была Верачка, якую ў нас называлі Цукерка, таксама недавучка, толькі ўжо з рускай гімназіі. Наш пан Сатурнін Комар хадзіў туды нешта з паўгода, потым Цукерка павянчалася з ім у нясвіжскім касцёле і стала паняй Камаровай, а ён для «памесцыцка» — ганаровым зяцем. І жыць перабраўся на хутар, пакойчык пры школе назваўшы канцылярыяй.

Пры дзіўным імені — Сатурнін, якое мы не адразу засвоілі, прозвішча ў яго было нібыта наскае: падумаеш, розніца — Ко́мар там, ці Камар. І гэта рабіла пана навучыцеля неяк пацешна зразумелым, ледзь не блізкім для вёскі, калі б не лічыць яго чужацкага навучання, а потым, калі ён знюхаўся з Кучурамі, і нялюбасці да багатага, ганарлівага хутаранца, частка якое прыйшлася і на зяця. Падгладзіўся польскі дзяцюк, пачаў валачыцца са стрэльбай, бахкаць на зайцоў, на качак. А ўсё ж, трэба сказаць, што ён па-ранейшаму сам вітаўся з людзьмі, сам загаворваў, «крывіўся трохі па-нашаму». Дайшло нават да таго, што калі «пачаліся гуртке», славутая статысячная Грамада, магутны ўздым нацыянальнай самасвядомасці, Камар сам вучыў нас і па-беларуску, тры-чатыры ўрокі на тыдзень. Праўда, вучыў ён не толькі пры дапамозе Цукеркі, але і тых перарасткаў, што трохі ведалі родную грамату з дому.

Ужо ў другім класе і я сяды-тады дапамагаў пану навучыцелю. Ён пойдзе ў сваю канцылярыю і сядзіць, чытае або так ляжыць, а я пішу на дошцы першаму класу — нашы літары, словы, а то і кароценькія сказы. Такому памочніку бывала і нялёгка. Адна няўрымста так раз напрыкрала мне, што давялося, па прыкладу настаўніка, узяць і за вуха. Яна пабегла

скардзіцца, а потым, увайшоўшы ў клас, кінула мне пераможна:

— Казаў, каб ты прыйшоў. Вось палядзіш цяперака!..

Але ў густа накуранай канцылярыі наш асветнік ледзь адарваўся на момант ад кнігі, паглядзеў на мяне і з нейкай крывой усмешкай сказаў, вядома ж, папольску:

— І ахвота табе, браце, зачапацца з бабаю?.. Ідзі, пішы далей.

Апроч капрызнай Цукеркі, у яго была яшчэ і цешча, звяглівая пані Кучурыха. Ці не адтуль ішла яго прымакоўская мудрасць, набытая на чужой старане?.. Зрэшты, тады я так не падумаў. Вярнуўся ў клас, можна сказаць, пасталеўшы.

Шура настолькі верыў мне, што калі я часамі падказваў яму ззаду, на больш чуткае вуха, што-небудзь для смеху не так, ён упіраўся і даводзіў настаўніку яўную недарэчнасць. А потым і не злаваў на мяне, ну, не вельмі злаваў, а то яшчэ і ўсміхаўся, трохі разгублена, а трохі дабрадушна. Штурхане толькі трохі або небалюча ляпне па карку сваім сцягачом.

Вельмі яму не давалася польская мова, з тымі яе насавымі галоснымі — «он» ды «эн». Колькі Камар ні папраўляе яго вымаўленне — усё ў Богуша не так. І злуюцца абодва.

А я не толькі падказваў Шуру часамі не тое, але і мог падвучыць яго, старэйшага, да «рэспусту». Так аднойчы мы з ім накралі ў школе кантовых таўкачыкаў крэйды і ўвечары панапісвалі ледзь не кожнаму ў вёсцы яго мянушку. Ад варот да варот, ад сцяны да сцяны, у каго тая сцяна сама на вуліцу вылезла. Натэ́ч, Акуды́ты, Пшэпю́рка... Першая мянушка ад таго, што пажылы, паважаны дзядзька Субота не выгаворваў «п», казаў не «пайшлі», а «тайшлі», не «на печ», а «на тэч»... Другога дзядзьку, худога, доўгага Панасевіча, стары бацька ноччу крыкам з печы ганяў ад жонкі на ложку, бо і так ужо многа дзяцей: «А куды ты?!» Трэці дзядзька, наймаладзейшы, порсткі Са́вачка, зусім нядаўна служыў у панскім войску і, на пабыўцы, смешна выглядаў у рагатай шапцы, у авіячах-абмотках, з «сяледчыкам», кінжальным штыхом на сцягне. Яшчэ і па-польску курдупель набыльваў, калечыў мову,— чым не Пшэпюрка, перш за ўсё з-за тых яго —

трэба, не трэба — «пшы» ды «пшэ». Ну і яшчэ мянушкі ў людзей, і яшчэ... Мужчынскія, бабскія: Сячкарня, Ведзьма, Маркітантка... Назаўтра адны проста сціралі тую крэйду з варот ці са сцяны, а хто і лаяўся, калі дзеці ў школу ішлі («Грамацеі смаркатыя!..»), а нам з Шурам было ўпотай прыемна, што вось жа і невядома, хто гэта зрабіў. Бо мы і на сваіх варотах панапісвалі: ён — дзядзькава Чэп-дрэп, а я Раманаву мянушку — Дзяцел.

Шура праславіўся аднойчы і самастойна.

Неяк на нашым гасцінцы — быў такі незвычайны дзень! — праходзілі міжнародныя аўтагонкі. Дарэчы кажучы, нядаўна я быў у Амерыцы, турыстам, а там, між іншым, нам паказалі і музей славутага Форда, аўтамабілі — ад самага іх з'яўлення і да нашых дзён. Цікава было глядзець не толькі на машыны найранейшыя, але і на мадэлі трыццатых, нават саракавых гадоў — такія ўжо яны пацешныя ў сваёй недасканаласці. Там я прыгадаў дні свайго маленства, гады дваццатыя, калі мы, пастушкі, як толькі з-за ўзгорка пакажацца раз у тыдзень якая-небудзь машына — так і ляцім ад свіней на гасцінец, з радасным крыкам: «Та-на-біль!» або на польскі лад: «Са-ма-ход!» І раптам — аўтагонкі! Амаль цэлы дзень, адзін за адным, ды ўсё розныя, амаль кожны адкрыты, з панамі, кожны такі прыгожы, усё [redacted] іншым сцяжком на радыятары. Быў чэрвень, час у гаспадарцы свабаднейшы, пасля веснавой работы — перад касавіцай, аднак жа будні дзень. Ды ўсё ж і моладзь, і пажылыя мужчыны, колькі там тыя маці і жонкі ні сварыліся, доўга стаялі чародкамі пры гасцінцы.

І нас у школе было не ўтрымаць. І сам Камар з намі стаяў, і Цукерка прыйшла памаленьку, спачатку ў школу з хутара, а потым і на гасцінец, жывот прыкрыўшы расшпіленым плашчыкам. Наша школьная чарада, крыху ўперамешку з дарослымі, была найбольшая.

На адным і на другім выездзе з Аўсянікаў стаялі пешыя паліцыянты. З вінтоўкамі, і кожны яшчэ з «божым пальцам» — паўметровай гумовай палкай, культурным кіем, на англійскі ўзор, але ўжо сваёй вытворчасці. А потым і пан камендант паказаўся ад Мілтачоў, дзе ў іх быў «пастарунак».

Трэба думаць, што ён і гэтым разам не павітаўся б з людзьмі, як тады, калі яму адказаў дзед Богуш,

але ж цяпер стаялі тут, у натоўпе, і свае. Ён важна казырнуў па-вайсковаму, двума пальцамі, пані Веры сказаў «цалуен рончкі», а пану Сатурніну «чэсць!». Было б, відаць, і яшчэ што-небудзь, але тут...

Тут мне трэба спачатку агаварыцца шырэй.

У Мілтачах апроч пастарунка былі яшчэ царква, крамы вакол рыначнай плошчы, пошта, пякарня, заезд, бальніца і школа-сямігодка, куды з навакольных вёсак хадзілі, закончыўшы такую, як наша, трохкласную. Была і добраахвотная пажарная каманда, пры якой нядаўна арганізавалі духавы аркестр. Трэцяга мая, у свята канстытуцыі, Камар вадзіў нас у Мілтачы, і там мы чулі, як той аркестр два разы зайграў «Ешчэ Польска...», перад мітынгам і пасля. А тады пажарнікі пайшлі па плошчы і па вуліцы — пад марш.

Перад аркестрам пайшоў пан камендант.

Ужо і мы, малыя, ведалі, хто ён такі, што такое панская паліцыя. Наш Камар — няхай сабе ён і не злосны, а то і вясёлы бывае,— не прыехаў бы сюды з-за свету, марочыць нас на свой лад, каб не было гэтай паліцыі. Яна высочвае, арыштоўвае, катуе ў склепе той мураванкі, дзе пастарунак, а потым гоніць у турму ўсіх тых дзецюкоў і дзевак, што хочуць, каб і тут, як у Саветах, толькі за трыццаць два кіламетры адгэтуль на ўсход, не было маёнткаў і розных іншых багацеяў, у вёсках і ў гарадах, а каб усё было для тых, хто многа працуе, а сам усё бедны ды бедны. І каб школа была ў нас свая, на роднай мове. Такіх людзей — пад паліцэйскім канвоем, у кайданках — мы ўжо не раз бачылі на нашым гасцінцы: яны ўсё тутэйшыя — з Рыбакавіч, з Хвоева, з Пагудзенкі і з іншых вёсак, што накавол Мілтачоў. Сядзяць у турме і нашы: Суботаў Кастусь, што вучыўся ў Наваградскай беларускай гімназіі, і дзядзька Хведар, Шураў сваяк, пляменнік дзеда Богуша.

І ён, гэты пан камендант,— не проста задавака, а галоўны кат. Так пра яго і гавораць.

Ён не проста ішоў перад строем пажарнай каманды — яшчэ і шаблю сваю з похвы выхапіў, трымаў перад сабой упоперак. І галаву задзёр. У круглай сіняй шапцы з вялікім, акантаваным бляхай козырам. Грукату мноства ног не чуваць было ад галёкання труб. Пажарнікі прайшлі ў канец брукаванай вуліцы, павярнулі назад. Ужо і трубы хрыпяць слінява ад сто-

мы, і камендант спацеў, ачмурэлы ад фанабэрыі, а ўсё яшчэ тупае, задзірае наглянцаваныя боты, трымае шаблю, талопіцца толькі наперад і трохі ўгару. Калі ж параўняўся з людзьмі — усё-такі зірнуў убок, дзе на краі натоўпу стаяла ягоная пані і пані іншых паноў. Пан камендант не проста паглядзеў на іх — ён яшчэ раптам... высалапіў язык! І жонцы, і ўсім. Звычайны, тоўсты, чырвоны язык. І жонка яго, і ўсе іншыя пані — настаўніцы, жонкі паліцэйскіх, ужэнднікаў, навакольных падпанкаў і багацейшых асаднікаў — таксама ж ведалі, што за нялюдскую работу робіць ён у сваім пастарунку. Аднак на гэтага ка́та яны глядзелі па-іншаму, з чужога для нас боку. Для іх высалаплены язык пана Зыгмуся — гэта было так молада, так гарэзліва-міла, што не толькі жонка яго, але і ўсе іншыя пані заўсміхаліся, загаманілі і запляскалі далонькамі ў пальчатках.

Гэты язык і воплескі я прыгадаў, калі пан камендант пад'ехаў да нашай чарады пры гасцінцы і павітаўся — толькі з Камарамі. Ён хацеў яшчэ штосьці сказаць, ды тут з-за ўзгорка выгудзеў новы адкрыты легкавік. Камендантава сівая кабыліца — не сказаць, што такі ўжо агонь,— раптам упудзілася, ірванула з месца галопам, панесла! Не па гасцінцы, а ў поле — па бульбе, па аўсе, па жыце — наўпоперак загонаў, зверху ўніз, у даліну... Яздок, расставіўшы локці, бездапаможна тузаўся на ёй, усё далей, далей ад нас. А наўздагон яму пераможна, нібы нарэшце дачакаўшыся такога, грымнуў рогат і крык — і дарослых, і наш, са свістам у пальцы.

І вось тады Шура, як быццам азораны, у момант нанава перажыў усе свае пакуты з «он» ды «эн» чужое граматы, убачыў той мілтачоўскі грымучы аркестр і закрычаў услед каменданту:

— Затро́нбіш — кабы́лэн — у ду́пэн!

Няхай не вельмі правільна, аднак адразу з трыма насавымі галоснымі.

Вокліч гэты прыйшоўся якраз на паўзу ў нашым галёканні, усе пачулі яго, і рогат з крыкам ды свістам выбухнуў з новай сілай.

Тады наш Камар упершыню зазлаваў па-сапраўднаму. Пагнаў усіх нас у школу, а там Шуру і мяне паставіў у кут на калені.

За што ж мяне? Няўжо ён падумаў, што я падказаў?

А мо са страху за такую дэманстрацыю пры ім? Ці проста таму, што мы з Шурам дружым?

Дарэчы, так ён і крычаў:

— Я ведаю вас! Ведаю!..

Педагог з пана Сатурніна наогул быў вялікі. Дагэтуль жыва помніцца, як ён тады, калі нам першы раз грымелі трубы, купіў сабе цэлую шклянку марожанага і пры нас, пры дзецях, з якіх далёка не кожнаму бацькі купілі б таго смаку хоць у найменшых круглых вафельках, доўга, спакойна, са смакам еў яго на ганку крамы лыжачкай, а мы глядзелі знізу чарадой, чакалі, калі ж ён кончыць... Даволі часта, лянуючыся падрыхтавацца да чарговых заняткаў, а то і не вельмі цямячы, як іх сёння весці, ён прыносіў якую-небудзь кнігу, не падручнік, а з этажэркі ў канцылярыі, і ў нас было чытанне. Пан навучыцель, пацясніўшы тых, што сядзелі на першай парце або і выселіўшы некага на другую, садзіўся на парту тварам да нас, ногі паставіўшы на дошку сядзення, і пачынаў што-небудзь чытаць, усім тром класам адразу.

Але за гэта я ўжо яму дзякую, са спазненнем ды наўздагон. За тое дзякую, што праз чужую мову я часамі даходзіў тады — усе мы даходзілі — да хараства такога ж блізкага, як і сваё, да праўды роднай і нам, беларускім мужыцкім дзецям. Скажам, у той гуральскай казцы, дзе хлопец з апошняй у сям'і місай мукі адчыніў дзверы свіронка, а сіберны вецер раптоўна так дзьмухануў, што вымеў з місы ўсю муку — панёс яе, не збярэш, не дагоніш!.. Гэта быў толькі пачатак польскай народнай казкі, толькі яго я і помню цяпер, але і ён мне гаворыць многа...

Быў у нас і другі культуртрэгер, з іншаю мовай і іншым панствам,— мілтачоўскі поп.

Маліцца мама мяне вучыла і прымушала з самага малку, аднак са словам «рэлігія» я пазнаёміўся толькі ў школе, упершыню спыніўшыся на ім у «расткладзе гадзін», павешаным Камаром на сцяне, толькі тады ўсвядоміў, што не адны малітвы, але і ўсе тыя гісторыі, якія нам бацюшка так цікава расказвае, гэта таксама рэлігія. Бо сам ён іх называў інакш — «законом божиим».

Рэдка яго прывозілі да нас, затое дні гэта былі нібы святочныя. Зранку па бацюшку пасылалі падводу, мы ведалі хто, чый тата або брат паехаў гэтым разам

у Мілтачы, і мы чакалі, хваляваліся. Чамусьці мне найлепш уяўляецца прыезд зімовы. Пачуўшы званок з-пад дугі ці ўбачыўшы праз намаразь акна каня і сані, мы рваліся з класа на двор, і Камар нас пускаў, бо і сам ён ішоў сустракаць паважанага госця. Не апрануўшыся, мы высыпалі на двор і крычалі ўжо не «дзень добры», а «здрастуйця». Старэнькі, сівы, ён цяжка вылазіў з саней-вазка, так незвычайна, багата апрануты, у чорнай каракулевай шапцы, у чорным доўгім паліто з каракулевым каўняром, а пад паліто, калі ён распранаўся ў канцылярыі і ўваходзіў у клас, была яшчэ чорная доўгая раса. Без пазлацаных рызаў, у якіх мы вельмі рэдка бачылі яго ў царкве, або калі ён прыязджаў хаваць каго-небудзь, ці раз у год служыў малебен у нашай капліцы на могілках. Трэба сказаць, што наш пастухоўскі фальклор ахопліваў і бацюшку, была і такая прыпеўка:

Гоп-па-па, гоп-па-па,
чорна с... у папа,
а ў папіхі белая,
поп за ёю бегае!..

Аднак у школе мы пра гэта забываліся. Ён таксама, як і Камар, садзіўся на першую парту, яшчэ больш пацясніўшы вучняў або выселіўшы не аднаго, а двух, гаварыў сваё «ну-с...» і пачынаў расказваць «з галавы». Усе тыя гісторыі — які быў страшны сусветны патоп і як потым голуба паслалі з каўчэга ў разведку і ён вярнуўся з маслічным лістам у дзюбе; як браты прадалі Іосіфа ў няволю, а потым самі, у вялікі голад, прыязджалі да яго, калі ён стаў амаль царом; як маленькага, вельмі прыгожага Майсея бедная маці схавала ў трыснягу ў прасмоленым кашы і як яго знайшла там фараонава дачка...— усё гэта і многа іншага з расказаў бацюшкі хвалявала маё ўяўленне, гучала для нас цудоўнымі казкамі. І казкі гэтыя былі, у параўнанні з Камаровымі, куды больш даступныя для нас на мове рускай, якую так ці гэтак, уперамешку з роднай, ужывалі ў нас дарослыя,— у сваіх гарадскіх ды ваенных успамінах, у песнях,— на мове, якая была і ў тых кнігах, што засталіся па хатах з вайны.

Можна было б цяпер і таму бацюшку падзякаваць наўздагон, як і настаўніку, за хоць такое, ускоснае ды міжвольнае, далучэнне нас да багаццяў сусветнай лі-

таратуры, аднак у тым іх навучанні было, у кожнага, сваё «але»...

Чужаніца настаўнік прыехаў сюды з далёкага, невядомага краю, разам з паліцыяй, пад аховай яе вінтовак і «божых пальцаў» марочыў нашы галовы, занечышчаў нашы светлыя душы недарэчнай варожасцю да ўсяго, што наша, роднае — дома, на нашым месцы пад сонцам. Бо ён чытаў нам не толькі мудрыя, светлыя казкі свайго польскага народа, вершы і апавяданні з яго чалавечнай, высакароднай літаратуры, але і ўсякую так званую патрыятычную марноту. Захоплена, раз-поразу задзіраючы ўгару руку, чытаў нам Камар саладжава-нягеглыя вершыкі, скажам, пра вусы, шаблю і Каштанку, кабылу пана Пілсудскага, пра якога мы дома і на вёсцы, ад тых, каму мы верылі найбольш, добра ўжо ведалі, што ён — галоўны кат ужо не ў Мілтачах, але на ўсю нашу Заходнюю Беларусь, на ўсю Польшчу, для ўсіх працоўных, бедных людзей. І пра Савецкі Саюз, пра «большэвікуў» Камар чытаў і гаварыў нам толькі дрэннае: і хамы ўсе там, і разбойнікі... А мы ўжо ведалі, што там і зямлю далі людзям, і волю роднай мове кожнага — праўда, найлепш для нас зразумелая.

І поп не толькі вучыў нас маліцца, не толькі расказваў цікавыя казкі, святыя гісторыі. Часта, сказаўшы сваё «ну-с», ён пераходзіў на палітыку, да Саветаў, дзе, як казаў, «коммуна, что означает, дети, кому на, а кому и нет». Хіхікаў аж да кашлю, тады адхарквaў макрату, акуратна выплёўваў яе ў вялікую чыстую хустачку, прыглядаўся туды, паволі складваў хустачку, клаў яе белы квадрацік у глыбозную кішэню расы і, як Камар, пачынаў пра разбойнікаў, дзікуноў ды яшчэ і бязбожнікаў, якім калісьці, на тым свеце, давядзецца гарэць, не згараючы ў вечным агні...

Зімою, у палавіне другога класа, мне ішоў дзявяты год, а Шуры дванаццаты. І вось аднойчы, калі мы ўдвух, пасля такой «рэлігіі», ішлі дахаты, ён пачаў:

— Мне дзед казаў, што гэты поп служыў у паліцыі. Не ў польскай, а ў рускай. І ў свабоду людзі хацелі яго забіць на вуліцы. На кавалкі парвалі б, але ён адмалёкаўся, што маленькія дзеці, што пойдзе на папа. І людзі пашкадавалі яго...

Цётка Марта, дваюрадная сястра нашай мамы, слу-

жыла тады ў бацюшкі. Неяк яна прыйшла да нас з Мілтачоў і расказвала, як тыя бацюшкавы колішнія дзеці, цяпер тры брыдкія незамужнія ганаровыя пападзянкі, анічога не хочуць дома рабіць, а п'юць не малако, не чай, а шакалад з маленькіх кубачкаў. Во як жывуць!.. А тут яшчэ з гэтай паліцыяй... Аж не верыцца.

Я маўчаў. Мне згадалася на тыя нашы меркі даўняе — што было пазалетась, калі я яшчэ ў школу не хадзіў. Як бацюшка прыязджаў у Аўсянікі ўлетку і, пасля малення ў капліцы і над магіламі, быў хрэсны ход па полі і па вёсцы. Наша мама, злосная на Рамана, што ён не памагае ёй, сама вынесла на вуліцу стол, заслала яго чыстым настольнікам, палажыла бохан хлеба і дзве свечкі, сабе і мне. Гэтак тады многія павыносілі, амаль перад кожнай хатай стаялі белыя сталы. Хрэсны ход, з вялікім драўляным крыжам, з працэсамі і песнямі спыніўся і каля нас. Бацюшка ў пазалочанай рызе маліўся, мілтачоўскія дзеўкі, пеўчыя, падпявалі, а мы з мамай стаялі са свечкамі. Мая таксама была вялікая, соладка пахла расплаўленым воскам, і агеньчык то роўна гарэў, то калываўся, калі я махаў свабоднай рукою, хрысціўся. А можа, і ад тых дзявочых «аллилуя, аллилуя, слава тебе, бож-же», бо пеўчыя былі зусім блізка, столькі іх дыхала на агонь. Яшчэ як мы з мамай стаялі каля стала адны, чакаючы, яна мне загадала не толькі крыж пацалаваць, але і бацюшкаву руку. Я, можа, не забыўся б пра гэта і сам, але яна, як дайшло да таго цалавання, штурханула мяне, і я, вядома, паслухаў...

«Мне дзед казаў» — такое для Шуры было неабвержнаю праўдаю. А я адразу не зусім паверыў пра тую бацюшкаву паліцэйскую службу і, як толькі мы з дзедам Богушам, у той жа вечар, апынуліся ў іхняй хаце толькі ўдвух, я спытаўся, ці праўда гэта.

— Праўда, унучак. Але не паліцэйскім, не спраўнікам ці прыставам, а следавацелям па паліцічаскіх дзялах. Яшчэ ў тую свабоду, што ў пятым годзе была. Ён чалавек вучаны,— удакладніў дзед і, памаўчаўшы трохі, дадаў: — Такі вялікі прыход, колькі вёсак, і Мілтачы на пяць вуліцаў. Што дзень, то і мярцвец, што нядзеля, то і вянец,— чаму тут не будзеш, як ты здароў, унучак, кажаш, піць той шакалад?

Я ніколі яшчэ не цалаваў чужое рукі. Ды такой

яшчэ жоўтай, халоднай і валасатай, сціснутай на крыжы...

Не, я такога пра сябе нікому не скажу!

## 8

З дарослай дзеўкай, работніцай і весялухай, здарыўся прыступ апендыцыту. Завезлі ў Мілтачы, доктар зрабіў аперацыю. Праз тыдзень, калі ўжо хворую прывезлі дахаты, жанаты брат дзяўчыны нёс яе з воза ў хату, як малую. І яна, казалі, не вытрывала тады, яшчэ на руках, пацалавала яго ў шчаку, а ён, казалі, ажно заплакаў. А ўсё-такі яе, тую спраўную і вясёлую Ліду, празвалі потым Рэзаны Жывот.

Недабітая выбухам Маня стала Варонай, Шура — Сцягачом, Глушаком. У каго баляць вочы — Сляпы, трохі сутулішся — Гарбач, накульгваеш — Клышаногі, Кандыба...

Што гэта — натуральны адбор ці проста грубая, бязлітасная цемра?..

Псіхічна хворых усіх называлі дурнымі. Ці буйны ён, ці не, ці проста так сабе шаламок — усё роўна: Дурны.

У нашай вёсцы быў дурны Цупрон. Нястрыжаны, няголены, у лахманах, кіслагубы, што гаворыць — не кожны адразу і разбярэ. Рабіў, як гаварылі, за каня — многа і ўсё найцяжэйшае. Зусім бесталковы, але няшкодны грукач. А дзядзіна, пры якой ён жыў, не толькі вечна лаяла яго, але ж і біла, як жывёліну, чым пападзе. Мужык яе, Цупронаў дзядзька, не біў — у іхняй хаце ўсё яна сама. Суседзі чулі тады, як той нядоля плача, даўно дарослы дзяцюк, а румзае, як малое дзіця, сцішна, ледзь не па-воўчы, падвываючы. Аднойчы дзядзіна так ужо набіла ды настрашыла яго, што Цупрон утапіўся. Не на глыбокім, а ў бродзе, укленчыўшы і галаву да плячэй унурыўшы ў ваду. А перад гэтым, калі ён, босы лахмей, бег па вёсцы і плакаў, падвываючы, штосьці сваё балбатаў, ніхто не падумаў, што гэта ён так скардзіцца. От, вядома, Дурны!.. У труне ён быў чорны, страшны. А дуб на могілках, пад якім яго пахавалі, стары, разложысты, зялёны дуб стаў ад гэтага страшным. «Цупронаў дуб». «Пад Цупронавым дубам»...

У мамінай Руце быў іншы дурны — Салавей.

Памерла там неяк адна старая. Каму яна маці была, каму бабуля або цётка — пахавалі раднёй, паплакалі, памянулі. А назаўтра нявестка выйшла на досвітку ў сені — ахнула, закрычала і павалілася. Дзверы на двор былі адчынены, каля сцяны, старчаком, абапёртая аб сцяну, стаяла труна без века, а ў ёй — старэнькая нябожчыца... Самлеўшы, нявестка ўжо не пачула, як за іх плотам, у агародзе, хтосьці зарагатаў.

Гэта быў Салавей. Такое з ім час ад часу бывала: адкапае і прынясе. Адлупцаваць яго, адвучыць назаўсёды — нельга, ніхто не адолее; хіба толькі адразу забіць, а хто ж гэта возьме грэх такі на душу? І сёстры ў дурня, і брат, і бацькі старэнькія — во дзе няшчасце ў хаце!..

Босы і летам і зімой, задрыпаны, аброслы, вочы дзікія — у твар такому не зірнеш,— ён выходзіў на гасцінец і толькі па каляіне ішоў кудысьці — доўга, гледзячы сабе пад ногі. Сустрэчныя падводы з'язджалі тады набок. У кірмашны дзень дарогу яму даваў увесь бясконцы паток вазоў з мяхамі збожжа, звязанымі цялятамі, парсюкамі, кошыкамі курэй і спалоханымі цёткамі. Дый дзядзькі рады былі, што ціха размінуліся. Хоць Дурны гэты на людзей не кідаўся. Найчасцей ад яго і слова якога не чулі — проста ішоў. А калі і мармытаў сабе пад нос:

Соловей, соловей, пташечка,
Канареюшка жалобно поет...

Калі праходзілі аўтагонкі, ён на гасцінцы чамусьці не паказаўся, а нашы людзі ўспаміналі яго, нібы чакалі такое нагоды. Загінуў Салавей улетку сорак першага. Пакуль пайсці абозным фургонам, крытым чырванавата-карычневым палатачным палатном, з двума здаравеннымі, кароткахвостымі першаронамі абапал дышля, насустрач Дурному — у яго бясконцай і заўсёды вольнай каляіне — цяпер ішло такое незвычайнае ды грукатлівае, што не дало яму дарогі — танкі... Ды гэта толькі праз пятнаццаць год.

Бывалі дні, калі ён з крыкам бегаў па чыстаполіцы, атакаваў у лоб ці акружаў які-небудзь пусты прыгорак, лажыўся з размаху, зноў падхопліваўся, бег... Жанцы ці сейбіты не чапалі яго, і ён нікога не чапаў — ён рабіў сваю справу адзін.

Гэта была яшчэ ўсё вайна. Зноў і зноў яна прачына-

лася ў ім, калісьці светлым сялянскім падлетку, што з бацькавага мазаля закончыў гарадское вучылішча, а потым, маладзенькі прапаршчык, звар'яцеў у першай штыкавой атацы...

У вёсцы тады будынкі стаялі так: ад вуліцы — хата, сені, камора, хлявы, усё «адным шнурам», пад суцэльнай страхой. Часцей за ўсё пасля хаты кухня і сені былі малыя, дзве бакоўкі, а ў некаторых кухні не было, у хаце і грубка і печ, а сені затое вялікія. Як у Шуравага дзеда.

Аднойчы цёмным, дажджлівым вечарам я зайшоў з двара ў Богушавы сені, зачыніў за сабою дзверы і, пакуль наўздагад, па прывычцы ісці ў чорнай цемры да хатніх дзвярэй, спыніўся і немаведама чаму ўспомніў бабулю, якую Салавей прынёс і ў адкрытай труне паставіў каля сцяны. А тут яшчэ раптам, як з таго свету, пачулася зычнае, ніколі не чутае, гугнява-здушанае «бэ-лэ-лэ!..». Я не самлеў, я толькі рвануўся да дзвярэй у хату... З мяне смяяліся. Бо гэта ж у іхніх сенях быў катух для авечак, пра што я ведаў і сам, і гэта ж авечка забэкала так незвычайна, з сенам у роце.

Страх... Я ўжо тады, дарэчы, ведаў яго і з кніжак, чытаў «Вія», пасля чаго баяўся хадзіць на змярканні ў гумно. Аднак жа з Салаўём і ў тых расказах пра нядаўнюю вайну, якіх я — і дома, і ў Богушавых, і на вуліцы — чуў так многа, страх быў іншы.

Ды, можа, і зусім не страх гэта, а штосьці іншае?..

— Пакінь, Алесь, супраць ночы! А то дзіця ізноў не засне...

Так гаварыла мама майму дзядзьку, свайму малодшаму брату, які часта прыходзіў да нас з іхняй Руты. І пра што б калі ні гаварыў, зноў сыходзіў на сваё, пра вайну. Там ён, дзядзька Алесь, быў старшым унцерам кулямётнай каманды, амаль зусім непісьменны, а даслужыўся за храбрасць, бо было ў яго аж чатыры георгіеўскія крыжы. Раман расказваў, што ў горадзе Казлове, калі мы там у бежанстве былі і тата наш яшчэ жыў, працаваў на заводзе, дзядзька Алесь прыязджаў да нас на пабыўку, і ўтрох яны, тата, дзядзька Алесь і Раман, ішлі па вуліцы, дык афіцэры ім казыралі. Не ім, вядома, а дзядзьку, але і тату з Раманам прыемна было. У нас і здымак вісеў на сцяне, пад шклом, у вялікай раме, разам з іншымі здымкамі,— дзядзька Алесь з усімі чатырма крыжамі, у шапцы з

цэшкай, з нашыўкамі на пагонах. Не такі ўжо стары, якім ён бачыцца цяпер, а бязвусы, і вочы быстрыя. Цяпер у яго не было дзвюх рабрынаў, многа зубоў няма пад вусамі, часта бухукае. Жывуць яны бедна, дзядзька з цёткай Аленай і трое іхніх дзяцей, у будзень дзядзька прыходзіць да нас зімою ў такім кажушку, што ён нібы чарапіцай пакрыты — латка на латцы.

І ўсё расказвае пра вайну...

Як яны перлі з Усходняй Прусіі і ў яго за адну ноч конь раскаваўся на ўсе чатыры нагі. Як за Каўказам туркі ў чырвоных шапках ішлі на яго кулямёт, а дзядзька падпусціў іх так блізенька, што аж чуваць было, як дыхаюць, а тады ўжо ўсіх пакасіў... Як у Галіцыі... Як каля возера Нарач...

А потым аднойчы ён уздыхнуў, памаўчаў і як выстагнаў:

— Божа мой!.. Божа мой!.. Рукі, ногі, галовы — навалам!.. І кішкі на дроце... Людзі — людзей, чалавек — чалавека!..

...Мы едзем з мамай да цёткі Аксені, у Яры.

Мама дала мне лейцы, трохі патрымаць, а потым забрала. Бо вось насустрач нам едзе доўгі абоз. Вазы — нібы з якой канюшынай або з сухім картаплянікам — высока нашантыраны вялізнымі кубамі густа зматанага дроту, чорна-карычнева-іржавага, змацаванага процьмай калючак. Таго самага дроту, які тры гады таму назад здаваўся мне копамі, несамавіта чорнымі копамі на чыстай пакошы і ў збожжы. Таго дроту, пра які Раман тады сказаў: «Мо і крыві было на ім», а мама перапыніла яго, што пры дзіцяці не трэба...

Я ўжо намнога старэйшы, пры мне ўжо столькі гаворана... Я ўспамінаю дзядзькава — з горкай тугою пасля азарту — пра рукі-ногі-галовы і кішкі на дроце... Я гляджу на вазы, якія хмарна сунуцца насустрач нам, і мне здаецца, што бачу іх — тыя кішкі, расцягнута пасохлыя ў калючай, іржавай гушчыні — у кожнай хмары, ад воза да воза... Коні, такія розныя, стараюцца ісці, цягнуць усе аднолькава. Дзядзькі-гаспадары, усе аднолькава незнаёмыя, ідуць побач з вазамі і не прытрымліваюць іх, як вазы сена ці канюшыны, за валок убітых грабель, а толькі лейцы трымаюць. Спакойна ідуць, задаволена — такі заработак цяперашнім светам не часта здараецца.

Я ўжо вялікі, хоць мама і забрала ў мяне лейцы,—

я яшчэ летась сыходзіў з Людай у самы найглыбейшы іхні яр, і мы там заходзілі ў бліндажы, дзе калісьці сядзелі немцы. Як у склепе халодным — такая там цымантовая сцішната. З высокай гары за першым ярам, калі глядзець на ўсход з колішняга нямецкага боку, відаць лугі, справа — круты зялёны ўзгорак, тая «георгіеўская сопка», з якое немцы ніяк не маглі выбіць рускіх снарадамі; насупраць — вёска і безгаловая царква; злева — далёка і ледзь прыкметна — шэры кручок вагі, мае «венгерскае пушты».

Чорныя копы дроту, нарэшце, вывозяць.

Вага застаецца адна.

Я ўжо туды, да яе, пераношу многае з пачутага пра вайну. І выбухі снарадаў, і густы, насмерць пякучы звон куляў, і крык «ура», і глуха-хрыпатую, як душачыся, лаянку, апошнюю для многіх... І балючую, цудоўную песню пра тое, як гэта там, пад зялёнай ракітай

кровь лилась из свежей раны
на истоптанный песок...

Можа, не там ён, каля вагі, той патаптаны пясок, і не над нашай ракою — над нейкай іншай, далёкай, у тым баі, дзе раптам стаў назаўсёды дурным той маладзенькі прапаршчык, што сёння — страшны Салавей?..

І вось мне здаецца цяпер, на гасцінцы, што гэта не мы з мамай едзем насустрач чорнаму драцяному абозу, што гэта прапаршчык... Што гэта я іду... Босы, брудны, нястрыжаны. Гляджу пад ногі, і ўсе вазы даюць мне дарогу. Бо гэта я туды, дзе будзе зноў патаптаны пясок... Я не адзін. Усе гарлапаняць строем, і я, бо гэта ж трэба і мне, мармычу, як быццам нікога не чуючы:

Салавей, салавей, пташачка,
канарэюшка жалабна паёт!..

А наша мама нікому цяпер не кажа, што супраць ночы такога не трэба, бо дзіця... бо гэта я пасля не засну...

Цяпер не ноч, цяпер такі ясны, сонечны дзень.

Ноч будзе потым.

## 9

Лета — як лета, зіма — як зіма, гразь высыхае або замярзае, а ўвосень вуліца нашай вёскі — проста вялізнае, даўжэзнае карыта глыбокай гразі, ад плота да плота. Ідучы з пашы, каровы паволі, цяжка выцягваюць ногі, адну за адной, а вым'е, у каторай большае, валачэцца па той халоднай, глеіста-шэрай рошчыне,— пакуль дамыцца потым да малака!.. Якая сумная, бясконцая работа, тое цярплівае выцягванне ног з гразі — і каровам, і коням, і самому табе, калі з пашы ці ў школу ідзеш каля плота, дарма выбіраючы месца, дзе лепей ступіць. А ўжо авечкам бедным — хоць ты плыві. Яны яшчэ і горка бэкаюць ад мокрай крыўды за сябе, за нас, за ўсё жывое. Бо тут жа і дождж — спорны часамі прыпусціць, а то цярушыць бясконца, і з такой жа гэта занудлівай упэўненасцю, як быццам толькі яго тут і не хапала...

Во калі глухмень!..

Апроч жывёлы ды сваіх людзей каля платоў, па вуліцы цэлымі днямі ніхто чужы не пройдзе, не праедзе. От, праплыве калі-небудзь воз незнаёмага пагарэльца з дзесяткам кулёў нажабраванай саломы. Сяды-тады прасунуцца старцы ў зрэбнай будзе, мокрай, з худымі рэбрамі абручоў. Дзед і баба, гунявы і жаласна-галасістая. І малёканне сумнае па надвор'і: «Дзеткі вашы маленькія, анёлачкі боскія, чыстакроўна мадлітэўныя...» (Часта яны, анёлачкі, паміралі.) Прашалэндае, здарыцца, хоцькі-няхоцькі збочыўшы з гасцінца, мясцовы, суседні падпанак на мокрай, нягеглай пары ў кракаўскіх хамутах...

А часцей за ўсё наша карыта наведвалі анучнікі, госці заўсёды жаданыя і руплівыя самі: гешэфт ёсць гешэфт.

Адзін з іх, маленькі, кучаравы Мэйшка, быў вельмі ж звонкагалосы і меў свой уласны, адмысловы рэчытатыў. Як толькі ён, прымасціўшыся бокам на сваім шырокім возе, укалышацца ў вёску, дык адразу і і загалёкае, як на пажар:

— Баббы-баббы-баббы, ого-го-о!..

Потым ішла музычная рэклама:

— Міло браць! Голкі браць! Хварбі браць!.. Баббы-баббы-баббы!..

У трэцім калене згадваліся патрэбныя Мэйшку прадметы натуральнага абмену:

— Ас-мі-чы-ны з-пад коўдро! Ку-дзе-ля! Яй-цы! А-ну-чы!..

І наступаў узрыў той самай, што і ў пачатку, сілы, ужо не заклік, а ледзь не адчай у адным шматступенчатым слове: — Баббы-баббы-баббы-о-го-го!..

Не такі мудрагеліста-звонкагалосы быў другі анучнік, Лёкім. Затое ўсё ў яго было спраўнейшае — і конь, і воз, і сам ён, салідны белабароды Саваоф, які ўязджаў у нашу гразь, седзячы не бачком на цапку, а з нагамі на возе, і не галёкаў, як блазен, а важна і глуха ўрываючы бухаў:

— Боб! Боб! Боб!..

З яго ў нас смяяліся: «Уй, мой Лёкум! Усім яму любяць: і бабы, і маладзіцы...» Так хвалілася яго жонка — тая першая, што памерла. Апрануты дзед Лёкім быў заўсёды добра, асабліва пасля таго, калі ён, на здзіўленне ўсяму наваколлю, ажаніўся з маладой, казалі нават, што і прыгожай, не мілтачоўскай, а недзе аж з Клецка. А пра яго багатую, разложыстую бараду, жаўтлявую праз сівізну, расказвалі, што з яе былі наздзекаваліся ў вайну польскія жаўнеры,— падпалілі, звязаўшы чалавеку рукі.

Былі анучнікі і апроч гэтых двух, але ўжо значна менш цікавыя.

І былі яшчэ мяшэчнікі, стары мітуслівы Дзічка і баба Роха. Хадзілі яны кожны сам сабе і толькі не ў завіруху ды не ў такую гразь, як позняй восенню. Дзічка быў смешны. У хаты ён не заходзіў. Ад варот — ледзь не подбегам — да зачыненага акна і гукне ў яго цераз высокую прызбу:

— Шэрсць-есць-га-німа-пайшоў!

Сам і спытаецца, сам сабе і адкажа, рэдка хто яго добра пачуе ды ў хату пакліча.

Другою была баба Роха.

Неяк вясною яна зайшла да нас не адна — мех за ёю нёс незнаёмы дзяцюк.

— Ганно-сястрыцо, здрастуй! — прывіталася, як заўсёды з парога.— Як ты сягоння жывеш, як ты здарова маешся?

Гаварыла баба Роха неяк аж надта па-беларуску, без яўрэйскага акцэнту, густа-гучным і смачным голасам вясковай дабрадушнай цёткі.

Дзяцюк, спусціўшы з пляча няпоўны мех, пакланіўся:

— Здраствуйце вам! Называм сень Тэофіль.

Пяць слоў на дзвюх мовах. І дзіўнае — польскае імя. Па тагачаснай модзе.

На дзецюку былі запыленыя боты-дудкі, галіфэ і суконная куртка, а над губамі ды бровамі — «варшаўская» кепка з доўгім казырком.

— Гэто, Ганно, мой пляменнік, Малчын найменшы, Тэпсік. Ты ж нашу Малку ведаеш: што за Нохімам. Большыя дзеці — ніштo сабе, а гэты сястрыцо, я і пры ім скажу: гультай, паніч. Тэпсік, сядзь тут, на лаве, не тырчы ля парога.

Тэофіль падышоў да лавы, каля стала, за якім я рашаў задачкі, і, паглядзеўшы на мяне, сказаў з таўстагубай усмешкай:

— Гаронца!

— А мы ў цябе, Ганно-сыстрыцо, і паабедалі б,— гаварыла тым часам старая, яшчэ ўсё стоячы перад мамай каля печы.

— Ой, Рохачко, мо хібо трохі малака, а то ж капуста ў мяне засквapaна.

Мама гаворыць гэта, а сама як быццам усміхаецца.

— Салам? — спыталася Роха, як быццам сама і не ведае, чым гэта засквapваюць.

— Салам,— пацвердзіла мама, таксама як быццам не ведаючы, што госці сала есці не можна, аднак яна есць.

— Каб без сала, сястрыцо, дык гэто горо было б. Яму, можа, дай малака. Тэпсік, капусту будзеш есці? Ці малака табе?

— Буду,— важна адказаў Тэофіль.— А потым пап'ю і млека.

Яны абедалі без нас, бо мы з мамай толькі што ад стала, а Рамана дома не было. Потым мама пайшла ў агарод, Роха, пакінуўшы мех і Тэпсіка ў нас, падалася са сваімі голкамі ды шмолкамі па хатах, а Тэпсік сказаў мне:

— Дай, хлопак, якую-небудзь ксёнжку. Рускую ілі польскую, ушыстко едно.

Наш тоўсты, добра такі растрэсены аднатомнік Пушкіна, які Раман прывёз з бежанства, ляжаў у шуфлядзе стала. Калі я дастаў яго і палажыў перад госцем, ён мне параіў пайсці пагуляць. Я пайшоў. Каровы выганяць было яшчэ рана, а мне ж карцела паглядзець, як той Тэофіль чытае. Бо я ўжо многа чытаў у

Пушкіна, а сёе-тое ведаў і на памяць: само запомнілася, не завучваў. Скажам: «Трусоват был Ваня бедный» або «Горит восток зарею новой». Калі я ўвайшоў у хату — Пушкін ляжаў разгорнуты, а госць драмаў, заслінена адвесіўшы чырвоную губу. Ён падцягнуў яе, прахапіўшыся, папраўіўся на лаве і сказаў:

— Да... Такую ксёнжку нада чытаць з бутэлечкай харошага вінца, на мяккай канапе...

Другі раз, тою ж вясной, але тыдняў праз два і ў нядзелю, баба Роха прыйшла таксама не адна, а з такім, як я, хлапчуком. Зноў жа з парога:

— Ганно-сястрыцо, здрастуй! Мало было табе майго пляменніка, дык на яшчэ і ўнука. Куды нянька, туды і лялька. Самому ж вельмі захацелася, як пра твайго яму расказала. Зяма, скажы добры дзень!

Хлопец не сарамліва здалёк прывітаўся з усімі, з мамай, Раманам і мною, а тады падышоў да мяне, падаў руку і сказаў на дадатак:

— Здароў!

І я таксама адказаў:

— Здароў!

А баба Роха тым часам тлумачыла маме:

— Мяха яшчэ поўнага не панясе, ды ўсё ж мне трохо весялей. Той кунэлэ́мул[1], Тэпсік, не хоча памагчы, пану заўстыдам, неганарова. А гэта майго Хаіма-нябожчыка сынок. Сіротка, як і ваш. Бацьку яго, сама, сястрыцо, ведаеш, германец забіў, каб ён аб вугал галавою біўся, дзе ён ёсць!..

Баба Роха пайшла з таварам па хатах, а мы з Зямам пабылі спачатку ў нас, глядзелі кнігі, потым у садзе, на вуліцы. Да Шуры пайшлі, аднак у іх нікога дома не было. А потым, як Зямава баба вярнулася, селі абедаць — усе разам.

Але спачатку, толькі мама адсланіла печ, каб даставаць гаршкі, Роха штосьці ёй там зашаптала, і шэпт быў такі, што я і ля стала пачуў:

— Сама ўжо... я такі поп, што бяру і боб... А за яго... Раструбіць па ўсіх Мілтачах...

— Ды не, Рохачко. Сёння пасоля з пеўнем, а потым панцак забелены,— уголас адказала мама.

Было пацешна, калі баба Роха зачэрпала з місы ка-

---

[1] Няўдаліца, прыдурак (*яўрэйск.*).

валак мяса, а тады ўзяла яго са свае лыжкі пальцамі і палажыла Зяме на лусту.

— І ты,— сказала,— *палцамі* бяры. Раней бог стварыў *палцы*, а тады ўжо *відэлцы*.

А больш дык добра было, што гэты хлопец, такі не наш, не вясковы, і такі... ну, па-іншаму свой, сядзіць вось у нас за сталом, як калісьці Шура,— той, першы раз, з нашым першым агульным уловам. Ён, Зяма, як і мы з Аляксандрам Сяргеевічам, канчае другі клас, а калі мы кончым трэці, дык і мы будзем у чацвёрты хадзіць у Мілтачы, і тады ўжо нам будзе яшчэ лепш дружыць. Шкада толькі, што вось паабедаем і ён пойдзе... І я папрасіўся Зяму правесці.

— Яшчэ чаго? — здзівілася мама.— Ён жа з бабаю, не адзін. А каровы твае?

Адразу ў дзве столкі супраць. Першае «супраць» адхіліла баба Роха:

— Ганно-сястрыцо, хай сабе дружаць сіроткі. Ці ж ты, здарова, не бачыш? А Зяма і вучыцца добра. Ён яшчэ і карцінкі малюе, як *жывапівец*.

Мы з Зямам засмяяліся. А пра другое маміна «супраць» я сказаў, што папрашу Тоню: яна мне вінавата не паўдня, а цэлы дзень адпасвіць. Тут яшчэ і Раман сваё гаспадарскае слова сказаў, і наша мама пусціла мяне.

Мех з анучамі ды з кудзеляй баба Роха пакінула ў нас, бо заўтра ўранні Раман меўся ехаць у Мілтачы. Яны ўсё яшчэ нечага, баба і мама, ніяк не маглі дагаварыць, і мы пайшлі з Зямам адны.

## 10

Да Мілтачоў ад нас пяць кіламетраў. На той узрост адлегласць немалая, хоць каля дому ці на пашы малыя босыя ногі выбегвалі і не столькі.

Пазней, калі я падрос і ўжо хадзіў у школу ў мястэчка, яно спакваля пачало мне здавацца не такім ужо і горадам, як здавалася змалку, з Аўсянікаў. І пра тое пачуў, ад чаго яно называецца Мілтачы. Мілту, рэдкую заціруху з аўсянай мукі, якое, дарэчы у нашай вёсцы не варылі, мілтачане, у нейкім сваім легендарна-далёкім паходзе, раскалочвалі проста ў прыдарожным мачуле, маленькай сажалцы,— адтуль і сёрба-

лі лыжкамі. Легенда кплівая, вясковая, самі мяшчане яе не любілі. Яны былі з гонарам, жаніліся толькі свае са сваімі, усіх вясковых лічылі хамамі, а ў тым сасновым гаі, што паміж Мілтачамі і панскім маёнткам, здымалі з гнёздаў грачанят, якія яшчэ не лятаюць, а ўжо, як зліўкі, сытыя. Мяхамі цэлымі прыносілі і тушылі. Вось ад гэтага іхніх дзевак, як смяяліся ў нас, ніхто вясковы замуж не бярэ: дыхцяць грачынай.

Пра ўсё гэта я буду ведаць пазней. Тым часам я іду і рад, што мы не толькі падыдзем да Мілтачоў, што я не толькі яшчэ раз пабачу мястэчка, але і ў хату да Зямы зайду. Божа мой — цэлае падарожжа ў свет, няхай сабе і намнога бліжэй, чым у цётчыны Яры!..

Я ішоў босы, а Зяма ў старых сандаліках, я ў выбіванкавых портках і ў картовай кашулі, а ён у крамным увесь, а ўжо без шапак мы абодва, стрыжаныя пад машынку. І ў Зямы вушы трохі больш тырчаць, чым у мяне. І вочы ў яго чорныя, вялікія. Мы ішлі, гаварылі, не азіраліся, а потым, як азірнуліся, убачылі, што баба Роха вельмі далёка ззаду, яшчэ толькі на ўзгорак выйшла. Ды мы яе чакаць не будзем — пойдзем трохі памалей.

Далей гасцінец сцелецца ў даліну, аж да мястэчка так. І яно ўжо нам добра відно — і хаты, і мураванкі, і царква над усім, са сваімі шасцю купаламі. Абапал гасцінца стаяць старыя бярозы, паміж бяроз адна, а потым і яшчэ адна нізкая груша, тоўстая дзічка, такая сама старэнькая. Спачатку абапал гасцінца, за прысадамі, было адно поле, а потым дрэвы кончыліся, і з левага боку пачалася вялікая паша. Там хадзілі каровы, шырока і рэдка разбрыўшыся па траве. Зяма сказаў, што гэта каровы іхнія, мілтачоўскіх яўрэяў, і пасуць іх не дзеці, як у нас, а наняты пастух, дзядзька Шыман.

— Вось паглядзіш, які ён пацэтны. І добры. Там і нашая бгэймэ. Гэта — карова па-нашаму. А называецца Блімэлэ, кветачка.

Калі мы дайшлі да статка, Зяма яе паказаў. Рыжая Блімэлэ пазнала яго. Мы ў дзве рукі пачухалі бгэйму паміж рог, а яна пастаяла, паслухала, як і наша Падласка. А потым мы пайшлі да пастуха.

Гэта быў дзядзька з дарашаватай бародкай, у стракатай кепачцы. Босы і не з кіем, як мы, аўсянікаўскія пастухі, а з вераўчаным плеценым бізуном на тоўстай

кароткай ручцы з сырамятнай пятлёй на канцы. Бізун гэты, складзены ў некалькі столак, вісеў у дзядзькі цераз плячо, ручкай наперад. Дзядзькава спалавелая ад сонца картовая кашуля была ўвабрана ў зашмальцаваныя, палапленыя порткі, таксама крамныя, падпераныя вузенькім рэменем.

— Здароў, Шыман! — сказаў Зяма, падаючы дзядзьку руку. Як мне ў нашай хаце. І мне адразу гэта здалося вельмі нязвычным, бо ў нас малыя ўсім старэйшым гавораць «вы». Ды дзядзька не пакрыўдзіўся.

— Здароў, Залман! — сказаў ён.— Даўно не сустракаліся. А дзе ж ты бабу Роху дзеў?

Я здагадаўся, што яны вітаюцца жартам, сёння ўжо бачыліся, але Зяма хоча пахваліцца, як гэта проста ў яго са старым.

— А гэта чый? — спытаўся дзядзька пра мяне.

— Гэта Юрык, мой друг. Мы з ім з Аўсянікі ідзем. Да нас. А баба нас даганяе.

— Ясна. Ну, Зямін друг, здароў! — сказаў мне дзядзька, працягнуўшы руку. Ці смехам, ці не — адразу не пазнаць. І я сваю падаў — мы павіталіся.

— Шыман, ты нам пакажаш, як страляць з бізуном, як суслік біць і як іграць на гармонік.

— Адразу стока трэбуяш? — усміхнуўся дзядзька.— А сам як будта песцішся, гімназіст. А трэба панастаяшчаму так: страляць бізуном, біць сусліка, іграць на гармоніку. К таму жа — на губным.

— Ну, Шыман, пакажы! А то нас баба дагоніць.

І дзядзька паказаў.

Ён адышоўся ад нас і павярнуўся ў другі бок. Тады ўзяў свой бізун за тоўстую ручку, пятлю надзеўшы на запясць, кінуў даўжэзную, чым далей, то танчэйшую вужаку бізуна перад сабою, тады замахнуўся над галавой, нечакана весела гікнуў і, як маланкаю, стрэліў!.. Ажно, здаецца, порахам запахла, як тады, калі мы разбіваем патронны капсуль, каменем на камені.

Стрэліўшы і яшчэ два разы, дзядзька сабраў свой бізун зноў у некалькі столак, павесіў цераз плячо, зноў ручкай наперад.

— Цяпер касаема сусліка,— сказаў ён і дастаў з правай кішэні портак камень.— Перш за ўсё тут нужон падхадзяшчы штэйн.

— Гэта камень па-нашаму,— растлумачыў мне Зяма.— А ў той, другой кішэні — гармонік.

— Залман, условіе — тока не перабіваць!.. Ітак — са штэйнам мы становімся на левае калена. Так. Смотрым, дзе ён стаіць каля норачкі — той а суслік, а балабост [1], конь без хвост. Цаляем унімацельна і — без промаха — б'ем!..

Дзядзька шпурнуў свой камень у штосьці нябачнае на траве.

— Ну, маладзёж, знайсці і падняць!

Мы, смеючыся, пабеглі, знайшлі той гладкі, адшліфаваны рукамі камень, і я падаў яго дзядзьку. Штэйн пайшоў у кішэню, а дзядзька Шыман сказаў:

— Ну вось. Засім астаюсь ваш быўшы сын, ныне яфрэйтар утарога Туркестанскага палка...

— Шыман, а гармонік? — як спалохана, ледзь не крыкам перапыніў яго Зяма.

Дзядзька ўсміхнуўся:

— Залман, условіе: тока без нерваў!.. Музыка трэбуя паўзы і падхадзяшчага ўніманія. Позна! Вунь ужо баба Роха ідзе. Рахіль Шлёмаўна. Шэствуя важна ў спакойсцвіі чыннам...

Ён яе першы заўважыў.

Яна падышла да нас злосна і стомлена.

— Бежыце, як шчанюкі якія, старой не дагнаць... А ты ўсё, Шыман, забаўляешся? Гнаў бы далей ад гасцінца, можа, там лепшая трава. Ох, замарылася!..

Яна памаўчала хвіліну, аддыхваючыся, а тады спыталася:

— А што гэта там, у Індыках, людзей нешта многа? Я ўжо добра не бачу...

«Індыкамі» называецца канец бліжэйшай ад нас мілтачоўскай вуліцы, у якую ўліваецца гасцінец. Мы ўсе зірнулі туды. І праўда — з вуліцы на гасцінец выходзілі людзі, цэлы натоўп. Найбольш, здаецца, дзяцей...

Спачатку мы ішлі разам з бабай Рохай, а потым, з Зямам удвух, мы ўжо не вытрымалі, пабеглі.

...Усякае было — калючы дрот чорнымі хмарамі везлі па нашым гасцінцы , легкавыя машыны з розных краін ішлі ледзь не цэлы дзень, кавалерыя тупала на манеўрах, а то і галопам ішла,— але такога яшчэ не было!

У тым натоўпе, дзе найбольш было мілтачоўскіх

[1] Балабос — гаспадар (*яўрэйск.*).

дзяцей, ішлі мядзведзі з цыганамі... Не, цыганы з мядзведзямі... Яшчэ раз не — усё-такі не цыганы былі там перш за ўсё!..

Адзін за адным, на павадах, з намызнікамі — мядзведзі нізка над зямлёй і цяжка члапаюць ды клыпаюць сваімі лапішчамі па жвіры, нібы знарок, на пацеху панакрываўшыся вывернутымі кажухамі. Сем мядзведзяў!..

А цыганы тыя — сем цыганоў — у чорных капелюшах, у запыленых ботах, аброслыя, чорнабародыя, з кіямі. І нічога ні з кім не гавораць. Нехта хоча даць хлеба мядзведзю, той праз намызнік хоча ўзяць, але цыган яму — кіем, хлеб той за пазуху, а сам маўчыць, далей ідзе побач з мядзведзем. І мішка зноў маўчыць — толькі рыкнуў ад крыўды, замармытаў і сціх.

Усе ішлі — малыя, дзецюкі, дзядзькі — і мы з Зямам таксама ішлі ўжо назад у Аўсянікі. Бабу Роху не чулі, не бачылі, проста забыліся пра яе...

Сем мядзведзяў. Сем цыганоў. Адкуль? Куды? Як у казцы якой... Бо мы і ведалі ж іх толькі з казак, спачатку чутых, потым чытаных. Гэта я — пра мядзведзяў. А цыганы?

Дагэтуль бачыў я не цыганоў, а цыганак з цыганянятамі, яны хадзілі па хатах адны, без мужчын. У шырозных квецістых спадніцах з мноствам бяздонных патайных кішэняў. Усе чарнявыя, з пацеркамі ды завушніцамі, голыя грудзі часамі відаць. На адной руцэ малы галапупец, а ў другой — вялікі, знізу закураны чайнік. Туды яна злівае малако, якое хто дасць, салодкае, кіслае — брр!.. Я не еў бы, а мама казала: «От, на агні яго адтопіць, з'есць тварагом». Усе цыганкі здаваліся мне бруднымі, ніколі не мытымі, і зверху, і пад сваімі квяцістымі кофтамі і шырачэзна-даўжэзнымі спадніцамі. То варажыць, гадаць належаць, то просяць завучана:

— Мая ж ты бабка, залатая твая шапка, уся ты ў раі, толькі пята на краі! Дай беднай цыганцы сала, каб і пяту ў рай схавала!..

Ці так яшчэ:

— Дай ты, бабка, майму малачка, а свайму хоць смятанкі дасі. Красіваму ды башкавітаму! І будзеш ты жыць да белага воласу, да чорнага зуба!..

Абдурвалі яны людзей па-рознаму. Мама расказвала, як адна баба пашкадавала цыганянятка, якое цыганка пакінула «на мінутку» ў хаце. Баба тая: «З ма-

розу, бедненькае, ацэпла...» Узяла яго на печ, а цыганка ўбягае ды ў крык:

— Ты мне дзіця навек акалечыла! Як я вазьму яго на мароз?!

Ледзь адкупілася — салам, мукою, толькі б забрала.

А ў Руцэ было і такое. Гарманіст Качан і цыганка так адно аднаго ўпадабалі, што пажаніліся. Ён быў бедны, гультаяваты, і нешта праз год яго чарнявая сказала:

— Сядзі ты, міленькі, хаты глядзі, а я сама пайду хлеба шукаць. З сыночкам пойдзем, тату ам-ам прынясем.

Я і сам бачыў яе, бо і да нас яна заходзіла. Гэта яна — з галапупцам ды з чайнікам. Адна, без цыганак. І хлопчык ужо не чарнявы, а беленькі.

Усё цыганкі, цыганкі... Пра цыгана аднаго гаварылі, што ён забіў табурэткай мілтачоўскага злодзея Саўлі, што ён такога дужага, што паднімаў за аглоблі, навыцяжку, перадок воза. Ды гэта было недзе вельмі далёка, у таямнічай для нас, падшыванцаў, страшнай турме. А ў нашых Аўсяніках, і ў Руцэ, і ў Мілтачах, нават у цётчыных Ярах не бачыў я ні цыганоў-мужчын, ні цыганскага табара. У кнізе Канапніцкай, вельмі цікавай казцы, якую Камар чытаў нам некалькі дзён, цыган хадзіў па кірмашах адзін, пакуль не злавіў сабе двух «красналюдкаў», маленечкіх чалавечкаў. А ў нашай кнізе Пушкіна быў цэлы табар, і, чытаючы пра яго, калі адзін, дык і ўголас самому сабе, я ажно ўздрыгваў — так гэта хораша:

> ...И песни жен, и крик детей,
> И звон походной наковальни...

Ці там, дзе стары гаворыць Алеку:

> ...Железо куй — иль песни пой
> И села обходи с медведем.

Ды гэта ж у казках, у кнігах усё, а цяпер...

Адкуль, куды яны ішлі — сем цыганоў і сем мядзведзяў — ніхто не ведаў і не даведаўся. А нас, малых, гэта і не цікавіла. Ішлі — як з казкі, і мы побач з імі ішлі, як у казцы.

Натоўп усё меншаў патроху, старэйшыя адставалі, вярталіся. А мілтачоўскія дзеці дайшлі аж да нашай вёскі. Убачыўшы, што цыганы, якія і ў Мілтачах не

спыняліся, цяпер не збочылі ў Аўсянікі, пайшлі і далей правым бокам гасцінца, дзеці спыніліся, пастаялі і вырашылі вяртацца. Далей ісці не падахвоціла іх і тое, што з нашай вёскі — ад гумнаў, полем — беглі ўжо на гасцінец дзеці і дарослыя...

Вярнуўся і Зяма. Я толькі трохі падышоў з ім, а потым мы пагаварылі, што ў Мілтачы мне сёння позна ўжо, бо вунь і сонца хутка сядзе.

Першы наш дзень, такі цікавы, закончыўся проста. Нават за руку мы не развіталіся.

Потым я яшчэ цэлы год хадзіў дома ў трэці, і з Зямам мы бачыліся вельмі рэдка. Тады быў год у чацвёртым, ужо ў Мілтачах, калі мы з ім нават за адной партай сядзелі. А па канікулах, калі ўжо мы сустрэліся ў пятым, яно і здарылася ўпершыню ў маім жыцці — пацалаваўся з хлопцам. Ад радасці. Хоць ён і не сваяк які, а проста дружны, вясёлы таварыш.

## 11

Таты з вайны вярталіся па-рознаму. Хто зусім цэлы, здаровы, хто трохі паранены, хто газу глытнуў і яшчэ ўсё бухукае. Адзін быў бязногі. Другі на каня крычаў «донарвэтар»: гэта — з палону, дзе ён, у той Германіі, і «страляць» навучыўся ў хаце, добра, што хоць не за сталом, як тыя яго «баўэры».

А некаторыя і не вярнуліся...

У Тоні бацька быў. Няхай сабе ён для нас, малых, «нейкі латыш», у нейкім горадзе Лібава,— але быў, і яна не сірата, хоць бацьку таго ніколі не бачыла.

Мой тата памёр у Казлове, на Тамбоўшчыне, у тым горадзе, які таксама як Лібава, стаў заграінчным, недасягальным. У канцы нашай вёскі, на полі пры гасцінцы пахаваны быў нейкі бежанец. Дзябёлы крыж і пахіліўся ўжо — не наперад, над парослай бур'янам магілай, а назад, як быццам падаючы наўзнак, нават і рукі ў шэрых рукавах расставіў у ціхім, навечным адчаі. І кожны раз, калі б мы з мамай ні ішлі ці ні ехалі міма тае магілы, мама тройчы хрысцілася і ў душы — гэта я зразумеў пазней — горка згадвала татаву магілу, для некага недзе таксама чужую.

Я свайго бацьку вельмі мала памятаў. Можна ска-

зацъ, што больш уяўляў па маміных ды Раманавых успамінах.

Зямаў бацька, што і ў арміі быў кавалём, загінуў пад самы ўжо канец «мікалаеўскай» вайны і пахаваны невядома дзе, хутчэй за ўсё ў той вялікай салдацкай яме, што называецца брацкай магілай. Пра гэта мне расказвала Зямава мама, калі я, ужо як вучыўся ў Мілтачах, заходзіў да іх.

Зяма бацькі таксама не ведаў.

Шура мог бы свайго пабачыць аж двойчы — калі тата ішоў на захад і калі вяртаўся, першы раз на кортатка, а другі яшчэ на карацей зазірнуўшы дахаты. Аднак тады яго бедны Аляксандр Сяргеевіч якраз ляжаў, больш за два месяцы, непрытомны, аглушаны выбухам той бліскучай, спакуслівай цацкі, і ні жывога, ні мёртвага бацькі ён не пабачыў.

Апроч гарадской фатаграфіі на сцяне, дзе яго тата з мамай, таксама невядомай Шуру, зняты яшчэ да яго нараджэння, мелася ў іх і яшчэ адна памятка па Шуравым бацьку. Памятка патаемная, якую ні дзед Богуш, ні дзядзька Іван не паказалі б мне, а Шура паказаў.

Гэта была не проста якая-небудзь адна — шэптам кажучы — баль-ша-віц-ка-я а-фіш-ка, за якую катуюць у пастарунку і гоняць у турму — гэта было аж некалькі газет, на кожнай з якіх вялізнымі і нібы гнутымі літарамі стаяла ў загалоўку: **«Правда»**...

Праз многа гадоў і мноства падзей я, савецкі пасляваенны студэнт, бачыў у бібліятэцы падшыўку «Правды» за той час, вясну і лета дваццатага года. Лісты вялікія, большыя за сённяшнія газеты, папера розных адценняў, благенькая, фарба слабая, цяжка чытаецца. Толькі зрэдку чатыры старонкі, а то ўсё дзве, адзін вялікі ліст. Буйныя загалоўкі: «Телеграммы», «Оборона Советской России», «За границей», «Борьба с польскими белогвардейцами»... І словы Леніна, з яго выступлення перад чырвонаармейцамі, што накіроўваліся на польскі фронт:

«...С польскими крестьянами и рабочими у нас нет ссор, мы польскую независимость и польскую народную республику признавали и признаем...»

Ґартаючы тую падшыўку, успамінаў я Шуру (з якім мы, дарэчы, разам і партызанілі) і ў мнагалюднай бібліятэчнай цішыні з усмешкай бачыў, як мы, малыя

змоўшчыкі, чыталі гэтыя лісты, замкнуўшыся ў Богушавай хаце. Загучнае слова — чыталі: проста гарталі, шапталіся, як завароажаныя тым вялікім словам — «Правда», яшчэ *праўдзівейшым* ад забароны гаварыць яго ўголас, на людзях...

Шураў тата таму і забавіўся быў у іхняй хаце, заскочыўшы ў яе другі раз, што Шура тады яшчэ ўсё нічога не гаварыў, не разумеў. А потым тату, калі ён, ранены куляй, зваліўся з каня, уланы дабівалі шаблямі...

Ці не згадаў Шура яго і тады, на аўтагонках, калі кабыла панесла ў поле няўдалага ездака-каменданта?..

Ці не пра Шуравага бацьку намякаў нам у злосці ды ў страху Камар, калі ставіў нас на калені, а сам крычаў: «Я вас ведаю! Ведаю!..»

Словам, і Аляксандр Сяргеевіч быў сірата ваенны.

Аднак ні ён, ні Зяма, нават ні Тоня не называліся — брыдкае, непрыемнае слова! — байструкамі.

Такімі былі ў нас два хлопцы — Валодзя Казак і Толя Немец.

Яшчэ студэнтам, на бульбе ў калгасе, пачуў я ад цёткі, у якой мы з сябрам кватаравалі, мянушку Пяцімінутка. Пра малую дзяўчынку, суседчыну. «Чаму?» «А гэта ўжо як нашы немцаў гналі, дык яе адзін баец за пяць мінут змайстраваў». Мы пасмяяліся разам з тою гаваркою цёткай. Можна, вядома, і пасмяяцца з трапнага слова, але тады гэта, калі не думаць пра тую дзяўчынку.

Неяк пры мне, у санаторыі, за абедзенным сталом, адзін паважаны таварыш у гутарцы з другім паважаным, да таго ж яшчэ і пісьменнікам, расказваў салідна, з пэўным, амаль непрыкрытым разлікам:

— Я быў у свае мамы выблядак. Нашай змене, падрастаючым пакаленням, вы самі гэта панімаеце, каб добра, шчацельна апісаць, было б очань палезна ведаць, як гэта з выблядка палучыўся такі чалавек, як я...

І ніхто з нас тады, ні я, ні нават пісьменнік, не сказалі таварышу: «Бедная ваша маці!..»

Народ і ў грубасці сваёй мудры, і прымаўку мае спрадвеку: «Байструк — з божых рук». У гэтым значэнні ёсць і тая праўда, што такія дзеці найчасцей бываюць спраўныя ды здольныя, а ёсць і іншае: крыўдзіць такога грэх. Трэба думаць, што не толькі ў нас, беларусаў, ёсць такая разумная прыказка. Спецыяльна

я гэтым не займаўся, але нядаўна, у «Первых воспоминаниях» іспанкі Аны Марыі Матутэ, з прыемнасцю сустрэў дзве цікавыя рэчы. Аказваецца, і ў Іспанні ў гады майго малалецтва ў вёсках рабілі хадакі з аўтамабільных пакрышак, як і ў нас, у Заходняй Беларусі, дзе і прымаўка была: «што ні беларус, то і аўтабус» — след такі самы. І другое,— і там, у Іспаніі, байструкоў, «незаконных» дзяцей, народ называе божымі дзецьмі.

Дзіця то божае, але ж доля ліхая.

Жылі ў Аўсяніках дзве дваюрадныя сястры, Каця Курыца і Жэня Паганка. Каця, бялявая, ціхманая хадзіла паволі, нібы і ў белы дзень крадучыся, і час ад часу неяк па-курынаму цікавала на неба: то адным вокам збоку ўгару, то другім. Ад гэтага і мянушка пайшла. А Паганка была чарнявая, прыгожая, разбітная, з мянушкай спачыннай — ці ад грыбоў такіх, ці ад нейкай у іхнім родзе па-язычаску свавольнай весялухі. У Каці пасля бацькоў засталася старая хата і шнурок поля, яна сяк-так і гаспадарыла. А Жэня, яшчэ раней асірацелая, хатку сваю і палоску прадала і паехала, як многія тады, у Пецярбург, працавала там на панчошнай фабрыцы, гады ў рады наведваючыся ў Аўсянікі, дзе жыла іх цётка, адна на дзвюх з Кацяй.

Апошні раз Жэня прыехала ўлетку 1916 года, ды так ужо і засталася ў роднай вёсцы, бо знайшла сабе казака. Усякія ў нас пабывалі тады: данскія, кубанскія, арэнбургскія, цярскія... Яе быў арэнбургскі. Спачатку ехаць ад яго ў свой Піцер Жэні не хацелася, бо ён і павянчацца абяцаў, завезці да бацькоў. Пасля, калі яго сотню кудысьці перавялі, Паганка была ўжо тоўстая, а неўзабаве і абрадзінілася, і цётка, жанчына добрая, нікуды яе не пусціла. Тады прыйшла «свабода», адна ўлада, другая — чорненькі, шустры, як венік, Валодзя рос вясковым байстручком, мама якога, у сваіх успамінах і ў кепіках суседзяў, доўга яшчэ заставалася «піцерскай».

У Жэні дык хоць каханне было, яе той казак, гаварылі, на руках цераз гразь пераносіў, каб чаравічкаў не забрыдзіла. Ёсць што ўспомніць пра шчасце, першае і адзінае на ўсё жыццё. А Каці, калі ўжо смяяцца, як у нас смяяліся, пашанцавала знячэўку. У студзені 1918 года немцы ішлі на ўсход і па дарозе, начуючы ў Аўсяніках, нейкі ландштурміст-абознік, згаладнелы па сваёй фраў, пашкадаваў гаспадыню без лішніх пес-

няў, а назаўтра паехаў у сваім параконным фургоне — чортведама куды, адкуль ён сам і хто ён. Калі і казаў ёй што ноччу і ўранні, дык і няшмат, і нічога не разбярэш... Да наступнай зімы і Каця ўжо была з прыбыткам.

Такім чынам, сярод усяго іншага, што засталося ў нашай вёсцы пасля амаль сямі гадоў ваеннага ліхалеццця, былі яшчэ і два салдацкія варожыя сыны — Казак і Немец.

Пра іх паходжанне мы, сябры-аднагодкі, даведваліся спакваля, з усёй то грубай і вясёлай непрыкрытасцю, якая ў наша разуменне працэджвалася з гутарак дарослых. Ад гэтага бруду, ад гэтай дзікасці і мы, чыстыя душы, у пэўнай меры лічылі сябе вышэйшымі за гэтых хлапчукоў, а ў злосці, здавалася, нават бачылі на іх таўро пагарды: «Ах ты, казацкі, ах ты, нямецкі байструк!..»

Толю Немца пусціў на свет, відаць, такі самы вахлачок, якім атрымаўся і сын. З адным меншым вухам, з адным меншым вокам, з самага малку па-старэчы зморшчаны лоб. А вусны дзіцячыя — пупсік на верхняй губе. На галаве — леташняя салома. А сам як быццам штосьці незвычайнае ведае, чагосьці недагаворвае і ўсміхаецца неяк шматзначна. Здаецца нават, не ведаючы яго бліжэй, што хлопец зладзеяваты. Дарма — проста ціхі, на доўгую цярплівасць пушчаны гарапашнік. Калі ж разбурчыцца крыху, не разбярэшся, што ў яго да чаго. І не ваяка быў Толя. Хадзіў ён, як і мама яго, нібыта ў нечым вінаваты, ці то сам, ці праз некага. А яшчэ ж і беднасць такая — што людзі бачаць, а што і не ўбачаць, колькі ты там не вый употай, колькі ні хлюпай бульбачкай свайго носа.

Валодзя, хоць і Казак, таксама быў не ваяка.

А Шура Богуш падкраўся неяк на нашым двары да быстрай, неаб'езджанай жаробкі, ускочыў на яе з калоды, і — яна яго панесла! Спачатку па двары. То на дыбы, то задам! Тады пераскочыла цераз нізкія веснікі на агародную дарожку, вылецела на прыгуменне і закружылася там, то брыкаючы заднімі нагамі, то ўздымаючыся на іх. І толькі там ужо Шура паляцеў. На цвёрдай сцежцы. Раман прынёс яго ў хату, і там адлівалі...

А то і такое бывала ў нас, з пацукамі.

Вялікія бочкі на збожжа называліся па́самі. Вясною

ў іх заставалася трохі жыта ці аўса, і там, прыпадняўшы века пасы, можна было ўбачыць двух-трох пацукоў, якіх у нас называюць баца́мі. Тады мы наладжвалі паляванне. Ішлі дахаты і прыносілі сваіх катоў, таксама двух ці трох. Укінуць іх туды і века трохі прытрымаць — эх, і пачнецца ж у пасе!.. Наша Рыска, малая тыгровая кошачка, спраўлялася найлепш — хапала першага-лепшага баца́ за карак і наверх! Катам было страшней, чым кошкам: бацы ведалі, за што іх хапаць. Раз адзін кот, малады, нават вякнуў у пасе, на шчасце схоплены не за тое. Катам па хатах жылося добра, змалку ў кожнага з нас быў свой мармытун. А тут мы іх, пестуноў, так бязлітасна ці бяздумна падводзілі. Дзеля свайго азарту, цікавасці і трохі страху.

І вось аднойчы Аляксандр Сяргеевіч, прыпадняўшы века найніжэйшай пасы, ледзь не шэптам усцешыўся:

— Э, а яны ж тут блізенька!..

Па яго загаду мы з Казаком ірванулі ўгару над пасай лёгенькае века, а Шура ледзь не нырнуў туды цераз борт і, вырваўшыся адтуль з двума бацамі ў руках, закрычаў:

— Расступіся, народ, ліхарадка бярот!

І выскачыў на двор, а мы за ім. Там ён з размаху гвазнуў адным, тады другім вялізным бацом аб сцяну, а на таго, якога кідаў з левай, яшчэ і наступіў скураным хадаком, які, па-нашаму, лапаць.

Ух ты!.. Я паглядзеў на Казака і падумаў, няўжо і я, як ён, таксама пабялеў?..

Валодзя быў не тое што баязлівец, а нейкі добры, гультаяваты, вясёлы. Калі яго лаялі байструком, ён так і не мог зразумець, чым жа ён вінават, чым вінавата мама,— яму было проста балюча, а мне яго шкада. Аднак на пашы ён вельмі ахвотна спяваў адну з тых, як наша мама казала, брыдкіх песень, што засталіся з вайны:

Гэй, там каля рэчкі,
гэй, там каля бору
казак маладзенькі
вёў дзеўку ў камору...

Далей ішлі ўсе падрабязнасці, і ён іх выводзіў — адзін ды старанна, усё да апошняга слова, як быццам і не ўяўляючы, што гэта мае зусім блізкае дачыненне да ягонай маці. Спяваць дык спяваць!.. Валодзя яшчэ і на скрыпцы іграў. Спачатку на саматробнай, а потым,

калі ўжо мы сталі дзецюкамі, і да сапраўднай дайшло.

З Казаком я дружыў.

Трохі большае захапленне нейкім адным, пасля другім ці трэцім не перашкаджала дружбе з усімі. У пачуццях мы былі шчырыя, свабодныя, а час і абставіны рабілі сваё. Пусты смех Тонінай цёткі Любы абарваў, перапыніў на нейкі час нашу з Латышкай першую, відаць, найлепшую, найшчырэйшую дружбу; потым, на пашы і ў школе, мы ўжо не зблізіліся так, каб нам, ад хаты да хаты, высыпалі купальскім белым пясочкам сцежку: «жаніх і нявеста». Мы проста дружылі, як пастушкі — пускалі адно аднаго дадому ці на рэчку, а як вучні — дзяліліся кнігамі, часамі нават што-небудзь цяжэйшае разам і вырашалі. Пакуль я не ведаў Зямы, найбліжэйшым сябрам быў у мяне Шура. Потым, калі я стаў хадзіць у школу ў Мілтачы, а дзед Богуш памёр, і дзядзька Іван Шуру са мной не пусціў, набліжэйшым быў у мяне нейкі час Зяма.

Ну, а Валодзя Казак быў маім сябрам заўсёды, паміж усімі іншымі дружбамі.

## 12

Вясной і на нашу... ат сабе вёску, вяртаючыся хто з Паўднёвай, хто з Паўночнай Афрыкі, а хто з Заходняй Еўропы, апускаліся птушкі. Пара буслоў, шпакі і ластаўкі. Асталяваўшыся пасля выраю дома, любыя госці так і не ўмелі толкам расказаць, дзе былі ды што бачылі. Хоць і гаварылі яны — хто клёкатам, хто мітусліва-прастадушным шчэбетам, а хто гуллівым песенным пераймannем — даволі-такі многа, аднак усё, як здавалася нам, толькі пра радасць вяртання, сустрэчы з нашай, і для птушак роднай вёскай.

Шпакі і ластаўкі — драбяза, якую, каб і вельмі хацелася, не падлічыш. І гэта — прыемнае адчуванне, нібы на зоркі гледзячы, таксама незлічоныя. А бусел — у нас яшчэ кажуць баця́н — адзін са сваёю бусліхай, і мы іх віталі, можна сказаць, персанальна. Убачыўшы першага бацяна, мы, хлапчукі, з радасным галёканнем куляліся на падсохлых мясцінах, а дарослыя дзеўкі ледзь не плакалі, заўважыўшы яго не ў палёце, а ўжо на гнязде: замуж сёлета выйсці не ўдасца...

Дзед Богуш, дык той аднойчы, пры мне, нават і павітаўся ўголас:

— Здаровы быў, божая птушка! Каб жа лета нам добра з табой пералетаваць!

І глядзеў на буслянку, задраўшы белую бараду, прыжмурыўшы вочы пад сівымі бровамі.

А мне было вельмі зайздросна, што не на нашым, а на іхнім гумне была адна ў Аўсяніках буслянка. І я туды, на прыгуменне да Богушавых, бегаў часта, балазе яны блізка жылі, і мамін крык: «Юрык! Цэвак няма!» добра даходзіў туды ад нашага парога.

У той час, напрадвесні, сáма кросны па хатах ткаліся, і для малых была бясконцая, нудная работа — сукаць уток з вялікіх клубкоў на цэўкі, што намі ж і наразаліся з роўных, гладкіх прутоў малінніку ці сухадрэўка. Такую цэўку з праткнутым мякішам (сёння ўжо ўсю тую тэхніку трэба растлумачваць), насукаўшы на яе нітак, укладалі ў чаўнок. Сукáла было драўлянае, з вялікай качулкай-махавіком, а ў рух яно запушчалася бясконцым ляпаннем насліненай далонню па валіку. Процьму тых нітак даводзілася перасукаць з клубкоў на цэўкі,— то шэрых, то будзённы шарачак, то святлейшых, на палатно кужэльнае, то каляровых на мудрагелістыя дзяругі-перабіранкі. Далонь аб той гладзенькі валік абаб'еш да пухліны, а толькі што, здаецца, выбег за парог — ізноў: «Юрык!..» А тут жа на вуліцы, дзе падсохла ўжо, і «чыжык», і «лапта», і госці такія — бусел, шпакі!..

Ніколі нам не пазнаць было — той самы гэта бацян, што летась быў, ці, можа, сын яго з маладзіцай, а то і проста новыя, якім на гэты раз спадабалася якраз тут. Ці, можа, жонка ў каторага адгэтуль, з леташніх бусlянят, што вось сюды свайго і прывяла...

Было і такое адным прадвеснем, што на нашу пару, так і не разгаданую, напаў адзінец. Бойка была заядлая — з пікіраваннем аднаго бусла на дзюбу, штыхам настаўленую буслам другім, з кумільганнем па скаце высокай страхі, калі яны счэпяцца як у грудкі, з пераможным клёкатам законнага гаспадара, калі той чужаніца адлятаў кудысьці, на іншую бойку.

Усё буслінае жыццё праходзіла навідавоку. І гняздо ён падрамантоўваў, і жаніўся, як на трыбуне, і бусlянят выседжваў, толькі галава тырчала днямі над гняздом. Вярнуўшыся з балота з купінай ці ламачынай, а

то і са спажывай на чатыры лапкі, ён радасна клекатаў, і клёкат гэты вёска спагадліва чула і познім прыцемкам, і на світанні. Часамі бусел саскокваў з гнязда на страху, абыходзіў яго з бакоў і выкідаў адтуль верабʼіныя гнёзды. Нашылася гэтых падсуседзяў многа, і хоць бы ж ужо ціха жылі, без валтузні і вэрхалу, далі б гаспадару ў свабодную хвіліну пастаяць, падумаць на адной назе...

Раней за бусла, а тым больш за ластавак, зʼяўляліся ў вёсцы шпакі.

Днямі я думаў, а дакладней сказаўшы — у маіх гадах неяк зноў па-дзіцячы адчуў, які гэта цуд, якое шчасце — зрабіць вясною шпакоўню. І смешна стала, успомніўшы, як я вучыў дачку-пяцікласніцу рабіць «домік шпаку». Было ў яе такое хатняе заданне, па недарэчнай у гэтым выпадку політэхнізацыі. Так захапіўся бацька, паказваючы, што сам і пачаў, і кончыў. Не хапала толькі бярозы, каб разуцца і залезці найвышэй. Ды не ісці ж мне было за Таццянай у школу.

І другое ўспомнілася. Вохрысты, з белымі, светлымі вокнамі дом майго друга ў далёкім райцэнтры. Самаробны столік у садзе, вінёўка з яшчэ сакавіта-зялёнай лістотай і недаспелымі грушамі, а ў лістоце ды ў грушах, высока — шпакоўня. Упершыню для мяне такая пацешна незвычайная, бо аж на дзевяць паверхаў, суцэльная.

Зяма, спакойны і салідны Залман Хаімавіч, добры настаўнік беларускай мовы і літаратуры, быў ужо тады на заўчаснай пенсіі, па здароўі, падарваным двума франтавымі раненнямі. У Зямы ўнукі-школьнікі, шпакоўню гэтую было каму задумаць і змайстраваць, аднак я, гледзячы на яго безнадзейна бледны, да рэшты стомлены твар, спытаўся, кіўнуўшы галавой угару, на шпакоўню:

— Твая работа?

— Толькі праект,— усміхнуўся ён у адказ.

Ціха было і сонечна, як быццам стомлена-ціха і сонечна і, разумеецца, журботна на душы. Мы даўгавата не бачыліся і, як гаворыцца, зноў богведама калі... Дый наогул... Мы, яго родныя і сябры, ужо ведалі тое, чаго ён як быццам не ведаў. А тут пахла садам і агародам адразу, бо стол стаяў у траве, паміж вінёўкай і яблыняй, побач быў агарод, і ў ім, з-за градаў з рознымі морквамі ды пятрушкамі, падсыхаў вяла-духмяны кар-

таплянік, пах якога я вельмі люблю, з маленства. З самага верхняга, з дзевятага акенца шпакоўні лена, з паўзамі, цвыркаў уніз шэры кум-верабей, нібы маркотны ад безрабоцця камендант апусцелага на канікулы інтэрната.

Зяма ўспомніў пра іншае, не пра наш педінстытут.

— Вясной, як толькі шпакі вернуцца, гэтая іх вышынная будыніна пераліваецца... Як нейкая жалейка. Або той губны гармонік.

Ён не сказаў, чый гармонік,— мы з ім маўчалі пра адно, кожны сабе згадаўшы даўняе. Блазнаватага, добрага дзядзьку Шымана, пастуха, што быў калісьці, да польскай улады, паштальёнам у далёкім рускім горадзе, але і там не растраціў свае вясковасці, не зжыў свайго маленства, і, вярнуўшыся ў Мілтачы, любіў і мог іграць, пасучы. Больш ніколі ў жыцці я не чуў, каб хто так хораша іграў на такой, здавалася б, дзіцячай забаўцы — на губным гармоніку. У адзіноце, самому сабе і таму, хто не жартам папросіць і добра слухае. Мы з Зямам слухалі, і ён уважыў нас два ці нават тры разы. Калі я ўжо ў іхнюю местачковую школу хадзіў і Зяма, мяне часамі трохі праводзіў. Ціха, захоплена іграючы, Шыман стаяў, а мы сядзелі на траве, і нам было вельмі добра. Як і тады, калі мы ігралі ўдвух з Валодзем Казаком, ён на скрыпцы, я на мандаліне. Найбольш усё працяжныя, журботныя мелодыі...

Пакуль нам з Валодзем іграць удвух, ён пілікаў адзін, а яшчэ раней, да школы, ён не іграў.

Ігралі шпакі, берасцянкі, жаўранкі. Хто ў голлі дрэў, яшчэ без лістоты, а хто за гумнамі, над полем, яшчэ сырым, з рэшткамі шэрага снегу ў баразнах.

Вось мы з Валодзем рэжам дровы, так сказаць, памагаем Раману. Забаўляемся — пакуль прыйдзе Богушаў дзядзька Іван, які ўчора памагаў увесь дзень, а сёння, пра што сказаў увечары, крышку прыпозніцца, бо трэба хлеб у печ пасадзіць. Раман коле ўчора нарэзаныя круглякі, а нам з Валодзем дазволіў трохі пакоўгаць разаком. «Толькі пальцаў сабе не адпіцуйце!..» Бярозавае палена мы выбралі з горбы каля плота самі — найлягчэйшае, каб няцяжка было падняць яго на козлы, ну, і яшчэ з адной думкай...

Сонечна. З-за гумна, калі ў нас стане зусім ціха, чуваць, як звоніць-шчабеча-заліваецца жаўранак — адзін, а мо і больш іх там, бо песня такая, што нібы і

з усіх бакоў, не толькі зверху. А на старой бярозе, што ад вуліцы, шчабеча шпак. Ды так жа стараецца, так ужо крыльцамі разводзіць, ахае ды ойкае, і па-кашэчы табе, і ледзь не па-салаўінаму, і смехам, і як пакрыўджана, што нам — хоць ты зусім не рэж, а толькі слухай...

Але мы рэжам, завіхаемся. Разак шоргае і звініць, раз-поразу згінаецца, пырскае пілавіннем, і вось, нарэшце, наша першае палена — шах! — ападае на зямлю. Тады нам чуваць і жаўранак з-за гумна і шпак, яшчэ лепш, з бярозы. Бо і Раман якраз не гахкае — паставіў кругляк на калодзе, а сам глядзіць на нас. Валодзя падсвіствае шпаку, і хоць гэта ў яго, як заўсёды, выходзіць амаль па-шпачынаму, той, каля нашай шпакоўні, як быццам і зусім не чуе — так заняты песняй. Раман пакінуў пазіраць на нас, зноў гахкае, і мы з Казаком прыступаем да выканання свайго намеру...

Канец палена адпілаваўся роўна. Адступіўшы на шырыню двух маіх пальцаў, мы пачынаем адразаць сабе качулку. Гэтак жа проста гэта, калі ты збоку глядзіш, а цяпер... Разак наш скача. Пальцам збоку яго, як гэта робяць дарослыя, не прытрымаеш на патрэбнай лініі, бо ўсё-такі боязна палец той падстаўляць. Адзін няўдалы надрэз... Другі... Усё не так!.. А тут яшчэ да маіх ног раптам падбег, прычапіўся мой Мурза. Зусім яшчэ шчанюк. Ён то крадзе што-небудзь, атопак які ў каморы ці дзяркач у кухні, і ўсё стараецца лепш перахаваць; ён то ў хаце са мною разыдзецца на падлозе, і мама кажа, што ёй тады не пазнаць, дзе хлопец, дзе шчанюк; ён то сядзе, мой Мурза, у адчыненай брамцы, глядзіць на вуліцу і, як стары, нешта ўсё думае... А вось жа недзе быў, прыбег!..

Што ж, можна і адпачыць, тым больш што з качулкай ніяк не выходзіць. Валодзя пускае сваю руку, я цягну разак на сябе і прысланяю яго да нашага палена на козлах, а свой канец, сваю ручку кладу на зямлю. Мурза гыркае, глуха бармоча, учапіўшыся на ўсе зубы ў маё рукаво, а я траплю сыравата-халаднаватай далонню другое рукі яго мяккія, цёплыя вушы. Тут ён пускае маё рукаво, хоча схапіць за руку. Не кусае, а толькі зубамі казычацца. І Валодзя гладзіць Мурзу, А той і на Валодзю агрызаецца. Мы так з ім раздурэліся, што не заўважылі, як нехта падыходзіў. Мурза першы заўважыў, разгаўкаўся.

— Што,— зверху спытаўся дзядзька Іван,— сабраліся вераб'і ды вошай б'юць? Здароў, Раман! — І на Мурзу: — Ай-ёячкі, які ж ты страшны! Сціхні! Ну!..

Над шчанюком, малым і ўедлівым,— вялізны чалавечына, Чэп-дрэп. І мы з Казаком засмяяліся.

Мы ўжо даўно ведалі, чаму дзядзьку Івана так празываюць. Дзед Богуш,— гэта яшчэ даўней было,— купіў у Мілтачах гадзіннік-ходзікі, а дадому вярнуўся позна, калі малы Іван ужо спаў. І ўранні ён, як на сваю бяду, расказваў дзецям на вуліцы:

«А шоння ноччу я прачнуўша і не шпаў, і мяне шон не браў. Бо на шчане ў наш нешта ўшо: чэп-дрэп, чэп-дрэп!..»

Дзядзька Іван вельмі добры. Ён і карміў мяне з Шурам не раз, і з печы нас не праганяў, калі ў іхняй хаце былі вечарынкі, і стрыг абодвух «пад бручку». Шуру глядзіць ён, як маці, а сам такі здаравенны, што хату, здаецца, падніме, і такі даўгатвары, што можа ўзяць, і браў ужо ў рот гусінае яйцо, зубы і губы стуліць, а яно потым цэлае...

Аднойчы ў нядзелю, калі мы ішлі купацца, разам вялікія і малыя, вялікія пачалі на лузе гуляць у чахарду. Адзін прыгнецца на калена нізенька, другі разбяжыцца — гоп! — цераз яго, і сам адбегся і прыгнуўся — для таго, хто за ім. І так — адзін за адным, адзін за адным. Спачатку толькі дзецюкі скакалі, а мы, падшыванцы, беглі збоку. Потым Шура не вытрымаў — разгаляваўся і гоцнуў цераз нашага Рамана. Ёсць! Разагнаўся зноў, падбег, адштурхнуўся аберуч ад крыжа свайго здаравеннага дзядзькі, таксама гоцнуў здорава і — ну, далей!.. Я, як і ўсюды, за ім. Цераз Рамана мне, можа, і ўдалося б, аднак я даў адразу на Чэпдрэпа. Падскочыў, здаецца, нядрэнна, ды дзядзька Іван быў для мяне ажно вельмі задоўгі ды зашырокі, і я засеў на ягоным крыжы.

— Што ты там кешкаешся, як жаба на купіне, злазь! — па-бабску вякнуў ён і, трасянуўшы азадкам, скінуў мяне ў траву.

А ўжо тым часам цераз яго махнуў наш Раман. І сам Чэп-дрэп усхапіўся, паляцеў да крайняга. І мне прыйшлося ўсіх даганяць. Было і крыўдна, і весела, і ганарыўся я нават, што вось і пасядзеў хоць трохі на такім вялікім!..

Тое адчуванне — крыху гордае, а значна больш вя-

сёлае цяпер — вярнулася да мяне: дзядзька Іван, Чэп-дрэп — такі здаравенны, а я каб трошкі, дык і пераскочыў бы!.. А тут жа яшчэ і Мурза, і шпак, і сонейка!.. І вось мы з Казаком, як згаварыўшыся, смяемся. Нібы з таго, што мой цюцька зусім не баіцца вялізнага дзядзькі Івана, а дзядзька наш сказаў ніколі не чутае — пра вераб'ёў, якія вошай б'юць.

— Ну, вэк, малыя,— загадаў Чэп-дрэп.— Давай, Раман, рэзаць. А то мне скора і хлеб ісці даставаць.

Тут ён заўважыў на канцы палена наш раздвоены-растроены надрэз і ўцяміў:

— Качулкі захацелася? Мы вам іх зараз нашастаем.

Разак — нібы зусім не той: шах-мах, і вось яны, адна за адной, адваліліся ад палена на зямлю і не забрудзіліся — дзве качулкі. Чысценькія, кругленькія, з бяроставай скарыначкай — яшчэ адна радасць прадвесня. Як яны пахнуць у нашых руках і як гэта добра — спрытна шпурнуць качулку, каб пакацілася да таго, хто яе адаб'е кіем назад на цябе, каб ты адбіў, каб яна пакацілася, паскакала па нашай падсохлай вуліцы, а то і загула над зямлёю, нібы снарад!..

І мы з Валодзем, а Мурза за намі, пабеглі з двара.

У той дзень цэвак сукаць не трэба было, бо мама не ткала. Яны з цёткай Жэняй снавалі новае. Сярод хаты — мала яшчэ тых кроснаў было! — стаяла рыплівая сноўніца, мая мама снавала, размахваючы сноўніцу, а Валодзева пільнавала клубкоў.

Гэта ўжо мы з Казаком асталі іх так, калі, да потнай стомы нагуляўшыся, вярнуліся да нас.

Шырокая на ўсю хату сноўніца, ганяючы вецер, шугала, як карусель, пра якую аднойчы расказваў Раман; мы асцярожна абышлі яе каля самай сцяны, прабраліся да стала.

— Ужо і поўдзень, богу дзякаваць,— сказала цётка Жэня.

Цяпер я разумею, а тады не разумеў, што гэта ў яе быў намёк. Дома дык цётка і спыталася б у Валодзі: «Есці ўжо хочаш, сынок?» Мама намёк той зразумела.

— Вось даснуем яшчэ гэта,— сказала яна,— дый будзем абедаць. І Раман з Іванам прыйдуць. Юрык, вы там кніжку якую-небудзь, пакуль што...

А мы з Казаком якраз пра гэта і дамаўляліся, ідучы з качулкі. Хоць і есці, вядома, хацелася.

## 13

Калі мы вярнуліся з бежанства, у нашай хаце мяне ўразіла мноства дзвярэй і іконаў.

Пазней стала ясна, што дзвярэй тых чацвёра: з двара ў сенцы, з сенцаў адны ў хату, другія ў кухню-бакоўку, чацвёртыя — з кухні ў хату. А як узяць усё ў адваротным парадку, дык гэта ж яшчэ з хаты ў кухню, з кухні ў сенцы, з сенцаў або на двор, або назад у хату... Як многа! Былі і пятыя дзверы, [redacted] сенцаў у каморку, але яны былі замкнёныя і не ішлі ў гульню — я толькі пастаяў перад імі і зноў кінуўся ў свой лабірынт. Не мог нацешыцца, бегаў, тупаў, смяяўся і крычаў, клічучы ўсіх падзяліць маю радасць ад гэтага дзіва.

А ў мамы з Раманам толькі і радасці было, што хоць хата не згарэла. Яны не бегалі, не смяяліся, і я іх радасці не адчуваў — была ў мяне свая.

Другое дзіва — малюнкі на покуці. Зноў жа, як аказалася пазней, іх было толькі восем, яны і тут называліся іконамі, і мама кожную з іх растлумачвала мне: госпад бог, святая багародзіца, божы ўгоднік, святыя анёлы... А я, хоць і раней, у горадзе, бачыў іконы ў тым пакойчыку, дзе мы жылі, і ў царкве, куды мяне мама вадзіла, цяпер, у хаце з мноствам дзвярэй, бачыў на мностве ашклёных малюнкаў сваё. Адзін дзед, тры дзяды барадатыя, адзін дзядзька, дзве цёткі з белымі крыламі, хлопчык у свае мамы на руках... А яшчэ і дрэвы, і рэчка, халаты нейкія, крыжы, кароны і ўсё іншае, што я ўжо мог назваць і чаго не мог,— усё гэта зялёнае, чырвонае, сіняе, залатое...

Апроч тых, што на покуці, быў яшчэ малюнак і ў міжваконні. Таксама пад шклом, але большы, і там былі белыя лебедзі, сіняе возера, зялёныя дрэвы і чырвоны замак, як мне сказаў пра гэты дом Раман.

На ўсе гэтыя дзівы-малюнкі я, першы раз у хаце, глядзеў не адразу, а добра набегаўшыся, нібы толькі тады іх і заўважыў. Потым на ўсё гэта глядзелася значна пільней, асабліва ў мароз ці ў слату, калі не пушчалі на двор і было вельмі сумна. Многа дзіцячай задумы цягнулася перад гэтым святым і не святым тандэтам. Думаецца цяпер: а каб жа не такая муць, а змалку добрае, мастацкае?..

Затое ж была ў нас прырода, якая кожны дзень паказвала ўсё новую ды новую красу, хвалявала і таям-

ніцамі і іх штодзённым радасным раскрыццём. Уражвала і летняй шматколернасцю палёў, і нізкай навальнічнай хмарай з яркім размахам вясёлкі, і нечым зусім невялічкім, як тыя «люстэрачкі» — сінія пёркі на крылах качара або гудлівы чмель на малінавай шышачцы канюшыннай кветкі.

І былі яшчэ кнігі. Вельмі нямнога іх, але і такія былі, што з «цацкамі», як гаварылі мае новыя вясковыя сябрукі.

Карціну Мясаедава «Касцы» я ўбачыў у Рускім музеі ўжо на чацвёртым дзесятку гадоў. І так цікава было, па-даросламу, і ўсцешыўся, як ад сустрэчы з даўняй радасцю. Успомнілася «цацка» ў кнізе, якую калісьці гартаў — можа, з Тоняй ці з Казаком, а то і адзін, яшчэ не ўмеючы чытаць. Звычайная некаляровая застаўка. Адна з тых «цацак», што так вабілі, цягнулі да кнігі, да новых таямніцаў, няхай сабе спачатку падсвядома, але ж і моцна, пераканаўча гаварылі пра тое, што ў сталасці і для мяне, выкладчыка роднай літаратуры, стала называцца сувяззю слова, мастацтва з жыццём. І тыя касцы, адзін за адным, і тое жыта на кніжнай застаўцы, шорстка і залаціста спякотнае, і зеляніна ды кветкі пустазелля, і злёгку бела-воблачнае неба — усё такое бачыў я і на нашым полі.

Вялікі свет быў тады значна большы, бо і ва ўсім найменшым, калі пільна прыгледзецца зблізку, ён быў вялікі. І ўжо не толькі кніжная застаўка, але і значна меншая «буквіца», «сюжэтны ініцыял», з якім-небудзь васільком у траве ці ластаўкай у палёце мог усхваляваць на ўсю душу. Іменна сувяззю з усім тым, што акружала мяне, што ўражвала паэзіяй, музыкай казкі, якое так прагне кожнае дзіця.

Літары мне паказаў і складаць іх — да школы, рускія — навучыў Раман. Далей пайшло ў мяне само. Перш за ўсё — подпісы пад малюнкамі. Адны літары растлумачвалі тыя малюнкі, а іншыя рабілі іх нават яшчэ больш таямнічымі. Так было, скажам з «венгерскай пуштай», дзе калодзежная вага. Дзіцячых кніжак у нас не было, яны прыйшлі пазней, у школе, і прабівацца да цікавага ў тых кнігах, якія былі ў нас ці ў Шуры, і ў тых, якія прыносіў ад каго-небудзь Раман, даводзілася нялёгка. Сам ён, Раман, чытаў вельмі многа, «абы дарваўся», як гаварыла мама, але часцей за ўсё моўчкі. Памятаю толькі «Дуброўскага», якога ён па мамі-

най просьбе прачытаў уголас, аднак з усёй аповесці мне з тых зімовых вечароў найжывей помніцца сцэна пажару, калі каваль Архіп, са сваім «как не так», ратаваў на страсе палаючай адрыны кошку. Памятаю і сон Раскольнікава са «Злачынства і кары», бо толькі той сон Раман і прачытаў нам, маме і мне. Пра тое, як п'яныя дурні — толькі так мне тады здавалася — білі да смерці каня, а хлопчык Родзя цалаваў яго і плакаў...

Мама смяялася з мяне: «Во дзе лёгкі на слёзы, як сабака на сік!..» А з ёю і Раман тады смяяўся. Перад мамай я толькі апраўдваўся: «А сама ты не плачаш?», бо і ў яе вачах часам відаць былі слёзы, і я, мусіць, пайшоў па ёй. А ад Рамана лепш было абараняцца злосцю. Але і ў злосці я яшчэ плакаў, калі ён смяяўся, пацвельваўся. Хоць ён і добры быў са мною малым, а потым, калі я вырас і мы з ім, пры розніцы ў адзінаццаць гадоў, як быццам зраўняліся, абодва сталі дарослымі,— добра дружылі. За ўсё жыццё ні разу не пасварыліся. Для нашай мамы ён не быў ніколі пасынкам, а мама для яго — ніколі мачыхай. Перад вайною Раман гаспадарыў, пасля вайны з яе партызаншчынай, зноў застаўся ў Аўсяніках, просты, сумленны рабачай-калгаснік. Пазалетась, калі ён памёр і я, развітваючыся з ім на могілках, укленчыў на снезе каля труны і дакрануўся лобам да яго сцюдзёнага лоба, мяне скаланула ад думкі, што я ўжо так і не скажу яму тых добрых слоў, якіх чамусьці ўсё не гаварыў...

У сталыя гады, падумаўшы калі-небудзь пра свой характар, з усёй яго сумессю нейкіх усё-такі плюсаў і мінусаў, я спрабаваў разабрацца, адкуль яна ў мяне, тая жаласлівасць, нават павышаная, ці што? Сказаць, што ад фізічнай кволасці або ад лішняй баязлівасці — не скажу. І ў вайну, што ў партызанах, а што і потым, на фронце, дастаткова было магчымасцей пераканацца ў адваротным. Дый перад гэтым, у юнацтве і ў маленстве, я быў не з апошніх: здаровы, дужы, ахвотна смяяўся і спяваў. Калі, скажам, Валодзя або Зяма былі хлапчукі далікатныя, дык Шура ў маленстве бываў і не такі ўжо часам добранькі, любіў камандаваць мною. Часцей за ўсё я слухаў, бо і меншы на два з гакам, і па дружбе. Але неяк, калі я памагаў яму браць бульбу з іхняга пограба, ён так ужо закамандаваўся, што мы з ім і счапіліся. Ды не счапіліся нават, а я схапіў з вушака іх вялікі замок за адкрытую дужку і кінуўся да

Сцягача, а ён — на здзіўленне маё пасля — сумеўся, ці што... Здалося нават, што спалохаўся мяне, і я тады спалохаўся таго, што мог бы, што хацеў зрабіць... Гэта было ў нас першы і апошні раз. Наогул — біцца я не любіў і не ўмеў. Раззлуешся, яшчэ не ўдарыш, а ўжо і шкада...

Гэта ў мяне цяпер — не пахвальба, не самалюбаванне, а цёплы ўспамін пра тое, як добра было кагосьці пашкадаваць, і не проста *кагосьці,* а чалавека, жывёлу ці птушку. Хоць жаласць тая была для цябе не заўсёды цёплай.

Валодзева маці, цётка Жэня, часта хварэла.

Тады ўжо ў іх была свая хатка на агародзе, за хатай-каморай-хлявом Каці Курыцы, усё-такі памяркоўнай сваячкі, што дазволіла ім прытуліцца на сваім пляцы. Хатка ў Паганкі малая, па сірочай беднасці ды па людской літасці зборцаканая з сякіх-такіх аполкаў ды канчароў. Але зімой яна, на мой дзіцячы розум, была вельмі прыгожая. Ад іскрыстага інею на сценах і століі, ад узорыстай намаразі на несуцэльных шыбінах. Асабліва прыгожа было, калі з двара свяціла ў хатку сонца. Аднак жа ў гэтай снежна-іскрыстай казцы, увайшоўшы з двара, з марозу, нават і ў кажушку неўзабаве рабілася холадна — аж да касцей, калі даўжэй пабыць.

Часта выходзіла чамусьці так, што калі я прыходзіў у гэтую хатку не так сабе, а прыносіў хворай ад мамы цёплага ў загорнутым гаршку, Валодзі дома не было. Толькі яго навінка — піскклявая самаробная скрыпка маўчала на сцяне, акалеўшы ад холаду, заінелая...

Валодзева мама, калі не хварэла, часцей за ўсё была вясёлая. Яна мяне называла цёзкай. Таму, што і яна ў сапраўднасці не Жэня, як я — не Юрка. Калі яе маленькую хрысцілі, кумы, вярнуўшыся з Мілтачоў, ушчэнт забыліся на марозе, якое ж гэта імя даў дзяўчынцы бацюшка. Таксама з кніжкі, па «святцах».

— Як жа так? — не адзін раз расказвала смяшлівая ды галаганістая цётка Жэня, як быццам сама яна ўсё гэта чула і разумела.— Ну, кажуць тыя кумы, як гэта ў нас бывае зімою, калі добра падзьме? Замець? Кудаса? Завіруха? Мяцеліца? Усё не так. А потым і схамянуліся: «Зі-ма-ве-я!» Вядома ж, дзеравенскія! Гэта яны так Зіновію панялі. А нашы кажуць: на ліха

нам тая Зімавея, няхай будзе Жэня. Вось я і Жэня. І добра.

Цяпер цётка Жэня ляжала на халоднай печы моўчыкам, накрыўшыся ўсім іхнім лап'ём, і толькі ціха павойквала. А мне хацелася хутчэй уцячы — і ад таго, што яна так многа дзякуе маме і мне, і ад таго, што дома ў нас і цёпла, і ўсё ёсць, а яна, маці майго таварыша, у такой вось галечы ды ў сцюжы, і ад таго, што цётка Жэня не есць, пакуль цёплае, як мама прасіла ёй перадаць, а кажа: «Я пачакаўшы, я не галодная...», як быццам я не ведаю, што есці гэта будзе потым Валодзя... І мне ад гэтага ўсяго было да болю сорамна, нават і сцішна — і так, і для нашай з Валодзем дружбы.

А ўсё ж і назаўтра, і колькі б разоў мама ні пасылала мяне ў тую жахліва-казачную хатку, я ахвотна ішоў, і стараўся ісці з загумення, «каб не вельмі хто бачыў», але ж і рад быў, зноў не застаўшы Валодзю дома...

Толя Немец жыў ненамнога лепш за Казака. Праўда, хата ў іх была цяплейшая, хоць і старая, і сама цётка Каця была, як гаварылі, не такая «піцерская» ды «нямоглая», куды больш за Паганку хадзіла на ўсякія заработкі. Аднак яе зацюканы, нейкі перапалохана вінаваты Немец хадзіў заўсёды недагледжаны.

Неяк зімою я яго пашкадаваў, што шапка парваная, летняя кепачка з такою дзіркай, што аж касмыль адтуль тырчыць. Я яму вынес на вуліцу сваю старую аблавушку: мне цеснаватую, а ён жа меншы за мяне больш як на год. На вуліцы нікога не было — я так падпільнаваў. Аднак жа, колькі я яго ні ўгаворваў, Толя шапкі не ўзяў. Можа, таму што на мне аблавушка была навейшая? Ці не хацеў, каб нават праз акно хто-небудзь гэта ўбачыў? А можа, таму, што мы з ім ўсё-такі па-сапраўднаму не сябравалі?..

Цяжка сказаць і сёння, чаму ён тады так занурыўся і пайшоў ад мяне, ледзь не да слёз уразіўшы, збянтэжыўшы маю, няхай сабе, можа, і кніжную трохі, а ўсё ж і шчырую спагаду.

А помніцца тое і сёння яшчэ ўсё прыкра.

Гарчэй, чым наведванне Валодзевай казачнай хаткі.

Пра долю сіраты пры ліхой мачасе мы змалку многа чулі ад нашых мам і бабуляў. Праўду народных казак і песняў яны звычайна пацвярджалі новымі жывымі фактамі, убачаным і пачутым за век у блізкім і далейшым наваколлі.

Амаль зусім, а то, здаецца, і зусім не чуў я тады пра горкае сіроцтва каго-небудзь старога. Відаць, таму такой дзіўнай і страшнай здалася мне смерць дзеда Кеды. Абодва яго сыны загінулі на вайне: адзін ужо быў жанаты, толькі дзяцей не пакінуў, і вось пры нявестцы дзед Кеда дажываў сваё. Як дажываў — пра гэта можна меркаваць па тым, што памёр ён у сенцах, проста на таку каля сцяны, у той самай старэнькай сярмязе, у якой яго можна было і ў мароз, і ў слату, і ў спёку ўбачыць на вуліцы ці на прызбе. Так яго ўранні суседка і ўбачыла ў Кедавых сенцах: дзед ляжаў, можа, яшчэ звечара ўпруцянеўшы, а на ім сядзеў і заходзіўся брэхам верны сябрук, малы, уедлівы Курта. Нявестка, мардатая Тэкля, яшчэ не ўставала: «Нешта ў мяне галава...»

Цётка Анэта, наша суседка цераз вуліцу, вясной або ўлетку, у нядзелю ці ў свята якое выходзіла на грудок перад іхнім гародчыкам, садзілася на зямлі і, абняўшы аберуч калені худых босых ног, доўга сядзела так — моўчкі, адна.

— Анэта тужыць,— казала мама, гледзячы ў акно.— Зноў тужыць, бедная. Ды што ты хочаш? — пыталася яна ў кагосьці непрысутнага і тут жа адказвала яму: — Беднасць такая, поўная хата дзяцей. «Купілі, кажа, пуд жыта — хоць хлеба ад млосці з'ямо...» Малыя паплачуць з голаду, а дзеўкам жа сорамна плакаць. А ўжо самой — і не кажы. Сядзі, глядзі... Хоць ты і дзірку ў небе праглядзі — нічога добрага не ўбачыш.

Дзяцюк Гаўрыла, за вочы Тарапач, часта садзіўся на жарабца і пёр уздоўж вёскі ўгалоп, на ўсе бакі раскідаючы гразь. Ён то крычаў па-ма́церынску, каб уцякалі з дарогі, то важна надзімаўся і маўчаў. Казак, улан, кавалерыя!.. Потым гэтая мара яго збылася,— нягледзячы, што ён і жмурыўся, што і калені разам, вечна порткі ў тых месцах прашморганы,— Тарапача ўзялі ў кавалерыю. Улан з белым аколышам, у доўгім

шынялі і з шабляй, ён прыйшоў перад калядамі «на урлёп», на пабыўку, і, пастукаўшы раненька ў шыбу з двара, па-свойму важна сказаў, на новы лад абкультураны дурань:

— Матко! Отвуж, курва твоя маць!..

Перад службай у войску, у нядзелю ці ў свята, ён часта быў п'яны. Прыставаў да людзей, каго не баяўся, чапляўся на агароджу з калючага дроту, здароўкаўся са слупамі: «Дай пяць! А, не хочаш? Я табе не раўня?..» І лупіў той слуп, «па мардах». З акрываўленымі рукамі, у парванай, залітай крывёю кашулі, так сабе, або з друкам якім, ці з адарванай штакецінай ён, дзіка лаючыся, кідаўся за намі, а мы, малыя гледачы, то весела, то спалохана разбягаліся, каб потым зноў наблізіцца да яго. Нарэшце, найбліжэй — калі ўжо ён асунецца недзе пад плотам і захрапе.

Такое было незвычайным, бо пілі тады значна менш, чым цяпер. Тарапач быў з патомна п'янай сям'і. Піў яго бацька, піла бабуля, бацькава маці. Сам ён, Гаўрыла, яшчэ пастушком, знайшоў раз, казалі, у бабінай пасцелі поўны паўбутэлек і, ад радасці, выліў яго ў міску, накрышыў туды зялёнай цыбулі ды, не спяшаючыся, бо адзін быў у хаце, высербаў лыжкай з хлебам. Гэта сёння можна пачуць пра кагосьці: «Яму паўлітра — за адну шчаку». Тады ж дзяцюкі бралі бутэльку на чатырох-пяцёх, і ўсе былі вясёлыя. На вяселлі пілі малою рубцаватаю чарачкаю на доўгай ножцы, адзін за адным, па чарзе.

Раз толькі бачыў я тады, што чалавек можа выпіць цэлую шклянку гарэлкі. Гэта дзядзька Васіль, мужык цёткі Анэты. Але той быў наогул пацэтны. Сам ён — Васіль, а конік — Васілёк, таксама быстры, як і гаспадар. Дзядзька вясёлы, з дабрадушнай прымаўкай: «Каб цябе ў жыта галавою!» Пра беднасць іхнюю ён гаварыў: «Як ты, браце, ні круціся, а ўсё с... заду». І заядлы быў на работу. У хаце адны дзеўкі, сам толькі касец; уляжа — скосіць морг за дзень, а потым тры дні бегае, портак не падцягаючы. І тады, на вяселлі, ён захацеў паказацца. Выходзіла Прочымава Люба, дзядзька Васіль хварэў, але яго такі прывялі. І ён нібы загадаў, паказаўшы Цімоху пальцам на шклянку, якою пілі квас: «Мне — сюды!» І ўсе аж паўставалі, гледзячы, як ён выжлукціў тую гарэлку...

Пілі мала, а біліся часта.

І сёння горка, успомніўшы, як гэта дзядзька Цыбук, бацька Мані Вароны, біўся аднойчы са сваім братам за граніцу на агародзе. Як яны біліся, я не бачыў,— Манін тата толькі прабег каля мяне, моўчкі ўцякаючы па загуменнай дарозе. Ён трымаўся аберуч за твар, а праз пальцы лілася кроў — у гэтым быў мой дзіцячы жах, і гэта я ўспомніў праз многа гадоў, прачытаўшы ў кагосьці як быццам простыя словы:

Няма відовішча больш агіднага, чым тое, калі чалавек б'е чалавека.

Такія відовішчы ў Аўсяніках былі. Часта бывалі бойкі, можна сказаць, калектыўныя, на вуліцах, дзе танцавалі. Чаму б'юцца, за што — мы, малыя, не ведалі. Бойкі ўзнікалі зусім нечакана. Нехта некага ўдарыў, спачатку адзін аднаго, а тады ўжо ўсе хапаліся, хто за што — аддзіралі ад плота штакеціны, знаходзілі друкі, вымалі з-пад палы бязмен ці шворан — і пачыналася!.. З апошняй лаянкай, са страшэнным крыкам, з бабскім віскам і галашэннем, з крывёю на тварах, з глухімі ўдарамі па целе, з тупатам уцёкаў і пагоні. Каго паднімалі, каго адлівалі вадой, каго нават везлі ў Мілтачы да доктара, каб потым было як падавацца ў суд...

Раз на такую бойку нагадзіўся наш дзядзька Алесь. Ішоў ён, як і заўсёды, з загумення, цераз Анэцін двор, і ледзь яго не завірыла ў тую кудасу. Вывільнуўшы з крыкліва азвярэлага натоўпу, ён пастаяў са мной і мамай воддаль, каля нашых варотаў, а потым ужо, у хаце, сказаў:

— Цемната наша горкая!.. Хоць бы гэты ваш Тарапач... Ты маладзец, Раман, што не ўлез. І ніколі не лезь. Што хацець?.. У акопы б другога або на «ўра», у штыкавую ці на кулямёт,— скора нацешыўся б! Уся храбрасць прайшла б...

Дзядзька Алесь тыя разы штосьці пачне, тады задумаецца, а потым — нібы пра іншае. Так і тады:

— На закаўказскім у нас у абозах вярблюды былі і буйвалы. Гарбачэ гэтыя цягавітыя, добра сігае, а трэба, то і падбяжыць. А буйвал — ат, на дзесяты дзень дзевятую вярсту. А ў малаканаў коні добрыя, фургоны добрыя, спраўнае ўсё. Расказваў мне адзін, як гэта туркі там армянаў рэзалі. Людзей. Сам я не бачыў, дарма не буду гаварыць. А ён кажа: усіх гамузам — што стары, што малы, і бабаў, і мужчын. «Брацец, кажа,

краста на іх нет! Азіяты!..» А сам другі турак у плен пападзецца — лахудра лахудрай, аскеры гэтыя, сэплі папусціць — ужо ён тады чалавек...

Дзядзька Алесь памаўчаў.

— Ды што ты хочаш ад урага? — пачаў пасля.— Казакі нашыя... Кручкоў, Шмучкоў... Жулік, пустальга адна, лож! Ох, і звяры ж былі яны каторыя!.. Папрывыкалі, сволачы, людзей у гарадах нагайкамі хвастаць. Калі на дэманстрацыях. А то і шашкамі... На Букавіне раз было. Там жа таксама людзі свае, праваслаўныя. Зайшоў адзін у хату, а там нікога няма: пахаваліся людзі са страху. Печ на хлеб напалена, дзяжа сярод хаты стаіць. А на лаве сядзіць малое. Як на бяду. Казалі, дзевачка, яшчэ сядушка, да году. Дык той казак узяў ды на піку яе ды на жар, у печ...

— Госпадзі! — ахнула мама.

— І малады ж яшчэ, дурыла. Я сам яго потым бачыў, рабята паказвалі. Смяецца, скаціна жывотная, вочы заліўшы... А дружныя, адзін за аднаго, не зачапі...

Дзядзька яшчэ памаўчаў, а потым, як быццам зноў не пра тое:

— Першы раз мы на тое братанне ішлі і баяліся. Не верыцца! То рэзаліся колькі год, а то... Божа мой!— арцілерыя тая, і пулямёты, і конніца, і ўрукапашную... А тут... Ды што ты хочаш — усім за тры гады агоркла. Аўстрыяк — той далікатнейшы, ён не тое што немец. Гэты — таксама азіят, стаіць, як мур, а пойдзе — толькі дзяржыся! Цехніка! А аўстрыяк — не ваяка, ён і раней пачаў бы братацца. Ды ўжо ў свабоду і ў немца другое пайшло. Нашага Мікалашкі няма, іхні вусач сядзеў яшчэ, але і ў іх ужо не той нажым. І дзісціпліна не бярэ! Гэта ў нас у Курляндзіі было, цяпер яна Латва. Раўніна такая, луг. Але прадвесне, яшчэ не пусціла. У акопах сушэй. Памахалі мы белым, яны са свайго памахалі, і я тады: «Упярод, рабята, пайшлі!» І першы сам устаў над бруствером: што ўжо будзе, то будзе. Ідзем. Яны ідуць. І дзіка неяк, што без аружыя ўсе, што ціха так. Толькі боты па мёрзлай траве шалпацяць, лядок, дзе застаўся, хрупае. Ну, сышліся. Я і спачатку бачыў немца блізенька, але каторы забіты або ў пляну. А гэта... Чалавек — як чалавек. Адзёжа толькі не тая, форма. І не пагаворыш. Рукамі толькі разводзіць — ці то паказвае, што ў руках нічога няма, ці то другі і абдымацца палез бы, ужо як сваяк. «Камарад! Кама-

рад!..» Даже й «то-ва-рыш!». З намі паручык быў, Гаршэчнікаў, разумны парань, з вучыцялёў, дык той ужо за ўсіх: то ім гаворыць, па-іхняму, то нам. Закурваць пачалі. Яны ўсё бальшынство з люлькамі. Хто ў бесказырцы, хто ў касцы гэтай, з вастрыём. І пажылыя, як у нас, і маладзейшыя. Гавораць, смяюцца. Людзі — як людзі. Каб начальства не гнала — і ён не пайшоў бы. А то ж і абдурваюць нашага брата...

Ва ўсім перапляценні дзядзькавых расказаў пра вайну, дзе неаднойчы паўтаралася то храбрасць, гордасць за сваё, то чалавечы жах і праклёны на тых, праз каго дарма лілася кроў,— цар, царыца, Распуцін, буржуі, свае і нямецкія,— быў расказ і пра тое, як ім, нашым салдатам, з'явілася раз на небе прасвятая багародзіца. «Як сонца з-за хмары! І буквы вялікія: праваслаўныя пабядзяць!..» Нават і ў гэта верылася мне, усё з яго частых і доўгіх расказаў успрымалася па-дзіцячы, вобразна, як у казках. Тое, чаго я зусім не ведаў, хоць бы па «цацках» у кнігах, уяўлялася цяжэй,— скажам, тыя армяне, малакане і турэцкія аскеры,— а іншае ўсё адразу, само клалася на краявіды знаёмага наваколля. Не цяжка было, напрыклад, уявіць багародзіцу, такую, як на нашай покуці,— як яна высветлілася з-за хмары; нават і хмары я выразна бачыў, як быццам усё яно было над нашай вёскай ці над пашай...

А тое братанне на латышскім лузе адразу прымацавалася ў маім уяўленні да «венгерскае пушты» — яроўскай пашы з самотнай вагой на зялёнай прасторы. Адразу прымацавалася і — назаўсёды. Спачатку былі там выбухі снарадаў, гул і віскат асколкаў, густое цёўканне куляў, хрыпата-дзікае «ўра», і «кровь лилась из свежей раны на истоптанный песок...». Тут ужо адхілення не было: стаптаны, акрываўлены пясок уяўляўся не каля вагі, а над нашай ракою... А потым з двух бакоў, з-за аднаго і з-за другога калючага дроту, рускія і немцы махалі адны адным чым-небудзь белым, тады смела, як дзядзька Алесь, уставалі, вылазілі з акопаў і ішлі адны адным насустрач. Ужо без штыхоў, шорстка топчучы разбітымі ботамі даўно не кошаную траву, густую і яшчэ намёрзлую ў тое прадвесне, калі пачалася Свабода, шалпочучы над травою поламі збуцвелых у сырых акопах шынялёў...

Сярод рускіх, колькі б разоў гэта мне ні ўяўлялася, першым заўсёды быў дзядзька Алесь. Не такі, як ця-

пер, худы, аброслы, у лапцях, а як тады, што ў нас на картачцы,— аж з чатырма крыжамі, толькі ўжо без кулямёта. А побач з ім — разумны паручык Гаршчэшнікаў: так у мяне выходзіла — не ад гаршка, а ад гаршчэшніка. Паручык — не такі, як той штабс-капітан, які свістаў у хаце дзеда Богуша, і не такі, як прапаршчык Салавей, што звар'яцеў, не дажыўшы да братання...

Можа, такі, як Шураў тата, хоць той і не быў камандзірам?..

## 15

У партызаны, пад восень 1943 года, мы пайшлі ўсёю сям'ёю: Раман з жонкай і дзіцем, мама і я, яшчэ нежанаты.

У Богушаў атрымалася інакш: Шура пайшоў з вясны, а дзядзька Іван, здаравенны і дабрадушны Чэпнадрэп, да сарака гадоў кавалер са зламанай у лесе нагой, упёрся, што з хаты свае ён нікуды не пойдзе. Яшчэ ўсё верылася чалавеку, што калі ён калека і нікуды не лезе, то за пляменніка караць не будуць. Івана ўзялі ў Мілтачы і там павесілі на плошчы, разам з шасцю іншымі партызанскімі сваякамі, з іншых вёсак,— хто таксама, як ён, па здароўі ці па гадах, не падыходзіў для вывазу ў Германію, на работу.

Зяма Касмовіч ваяваў тады недзе ў радах Чырвонай Арміі, толькі вярнуўшыся, даведаўся, як загінула яго сям'я. Застрэлілі маці, згвалцілі і застрэлілі красуню Шэйну, сястру, а бабу Роху, што пачала ўжо дзевяты дзесятак і не хадзіла з мехам па вёсках, прымусілі лезці на тэлеграфны слуп. Спачатку ім было весела, смешна, як яна лапае па тым слізкім дрэве сваёй нямоглай карчарукасцю, а потым гэта абрыдла — дабілі...

Мы іх нямала бачылі ўсякіх — спачатку гладкіх, самазадаволеных, нахабных, потым разлезлых, як дзярмо, з ліслівым «Гітлер капут», як быццам так ужо мы і паверылі ў іхнюю шчырасць...

Валодзя Казак і Толя Немец абодва не вярнуліся з вайны: першы загінуў пад блакадным Ленінградам, а другі ўжо за Віслай. Цётка Жэня да «пахаронкі» не дажыла, а Толева маці яшчэ ўсё совалася ціха каля плота, гадоў з дзесяць.

Мой Шура, Аляксандр Сяргеевіч, усе трыццаць год

пасля вайны працаваў леснікам і толькі летась перадаў сваю «чыстую службу» меншаму сыну, Геніку, які закончыў лесатэхнікум. Сам бацька даглядае лесгасаўскую пасеку. Таксама пакуль прышлюць маладога, адукаванага. Сто трыццаць рамачных вулляў, якія добра відаць мне з-пад ліпы — чырвоныя, сінія, жоўтыя... Шура тым часам ужо і ўдавец, у лесе гаспадарыць сын, а ў хаце нявестка, талковая і вясёлая «бусліха» Яня. Старэйшы Шураў сын, Сяргей па дзеду, працуе ў Мінску, інжынер на заводзе аўтаматычных ліній,— гэта ён мяне і даставіў сюды пазаўчора, едучы наведаць сваіх хлопчыкаў-блізнюкоў.

Шура з Генікам паехалі на матыцыкле ў лясгас, а я вось пакуль што пад ліпай. Сядзеў да снедання з вудамі (галавень і сем добрых плотак), а зараз па лесе пайду. Даўнавата не быў тут, і ўсё, даўно вядомае,— рака, і ліпы, і лес, і лугі,— глядзіцца зноў як новае. А звон пчаліны, ціха-песенны ды бясконцы, вельмі дарэчы пасля сталічнай мітусні ды грукату.

Па сцежцы ад ракі ідзе найбольшая дзедава радасць — светлавалосая, голенькая Наташа.

Лёс і мяне не абышоў — і сваю я праз тыдзень убачу. Таксама загарэлую, яшчэ больш шчабятлівую, з цёплай шчочкай, да якой добра бывае, нібы стомленай душой, прытуліцца старою... ужо старою, сівай скроннню.

— Ната! Натачка, можа, хадзі сюды!

Яна спыняецца: можа, і праўда падысці?.. І вось ідзе. Па глыбокай траве, мала вышэй галавою над бела-жоўтым россыпам буйных рамонкаў. Прыйшла і стала, загарэлая галышка, каля чужога дзеда, такая паслухмяная, такая ўся харошая, са сваёй усмешкай — як сталаю, заўсёды трошкі спадылба. Сен-ты-мен-тальны інтэлігент... Нікога поблізу няма, і я бяру яе кволую, цёплую лапку з маленькімі пальчыкамі, спачатку толькі трымаю ў сваіх вялізных далонях, а потым і цалую — як за штосьці ўдзячны.

І за ўсмешкай Наташы мне ўспамінаюцца тры ўсмешкі іншыя. Адну з іх бачу я сам, другую ўяўляю, а трэцяя ўспомнілася здалёк.

Усмешка першая.

Так усміхалася Леначка, мая пляменніца, Раманава дачка. Вось ужо трыццаць два гады таму назад. Пасля партызан я трохі працаваў, да фронту, у ваен-

камаце, і неяк увосень, прыехаўшы з Мілтачоў, спытаўся ў малое:

— Ну, чыжык, дзе ж табе лепей у школу хадзіць — у лесе было ці тут?

— У лесе,— усміхнулася яна.

Лена бегала там у «зялёную школу», што была то пад лісцяной павеццю, а то і проста на траве, у сонейку. А тут цяпер балацінá ў Аўсяніках і школа спалена, вучацца ў цеснай хаце. Тая радасць дзіцячая, тая «зялёная школа» адкрыта была перад самай блакадай, якая, на вялікае шчасце, не адбылася, бо пачалося наступленне нашай арміі. Як на вулкане, дзеці смяяліся і гулялі, усю тую школу прымаючы як гульню...

Другая ўсмешка.

Яе я толькі ўяўляю. Зрэшты, мне цяжка гэта і ўявіць... Як ён, галоўны кат захопленай, разбуранай, акрываўленай Беларусі, намеснік Гітлера фон Кубэ, наведаўшы пекла яўрэйскага гета, даваў асуджаным дзецям цукеркі. Можа, якое з іх і ўсміхнулася? Што ж, святая нявіннасць... Можа, усміхнулася і тое — на руках у кáта не з галоўных, а радавога, аднаго з вельмі многіх, калі ён, раней чым кінуць яшчэ адно дзіця ў агонь яшчэ адной вёскі, трымаў такую вось Наташу, ці Леначку, ці маю Алесю на руках, на нейкі момант... ледзь не чалавечых?..

Усмешка трэцяя.

Яна прыйшла ажно адтуль, дзе цвіла мая першая ліпа, усміхалася Тоня Латышка, дзе былі тыя нашы пачуцці... А ці не можна лічыць іх нават першым капачуцці... А ці не можна лічыць іх нават першым святханнем — хто ведае?.. Адтуль усмешка тая, дзе святкавалася перамога маленства, дзе былі наш смех, накавалася перамога маленства, дзе былі наш смех, на- шы гульні па бачных-нябачных могілках і пажарышчах, дзе была шчаслівая натуральнасць, жыццёвасць нашай мудрай дружбы. Адтуль усмешка, дзе быў боль, адчуванне вялікай крыўды, вялікай несправядлівасці, калі дарослыя — дзеля дурнога, дзікага смеху — страўлівалі на бойку нашых сяброў — Валодзю Казака і Толю Немца.

Гэты боль, гэты сум ідзе са мною ўсё жыццё, то аціхае і далёка адыходзіцца, то зноў возьме вернецца, зусім нечакана. Так было мінулай зімою, калі я доўга ляжаў у бальніцы і вельмі многае ўспаміналася неяк зусім па-іншаму, спакайней і глыбей, чым гэта было б на сене, пад шум аблажнага дажджу.

І вось цяпер, пад ліпай, згадалася зноў.

...«Бі яго, немца!.. Дай донарвэтару!.. Валодзька, які ж ты казак?!»

Ён стаяў у натоўпе дарослых, мой мілы Валодзя, разгублена глядзеў на аднаго, на другога, на ўсіх... Сямігадовы сірата, вясёлы, чарнявы, з адмецінай на лобе, загоенай ранкай ад вострага «чыжыка». Яго штурхалі ззаду ў той бок, дзе стаяў яго «вораг», а ён ўпіраўся, аднекваўся.

«Вораг», яшчэ марнейшы хлапчук Толя Немец, зацкаваны, пануры і як быццам вінаваты, стаяў у шчыльным акружэнні дарослых і малых, яшчэ ўсё азіраўся, дарма шукаючы дзіркі ў гэтым жывым частаколе.

«Толя, не бойся! Вунь ён смяецца з цябе! Падумаеш, казак — украў разак! А ну, давай!..»

Тут іх, нарэшце, штурханулі так, што нібы кінулі аднаго на аднаго, і хлопчыкі, балюча стукнуўшыся, счапіліся. Якая там бойка, больш валтузня, бездапаможнае размахванне рукамі, пявунова наскокванне ў твар адзін аднаму. А стомяцца ды спыняцца — іх зноў штурхаюць-кідаюць: Немца на Казака або наадварот. І ўсе рагочуць, усе крычаць сваё: «Дай яму! Дай! Вунь ужо, бачыш, і юшку пусціў!..»

Кроў з носа, а то і з абодвух насоў, кроў і стома канчалі бойку плачам. Плакалі кожны па-свойму: Валодзя ўголас, з разлікам на маці, хоць тое тут і не было, а Толя ціха, не спадзеючыся і на матчыну жаласць.

— Вы дурныя! Вы дрэнныя ўсе! Так не можна, так брыдка!.. І ты, Раман!.. Я нашай маме скажу! І ты, Чэп-дрэп. Я пайду, скажу вашаму дзеду...

Я не сказаў так, не кінуўся разбараняць, не ўзяў свайго Валодзю за руку і не павёў яго да нас. Я толькі разам з імі заплакаў.

Не памятаю нават, ці там былі наш Раман і дзядзька Іван, ці і Шура быў там.

Толькі той дзікі рогат чуецца. І плач. Безабаронны, беспрасветны...

...Каб не ён, я і не ўспомніў бы столькі ўсяго — праз паўвека.

*1978 г.*

# ЗМЕСТ

Брыль Я.
Б 89 Збор твораў. У 5-ці т. Т. 2. Аповесці.— Мн.: Маст. літ., 1980.— 512 с., 4 л. іл.
У пер.: 2 р.
Другі том складаюць аповесці: «Сірочы хлеб», «У сям'і», «У Забалоцці днее», «На Быстранцы» і інш.

Б $\frac{70303-147}{М 302(05)-80}$ падпіснoе

ББК 84 Бел 7
Бел 2

*Иван Антонович Брыль*
*Собрание сочинений в пяти томах*
ТОМ ВТОРОЙ
Повести
Минск, издательство «Мастацкая літаратура»
На белорусском языке

Рэдактар А. А. Сляпцова. Мастак Л. Я. Прагін. Мастацкі рэдактар А. М. Малышава. Тэхнічны рэдактар М. Ц. Папкова. Карэктары Я. А. Бебель, Я. Ф. Харко.
ІВ № 538
Здадзена ў набор 12.10.79. Падп. да друку 07.07.80. АТ 05106. Фармат 84×108¹/₃₂. Папера друк. № 1. Гарнітура школьная. Высокі друк. Ум. друк. арк. 26,88+0,42 укл. Ул.-выд. арк. 27,80. Тыраж 13 000 экз. Зак. 2620. Цана 2 р.
Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 220600, Мінск, Паркавая магістраль, 11.
Паліграфічны камбінат імя Я. Коласа. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.